# ЧАСТКА 1

## 1

— У вас гарыць нешта…

Голас прагучаў зусім без эмоцый, роўна і спакойна. Люба, дваццаціпяцігадовая Толікава жонка, стаяла на парозе пакоя, вываліўшы з-за крыса халата рыхлую левую цыцку, і соўгала яе правай рукой, спрабавала патрапіць тоўстым, доўгім, як палец наназе, карычневым смочкам у раток дзіцяці, якога няўклюдна прыціскала да сябе.

— Што ў нас гарыць? — падскочыў з канапы яе Толік, вырачыў вочы. — Валодзька! Гарыць нешта!

У Толікавай каржакаватай фігуры — ён быў невялікага росту, трошкі вышэйшы за сваю Любу, шыракаплечы, з доўгімі дужымі рукамі — было столькі разгубленасці і страху, што гэта мімаволі выклікала ўсмешку.

Уладзімір Жабрун з падсвядомай палёгкай — яго бянтэжыла белая, мяккая Любіна цыцка — імкліва нахіліўся, прынюхаўся да трансівера, памацаў яго рукой, потым правёў рукой па прайгравальніку, таксама панюхаў, урэшце абнюхаў, абмацаў тэлевізар, які цяпер працаваў. Звычайны пах электронікі ў час працы, дыму таксама нідзе не відаць…

— Нічога ў нас не гарыць, — мусіў узняць ён вочы на збабленую Любіну постаць.

Некалі яна была яго аднакласніцай, яе вабныя формы пачалі выяўляцца ў класе шостым, калі большасць дзяўчынак хадзіла “шалёўкамі”. А ў сёмым, на занятках фізкультуры, хлопцы ўжо елі вачыма яе постаць, немаленькія, выразна, па-жаноцку, акрэсленыя клубы, пругкія грудзі. Люба распаўнела яшчэ да замуства, а як нарадзіла першынца, дык во — новы махеравы халат, што прывёз сёння з Расеі Толік, ёй, відавочна, замалы. Крыссё сцягнутае адно на жываце, ніжэй расхінаецца вольна, відаць не толькі белае сцягно, але і лапік блакітных майтак, калі Люба сядае ў фатэль і шырока разводзіць калені… Раздаліся, растаўсцелі плечы, рукі, шыя стала зусім кароткая, і невялікая, нерасчасаная галава ў кароткіх русых кудзерках расла нібыта адразу з плячэй.

Уладзімір толькі што кончыў падлучаць спадарожнікавую талерку і наладжваць трансівер — Толік прывёз апаратуру сёння, і сёння ж захацеў усё паставіць.

— От тады сядзем і будзем з табой замочваць мае заробкі! — угаворваў ён і сябе, і Уладзіміра.

І праўда — не піў амаль да канца. А як толькі на вялізным плазменным экране з’явілася першая карцінка, не вытрымаў, хацеў хапнуць з рылца гарэлкі, а пляшка, халера, з дазатарам, чакай, пакуль нальецца… Давялося “цадзіць” у шклянку…

Пакой быў пазастаўляны парожнімі скрынкамі з-пад апаратуры. І наагул, нечым нагадваў саму гаспадыню. Тут усё было дарагое, новае: вялікая канапа ў куце, арыгінальная “сценка-горка”, адмысловы кампутарны стол у другім куце, два вялікія фатэлі, прыгожы часопісны столік са шкла. Гэта калі не лічыць вось цяпер падвешанага плазменнага экрана, тумбачкі з прайгравальнікам… Але, як Люба адзетая, так канапа засланая неахайна, абы накінуць. А по-

сцілка — куды меншага памеру, што яшчэ больш нагадвала Любу. На паліцах "сценкі", нават за шклом відаць добры слой пылу. Зрэшты, Любе, як заўважыў, пакуль працаваў, Уладзімір, тое зусім не рупіла. Яна толькі хадзіла, то па хаце, то па двары, насіла свайго трохмесячнага сына і совала яму ў твар смочкі то адной, то другой цыцкі. Здаецца, нічым больш і не займалася, і не думала займацца, бо Толік сам бегаў на кухню. А там такі самы гармідар — сярод новай і дарагой мэблі. Бачыў Уладзімір, калі хадзіў піць. Толік з кухні крычаў Уладзіміру, якую каўбасу той будзе есці (хацеў пахваліцца, што прывёз з Расеі аж некалькі гатункаў), сам і каўбасу рэзаў і хлеб кроіў, сюды насіў. Ёсць жанкі, заўважыў сам сабе Уладзімір, — і дзяцей дагледзяць, і мужа, і гасцей, і хату… А можа, Люба мудрэйшая за іншых? Усё ж драбяза! Апрача дзяцей…

— Што ў нас гарыць? — аж запсіхаваў Толік — у жончыных словах ён адчуў пагрозу таму моманту, калі засталося ўжо толькі найпрыемнейшае: наліваць, выпіваць-закусваць ды дзівіцца на любы з трохсот каналаў.

— Дык не ў нас, — павольна прамовіла Люба, пазіраючы, як дзіця ўрэшце лянотна пачало пасмоктваць, узняла галаву і дадала: — То ў Валодзькі там на пасёлку гарыць нешта… Я дзівіцца не стала, бо пажар жа, мне нельга… Быццам дом які гарыць, — дакончыла яна без аніякай трывогі і цікавасці, падкрэсліваючы: гарыць — ну і хай сабе гарыць, мне што з таго?

Яна яшчэ не дагаварыла, а ў Уладзіміра паўстала ў памяці палудзеннае: брат вярнуўся з чарговых "заробкаў" добра падпітым, здаволеным — нёс у кішэні зашмальцаванага фрэнча пляшку белай — далі і з сабой.

— Глядзі акуратна тут, — кінуў яму тады Уладзімір, заводзячы матацыкл.

— Не ссы, — ікнуў у адказ брат.

— Не куры на канапе, папрапальваў усю, згарыш нахрэн! — ужо гучна, праз стракатанне матацыкла крыкнуў Уладзімір, стаў выязджаць з двара і пачуў абыякава-разухабістае ў спіну:

— Што згарыць, то не згніе!..

Уладзімір кінуўся да дзвярэй, Люба нехаця адступіла ўбок, ён ледзь праціснуўся, каб не даткнуцца да яе адрузлага цела. Выскачыў на веранду, і ў гарод — адтуль за ляском быў відаць іх пасёлак.

І пабачыў зарыва, вялікае, нечым нават святочнае. Не барвова-крывавым свяцілася неба, а жывым, трапятка-памаранчавым.

— Што там гарыць?

Гэта Толік выйшаў у гарод, пачухваў пад пахай, пытаўся нездаволена: от ты скажы, такі вечар добры быў, зараз бы пасядзелі так файна…

— Не разабраць… ды чаму там яшчэ гарэць… пяць хат…

Уладзімір хутка выкаціў на вуліцу свой матацыкл, нервова тузануў нагой завадны падважнік.

Выехаў з цэнтральнай сядзібы на дарогу да пасёлка — кіламетры два заставалася, і зразумеў, што няма чаго цешыць сябе надзеяй: ён даўно ўжо вызначыў за гэтулькі гадоў кірунак на сваю бацькоўскую хату ад гэтага вось месца. Толькі яна магла зараз гарэць. Ці бабкі Праскоўі, яна стаіць якраз за хатай Жабруноў. Але з чаго сярод ночы гарэць бабінай хаце, калі яна і печ даўно не паліць?

За кіламетр апошнія сумневы зніклі. Добра відочныя на чорным небе языкі яскрава-памаранчавага колеру, чорны на тле зорнага неба хвост дыму ўзды-

маліся ад іхнай хаты. Дагнаў пажарную аўтацыстэрну — калгасную.

— Валодзька, дзе ў вас студня там блізка? — крыкнуў яму з кабіны Сяргей Вакульчык, пажарнік, хлопец на два гады старэйшы, з франтаватай вузкай паласою чорных вусаў, упакаваны ў спецадзенне, з хэлмам на галаве.

— Адразу на ўездзе! Што, без вады едзеце?

— Дык, тваю маць, во бочку завезлі ў Плянту! Гулянка там…

Плянта — месца знакамітае. Нейкі прыезджы прыватнік узяў у арэнду возера ў лесе, на беразе паставіў дом адпачынку. З басейнам, бо возера само праз сябе топкае і плыткае, не пакупаешся. Месца ўпадабалі і мясцовыя начальнікі, і з раёна як хто прыязджаў, то цэлілі туды патрапіць — як далей ад людскіх вачэй…

Першая палова хаты ўжо ўся была ахопленая полымем. Некалькі старых у разгубленасці стаялі перад надворкам, не ведаючы, як даць рады бядзе — вёдрамі тут нешта рабіць было бессэнсоўна.

Уладзімір кінуў матацыкл на траву, падскочыў:

— Брат дзе? Бачылі?

Нехта з жанчын спалохана ўскрыкнуў; забожкала, зашапталася ўстрывожана і рэшта.

Уладзімір кінуўся да тыльнага боку хаты, да другой паловы, якая яшчэ чарнела звонку і ўнутры.

— Ой, Валодзечка, не лезь! Не лезь, бо зарэ, як акно разаб’еш — чмыхне, спаліць! — загаласіла нейкая бабця за спінай. — Не ўратуеш ужо яго, як ён там застаўся…

Уладзімір наблізіўся да акна, што было ў ягоным пакойчыку, зазірнуў. Нічога не пабачыў — як малака хто наліў у пакой па самую столь — так дыму нацягнула. Ды наперадзе ледзь паблісквала чырвоным

у дзве паласы — гэта праз шчыліны дзвярэй прагнула праткнуцца полымя.

Дакрануўся да шыбы і адчуў, якая яна гарачая, не вытрымаць. Наважліва стукнуў локцем, зазвінела шкло. Прасунуў руку, адшчапіў рамы, расчыніў. У твар ударыла едкая гарачыня. Зразумеў, што яшчэ момант — і ўсё бухне, што тут не гарэла, бо не ставала полымю паветра. Малюнак выбуховага загарання на момант затрымаў яго, але Уладзімір прагнаў страх, падцягнуўся і кульнуўся ў пакой, заплюшчыўшы вочы.

Апынуўся перад шафкаю, пацягнуў дужку і суцешыўся — от добра, што гэтым разам не стаў замыкаць ад брата. Хапіў усе паперы, усё, чаго было там: дакументы, розныя даведкі, страхоўкі, грошы, ашчадныя кніжкі, карацей — усю сваю хатнюю бухгалтэрыю — і, адчуваючы вострую рэзь у вачох і боль, што раздзіраў грудзі, сеў на падаконне, потым скочыў. Упаў на калені, хацеў устаць, выпрастацца, як раптам хакнула ззаду, нібыта ўздыхнуў нехта велізарны, з усхліпам, і з расчыненага акна вырваўся зыркі, пякучы струмень агню, усё адно як дзьмулі адтуль, з пакоя, тры пашчы Змея Гарынавіча…

Выпаўз чацвярыцай далей ад хаты, азірнуўся — яна амаль уся была ў агні.

— Цэлы, Валодзька? — кульгаў да яго сусед, дзед Мірон.

— Цэлы, дакументы во… Не бачылі брата?

— Ды ніхто не бачыў… Беглі — толькі відаць было, як за акном шугае ды дым з-пад страхі ідзе. А бліжэй падышлі, то шкло — трэсь, а яно як шугане — да неба! І ўсё ўсхапілася, як бензінам хто абліў… Даўно гарэла ў хаце, паветра не ставала, от знайшло сабе дарогу — праз столь… Дзе тыя пажарныя?

— Ваду набіраюць… У нас, са студні.

— Трасцу яны набяруць, там ніякіх шлангаў не стане, вада так глыбока, а тае вады — на адно кольца! Ёлупні, вашу маць, з парожняй бочкай ехалі… — вылаяўся стары.

Пажарныя прыехалі, пачалі разгортвацца, хоць і подбегам, але без асаблівага імпэту — што тут ратаваць, які сэнс? Сцены ўжо гарэлі суздром, дах і столь праваліліся ў трысцене…

Вады хапіла пажарным хвілін на дзесяць, потым паехалі набіраць ваду да другога калодзежа. Хвілін за сорак прыйшла машына з райцэнтра, за ёй яшчэ адна. Але ратаваць не было чаго. Лілі ваду, бо агонь гарэў. Людзей пазбіралася шмат, моладзь прыбегла з клуба падзівіцца на пажар — тут цікавей, чым на танцульках, усё ж падзея.

Каля чацвертай раніцы, калі стала добра віднець, полымя патушылі, дымілі толькі асобныя галавешкі.

Увесь гэты час Уладзімір сядзеў на бярвенні воддаль, курыў адну за адной цыгарэты. Потым безуважна глядзеў, як ходзяць па пажарышчы пажарныя, нешта шукаюць. Зразумеў — брата шукаюць.

Брат-алкаголік — трыццацігадовы нягеглы мужчына, якога па чарзе выганялі з прымаў адна за адной жанкі цэнтральнай сядзібы калгаса, і ён зноў вяртаўся ў бацькоўскую хату. Улетку яшчэ было тае бяды: не брат шукаў працу за чарку, а праца шукала яго. У вёсачцы, дзе адзінымі непенсіянерамі заставаліся браты Жабруны, дужыя мужчынскія рукі заўсёды былі ў патрэбе. І раніцай бабулькі выстойвалі пад хатай у братоў, калі прачнецца старэйшы, Ігнат, А ён выходзіў, чухаючы запалыя, зарослыя рэдкім валоссем грудзі, аглядаў суседзяў, важна пытаўся, у каго работа пільнейшая, вызначаў час і заплату. А іншым

разам і адмаўляў, паблажліва кідаючы: “У мяне ўжо на тыдзень усё распісана”.

Горай было познай восенню, зімой, калі ніякай такой працы для Ігната не было, і ён канькаў ува Уладзіміра на пляшку чарніла, выпіваў, сядаў перад тэлевізарам на старой канапе, напоўніцу пускаў гук, пстрыкаў пультам, выбіраючы сабе перадачу па душы. Гучна рагатаў, гучна каментаваў бачанае, намагаючыся перакрычаць тэлевізар.

І пад тое курыў адну за адной смярдзючую “Астру”, гарачы попел часам сыпаўся на канапу, і на той расла колькасць чорных плямаў і круглых, з чорнымі берагамі дзірак.

Яго і знайшлі на рэштках канапы, дакладней тое, што засталося ад чалавека: абгарэлыя косткі.

Стоячы ў ранішнім сутонні перад пажарышчам, дзе грувасціліся і дымілі яшчэ чорныя бярвенні і два коміны дэманстравалі сваю чырвона-цагляную аголенасць, якую хавалі дзесяцігоддзямі на гарышчы, Уладзімір пакуль што адчуваў страту толькі аднаго: таго архіву запісаў, артыкулаў, які збіраў па сеціве ў свой кампутар. І самога кампутара з самаробным сталом, за якім так утульна пачувалася, за якім наступала новае жыццё, трываў свой асаблівы сусвет.

Тое месца, дзе быў ягоны пакойчык, здавалася цяпер, без сценаў, вялікім. Ад новага манітора засталася чорная горка расплаўленага пластыку, металічны корпус сістэмнага блока быў чорным, але цэлым, недзе варухнулася думка, што, можа, і дыск яшчэ запрацуе… Але потым веды і досвед тэхніка-электрыка згасілі кволую надзею.

Раніца разгаралася, святлела і спакваля адкрывала Уладзіміру ўсю велічыню яго страты. У чорным папялішчы былі незваротнасць і рэчаіснасць: трэба

заказваць труну для брата, прасіць, каб капалі магілу, трэба недзе шукаць сталы на хаўтуры, набываць прадукты і гарэлку, гатаваць…

Нечаканыя хаўтуры — не запланаванае вяселле. Два дні мінулі ў тлуме і беганіне, Уладзімір амаль не адрозніваў гадзін. Балазе, дапамаглі ў калгаснай кавярні — толькі заплаціў, усё зрабілі. Дый сам калгас дапамог і з труной, і з машынай. Суседзі, вядома ж. А найбольш Алена, яго колішняя аднакласніца, разведзёнка з двума дзецьмі. Яна, кухар у кавярні, лічы, і была галоўнай распарадніцай на нечаканых хаўтурах, і ў вёсцы адкрыта казалі, што цяпер Уладзіміру адна дарога — да яе парога, бо што рабіць аднаму на папялішчы? Алена ж — жанчына спраўная, характарам добрая, дзеці дагледжаныя і парадак у хаце, і на твар не благая, і да работы не гультайка, і што ж ёй адной векаваць, і чаго Уладзіміру нешта думаць, і гэта ж некалі яны і ў кіно разам хадзілі, і на лавачцы, было лета адно, праседжвалі да трэціх пеўняў. А што не дачакалася Алена Уладзіміра з войска, дык маладосць, што тут паробіш, ды яшчэ бацькі ўгаворвалі, упадабалі яны былі маладога тэхніка-асемянатара. Ну, хіба што работа такая — быком працаваць, дык і такую работу некаму трэба рабіць, а плацяць яму добра, во і дамок новы калгас дае на сядзібе…

Калі людзі разышліся з кавярні, Алена запрасіла Уладзіміра сама — проста пакуль што пажыць, бо начаваць жа няма дзе.

Уладзімір адмовіўся, як мог падзякаваў, адводзячы вочы ўбок — ён адчуваў сябе абавязаным перад Аленай, перад усёй вёскай, у якой пасля пахавання, за хаўтурным сталом, толькі і гаманілі пра іх, і мужчыны проста сцвярджалі, што не бывае шчасця без няшчасця. Уладзімір цяпер як бы ішоў супраць

усіх, разбураў акуратна складзены агулам і ёй, Аленай, няхітры план, у якім усім было добра і хораша.

Можа, ён і пайшоў бы ў той вечар да Алены, што прагла мужчынскай ласкі. Калі б не яшчэ адна пагаласка, што шамацела ў размовах бабулек ды дзядоў.

“Праклён”.

Даўны, на ўсю вёску накладзены, а найперш на іхны род — Жабруноў, з якога адзін Уладзімір цяпер і застаўся. Нікога болей няма, апрача яго, ніхто болей у вёсцы не носіць гэтага прозвішча, а некалі ж — ого! — Жабруноў палова вёскі было, успаміналі старыя. Цяпер няма. І ці не кожную сям'ю напаткаў вось такі лёс: нехта гінуў у агні, а калі хто і ратаваўся, дык гінула ўсё на надворку ў бязлітасным пажары: дом, гаспадарка, жывёла.

Уладзімір застаўся ў дзеда Мірона на колькі дзён — хата ў дзеда вялікая, то далі адзін пакойчык. Дзеці ўнукаў яшчэ не папрывозілі, пакуль што ў летніках… Уладзімір разбіраўся з паперамі. Раптам у яго ў руках апынулася вялікая сума грошай: і страхоўка за дом, і што на пахаванне давалі, не ўсё патраціў, і ад калгаса, і людзі пазбіралі. Ён меўся ехаць на сесію, узяў адпачынак, адразу за два гады, бо леташні не адбыў — захварэў механізатар, давялося ісці памочнікам камбайнера. Дык і адпускныя далі за два гады. Прыкупіў сабе што з адзення на лета.

Яшчэ тыдзень заставаўся да ад'езду на сесію. Адзіная справа, якой ён змог заняць сябе — разграбаць папялішча.

Пажарныя ўсё ж адну карысную рэч зрабілі — не далі агню перакінуцца на блізкі хлеўчык. Жыўнасці там не было ніякай, а вось інструменту шмат. Галоўнае — бензапіла. Уладзімір цяпер выцягваў чорныя бярвенні, абчэсваў сякерай вуголле, потым рэзаў

і адразу шчапаў. Што ж, будуць вось дровы дзеду Мірону, не прападаць жа… Абмые яшчэ дожджыкам, прасушыць сонцам…

Рабіў старанна, па парадку, як і заўсёды любіў: няспешна, але настойліва, каб не пакідаць нічога па сабе, каб не вяртацца. За першы дзень змарыўся так, што ледзь дакандыбаў до копанкі за вёскай, дзе хацеў памыцца. Шараваў сябе мо з паўгадзіны, але якое тут мыццё — халоднай вадой сажу не змыеш… Нічога, за чатыры дні будуць паліць лазню на сядзібе…

Тры вянцы зруба знізу засталіся амаль цэлымі, папытаўся ў дзеда — ці трэба іх рэзаць, той толькі махнуў рукой: дрэву гэтаму гадоў пад пяцьдзясят, каму яно сёння трэба? Ды і па вуглох спарахнела крыху. Рэж на дровы.

Уладзімір меўся канчаць на сёння, але на трэцім рэзе бервяна не заўважыў цвік, скрыгатнула так, аж у пячонцы аддалося. Давялося здымаць ланцуг пілы, вастрыць — не мог такую работу пакінуць на заўтра.

Сонца схілілася нізка на захадзе. Было ціха (тут у іх наагул заўсёды вельмі ціха!), таму Уладзімір здалёк пачуў крокі — шорганне нечых ног у высахлай траве. Зірнуў з-пад рукі, і сэрца ўздрыганулася — да яго ішла Алена.

Ён бы змnetworkаніў, каб сказаў, што не думаў пра яе начыма. Думаў. Ляжаў у чужой хаце, на чужым ложку і чужой бялізне — і думаў пра Алену. Галоўнае хацеў зразумець: што яго трымае? Няўжо крыўдуе ён да гэтай пары на яе за тое, што не прычакала з войска? Дык… Шчыра кажучы, больш фанабэрыі было тады ў Уладзіміра, чым сапраўднага пачуцця гора: павінен жа хлопец вось так крыўдаваць, калі яго дзяўчына не дачакалася, мусіць тыдзень хадзіць п’яным, абавязаны штоноч ціснуць, мяць да болю грудзі новай

маладухі? А то ж! А вось сапраўднага болю ў душы і не было. Прыкра — гэта так. Бо за два гады ў войску не тое каб астынуў Уладзімір, не. Глядзець на ўсё стаў разважліва, няспешна. Ды яшчэ, што тут хаваць, пабачыў першы раз Алену, ужо замужнюю, дык нечага аж зарадаваўся — такой непрывабнай, з запалымі вачыма, з плямамі на твары, худой падалася яму яна. Не разумеў ён тады, што тое ад цяжарнасці… Але сэрца гэта супакоіла. Хай сабе і грызла яго нешта тупымі зубамі, але не балюча было… нібы бяззубы сабака кусае за руку…

— Памагай Бог.

— Дзякуй на добрым слове, — Уладзімір намагаўся схаваць напружанне, якое ўзвілося з першым позіркам на Алену. — Далёка ідзеш? — спытаў, каб нешта спытаць.

— Да цябе, — проста адказала Алена.

Яна была ў сініх спартовых нагавіцах, закасаных да каленяў, у белай майцы з кароткімі рукавамі. Уладзімір не мог не спыніць вачэй на Аленінай постаці: не худзенькая, а дзябёлая, моцная жанчына, круглявая праз невысокі рост, але не выглядала тоўстай. Паўнаватыя плечы і рукі, але відаць — дужыя рукі. Будуць дужыя, будуць і цягліцы на руках, калі адной гадаваць дзяцей, цягаць на кухні вядзёрныя рондалі, трымаць парсюкоў ды шчыраваць на гародзе.

— То сядай во, — Уладзімір паставіў старкачом не рассечаны яшчэ адрэзаны кавалак бервяна. — На ім сажы няма.

— Ды я не ў чыстым, — супакоіла яго Алена, села, і Уладзімір зноў не мог не заўважыць, як шыракаватыя Аленіны сцёгны не расплыліся на палене тлушчам, а толькі напяліся, як надзіманыя.

Прысела, прыгнулася, глядзела сабе пад ногі, а шырокі выраз на саколцы глыбока адкрываў лагчынку між велікаватых грудзей.

Уладзімір адвёў вочы.

— Наўмысна з вёскі ішла?

— Дзе там, вячэру развозілі касцом... То тут злезла... Я ўжо другі дзень тут праязджаю... У копанцы мыешся?

— Ага...

— Хадзем, памыешся ў мяне па-людску. Ды пакармлю нармальна. Баба Міроніха толькі бульбай з капустай корміць?

— Ды чаго мне жаліцца... — засаромеўся Уладзімір. — Бульба дык бульба, я не пераборлівы.

— Я ведаю, — кіўнула згодна Алена, — ты не пераборлівы... Калі не пераборлівы, дык хадзем.

Уладзімір ліхаманкава думаў: як адказаць і што. Паўза зацягнулася, і Алена невясёла хмыкнула:

— Ды не пужайся ты... Не збіраюся я цябе прывязваць. Ты ж з нашых аднакласнікаў адзін мне сябрам быў, адзін во чалавекам застаўся. Я табе як сябру, як аднакласніку і кажу: памыешся, павячэраеш — рабі далей, як хочаш.

— А, ну... добра... Я да дзеда заеду, вазьму што чыстае, — з палёгкай згадзіўся Уладзімір — Алена прапанавала яму такі варыянт паводзінаў і стасункаў, пра які ён і падумаць чамусьці не мог, але прапанаванае было найлепшым на гэты момант.

— Ды ў мяне засталося ад майго быка, новае, неадзяванае... Як уцякаў, дык і майткі пакідаў, — спыніла Уладзіміра Алена.

Быком абзывалі за вочы, а пазней дык хто і ў вочы былога Аленінага мужа — працаваў асемянатарам. Абзывалі з зласлівай насмешкай: хударлявы,

драбнявы, відавочна, слабы. А гонару затое — не павітаецца ні з даяркамі, ні з нагляднікамі. Спецыяліст, анягож. Як выявілася, меў ён свае погляды на будучыню, і там не было ні кароў, ні вёскі, ні сям'і з дзецьмі. У першыя месяцы сямейнага жыцця, як зацяжарала Алена ды пачаўся таксікоз, "бык" запсіхаваў — ён прызвычаіўся (а папраўдзе — Алена прывучыла), каб кожная хвіліна была аддадзеная яму, каб усё ў хаце рабілася дзеля яго. О, які скандал ён учыніў, калі Алена не змагла прыгатаваць упадабаны ім плоў. А яе ванітавала ад аднога выгляду і паху мяса, як ні перасільвала сябе — не магла падысці да стала, дзе яно ляжала ад ранку, яе згінала ад прыступаў яшчэ на парозе кухні.

Як нарадзілася малое, дык напачатку гідзіўся падысці. А каб пялюшку запэцканую ў рукі ўзяць — ані туды тое. Вось жа скажы — каровам руку пад хвост засоўвае да пляча (хай і ў спецыяльнай пальчатцы тая рука), а ад гавенца свайго дзіцяці ванітаваць бяжыць… Алена бачыла, адчувала, што адбылося зусім адваротнае таму, чаго яна чакала ад нараджэння сына. Што дом і сям'я раптам страцілі для яе мужа ўсякі інтарэс, а сама яна засталася патрэбнай яму ў дзвюх іпастасях: як хатняя служка ды крыху жывая гумавая лялька ў ложку — каб не адмаўляла ні ў чым і сама паварочвалася… І не спяшалася б Алена нараджаць другое дзіця, ды падвяла жаноцкая мудрасць — нібыта, як малаком дзіця корміш, дык не зацяжарэеш. Панесла, ад першага разу панесла. Як бацька некалі з маці жартаваў: хлопцы толькі нагавіцамі патрасуць, а ты ўжо надзімаешся. Так і дачка…

Калі муж даведаўся пра другую цяжарнасць, то аж збялеў. І сарваўся на істэрычны крык — рабі аборт. На што Алена з нейкай неверагоднай асалодай, ні-

бы даўно хацелася-марылася так зрабіць, ды не было добрай нагоды, акуратна склала і тыцнула пад нос свайму мужу дулю. Той вызверыўся і нечакана кінуўся на яе з кулакамі. А яна, быццам такое не раз рабіла, дужая ў руках, перахапіла яго хліпкі замах і так таўханула ад сябе, што “бык” не ўтрымаўся на нагах ад неспадзеву. Як ён спалохаўся тады! І за хвіліну стаў збіраць валізку.

Найневерагоднейшым было тое, што Алену гэтая невялікая прыгода ў іх сямейным жыцці, першы яе супраціў мужу развесяліў. Яна без аніякай жальбы назірала за тым, як імкліва бегае па пакоях “бык” і збірае свае транты. Ні кропелькі не шкада было! Адно жаданне — хай знікне з вачэй. І знік, толькі праз паўгода з’явіўся, каб аформіць развод. Нахабства набраўся папрасіць, каб аліменты яна патрабавала на адно дзіця — бо бачыш, з жанчынай сваёй ён на кватэры ў горадзе, а там так усё дорага. Алена адмахнулася: няхай. Ідзі, знікай хутчэй. Маці з бацькам жывыя — не дадуць памерці. Выкараскаюся і з двума дзецьмі. І выкараскалася.

Уладзімір не ўсё ведаў пра дачыненні Алены і ейнага мужа, але пра цяперашняе ведаў: што Алена упраўляецца сама, і парадак у яе ў хаце ды надворку такі, што іншая замужняя не дараўнаецца. І дзеці дагледжаныя, паслухмяныя: хлопец і дзяўчынка.

Ён успомніў, як дзейкалі ў вёсцы пра гэты Аленін развод — “выгнала быка з хаты”, і нечакана як прасвятлела ў галаве: а Алена ж і праўда не збіраецца яго прывязваць. Яна ж і без мужа вунь падымае дзяцей. Яе клопат пра яго, Уладзіміра — зусім іншы клопат. Можа, і папраўдзе, шчыры, сяброўскі…

Склаў інструменты, занёс у хлеўчык, адтуль выкаціў матацыкл, які хаваў там ад спякотнага сонца.

— Паехалі? — сеў на матацыкл.

— Ага, — узнялася Алена, абцерла азадак.

Села, абхапіла рукамі, прыціснулася грудзямі да спіны — пругкімі, гарачымі.

І Уладзімір раптам адчуў, як токам яго праняло, колькі жадання ў жанчыне, колькі нерастрачанай пяшчоты і любові.

“Застануся! — як пакляўся сам сабе. — На адну ноч застануся. Вось проста аддзячу, каб свіннёй не быць…”

Але, калі Алена сабрала яму чыстую (і сапраўды — новую) бялізну, калі з асалодай вылежаўся чвэрць гадзіны ў ванне, а потым мыўся, яго цвёрдасць змянілася на млявы абавязак, змешаны з бояззю. І яшчэ болей завагаўся, напалохаўся Уладзімір, калі выйшаў з лазенкі, і Алена паклікала адразу на кухню: стол быў накрыты. А сама яна ў відавочна новым халаце з паўпразрыстай тканіны і не збіралася хаваць сваіх мараў, кожны рух яе цела, не надта прыхаваны шоўкам, клікаў і абяцаў, а заадно, здавалася, і папярэджваў насмешліва: “Нікуды не дзенешся”.

Ува Уладзіміра віравала ў душы пачуццё прыкрасці: сказала ўжо яму Алена, што дзеці ў бабы. Сказала прыгатаванай вячэрай і халатам празрыстым, пад якім свецілася белымі карункамі бялізна (гэта ж яна на двары пад летнім душам мылася…), што запрашае яго, Уладзіміра, застацца. І калі ты здаровы і вольны мужык, у вачох якога Алена — кабета спраўная, здаровая целам, калі ты бачыш, што яна толькі чакае твайго жадання, і сама яна вольная, дык павячэраць, кінуць “дзякуй” і з’ехаць — тое ці нармальна для мужчыны? Гэта ж проста смешна! Што ён — імпатэнт?

Была б іншая якая — Уладзімір бы застаўся. А што яму, калі той — нішто? Але ж Алена…

Алена пачакала, пакуль Уладзімір сядзе пры стале, дастала аднекуль збоку паўлітровую пляшку.

— У мяне самагонка ёсць, маці гнала, добрая. На святаянніку настоеная, мяккая. Нальем для апетыту?

Уладзімір пачырванеў. Алена знайшла найлепшае выйсце, каб даведацца пра ягоныя планы і прапанаваць сябе. Калі Уладзімір вып’е, дык на матацыкл не сядзе — усе ведалі ў вёсцы непарушнае правіла Жабруна-малодшага: на слуп, выпіўшы, ніколі не палезе, за руль, хоць грамульку вып’е — не возьмецца…

— Ты хочаш, каб я нанач застаўся? — выціснуў Уладзімір з сябе пытанне, спадзеючыся ўпотай, што ў адказе Алены зможа нарэшце знайсці тлумачэнне сваім пачуццям: а ён сам чаго хоча?

— Я ж — жывая баба, — гледзячы яму ў вочы з сумнай усмешкай, што непрыгожа крывіла яе рот (з падмаляванымі? ну, так, падмаляванымі) вуснамі, адказала Алена. — Чаму мужыкі думаюць, што ім хочацца, а нам не? Ды што хочацца… Я вось новы халат першы раз за год адзела… Во глядзі, — Алена хутка тузанула пас, развяла ў бакі крыссё халата, дэманструючы сябе, і Уладзімір спужаўся, сцяўся, каб не здрыгануцца ад нечакана адкрытага перад ім здаровага, жаноцкага цела і кароткага, як стрэл, узбуджэння. — Бялізну новую адзела, — спакойна доўжыла Алена. — Ведаеш, колькі ў кожнай бабы новай бялізны? Прыгожай, ды ні разу не адзяванай? Бо няма для каго… А для сябе мала трэба.

Захінула крыссё, нервова звязала вузлом пояс, потым стомлена прысела, ні слова болей не кажучы, наліла дзве чаркі.

— Не можаш дараваць? — узняла вочы на Уладзіміра.

— Не, не тое… — уздыхнуў Уладзімір, раптам адчуўшы палёгку — Алена, паказваючы яму бялізну і зараз вось запытаўшы наўпрост, як настроіла іхнюю вячэру на шчырасць, і яму прасцей стала гаварыць таксама шчыра. — Баюся… Назад, у мінулае вяртацца — хіба можа быць нешта добрае ў гэтым?

— У мінулае нам не вярнуцца, — усміхнулася лагодна, як малодшаму, Алена. — У мінулым і ты дурны, і я дурная.

— Чаму так? — здзівіўся Уладзімір. — Не дурныя. Ну, без досведу. Мне здаецца, я такім і застаўся…

— Ты — можа, — са шкадаваннем заўважыла Алена. — Я — не. Калі б ты тады пад вербамі трошкі больш настойлівы быў… Я, дурніца, загадала: як сунеш руку мне ў майткі — усё, выпрастаюся, раскіну ногі. Хоць баялася, але ж во надумала. А ты мне толькі левую цыцку так змяў, што сінякі засталіся. Была б я разумнейшая — сама б майткі з сябе сцягнула. І руку тваю б паклала, куды трэба…

Уладзімір зачырванеўся. Тая цёплая купальская ноч пад вербамі доўга жыла ў ягонай памяці напятай да найвышэйшага гуку струной. Ён доўгія гады ціха песціў тое сваё невыказнае пачуццё пяшчоты, адчуванне поўнай улады над дзявочым целам. І думаў увесь гэты час, што зрабіў слушна — нельга было тады, няправільна. Трэба, каб першае, найчысцейшае, было ў чыстым і на чыстым… на белай прасціне, а не на траве. І от, як выявілася…

Ён не ведаў, што адказаць і што думаць — проста працягнуў руку, узяў і выпіў адразу ўсё налітае ў чарку, шумна прынюхаў хлеб і палез па цыгарэты.

— Закусіў бы… Куры тут, — ціха паўшчувала і папрасіла яго Алена, узнялася, паставіла на стол спадачак. — Хоць пах мужчынскі застанецца, — сказала з незразумелай інтанацыяй.

— Я тады думаў… — Уладзімір зацягнуўся раз і другі і патушыў цыгарэту. — Я тады думаў, што ты… іншага хочаш. Каб не недзе пад вербамі, каб у ложку чыстым, каб не баяцца, што нехта пабачыць і заўтра пераказваць будуць…

— Еш, — ціха адказала Алена. — Пастыла ўсё. Хочаш — заставайся. Сёння чысты ложак, белыя прасціны, не трэба баяцца, што нехта падглядае. Я… хачу, каб ты застаўся. Хоць на адну ноч…

Уладзімір застаўся.

Ён потым курыў на парозе, расчыніўшы дзверы веранды, дзівячыся таму нязвыкламу пачуццю, якое ім авалодала ўпершыню — колькі хвілін таму ў ягоных абдымках Алена сутаргава забілася, наструнілася і выгукнула нешта працяглае, незразумелае, гартанным крыкам, а потым абшчаперыла, сціснула з такой моцай сваіх рук, што перахапіла подых, і шаптала, плакала ў вуха: “Дзякуй, дзякуй, дзякуй…” А ён у той момант разгублена, амаль з абавязку, цалаваў яе мокрыя вочы і шчокі, адначасна ўзрадаваны, акрылены і крыху спалоханы такім бурным праяўленнем пачуццяў жанчыны.

“Чаму б мне не жыць з Аленай?”

Што трымала і трымае ад такой простай пастановы: прыйсці ды пажыць колькі дзён, хай тыдзень, месяц — і паглядзець, што там надалей будзе? Можа, як той казаў, злюбіцца. А калі гэта лёс яго, а ён ніяк не падыдзе да яго, бо баіцца? Лёсу баіцца? У чым яго лёс?

Было ціха, ужо і цвыркуны ўлегліся. Неба ў тысячах зорак трохі разганяла цемру, але невялікі садок (Уладзімір сядзеў на парозе дзвярэй, што выходзілі ў гарод) патанаў у густым чарноцці. Нечакана моцна, не раўнуючы, як нехта толькі што дэзадарантам

папшыкаў, пахлі невідочныя кветкі. Аж цягнула пайсці, адшукаць і пабачыць — што за яны? Пах прыемны, незвычайны…

Пачуў, як прыадчыніліся дзверы, не азірнуўся. Алена выйшла басаною, захінутая ў лёгкую коўдру. Прысела побач, схіліла галаву на ягонае плячо.

— Так хораша мне, Валодзька… Ты не ўяўляеш нават, як хораша вось цяпер. Ты калі болей і не прыйдзеш — я не буду на цябе злаваць. Мне гэтай адзінай ночы надоўга будзе.

— Я не ведаю, Алена… Мне ісці няма куды, але… не ведаю… Я вось на сесію з'езджу, пабуду там. Падумаю над усім, — прызнаўся Уладзімір. — Што так пахне?

— Ага, едзь сабе, — лёгка згадзілася Алена. — Ты толькі ведай, што табе ёсць куды вяртацца. А кветкі — гэта мацыёла. Зусім такая… непрыкметная кветка. Некалі бабуля дала. Казала — вядзьмарская кветка. Пакажу раніцай. Я іншым разам выйду ўвечары, як пакладу дзяцей, вось сяду тут і сяджу доўга-доўга. І мацыёла пахне… І я думаю…

І не ўстрымалася, расхінула коўдру, прыпала голым, дагэтуль гарачым целам да Уладзіміра, абняла, захінаючы абоіх коўдрай, прыціснулася і замерла.

Уранку, калі Уладзімір выйшаў курыць сюды ж, Алена паказала яму кветкі — невялікія, непрыкметныя. І цяпер яны зусім не пахлі.

— Не падобныя да вядзьмарскіх, — заўважыў Уладзімір.

— А табе скуль ведаць? — прымружылася Алена. — Шкада, баба памерла, а то б яна даўно падказала мне ўрабіць, каб ты ад майго парога нікуды дарогі болей не ведаў.

— Твая баба магла такое зрабіць? — здзівіўся Уладзімір.

— Магла… Яна шмат чаго магла. Прыедзеш увечары? — скончыла нечакана Алена пытаннем.

— Не ведаю, — шчыра прызнаўся Уладзімір. — Дай дажыць да вечара.

— Ну, глядзі сам, — проста адказала Алена, усё адно як размова ішла пра нешта дробязнае, не надта вартае ўвагі. — Трымай, перакусіш… — сунула ў рукі клуначак, які хіба ўначы сабрала, бо, здаецца, усё ранне была на вачох…

Толькі калі Уладзімір прыехаў да свайго згарэлага дома, ён спакойна абдумаў тое, што стрэмкай сядзела ў свядомасці ўчора ўвечары, не давала заснуць уначы і пякло першыя хвіліны раніцы. Ён баяўся, што калі пераспіць з Аленай, яна адразу ж пачне паводзіць сябе так, быццам ужо сталася ягонай жонкай, ды яшчэ колькі гадоў таму. Але нічога не змянілася ў Аленіных паводзінах. От зусім-зусім нічога. Нібы і не было гэтай ночы, некалькіх гадзін яе адданага кахання. Толькі вочы Аленіны свяціліся. Нечым такім, што не схаваеш ніяк, колькі ні спрабуй, што бабы адразу ж пазнаюць. Пра такое святло нехта пажартуе незласліва, нехта падкалупне са злым жартам, але ж большасць пазайздросціць — хто па-добраму, хто са злосцю. Якая ж жанчына не хоча пачувацца шчаслівай у першыя гадзіны раніцы…

Уладзімір зняў апошні вянец, які ляжаў на вялікіх, амаль што схаваных у зямлі, шэрых камянёх, і тады пабачыў той вузельчык. Ён ляжаў на самым вялікім камені ўсходняга вугла. Жаўтлявая тканіна была ахайна перавязаная чорнай ніткай. Ведаў, што гэтак павінна быць — заўсёды раней клалі пад першы і трэці вянец нейкую ахвяру, адкуплялі месца — такое чытаў. То і расчараваўся быў, калі пад трэцім вянцом нічога не знайшоў, бярвенні перагледзеў — можа,

прыляпіліся да дрэва тыя некалькі манет (звычайна ж іх клалі) ці ў моху схаваліся. І мох раздзіраў — нічога не было. А так цікава глянуць — што там клалі дзед ці прадзед, ці баба, ці прабаба…

І вось — вузельчык. Нечакана. Прысеў, закурыў. Тады толькі ўзяў яго ў рукі і неспадзеўкі адчуў хваляванне. Мо найперш таму, што вузельчык выдаваў на парожні — не адчувалася ў ім вагі хоць адной манеты. Але навобмацак там нешта было.

Не стаў рваць ніткак, развязаў, няспешна разгарнуў тканіну.

Пацямнелы ад часу ланцужок (можа, срэбны) і на ім — з таго ж металу шасціканцовая кветка, пялёсткі якой загіналіся ў адзін бок так, што востры канчарык аднаго злучаўся з сярэдзінай наступнага, быццам кружылася колца.

Затахкала сэрца, ад хвалявання задрыжэла рука. Уладзімір нечакана для самога сябе хутка разгледзеўся, пацікаваў на бакі — ці не бачыць хто? Чаму ён так устрывожыўся, што было незвычайнага ў знойдзеным — Уладзімір не разумеў. Але як збоку нехта нашаптаў, аднекуль з'явілася веданне, што срэбная кветка на ланцужку — зусім няпростая.

А можа, яму карцела знайсці тут, у сваім колішнім доме, хоць у апошні момант нешта такое, што б падказала, параіла, памагло адшукаць адказ на такое простае і няпростае пытанне: што рабіць далей, як жыць і навошта?

Ён вагаўся толькі момант — не ў кішэню ж класці знаходку, калі яна з'явілася на белы свет. У кішэні — смецця і пацярухі поўна, яшчэ згубіш, а тут такое ўсё чыстае, хоць пралежала… колькі гадоў? Пяцьдзясят, здаецца, казаў стары Мірон.

Цераз галаву надзеў на шыю ланцужок, адчуў, як халодны метал кветкі дакрануўся да гарачага цела.

І нешта адбылося.

Раптам стала зразумела, што яму няма чаго рабіць на сваім папялішчы. Апошняе, што абавязаны быў зрабіць тут Уладзімір — гэта адшукаць срэбную кветку на ланцужку. І што трэба не расцягваць на невядомы час свой пабыт у вёсцы, а ехаць. Ехаць і шукаць адказы… бо тут ён нічога не знойдзе.

Бліжэй да вечара каротка пікнуў тэлефон — прыйшла СМС-ка. Думаў, звычайная рэклама ад аператара, але паведамленне было ад Алены. Прачытаў прадбачанае: "Цябе чакаць?".

"Патэлефанаваць не магла? — нечакана разабрала прыкрасць на жанчыну. — Зараз яшчэ пачнецца гульня ў цыдулкі…"

Націснуў выклік, пачакаў. Калі Алена адказала, упікнуў:

— Што, сучасныя тэхналогіі вядуць рэй? Тэлефанаваць складаней, чым літаркі набіраць?

Ён і сам не чакаў, што ў ім з'явіцца вось такі паблажліва-павучальны тон. Збіраўся ж казаць іншае — што сёння будзе да самай цемры, бо трэба кончыць да заўтра, каб ехаць… Яму трэба ехаць.

— Не, я баялася, што голас задрыжыць, — ціха і вінавата адказала Алена — куды толькі падзелася яе ўчарашняя бестурботнасць і смеласць?

— З чаго яму дрыжаць? — здзівіўся Уладзімір.

— Потым скажу… як прыедзеш.

— Я тут доўга збіраюся быць… працы шмат.

— Ты еў што? — клопат умомант прагнаў Аленіну няёмкасць.

— Палуднаваў, што ты збірала…

— Што там было есці… Я прынясу зараз.

І Алена адлучылася.

Уладзімір сеў. Закурыў. Металічная (усё ж срэбра, падумаў Уладзімір) кветка на грудзях, як жывая, казытала цела сваім халадком. Ён асцярожна прыціснуў яе да грудзей і здзівіўся яшчэ болей: яна заставалася халоднай, нібы во зараз дасталі аднекуль з пограба.

"Значыць, так трэба".

Алена прыйшла за хвілін дваццаць, з клуначкам, задыханая.

— Навошта ты? — мякка ўпікнуў яе Уладзімір. — Не надта ж галодны.

— Да цёмнага яшчэ чатыры гадзіны, — адмахнулася Алена, пачала даставаць прынесенае, стаўляць проста на траву.

Уладзімір, пачуваючыся трохі ніякавата, апусціўся побач, нават прылёг на бок, з задавальненнем выцягнуў ногі.

— Ну вось, зараз будзе на вёсцы размоў... І чаго ў цябе голас мог дрыжаць? — запытаў, няўклюдна жартуючы.

Алена прыпынілася, ціха сказала:

— Еш...

Памаўчала, счакала, пакуль Уладзімір не пачаў даставаць з літровіка смажаную бульбу, і яшчэ цішэй стала казаць са штучнай жартаўлівасцю:

— Не думала ніяк... А тут узяла слухаўку табе патэлефанаваць і уявіла, як ты мне скажаш: "Пайшла нахер, трахайся з кім хочаш". І зразумела, што калі пачую нешта такое, то не вытрымаю — загалашу, завыю сучкай. Ведаеш, я не плакала вельмі даўно. Вось уначы ўчора плакала, сама здзівілася, падушка ўся мокрая была, гэтулькі слёзаў сабралася. Ды во не ўсе, мабыць. Так мне страшна стала... адной у хаце. Сумна-сумна...

Уладзімір адчуў, як скура на грудзях датыкаецца да нечага цёплага, зірнуў долу — можа, з відэльца ўпаў кавалак бульбіны… Не было ніякага кавалка, і было дзіўна, бо цяпло нібыта ад самога позірку толькі ўзмацнілася, амаль пякло ўжо, хоць трымаць можна.

— Хто цябе зацугляў? — спытала Алена, вачыма паказала Уладзіміру на грудзі, і ён, перавёўшы свае вочы за яе позіркам, зразумеў, што цеплыня ідзе якраз ад дзіўнай кветкі ў яго на грудзях.

— Сам зацугляўся, — памарудзіўшы, адказаў Уладзімір, дакрануўся да кветкі і ўпэўніўся, што яна сапраўды цёплая, бадай што гарачая. З чаго яна так угрэлася? Дзіўна… — Гэта маё… — дадаў ён, — ну, накшталт спадчыны. Знайшлося.

— Во як… Табе памагчы што? — перавяла размову на іншае Алена.

— Не трэба… Ты ідзі, — мякка папрасіў Уладзімір. — Я прыеду… Але пазаўтра паеду… Мне на сесію. І адпачынак у мяне. Грошы ёсць… Я вось на моры ніколі не быў… Не ведаю. Не ведаю пакуль што, — адставіў слоік з бульбай убок, крануў рукой кветку на грудзях, глядзеў на яе, толькі каб не сустракацца з Аленінымі вачыма.

— Дык і добра, з’ездзі на мора, — сказала, як супакойвала малое капрызлівае дзіця, Алена, і твар яе, шыракаваты, скуласты, з загарэлым і таму на выгляд вялікаватым носам, быў цяпер такі, усё адно як яна і папраўдзе схілялася над калыскай з дзіцём. Потым усё схавала хмарка злой наважлівасці: — Толькі ведаеш… Ты дзеля шкадавання да мяне не прыходзь. Хочацца табе са мной — дзверы адчыню. А шкадаваць мяне не трэба, — скончыла Алена цвёрда.

— Нічога я не шкадую, — буркнуў Уладзімір. — Што ты ад мяне хочаш? Каб я сказаў табе, што добра мне з табой?

— Што ты ў зямлю гаворыш? — упікнула Алена. — Хачу… хачу каб ты паводле свайго хацення рабіў…

— Ды не ведаю, не ведаю я, што я хачу, разумееш? — нечакана для сябе самога раптам вырваліся ў Уладзіміра словы, і ён спужаўся свайго незапланаванага прызнання, са страхам зірнуў на Алену — навошта ёй такое ведаць? Зразумее яна?

Алена маўчала, сарвала і пакусвала травінку.

— Слухай, я тыя паляпякі пазношу да калодкі… А ты парэжаш пакуль што. Хутчэй пашчапаеш… — прапанавала, адвёўшы вочы.

— Добра, — устаў з травы Уладзімір. — Можа, застанецца назаўтра толькі прыбраць збольшага…

Працавалі яны да цёмнага, і праўда, зрабілі шмат. Ужо ўначы ў лазенцы мыліся разам — каб хутчэй.

За дзень Уладзімір сеў на рэйсавы аўтобус — да райцэнтра, каб адтуль ехаць далей. Ён ніяк не чакаў, што будзе пакідаць Аленін дом і яе саму не са шкадаваннем, не з болем, не з надзеяй, а з палёгкай. Яму было прыкра за сябе, ён хацеў думаць пра Алену з удзячнасцю і жалем, але нічога не выходзіла — сапраўды было ўсцешна, лёгка на душы менавіта вось у гэтым бляшаным нутры аўтобуса, які вёз яго ўпрочкі. Калі аўтобус загдзеў, зрушыўся, успыхнула яшчэ адно пачуццё — сораму. Быццам Уладзімір украў нешта, важкае, каштоўнае ўкраў — у яе, Алены. І яна бачыла, яна ведае, што ён — злодзей.

Аўтобус развярнуўся ў цэнтры сядзібы, дзе мясціліся клуб, магазіны і кавярня, прыпыніўся, каб забраць тут пасажыраў, якія сабраліся пад навесам новага прыпынку. Уладзімір не хацеў паварочваць га-

лавы ўправа — ён баяўся праз шыбу акна пабачыць Алену, якая, вядома ж, у кавярні, і магла выйсці, можа, каб махнуць яму рукой на развітанне.

І не ўтрымаўся — зірнуў.

Алена, апранутая ў доўгі, вельмі доўгі, блакітны халат, мыла звонку вялікае акно кавярні. Дакладней, мыла раней, а цяпер стаяла на шырокім уступе, упіраючыся адной рукой у сцяну каля праёму, трымаючы ў другой белую анучу. Ануча выслізнула з рукі, ўпала на зямлю. Высакавата… Жанчыне трэба было скочыць долу. Яна ўперлася другой рукой у супрацiўны бок акна і застыла на імгненне.

Уладзіміра працяла нечаканая выява. Алена з раскінутымі рукамі ў доўгім блакітным халаце вымалёўвалася на цёмным праёме акна. Рама за яе спінай выглядала крыжом, і яна стаяла укрыжаваная...

## 2

“Папаўся!” Гарачая хваля ўдэрыла ў твар, імгненна напаўняючы сабой усё цела аж да канчукоў пальцаў, і яны ўмомант узмакрэлі ад поту, вокладка пашпарта ледзь не выпала з рук. Уладзімір Жабрун асцярожна паклаў пашпарт і запоўнены квіток каля акенца, стрымана выдыхнуў. Павольна павярнуўся, разгледзеўся.

Звычайны пакой пашпартнага стала, цёмна-блакітныя сцены ў плакатах і стэндах. Ля суседняга акна стаіць жанчына, спінай, то не відаць, колькі ёй гадоў, толькі шлейкі станіка пад цеснай кофтай упіваюцца ў тоўстыя бакі. А нагавіцы тонкія і вузкія і шчыльна сядзяць на такім самым тоўстым азадку — сёння падоб-

ныя носяць ад падлетка да пенсіянера. Дзве кабеты за акенцамі, адна яшчэ маладая — ля той жанчыны.

Насупраць Уладзіміра за акенцам жанчына гадоў сарака, хударлявая, з кароткай, нават вельмі кароткай, стрыжкай, нервовым тварам, хвіліну таму ўзняла вочы на яго і сказала:

— Што ў Вас?

— Зарэгістравацца, — адказаў Уладзімір.

І тады адчуў хвалю.

Што такое? Адкуль гэтае пачуццё страху і адчування прорвы наперадзе ды сваёй бездапаможнасці?

Паслужлівая памяць умомант выцягнула з глыбіні свядомасці той самы дзень, калі такая самая хваля накрыла яго, прымусіла знерухомець, забрала ўсякую мажлівасць хоць пальцам варухнуць, а ў галаве роспачна білася думка: усё прапала, усё прапала! І немажліва было, ніяк немажліва хоць нешта змяніць!

Тады ім было па дзесяць гадоў — Уладзіміру і ягонаму сябру Толіку. Дарога да школы ішла паўз малады густы хвойнік, праставала на бальшак. І Уладзімір, і Толік не любілі ўрокаў гісторыі, ненавідзелі і баяліся настаўніка — крыклівага Георгія Зіноўевіча, якога ў школе дражнілі за вочы “Кульбам”. Ім старшакласнікі зазвычай палохалі чацвертакласнікаў: “От Вам Кульба пакажа! Умомант адправіць назад у трэці клас!”

І здарылася такое. На другім занятку Георгій Зіноўевіч спытаўся хатняе заданне ў Толіка, той пачаў мямліць і заікацца. Ён то, можа, і ведаў урок, бо вучыў, усе вучылі — баяліся ж, але Кульба зароў:

— Не ведаеш? Ідзі бяры сваю торбу, складай кніжкі — і ў трэці клас! І скажы, што гэта я цябе адправіў! Ідзі!

Толік заплакаў. Стаяў ля парты, хапіўся за яе бераг, як за выратавальную саломінку, і плакаў. Але ў класе ніхто з яго не засмяяўся. Кульба пабачыў слёзы, мабыць, застаўся задаволены, бо пасадзіў Толіка на месца і сказаў:

— Дарую на першы раз. А ад заўтрашняга дня хто не адкажа — буду выганяць!

Настаўнік стрымаў сваё слова — не аднаго вучня яшчэ спрабаваў выгнаць у трэці клас, але скора ўсе зразумелі, што трэба толькі заплакаць — і сядзеш на месца. За месяц занятнаў "выгнанні" скончыліся. Аднак калі Георгій Зіноўевіч падымаў цябе, а ты не вывучыў — было страшна. Так крычаў — уся школа чула. І потым паспрабуй адкажы добра на наступным уроку. Ужо як адзін раз паставіць "двойку" — не злезе…

Неяк правучыліся восень і зіму. А навесну, калі снег цалкам зышоў з вясковай вуліцы і добра прыгрэла, выйшлі з дому раней, зайшлі ў хвойнік і — далей у лес, шукаючы якую бярэзіну: неслі з сабой слоік, нож і загадзя змайставаны з кансервавай бляшанкі латок — каб спусціць сок. Пакуль будуць у школе, накапае поўны слоік! Далей-далей адходзілі, мінулі малады хвойнік, углыбіліся ў стары лес і напароліся на былы акоп з часоў вайны. Акопаў, амаль зарослых, было ў лесе нямала. І гэты быў зарослы. Але ж у такім месцы ён быў — не ўгледзець. Тут і бярозка расла сярод густых ялінак, крывая ад камля, так і цягнула зрабіць падсечку, паставіць слоік пад латок, з якога хутка-хутка пакаціліся першыя каламутныя, з парушынкамі кроплі, а потым закрапалі чысцюткія. Не ўтрымаліся, пачакалі, хвілінку, калі набяжыць па два глыткі — і паспрабавалі першы ў годзе бярозавік: халодны, саладкаваты…

Вярнуліся са школы, то ўжо напіліся ўволю: слоік быў поўны, сок выцякаў на зямлю. Каму першаму прыйшла ў галаву думка пра зямлянку — невядома. Але перакусіўшы, памчалі ў лес. Рабілі зямлянку ў старым акопе. І потым штодня крадком прыходзілі. За месяц тут узнік сапраўдны штаб: вялікая, у ёй можна было стаяць, старанна замаскаваная зямлянка. Сюды яны ўцякалі з урокаў гісторыі. Спакваля абжываліся рознымі рэчамі: зэдлікам, сталом на паленцах. Былі тут і сухары, і сок у пляшках. Раскопваючы акоп далей, напароліся на рэштк кулямётнай стужкі з пяццю ржавымі набоямі. І тут ужо іх апанаваў такі азарт, што прагульвалася не толькі гісторыя — цэлыя дні. За месяц яны знайшлі і раскапалі некалькі акопаў. Дзясяткі паедзеных іржой патронаў, дзве гільзы з-пад гарматных набояў невялікага калібру. Найкаштоўнейшае — аўтамат ППШ з цалкам згнілым прыкладам, іржавай руляй, цяжкі і вялікі… Але яны былі пэўныя, што змайструюць прыклад, адчысцяць рулю, і ў іх будзе сапраўдны аўтамат.

Эх, як добра тут марылася!

Той ранак быў дажджысты, волкі. Ужо буяў бэз пахучымі купамі ля старой школы, лічаныя дні заставаліся да летніх канікулаў. А ў Толіка нечакана разбалеўся зуб, і ягоная маці зранку аўтобусам павезла сына ў мястэчка. Ісці без Толіка ў школу, калі там першым урокам гісторыя? Ага, зараз… І Уладзімір крадком збочыў у хвойнік, разгледзеўся ўпярод: ці не сочыць хто за ім. Як быццам, ніхто не сачыў.

У зямлянцы было зацішна і суха. Запаліў агарак свечкі, дастаў цыгарэціну, што украў у бацькі. Падпаліў, паспрабаваў зацягнуцца, закашляўся… Хацелася навучыцца курыць па-даросламу, узацяжку, каб здзівіць Толіка: той прыедзе з выдраным зубам, а пе-

рад ім зацягнуцца глыбока і доўга выпускаць дым. Кашляў, галава круцілася — кінуў цыгарэту і прылёг на самаробны тапчан: жэрдкі з лапнікам. Мякка, не заўважыў, як заснуў…

— Тут ён! — раздаўся крык, і ў адначассе ў зямлянку ўдарыла невыносна зыркае святло.

Валодзька падхапіўся, як выцялі яго знізу, а сэрца дык падскочыла аж у самае горла. Міргаў вачыма, яшчэ нічога не разумеючы, а ў зямлянку ўжо зазіралі маці, класная кіраўніца і ён, ненавісны Кульба.

Вось тады і ўдарыла ў грудзі, аглушыла, адняла ўсю моц, каб хоць нешта зрабіць, тая тугая хваля безвыходнасці, страху і роспачы: “Папаўся!”

…Уладзімір страсянуў галавой, адганяючы прывід дзіцячых успамінаў, які быў такі праўдзівы, што, здавалася, адчуў пах зямлі і дымка ад патухлай свечкі.

— На мяне паглядзіце, — пачуў ён голас пашпартысткі.

Зірнуў. Жанчына трымала ягоны пашпарт перад сабой, глядзела на картку, мабыць, потым падняла вочы.

І раптам Уладзімір пабачыў не яе вочы, а дзве амаль чорныя, вялікія кропкі, якія шырыліся, раслі раз за разам, і з якіх ішла, разыходзілася хваля. У гэтае імгненне яму не падалося, не! Жанчына ўсміхнулася гэтымі дзвюма чорнымі дзіркамі, хіжа ўсміхнулася, са злой радасцю.

Пагляд быў скіраваны не так у твар Уладзіміру, ён адчуў яго на сваіх грудзях, там раптам пачало пячы, аж да болю. Але Уладзімір стрымаўся, не стаў чапаць рукой гэтае месца.

За пяць хвілін ён выйшаў з пашпартнага кабінета ў калідор, потым — на вуліцу і ўздыхнуў на ўсе гру-

дзі. Цяпер дакрануўся рукой да таго месца, якое пякло ад пагляду пашпартысткі, і ўспомніў, што на ім — тая самая кветка. Пад тканінай кашулі ён адчуў яе гарачыню. Не ўтрымаўся, павярнуўся да сцяны і расшпіліў гузік. Здрыгануўся ад выявы — на скуры была выразная чырвоная пляма ад апёку. "Мабыць, трэба зняць яе..." — падумаў пра сваю кветку, зашпіліў гузік.

Затое ўжо не было ні страху, ні роспачы. Была задаволенасць ад зробленай справы: цяпер у пашпарце стаіць штамп аб рэгістрацыі. І запальваючыся, Уладзімір думаў пра тую хвалю, якая яму падалася. Відаць, у пашпартным кабінеце было нешта такое, што імгненна нагадала яму пра іх дзіцячую зямлянку ў лесе. От і ўзнікла пачуццё... А пашпартыстка... звычайная кабета. Самая звычайная. І вочы ў яе таксама звычайныя: шаравата-зялёныя, як ён потым разгледзеў. Ну, нешта прымроілася, як зірнула першы раз...

## 3

Стаўленне Алеся Лобача да маладых цяжарных жанчын цяжка было вызначыць адным словам. Была тут і павага, якая больш грунтавалася на ягоным стаўленні да маці, цяпер нябожчыцы. Была хлапчуковая сарамлівасць. Хоць адкуль ёй быць? Алесю Лобачу, кандыдату гістарычных навук, выкладніку ўніверсітэта, дацэнту кафедры айчыннай і агульнай гісторыі, мінула трыццаць. Быў недавер да адчуванняў і пачуццяў, як да сваіх, так і да чуллівасці цяжарных жанчын. Было чаканне нейкага падману. Апошняе тлумачылася лёгка: колішняя Алесява жан-

чына, лабарантка Тоня, падманула яго, тады маладога аспіранта, менавіта на цяжарнасці. Таго і цяпер не хочацца ўпамінаць. Асабліва першую ноч. Дзякуй Богу, яна амаль уся схавалася ў п'янай няпамяці. Не хочацца ўспамінаць і нахабнай, дзёрзкай манеры Тоніных паводзінаў, калі яна пры ўсіх прыціскалася, брала яго пад руку, пыталася пра тое, што еў наранку. Карацей, заяўляла на яго ўсе правы — і рабіла тое дэманстрацыйна, без кроплі сораму ці ніякаватасці. Так, нечым яна падабалася яму — хуткая, вясёлая і, як кажуць цяпер, прабіўная. Няхай ён і саромеўся ўдзень, адчуваў сябе на кафедры мішэнню пад хітраватымі позіркамі, але ж настала ноч — і дзень з яго адчуваннямі нечага няправільнага, непатрэбнага ў ягоным жыцці, знікаў у віхуры любошчаў. У такой віхуры першы раз ледзь не захлынуўся Алесь, калі праз тыдзень пасля той п'янай ночы Тоня прыйшла сама, не стала чакаць запрашэння. Яе юрлівасць распаліла яго да той ступені, што авалоданне жаночым целам — вось гэтым целам і вось цяпер — першы раз, бо нельга ж уважаць тую п'яную ноч за нейкі досвед, калі ён фактычна нічога не памятаў — набыло значнасць найвышэйшай і найважнейшай задачы. І потым ён чакаў ночы. Не хацеў сабе ў тым прызнавацца, гнаў ад сябе думку, што вось, карыстаецца дзявоцкай закаханасцю, але чакаў.

Надыходзіла ранне. Жаночая галава побач на падушцы і ўчорашні бессаромны вір зноў спляталіся ў прыкрым усведамленні: ён не кахае, ён не павінен, усё непрыгожа, подла.

За два з нечым месяцы Тоня сказала, што зацяжарала. Пачуць пра тое было, як спатыкнуцца на роўнай, акуратнай сцяжынцы: Алесь зразумеў, што цяпер свет вакол яго павінен змяніцца, назаўсёды.

Але ж ён не збіраўся пакуль што жаніцца, а пагатоў з ёй, пагатоў, цяпер, калі гэтулькі часу і моцы забірала пісанне кандыдацкай і аспірантура з універсітэтам. Яму была патрэбная простая, роўная сцяжынка на бліжэйшыя гады.

Але ў Тоні былі свае планы на будучыню. Ён потым зразумеў, што яго скарыстоўвалі як нейкую бязвольную прыладу, як рэч. А тады… Тады Тоня ў адзін дзень сустрэла яго на ганку ў сукенцы, якую раней ніколі не адзявала. Сукенка была не яе памеру, не яе фасону, такія сукенкі не носяць жанчыны без уважнай прычыны. І яму нельга было не заўважыць, як вырас Тонін жывот…

Яна не плакала і не скардзілася на жыццё. Сказала, што аборт рабіць не будзе, але яе маці праклянe і выжане з дому, калі яна народзіць без бацькі. І куды ёй падзецца, калі яна туліцца ў інтэрнацкім пакойчыку, які ёй праўдамі і няпраўдамі выбіў загаднік кафедры? І калі Алесь хоча, каб ягонае жыццё належала яму самому, калі хоча, каб яго навуковая кар’ера ішла, як ім задумана, яна не будзе яму замінаць. Не будзе прасіцца замуж, але ён мусіць з ёй распісацца. Штамп у пашпарце яму нічым не шкодзіць, пазней яны развядуцца. Калі хоча, то і шлюбную дамову можна аформіць. Але яна не будзе нараджаць дзіця без бацькі, яна не хоча яму будучыні безбацькавіча.

Алесь быў расціснуты, як выпаўзак на ходніку. Адна нейкая частка яго сутаргавата білася, праклінаючы той вечар і тую ноч, і ўсе іншыя ночы, і сваё подленькае задавальненне ад іх, сваю бязвольнасць іх пазбыцца, а рэшта ў ім сцялася ў гатоўнасці падпарадкавацца ўладнай моцы гэтай маладой жанчыны, яе нечаканай драпежнасці, абы далей… потым, пасля, ўсё было як і раней: ён адзін і ягоная навука.

Яны падалі заяву на рэгістрацыю шлюбу, трэба было чакаць належны тэрмін. Тоня нервавалася, некуды хадзіла-ездзіла, але здалася: не выйшла "прыспешыць працэс". Яна болей не прыходзіла да яго на ноч, хоць ён і запрашаў, абяцаючы пад тое, што не будзе настойваць на блізкасці, але Тоня аднеквалася: "А як я сама не вытрымаю? А я баюся..."

Неяк на тры дні яна была знікла, узяўшы раптам адпачынак за свой кошт, не папярэдзіла, не адказвала на тэлефанаванні. Сяброўкі ў інтэрнаце сказалі, быццам бы паехала дадому.

Урэшце яна з'явілася. У заўсёдных джынсах і кашулі. Жывот у яе быў плоскі і роўны, як і некалі. А твар сухі і паніклы. Тоня яму нічога не пажадала казаць, толькі прамовіла, сцяўшы вусны, нібы каму чужому, нібы на нейкім страшным допыце: "Не адна я вінаватая..."

Ён зразумеў, што адбылося страшнае.

Алесь заўважаў самыя розныя позіркі, спачувальныя і асуджальныя, адчуваў тыя позіркі спінай. Ён разумеў, што і сяброўкі Тоніны, і яго знаёмыя, і выкладнікі на кафедры думаюць, нібыта гэта ён, Алесь, запатрабаваў ад маладой жанчыны такой страшнай ахвяры — зрабіць аборт. Цяпер ужо толькі рэгістрацыя іх шлюбу, жыццё разам давалі яму магчымасць давесці ўсім і самому сабе яго невінаватасць і прыстойнасць. Адчуванне віны вырывалася вонкі абавязковай пяшчотай і ўважлівасцю да Тоні, гатовасцю выконваць яе жаданні, нешта рабіць, некуды хадзіць, абы яна даравала яму... Што даравала? Гэта было няважна.

І тое самакатаванне мо доўжылася б бясконца, калі б неяк яго не спыніла на калідоры, не запрасіла на гутарку выкладнік кафедры Алена Адамаўна, ко-

лішняя матчына сяброўка. Яна першы год пасля той заўчаснай смерці апекавалася Алесем, дык і цяпер гаварыла з ім як маці з сынам-небаракам.

— Ты выбачай мне, я не маю права лезці ў тваё жыццё, але тут маўчаць не выпадае… Антаніна не была цяжарная, не вінаваць сябе, — проста сказала яна. — Я яе тры разы бачыла, і ўсе гэтыя тры разы я заўважала… Каб вы, мужчыны, былі уважлівейшымі, вы б самыя здагадваліся, дзе цяжарнасць, а дзе падвязаны жывот. Невялікая хітрасць…

Алесь у той момант адчуў сябе тым самым маленькім хлапчуком, якога цёця Алена крадком ад маці частавала шакаладнымі цукеркамі, калі прыходзіла да іх на гасціны.

— Калі б гэта датычыла толькі пачуццяў, я змаўчала б, — асцярожна працягвала Алена Адамаўна. — Але калі аднойчы Антаніна прыйдзе ў тваю кватэру на правох жонкі… Яна застанецца там гаспадыняй. Нічога не паробіш — такія норавы цяперашнія, яна — прагматычная маладая саміца, для якой важна замацавацца ў горадзе, займець жыллёвую плошчу. Можна асуджаць яе, можна не асуджаць, але варта разумець, што калі яна атрымвае — ты аддаеш. Аддасі цяпер? У цябе вялікая кватэра, тры пакоі, сястра жыве асобна… Але надыдзе час, ты сустрэнеш сваё каханне. І што будзе тады? Таму, Алесік, сваё мужчынскае шкадаванне пакінь на іншы выпадак. Цябе выкарыстоўваюць, нельга так прыніжаць сябе, дазваляць ашукваць…

Алена Адамаўна яшчэ пра нешта гаварыла, пыталася пра планы, пра рыхтаванне кандыдацкай, пра хуткі палявы сезон. А Алеся паліла пачуццё сораму. Пад канец размовы ён адчуў, што яго літаральна ўтрымалі над безданню — так, сапраўды, бо мена-

віта сёння ён збіраўся ісці ў пашпартны аддзел, каб прапісаць Тоню ў кватэру.

Тое, што адбылося ў той вечар, наклала адбітак на ўсе далейшыя дачыненні Алеся з жанчынамі. Падалося, што ён неверагодным спосабам патрапіў у фільм жахаў, дзе лагодная, усмешлівая жанчына раптам пераўтвараецца ў страшную ў сваёй лютай нямозе пачвару-крывасмока. Ставала аднога слова "не" на адказ аб прапісцы і намер забраць заяву з загсу. І Тоня, тая Тоня, якая ўсе мінулыя месяцы была чуйнай гаспадыняй і ласкавай каханкай, стала істэрычнай фурыяй. Алесь маўчаў, не вінаваціў у падмане, не ўпікаў. Ён сціснуў зубы і, нібы заклён, паўтараў сам сабе думку, што неўзабаве кончыцца, пройдзе, мінецца ўсё, а ягонае жыццё зноў стане спакойным і акрэсленым.

Але не дзень і не два, а яшчэ цэлы тыдзень Тоня ўрывалася ў яго жытло, бесцырымонна з'яўлялася на кафедры, тэлефанавала, пагражала, прасіла, кленчыла… Выратаваў загаднік кафедры. Часам становячыся сведкам "спатканняў" Тоні і Алеся на кафедры, ён крывіўся, як ад болю зубоў. Не стрымаўся, выклікаў да сябе маладога супрацоўніка і выправіў яго назаўтра ж у абласны цэнтр, у архіў. Ключы ад кватэры Алесь аддаў сваёй старэйшай сястры, Надзеі. Калі праз тыдзень вярнуўся, кватэра сустрэла яго звыклай цішынёй і сціпласцю маладога кавалера-аспіранта — Надзея ў адзін дзень расшукала аўтамабіль з грузчыкамі і майстра: усе Антаніныны рэчы былі акуратна дастаўленыя ў пакойчык у інтэрнаце, адкуль яна прадбачліва не спяшалася высяляцца, а замок у Алесявай кватэры быў заменены.

Яшчэ гады тры пасля такой сваёй першай "жаніцьбы" Алесь Лобач, калі бачыў перад сабой вясёлыя,

усмешлівыя, спагадлівыя твары жанчын і дзяўчат, міжволі ўяўляў, як яны, твары, могуць імгненна скінуць з сябе маску дабрыні і ашчэрыцца драпежна і хціва.

Цяпер, праз гады пасля тых падзей, Лобач не хацеў мець справы з маладымі цяжарнымі жанчынамі. Ён мог сустракаць іх вачыма на вуліцах горада, паважліва ставіцца да іх і мець нават лёгкае трапяткое пачуццё гатовасці абараніць і памагчы, адчуваць і эстэтычнае задавальненне ад сузірання жыццясцвярджальнай карціны — але каб не мець ніякіх асабістых дачыненняў.

Пагатоў дачыненняў цяжарнай завочніцы з выкладнікам на экзамене.

Бо завочнікаў Алесь Лобач проста не любіў.

Ён даўно зразумеў, што іх універсітэт стаў своеасаблівай “кузняй кадраў” для выканкамаў рознага роўню, сюды, асабліва на гістарычны факультэт, паступалі тыя, каго на месцах вызначалі як “перспектыўны кадравы рэзерв”, адрывалі ад звыклых спраў і пасылалі вучыцца. Лічылася чамусьці, што для работы ў розных рай- і гарвыканкамах прыдаюцца лепей за ўсё пасля завочнага навучання на гістарычным факультэце. І тое было б няблага, ува ўсякім разе не было падстаў успрымаць той факт з вялікай незадаволенасцю, калі б… калі б завочнікі вучыліся.

Будучыя работнікі выканкамаў чамусьці былі перакананыя, што этнаграфія і этналогія ніякага дачынення да іх будучай работы не маюць, і малады выкладнік Алесь Лобач мусіць разумець гэты просты факт. Алесь разумець не хацеў. Калі яго пасля другога года выкладання сталі ўшчуваць на паседжанні кафедры за яго залішнюю, на погляд збоку, патрабавальнасць, ён выбухнуў:

— Няхай яны не ведаюць, у якім стагоддзі яцвягі пайшлі, а дрыгавічы прыйшлі, няхай блытаюць шнуравую кераміку з шаравой маланкай. Але этнаграфія — твая зямля! Твая гісторыя і культура, твой народ, твае продкі! Ты заўтра будзеш кіраваць людзьмі, часткай гэтай краіны. І ты не ведаеш, чым жылі да цябе, чым жывуць сёння людзі, што шануюць, што ўмеюць, што шанавалі і што ўмелі. Ты не хочаш нават ведаць! Дык ты ж найміт! Трэба ненавідзець краіну, каб сядаць у кіраўнічае крэсла і не ведаць яе культуры, гідзіцца ёй, грэбуючы здабыткамі соцень пакаленняў. Я нікому не буду рабіць папушчэнняў. Нікому і ніколі! Пагатоў — завочнікам. Я прабачу нястачу ведаў у этнаграфіі, але не прабачу грэблівасці да іх, стаўлення як да нечага другаснага… А гэта вызначыць проста, як проста і запомніць найэлементарнейшыя праўды. Я не патрабую немажлівага ад завочнікаў…

Лобача выслухалі моўчкі. Але маўчанне было шматаблічным як ніколі: тут былі згода, нязгода, абыякавасць і страх. Так, найзвычайнейшы страх, які не цяжка было згледзець на многіх тварах, які выразна праяўляўся ў кароткіх позірках на дзверы ці ў апушчаных у стол вачох.

Лобач сапраўды нікому не рабіў папушчэнняў. Але цяжарную жанчыну-завочніцу ён ні разу не здолеў адправіць на пераздачу — ён рабіў усё, каб найменей бачыць яе перад сабой, практычна ніколі і не пытаўся па білеце.

Жанчыны-завочніцы хутка заўважылі стаўленне маладога выкладніка Алеся Лобача да цяжарных. І ацанілі, і скарыстоўвалі. Неяк на адным экзамене, калі Алесь, як зазвычай, нават не пытаючы нічога, пацягнуўся, каб паставіць адзнаку маладой чырва-

натварай цяжарнай жанчыне, тая нязграбна… паправіла свой вялікі жывот, які неяк апынуўся раптам збоку, калі яна прысела перад сталом выкладніка. Чырвоная фарба з твару жанчыны быццам пералілася на Лобачаў твар — той пачырванеў, а жанчына збялела. Алесь тады паставіў адзнаку, адразу ж, не пытаючыся нічога, моўчкі. Але на лекцыі ў другой групе нечакана для ўсіх суха і жорстка папярэдзіў:

— Я мушу сказаць вось што… Маё стаўленне да цяжарных жанчын нехта зразумеў як мажлівасць мяне падманваць. Таму проста папярэджваю: заўважу падман — і ў студэнткі будуць вялікія праблемы са здачай экзаменаў. Я дарую шмат чаго, але не дарую падману. Ніколі.

### 4

Была пятніца. Надвор'е ўжо колькі дзён было роўным, цёплым — усё абяцала добры ўлоў. Якраз на заўтра і дамовіліся з суседам. Нішто не магло ўжо змяніць Лобачавага настрою ў пятніцу: ні няўцямныя адказы завочнікаў, ні поўная непадрыхтаванасць некага. Ён даўно ставіўся да сваёй працы як да стужкі канвеера: было, ёсць і будзе. Амаль без паўтарэнняў. А вось рыба — гэта было святое, бо кожная ягоная вылазка на прыроду ўваходзіла ў свядомасць пахамі, колерамі, адчуваннямі. Рыбацтва было не проста нейкім адпачынкам, адхланнем, як кажуць, а блізу сакральнай дзеяй, да якой Алесь рыхтаваўся з не менш сур'ёзнай урачыстасцю і нутраным хваляваннем, чым даўнейшыя маладыя крывічы да жаніцьбы Цярэшкі. Так, прынамсі, ён уяўляў для сябе.

Дык і сённяшні экзамен быў для Лобача шараговай падзеяй, якая не павінна была нешта змяніць у заўтрашнім дні.

Апошнім у аўдыторыі застаўся хлопец гадоў дваццаці пяці, з простым сялянскім тварам і такой самай паставай, трохі няўклюдны, баязлівы нават, аднак, у ім адчувалася тое, што завецца цвердалобасцю. “Не ведае нічога”, — канстатаваў для сябе Лобач. Гэтага хлопца ён не заўважыў на зімовай сесіі. Звычайны… І была яшчэ жанчына гадоў трыццаці пяці. Цяжарная. Жывот яе быў проста вялізарны. Калі яна брала білет, пад тонкай тканінай шырокай сукенкі на жываце праступілі нейкія матузкі і складкі. Лобач скрывіўся, як ад кіслага. Той самы выпадак з кабетай, якая пры ім папраўляла свой накладны жывот, стаўся легендай універсітэта, няўжо студэнтка не чула пра яе? Можа, і не чула — першы курс, на зімовай сесіі маглі не расказаць…

Жанчына ішла за стол у аўдыторыі, падтрымваючы свой жывот, што яшчэ больш пераканала Алеся ў слушнасці яго здагадкі. Яна села, і ён змог разглядзець твар: непрыгожы ад вялікага завостранага носу, запалых вачэй у цёмным паўкружжы.

Лобач прымаў адказы ў іншых, паглядваў зрэдку на “курыцу”, як назваў у думках маладую жанчыну з вялікім жыватом. Заўважыў, што яна амаль не адымае сваёй левай рукі ад сябе: папраўляе, падціскае злёгку. Яна і ішла да яго стала адказваць усё так сама трымаючы руку на нізе жывата. Села.

— Калі ласка, — халодна запрасіў да адказу Лобач.

— Старадаўныя музычныя інструменты… — неяк незвычайна плаўна, амаль напеўна прагаварыла жанчына і раптам ціхенька войкнула, асцярожна абхапіла жывот аберуч. — Выбачайце… Тузаецца, — і ўсміхнулася вінавата выкладніку.

— Вас, шаноўная, мабыць, не папярэдзілі, што фокус з цяжарнасцю, які іншым разам хочуць прадэманстраваць мне студэнткі, канчаецца для іх вельмі сумна? — ціха і суха спытаў Лобач.

Жанчына пільна зірнула на яго, і ў яе ў вачох Алесь пабачыў незвычайны жаль і спагаду адначасна. Яна нязмушана, як перад лекарам, прыхапіла пальцамі абедзвюх рук прыпол сукенкі і пацягнула яго ўгору, дэманструючы вачом выкладніка хударлявыя незагарэлыя ногі і белую скуру вялікага, проста вялізнага, жывата, абхопленага ў няновы, шараваты ўжо гарсэт з тугім шнураваннем.

— Прашу прабачэння, — усміхнулася ласкава, як старому знаёмаму, акуратна паправіла сукенку, паглядзела на Лобача, твар якога стаў імкліва налівацца чырванню. — Прабачце, — паўтарыла з разгубленасцю і вінаватасцю. — У мяне даведкі няма, дый што тая паперка… Я магу адказваць на пытанне?

— Так… так… Дзякуй, вось, — Алесь імкліва выставіў адзнаку, распісаўся, падаў залікоўку жанчыне. — Усё… Ідзіце. Усяго найлепшага Вам… і дзіцяці.

Устаў з-за стала, адышоўся да акна, глядзеў на вуліцу горада, якая жыла сваім распланаваным будзённым жыццём, а думак ніякіх не было, уся ягоная свядомасць была запоўненая вірам пачуццяў, дзе спакваля ціхэў цнатлівы сорам, меншала пякучая прыкрасць, укладвалася на месца вінаватасць. І толькі адно пачало расці, уздымацца — зайздрасць. Да таго невядомага мужчыны, які мо нават і сёння зможа прыкласці асцярожна руку да жывата гэтай жанчыны і пачуць, як тузаецца ягонае дзіця.

Уладзімір Жабрун глядзеў на выкладніка, які нібыта забыўся на адзінага ў аўдыторыі студэнта, маўкліва стаяў ля акна. Уладзіміра пацягнула па-

дысці да стала проста цяпер, скончыць гэты апошні для яго экзамен — і паставіць хоць адну кропку ў сваім жыцці. Бо за паўмесяца пабыту ў горадзе ён так і не вызначыўся хоць у нечым: што рабіць і як жыць. Братава смерць на пажары ў роднай хаце як нейкую рысу падвяла для Уладзіміра, і трэба было вызначацца, азірнуцца, зразумець.

Азірацца ж не было куды. Работа тэхнікам у калгасе, вось першы год навучання ў універсітэце. І ўсё. Гэта тое, што было за душой.

Здавалася, прыедзе сюды — і стане ясным і зразумелым тое, што ён робіць і дзеля чаго. Але калі пачаў рыхтавацца да сесіі, раптам адчуў, што ўсё, чым ён займаецца, не мае да яго лёсу ніякага дачынення. У яго нічога не было — нічога, апрача таго, што страціў. Пяць паслявайсковых гадоў у сваёй вёсцы на выміранні, пахаванне маці — п'яная, яна застудзіла галаву, і менінгіт з'еў яе за кароткія чатыры дні. Жанчына, з якой не ўдалося жыць, ніяк не ўдалося. Праца. Што праўда, і ў вёсцы, і на сядзібе Уладзіміра паважалі: ён і разетку заменіць, і цалкам праводку ў доме правядзе, і на слуп ускараскаецца, і тэлевізар парамантуе. Дый так рукі да працы здольныя, а галава ў пляшку не лезе.

Была мэта ў яго, Уладзіміра? Не мэта, хутчэй нейкае прачуванне мэты, неўсвядомленая да канца патрэба нешта рабіць, якая вылівалася ў беспрычынную тугу ці сядзенне гадзінамі ў сеціве, чытанне і сцягванні розных артыкулаў. Урэшце ўсё гэта вылілася ў амаль што роспачны крок, да канца мо і не ўсвядомлены ім, Уладзімірам. І ён надумаўся паступіць ва ўніверсітэт, на завочнае. На гістарычны факультэт. Той год, калі ён рыхтаваўся да паступлення, і першыя паўгода навучання праляцелі кароткім, напоўненым сэнсам

імгненнем. Пасля першай зімовай сесіі з'явіўся горкі прысмак расчаравання. І вось цяпер, на пачатку лета — пажар. Потым быў покліч: ехаць сюды, рабіць сваю справу. А якую?

У аўдыторыі было горача. Уладзімір расшпіліў яшчэ адзін гузік на кашулі, адчуўшы, як казытнула холадам скуру кветка на ланцужку. Чаму яна то халодная, то гарачая? Ніяк не разабрацца… Вадзіў асадкай па кавалку паперы, вымалёўваючы бяздумныя завіткі, чакаў, калі выкладнік сядзе за стол.

— Вы падрыхтаваліся? Калі ласка, — Алесь Лобач павярнуўся ад акна да Уладзіміра, сам пайшоў да стала, паказваючы, што гатовы выслухаць студэнтаў адказ.

Уладзімір павольна ўзняўся з месца, павагаўся: ісці адразу да дзвярэй, ці прысесці да стала, і ўсё ж прысеў. Хай будзе як будзе.

"Не ведае. І ведаць не жадае", — яшчэ раз, цяпер упэўнена падумаў Алесь Лобач.

— Слухаю, — усё ж зычліва падахвоціў ён студэнта.

— Рамёствы… — прагаварыў Уладзімір і замаўчаў.

— Што ж, цікавая тэма, — Лобач зазірнуў у твар студэнту. — Лекцыйная, дарэчы. Вы ж былі на лекцыі? Слухалі, запомнілі што?

— Быў… Слухаў… — безуважна адказаў Уладзімір і зноў замаўчаў.

— У вас ёсць што адказваць па білеце? — ужо строга спытаў Лобач.

— Практычна няма, — не стаў хлусіць Уладзімір, які і праўда ніводнай хвіліны не задумляўся над пытаннем.

— Што, вас не цікавіць, якія рамёствы былі ў вашых продкаў? Чым яны займаліся раней, што ўмелі майстраваць? — пачаў Алесь Лобач з лёгкай раз-

дражнёнасцю і адчуў, што вось цяпер, зараз, хваля прыкрасці, якая пачалася з лёгкага ўздыму сукенкі, якая, падуладная тонкім пальцам, адкрыла жывот цяжарнай жанчыны, хваля, якая была заглушаная іншым, не менш непрыемным пачуццём зайздрасці, цяпер узнялася — і гатовая абрынуцца едкімі, злымі слоўцамі на студэнта, тыповага вяскоўца.

Ён разумеў, што так нельга, што гэта супярэчыць нормам пісаным і няпісаным, але ўтрымацца не змог:

— Навошта вы паступалі ў універсітэт? Навошта вам заняткі? Проста, каб атрымаць "корачкі"? Бо ёсць пасада, якую вы можаце заняць толькі пасля атрымання іх? Мне асабіста не шкада гэтых "корачак", але ж дзе, у якой установе вы зможаце працаваць, прыносіць карысць дзяржаве і людзям, калі не ведаеце і не жадаеце ведаць гісторыю свае айчыны?

Прамоўленае было банальнасцю, і Лобачу стала невыносна прыкра казаць і ўсведамляць свае словы. Выкладаючы першы год пасля аспірантуры, ён не раз казаў так у думках якой размаляванай бландзінцы, што пачынала лыпаць вялікімі і цяжкімі ад фарбы вейкамі, выкочваючы з-пад іх кроплю слязы. Але трываў, бо — жанчыны… Цяпер перад ім сядзеў праставаты малады чалавек, які, Лобач быў пэўны, не пойдзе скардзіцца, моўчкі праглыне крыўдныя ды справядлівыя словы.

Уладзімір Жабрун заставаўся бадай што безуважны да слоў выкладніка, Больш таго — яны клаліся на яго роздум як камяні ў хісткую пакуль што сцяну сумневу, якая і мусіла вызначыць ягоную будучыню. Ён палічыў патрэбным адказаць выкладніку, думаючы, што таго сапраўды хвалюе пытанне: чаму Уладзімір Жабрун надумаўся паступіць ва ўніверсітэт.

— Вёска ў нас вымірае, — нечакана ціха прамовіў ён. — З маладых адзін я і застаўся. Я сам шмат чаго перачытаў, у сеціве знаходзіў… Вось і паступіў.

— Дык… — Лобач нават разгубіўся ад такога адказу, потым з палёгкай (студэнт не пакрыўдзіўся) дадаў: — Калі, мой шаноўны, вымірае вёска, дык з вёскі не ўцякаць трэба, а заставацца там жыць, дзяцей нараджаць! Не на гістарычны трэба паступаць, а на эканамічны, гаспадаранню на зямлі вучыцца!

Ён пасунуў залікоўку да Уладзіміра.

Жабрун склаў залікоўку, паклаў у кішэню сарочкі.

— Гэта не паможа, — ціха і пераканаўча адказаў ён. — Праклятая наша вёска.

— І хто ж яе пракляў? — здзівіўся Лобач, не мог утрымацца, каб не спытаць далей: — І вы што ж, надумалі шукаць супраціву заклёну ў універсітэце?

— Можа, і так, — шчыра пацiснуў плячыма Уладзімір Жабрун. — Я думаў… Мы неяк не так жыць сталі. Ну, не так, як раней. Вось таму…

— Як — не так? — не стаў хаваць сваёй цікавасці Лобач.

— Раней… Раней, помню, маленькім быў, дык на хаўтурах людзі плакалі, галасілі. Я аж спалохаўся быў першы раз. І потым жудасна было чуць галашэнне. А на вяселлях раней спявалі, скакалі ўсе… Сёння не галосяць на пахаваннях, за труной ідуць, пра розныя справы гавораць: ці добра бульба ўзышла, якая новая атрута ад жука ёсць, ці пастаіць пагода, каб сена высушыць. А на вяселлях, на якіх быў, толькі моладзь танцуе… пад калонкі. А рэшта сядзіць, глядзіць, не спявае…

Уладзімір палічыў, што размова скончаная, памкнуўся ўстаць, каб ісці.

Лобач прытрымаў яго:

— Выбачайце, але я пакуль што ніяк не знаходжу сувязі з гістарычным факультэтам вось гэтых з’яў. Тое, пра што вы кажаце, ляжыць зусім у іншай плоскасці: у эканамічнай, сацыяльнай…

— Я думаў, тут даведаюся…

— Пра што? Пра заклён? — не мог не ўсміхнуцца Лобач.

— Ну, і пра яго…

Уладзімір нейкі момант быццам раздумваў: казаць ці не казаць, потым выдыхнуў, як перад скокам у ваду і загаварыў перш спакойна, а потым горача і ўсхвалявана:

— У нас вёска маленькая, дваццаць двароў. А сядзіба калгасная праз лес. Я малым быў, дзяцей было ў нас — у кожным доме. Узімку на Каляды па хатах хадзілі, калядавалі. На Вялікдзень пасярэдзіне вёскі гуртаваліся, яечкі фарбаваныя качалі, спаборніцтвы цэлыя былі. І ўсе-ўсе людзі выходзілі, святочна адзетыя. Бацька, як яшчэ жывы быў, нам з братам абавязкова на Вялікдзень абновы купляў: ці чаравікі, ці пінжачкі. А Купалле якое ладзілі! А цяпер… няма нічога. Я думаў… што гэтыя святы мы потым няслушна сталі рабіць… Не так сталі ўсё рабіць. Камень чортаў сцягнулі, дубовы гай высеклі…

— Нечаканая выснова, — шчыра здзівіўся Лобач. — Хоць і не вы першы ўскладаеце віну за існы стан рэчаў на няслушнасць выканання пэўных абрадаў, але тое, выбачайце, практыкуецца… практыкавалася ў каменны і трошкі пазнейшы век.

— Дык жа людзі не змяніліся, што ў каменны век, што ў наш, — асцярожна запярэчыў Уладзімір.

— Думаю, вы памыляецеся, — мякка сказаў Лобач. — Людзі змяніліся і змянілі свае абрады… А што там за заклён? І як можа навука дапамагчы?

Уладзімір першы раз зірнуў выкладніку ў вочы, і Лобач прыемна здзівіўся — у хлопца быў сапраўдны сум у вачох. Хоць і дагэтуль ён верыў у шчырасць ягоных слоў.

— Самыя вінаватыя… Мне бабуля казала… Тады амаль уся наша вёска была з Жабруноў. А за лесам стаяў маёнтак, дзе цяпер сядзіба калгасная. Ну, у вёсцы, у асноўным, усе тыя былі, хто ў маёнтку працаваў. Калі пачалася рэвалюцыя, мужыкі адзін аднаго падбухторылі дый пайшлі маёнтак рабаваць. За імі і бабы. Уначы. А варта ж таксама свая была, з вёскі. Скляпы парасчынялі, бочку з віном выкацілі, пілі. Цягнулі, хто што мог… Коней са стайні пахапалі, кароў з хлявоў, авечак на спінах цягнулі. Пан, казала бабуля, назіраў з акна, моўчкі. Потым падпілі добра, сталі ў дзверы панскага дома біць. Дзвярэй пан не адчыняў. Тады падпалілі дом. Там пан і згарэў, разам са сваёй хворай маці і малодшай дачкой, бо старэйшая дачка з жонкай акурат тады паехала некуды на воды. Бабуля казала, што ўсе бачылі, як дом палае, а пан… Ён пан добры быў, не здзекаваўся з людзей, як хто жаніўся з рабочых маёнтка, то на вяселле добра даваў і грошай, і рознага там на разжытак, і лесу на хату… Дык вось, пан да апошняга моманту ў акне стаяў і на людзей глядзеў… Ну, з таго і пачалося. У нашай вёсцы хіба што жанчыны сваёй смерцю паміралі, а мужчыны гінулі… Пажараў шмат было, раз палова вёскі гарэла: бура была вялікая, адкуль той агонь прынесла. У пажарах і дзеці гінулі. А мужыкі… То лясіна ў лесе прыдушыць, то конь капытом у скроню пападзе, то між сабой паб’юцца ды за нажы хопяцца. А цяпер во паспіваліся яшчэ: хто ў вар’ятні ляжыць, хто сядзіць у турме, хто наагул сінім полымем згарэў. Жабруны… ну, яны амаль усе радня былі. Дык вось,

я апошні і застаўся. Брат быў… Паўмесяца таму згарэў… разам з нашай хатай.

— Так… Нечакана вельмі, — Лобач і праўда быў трохі разгублены. — Першы раз сустракаю такое… такую прычыну для паступлення. Значыцца, вы хочаце атрымаць веды, праўда? Хочаце нешта знайсці, тое, што змяніла б кон вашай вёскі. Дык, выбачайце, чаму вы не вучыцеся?

— А чаму тут вучаць? — уздыхнуў непрытворна Уладзімір. — Паўгода мінула…

— Так… А што вы хочаце ведаць? Навучыцца, як здымаць заклёны?

— Не… Я думаў, што тут… Што тут знайду адказы на свае пытанні. Я ж кажу, мы няправільна жыць сталі, не так… — Уладзімір зноў нейкі момант вагаўся і потым загаварыў нечакана для Лобача зусім іншым тонам, з роспачнай горыччу: — Я так зразумеў, што ўніверсітэт не можа даць адказу на нейкае канкрэтнае пытанне. Бо ніхто тут не займаецца канкрэтыкай. Вось, прыкладам, быў недалёка ад нас Чортаў камень. Кажуць, што некалі там жыў чорт, які шыў людзям адзенне і боты. А бабуля мне казала, што нельга камень чапаць. Бяда будзе вялікая. Ды камень сцягнулі некуды, звезлі, я яго ўжо не пабачыў. Тады я прачытаў, што знайшоў, пра такія камяні. Я хацеў знайсці адказ: ці можа быць камень звязаны з той бядой, пра якую бабуля казала? Бачу, пазбіралі звесткі і зрабілі выснову: вось такая і такая група людзей, якія жылі тут і тут — нейкім парадкам роднасныя, бо камяні маюць аднолькавыя легенды.

— А што ж вы хацелі даведацца? — не зразумеў Лобач.

— Ды простае: чаму ў камені жыў чорт і чаму ён шыў. І чаму нельга было людзям прыбіраць той ка-

мень, хоць там і чорт, хоць у той вопратцы нельга было ў царкву ісці, — загаварыў Жабрун зноў ціха, нібы вінавацячыся за ранейшы запал.

— Ну, дарагі мой, — Лобач развёў рукі, — каб адказаць на такое пытанне, трэба шукаць.

— Я і шукаю…

— Як? Проста лазіце па сеціве, чытаеце кніжкі? Выбачайце, шукаюць тыя, хто гадамі і дзесяцігоддзямі збірае ўсялякія легенды і міфы, ходзячы ад вёскі да вёскі, ад бабулькі да бабулькі, аналізуе, сістэматызуе і робіць асцярожныя высновы, стварае рабочыя гіпотэзы. Вы чыталі колькі старонак тэксту — а за ім праца тысяч чалавекадзён. І вы яшчэ незадаволены, вы кажаце, што шукаюць няслушна, — Лобач не змог утрымаць сарказму. — Што ж вы прапануеце? Як трэба шукаць?

— Ну, адказ на канкрэтнае пытанне. Знайсці пытанне, потым шукаць адказу.

“І праўда, цвердалобы… А гэта ж і няблага”, — падумаў Лобач, услых спытаў:

— І шмат у вас такіх вось… канкрэтных пытанняў?

— Не вельмі шмат, — упэўнена адказаў Уладзімір.

— Яшчэ якое, калі можна сказаць, мне проста цікава…

— Ну, яшчэ пра Купалле, да прыкладу… незразумела.

— А тыя тлумачэнні, якія ёсць, Вас не здавальняюць?

— Ну дзе там!

— Чаму?

Уладзімір Жабрун утаропіўся ў стол і зноў загаварыў горача, хвалюючыся:

— Бо яны не тлумачыць для мяне галоўнага: чаму Купаллю, паганскаму святу, не знайшлося месца

ў хрысціянстве? Усім знайшлося, Купаллю — не. Чаму хрысціянства так актыўна змагалася з ім і яшчэ з большым імпэтам — цяпер, калі займела падтрымку ўладаў?

— А вы не такі і просты, як падаяцеся, — усміхнуўся Лобач. — Усё, што вы кажаце, цікава… А можа, у вас ёсць сваё тлумачэнне хоць бы Купалля? Што за сэнс у свята?

— Я пэўны ў адным: яно было найважнейшым для нас некалі. Ну, і частка гэтага свята — ініцыяцыя.

— Во як? І адкуль такая… тэорыя?

— З таго, што ўсе народы мелі такі дзень: пасвячэнне хлопчыкаў у мужчыны, дзяўчат — у жанчыны. У нас чамусьці не захавалася пра гэта слядоў. А разам з тым, успомніце, хрысціянства гаворыць пра Купалле як ноч разбэшчанасці, распусты. Хіба гэта не адгалосак колішняй ініцыяцыі? І потым, у хрысціянстве самой ініцыяцыі ніяк не можа быць, гэта ідзе насуперак ягонай навуцы. Таму Купалле не магло стаць святам для нейкага эпізоду з хрысціянства.

— Ну, і на чым грунтуюцца вашы высновы? — дазволіў сабе паблажліва ўсміхнуцца Лобач. — Вядома, апроч вашых разважанняў.

— А разважанняў мала? Хіба яны не тлумачаць усё?

— Нічога яны не тлумачыць… Паслухайце, — Лобач загаварыў сур'ёзна, намагаючыся акцэнтаваць увагу на кожным слове. — Гістарычная навука — у першую чаргу збіранне. Па радкох. Па словах. Па крупінках. Для таго, каб зрабіць хоць нейкую выснову пра мінулае, трэба сотні, тысячы фактаў, якія пацвярджаюць адзін аднаго, іх навуковая абгрунтаванасць. Вы кажаце, што Купалле — ініцыяцыя. Выдатна, згодны, цікавы кірунак думкі. Успамінаю, у адной купальскай песні ёсць радкі пра тое, што сёння

дзяўчына, заўтра жанчына. Але ж адна песня. Адзін радок. Болей ніякіх пацвярджэнняў!

— Трэба шукаць…— спакойна запярэчыў Уладзімір. — Мэтна.

— Мэтна шукаць факты пад прыдуманую тэорыю? Выбачайце, мой дарагі — такім спосабам можна знайсці і давесці што захочаш. Хоць наяўнасць у нашай аўдыторыі іншапланецян. Гісторыя сведчыць, што калі навука ідзе такім шляхам, яна становіцца служкай ідэалогіі. І стварае базу пад якую хочаш тэорыю. Прыкладам, пад тэорыю звышчалавека, прасцей кажучы — пад нацызм.

— Дык… Дык я ж не пад тэорыю хачу шукаць… — зніякавеў Уладзімір і стаў зноў тым самым няўпэўненым вяскоўцам. — Я проста думаю, што калі вось заняцца адной справай, толькі адной, дык можна знайсці адказы… на пытанні.

— Не, так не бывае. І ўніверсітэт, расчарую ўжо Вас дарэшты, не дае адказаў на падобныя пытанні з вуліцы. Універсітэт дае вядомую базу, універсітэт вучыць, як здабываць веды. Вы гэтага зразумець не хочаце — тады, калі ласка, карыстайцеся сваёй асабістай методыкай, — ужо рэзка адказаў Лобач, бо ён адчуў сябе прыніжаным Жабруном. Вось так нахабна заявіць, што навука — няслушная, што ўсё сабранае не мае сэнсу, бо, бачыце, разыходзіцца з ягонай тэорыяй… Трэба ж мець такое нахабства. Цвердалобы…

— Выбачайце, — нечакана вінавата, але цвёрда паставіў кропку і Уладзімір — ён зразумеў Лобачава жаданне скончыць размову. — Я… не хацеў вас пакрыўдзіць. Мне здаецца, што вось калі біцца-біцца над адным нечым…

— Я думаю, мы з Вамі сустрэнемся яшчэ раз. Дзень пераздачы будзе на дошцы абвестак. Вы ж прыйдзеце на пераздачу? — хутка рассудзіў Лобач.

— Прыйду, — вырвалася ў Уладзіміра перш, чым ён паспеў усвядоміць пытанне.

— От і добра. Прыходзьце ў панядзелак. Я дам вам, ну скажам так, заданне. Менавіта для вашай, гм-м, методыкі. А пакуль што параю ўспомніць дакладна, з максімумам усіх падрабязнасцяў, святкаванне некалі ў вас таго ж Купалля і запісаць. Разам паглядзім.

— Ды звычайна ў нас было, — пацепнуў плячыма Уладзімір. — Апоны аўтамабільныя кралі… Я ў бабулі тут пакой здымаю, лепей у яе папытаю. Яна старэнькая, ёй каля васьмідзесяці, — аж захваляваўся Уладзімір — нечаканая перспектыва атрымаць сапраўднае заданне ўзрушыла яго.

— Выдатна, папытайцеся ў яе пра Купалле. Як адзначалі ў часы яе маладосці, якія песні спявалі. І запішыце. Але, калі ласка, пазначце абавязкова: у якім месцы святкавалася, у якія гады і цалкам імя-прозвішча бабулькі. Толькі тады запісанае будзе рэальным фактам, які можна далей неяк скарыстаць. Зразумелі?

— Зразумеў, дзякуй вам.

— Няма за што дзякаваць. У панядзелак знойдзеце мяне. Яшчэ. Ёсць мажлівасць для работы з электроннай копіяй тэксту?

— Так, так… Я ноўтбук сабе набыў… Камп’ютар згарэў тады…

— Вось і добра. Вазьміце з сабой.

Лобач павагаўся адно імгненне і падумаў запытацца пра тое, што яго зацікавіла ў той самы першы момант, калі Жабрун сеў за стол, і між крыссяў кашулі на ягоных грудзях цьмяна засвяцілася срэбрам шасціпялёсткавая кветка.

— Прашу прабачэння, адно асабістае пытанне, калі дазволіце? — спытаў ён.

— Так, пытайцеся, — паспешна дазволіў Уладзімір.

— У вас на грудзях, як гэта цяпер называюць, талісман. Я нешта не сустракаў такія ў крамах, хоць яны мне вядомыя… — і замаўчаў, запрашаючы Жабруна да пытання.

— А адкуль вядомыя? — не прамарудзіў Уладзімір.

Лобач усміхнуўся — ён не памыліўся, што спытае Жабрун.

— На тое і вучоныя, каб ім было вядома… Вы, думаю, самыя б маглі пацікавіцца: што за знак, чаму такі?

— Дык… не знайшоў пакуль што нічога, — пачаў апраўдвацца Уладзімір. — Нешта ёсць пра Перуна… — ён зірнуў на Лобача, пабачыў там сапраўдную цікавасць у вачох і надумаўся сказаць больш: — Калі нашу згарэлую хату разбіраў, дык пад апошнім вянцом ляжала, загорнутае ў тканіну. Я падумаў — гэта нібыта ахвяра.

— Во як? — шчыра здзівіўся Лобач. — А хата даўно будавалася? Не, не думаю, што гэтым ахвяравалі… Такі знак апісаны… называюць яго грамавым знакам, агнявіком. Выяву можна было раней сустрэць у аздабленні дамоў. На вільчыку, ліштвах…

— Ну, дык, калі грамавы знак, значыць, Пярун? — асцярожна прапанаваў Уладзімір. — А хаце больш за паўсотні гадоў…

— Вельмі ж цікавы тады ў Вас знак… Не, не Пярун гэта. Грамавы знак, на думку некаторых даследнікаў, — маланка.

— Маланка? Такая? Тады Пярун…

— Так, маланка. — пасміхнуўся Лобач з Жабрунавай упартасці. — У біблійных тэкстах, дарэчы, сустра-

каецца апісанне анёлаў ці Бога, якія паказваюцца людзям, а замест твараў — маланкі. Ведаеце ж, што маланак дзве бывае, ёсць і шаравая. Шаравая маланка і дагэтуль, дарэчы, самая невывучаная з'ява… Такі знак, мяркуюць, — знак шаравай маланкі. Шасціканцовая зорка сімвалізавала нябесны Род…

— Род? Найвышні бог? — узрадаваўся невядома чаму Уладзімір.

— Род — не бог, — мякка запярэчыў Уладзімір. — Хоць некаторыя і называюць яго так. У паганцаў не было найвышняга бога, які б ствараў сусвет, зямлю… Род — гэта само жыццё. Бытнасць Роду ажыўляе мёртвую прыроду. Якая існавала і будзе існаваць вечна. Такая вось кветка, як у вас — гэта і абярэг, і адначасна — як знак прыналежнасці да служкаў Роду. Цікавы знак…

Жабрун адчуў прытоены ўздых у апошніх Лобачавых словах і борзда расшпіліў просценькі замок на ланцужку, зняў яго разам з кветкай, паклаў перад выкладнікам.

— Дык паглядзіце бліжэй… А чаму — шэсць пялёсткаў?

— Чаму шэсць? — перапытаў Лобач, пасунуў да сябе аркуш, на які паклаў Уладзімір ланцужок і кветку на ім. — Якая дакладная работа… І яму акурат больш за пяцьдзясят гадоў, кажаце… А можна мне яго сфатаграфаваць, замерыць? — папрасіў ён.

— Ды калі ласка… Вазьміце, потым вернеце…

— Дзякуй, вельмі незвычайная кветка… Я зраблю замеры, пакажу аднаму свайму калегу, ён вельмі цікавіцца "грамавым знакам"… А чаму шэсць пялёсткаў? Ніхто дакладна не ведае. Некаторыя лічаць, што тут замешана простая сняжынка — чалавек у тыя часы мог заўважыць, што ў ёй заўсёды шэсць прамянёў.

Потым, іншая версія, “родзій” у старажытных грэкаў якраз значыў маланку і адначасна такі плод як гранат. А гранат і чырвоны, агністы, і ўнутры, на разрэзе мае менавіта шэсць перагародак. А ад родзій блізка і род…

— А ў сеціве… ёсць пра Род? — запытаўся Уладзімір.

— Там усяго стае, але сур’ёзныя работы цікавыя толькі вузкаму колу, яны рэдка трапляюць у сеціва, бо занадта вялікія і нудныя неабазнанаму чытачу. Але пашукайце. Калі надта цікава — магу даць назвы некаторых кніг, іх знойдзеце ў бібліятэцы.

— Ага, дзякуй, я пашукаю.

— То даяце мне пад “чэснае слова” на час свой абярэг? — перапытаў яшчэ раз Лобач.

— Ды няўжо ж, калі вам цікава і трэба…

— Ну, тады дзякуй і чакаю Вас.

— Ага, да пабачэння, — развітаўся Уладзімір Жабрун, борзда падняўся з месца, выйшаў з аўдыторыі.

Нейкі час Лобач сядзеў нерухома, асцярожна аналізуючы свае думкі і пачуцці. Усё ж добра, што пасля той жанчыны быў яшчэ гэты студэнт, і добра, што ён распачаў з ім гутарку. Нешта ёсць у гэтым хлопцы… Сапраўднае нешта. І гэта заспакойвала. От каб такіх хоць дзесяць чалавек на ўсю патоку!..

## 5

Дом, у якім Уладзімір Жабрун здымаў невялічкі, два на тры метры, пакойчык, стаяў на ціхай, амаль што вясковай вуліцы. Дзіўна, яна нейкім спосабам захавалася тут, так блізка ад вялікага праспекта. Адзін

з найстарэйшых раёнаў горада меў шмат зеляніны, нават сам праспект паспеў убрацца ў два шэрагі высокіх і густых ліп і каштанаў абапал.

Дом стаяў у глыбіні невялікага старога саду і глядзеў на вуліцу белым мурам з трыма вокнамі. Два акны — вялікі агульны пакой, трэцяе — гаспадыніна, старэнькай Марыі Фамічны Міклуш. Яна часта сядзела пры сваім акна, адвешвала фіранку і глядзела на сцяжынку, на людзей, якія ішлі да яе. Гэтай роўнай сцяжынкай, што агінала дом, бегла паўз акно Уладзіміравага пакойчыка, збочвала і спынялася ля простых веснічак, памаляваных у светла-сіні, цяпер ужо бледна-блакітны колер, за які дзень праходзіла з дзясятак людзей. Прычына таму была ў самой бабульцы — яна лячыла. Ад ляку, ад сурокаў, ад ружы, ад яшчэ нейкіх хвароб. І варажыла на картах, хоць апошняе рабіла неахвотна, больш маладым жанкам, калі тыя надта ж умаўлялі. Уладзімір быў вельмі здзіўлены і колькасцю людзей, і тым, хто ішоў да бабулькі. Зразумела, калі б такое было ў вёсцы, а тутака — вялікі горад...

Пакойчык у бабулі Уладзімір знайшоў яшчэ ў час зімовай сесіі. Падказалі суседзі. Бабулька тады пільна абгледзела Уладзіміра і толькі папярэдзіла:

— Дзевак вадзіць не дам. Гарэлку, бачу, не п’еш надта...

Марыя Фамічна была акурат той бабулькай, якой малявала літаратура жанчын сталага веку: сухенькая, увішная, з глыбокімі зморшчынкамі на твары, невялікімі вочкамі, што глядзелі пытліва і з хітрынкай. Наагул, за той зімовы месяц яны пасябравалі — Уладзімір і Марыя Фамічна. Бабульцы спадабаўся яе кватарант: ціхі, увесь час сядзіць у сваім пакойчыку, чытае ці піша, адгукаецца, калі паклічаш, можа і па-

слухаць увечары за гарбатай розныя гісторыі з бабульчынай маладосці. Дый рукі спраўныя да працы: найперш сам набыў і паставіў добрую антэну — сюды, на ціхую вулачку кабельнае тэлебачанне прадпрымальныя гаспадары цягнуць не сталі. Марыя Фамічна любіла глядзець серыялы, і дні тры пасля таго, як яе тэлевізар, нечакана для яе самой, пачаў паказваць чыста, без дрыжання, "кіно", нацешыцца не магла: яна была пэўная, што ёй прадалі нядобры тэлевізар і ўсё перажывала, як падманулі гандляры… У той вечар, калі тэлевізар пачаў паказваць добра, Марыя Фамічна прынесла на кухню са свайго пакойчыка пляшку з самагонкай, і яны разам з Уладзімірам узялі чарачку-другую. Самагонка была празрыстая, пахучая — Марыя Фамічна хвалілася, што настойвае яе на сямі травах. А Уладзімір цішком дзівіўся, як бабулька ў свае восемдзесят з лішкам вось так спакойна ўзняла чарку, прыцмокнула: "Гарэлачка як мядок, сама просіцца ў раток", дый кульнула крыху няпоўную стограмоўку.

Давер гаспадыні да Уладзіміра ўзімку, пад канец яго кватаравання, узрос гэтак, што ў адзін дзень бабулька папрасіла яго памагчы… выгнаць самагонку — не любіла яна заводскай гарэлкі: "Смярдзючая, галава баліць пасля яе. Брыда", — выказвала яна свае перакананні Уладзіміру, пакуль што яны разам майстравалі няхітры апарат для атрымання самагону: вялікае эмаляванае вядро з пахучай брагай стаўлялася на газ, потым туды апускалася трынога, на яе — глыбокая парожняя міса. Усё шчыльна зачынялася накрыўкай зверху, абмазвалася цестам. Для такога спосабу атрымання самагонкі, як зразумеў Уладзімір, патрэбная была вялікая практыка.

Дом кагадзе набыў для сябе сын Марыі Фамічны, які цяпер працаваў недзе ў Сібіры. І ўзімку бабулька жыла тут, як сама казала: "Вартую сынава багацце". А ўлетку з'яджала ў сваю вёску.

— Не хачу кватарантаў браць. Неяк сям'я была на лета засталася, дык тут такое было... Не хачу! — Падціскала Марыя Фамічна вусны. — Ты во прыязджай на сваю сесію, хоць усё лета жыві, бачу, ахайны хлопец. Але дзевак за грошы не вадзі, чуеш? Не трэба сюды такіх дзевак, пасля іх тут застаецца...

Уладзімір не стаў пытацца, што застаецца, але разумеў, што не пра нешта матэрыяльнае казала гаспадыня.

Пра сваю здольнасць лячыць ад рознай-рознасці яна апавядала ахвотна, ганарылася гэтым: "То ж людзі дзякуюць, вунь і праз пяць гадоў ідуць, і іншым пераказваюць. Значыць, умее Міклушычыха лячыць! Ого, умее... Я ж не ад усяго лячу, ёсць хваробы, што толькі лекары і даюць рады. А дзіця ад ляку як доктару палячыць? Тут словы трэба... Ад ружы вунь ніякі доктар не вылечыць, а я пашапчу, вадой памачу — і сходзіць. А во нядаўна мужчына быў малады. Яму жаніцца, і што там здарылася — абасцаўся ўначы! І яшчэ потым, і яшчэ. То маці прыходзіла, сам так саромеўся. Ды мусіў прыйсці — як жа ж я не бачыла чалавека, а лячыць буду? І вылечыла, хай не за раз, а за тры. Ён па сваім вяселлі з маладой жонкай прыязджаў, абрус падарыў, файны такі..."

Уладзімір часта выслухваў такія аповеды. Невялікая гаспадынiна кухня была дужа ўтульнай для працы з ноўтбукам пры стале, дый сама Марыя Фамічна сказала яму, каб не за тумбачкай там сядзеў (стала ў Уладзіміравым пакоі не было), а во тут, на кухні. Уладзімір разумеў, што бабульцы хочацца з кімсьці

пагаманіць, ведаў, што недзе пасля гадзіны ягонай самоты на кухні Марыя Фамічна завітае, спытае пра што — і пачне сама расказваць: пра жыццё, пра мужа-нябожчыка, а больш пра свайго татку (яна так і казала — "татка мой"), які быў вядомым лекарам ува ўсёй ваколіцы, лячыў, праўда, жывёлу свойскую. "О, яму і працаваць не трэба было: каня як вылечыць, то мех мукі дадуць і ўвосень збожжа. Але ж працаваў, ой як працаваў! І мы, сямёра дзевак, ад раніцы да вечара. Затое ўсё ў нас было. А што ж: гадуй дочкі — не будзе сарочкі. Не-е, татка так не хацеў. Свіней шмат трымалі, парасят часта калолі, дык і надакучвала тая парасяціна на стале. І не скнара татка быў, не, што ні папросяць — даваў. Іншым разам дзе і згубіць, дык назаўтра як знойдзе… А саветы прыйшлі — усё сам у калгас аддаў. І мужыкам казаў: не пярэчце, гэтая ўлада надоўга, сіла ў яе, зламае яна вас. Многіх навучыў, хто не паслухаўся — згінулі недзе, вывезлі іх, а дабро ў пыл пайшло. Ды сам татка не ўшанаваўся: яго і брыгадзірам былі прызначылі, ужо і ў газеце пра яго пісалі, што лепшы, а потым прыехалі, забралі — і як у ваду знік. І да сёння не ведаю, дзе костачкі ягоныя… Жыццё пражыла, як на свінні праехала…"

За той зімовы месяц перад Уладзімірам мінулі ці не ўсё гады Марыі Фамічны. Яна з невядомай прычыны спяшалася выказаць кватаранту, выпадковаму слухачу, свой боль, якім былі поўныя і самыя вясёлыя гісторыі: ці то як замуж яе аддавалі, а абуць не было чаго, дык сукенку зрабілі такой доўгай, каб не было відаць, што нявеста басанож, ці то пра Каляды, калі хадзілі-збіралі, а мясцовы міліцыянт злавіў ды адабраў мех, а назаўтра скруціла яму жывот…

— От тады на мяне і пачалі казаць, што слова ў мяне такое, — прызналася Марыя Фамічна. — Бо гэта

ж я крыкнула тому міліцыянту: “Каб ты з’еў, а потым не выс…ся!” Мяне татка змалку вучыў, бачыў ува мне моц. Казаў: слова — найперш, слова і жывёла разумее, слова над усім верх бярэ. Навучыў кроў замаўляць, іншаму. Сталі да мяне людзі ісці, а страшна ж было. Заарыштаваць маглі, з сельсавета не раз пагражалі. Неяк сядзім во так у хаце, зіма, халадно, бо дровы ашчаджаем, а тут грукаюць у дзверы. Увальваюцца ў хату ў скуранках. Ой, як мы папалохаліся. А гэта, як высветлілася, па мяне прыехалі, збірайся, кажуць. І маўчаць, куды збірацца. Мама збялела, рукі трасуцца, ды адзін, галоўны ў іх, супакоіў: шапянуў ціхенька — лячыць трэба кабету. У мястэчка мяне павезлі, да нейкага начальніка партыйнага. Прывезлі, бачу: нарадзіла баба, а сама невядома дзе. Ляжыць на ложку, дзіця ў рукі не бярэ, гідзіцца яго, нічога ёй не цікава. Спужалася я: як такое лячыць? Усё ўспомніла, чаму татка вучыў. Тры дні там прабыла. А што ж, той начальнік так і сказаў: вылячуся — вярнуся жывой дадому. А не, то… Ды я не дзеля страху лячыла, страх лячыць не паможа. Ачуняла парадзіха. І дзіця да грудзей прыклала з любасцю, і мне потым добрую торбачку ў дарогу дала. А што ж, заплаціць трэба, і плату за работу ўзяць трэба — задарма і тата маму не цалуе. Той начальнік, хай яму добра будзе на тым свеце, усё ж шмат мне добрага зрабіў: нашыя сельсаветаўцы мяне чапаць перасталі. То мы з галадоўлі выкараскаліся. Хоць што той бядак за лячэнне можа прынесці! А кавалачак да кавалка — ужо і нам на стол нешта паставіць ёсць…

Марыя Фамічна збіралася ў вёску. Да гэтага часу яна не прызнавала ні торбаў, ні скрынак, усё, што ёй трэба было ўзяць з сабой, яна складвала і завязвала (прасіла Уладзіміра) у тугія клункі.

Бабулька планавала ад'язджаць назаўтра ("сусед будзе тут, то і забярэ мяне, дамоўлена даўно, анягож"). Яна прасавала нешта з адзення ў сваім пакойчыку, калі Уладзімір пачуў яе спалоханы ўскрык:

— Ай, Валодзечка, ратуй-ратуй!

Уладзімір не данёс да вуснаў кубак з кавай, падхапіўся з-за стала.

У бабульчыным пакоі, у самым куце ягоным, дзе стаяў ложак, з электрычнай разеткі на сцяне, у якой сядзела вілка праса, віўся дымок, чулася патрэскванне. Марыя Фамічна, перапалоханая, дзьмухала на разетку, стоячы крокі тры ад яе.

Уладзімір толькі зірнуў на разетку, адразу крутануўся ў вялікі пакой, падхапіў крэсла і стаў выкручваць засцерагальнікі ў электрашчытку. Зірнуў на адзін і другі і прысвіснуў у думках: тоўстыя "жукі" на абодвух.

Спакойна злез, зайшоў у пакойчык, выцягнуў гарачую вілку. Дымок віцца перастаў, але смурод па пакоі пайшоў.

— Усё нармальна, не хвалюйцеся... Хто гэта вам такія жукі паставіў?

— Якія жукі? — ачомалася бабулька.

— У шчыток хто засцерагальнікі ўкручваў апошні раз?

— Дык... Во кватаранты як былі, то нешта свет выбівала, дык хлопец паладзіў...

— Ага, добра паладзіў...

— Ай, дык што ж нарабілася... Я ж ледзь хату не спаліла праз іх! О, Божа, быў бы сыну падарунак... Аёй, дзякуй табе, Валодзечка, што б без цябе было!

— Усё нармальна, Марыя Фамічна... Тут крама недалёка, я зараз збегаю.

Вярнуўся хвілін праз дваццаць, з новай разеткай, кавалкам дроту і аўтаматычнымі засцерагальнікамі. Раскруціў разетку, вызваліў канцы, тады паставіў засцерагальнікі, праверыў — кароткага замыкання нідзе не было.

— Ну вось, зараз паставім Вам новую разетку, белую, прыгожую, — казаў ён, завіхаючыся. — Дый праводку ўсю мяняць трэба…

— А то што ж, зноў загарыцца? Дык як жа хату кінуць? — спалохалася гаспадыня.

— Не, зараз дакладна нічога не загарыцца, — цвёрда адказаў Уладзімір. — Я паставіў аўтаматычныя засцерагальнікі. Як што — яны проста вымкнуць ток, і ўсё, нічога не будзе гарэць.

— Ай, разумны ты хлопец, дай табе Бог здароўя і добрую жонку… Направу, Валодзечка, направу, каб бяды ніякай не было…

— Не будзе бяды, не перажывайце, — усміхнуўся Уладзімір. — Гэта я ўмею рабіць, гэта мая праца…

Ён прафесійна зачышчаў абвугленыя канцы дроту, калі пачуўся кароткі асцярожны званок у дзверы.

— Каго там нясе? — знарок буркліва адгукнулася Марыя Фамічна, бо Уладзімір ведаў: яна ніколі не раздражнялася, што да яе ідуць людзі. — Ты працуй, працуй, я от цябе заслонай завешу, як да мяне хто наведаецца, — сказала яна і зацягнула заслону з дзвюх палос лёгкай пярэстай тканіны, якая схавала куток з ложкам і самога Уладзіміра.

— Мы да Вас па дапамогу, бабуля Марута, — пачуўся з вітальні вінаваты жаночы голас.

— Ой, дык я ж во збіраюся, еду да сваёй хаты, — з жальбой адказала гаспадыня. — Дык і зарана прыйшлі, трэба ж па трэцяй…

— Дык нам і сказалі, што Вы едзеце, бабуля Марута, — па голасе жанчына была яшчэ зусім дзяўчо, і ў Уладзіміра раптам здрыганулася нешта ўсярэдзіне, закарцела хоць куточкам вока зірнуць — хто там прыйшоў да бабулькі…

— Што, напужаўся хлопчык? — без лішніх роспытаў пачала гаспадыня. — Ад спуду дзесяць тысяч бяру.

— Добра… Не ведаю, — разгубілася жанчына. — Гаварыць не хоча, спіць дрэнна, ускрыквае, усё сабаку адганяе нейкага. Кажа, каб святла не тушыла ў пакоі. Мы ўжо і ў дактароў былі…

— Як — гаварыць не хоча? — удавана дзівячыся, усклікнула бабуля, здаецца, прысела перад дзіцём: — Той сабака вельмі вялікі быў? Чорны ці руды?

— Чорны, — пачуўся голас дзіцяці, хлопчыка.

— А ты рукамі на сабаку махаў, крычаў?

— Крычаў, — смялей дадаў хлопчык.

— Дык той жа сабака так цябе напужаўся, што да мяне сам лячыцца прыбягаў! — паважна і пазмоўніцку загаварыла Марыя Фамічна. — Ну, хадзем за мной…

Яна прывяла хлопчыка ў пакой да Уладзіміра.

— От, тут нам ніхто замінаць не будзе.

Уладзімір зразумеў, што словы былі сказаныя да яго — каб сцішыўся, не замінаў. Ён прыпыніў сваю работу, праз шчыліну ў заслоне міжволі цікаваў за тым, што рабіла гаспадыня.

Ён бачыў хлопчыка — бабуля паставіла яго амаль спінай да заслоны, яму было гады з чатыры. Маці ягоная стаяла ў парозе. Яе разгледзець хоць трохі Уладзімір не мог — толькі падолак кароткай спадніцы.

— А ты, мама, дзверы зачыні, нам не замінай, — сказала гаспадыня да жанчыны і, калі тая зачыніла дзверы, нахілілася да хлопчыка. Яна нешта шаптала,

хутка, ціха, Уладзімір не чуў, толькі бачыў яе сухую руку, што, не кранаючыся хлопчыкавай галавы, пагладжвала яе. Потым бабуля ўсхліпнула — быццам увесь час яна прамаўляла сваю малітву на адным дыханні, і ёй ледзь-ледзь ставала паветра на апошнія словы, і скончыла шаптанне.

— А цябе як завуць? — спытала яна чамусьці шэптам.

— Вадзік, — шэптам жа адказаў хлопчык.

— Слухай, Вадзік, мы з табой, як дарослыя людзі, каб ніхто не ведаў, вось пра што дамовімся, добра?

— А пра што?

— У мяне ёсць цукерка адна. Я старая баба, зубоў няма. Еду вёску, хачу пасадзіць гарбузы. А каб добра гарбузы раслі, трэба пад іх страх закапаць. У мяне страху няма, а ў цябе ёсць. Дык давай мяняцца: я табе цукерку, а ты мне — страх. А яшчэ як гарбузы вырастуць, ты ўвосень да мне прыйдзеш, я табе і семак дам.

— Добра, — трохі разгублена пагадзіўся хлопчык.

— Во і добра. Дзе ў цябе страх?

— Тут, — нясмела паказаў хлопчык на грудзі.

— От, бяры далоньку расчыні, так, пакладзі на грудзі, от, цяпер сцісні і цягні, цягні, сціскай кулачок…. Во, давай мне, — бабуля хапіла сціснуты кулачок дзвюма рукамі, пагладзіла, распрастала дзіцячую далоньку. — О, я яго ў кішэню, а табе з кішэні — цукерка! Толькі ж глядзі, не падмані — страх назад не забірай, а то гарбузы не вырастуць і семак не будзе. І нікому не кажы, добра?

— Добра, — кіўнуў хлопчык, і ў голасе яго чулася сапраўдная радасць — ён памяняў свой страх на цукерку!

— Ну, от і бяжы…

Марыя Фамічна расчыніла дзверы.

— Усё, хадзем са мной, я вам вады дам. Будзеце хлопчыку на ноч даваць, па трошкі, тры дні запар. Усё мінецца, ён хлопчык зусім не баязлівы, праўда ж, Вадзічак?

— Праўда, — досыць бадзёра, хоць і крыху сарамліва адказаў хлопчык.

"Бач ты, якая хітрая", — думаў Уладзімір, прыкручваючы разетку на месца. "Усё так проста, здаецца: аддаў хлопчык свой страх… Не, не аддаў нават: памяняў на цукерку. Эх, каб у жыцці так можна было: памяняць ці хоць прадаць страх, няпэўнасць…"

Гатуючы вячэру, гаспадыня вельмі доўга завіхалася на куханьцы: і селядзе рэзала, бульбу абірала, смажыла. Дом напоўніўся пахамі, і Уладзімір падумаў, што няблага было б куды пайсці пад'есці. У якую кавярню, хот-дог з півам ці што…

Марыя Фамічна нібы пачула ягоныя думкі — пастукала ў прычыненыя дзверы, зазірнула:

— Ну, хадзі-ка за стол, адпраўную вып'ем, пасядзім. Ды за тое, што ўратаваў мяне і дом, падзякаваць табе хачу.

— Ды якое там уратаваў, — крыху сумеўся Уладзімір.

— Ты маўчы і слухай старую бабу, яна дурнога не гаворыць, — жартам прыкрыкнула гаспадыня, дадала ласкава: — Хадзем, Валодзечка, хадзем…

Пасля вячэры, калі пілі гарбату, Уладзімір падумаў, што самы час задаць пытанне пра Купалле. Расказвала ж гаспадыня пра Каляды, то і пра Купалле запытаць не грэх. Выйшаў пакурыць, вяртаўся — прыхапіў са свайго пакоя дыктафон.

— Раней… Ой, некалі спраўлялі дык спраўлялі, — пачала Марыя Фамічна. — на Сёмуху татка наабсякае

нам ліпавых галінак. А мы ўсе хату шаруем, з дзеркачом, падлога аж свяцілася жоўценькім. А потым тыя галінкі ў хаце паразвешваем… Пахніць свежым… От! А на Купалу, значыцца, тыя галінкі гаспадары з хат выносілі, клалі перад домам. Гэта называлася маем. Так і казалі яшчэ — “май паліць”. Меншыя дзеці вёскаю бягуць, збіраюць сухое голле, нясуць на выган, на бераг рэчкі. У адным месцы заўсёды палілі, высокае месца было, далёка відаць. От, дзеці той май збіраюць, зносяць, а старэйшыя хлопцы з жэрдак робяць такі будан. Ну і другое ламачча сцягвалі: дзе куст парэчак гаспадар выкіне, хто голле ад яблыні абрэзанае. То потым гуму смярдзючую сталі кідаць… А раней не! Каб жывы агонь быў. Тыя жардзіны хлопцы дзёгцем шмаравалі. То як запаляць, агонь як скокне адразу ўгары — зыркі, далёка відаць. А дзеўкі старэйшыя вянкі плялі. Як стане цямнець, то абдымемся, ідзем на той луг, песні спяваем. Там хлопцы ўжо чакаюць.

— А пра што спявалі? — успомніў выкладніка Уладзімір, перапыніў гаспадыню.

— От далібог, не памятую, нешта сваё, дзявоцкае.

— А толькі моладзь была, ці старэйшыя?

— Ля вогнішча толькі моладзь, а старэйшыя выходзілі на ўскрай вёскі, стаялі, глядзелі, ці мо што і рабілі, дык я не ведаю… Як я вырасла, улада распарадзілася, што нельга той май чапляць ды потым паліць… От, было: сцямнее добра, чакаем апоўначы. Глядзім на ўсход — там пачынаюць успыхваць вогнішчы, зарыва на нас коціцца. Як у бліжэйшай вёсцы ад нас на ўсход успыхне полымя, то і мы падпальваем. І на захад глядзім цяпер — як у нас разгарыцца, то там цяпер ўспыхвае… І далей коціцца. Потым да ракі спускаемся, вянкі пускаем, а раніцой беглі глядзець:

чый да берага прыбіла, чый у балаціну зацягнула. От так было. Полымя дагарае — пачыналі скакаць цераз агонь.

— Скажыце, Марыя Фамічна, — Уладзімір павагаўся дзеля прыліку, спытаў: — А вось кажуць цяпер, што ў гэтую ноч… ну, любошчы ўсялякія былі, распуста… Ці праўда?

— Ат, хто яго ведае, можа дзе і так. У нас начай было. Тады як жаніліся ці замуж ішлі? Каб выкараскацца з беднасці, на зямлі жанілі, за багацце замуж аддавалі. А як у нас сям'я з дзевак, то хоць за вала, абы ўдома не была. А любіліся ж з іншымі хто. То на Купалу дзеўка як пабудзе з тым, каго кахае, але за якога замуж ёй не ісці, дык гэта не лічылася грахом. Так то грэх вялікі быў, каб без замужжа з хлопцам быць, а на Купалу дазвалялася…

— Дык… — Уладзімір запнуўся, але запытаў: — А як жа цнатлівасць? Муж законны даведаецца, што… сапсаваная, што тады?

— І-і, дурненькі, — хітра прымружылася Марыя Фамічна. — Не вер каню ў дарозе, а бабе ў ложку. Баба, калі разумная, пяць разоў за ноч мужыка падмане. Ды табе такія сакрэты не трэба. То дзеўкам казаць буду, як запытаюць, — і засмяялася, потым раптам засмуцілася, прымоўкла.

Уладзімір зразумеў, што старая ўспамінае нешта сваё, можа, і вельмі асабістае, і не памыліўся — гаспадыня пачала гаварыць ціха, з сумам:

— І мне на Купалу адна ноч была… Любіліся мы з ім, крадком сустракаліся. Хоць і вайна адбыла, і гадоў нямала мінула, а ніхто не забываўся, што татку майго забралі як ворага. А мой жа каханак у сельсавеце быў, пры пасадзе… Ніяк нам не жаніцца. Тут стаў да мяне адзін сватацца, мне сямнаццаць, ісці трэба,

мама просіць, бо надта ж цяжка… От і падаравала я свайму сельсаветаўцу тую ноч на Купалу. Потым ён ажаніўся, паехаў ад нас, вялікім начальнікам стаў. А харошым чалавекам застаўся. Ён мне і прывёз праз дзесяць гадоў паперу, што татку апраўдалі. Пасмяротна, значыць. А дзе магіла — не знайшоў, хоць і казаў, што шукаў. Дзе ж знойдзеш — Сібір вялікая…

— Марыя Фамічна, а Папараць-кветку хадзілі шукаць?

— Дык, дурэлі хлопцы, пацягнуць дзявок, лес недалёчка быў, так, гарэзілі. А папраўдзе ніхто не хадзіў. Страшна ж.

— А чаго страшнага? Што ноч і цёмна? — пад'юдзіў Уладзімір старую, але тая нечакана пасур'ёзнела:

— Ноч не страшная, і лесу няма чаго баяцца. Папараць шукаць — гэта страшная рэч.

— Чаму страшная? Што, можна сапраўды Папараць-кветку знайсці? — не змог стрымаць здзіўлення Уладзімір.

— Можна. Толькі, хлопчык мой, такое казаць страшна, не тое, што рабіць.

— То раскажэце… Можа, мне пашчасціць.

— Ой, грэх на душу бяру… Не жартачкі гэта. Спакусішся яшчэ… Але слухай, нехта ж мусіць ведаць, а то памру — і з сабой панясу… Дык от… Папараць простаму чалавеку не знайсці, не пабачыць. Трэба не простым чалавекам стаць, на той бок перайсці. Людзі на гэтым баку, а табе туды, на той бок. Каб перайсці, за гадзіну да поўначы трэба зняць з покуці найстарэйшы абраз. Нож навастрыць і на парозе адсячы ад мезенца на левай руцэ акурат там, дзе пазногаць пачынаецца. Тым абсечаным пальцам, крывёй напісаць праз увесь абраз: "Я выракаюся Бога". Кроў павінна адразу спыніцца. Як спынілася — пры-

нялі цябе напалову. Цяпер той абраз з сабой бяры і ідзі да лесу. Абраз пад першую асіну кінуць. Сам — бяжы па кветку.

— Куды ж бегчы?

— О, тады якраз усё пабачыш — колькі ўсялякага бяжыць па яе! Ведзьмакі ды чэрці, вупыры ды іншая пошасць… Кожны хоча Папараць сарваць…

Уладзімір слухаў, заварожана маўчаў — ён не чакаў пачуць пра такі незвычайны шлях да Папараці. Колькі ўсяго перачытаў — а пра такі “метад” не траплялася ніколі.

— Навошта тым чарцям Папараць? — запытаў ён, калі старая задуменна змоўкла. — Яны ж і так золата маюць…

— Папараць — смерць іхная.

Уладзімір уздрыгнуў — так выразна, з такім акцэнтам сказала гэты сказ гаспадыня.

— Чаму… смерць?

— Таму… Не ведаю я… Ой, я тут з табой заседзелася, а там кіно маё зараз кончыцца, і папытаць не будзе ў каго…

Уладзімір выйшаў прайсціся ў бліжэйшую кавярню — захацелася папіць добрай кавы і, шпацыруючы няспешна, упарадкаваць думкі.

Дзень выдаўся як ніколі за апошні час насычаным, жыццё падавалася запоўненым, набывала сэнс. Вось, так шчыра пагаварыў з выкладнікам… І нечакана для сябе Уладзімір зразумеў, чаму размова была для яго такой важнай, чаму пасля яе ён, не думаючы, згадзіўся на пераздачу, значыцца надумаў вучыцца далей — выкладнік Лобач быў першым чалавекам, які выслухаў яго, Уладзіміравы, думкі пра жыццё і не высмеяў, зразумеў… І з бабуляй усё так добра выйшла, і гісторыю яна апавяла, і пачаставала так шчыра. Усё,

здавалася, было добра, і ісці ціхай вуліцай да кавярні ў прыцемках было лёгка і прыемна. І толькі жыла недзе ўнутры трывога, нават страх, не адпускалі ад сябе гаспадыніны словы пра тое, што перш чым шукаць Папараць-кветку, трэба адрачыся ад Бога. І што Папараць-кветка — гэта смерць для нячыстай сілы. Не зразумець таго было. Каб забіць Богавых ворагаў, трэба спачатку ад яго адрачыся? Ці як?

## 6

Быццам нехта невядомы ўздумаў пасмяяцца з Уладзіміра — у той кавярні, якую ён палюбіў за прастэчу, у якой ужо навучыўся паводзіць сябе нязмушана, была якраз нейкая вечарына, і месцаў, зразумела, не было. Давялося ісці далей праспектам, які пачынаў жыць сваім вечаровым жыццём: менела машын, большала людзей на ходніках. У няспешнай плыні маладых, шчаслівых, закаханых было прыемна ісці, як плыць у добра вядомай рэчцы: ведаеш, якое дно, дзе вір, дзе вада можа абхапіць халоднымі мацукамі знізу, дзе плынь вынесе імкліва ўбок.

Уладзімір добра адчуваў настрой (ён у тым быў пэўны, яму нібыта падказваў нехта збоку, што і як) асобных купак моладзі. Без памылак вызначаў, каму трэба саступіць пры сустрэчы, хто саступіць яму. Дзе кіруе агрэсіўная ўпэўненасць, якая толькі і чакае нагоды для выхаду сваёй энергіі, дзе паважлівая абыякавасць… Ён адчуваў усё так, быццам ад розных людзей дзьмуў розны ветрык: ці то лёгкі павеў з пакошанага лугу, ці то ўладная перадналавальнічная хваля, ці лёгкае калыханне паветра ў хваёвым бары.

У кавярню, што мясцілася ў цокальным паверсе будынка і прыцягвала ўвагу сваёй някідкай, але выразнай рэкламай гарбаты і напояў з траў, Уладзімір раней не заходзіў. Спусціўся кароткімі сходамі і на імгненне прыпыніўся разгублены. Ён ніяк не мог даць рады сабе ў такіх выпадках — з'яўляўся на парозе незнаёмай кавярні і губляўся ад няведання таго, як сябе паводзіць: падыходзіць да стойкі бара (што ўся аблепленая наведнікамі) ці проста ісці і сядаць на вольнае месца, чакаць, калі да цябе падбяжыць кельнерка і возьме заказ. Хоць і ведаў, што такая работа ў кельнеркі — падыходзіць да цябе, пытацца, а потым прыносіць заказанае, ніяк не мог суладаць з пачуццём сваёй вінаватасці: сваім прыходам ён надае лішняга клопату якой мілай дзяўчыне, і пэўна ж яна думае пра яго: "Прыпёрся… Пытайся ласкава, усміхайся. Мог бы кавы і дома напіцца. Тут людзі віскі пляшкамі бяруць… Што я з тваёй філіжанкі кавы буду мець… Драбяза галотная…"

Толькі адзін столік на два месцы заставаўся вольным, Уладзімір яшчэ патрываў імгненне, як пачуў, што ззаду расчыняюцца дзверы, і зразумеў: не займе месца, дык давядзецца ціснуцца ў шчыльнае кола вакол стойкі бара.

Пайшоў, прысеў.

— Ці вольна ля вас?

Голас быў трошкі нервовы. Уладзімір узняў вочы і пабачыў маладую кабету гадоў дваццаці пяці. Бялявыя густыя валасы да плячэй, твар з выразна акрэсленымі ротам, носам і вачыма. Прыемны твар, сімпатычны нават. Хударлявая. Яе кофтачка была вязаная з тонкіх зялёных нітак, праз карункі і кветкі прасвечвалася цела і белы станік. "А чаму не зялёны?" — нечакана падумаў Уладзімір, кіўнуў як мага прыязней:

— Калі ласка, калі вы адна, то тады вольна.

Жанчына адказала нейкай грымасай, і Уладзімір адчуў сябе дурнем: як можна было казаць пра нейкую яшчэ ўмову, калі месца каля яго — адно? Выпітая раней самагонка не тлуміла галавы, але прыспешвала думкі, надавала хуткасці словам, якія рабіліся вось такімі смелымі, зразумела ж, з якой прычыны. У наступны момант Уладзімір прапанаваў:

— Вы не будзеце супраць, калі я пачастую вас? Я яшчэ нічога не заказваў…

— Дзякуй, я завітала выпіць кавы, а на каву я знайду грошы, — не халодна, хутчэй нейтральна адказала жанчына.

Уладзіміра казытала неадольнае жаданне гаварыць з ёй, быць у гэты вечар патрэбным і значным хоць для каго. Бо дзень, такі быў дзень добры, не можа ён скончыцца блага! Ён быў на лёгкім падпітку, усведамляў гэта, але памятаў і пра тое, што невялікая колькасць алкаголю толькі і давала яму мажлівасці трымацца з незнаёмымі жанчынамі ўпэўнена і нязмушана. Раней яму не раз казалі як пра яго няўменне гаварыць з жанчынамі, так і пра тое, што ягоны воблік вельмі даспадобы жанчынам, а гарэлка робіць яго гаваркім і дасціпным.

— Выбачайце, але ж хіба я сказаў нешта пра ваш партманет? Я проста хацеў бы вас пачаставаць, тым больш, што і сам буду піць адно каву.

Мабыць, твар у яго выглядаў пакрыўджаным, бо жанчына ўжо цёпла ўсміхнулася і дазволіла, як павінілася:

— Калі ласка…

Якраз у гэты момант і падышла маладзенькая кельнерка. Заказалі каву. Уладзімір не ўпільнаваў моманту, каб афіцыянтка падціснула вусны ад невялікага заказу, употай ён абгледзеў залу і з яшчэ боль-

шай прыемнасцю для сябе зазначыў, што за шмат якімі столікамі сядзелі менавіта пры кубках, з кавай ці гарбатай.

Уважлівей паглядзеў на жанчыну насупраць сябе, знарок затрымаўшы вочы на твары. Яна не змаўчала ў адказ:

— Вывучылі? Будзеце варажыць будучыню?

Уладзімір любіў вось такія моманты. Звычайна так казалі ўсе, з кім яму раней давялося сустракацца на рэдкіх пагулянках у такіх вось абставінах — твар супраць твару.

— Будучыню чалавек сам сабе ладзіць, — паважна пачаў Уладзімір. — І з вашым характарам у вас усё павінна ўдасца.

— Авой, і які ж у мяне характар? — усміхнулася жанчына, адкінулася на спінку крэсла, быццам з палёгкай.

— Выразна акрэсленыя вусны, верхняя — тонкая. Значыць, любіце дабіцца свайго, упэўненая ў сабе, разлічваеце болей на сябе. Здольная на жорсткасць дзеля мэты. Просты нос, тонкі, крылы тонкія, трапяткія. Выснова: імпульсіўная, недзе і залішне крыўдлівая… Дарэчы, вы сёння не былі на працы…

— Цікава, — усміхнулася жанчына. — Гэта ваш такі стандартны набор для пачатку сустрэч з жанчынамі? Каб было чым заінтрыгаваць? А сёння я працавала. Хоць, скажу праўду: працавала ўдома. І з чаго на гэты конт ваша выснова — адзіна цікавая?

— Выбачайце, пазногці, — Уладзімір паглядзеў жанчыне на рукі. — Лак месцамі выцерся, відаць, што вы не сёння іх малявалі. То я падумаў…

— Назіральны які… І Вы, пэўна ж, паспрабавалі ўгледзець, ці ёсць на пальцы правай рукі паласа ад шлюбнага пярсцёнка?

— Так, — вінавата ўсміхнуўся Уладзімір.

— А іншае адкуль? Хоць што я пытаюся, сёння такіх вось ведаў у сеціве — як смецця на нашай вуліцы пасля нядзелі… Мяне завуць Ірына, я не замужам, займаюся фрылансам.

— Дзякуй, вельмі прыемна, я Уладзімір, — заспяшаўся Уладзімір. — А да фрыланса чым займаліся?

— Навошта Вам? Ну, педагог, філолаг.

— І што пішаце? Вы ж пішаце?

— Так, пішу… Казкі… дарослыя. Генерую тэксты. Апісваю сцэны любошчаў, трапяткога кахання. Яны ў мяне выходзяць, кажуць, дужа добра. Аднаго разу знайшла сваю сцэну ў нейкай выдадзенай кніжцы.

— Зразумела…

Прынеслі каву. Кубачкі былі маленькія, кава пахучая і не надта гарачая.

Ірына дастала цыгарэты, закурыла. Уладзімір таксама падумаў закурыць — першы раз у кавярні. Дагэтуль ён нечага саромеўся, хоць і бачыў перад сабой на століку попельнічкі.

— Мо яшчэ возьмем? — прапанаваў Уладзімір, калі пабачыў, што Ірынін кубачак амаль парожні. — Ці, можа, віна?

— Не, віна не трэба, не сёння, — адказала Ірына чамусьці цёпла, як старому знаёмаму, нават як таварышу, празрыста намякаючы на мажлівасць новай сустрэчы. — А кавы можна… Мне сёння яшчэ шмат пісаць…

Уладзімір павярнуўся, каб пашукаць вачыма кельнерку, і тая, быццам чакала ягонага позірку, адразу падышла.

— Яшчэ па кубачку кавы, калі ласка, і разлік, так? — павярнуўся ён да Ірыны.

— Так, — кіўнула яна.

Кельнерка прынесла яшчэ два кубачкі кавы, паклала на бераг стала нешта накшталт невялікага нататніка, ці, больш слушна, вокладкі ад яго. Уладзімір разгарнуў, паглядзеў чэк, дастаў купюру, уклаў і загарнуў. Кельнерка, зноў жа, як назірала за ім, падышла адразу, узяла "нататнік" і праз хвіліну прынесла з рэштай.

— Паслухайце, Ірына, — з вінаватай усмешкай Уладзімір звярнуўся да жанчыны. — Я разумею, што не павінен згодна з добрым тонам забіраць усю рэшту, трэба крыху тут пакінуць. Але я… хлопец вясковы, я не ведаю, шчыра кажу, колькі пакідаць. Заўсёды бянтэжуся…

— Пяць-дзесяць адсоткаў ад цаны, — спакойна адказала Ірына. — Але, зразумела, у залежнасці ад заказу. За нашыя два кубкі кавы пакідаеце тысячу, будзе нармальна.

— Ух, дзякуй, — выдыхнуў з палёгкай Уладзімір, прыемна ўражаны тым, што Ірына адказвала без ценю паблажлівасці, падказвала, як сябру. — Я вас за падказку гатовы правесці вуліцамі горада на якую хочаш ускраіну!

— Не трэба на ўскраіну. Я жыву недалёка, для мяне шпацыр сюды двойчы на дзень — як фіззарадка. Так што не разлічвайце, што я адмоўлюся, — яна хітравата прымружылася. — Заадно раскажаце, што вы за назіральны такі вясковец, які чытае характары жанчын па тварах, любіць частаваць іх кавай і адначасна не ведае, як паводзіць сябе ў звычайнай кавярні.

— Самы што ні на ёсць вясковец, — стаў гаварыць пра сябе Уладзімір, калі яны разам рушылі ад кавярні уверх па вуліцы. — Што ведаю — дык гэта з сеціва, і вы не памыліліся. Часу вольнага шмат было, што рабіць вечарамі?

— А як жа жанчыны, сябры, улюбёны занятак, гарод-гаспадарка?

— Ды не трымалі мы гаспадаркі… з братам. Жанчыны… Нешта не выйшла з былой каханай. Дый не было кахання. Так, пацалункі пад месячыкам, яшчэ да войска. Сябры? Ну, у карты гуляць, смаліць без перапынку ды гарэлку піць? У клуб ісці, дзе трынаццацігадовыя дзяўчынкі прыйшлі засведчыць свае цыцачкі перад вяскоўцамі? Улюбёны занятак вось і атрымаўся…

— І чым жа вы займаліся ў сеціве? — з гуллівым падтэкстам спыталася Ірына.

— Ды розным, — не пачуў падтэксту Уладзімір. — Фільмы глядзеў цікавыя, чытаў форумы розныя, дзённікі, блогі. Вучыўся казкі разгадваць.

— Казкі? І шмат разгадалі? — з лёгкім здзіўленнем запытала Ірына.

— Пакуль што няшмат. Дый не сам… Вось, прыкладам, найпрасцейшая, яе першую дзіцяці расказваюць, ну, вы ж ведаеце: жылі-былі дзед ды баба. Была ў іх курка Раба. Знесла курка яечка… ну і далей. Што цікава: чаму казка такая неўміручая? Чым яна так прываблівае?

— Сваёй прастатой для разумення, мабыць, — паціснула плячыма Ірына. — Ну, і якая разгадка казкі, які сэнс?

— О, тут далёка не ўсё так проста! — загарэўся Уладзімір. — Вось глядзіце, ад пачатку: курачка знесла яйка, ды не простае, а залатое. Навошта дзеду і бабе біць залатое яйка? Дзеля чаго? Далей — нечаканая лёгкасць, з якой яечка б’ецца, падаючы ад махання адно толькі м**ы**шынага хвосціка. І яшчэ больш незразумелы канец: курка суцяшае бабу і дзеда тым, што знясе яечка лепшае — простае. Хіба мала незразумелага?

— Ну, калі так ужо задумвацца над сэнсам, то можна дзе хочаш шукаць схаваныя загадкі.

— Не-не, загадкі трэба шукаць там, дзе ёсць нешта незразумелае, — запратэставаў Уладзімір. — Вам цікава, якая разгадка?

— Цікава, — шчыра прызналася Ірына. — Але кажыце хутчэй, бо мы неўзабаве прыйдзем, а гуляць я не магу, у мяне яшчэ шмат працы…

Яны ішлі ціхай вуліцай, паглыбляючыся ў квартал старой забудовы — тут стаялі трохпавярховыя дамы, з высокімі вузкімі вокнамі, з ляпнінай пад імі і над дзвярыма. Ходнік быў вузкі, адгароджаны ад дамоў тоўстымі стваламі ліп. Ірына і Уладзімір ішлі побач, часам кранаючыся плячыма. Але як ні карцела Уладзіміру ўзяць Ірыну пад руку, ён не мог адважыцца на такі просты жэст: не ўзяў адразу, то няма чаго цяпер…

— Добра, я зараз, — паабяцаў Уладзімір. — Успомнім Біблію, першыя тры раздзелы, дзе ідзецца пра стварэнне Богам Сусвету, Адама і Евы, іх зграшэнне і потым — выгнанне з Раю. Яшчэ раз чытаем казку і — шукаем аналогіі. Бог стварыў Зямлю, людзей і даў ім Рай. Што такое Рай для людзей, як не месца шчасця, залатое месца? Хіба не тое яйка, якое знесла курка? Цяпер дапусцім, што курка — гэта Бог, які дае людзям Сусвет, залаты, без граху. Што робяць людзі? Парушаюць запаветы Бога! Імкненне разбіць залатое яйка — хіба не акт непаслушэнства? І вось далей ідзе цікавы момант: у Бібліі пабіць залатое яйка значыць — страціць Рай, людзям памагае д’ябал. Стварэнне з хвастом. У казцы мы бачым шэрую мыш, якая нічога такога не зрабіла, толькі паварушыла хвастком — і канец, трагедыя! Напрасцейшая аналогія. Мышыны хвост тут — змяя там. У Бібліі д’ябал таксама практычна нічога не робіць, хіба што кажа

Еве: еш, будзеш падобная да Бога. І вось яйка разбітае, Рай страчаны. Што кажа Бог у Бібліі? Ідзіце і потам і крывёю зарабляйце сабе свой хлеб. Залаты век скончыўся, пачаўся век працы і войнаў. І курка абяцае дзеду з бабай: знясу вам яечка простае. Вось так: не пажадалі шанаваць залатое — карыстайцеся простым…

— Ух ты, цікава, вельмі, — не стала хаваць свайго захаплення Ірына. — У вас на кожную казку такія вось нечаканыя аналогіі падабраныя? Самыя да ўсяго дапялі?

— Ай-а, што вы, — крыху зніякавеў Уладзімір ад слоў жанчыны. — Так, яшчэ пару казак ёсць… якія кладуцца на расшыфроўку. Бо часта казка — нейкія веды, факты, якія людзі хацелі ўсяго толькі данесці да нашчадкаў. Нешта сам дадумляю, нешта вышукваю ў сеціве.

— Што вас натхніла на такі занятак? І навошта?

— Неяк даўно глядзеў адну перадачу… У сеціве, на сайце. Там навуковец наважыўся расшыфраваць легенды інкаў. Іх было шмат, яны былі цікавыя, але часта, вось як нашая гісторыя з яйкам, мелі нейкія нутраныя супярэчнасці, бязглуздзіцу. Гэта яго і насцярожыла. Вось… Ён пачаў шукаць, параўноўваць, аналізаваць…

— І знайшоў? — Ірына прыпынілася — відавочна, яны дайшлі да яе дома.

— Так… Прыкладам, у адной легендзе гаварылася: “І калі лісіца памачала свой хвост, то…” і далей нешта там адбылося. Праўда ж, глупства выходзіць: якая ліса і чаго ёй мачаць свой хвост?

— Ну, хто ж яго ведае? Казкі — казкі і ёсць, — нясмела запярэчыла Ірына, здаецца, заінтрыгаваная гісторыяй.

— Дык вось, — працягнуў пераможна Уладзімір. — Ён знайшоў сэнс. Выявілася, што Лісіца — не простая лісіца, а так называлі старажытныя інкі адно з сузор'яў. І яно, сузор'е Лісіцы, у адну з начэй года апускалася сваімі зоркамі, якія інкі ўважалі за Лісіцын хвост, да паверхні акіяна. Вось такая простая разгадка ў бязглуздай на першы пагляд показцы: інкі зафіксавалі дакладную дату здарэння!

— Файна як, — пагадзілася Ірына. — Але мы ўжо прыйшлі. Дзякуй вам за каву і цудоўны настрой, які ў мяне з'явіўся. З вамі было вельмі цікава. Не крыўдуйце, я вам скажу шчыра, бо вы са мной былі шчырым. Дык вось, калі б на маім месцы сёння была іншая… Вас бы палічылі за вясковага дзівака, з якім ад суму можна памерці… А мне было цікава і не сумна.

— Я ведаю, — сумна ўсміхнуўся ў адказ Уладзімір. — То вам дзякуй. Усё так нечакана. І цудоўна. У мяне дзень быў сёння… незвычайны. І вось ён завяршыўся так шыкоўна — сустрэчай і размовай з вамі. А што іншыя… Я ведаю. У мяне з дзяўчатамі… рэдка бываюць супольныя тэмы. Дый не ўмею я… з гарадскімі. А заўтра Вы будзеце рабіць сваю фіззарадку? У гэты ж час і ў тую ж кавярню?

— О, не, — з лёгкай скрухай адгукнулася Ірына. — Мне паўночы яшчэ працаваць, а заўтра ў другой палове дня з сябрамі выязджаем за горад, там лецішча, рэчка. Так што толькі ў панядзелак. Можа, у такі ж час.

— Зразумела, — панура адказаў Уладзімір, і ад Ірыніных слоў "з сябрамі" на яго пыхнула прыкрым пачуццём рэўнасці і адначасна — сваёй асабістай вылучнасці, ізаляванасці ад яе свету, а значыць, ад свету ўсіх прыгожых і разумных жанчын.

— Не сумуйце, — усміхнулася ў цемры Ірына.

На яе твар падала размытае святло з вокнаў дамоў, адцяняючы вясёлыя ямінкі на шчоках, якія ўзнікалі тады, калі яна ўсміхалася. Уладзімір адчуў нязвыклую пяшчоту да гэтай амаль незнаёмай яму жанчыны.

— Бывайце, да сустрэчы, — Ірына падала яму руку. — Буду чакаць ад вас разгадкі якой іншай казкі. Скажам, пра дзедку і рэпку.

— Я пастараюся адшукаць разгадку рэпкі, — Уладзімір ціхенька сціснуў кволую жаночую руку ў сваёй, адчуваючы яе цеплыню і лёгкае трымценне.

Ён падыходзіў да сцішанага ў глыбіні старога саду дома зусім працверазеўшы. Дзівіўся сам з сябе: як лёгка ўдалося пазнаёміцца! Якая яна цікавая і… мілая. Побач з ёй утульна і спакойна. Яна не пазірае грэбліва, не кпіць з яго захаплення, з яго цікавасці.

Добрая ў бабулі самагонка!

Калі сон пачаў пакрысе прыгладжваць пікі вострых адчуванняў, рабіць усё раўнейшым і спакайнейшым, тут і вылезла, вытыркнулася, як галоўка невялікага цвічка, адно адчуванне, якому не надаў раней значэння, якое прапусціў паўз свядомасць, а яно, бачыш, не мінулася, засела… І цяпер вось набывае важкасць, прымушае ўспамінаць, шукаць аналогіяў, тлумачэння. А як яго патлумачыць? Проста ў той самы момант, калі ў сваёй руцэ адчуў цёплую Ірыніну руку, маленькая, на сотыя долі секунды, праскокнула думка-іскра: “Папаўся!” Ага, папаўся, — з мяккай радасцю пагадзіўся ён цяпер, засынаючы. Такой жанчыне за шчасце папасціся. Апошняя яго думка была пра Алену, нават не пра яе, а пра тое, што ён ні разу не ўспомніў сёння пра яе. Дык чаго яна ўлезла ў яго галаў цяпер? Адмахнуўся ад думкі…

Ранкам прыехаў сусед па вёсцы Марыі Фамічны, і яна, нечым падобная ў гэтыя хвіліны да спуджанай з гнязда курыцы, што прымасцілася несціся, бегала то з дома на двор, то адтуль у свой пакой.

— Цётка, усё давязу, нічога не растрасу, — казаў уладальнік старэнькіх "жыгулёў", праставаты мужчына гадоў пяцідзесяці.

— Ай, каб жа не забыць нічога, — вохкала гаспадыня. — Дзівіся, тут во шкляное, Валодзечка, асцярожней тамака, чакай, я мо на рукі тое вазьму, — крычала гаспадыня Уладзіміру, бегла за ім на надворак.

Урэшце мітусня скончылася: заладаваліся — што ў багажнік, што на задняе сядзенне.

— Глядзі ж, дзеткі, каб усё ладна было, пакідаю табе найдаражэйшае, што ёсць — дом, то ж глядзі, глядзі на ўсе вочы. З газам асцярожны будзь, фортку не пакідай адчыненай, як куды ідзеш... Ды глядзі, з дзеўкамі пільным будзь: не маленькі, мусіш ведаць: чорт у лазу завядзе, а баба ў нетры.

— Буду глядзець, Марыя Фамічна, усё будзе добра, — запэўніваў Уладзімір старую і ўпотай чакаў, каб хутчэй паехаў з двара аўтамабіль.

І вось ён застаўся адзін — адзін у такім вялікім доме.

Раптам стала трывожна.

Пачуццё, што тут яшчэ нехта ёсць, як выскачыла аднекуль з кутка ці выпаўзла гадзюкай з-пад дзвярэй бабульчынага пакоя. Уладзімір, сам сабе лаючыся — от жа, заблазнаваў, — абышоў пакоі: бабулін быў зачынены на ключ, у залі было пуста: канапа, шафа-"сценка" набытая гадоў трыццаць таму, стол з тэлевізарам, накрытым адмысловай вышыванкай. Калідор, яго пакой направа...

Уладзімір уздрыгнуў: у ягоным пакоі сядзеў кот.

І кот уздрыгнуў. Прыпаў да пярэстага ходніка, прыціснуў вушы, напружыніўся, паказваючы гатовасць у кожны момант скочыць проста ў твар.

— Ну, і навошта ты сюды прыйшоў?

Голас прагучаў неяк хрыпата, вельмі гучна для пустога дому.

Уладзімір ступіў крок у пакой і адразу ж адступіў убок ад уваходу. Кот не зводзіў з яго жоўтых вачэй.

— Прыбірайся, адкуль прыйшоў, — загадаў кату Уладзімір.

І той быццам зразумеў словы — узняўся і хутка, але з годнасцю, выбег з пакоя, крутануўся ў калідоры, і праз адчыненую вітальню выскачыў на веранду.

Уладзімір прайшоў за ім, пабачыў, як кот схаваўся ў густой траве пад плотам у глыбіні садка.

Зачыніў дзверы. Вярнуўся на кухню, але, падуладны незразумеламу пачуццю трывогі, зноў зазірнуў у пакой, нават нахіліўся і паглядзеў пад ложак — было пуста. Ды трывога не адпускала. Уладзімір і сам не разумеў, што адбылося незвычайнага: кот, шукаючы ежы, зайшоў у дом, бо дзверы былі адчыненыя, пакуль тут бегалі з клункамі.

"Пайшоў ты к чорту, чорны кот", — паспрабаваў прагнаць сваю трывогу Уладзімір і спатыкнуўся на думцы: ён запомніў вялікія жоўтыя катовы вочы. А які быў сам кот — Уладзімір як не бачыў.

За гадзіну ён выправіўся ў кавярню — пад'есці, потым сеў занатоўваць гаспадынін аповед пра Купалле. Трэба было паспяшацца, каб паспець да пятай гадзіны схадзіць у бліжэйшы які пункт і раздрукаваць.

"Прынтар трэба набыць", — падумаў Уладзімір.

У нядзелю праседзеў рыхтуючыся да чарговага экзамену — Уладзімір дакладна пастанавіў, што кідаць універсітэт не будзе.

Увечары, пасля таго, як схадзіў у кавярню (у той самы час, што і ў пятніцу, з кволай надзеяй, а раптам Ірына ўсё ж з’явіцца там), зайшоў у дом і разгублена спыніўся ў вітальні: у ноздры шыбануў моцны пах падлы.

# ЧАСТКА 2

## 1

Недзе на трэцім курсе ўніверсітэта Генадзь Колтун пачаў сніць маленства. Невыразныя мроі, колеры і адчуванні. На іх можна было б і не звяртаць увагі, калі б не пачуццё незразумелай трывогі пасля такіх сноў. І гэта раздражняла. Класціся спаць упэўненым, здаровым, у гуморы — і прачынацца з разуменнем пэўнай пустэчы ў сваёй памяці, з усведамленнем нейкім замаляванага, зачыненага для цябе кавалка твайго жыцця.

Генадзь добра памятаў сябе гадоў з пяці — лета ў бабулі, дзіцячы сад. Выхавальніца, якая лаялася на яго за тое, што пасікаў міма гаршка, і яго крыўда на той крык, а потым — удар нагой па гаршку і жоўтыя ручаі на падлозе.

Але нешта было да бабулі. Бацька? Ён памятае не бацьку — памятае нейкую сілу, якая абхапіла яго маленькую ручку, некуды цягне. Памятае сапраўдны ўзлёт — і страх таго імгнення, калі сіла, якая яго падкінула, раптам знікла, і ён падаў, падаў, захлынаўся ў жаху, мярцвеў, і тады тая сіла зноў лавіла яго, утрымвала. І зноў кідала ўгару, дзе маленькі Генік заходзіўся ў крыку.

Ён сёння разумее, чаму не любіць вышыні. Страх ідзе адтуль — ад таго першага падкідвання.

Маці доўга не гаварыла з ім пра ягонага бацьку, і толькі раз, быццам загадзя рыхтавалася, запрасіла ў свой маленькі пакой. На яе ложку ляжала некалькі фотакартак. Маці сказала, што на здымках ягоны бацька. Расказвала, як яны пажаніліся, як ад першых дзён узненавідзела яе свякроўка, як законны муж з закаханага і ўважлівага чалавека пад паглядамі свае маці раптам ператварыўся ў дэспатычнага, грубага мужыка. Хоць так не мусіла быць: яна позна выйшла замуж, муж яе быў ужо не маладым чалавекам, і ягоная маці павінна была б радавацца, што ўрэшце прыпуцііўся, што падаравала нявестка ўнука. Яны жылі ў вёсцы… на самай ускраіне. Нейкае глухое і страшнае месца, за гародам адразу пачынаўся змрочны альховы лес, мокры, балотлівы, мноства кустоўя. У суседняй вялікай вёсцы была школа, клуб, у які маладая жанчына магла б ісці працаваць, але муж не пусціў — памагай па гаспадарцы. Тры каровы, свінні… Ды цяжка было не працаваць, цяжка было вытрымваць штодзённыя едкія свекрывіны слоўцы, ненавісныя позіркі. Чым не дагадзіла нявестка — старая ніколі не казала. Пачасту яна ляжала — ці то сапраўды хварэла, ці то прыдавалася хворай, каб яшчэ больш памучыць сваю нявестку. Памерла. Яе сын, Генадзяў бацька, праз месяц па смерці маці ў п’янай бойцы зарэзаў п’яную жанчыну. Тады маці забрала маленькага Генадзя, і яны з’ехалі да другой бабулі…

Генадзь глядзеў фотакарткі. Выявы на іх яго зусім не чаплялі. Тут было не ягонае жыццё. Ён глядзеў на фотаздымак свайго бацькі з меншай цікавасцю, чым на здымак у газеце прэзідэнта якой краіны. Усё было чужым. Далёкім, такім далёкім, што памяць нават не захавала кропелькі адчуванняў, і чужым. Адзінае — страх вышыні.

Мы памятаем не пражытыя гады і падзеі, мы памятаем эмоцыі. Тыя, найяскравейшыя, якія ўзрушалі нашу свядомасць да такой ступені, што нервовыя клеткі ў мозгу складваліся ў пэўным парадку для іх захавання і захавання тых абставінаў, якімі эмоцыі былі народжаныя. Генадзь у свае васемнаццаць гадоў ведаў пра гэта. Ён аднаго не разумеў: навошта маці вось цяпер выклала пажоўклыя фотаздымкі і паказвае яму? Расказвае нашто?

— Каб не ўпікаў мяне. Можа, табе захочацца знайсці бацьку, — адказала ціха маці.

— За што ўпікаць? Што гэтулькі гадоў хавала? Не разумею, — пацепнуў плячыма Генадзь. — Шукаць бацьку, цяпер? Падзякаваць яму, што ў самым маленькім веку ўзнагародзіў мяне акрафобіяй? Адзінае, што я помню, што нітуе мяне з ім — як ён падкідае мяне, а я крычу. Было ж так?

— Але, было, — кіўнула маці. — Калі вяртаўся з работы выпіўшы, то лавіў цябе і падкідаў. Я хавала… баялася. Адзін раз ён ледзь паспеў злавіць цябе, ты выцяўся…

— Ну во… выкідвай свае фоткі, яны мне не патрэбныя. Ці ты сама хочаш знайсці яго?

— Навошта? — разгубілася маці.

— Ну, а я ведаю? Мо пахваліцца, якога сына выгадавала. Ці каб я яму пысу набіў.

— Генік… Што ты кажаш? — маці, было відаць, спужалася, пачала мітусліва збіраць фотакарткі. — Я ж во паказаць ды расказаць…

— Мяне не хвалюе маё галазадае маленства недзе ў балоце, — жорстка адказаў Генадзь. — І не думаю, што бацька стаў нейкім мільянерам. Ці стаў? Ты нічога не ведаеш больш пра яго?

Маці сцялася, падціснула вусны, быццам жанчыну схапілі за руку ў час яе непрыгожых, непрыстойных дзеянняў. Пасля невялікай паўзы яна адказала:

— Ён выйшаў праз сем гадоў… Шукаў нас. Прыехаў да маёй маці, патрабаваў адрас. Я паехала туды… Не заспела: ён паспеў абрабаваць саму маці і яе суседку, уцёк. Яго злавілі і зноў судзілі. Болей я нічога не ведаю.

— Выдатна! Цяпер усім маім знаёмым трэба паведаміць, што ў мяне бацька — забойца, рабаўнік, зэк і згніў у турме! Во якую дзіўную спадчыну я атрымаў ад сваёй роднай маці ў год паўналецця! Дзякуй!

Маці заплакала.

Генадзь выйшаў з пакоя.

Болей яны пра бацьку не гаварылі. Месяцы праз тры пасля гутаркі маці пастукала ў ягоны пакой, асцярожна зайшла.

— Вось, — яна прыўзняла руку з нейкімі паперамі, загорнутымі ў цэлафанавы пакет.

— Што “вось”? — Генадзь адарваў вочы ад манітора.

— Аблігацыі… Я збірала… Ты ўжо студэнт, ты малады… сёння цяжка без машыны. Тут… павінна ставаць на першы ўзнос. Возьмем крэдыт. Табе зручней будзе. І да бабулі калі пад’едзем. Яна зусім кволая стала…

Генадзь разглядаў паперы, як просьбу маці аб прабачэнні. Рэальная мажлівасць мець сваю машыну так узрушыла яго, што яшчэ цэлых паўгода, пакуль вучыўся і здаваў экзамены ў школе аўтамабілістаў, ён быў уважлівым і стрыманым: не грубіў, не адказваў аднаскладова — у тыя месяцы ў іх хаце было так, як было, калі яны былі разам на двары, і так, як малявалі сабе дачыненні маці і сына Колтунаў іхныя суседзі.

Пачуццё вінаватасці перад Генадзем у маці з'явілася неяк адразу, неспадзявана для яго самога. Яму не было тады яшчэ і шаснаццаці. У той летні вечар у іх кампаніі ў аднаго з сяброў быў дзень нарадзінаў, і бацькі шчодра забяспечылі яго грашыма. Набылі пляшку гарэлкі на чатырох і піва, як наймацнейшага. Генадзь, у якога ўсё хісталася перад вачыма, ледзь дабраўся пасля паўночы да сваёй кватэры. Мабільнік ён вымкнуў — каб маці не даставала званкамі. І яшчэ не паспела яна ў вітальні ці то напалохацца ад яго выгляду, ці то ўздыхнуць з палёгкай — сын жывы, хоць і выпіўшы, як Генадзь пачаў.

Ён крычаў, плакаў, дакараў, упікаў — ён выказваў ёй усе тыя крыўды, якія пазбіраліся за ўсе гады ягонага свядомага жыцця, якія ён сам ашчадна збіраў — можа, яшчэ тады думаў, планаваў вось такі дзень, калі ў твар маці выкажа ўсё. Пра адзенне і танны мабільнік, пра патрыманы кампутар, які з'явіўся ў яго пазней за ўсіх у класе, пра свой сорам, калі аднакласнікі прыходзілі да яго ў іх бедную кватэру… Хутчэй за ўсё, яго ніхто спецыяльна і не крыўдзіў, але самыя невялікія заўвагі, самыя бяскрыўдныя кепікі аднагодкаў Генадзь успрымаў як абразы, праўда, не адказваў ніяк, і ўсе думалі, што гэта нічога страшнага: трохі пацвельваць з сябра, "мамчынага сынка".

З таго дня ў іхнай кватэры ён стаў галоўным. Маці з сынам за парогам кватэры жылі так, як і раней: паважна і ласкава адзін да аднаго, у самой жа кватэры маці стала больш прыслугай і хатняй гаспадыняй. А ў Генадзя знайшлося выйсце для яго комплексу непаўнавартаснасці, і ён з апантанасцю зглададалага на салодкае дзіцяці адшчыкваў і адломваў штовечара і штораніцы невялікія, але такія салодкія кавалкі сваёй асабістай значнасці, якая палягала ў служэнні яму, у павазе яго ды поўнай падпарадкаванасці яму.

Маці была на пенсіі, але працавала — у тым жа ДК, толькі не памочнікам рэжысёра, а прыбіральніцай.

Аўтамабіль, які яны набылі, прынёс у сям'ю часовае супакаенне і лад. Генадзь усведамляў, што тая ранейшая бядота і была пэўнай прычынай для сённяшняга набытку: маці ашчаджала грошы для яго, для пачатку самастойнага жыцця. І аднак жа, яе віна, як няздольнай у тыя часы зарабляць болей, ці хоць выйсці другі раз замуж ды забяспечыць нармальнае маленства і юнацтва сыну, не мінала, хіба што паменшылася, прытупілася. Генадзь чакаў ад маці яшчэ аднаго кроку, пра які яна сама неяк і прагаварылася, калі наведалі бабулю:

— Трэба, мабыць, збірацца мне ды пераязджаць сюды, — казала маці сваёй маці. — Геначка ўжо дарослы, сам здолее пражыць, а тут мне і пенсію траціць не давядзецца — зямля пракорміць, і за табой дагляджу...

— Глядзі, каб не вадзіў там усялякіх, — устрывожылася бабуля. — Цяпер такая моладзь...

— Не, за Геніка я спакойная, ён вельмі адказны, разумны, — пераконвала яе маці.

Але мінула і паўгода, а маці быццам забылася на свае словы. Генадзь, які стаў тады выпадковым і незаўважаным сведкам размовы, не нагадваў маці пра яе жаданне, трываў: нічога не заставалася, як чакаць. Не вытрываў: раз і другі псіханууў быў, сказаў, што не можа нармальна запрасіць дзяўчыну ў госці, бо яна саромеецца. Маці моўчкі праглынула ўпікі, але пасля другога разу пачала збірацца. І не на тыдзень які, а грунтоўна. Назусім. Пра што сыну і выказалася асцярожна. Генадзь, умела хаваючы сваё сапраўднае пачуццё радасці, адказаў, што няма падстаў за яго перажываць — у яго ёсць галава на плячох.

Хоць ніякай дзяўчыны не было. Бо Генадзь баяўся.

Набыты аўтамабіль хоць і змяніў кардынальна самога Генадзя і стаўленне дзяўчат да яго, аднак нічога не мог змяніць у ягоным стаўленні да дзяўчат. Генадзь стаў адкрывальнікам простага сакрэту мужчынскай прывабнасці: поспех у жанчын маюць упэўненыя мужчыны. Тыя, што ведаюць сабе цану. Тыя, што паказваюць сваю ўладу над абставінамі. Упэўненасць прыйшла скора: адзіны гаспадар кватэры, аўтамабіля, цалкам самастойны пяцікурснік. Усё неўзабаве праявілася вонкава, як пот праступіў праз сарочку ў летнюю спёку ў гарадскім аўтобусе. І толькі адно Генадзь хаваў старанна — тое, што ён быў цнатлівым. Так, у свае больш за дваццаць два гады вось такі. Але тут ён не прыспешваў сябе, хоць ад пачатку і была думка: маці з’ехала, дык трэба прывесці якую… за грошы. Стрымвала тое, што жанчына застанецца тут, у горадзе, ён будзе ведаць, што яна жыве і, можа, расказвае некаму, смеючыся, пра яго першую бязладную спробу, хваляванне, сарамлівасць. Генадзь чакаў і ведаў, чаго чакае: набліжалася размеркаванне. Хлопцы яму казалі, што на яго глядзелі як на патэнцыйнага “мужа” — фіктыўны шлюб даваў дзяўчыне мажлівасць застацца ў горадзе, а не ехаць у які аграгарадок. Маці ў свой час парупілася не толькі пра яго паступленне — на трэцім курсе ён праходзіў практыку на гарадскім прадпрыемстве з дакладнай перспектывай работы па заканчэнні. Так і выйшла — ён атрымваў рабочае месца, яго не датычыла перспектыва пакідаць горад.

Урэшце ён атрымаў аж дзве прапановы і спыніў свой выбар на сціплай дзяўчыне, далёка не красуні, хоць постаць у яе была зграбная. Дакладней — магла быць, калі б яе адзелі, як трэба. Цынік і сцябач

Вінцусь з іх курса, які пасля месяца навучання даў мянушкі кожнаму студэнту групы (палова з якіх і прыжылася), называў дзяўчыну "хурлядзь". Што праўда, хоць большасць і не ведала значэння прыдуманага слова, але, выразна адчуваючы ў ім нейкі надта ж абразлівы прысмак, у вочы дзяўчыну так не называлі. Больш таму, што яна і сама не лезла нікому ў вочы. Не проста шэрая мыш, а паўпразрыстая шэрая мыш — так сціпла яна трымалася. Пра яе, на пытанне, якая яна, можна было адказаць двума словамі: ніякая і хурлядзь. Бо хурлядзь, як патлумачыў Вінцусь, тое ж самае, што і рухлядзь, але маладая: "Рухлядзь ёсць асобіна жаночага полу, якая з гадамі страціла ўсё жаночае, апрача таго, што схавана між ног, і скарыстоўвае яго адно на тое, каб хадзіць у прыбіральню. А хурлядзь — тая маладая, якая свайго жаночага так і не знайшла і перакананая: тое, што хавае ніжэй пояса, створанае адно каб пасікаць".

І вось гэтая дзяўчына, трэба заўважыць, без асаблівай сарамлівасці, хутчэй са сваёй, ужо легендарнай, сціпласцю, падышла да Генадзя і прапанавала яму зарабіць на фіктыўным шлюбе з ёй.

Генадзь толькі паабяцаў "падумаць", як пабачыў у вачох у дзяўчыны пакорлівасць і гатовасць ці не да ўсяго. Не ўсцешыўся, а нібыта паставіў недзе ўнутры сябе "птушачку" — не памыліўся. Грошы, якія ён атрымваў ад дзяўчыны за "шлюб" былі не галоўным, грошай ставала: маці з вёскі пераводзіла яму ўсю пенсію, яшчэ і бабулінай частку. Генадзь, стоячы перад невысокага росту дзяўчынай з простым, без макіяжу тварам, гледзячы ў яе невыразныя, зусім не намаляваныя вочы, дзе адбіваліся надзея і страх, прапанаваў проста і недвухсэнсоўна: ён жыве цяпер адзін, харчуецца па страўнях ды канапкамі, начамі

яму сумна — то чаму б ёй не сыграць ролю жонкі больш грунтоўна?

Дзяўчына, яе звалі Людай, спалохана міргала вачыма, потым каўтнула і сказала:

— Ты... хочаш, каб я жыла з табой як жонка? І... у ложку?

— Чаму б і не? Калі не хочаш — я ж не настойваю, — знарок абыякава адказаў Генадзь. — Ахвотныя знойдуцца. І за большую суму. Дый раптам мне да смаку прыйдзецца жыццё з табой? — амаль гуллíва дакончыў ён.

Люда пачырванела — так моцна, што ён здзівіўся, і ціха сказала:

— Я паспрабую... Але... ты ведай, што ў мяне няма... досведу. Ніякага.

Генадзь усміхнуўся куточкамі вуснаў, а недзе яшчэ адна "птушачка" стала і ўскінула свае крылцы: ён зноў не памыліўся.

— Ува ўсіх на пачатку не бывае досведу, — амаль суцяшаючы, адказаў ён.

Праз дзень — "А чаго адкладаць?" — яны падалі заяву, і ўвечары Людміла прыехала да яго з невялікай торбаю: халат, пантофлі, нешта з бялізны і дробязныя рэчы. І засталася нанач.

Генадзь разумеў, што для яго гэта першы досвед, і можа быць фіяска: але як толькі Людміла пераступіла парог, яго ўзбуджэнне стала імкліва нарастаць, ён ледзь стрымваў сябе, каб не пачаць загадваць ёй распранацца адразу ж, ісці ў спальню. Таму выпіў набытую ў аптэцы пігулку і дазволіў Людміле пайсці ўзяць душ, сам паставіў віно — няхай усё будзе неяк хоць крышку аформлена...

Упэўненасць, якую надала яму выпітая пігулка, вера ў яе цудадзейную моц, дазволіла яму быць ня-

спешлівым, не хваляваўцца. І Людміла, якая і распраналася, і клалася на канапу так, нібыта рыхтавалася да страшэннага пакарання, наўрад ці падумала, што для Генадзя яна была першай жанчынай.

Генадзь кпіў нязлосна з яе сарамлівасці, і гэта дазволіла яму самому не адчуваць таго ж пачуцця. Ён сцягваў з яе прасціну, вымушаў ляжаць вольна — ён першы раз у сваім жыцці бачыў перад сабой аголенае дзявочае цела. Калі яна падпарадкавалася, выструнілася, Генадзяў шал на нейкі момант адступіў месца захапленню, якое ішло ад аголенага цела: Генадзь раптам пабачыў, што перад ім амаль бездакорнае хараство, вытанчаная фігура дзяўчыны, лялька, нібыта зробленая паводле ўсіх галівудскіх законаў сэксуальнасці. Потым амаль на паўгадзіны яна сапраўды стала для Генадзя жывой лялькай: ці не ўсё тое, што Генадзь бачыў у порна-роліках, ён захацеў увасобіць сам. Людміла амаль не супраціўлялася, толькі часам жаласліва прасілася, калі ёй было нясцерпна балюча. Па-праўдзе, Генадзь трохі шкадаваў дзяўчыну, але не мог спыніцца, пакуль не здаволіць свайго юру, нягледзячы на тое, што дзяўчына пад ім уздрыгвала не ад задавальнення, а ад болю, што на прасціне з'явілася крывавая пляміна, што на Людміліных сцёгнах былі крывавыя пісягі, і яго ўласная пахвіна была ў дзявоцкай крыві першага жаночага болю. І пагатоў не мог спыніцца, бо ў тыя хвіліны быў прасякнуты не толькі першым пачуццём сапраўднай блізкасці, якое амаль па-шчанячаму падвывала ў ім, але і салодкім, да вар'яцтва, ўсведамленнем поўнай улады над дзяўчынай, яе целам і воляй.

Яны спалі разам, раніцай Генадзь адчуў яшчэ большае, як увечары, узбуджэнне. Нечакана для Генадзя яно было глыбокім і — з непажаданым ды прыкрым

для яго адценнем пяшчоты, якое ён пастараўся прагнаць. Настрою дадало тое, што Людміла цяпер зусім не саромелася (а ў спальні было зусім светла) і не сціскала вусны ад болю — наадварот, ён адчуў, як яна сама асцярожна, сарамліва імкнецца яму насустрач. І ён пачаў жадаць, каб яна атрымала задавальненне, каб ускрыквала пад ім, салодка стагнала, не стрымвалася, прасіла "яшчэ" — каб урэшце яму самому пераканацца ў сваёй здольнасці даводзіць жанчыну да бяспамяцтва аргазму.

Людміла нібыта адгадала ягоныя думкі, хоць цалкам можа быць, што яна і гуляла ў сваю, схаваную ад яго гульню. Але на чацвертую ноч яна першая прыпала да яго. І была ўжо сапраўднай каханкай — такой, якіх Генадзь бачыў на экране манітора: бессаромнай, адгукалася на кожны яго рух, адгадвала жаданні і, галоўнае, стагнала, ускрыквала, і, урэшце, забілася пад ім у канвульсіях асалоды.

Пасля ночы, калі Людміла гатавала канапкі ў кароценькай начной кашулі (купіла два дні таму), Генадзь зведаў сапраўдную асалоду ад спазірання яе вытанчанай фігуркі і ўсведамлення таго, што гэтая дзяўчына належыць яму. І сказаў тады:

— Слухай, у цябе ж нармальная фігура, на твар ты не пачвара. Чаго ты ходзіш, як хурлядзь якая калгасная? Адзявацца не ўмееш?

Людміла ўспыхнула чырванню, нічога не адказала. Але за два наступныя дні яна змяніла амаль увесь свой гардэроб. Высока адкрыла свае сапраўды прыгожыя ногі з круглявымі каленямі. Можа, крышку вялікаватыя, але дужа прывабныя грудзі цяпер спакусліва выглядалі ці то з глыбокага выразу цішоткі, ці то з-за расшпіленых гузікаў блюзкі. Яна пабыла ў салоне — прафесійны макіяж разам з новай фрызу-

рай да непазнавальнасці змянілі яе твар. Колішні “хвост” пераўтварыўся ў модную стрыжку, валасы змянілі невыразны цёмна-русы колер на яркі каштанавы. У яе хадзе і паставе з’явіліся плаўнасць рухаў, адкрытасць, а з імі — прывабнасць і нават больш: тое, што мужчыны называюць “сэксапільнасцю”. Цяпер яна зусім не нагадвала тую сціплую, безгустоўную вяскоўку. Што праўда, яна не дэманстравала свае дачыненні з Генадзем ва ўніверсітэце. Але і ў вочы, і за спінай Генадзь чуў галасы захаплення не так ёй, як ім: “Ты глядзі, што зрабіў з калгасніцы...”. Гэта грэла. Генадзь і сам заўважыў, як зусім па-іншаму стаў выглядаць і Людмілін твар — яго асвячала нейкае нутраное святло сваёй асабістай значнасці і... шчасця.

Аднак, хоць Генадзь і адносіў змены на свой асабісты рахунак, пакідаў і мажлівасць для трывіяльнага разліку самой Людмілы: вельмі магло быць, што яна здумала, быццам мае шанцы застацца ў Генадзевай кватэры сапраўднай жонкай, скарыстоўваючы сваю пекнату і паслужлівасць. Мажлівасць такіх практычных планаў не засмучала Генадзя — ён іх разумеў і прымаў. Але пасміхаўся ў думках: прапісваць Людмілу ён не збіраўся, апрача таго, кватэру маці аформіла як падарунак сыну, так што хвалявацца не было падстаў: калі хочаш ён мог вышпурнуць дзяўчыну з кватэры.

Але пакуль што — няхай будзе. Яна цалкам адпавядала уяўленню добрай жанчыны з барадатага анекдота: гаспадыня на кухні, каралева на людзях, прастытутка ў ложку. І, да ўсяго, служка ў кватэры — Людміла ўжо праз два тыдні іх супольнага жыцця незаўважна для самога Генадзя цалкам узяла на сябе ўсе хатнія абавязкі. Генадзь быў здаволены, з ёй бы-

ло яшчэ бестурботней, чым раней з маці, да таго яна была яшчэ і жанчына ў ягоны ложак.

## 2

Менавіта праз машыну і Людмілу ў ёй, у Генадзева жыццё ўварваўся першы ўсвядомлены кавалак памяці маленства.

Быў травень, гарачы, выбуховы, у квецені і зеляніне. Людміла папрасіла-прапанавала: з'ездзіць на гарадское возера — немажліва сядзець у кватэры ў такую гарачыню. Генадзь згадзіўся. На момант у яго ў галаве бліснула думка пра тое, што пляж — выдатнае месца для знаёмства. Вось паедзе, можа, сустрэне каго... цікавейшага. Бо Людміла, калі шчыра, пачынала яму не тое што надакучаць, а рабіцца прэснай. Карцела прайсці яшчэ раз гэтым шляхам заваявання, адкрыцця новага цела, новых (павінны ж быць) пачуццяў.

Аднак, з задавальненнем для сябе, Генадзь мусіў прызнаць, што на пляжы яго Людміла выйгравала ўва ўсіх жанчын і дзяўчат: акуратныя, цудоўнай формы сцёгны, як пляшачкі лыткі, аніводнай складкі тлушчу на жываце... Генадзь глядзеў на чужыя жаночыя фігуры з непрыемным адкрыццём: ён і не падазраваў, што гэтулькі жанчын маюць нізка апушчаны азадак, ці то кавалерыйскай формы сцёгны, худыя, або тоўстыя, у лытках ногі, непрыгожую паверхню скуры, а то і скулкі на грудзях...

І ў дадатак, ён адзначаў тое, з якой прагай пазіраюць на ягоную Людмілу мужыкі. О, яна тут была каралевай, гэта факт...

Людміла была ўмелай плыўчыхай, усё ніяк не магла насыціцца вадой, як для Генадзя — дык і вельмі халоднай. Сталі збірацца назад.

Тут і здарылася.

Салон угрэўся, было невыносна задушна ў першыя хвіліны. Людміла на сядзенні побач адкінулася ў крэсле, мужчынская сарочка, якую замест сукенкі яна адзела на пляж, была не зашпіленая, толькі трохі затуляла яе грудзі вольным крыссём.

Нешта ў крыссі сарочкі, пасцы цела між імі падалося знаёмым, даўным, надзвычай важным, але незразумелым і ад таго невыносным. Са злосцю на пачуццё (ён ледзь не крыкнуў Людміле: "Зашпілі! Вываліла цыцкі, разлягласся!", але стрымаўся, болей з таго, што існавала нейкая кволая надзея: ён успомніць…), Генадзь стаў круціць люк у салоне.

Пабачыў кавалак неба.

І раптам адтуль выцяла так, што Генадзь на хвіліну замружыўся.

У вачох быў лапік неба, які свяціўся над палоскай скуры між грудзей.

— Во як падрала ўсё на сабе… Анягож, такі боль… Як іншым балела, яна не чула… От цяпер адбаліць за ўсіх…

Генадзь не расплюшчваў вочы. Замёр.

Запахла нечым старым… Успомніў — даўно не паленай, сырой грубай.

Ён сядзіць на грубцы (гэта частка грубкі завецца ляжанка), якая закінутая нейкім покрывам. Праз шчыліну ён бачыць ложак, на якім ляжыць старая жанчына: ускудлачаныя валасы, шэры твар з заплюшчанымі вачыма і скрыўленым ротам, вострым носам. Светла-шэрая начная кашуля на ёй падраная пасярэдзіне, відаць скуру пляскатых, мярцвяна-

белых грудзей. Ніжэй цела затуляе брудна-зялёная коўдра. З-пад яе выглядвае адна сухая шэрая рука ў мностве белых плям, перавязаная ля запясця.

Раптам старая на ложку скаланаецца, цела як быццам нехта штурхае знізу, рука спрабуе ўзляцець, але застаецца прывязанай.

— А-а-ы-ы! А-а-ы-ы!.. — крычыць старая страшным, нялюдскім голасам, які цалкам забірае ў сябе маленькага Генадзя, ён не можа працівіцца яму, не можа выдрацца. Ён адгукаецца на голас. Так, ён разумее, што ён — маленькі, што на ложку яго бабуля. Ён ужо даўно чуў яе крыкі, яго праганялі з пакойчыка, забаранялі ісці на другую палову дома, ён мусіць спаць у пуні, там смачна пахне сена і ўначы шумна дыхае карова, а яму карцела… Не, не проста карцела — яго цягнуў, ім кіраваў, яго заварожваў сваёй нечалавечнасцю бабульчын жудасны крык.

Ён незаўважна прашмыгнуў — і вось схаваўся, глядзіць і слухае. Голас гучыць як нейкі загад яму, Генадзю. Ён нешта павінен зрабіць, ён адчувае гэта. Але ён нічога не будзе рабіць, бо цяпер ён скаваны жудасцю, не чуе нават, як б’ецца ягонае сэрца. Ён не чуе сябе — ён нібыта не тут, яго няма, яму сніцца…

— Цімафей прыйдзе, няхай разбірае столь… Ага, нічога не будзе, не памрэ, трэба разбіраць… Во сабрала сабе клунак у дарогу… Не грашыце, бабы, няведама, як самым паміраць… Ага, а хіба ніхто не ведае, што Дунька вырабляла… — чуе Генадзь у кароткай пярэрве між крыкамі. Яго бабулю завуць Дунькай. Цімафей — гэта яго бацька, дужы, страшны…

Здаецца, мінае шмат часу.

Бабуля Дунька на ложку зноў крычыць, не спыняючыся, нібы і не яна крычыць, а проста дыхае нехта з нутра ў яе — вялікі і невядомы, сіпаты, і дыхан-

не ягонае такое гучнае, працяжнае: аыы-аыы-аыы. На крык не звяртаюць увагі. Прыходзяць нейкія людзі, Генадзь бачыць вялікія ногі ў растаптаных кірзавых ботах, пад якімі гнуцца масніцы. На бабулю кладуць прасціну ў жоўтыя кветкі.

Потым Генадзь чуе, як над галавой нехта ходзіць, вошкаецца. Ён чакае са страхам, што на яго зараз усё абрынецца, але гук змяшчаецца ўбок. І раптам у паўзмрок пакойчыка падае нязыркае святло — у столі з'яўлецца вузкая і доўгая дзірка, акурат над ложкам.

— Яшчэ адну дошку вымайце, хлопцы, — чуецца жаночы голас. — Каб прайшла вольна.

Дзірка пашыраецца.

Цяпер Генадзь бы прыкаваны да грубкі, ён намагаецца зліцца з ёй, бо халадзее ад думкі, што яго пабачаць і прагоняць. Цяпер жа павінна быць самае галоўнае, самае-самае…

Праходзяць хвіліны… Час цягнецца, ён амаль фізічна адчуваецца — густы, з пылам, што вісіць у слупе дзённага святла над ложкам, адзінкамі часу ёсць крыкі з-пад прасціны, на якую нацерушылася смецця:

— А-а-ы! А-а-ы!

— Цімафей, рэж страху… Не адыдзе яна…

Згары праз вузкую дзірку ў столі сыплецца саламяная церуха, а потым адтуль б'е сноп сапраўднага дзённага святла.

Знікае жоўтая матэрыя. На тонкую маршчыністую скуру старых грудзей падае паласа святла.

І адгукаючыся на святло пачынае біцца на сваім ложку старэчае прывязанае цела, заходзіцца крыкам болю і роспачы, працяглымі стогнамі.

— Адыходзіць, канчаецца… Божа-Божа, во як пакутуе… А як Маньцы свая карова цыцку прабіла рогам і рэбры паламала — той не балела? А дзеці без мала-

ка сярод зімы засталіся? А Варка, ці памятаеце, бабы, як той клуначак падняла на двары, дык пальцы рук так скруціла, што крыкам крычала, тыдзень карову не даіла, і дзеці хлеб у рот клалі і ваду падносілі. Во, кінула забаўку была. А каб дзіця падняло — страх і думаць… От хай той боль цяпер забірае сабе… Праўду казалі людзі, праўду…

І тут узнікае цішыня — аж чуваць, як над дзіркай праз столь і дах каротка піскае ластаўка.

Сціх стогнат.

Генадзь бачыць, як баба Дунька расплюшчыла вочы. І гэтулькі нянавісці і ўлады было ў яе зусім свядомым паглядзе, што пачулася тупаценне: гэта жанчыны, што стаялі каля ложку, падаліся назад.

— Вады прынясеце…

— Дзе Марыя? Марыя дзе? Свякруха вады просіць! Марыя, го! Нясі піць свякрусе!

Генадзь бачыць постаць жанчыны са спіны, яна нахілілася над бабай.

— Руку адвяжы мне ету… Цяпер ідзі, — голас бабы Дунькі слабы, але ў ім па-ранейшаму гучыць уладная грэблівасць.

Ціхі шэпт жанчын перапыняе гэты ж голас, але ўжо з ноткамі зларадасці і з’едлівага смеху:

— А я ж усё-усёханькі чула… Што кожная казала… І ўсіх бачыла. Усіх… Усіх запомню…

Нехта першы з жанчын не вытрымвае і выскоквае за дзверы. За ёй — іншыя.

Настае цішыня. Генадзю робіцца страшна, яму расхацелася тут сядзець, ён думае пра тое, што баба яго бачыць — бачыць праз тканіну покрыва, і цела ягонае яшчэ болей дранцвее, ён адчувае, як пакрываецца пухіркамі спіна. І не памыляецца. Голас старой загадвае, але ласкава:

— Хадзі сюды, унучак, не бойся. Хадзі, баба табе нешта важнае скажа... Хадзі, не бойся. Ты станеш заможным, у цябе ўсё будзе. Толькі баба скажа...

Генадзю хочацца, каб у яго ўсё было. Былі цукеркі і цацкі. Ён сам не разумее, як апынаецца ля ложка старой. Зблізу твар бабы Дунькі яшчэ страшнейшы, скура ўся зморшчаная, жоўта-шэрая, у плямах і плямках, рудых і чорных, тонкія вусны амаль сінія, у барвовых кропках, але ў вачох яе блішчаць агеньчыкі, і тыя агеньчыкі не страшныя — можа, у іх адбіваецца сіняе неба.

— Можна мне зазірнуць?

— Зазірні...

Генадзь падыходзіць зусім блізка і зазірае ўгару: праз няроўны прастакутнік выдранай саломы ён бачыць сіняе-сіняе неба і кавалачак белай аблачынкі.

— Дай мне руку, — чуе Генадзь загад.

Яму не хочацца даваць сваю руку бабе, але адначасна ён ведае, што даць павінен. Бабу трэба слухаць.

Ягоная рука раптам кранаецца нечага невыказна халоднага, як лёду, і холад пранізвае ўсе пальцы, далонь — гэта бабіны тонкія крываватыя пальцы абхапілі яе.

Той даўны холад з маленства быў такім моцным, што Генадзь уздрыгнуў цяпер, тут, і зразумеў, што колькі часу сядзіць застыўшы, з задранай угару рукой — трымаецца за рэгулятар адкрыцця люка.

Не, часу мінула зусім не шмат — Людміла побач нават не павярнула да яго галавы. Ён не перажываў успаміну — ён уварваўся ў ягоную свядомасць тысячамі гукаў, фарбаў, адценняў і пачуццяў, і цяпер можна не спяшаючыся, павольна, успамінаць, нібыта праглядаць на маніторы хвіліны маленства... Маленства, якое ў яго ўкрала маці!

Генадзь не памятаў, як ён даехаў да горада — усе яго думкі былі занятыя. Ён засяродзіўся на сваім адчуванні там і зразумеў, што старая нешта сказала яму. Што? Баба клікала яго не дзеля таго, каб патрымаць за руку! Не таму! Ён ішоў слухаць — калі памяць вярнула той момант, значыць, баба нешта сказала. Важнае. Вельмі важнае… бо ў яго была асаблівая бабуля Дунька! Бач, як яе баяліся… І смерць яе не брала гэтулькі часу. Не, бабуля ведала шмат, бабуля шмат магла… Трэба ўспамінаць, успамінаць… Яна нешта мусіла сказаць…

У той вечар ён не сядаў за кампутар, не ўлучаў тэлевізара. Проста ляжаў на ложку, глядзеў у столь. Людміла паспрабавала было пацікавіцца, што з ім, ці не яна таму вiной, але Генадзь адно махнуў рукой, каб зачыніла дзверы.

У кватэры да самай ночы было ціха.

Генадзь нічога не ўспомніў. Ён зноў прысніў маленства. Ён не бачыў там нічога выразнага: тыя самыя колеры, нейкія плямы-фігуры, адчуванне страху і захаплення. І цвёрдая ўпэўненасць у тым, што гэта менавіта маленства.

Мінула дні тры, Генадзь пастанавіў для сябе, што для ўспаміну трэба нейкі вылучны, асаблівы момант — накшталт такога, які адбыўся ў машыне ля возера. Трэба, каб для памяці была падсунутая карцінка, максімальна блізкая да таго, што было. Тады, у машыне, усё адбылося выпадкова: расхрыстаныя Людмілiны грудзі, яе сарочка, нібыта падраная старая кашуля бабы Дунькі, адкрытая частка неба над жанчынай…

Наступныя дні былі занятыя шуканнем: што і дзе? Што можа вярнуць яго ў маленства? Дзе можна зноў сустрэць такі малюнак?

Зразумела, ён не аднаго разу, а двойчы (адзін раз ездзілі на возера) прымушаў Людмілу гэтаксама як тады, адкідвацца ў крэсле, расшпільваць кашулю. Круціў люк… выніку не было.

У той дзень неспадзеўкі надышла навальніца, прагрукатала, пасляпіла маланкамі, абдала горад кароткаю залевай. Людміла выйшла на балкон, расхінула рамы, гукнула яго:

— Генік, ідзі, падыхай свежым! Так цудоўна пахне!

Генадзь выйшаў.

Людміла працягвала рукі пад кроплі, што зрываліся з верхняга балкона.

Падлога балкона быццам падзеленая напалам: адна цёмная частка ля яго пярэдняй сцяны, і другая — светлая, шчодра залітая сонцам.

Генадзь застыў, гледзячы на гэтую вузкую паласу святла ля сцяны.

У галаве рыхтык круцілася старая, з шчэрбамі кружэлка, па якой скакала з дарожкі на дарожку голка, і ў свядомасці ўсплывалі нават не абрыўкі фраз, а пачаткі ці канцоўкі гукаў, кароткія ўсхліпы мелодыяў.

— Ляж тут, — хрыпла загадаў ён.

Людміла азірнулася, гуллівая нясмелая ўсмешка сходзіла з яе твару — яе напужаў Генадзяў твар.

— На… навошта? — асцярожна спытала яна, але апусцілася на калені. — Скідаць халат?

— Расхіні…

Людміла падпарадкавалася, легла, з неспакоем сачыла за Генадзем. Ён прысеў перад ёй на калені, глядзеў на паласу святла, на постаць дзяўчыны пад гэтай паласой.

Яна павольна, можа, каб хоць трохі супакоіцца самой, адчуць ягонае цела, узняла руку і дакранулася ёю да Генадзявай далоні.

Пальцы ў Людмілы былі халодныя ад кропель дажджу. Халодныя... як бабуліны.

Генадзь уздрыгнуў і заплюшчыў вочы.

Гэтым разам мінулае не ўварвалася, а працяло ягоную свядомасць, выклікаючы салодкую дрыготку.

...Ён зноў там — ля бабулі.

— Ты будзеш вялікім чалавекам, будзеш, — шэпча пераканаўча баба Дунька, нібыта загадвае яму, Генадзю, такім быць. — Табе будуць падпарадкоўвацца, ты будзеш наверсе, ты будзеш вялікім. Слухай і глядзі. Знакі глядзі. Не прапусці — цябе паклічуць. Пасля... потым... знайдзі пада мной... забяры — гэта тваё. Яно...

І нечакана Генадзя рве, уздымае ўгару нешта імклівае і дужае.

Яго нясуць на руках, ён з паху пазнае — маці, бачыць, як зачыняюцца за ім дзверы ў пакой, дзверы ў хату, потым галінка яблыні чапляецца, моцна драпае ягоную галаву, і ён плача...

Генадзь расплюшчыў вочы, уздыхнуў глыбока, выдыхнуў і ўголас сказаў:

— Буду...

Людміла няўцямна ўсміхнулася яму.

— Буду! — Генадзь адразу абедзвюма рукамі схапіў аголеныя дзявочыя грудзі, сціснуў моцна, аж скрывілася ад болю Людміла, і загадаў: — Уставай. Збірайся, заўтра паедзеш са мной. Да маці.

Калі б ён зазірнуў у Людмiліны вочы, ён пабачыў бы там страх — ужо сапраўдны жаноцкі страх.

## 3

Але раніцай Генадзь змяніў намер: ён не павінен браць Людмілу з сабой. Паўночы ён думаў над бабулінымі словамі. Найперш — пра знакі. Людміла — гэта знак ці не? Бо і ў першым разе, і ў другім яна, Людміла, сапраўды падвяла яго пад тую рысу, за якой раптам настала прасвятленне памяці. Дык яна — знак?

Але куды яна можа паклікаць? Трэба ісці за знакам, ён жа добра ўсё зразумеў: ісці за знакам, яго паклічуць! Не, яна не знак. Яна памагла ўспомніць — і роля яе выкананая. У кожнага свая роля.

Прапанавалі застацца на прадпрыемстве… Не, там няма знаку, там маці паспрыяла, пабегала… От жа дзіўна: ніякай пасады ў яе не было, ніякай значнасці, а гэтулькі ў яе знаёмых, гэтулькі людзей ёй заўсёды былі абавязаныя, хоць па самых нязначных дробязях, але ж абавязаныя. І яна сама заўсёды кідалася кожнаму ў нечым дапамагаць, сама, ніхто яе часцей за ўсё не прасіў.

Не, маці — не знак, відавочна. Маці… маці не дала даслухаць бабу! Добра, ён запытае…

Людміла ўспрыняла яго пастанову ехаць аднаму амаль без эмоцыяў. Здаецца, яна здагадалася, што Генадзь збіраўся ў дарогу зусім не затым, каб пазнаёміць яе з роднымі.

Генадзь упярод патэлефанаваў, сказаў, што выязджае, каб маці была дома. Чаго, не сказаў. “Прыеду — скажу.” Ён збіраўся: складаў у пакет зробленыя Людмілай канапкі, тэрмас з гарачай кавай, старыя красоўкі, ношаную куртку-плашчоўку. Людміла нічога не пыталася — яна сама была адным вялікім пытальнікам пасля слоў: “Чаго яшчэ трэба”.

А Генадзь адчуваў сябе… шчаслівым. Можа, тое і не было шчасцем, але якое яно, шчасце, калі ты вось толькі цяпер, першы раз у сваім жыцці нешта робіш таму, што менавіта табе трэба? Гэта было неверагодным пачуццём: яно поўніла і п'яніла, Генадзь быў шчасліва-ўзбуджаны і ўвесь падабраны, справавіты. Менавіта з такім настроем і пачынаюць вялікія, значныя справы, думаў ён пра сябе, пра свой стан. Колькі ён пражыў, а ніколі нічога не рабіў адмыслова для сябе. Ён плыў з вадою? Так, ён плыў, вада несла яго, але ён сам падграбаў пакрысе да зручнага яму берага, сам ціхенька адпіхваў тое смецце і трэскі, што несла вада, ашчаджаў сябе ад чужых эмоцыяў, непатрэбных знаёмстваў, неабавязковых сустрэч. Не выходзіла адштурхнуць нешта — ён прытарможваў, каб плынь панесла далей той чужы яму вэрхал турбот і неспакою.

І ён слушна рабіў! Слушна, бо не было яму знака, яго і не магло быць, бо ён не ведаў тады пра знак. Каб быў знак, каб прыйшоў ягоны час — ён бы ўспомніў раней бабулю… Але цяпер прыйшоў час. Праз два месяцы ён скончыць універсітэт, ён — цалкам забяспечаны, ён — на старце. І менавіта цяпер бабуля адтуль падказвае: пара.

Пяць гадзін дарогі не змаглі ні стаміць Генадзя, ні патушыць ранішняга ўзбуджэння. Маці чакала яго ля дома: нечакана маленькая ростам, адзетая папростаму, па-вясковаму, сівая зусім. У выцвілай лёгкай хусцінцы, завязанай ззаду, за вушамі, яна была непрыгожай і чужой.

Маці памкнулася насустрач, Генадзь патрываў, даў ёй сябе абняць і дакрануцца сухім вуснам да сваёй шчакі.

— Хадзем, сыночак, пакармлю, полудзень гатовы, я чакала-чакала, усё выходзіла глядзець… бабуля зусім слабая, ляжыць, ужо і не памятае амаль нічога, не гаворыць. Памрэ зараз… А як у цябе справы, сыночак? Як з дыпломам? Ці стае грошай? Я тут яшчэ зберла, што ж, нічога не купляем… От каб мама яшчэ два тыдні працягнула, была б яшчэ адна пенсія, дай Божа, атрымаем. Пенсія ж вялікая…

Што пенсія ў бабулі Наталлі была вялікая, Генадзь ведаў. Дзяўчынай яна была ў партызанскім аддзеле, прызналі ветэранам…

Да бабулі Генадзь не пайшоў — не хацелася псаваць сабе настрою выглядам старой хворай жанчыны.

— Я заеду, як буду назад ехаць… Можа, ёй лепей стане, каб хоць павітацца, — апраўдаўся ён.

— А куды ты цяпер? — насцярожылася маці. — Сказаў, прыедзеш, а што за справа — не сказаў…

— Такая справа… Дзе тая вёска, у якой я малым жыў у бацькі? Дзе тая баба жыла — баба Дунька?

Маці збялела.

— Адкуль ты ведаеш, як яе… звалі? Я ж не казала табе?

— Значыцца, ведаю, — шматзначна адказаў Генадзь. — Я шмат чаго ведаю… цяпер. Што ты ад мяне хавала. Ды добра, хавала — твая справа. Дык дзе вёска, дзе дом?

Ён спытаў такім тонам, што было зразумела: ён не прыме адмоўнага адказу ці адгаворкі на дрэнную памяць.

— Там… Рубанае, вёска, — ціха адказала маці. — Мабыць, там нікога не засталося ўжо. Там адсяленне было, хоць не зона, але ж выязджалі…

— У якой вобласці? Які раён?

Маці адказала, перасільваючы сябе, запытала:

— Навошта табе туды ехаць, сыночак?

— Трэба! — жорстка адказаў Генадзь. — Ці я не маю права паглядзець на тое месца, дзе мінулі мае першыя гады жыцця? Можа, і бацьку дзе знайду…

— Бацькі няма… Спраўлялася я нядаўна. Памёр… у турме.

— Не важна. Усё, я паехаў.

— Чакай, зараз з сабой збяру… Паесці каб, туды ж далёка… І грошы, грошы…

Генадзь не прыспешваў маці — яна і так ці не подбегам паспявала па хаце.

Ён выехаў на трасу, прыпыніўся на ўзбочыне. Дастаў мапу аўтамабільных дарог. Дзвесце кіламетраў, сама мала. І чвэрць дарогі вёскамі. Гадзіны за тры дасць рады…

Дзень быў сонечны, цёплы, амаль летні. Генадзь увамкнуў музыку — ён не мог трываць цяпер у спакойнай цішыні. Дарога была добрая, да павароткі, ад якой заставалася кіламетраў пяцьдзясят, праляцеў хутка. А далей пачалося — увесь асфальт у выбоінах.

Пачалі трапляцца паўжывыя і цалкам мёртвыя вёскі: спарахнелыя, паваленыя платы, хлявы без дахаў, дамы без вокнаў. Яшчэ паварот — асфальт скончыўся, пайшла жвіроўка, дрогкая, але даволі роўная.

Ціш і бязлюддзе. Генадзя ніхто не абагнаў, насустрач патрапілася адна машына — цяжкавік. Мінуў вялікую, жывую вёску, у ёй стаяла ўзбоч дарогі некалькі аднолькавых, адносна новых на выгляд цагляных дамоў. Аграгарадок… Паспела палупіцца фарба, пакладзеная проста на цагляныя сцены невялікай крамкі з гучнай назвай “Светач”.

У ёй, даволі прасторнай і пуставатай, было дзве прадаўніцы. Адна маладзейшая, з вялізнымі клуба-

мі стаяла ля прылаўка з боку пакупнікоў, адставіўшы на ўваход шырачэзны азадак. Войкнула на рыпенне двярэй, выпрасталася, абцягнула халат на вялікіх, дзябёлых грудзях.

Другая ўсміхнулася — не Генадзю, сама сабе, і, як падалося Генадзю, помсліва. Дзіўна, але ў гэтай жанчыны, гадоў сарака, быў чысты, загарэлы і прыемны твар, з акуратнымі формамі рота і носа, інтэлігентная пастава і мяккі, спакойны голас. Ёй бы болей пасавала быць якой настаўніцай, а не падаваць мужыкам пляшкі чарніла — вунь яго колькі на прылаўку…

Генадзь папрасіў пляшку мінералкі, расплаціўся, спытаў:

— Да Рубанага дарогаю можна даехаць?

— Да Рубанага? — не стала хаваць здзіўлення жанчына. — Там жа гадоў дзесяць ніхто не жыве… Хат пяць засталося, рэшту пазабіралі. Зарасло ўсё…. Але выбачайце, калі вам трэба — даедзеце. Дажджоў не было, дарога добрая.

Генадзь не часта быў у розных вёсках, хіба што ў бабулі па маці, ды яшчэ праязджаў міма на машыне. Можа, таму тое, што ён пабачыў, змусіла яго вымкнуць музыку ў салоне.

Тут нельга было гаварыць гучна. Тут нельга было гаварыць наагул. Бо тут жыла смерць.

Перш падалося, што проста пачаўся нейкі лясок, з самотнымі высачэзнымі дрэвамі ды густым хмызняком. Але раптам у прагале між дзвюма вялізнымі ліпамі Генадзь пабачыў шэрую сцяну будынка з круглых бярвёнаў. Квадраты чорных дзірак без аконных пераплётаў. Кроквы, як косткі, замест даху, а разам усё — як аб'едзены труп нейкай пачварыны.

Генадзь прытармазіў, выйшаў з машыны. Разгледзеўся. Як выявілася, ён ужо колькі часу едзе вяско-

вай вуліцай. Так, вуліца: шырокая некалі, якую станавілі два шэрагі хат абапал.

Дарога ледзь адгадвалася далей — па тым, што ў колішніх каляінах трава была ніжэй.

Буяла зяляніца. Высокія дрэвы, што раней стаялі ля платоў і веснічак, цяпер былі аточаныя маладняком. Суцэльнай ружова-зялёнай сцяной убаку ад Генадзя цвіў бэз, затуляў сабой яшчэ адну хатку, а дакладней тое, што ад яе засталося.

Генадзь завёў машыну і асцярожна праехаў наперад, звярнуўшы галаву ў левы бок: так казала маці, апошняя хата па левым баку…

Апошняя. Далей ужо хмызы і сапраўдны лес вольхаў і асін.

Скінуў туфлі і абуў красоўкі. Накінуў куртку.

Дах праваліўся пасярэдзіне, адна сцяна выпнулася вонкі. Генадзь стаяў перад хатай і не мог паверыць, што тут маглі жыць людзі.

На гэтых могілках чалавечага жытла стала такой відавочнай уся марнасць чалавечага жыцця і няўхільнасць канца. Усё вядзе да смерці. Вось тут некалі было жыццё. Тут былі пачуцці і эмоцыі, тут гучалі галасы, тут спрачаліся і, можа, любіліся. Сварыліся, цешыліся, пакутавалі, гаравалі, галадалі, скакалі, нараджалі. І памiралі.

І ўрэшце — памерла ўсё і ўсе.

Вакол быў суцэльны зараснік: язмін пераплёўся з бэзам, дзікія сліўкі — з маліннікам, вішаннік падступаў з другога боку. На вольных ад дрэў месцах сцяной стаяла крапіва вышынёй амаль з Генадзя.

Выламаў дручок і з ягонай дапамогай стаў пракладаць сабе дарогу ў крапіве да невядома дзе схаваных дзвярэй.

Знайшоў. І разгублены спыніўся: што за людзі тут жылі? Няўжо яны былі такія маленькія, ці ім прыемна было згінацца ледзь не напалам, каб зайсці ў дом? Усё здавалася штучным, бутафорскім, рыктык ён патрапіў не ў колішняе жытло чалавека, а ў прыдуманую краіну: дзе жывуць адны дзеці. Яны вырастаюць і параязджаюць некуды жыць далей. Ці паміраюць. І вось так сталася, што ў краіне нарадзіліся ўсе дзеці, якія маглі нарадзіцца. І не стала дзяцей…

Дзвярэй не было, адно праём. Усярэдзіне грувасціліся трухлявыя бэлькі і кроквы. Дошак падлогі не відаць: відавочна, іх прыбралі практычныя людзі.

Было ціха. Так ціха, што гучным падаваўся кожны крок па гэтай магіле. Не было чуваць ні птушынага пошчаку, ні цвыркання конікаў.

…Як быццам, сенцы. Боўтаюцца дзверы, здзертыя з адной завесы. Трэба толькі адкінуць рэшткі кроквы…

Увайшоў.

Тут не пахла жытлом. На месцы печы зеўрала яміна, у якой рос лопух. “І цэглу прыбралі… І падлогі ж няма”.

І гэта ўстрывожыла: “Пада мной знойдзеш”. Як і што можна знайсці, калі няма дзе шукаць? Што магло быць пад ложкам, што можна знайсці, калі дошкі прыбралі!

Генадзь роспачна зрабіў чатыры крокі далей — столькі трэба было, каб зазірнуць у сярэдзіну другой паловы хаты. Ступіў цераз парог і замёр…

— Не чапай сына! Кранешся — заб’ю! — крычыць маці.

— Не тваё дзіця, сікуха… Само яно да мяне прыйдзе… А табе яшчэ гукнецца, — бабулін голас, насмешлівы і злы.

— Не прыйдзе!

— Свіней ідзі карміць, брыда, — загадвае бабуля…

Тут.

Генадзь паглядзеў налева, і сэрца шалёна падскочыла пад горла: усе дошкі з падлогі зніклі, але тут, між сцяной і грубай, якая цяпер была проста кучай рудой гліны, ляжалі дошкі: шырокія, кароткія. Ляжалі няроўна, бугрыліся, нібыта знізу нешта імкнулася праз іх прабіцца ўгару.

А на дошках, як на адмысловым пастаменце, стаяў вялікі драўляны ложак, без матраца. Тоўстыя высокія ногі папарна злучаныя спінкамі. Тая, ад галавы, высокая. Ад парога нізкая. З-за яе малы Генадзь часта пазіраў на бабулю — яна сядзела на ложку, расказвала яму… не памятае, але нешта страшнае, такое, што хацелася ўцячы, а ўцячы не мог, хаваўся ад бабы за спінку, слухаў яе голас. Страх трохі меншаў, ці то баба адмыслова пачынала казаць не так страшна, тады Генадзь высоўваўся — баба хітра падміргвала яму і зноўку казала нешта жудаснае.

Спінкі з ножкамі злучалі дзве тоўстыя білы. “Да іх і прывязвалі рукі”. Варухнуўся жаль, зусім не да месца тут, не да часу.

Генадзь адкінуў ложак на рэшткі грубкі.

Прысеў, стаў уважліва глядзець на падлогу. Сухое лісцё і смецце.

Глупства, падумаў урэшце: калі б тут і было што, на падлозе, яго б даўно паднялі.

Яму трэба было пасля смерці бабы прыйсці і залезці пад ложак. Чаму ён не прыйшоў? Маці… Яна не пусціла. А можа, і прыходзіў сюды Генадзь. Ды маці папярэдзе яго прайшлася з мяцёлкай ці мокрай анучай.

Генадзь устаў, пашукаў вачыма — нічога патрэбнага, зручнага не знайшоў. Адгроб нагой зямлю і смецце ад берагу дошак.

Падчапіў адну, адкінуў.

Ведаў, што дошкі мусяць ляжаць на нейкіх папярочных бэльках, а тут адразу пад дошкай зямля. Чорная, чыстая. Такая чыстая, што захавала ў сабе малюнак паверхні дошкі: сучок, пражылкі… Другая, трэцяя дошка… Адкінуў апошнюю, ад сцяны, найцяжэйшую і шырокую. У першы момант мільганула надзея, ды згасла: тое, што прыцягнула ўвагу, было невялікім мышыным гняздом, ад якога ў самы кут вёў кароткі адкрыты ход.

І ўсё.

Але расчаравання не было — адно стома. І крыўда. Што нічога не выйшла. Што тое, у што ён гэтак паверыў, было проста ўспамінам маленства.

Падняў той самы дручок, якім збіваў галінастую крапіву на шляху, калупнуў без асаблівай цікавасці мёртвае мышынае гняздо. Невялікі шарык з сухой травы, смецця, кавалачкаў матэрыі, нітак, выкаціўся на чорную, прыбітую дошкамі зямлю, амаль рассыпаўся.

І цьмяна засвяціўся ў гэтай парахні кавалачак металу. Можа, срэбра.

Генадзь не паспеў здзівіцца гэтаму свячэнню, а гарачая хваля ўзбуджэння наструніла ногі, цёпла сціснула жывот, апаліла грудзі і падымалася вышэй — да горла, якое раптам зрабілася сухім.

Борзда прысеў, разварушыў рэшткі гнязда, узняў знойдзенае.

На тоўстай суровай нітцы чорнага колеру боўтаўся срэбны (так, цяпер Генадзь быў пэўны, што срэбны) кружок дыяметрам сантыметры два. У цэнтры кружка на адным баку была выява пяці круглых пялёсткаў, падобных да кропелек, вострымі канцамі ў сярэдзіну. Другі бок быў чысты.

Генадзь за нітку трымаў сваю знаходку перад вачыма, потым падставіў разнятую далонь і стаў павольна апускаць кружок. Ён быў пэўны, што першы дотык яму скажа… нешта важнае скажа.

Але кружок неспадзявана абпаліў скуру рукі холадам — быццам на далонь паклалі прамерзлую жалезіну ды яшчэ прыціснулі. Генадзь стрываў і адчуў, як срэбны кружок, усмактаўшы цяпло ягонай рукі, неахвотна нагрэўся.

І нешта ўваходзіла ў яго, Генадзя — халоднае, разважлівае. Але не страшыла зусім. Яно было сваім, жаданым…

Без усякай гідлівасці Генадзь, ледзь праціскаючы галаву ў вузкую пятлю, адзеў матузок са срэбным кружком на шыю.

## 4

Адным з улюбёных заняткаў на форуме ў Генадзя было стварэнне тэмаў з назвай: "Душа патрабуе". Ніколі не забудзе, колькі дадатных эмоцыяў яна яму прынесла, калі запосціў такую першы раз: "Душа патрабуе паклапаціцца пра бліжняга. Ёсць 15 даляраў Веб-Мані, якія аддам таму, хто першы пакіне ў тэме нумар свайго партманета".

Што пачалося! Адразу спрабавалі адгадаць: у чым тут ашуканства? Ведалі, што засвяціць у "пабліку" свой нумар партманета — стаць мішэнню для спамераў і хакераў. Але ж пасля таго, як атрымаеш грошы, пост можна адрэдагаваць і зацерці нумар. Не, мабыць, мэта нейкая іншая…

Генадзь чытаў пасты, часам кідаў якія рэплікі — і рагатаў амаль уголас. Як жа ўсім карцела вось так, на халяву, атрымаць 15 даляраў. А адначасна — баяліся ўсе. І нават больш чым баяліся: кожны, хто зазіраў у тэму, хацеў бы атрымаць, але каб не прызнавацца! У першыя хвіліны на Генадзя звалілася, можа, з дваццаць лістоў у асабістую скрыню на форуме з нумарамі партманетаў.

"Не, сябры, не! Не шліце нумары партманетаў уасобку — толькі тут, прылюдна пішыце свае партманеты. 15 даляраў — хто напіша першы".

Адно праз гадзіну нехта напісаў. І тут пачалося: шчаслівага смеляка сталі гнобіць і ўпікаць у сквапнасці. Маўляў, мог бы пачакаць. І пры ўсім патрабавалі праз тыдзень паведаміць, ці не здарыцца якіх непрыемнасцяў.

Праз месяц Генадзь прапанаваў усяго 10 даляраў Веб-Мані. Але гэтым разам так, каб ахвотны атрымаць грошы пакінуў запіс: "Я хачу задарма атрымаць на свой партманет №… 10 даляраў". Гэта ўскладняла сітуацыю: усе ведалі, што такое прызнанне можна скарыстаць у скарзе ў Арбітраж Веб-Мані: вось, маўляў, займаецца выпрошваннем грошай. Рэакцыя Арбітража была заўсёды аднолькавай на падобныя скаргі: партманет блакаваўся. Месяц-другі ішло разбіранне такіх выпадкаў… Зноў былі нібыта разумныя пасты, у якіх спрабавалі адгадаць тыя прычыны, з якіх Генадзь аддаваў проста так свае грошы першаму сустрэчнаму. Генадзь смяяўся ў адказ: "Людзі, вы мяне не ведаеце? Я сур'ёзны чалавек, от з'явілася ў мяне такое жаданне — даць некаму грошай. Таму і даю". Пачалі ўпікаць: хочаш аддаць, дык аддай у які фонд, пойдзе дзіцяці на лячэнне. "Чаму вы тут уздумалі, што можаце мне дыктаваць: каму, куды і коль-

кі мне аддаваць грошай?" — адрэагаваў Генадзь, спрэчка разгарэлася з новай сілай. Урэшце з'явіўся нехта малавядомы і запасціў нумар партманета. Генадзь пералічыў грошы, запатрабаваў пацверджання ў тэме і дадаў потым: "Чакайце. Акцыя носіць заўсёдны характар)". Грошы ў Генадзя былі: бабуля падаравала на дзень народзінаў суму, частку якой Генадзь надумаў выдаткаваць на "асабістыя маленькія капрызы", як казаў пра свае забавы на форуме.

Генадзя сапраўды ведалі на форуме даўно. Сваё адасобленае жыццё ў універсітэце ён навучыўся кампенсаваць форумным віртуальным жыццём недзе на другім курсе — калі зразумеў, што ягоная будучая прафесія інжынера-тэхнолага не проста не цікавая яму, а глыбока варожая ягонай існасці. Форум з яго віртуальным светам раптам разбурыў грэблю таго жадання да камунікавання, якое, як выявілася, збіралася ўсе гады ў Генадзявай душы і вось — атрымала выйсце. Цудоўнае выйсце! Тут было галоўнае: магчымасць адказваць не тут і зараз, а праз некалькіх хвілін ці нават гадзін. І за гэты час можна было прыдумаць ці знайсці ў сеціве адказ…

Ён знайшоў для сябе арыгінальную тактыку камунікавання на форуме, віртуальны партрэт заўзятара рэсурсу: ён ніколі не бараніў нейкіх ідэй ці думак, не расказваў і не даводзіў. Ён заўжды займаўся адным: разбурэннем, крытыкай, руйнаваннем. Неабмежаваная тэматыка размоў прывяла да таго, што Генадзь патроху стаў разбірацца ў шмат якіх праявах жыцця, самых розных тэмах. Бо без тэарэтычных ведаў нельга было знайсці ў выказваннях праціўніка слабых месцаў, скласці тонкую схему заваблівання суразмоўніка ў загадзя падрыхтаваную пастку, і Генадзь мусіў шмат чытаць, самага рознага кшталту: ад Бібліі

да тэорыі касмічных струн, ад апошніх даследаванняў у археалогіі да эксперыментаў з калайдарам.

З'яўленне ў ягонай кватэры Людмілы істотна не паўплывала на яго вечаровыя гадзіны — іншым разам ён заседжваўся да глыбокай ночы: ці то смакуючы, прыціскаў апанента да сцяны сваімі пытаннямі, ці то шукаў у сеціве патрэбную інфармацыю, каб выказацца заўтра, пакінуць у тэме яскравы і выразны пост.

Генадзя і паважалі, і асцерагаліся, хоць, зразумела, знаходзіліся і тыя, хто яго не любіў. Дакладней, той вобраз, які ён стварыў: едкага, бязлітаснага забойцу чужых ідэй і думак, цынічнага разбуральніка. Пакрысе, але няўхільна, яго аўтарытэт разбуральніка рос, і нярэдка, калі які актыўны навік хацеў на форуме эфектна заявіць пра сябе, здзівіць суразмоўцу нечым арыгінальным і цікавым, апошняга папярэджвалі: "Чакай-чакай, зараз прыйдзе Віконт...".

Віконт — гэта Генадзяў нік. Больш яго ніяк не ведалі.

"Рэч 24 міліметры ў дыяметры, каля 1,6 міліметра таўшчынёй з берага. На адным баку — выпуклая кветка з пяці пялёсткаў. Другі бок чысты. Срэбра. Па-варварску праз верхні пялёстак зроблена дзірачка і прапушчаны ланцужок. Вось малюнак. Хто мне патлумачыць: што гэта?"

Генадзь пачаў тэму, а сам усё шукаў у сеціве хоць нешта падобнае. Зрэшты, нічога дзіўнага не было: пяціпялёсткавая кветка не рэдкасць. Усё як звычайна: талісман.

"Падобна да кветкі канюшыны, пяціпялёсткавай. Трохпялёсткавая — звычайны амулет, які сімвалізуе тройцу. Чатырохпялёсткавы — талісман кахання. Ну, а калі пяць — то дзеля грошай насілі."

“Рэдкі амулет. Арыгіналаў не сустракаў, хоць цікавіўся. Адно бясспрэчна: лік пяць — не тройца Божая”.

“Баіцеся вы пяці, як чорт ладану”.

“Баяцца не трэба, а трэба ведаць: пяціканцовая зорка — сімвал таго, а не гэтага”.

“От зараз паклічам у тэму якога ветэрана, дасць ён за пяціканцовую зорку!”

“На пяціканцовую знойдзецца зорка Давіда”.

“Дык здолее хто падказаць мне: у якім кірунку шукаць?” — раззлаваўся Генадзь з таго, што ў тэме пачалі флудзіць.

“О, Віконт абураецца. Трымайцеся: колькі сябе памятаю, першы раз у нашага сябра няма адказу на пытанне))”

“Калі па справе пісаць, то казаць няма чаго. Хутчэй за ўсё, нейкі асабісты талісман, заказаны адмыслова для сябе. Ну, а кветку там намалявалі, ці яшчэ што — ніякай розніцы. Рэч не ў малюнку, галоўнае, каб ён розніўся, быў арыгінальным”.

“Вось, хоць нешта разумнае, дзякуй”, — адказаў Генадзь.

“А дзе знайшлі такую рэч? Шкада, што няма нідзе аналагаў, можа, яна каштуе нямала… Выкласці на аўкцыёне чорных археолагаў — яны ўмомант цану скажуць”.

“Не прадаю, — катэгарычна адмовіўся Генадзь. — Спадчына ад бабулі”.

Ён і не спадзяваўся знайсці адказу, зрэшты, і не абавязкова яму было ведаць, што за амулет у яго вось цяпер на грудзях, што значыць на ім кветка. Гэта было неістотным, другасным. Проста ўвесь вечар Генадзь адчуваў невытлумачальнае жаданне падзяліцца з як мага большай колькасцю людзей сваім набыткам. І калі напісаў апошнія словы — пра

спадчыну, адчуў палёгку, нібыта завершыў пачатую справу: калі раней заставаліся невялікія сумневы, не сумневы нават, а так, лёгкія аблачынкі сумневаў, дык цяпер, пасля напісання сваіх слоў, як пасля асабістага роспісу на строгім дакуменце, Генадзь канчаткова ўпэўніўся: незразумелы талісман быў пакінуты бабуляй яму і толькі яму. Бо бабуля ведала: ён стане тым чалавекам, які будзе над людзьмі.

Але нічога не здарылася ні на заўтра, ні за два дні, ні за тры. Напружанае чаканне нечага незвычайнага спакваля ўлеглася, Генадзь усё часцей задумляўся над тым, што на ўсё свая пара.

Жыццё амаль вярнулася ў звыклае рэчышча, хіба што адно змянілася: Генадзь накіраваў Людмілу спаць у вялікі, агульны пакой — ён не мог больш трываць яе цела побач з сабой цэлую ноч. Калі іх рукі ці ногі судакраналіся, ён адчуваў гарачыню, потым — непрыемную вільготнасць ад поту. Уначы ён міжволі стрымваў сябе, не мог, як карцела калі, раскінуцца, ці перакаціцца на другі бок. Людміла зноў не выказала ніякіх эмоцыяў: яна цалкам ужылася ў ролю бездакорнай служкі ці нават хатняй нявольніцы, і яе здавальняла яе месца. Прынамсі, Генадзь не заўважаў, каб яна праявіла хоць кроплю нейкага супраціву ці элементарнай незадаволенасці.

Іншым разам Генадзь задумана спыняў вочы на Людміле, калі тая пыласосіла падлогу ці мыла посуд, гатавала ці кахалася з ім. Бабуліны словы пра тое, што Генадзь будзе над людзьмі, спраўджваліся вось у гэтай дзяўчыне. Генадзь разважаў: калі ёсць такія, якія гатовы служыць, пераўтварыць сваё жыццё ў служэнне, значыцца, павінны быць і тыя, каму служэнне прысвячаецца. І зразумела, што першых у разы, у дзясяткі і сотні разоў болей за другіх. Людміла

абрала яго. А яшчэ сотні такіх людміл недзе шукаюць яго, Генадзя, яшчэ не зразумелі свайго прызначэння, як зразумела Людміла. І ён сам яшчэ нічым асабліва не паказаў свету, што гатовы прыняць іх. Пакуль што адна Людміла…

Праз тыдзень на форуме, пасля чарговай спрэчкі, а дакладней слоўнага баксёрскага раўнда, у якім Генадзь прафесійна і звыкла некалькімі кароткімі сказамі-аперкотамі заціснуў праціўніка ў кут і дабіў загадзя падрыхтаванай цытатай, ён заўважыў, што да яго ў асобку прыйшоў ліст. Не частая з'ява — Генадзь практычна ні з кім не падтрымваў такіх дачыненняў, якія давалі падставы весці схаваны ад іншых дыялог.

"Віконт, добры дзень! Колькі часу назіраю за вашымі слоўнымі баталіямі. Вы валодаеце рэдкім для нашага часу дарам разбіваць моўныя канструкцыі праціўнікаў імкліва, аргументавана і надзейна. Так, што праціўнік пачынае задумляцца над безсэнсоўнасцю таго, у што толькі што верыў. Колькі б ні казалі, што руйнаваць заўсёды прасцей, чым будаваць, аднак талент патрэбен і тут. Вось якая справа: ці не хацелі б вы ад забаў перайсці да больш прадметнай дзейнасці? Патлумачу: ёсць адзін аўтар, які напісаў адзін артыкул. Артыкул выкладзены ў сеціве. Трэба напісаць іншы артыкул, які б не тое што каменя на камені не пакінуў ад разважанняў аўтара (адразу не выйдзе, бо аўтар — доктар гістарычных навук), а каб паставіць пад сумнеў некаторыя аспекты артыкула. Вядома, такая работа будзе аплачаная. Калі якасць мяне задаволіць — 20 даляраў за тысячу знакаў без прабелаў (выбачайце, пустое месца не аплачваецца). Памер таго артыкула каля дзесяці тысяч знакаў. Вам не трэба пісаць столькі сама, ні ў якім разе болей. Скажам, 5 тыс. знакаў. Тэрмін — тры дні (Вам,

зразумела, трэба будзе невялікая тэарэтычная падрыхтаванасць.) Асноўны кірунак вашай працы я паведамлю, калі вы прачытаеце артыкул і дасцё сваю згоду. Вось спасылка на артыкул. Я не прыспешваю, але пажадана адказаць сёння".

Генадзь за хвіліну ўсхвалявана прачытаў тэкст ліста. Няўжо? Няўжо яго майстэрства слоўнага пікавання заўважылі — і ён мае шанец зарабляць на сваім уменні грошы? Вось жа, а яшчэ год таму нехта з удзельнікаў форуму казаў: падавайся ў капірайтары, з тваімі здольнасцямі будзеш зарабляць, седзячы дома, маючы вольны графік, і сам абіраць кліентаў. Не, капірайтарам працаваць Генадзь не збіраўся: атрымваць па 4–5 даляраў за старонку тэксту? Чаму ён не паступіў на філфак? Цяпер жа відавочна — мае ён талент пісання, мае! Так, таленты ва ўніверсітэтах не выдаюць разам з дыпломам.

Генадзь яшчэ раз перачытаў ліст. Пры ўсім тым, што ліст быў паважны, аўтар, адчувалася, чалавек справы: яшчэ Генадзь не згадзіўся з прапановай, а ўмовы ўжо выстаўленыя, і выстаўленыя жорстка. Цікава. Генадзь прайшоў па спасылцы, пабачыў, што гэты сайт — электроннае выданне. Знайшоў артыкул. Найперш здзівіўся — не на рускай мове. Пачаў чытаць і здзівіўся яшчэ болей: гаворка ў артыкуле ішла пра значэнне для людзей у час паганства святаў. Ніколі нідзе раней на такія тэмы яму спрачацца не даводзілася. Адмовіцца? Але ж 20 даляраў за тысячу знакаў! Адно незразумела: як аспрэчваць, у які бок? Аўтар кажа пра тое, што само рыхтаванне да свята вяло да змены свядомасці чалавека, рыхтавала яго да святкавання — і вызначаны момант чалавек сустракаў з іншай свядомасцю, ачышчанай ад штодзённых клопатаў, вызваленай ад нудных турбот, і таму да-

вала мажлівасць, імаверна, судакрануцца з нечым незвычайным, не штодзённым, адчуць і прыняць яго. Значыць, галоўным было не так само свята, як рыхтаванне да яго. І такім парадкам, адчуваючы ў адзін момант разам з усім родам, племем элемент незвычайнасці, чалавек усведамляў сябе як часцінку цэлага: свята было адно на ўсіх, больш таго, аднаму практычна і нельга было дасягнуць такога роўню змены свядомасці. Бо залучаліся музыка, скокі, полымя вогнішчаў, розная атрыбутыка…

Што тут можна сказаць супраць? Давядзецца дужа шмат шукаць і перачытваць усяго. Ды каб жа хоць які кірунак… Але чаму б і не паспрабаваць? Балазе, кірунак падкажуць…

“Пачытаў. Вельмі цікава і, не буду хаваць, незвычайна для мяне. Шчыра кажучы, не ведаю, як падступіцца”, — адказаў Генадзь на ліст.

“Прыемна пачытаць, што вас зацікавіла прапанова. Гэта галоўнае. Падступіцца зусім не цяжка, гэта толькі здаецца. Адразу давайце зробім з вамі так. Паглядзім на свята з іншага боку — з боку арганізатараў. Як вы думаеце, арганізатары, скажам, святочнага шэсця ў наш Дзень Перамогі маюць гэтакі ж святочны настрой, як тыя ветэраны, што ідуць у калоне? Відавочна ж, што і ў мінулым былі тыя, хто свята рыхтаваў, арганізоўваў — значыць, такім людзям нейкая там сакральнасць, што нібыта адкрывалася ў святкаванні, і непатрэбная была… Зразумелы ход маіх думак?”

“О, зразумеў! Значыцца, тыя, хто арганізоўваў святы, і не мелі ніякай патрэбы ў той сакральнасці, бо яе, хутчэй за ўсё, і не было! А далей можна паставіць пытанне: чаму ўсякая сістэма, у аснове якой ляжыць ідэалогія падпарадкавання меншасцю большасці,

так імкнецца да масавых мерапрыемстваў: камуністы, фашысты, ды проста кожная таталітарная…“ — адказаў Генадзь — яму стала цікава.

“Цудоўна, вы слушна ўсё зразумелі, але пра таталітарызм нічога казаць не будзем. Не трэба чапаць сённяшні час. А вось на камуністах трэба зрабіць акцэнт. Яшчэ лепей спрасціць разуменне камунізму да калгаснага ладу”, — пахваліў Генадзя невядомы суразмоўнік (у яго быў нейкі невыразны нік).

“Непраблемна. Тады ўсякае масавае мерапрыемства, арганізаванае зверху, скіраванае на дэманстрацыю нібыта еднасці… Адначасна існая сістэма кіравання правярае свае здольнасці: вывесці тысячы людзей, прымусіць натоўп дзеяць паводле зададзенага сцэнарыю, падпарадкаваць эмацыйны і псіхічны настрой натоўпу, кіраваць ім, мяняць згодна са сваім планам”, — падзяліўся Генадзь далей думкамі.

“Выдатна, кірунак той, які трэба. Я папрасіў бы вас зрабіць матэрыял як нібыта дыялог, але не злоўжывайце цытатамі аўтара артыкула. Сем з паловай тысяч знакаў, 20 даляраў за тысячу. Тэкст цалкам застаецца маім, самыя разумееце, ніякага аўтарскага права тут быць не можа. Чакаю праз тры дні ў гэты час артыкул на адрас…”.

Нешта непрыемна заказытала… Невядомы адно з першага погляду падаваўся мяккім і ўважлівым. Генадзя непрыемна ўразіў канец ліста: да ўсіх умоў дадалася яшчэ адна, якая і не абмяркоўвалася на пачатку: пазбыццё аўтарства. І раптоўна зменены аб'ём, жорстка ўказана на памер тэксту… Але пры ўсім казытанні Генадзь адчуваў павагу да невядомага і ягоную сілу. Павага — гэта ад грошай. Можа, лянуецца сам пісаць артыкул у які часопіс… Але ж такія грошы! Дык колькі яму самому плацяць? Ат, не яго

справа. А вось тое, што валявы, моцны чалавек… Дык выдатна: чаму б не завесці сяброўства з вось такім чалавекам? Нават калі Генадзь і будзе ў нейкай ступені не паўнапраўным, а малодшым сябрам. Галоўнае: невядомы заўважыў тыя здольнасці, якімі Генадзь употай мог ганарыцца.

Генадзь адразу, хоць было ўжо далёка за поўнач, стаў шукаць яшчэ якія артыкулы па тэме старажытных святаў і іх значэння. Нічога асаблівага не знаходзіў, альбо артыкулы былі такія велізарныя, складана-навуковыя, з мноствам тэрмінаў, значэнне якіх яшчэ трэба было шукаць, што Генадзь адмовіўся ад шуканняў. Усё патрэбнае ў яго ёсць: ён досыць добра ў свой час даведаўся пра ідэалогію камунізму ў СССР, нямала прачытаў рознай літаратуры, то “раскласці на лапаткі” таго доктара навук з яго наіўным меркаваннем пра шуканне і здабыванне сакральнага ў часы паганскіх святаў будзе не цяжка.

Артыкул Генадзь пісаў зранку, усе сем з паловай тысяч знакаў, не ўстаючы з-за клавіятуры. Людміла прыносіла паесці, потым каву, выкідала недакуркі з попельніцы.

Позна ўвечары Генадзь перачытаў артыкул, сам дзівячыся той лёгкасці і дакладнасці думак, якія нараджаліся ў яго наранку. Артыкул падабаўся яму самому. Ён ужо хацеў напісаць ліст да заказцы: гатова, маўляў, але перадумаў — трэба слухаць старэйшых: тэрмін ёсць тэрмін.

“Тое, што і патрабавалася. Калі ласка, партманет. Ваш артыкул будзе падпісаны вось такім імем… Сёння ён будзе размешчаны на адным рэсурсе. Вы зойдзеце туды і пастарайцеся дасціпна адказваць на каментары. Пазней я вышлю Вам дадзеныя для ўвахода”.

Зноў казытнула: вось, не было ж дамоўлена напа-

чатку, што Генадзь павінен адказваць на тыя каментары… Але ён змаўчаў — той факт, што ён не памыліўся з ацэнкай свайго артыкула, грэў самалюбства. Дык і праўда ж цікава: што будуць казаць тыя вучоныя дзядзькі на яго з’едлівы сцёб?

Генадзь адправіў нумар партманета, пераказ быў зроблены адразу ж: 150 даляраў. Прыемная сума! Але… пераказ быў з пратэкцыяй коду. Генадзь раптам адчуў у сабе халодную пустэчу: няўжо кідок? Не можа быць! Ён хацеў пісаць заказцы, калі пабачыў: прыйшоў ліст.

“Выбачайце, тэрміновае тэлефанаванне было, таму не адразу паведаміў код пратэкцыі. Вось ён… Дарэчы, неразумна з Вашага боку хваліцца на ўвесь свет такім медальёнам.”

Сэрца быццам спынілася, а потым затахкала так, што ўдары яго адчуваліся кожнай кропкай цела. Генадзь глядзеў на літары на маніторы, і адна думка білася, звінела ў ягонай галаве кароткім гукам: “Знак… Знак… Гэта знак!”

# ЧАСТКА 3

## 1

Алесь Лобач добра ўсвядоміў, што непрыемнасці здараюцца заўсёды нечакана. І прывучыў сябе, здавалася, прымаць іх годна, прынамсі трымацца і не дазваляць свайму параненаму нутру праяўляць сябе праз вонкі. Аднак ва ўсім бывае вынятак, іначай правіла перастае быць правілам. Так здарылася і ў панядзелак, дзень, які зранку яшчэ поўніўся суботнім рыбацтвам ды нядзельным баўленнем са злоўленай рыбай, дзень, у якім яшчэ звінела камарэча і паплавок на тонкіх хвальках гойдаўся, і рукі памяталі слізкае срэбра рыбы.

Гэта было несправядліва — менавіта ў такі ранак даведацца, што фінансаванне палявых работ скарацілі не на траціну, не на палову, а аж на дзве траціны.

— Штогод усё меней і меней першакурснікаў, якія шчыра гатовыя ўзяць удзел у палявых работах. Іх збіраеш, іх натхняеш і абяцаеш ім сустрэчу з сапраўдным. Трэба бачыць і разумець, як балюча сустракаць пасля ўсіх размоў пустыя вочы, а больш такія, у якіх напісана: “Ідзі сам, калі дурны!”. Няма ў вас грошай? Дык дазвольце нам самым сябе прафінансаваць! Нельга! Мне што, сапраўды на лета напісаць мэту работ: “Шуканне сведчанняў пра роднасць суседніх народаў на базе народных прымавак і прыказак пра хлеб, радзіму і Сталіна”?

— Дык жа трэба будзе справаздачу пісаць, а потым яе надрукаваць папрасяць... у якім папулярным выданні.

— Затое Алесь Паўлавіч стане адным з найбольш цытаваных этнографаў у ідэолагаў раённага роўню.

Лобач толькі роспачна махнуў рукою на рэплікі калег. Штогод фінансаванне скарачалася ад запланаванага, але каб нагэтулькі, каб вось так, каб у апошні літаральна дзень — такога даўно не было. І выйсця не было: трэба скарачаць колькасць студэнтаў, колькасць дзён, мяняць маршрут...

Тут і ўспомніўся ўчарашні выпадак на рыбе, і рыхтык цаглінка легла ў сцяну, якой якраз і не ставала. Што ўжо хаваць — чакаў Лобач непрыемнасці, чакаў. Хоць і супраціўляўся яго розум навукоўца-даследніка розным прымхам і прыкметам, не мог ён ніяк выкінуць са свядомасці ўчарашні трэці закід і трэцюю рыбіну.

Добра брацца пачало адразу. Ужо за пяць хвілін шмаргануў — і такі харашун лінок затрапятаў на лёсцы. Потым — акунь ладненькі. Трэцяя спроба была дзіўная: паплавок без аніякіх кіўкоў павольна пайшоў у ваду. Шмаргануў, нешта незвычайнае выцяла па вачох, і працягнутая да злоўленага рука інстынктыўна тарганулася ўбок ад гідлівасці: на лёсцы мёртва вісеў, не варушыўся зусім, карась велічынёй з далонь, амаль без лускі, а з бакоў у яго звісалі агідныя, тоўстыя п'яўкі. Алеся страсянула, ён нагой наступіў на мярзотнае відовішча, хуценька вызваліў кручок і нагой жа адкінуў цела рыбіны з прысмактанымі крывасмокамі далей ад вады, пад лазовы куст. Здаецца, адкуль у яго, хто маленства правёў у вёсцы, хто пазбываўся п'явак, як прысмокчуцца да нагі, з дапамогай прыпаленай цыгарэты, магло ўзнікнуць

пачуццё гідлівасці? Але думкі тлумілі галаву: як яшчэ плаваў той карась, ён жа фактычна нежывы, як ён узяў прынаду? Кручок хапануў так, як ішоў на самазабойства. І ўвесь дзень, вышморгваючы рыбін з вады, Алесь баяўся зноў пабачыць якую плотку з п'яўкай, браў рыбіну асцярожна…

— Алесь Паўлавіч, Вас там пытаюць, — паклікалі ад дзвярэй.

Зразумела, цяпер Лобач акурат і не хацеў ні з кім бачыцца. Ідучы да дзвярэй, успомніў, што дамаўляўся пра сустрэчу з тым завочнікам, вяскоўцам. Можа таму і не напружваўся, не змог схаваць цалкам (дый надта не імкнуўся) сваю прыкрасць на твары.

Уладзімір Жабрун сустрэў яго асцярожнай, нават вінаватай усмешкай.

— Выбачайце, мы неяк не дамовіліся пра час… То я зранку, вось…

— Нічога, усё нармальна… Адыдземся вунь у той куток, пагаворым. Хоць мне, папраўдзе, асабліва няма часу, раптоўныя праблемы…

— Ды я хутка, — заспяшаўся Уладзімір, расшпіліў торбу, у якой ляжаў і ноўтбук, дастаў аркушы:

— Вось, аповед пра Купалле маёй гаспадыні. Мне здалося, там цікава вельмі… Незразумелае ёсць у адным месцы.

— І ў якім? — Лобач узяў аркушы з тэкстам, заўважыў, што аформленыя яны так, як ён і папярэджваў: з указаннем месца дзеяння, аўтара аповеду, яго дадзеных.

— Ну… Там пра тое, як шукаць Папараць-кветку, — выказаў свае сумненні Уладзімір.

Алесь Лобач нічога не адказаў, хутка прабег вачыма дзве старонкі тэксту, потым вярнуўся, стаў перачытваць асобныя месцы больш уважна.

— А мяне напачатку іншае зацікавіла, — зірнуў ён на Жабруна. — Вам вось парадак запальвання купальскіх вогнішчаў нічога не кажа?

— Не, бадай што, — ніякавата пацепнуў плячыма Уладзімір.

— Дрэнна, малады чалавек, дрэнна! — Лобач казаў рэзка і асуджальна. — А гэта тое, пра што я казаў раней: спроба шукання нечага без навучання і базавых ведаў. Калі б у вас былі гэтыя базавыя веды пра Купалле, дык звярнулі б увагу на такую акалічнасць. Бо ўва ўсіх вядомых крыніцах пра такі парадак не ўзгадваецца.

— А пра што ён… сведчыць? — асцярожна запытаў Уладзімір, цешачыся ўнутры: яго запіс у нечым арыгінальны і цікавы для выкладніка.

Лобач хацеў раззлавацца, але потым усміхнуўся:

— Вас, мабыць, не перарабіць. Хто ж ведае, чаму так было і навошта рабілася? Шукаць трэба, шукаць.

— А я падумаў…

Уладзімір стрымваў сваё хваляванне, яго распірала ад радасці: ага, не памыліўся, выкладніка таксама зацікавілі агні! Яшчэ першы раз праслухоўваючы запіс, пасля гаспадыніных слоў пра тое, як запальвалі вогнішча, ён у нейкае імгненне быццам пабачыў усё з вышыні: вось, недзе пачынаецца — і запальваюцца адной лініяй агняныя кропкі на зямлі. І — пайшло, далей, далей імкліва бяжыць ужо не лінія — паласа, а ззаду ад яе ззяе Купальскімі агнямі зямля. І раптам асвятляецца яна, нібы ўзыходзіць сонца сярод ночы, нібы аднекуль адтуль, з глыбінь космасу, ўпаў на краіну гаючы прамень чарадзейнага святла — і круціцца зямля, паступова падстаўляе яму ўсю Беларусь ад канца да пачатку, ад усходу на захад.

Ён і не спяшаўся апавядаць выкладніку пра свае здагадкі, чакаў: а ці зверне ён увагі, бо калі не зверне — то нічога і дзіўнага няма, шараговы выпадак, так заўжды было, тады і хваляванне тое, і разлікі Уладзіміравы нічога не вартыя.

— І пра што падумалі? — скептычна перабіў Лобач. — Не-не, кажыце, мне проста цікава, вось пра што можна падумаць, сустрэўшы такі факт? Чым патлумачыць? А Вы ж, пэўна што, маеце і нейкае тлумачэнне, я так зразумеў?

— Дзе там, патлумачыць не магу, — раптам асмялеў Жабрун. — Я прачытаў пра спосаб запальвання і потым надумаў палічыць...

— Што палічыць? — уразіўся Лобач болей таму, што Жабрун усё ж звярнуў увагу на той самы факт.

— Знайшоў мапу той мясцовасці, дзе жыла гаспадыня, ну, аўтар гісторыі. Старую мапу. Паглядзеў адлегласці між вёскамі з усходу на захад. Падлічыў прыблізны час, які патрэбны, каб агонь жыгнуў і яго стала добра відаць з суседняга паселішча. У выніку выйшла... Вось, паглядзіце, — Уладзімір дастаў яшчэ аркуш з сумкі, падаў Лобачу. — Карацей, у выніку выйшла, што ўсе вогнішчы, калі запальваліся паводле такога правіла, загараліся адначасова. То бок, я хацеў сказаць — у адзін астранамічны час. Калі ўлічыць, што жэрдзе нашмараванае дзёгцем, успыхвала добра... Уяўны прамень сонца пры яго ўзыходзе бяжыць праз усю цяперашнюю краіну з усходу на захад і прабягае яе за крыху больш за трыццаць хвілін. Вось калі б усе вогнішчы запальваліся такім спосабам, як апісвае мая гаспадыня, то і хваля з агнёў бегла б з той самай хуткасцю... Вось. Я толькі не разумею, дзеля чаго людзі так рабілі. Думаю, для людзей было галоўнае менавіта ў адзін астранамічны час. Яны ж разумелі, што зямля круціцца.

— Таго яны не разумелі, — механічна заўважыў Лобач, уражаны кірункам Жабруновых думак: ён прыняў бабуліны словы як даведзены факт, як дадзенасць, і не раздумваючы — навошта, з якой прычыны, надумаў правяраць агнёвую хвалю на хуткасць. І не памыліўся — цікавыя лічбы. Што гэта? Інтуіцыя?..

— Няблага выходныя прайшлі, нядрэнна папрацавалі, — мусіў пахваліць ён Жабруна. — Пакуль што можна папярэдне меркаваць, што хваля імітавала сабой узыход сонца. Не забываймася, Купалле звязанае перадусім з сонцам.

— Я вось толькі ў той частцы пра Папараць-кветку не зразумеў, — працягнуў Уладзімір, унутрана цешачыся ад слушнасці сваёй здагадкі (недарэмна ж лічыў!) і радуючыся таму, што настрой выкладніка змяніўся. — Як зразумець: каб перамагчы Богавых ворагаў, трэба ад Бога адмовіцца?

Лобач кіўнуў, жэстам папрасіў пачакаць, перачытаў яшчэ раз уважліва тэкст.

— Я не думаю, што тут шмат загадкавага. Але сапраўды — вельмі аўтэнтычны тэкст, чым і прываблівае. Што да фрагмента з адсячэннем пальца і абразом… Гэта паказвае на ўплыў хрысціянства. Своеасаблівая забарона, заклён на распаўсюджаную легенду. Адна справа сумнявацца ў тым, ёсць Хрыстос ці не, маліцца нейкаму свайму богу, і зусім іншая — выканаць такія дзеянні: не словам адмовіцца ад Хрыста, што ўжо для чалавека тае пары было страшным, а дзеяннем, прытым, заўважце, такім, якое нельга схаваць: ты ж навек застаешся з пакалечаным пальцам, цябе імгненна пазнаюць. Адлучаць ад царквы — што было страшнейшае? Хоць, згаджуся, словы пра тое, што Папараць-кветка — смерць для рознай чартаўні, мне незразумелыя…

— Дык трэба шукаць… — уставіў Жабрун.

— Шукаць трэба, — з усмешкай згадзіўся Лобач. — Але шукаць яшчэ такія самыя запісы, мноства запісаў, параўноўваць іх, аналізаваць — і потым рабіць нейкую выснову, уносіць нешта новае ў разуменне свята і самой легенды. Але нельга такое рабіць паводле аднаго аповеду адной бабулькі з адной вёскі. Разумееце?

— Зразумела… — крыху расчаравана адказаў Уладзімір. — А дзе шукаць?

— Вось гэтаму і вучыць універсітэт, — стомлена прагаварыў Лобач. — існуе практыка палявых работ: мы ходзім са студэнтамі па вызначаным маршруце, занатоўваем усё цікавае. Потым аналізуем…

— Вазьміце мяне, — адразу папрасіўся Жабрун.

Ён хвіліну таму не думаў, што папросіцца, але тут яму падалося, што ў такіх шуканнях ён абавязкова нешта знойдзе, што гэта — яго сапраўдная работа, якую ён шукаў, тое месца, дзе ён знойдзе адказы на свае пытанні.

— Не магу цяпер… Усё не так проста: спісы складзеныя, фінансаванне, планы, — Лобач ізноў вярнуўся ў думках да прыкрай навіны і амаль што скрыгатнуў зубамі. — Можаце самыя… Проста быць з намі, але я не змагу адказваць за вас: ні за начлег, ні за ежу. У вас адпачынак такі вялікі?

— Так… Дамоў… у вёску я не вярнуся пакуль што, напэўна. Бо няма куды. У мяне адпачынак амаль тры месяцы, летась не браў. Жыву ў бабулькі, думаю, знайду тут работу… А вы казалі, што для мяне праца ёсць? — нагадаў Уладзімір выкладніку пра размову на экзамене.

— Так, ёсць… У Вас, бачу, ноўтбук, то вось вам флэшка, скіньце файл. Вялікі, тэкставы. Тое — запісы са

сшытка, які знайшлі ў адной вёсцы. Аўтар занатаваў, на жаль, быццам не ведаў правілаў пунктуацыі, ці адмыслова ігнараваў іх, але там ні косак, ні кропак, ні вялікіх літар, ні абзацаў — усё ўпадбор ідзе. Як мы зразумелі, там — замовы. Ведаеце, што такое?

— Ведаю, — пасьпяшаўся адказаць Уладзімір, запускаючы свой ноўтбук.

— Вось… Звычайна, каб прывесці ў парадак такія запісы, трэба браць падобныя тэксты, якія запісаныя нармальна, шукаць аднолькавыя выразы, словазлучэнні. Словам, вялікая работа. Там жа ёсць спіс літаратуры. У тых кнігах падаюцца прыклады розных замоў, іх параўнанне. Але, я так зразумеў, Вы хочаце прапанаваць і паспрабаваць нейкі свой метад? Ну, тады — працуйце. Запішыце мой тэлефон… Яшчэ два тыдні я ў горадзе, ну, а далей як складзецца. Але на экзамен не забывайцеся, — скончыў Лобач такім тонам, каб студэнт зразумеў: ён дае яму заданне як прыклад, навуку, яму, Уладзіміру, што без сапраўдных ведаў, без досведу нельга брацца за развязванне хоць нейкіх заданняў.

— Ага, дзякуй… Я паспрабую. У мяне ёсць адна думка. Яшчэ… Памятаеце, я казаў Вам пра Купалле як ініцыяцыю, ну і што Царква сёння кажа пра яго, як пра свята распусты. Там вось мая гаспадыня вельмі цікава кажа пра тое, што на Купалле не лічылася грахом дзяўчыне… аддацца каханаму, калі наперадзе не планавалася вяселля з нейкай прычыны. Я не чытаў раней такога пра Купалле нідзе.

— Так, я звярнуў увагу, — кіўнуў Лобач. — Над тэкстам трэба добра пасядзець, выбраць моманты. Працуйце, тэлефануйце. Калі не выйдзе па-вашаму — бярыце літаратуру, спрабуйце так, як робім мы. Хоць будзеце ведаць, ці лёгка — шукаць…

Развіталіся. Лобач прыхапіў аркушы з Уладзіміравымі нататкамі аповеду Марыі Фамічны, пайшоў на кафедру.

Уладзімір паспяшаўся шукаць аўдыторыю — здаваць залік. Яму карцела хутчэй адкрыць файл, хоць краем вока зірнуць на тыя невядомыя словы. Не можа быць, каб ён не здолеў упарадкаваць іх. Што тут такога можа быць складанага? Эх, навукоўцы, усё паводле шаблону, з аглядкай на вядомае, асцярожненька, каб не памыліцца, каб яшчэ дваццаць аўтарытэтных крыніц паказаць… А той факт, што тыя аўтарытэты даўно маглі састарэць — нікога не хвалюе? Ды каб сёння людзі азіраліся назад у сваім вынаходніцтве, што прыдумалі б? Да гэтага б часу ўважалі, што Сонца вакол Зямлі круціцца…

## 2

Уладзімір вярнуўся з універсітэта ў добрым гуморы — залік здаў, да абеду яшчэ далёка. Пах падлы ў вітальні трохі паменшаў, але быў па-ранейшаму густы, насычаны з прычыны зачыненых фортак акон, і першае, што пасля іх адчынення зрабіў Уладзімір — адкінуў ходнік і ўзняў вечку невялікага падмосця: бачыў, што тут гаспадыня ставіць на зіму свае шклянкі з гуркамі і ўсякім іншым.

Чакаў, што ў нос шыбане смурод, ужо і дыханне затрымаў. Але не было смуроду з падмосця. Неглыбокая яміна з адзіным літровым слоікам шчаўя на роўным пясчаным дне. Усюды было чысценька і суха. Уладзімір апусціўся на калені, зазірнуў у яму, прынюхаўся. Тут ніякай падлай зусім не пахла. Выцягнуў

з кішэні запальнічку, у якой быў невялікі дыёдавы ліхтарык, увамкнуў. Сіняваты снапок святла асвятліў прастору між зямлёй і падлогай. Чыста ўсё. Нідзе нічога. Хоць калі тут мыш за якім слупком здохла, яе не пабачыш адразу. Скокнуў у яму, прысеў, счакаў. Не, не патыхае нічым. Чыстае паветра. Аднекуль далёка, ад сцяны лезла ў падмосце дзённае святло — праз адмысловыя дзіркі для праветрывання. Прыгледзеўся: дзіркі, хоць і не маленькія, але затуленыя шчыльнай сеткай.

"Значыць, нешта ў хаце".

Найперш прылёг аж ля дзвярэй бабульчынага пакоя, падставіў ноздры пад шчыліну між дзвярыма і парогам. Не, не было тут паху.

Што ж, значыць — вялікая прыборка!

За дзве гадзіны ён дамыў сходы на ганку, выпаласкаў і выкруціў анучу, кінуў на плот сушыцца. Выліў брудную ваду. Зайшоў у дом, у якім цяпер пахла свежасцю і трохі сырасцю. Усе форткі былі парасчыняныя, разнасцежаныя ўсе дзверы, па доме гуляў добры скразняк. Пах, здаецца, знік.

Уладзімір быў здаволены зробленым: у доме пачысцела і пасвяжэла. А то хто ведае: раптам (ну, а раптам!) такое здарыцца, што сёння (ці заўтра) тут будзе Ірына…

Зайшоў на веранду, глянуў у кут, дзе стаяла паліца з абуткам: галёшы, невялікія боты, пантофлі. Неяк яе абмінуў, толькі абмыў. Трэба, мабыць, адсунуць яе, добра працерці драўляную, з дошак, сцяну за ёй, абутак гэты бабулін памыць. Зноў набраў вады, прыхапіў анучу. Сцяна за паліцай і праўда была ў шматкох павуціння і пылу. Дошкі сцяны былі набітыя такім спосабам, што паміж дзвюма заставалася шчыліна, якая з вонкавага боку накрывалася трэцяй дошкай. І вось

у такой шчыліне Уладзімір пабачыў тронак і частку ляза нажа.

“Мабыць, паклала бабуля, на палічку, ён упаў так, што каўзануўся ў шчыліну. І не ўгледзіш”, — думаў Уладзімір, выцягваючы нож. Нож, з усяго відаць, быў стары і самаробны: тронак драўляны, лязо шырокае і доўгае, паедзенае іржой.

“Пашарую, навастру… Мабыць жа, шкадуе, што згубіла”.

Лязо нажа шараваў на кавалку чырвонай цагліны, якую знайшоў пад плотам у садку. Дабяла лязо не адчысцілася, але стала куды прывабнейшым. Такім ужо можна рэзаць хлеб…

Схадзіў, папалуднаваў у кавярні. Было вялікае жаданне прылегчы на паўгадзіны, але пакуль дайшоў да дому, санлівы настрой знік.

Кухня мясцілася на ўсходнім баку дома, дзверы яе былі насупраць, праз калідорчык ад Уладзіміравага пакоя. І калі цяпер ягоны адчынены пакой запоўнены сонечным святлом і там горача, дык на кухні проста выдатна сядзець пры стале з ноўтбукам. Замест попельніцы Уладзімір узяў адзін бабульчын сподачак — падумаў, што цяпер не будзе ніякага страху, калі ён будзе курыць у доме. Форткі адчыненыя…

Ноўтбук па цэнтры стала, праваруч — попельніца, цыгарэта і кубак з гарачай кавай. Уладзімір адчуў лёгкае хваляванне: усе ягоныя дзеянні былі падобныя да рытуалу, акту рыхтавання да вялікага і велічнага. Прыкурыў цыгарэціну, зацягнуўся, выпусціў дым у фортку, адпіў глыток кавы. Пстрыкнуў па значку перададзенага выкладнікам файла.

“Гара-гара стала ясна сонца косы распусціла дзеўка абярніся шэрай ваўчыцай зямліца-парадзіха…”

Уладзімір прачытаў першы радок, пацепнуў пля-

чыма. Як быццам, нічога складанага… Не, чорт, хто тут косы распусціў? Дзеўка ці сонца? Не заўважыў, як дагарэла ў попельніцы цыгарэта, закурыў новую. Кава астыла. Падхапіўся, наліў вады ў чайнік, паставіў і зноў прысеў за экран ноўтбука. Уладзімір чытаў далей, выхапляў са старонак асобныя радкі і паступова на яго находзіла роспач: не выйдзе! Не выйдзе вось так, з наскоку прывесці ў парадак запісы. Падумаў, што варта спрабаваць прамаўляць сказы ўголас, з рознай інтанацыяй, робячы прыпынкі ў розных месцах.

Чайнік засвістаў, Уладзімір вымкнуў яго, не запарваючы кавы. Мінула гадзіна ці болей. Бясконцыя спробы з асобных слоў складаць сказы, прамаўляць іх безліч разоў для вытрымвання нутранога рытму перасталі быць лёгкай цікавай гульнёй. Казаў у голас, падбіраў варыянты прыпынкаў асобных словазлучэнняў, паўтараў паасобку, потым па пяць-шэсць радкоў… І тут Уладзімір глянуў на сябе збоку: малады, здаровы мужчына нешта мармыча, з паўтары гадзіны сыпле дзіўнымі словамі, як які звар’яцелы кніжнік. Хто так занатоўваў тэкст? Дзе тут коска, дзе кропка, дзе пачатак, дзе канец?

Запарваў сабе каву некалькі разоў, выкідаў попел і недакуркі, мыў сподачак, спадзеючыся ўпотай, што яго простыя дзеянні дапамогуць ачысціць сам розум, каб туды пратачыўся нейкі ўніверсальны ключ разумення. Не выходзіла.

У пакоі патроху шарэла. Ужо надвячоркам Уладзімір выйшаў з-за стала і амаль фізічна адчуў, як паветра пакоя загусцела, замяшанае на дыме цыгарэт і показках-заклёнах (ці што там яшчэ было). У вялікай пустой хаце зрабілася вусцішна, яму не хацелася прыслухоўвацца да розных гукаў дома — ён баяўся

пачуць рэха сваіх слоў, што недзе заблудзіла там. Здавалася, што голас ягоны цягнула ўвесь час, як дым ад цыгарэт скразняком, туды — у вялікі пакой, а з яго — пад замкнёныя дзверы бабульчынага пакойчыка.

Першы раз, калі такая думка гэта з'явілася ў ягонай галаве, уявіліся самыя словы — такія… празрыстыя струмені, што павольна набліжаліся да дзвярэй, апускаліся ніжэй і потым імкліва, як хто іх адтуль магутна засмоктваў, знікалі пад дзвярыма. Ён здрыгануўся тады, скура на галаве сціснулася. І потым не мог дакладна сказаць: падумаў пра струмені і прымроіў іх, ці пабачыў, а потым падумаў…

Было палова на дзясятую вечара, сонца села, гарачыня спала. Досыць на сёння… Вымкнуў ноўтбук, зачыніў тэчку з рукапісам і ажно нібы праяснела ў галаве — як у той шэрай кухні пасвятлела. Ад кавы і цыгарэт ужо злёгку ванітавала. За гадзіну… так, за гадзіну, трэба быць у кавярні — там сёння мусіла быць Ірына.

На верандзе, у бабульчынай каморцы быў душ, з электрычным награвальнікам вады на сцяне. Уладзімір абліваў сябе халоднай вадой, знікалі млявасць у целе і тлум у галаве. Няспешна, адцягваючы момант сустрэчы з халадком вечаровай вуліцы, адзеўся ва ўсё чыстае, светлае, адчуў сябе лёгка, упэўнена. На парозе пастаяў: ці ўсё вымкнуў? Зноў узнікла прыкрае пачуццё, што ў доме нехта ёсць. І ён чакае, пакуль гаспадар пойдзе. Уладзімір міжволі здрыгануўся — такім моцным было адчуванне чужога, яшчэ раз абгледзеў калідор, пакой вялікі і свой, кухню: нікога, паўзмрок. Пстрыкнуў вымыкачом на калідоры і шпарка выйшаў. Цемра, што скокнула з вялікага пакоя, падалася варожай, амаль жывой. Не хацелася заставацца ў ёй ніводнага лішняга моманту.

Зашчапіў замок.

Ужо было амаль цёмна. Уладзімір прайшоў ля аднОй сцяны дома, збочыў, пайшоў уздоўж свайго пакоя. Проста над ім навісала вялікае вычварнае акно. Уладзімір заўжды лічыў вокны вясковых хат і гарадскіх дамоў вычварнымі, непрыгожымі. Але вясковыя вокны хоць і нагадвалі яму страшныя твары: лоб, вочы, шчокі, ды тыя твары былі хіба што суровымі маскамі. У вокнах бабульчынага дома Уладзімір яшчэ раней адзначыў неверагодную прапорцыю, і вокны ад яе выглядалі не мёртвымі маскамі, а тварамі жывых і злых істот.

Ён акурат параўняўся з цёмным акном. І сам потым не ведаў, чаму ён ўзняў вочы. Можа, бочным зрокам заўважыў нешта незвычайнае, ці нейкі рух.

Стаў і стаяў, халадзеючы і, здавалацца, трацячы свядомасць, глядзеў на акно.

З ягонага пакоя, прыціснуўшы твар да самай шыбы, так, што расплюшчваўся тонкі хцівы нос, вышчарыўшы жоўтыя тонкія зубы, з вар’яцкай нянавісцю глядзела на яго гаспадыня, Марыя Фамічна.

Уладзімір, бы ў сне, зрабіў крок, яшчэ крок, і пайшоў, адчуваючы, як скура на галаве сціснулася, сабралася так, што пачала ціснуць на чэрап. Сэрца нібыта спынілася.

Уладзімір прайшоўся садам, выйшаў на вуліцу і тады здолеў азірнуцца.

Было ціха і спакойна. Ніхто не гнаўся за ім. Не відаць было ніякіх рухаў у вокнах. Бабульчына акно было завешанае, як і ўдзень, фортка акна зачыненая.

“Чаго ж туды так цягнула дым?” — недарэчнае пытанне ўзнікла ў галаве, недарэчнае таму, што Уладзімір ведаў: на яго не атрымаць адказу.

Ён павярнуў да ўніверсама, зайшоў у невялікі бар. Спытаў сто грамаў каньяку, піў маленькімі каўточкамі, і нядаўная жудасць пакідала свядомасць з кожным глытком.

“Зусім запрацаваўся, — думаў Уладзімір. — Кавы кубкаў шэсць выпіў, высмаліў амаль пачак цыгарэт — так нядоўга і з глузду з’ехаць”. Але прыкра было іншае — нічога не ўдалося з тэкстам. Вядома, у яго заставалася выйсце, падказанае выкладнікам. Браць вядомыя тэксты, вышукваць падобныя звароты…

Але і пры такім раскладзе не кожны тэкст будзе перададзены на сто адсоткаў слушна! Трэба думаць… Мусіць быць нейкі асаблівы падыход, яго трэба знайсці.

Зірнуў на мабільнік — самы час кіравацца ў кавярню.

Падыходзіў да знаёмых дзвярэй пад зыркай рэкламай са зразумелым хваляваннем. А раптам Ірына сядзіць цяпер за столікам? Гэта шмат пра што сведчыла б.

Але Ірыны не было. Кавярня амаль пустая, толькі за двума столікамі сядзелі наведвальнікі. Панядзелак — не пятніца, нават у вялікім горадзе.

Уладзімір прысеў, і да яго ўмомант падышла кельнерка, паклала на столік складзены ўдвая аркушык, прытрымала яго пальцамі:

— Вы, здаецца, збіраецеся чакаць тут адну жанчыну?

— Так, — разгубіўся Уладзімір. — А што здарылася?

— Вам прасілі перадаць, — кельнерка прыбрала пальцы з аркушыка і пасунула яго бліжэй да Уладзіміра.

“Выбачайце мне, калі ласка! Ішла побач удзень, не магла не завітаць, каб як Вас папярэдзіць. Мяне сёння не будзе ў горадзе. Чакаю вас заўтра. Ірына”.

Уладзімір прачытаў перш увесь тэкст, потым перачытваў яго асобнымі сказамі. Тая невялікая прыкрасць, што Ірына не прыйдзе, зараз згладзілася яе такімі цёплымі словамі ў цыдулцы: бач, завітала папярэдзіць, абяцае чакаць…

Калі склаў запіску, кельнерка падышла зноў, і хоць Уладзімір не хацеў кавы, але надумаўся зрабіць заказ — няхай і ёй, афіцыянтцы, будзе прыемна. Пасля сустрэчы з Ірынай ён, нечакана для сябе, прыняў як факт тую думку, што кельнерка мусіць радавацца кожнаму наведвальніку, кожнаму заказу — гэта ж яе грошы, урэшце. Калі разлічваўся, пакінуў дзве тысячы ў той вокладцы з нататніка: за дадатковую паслугу — перадачу ліста.

Прыцемкі яго вуліцы, а потым і густая цемра старога сада, у глыбіні якой шэрай плямай свяціўся дом, неяк аж узварушылі валасы на галаве. Уладзімір мусіў прызнацца сабе, што баіцца заходзіць у дом. Зрэшты, ён зойдзе. Але не зможа вымкнуць святла і заснуць.

Яму было сорамна прызнавацца ў сваім страху, нават самому сабе. Уладзімір вярнуўся на сваю “кропку”, выпіў. На гэты раз ужо гарэлкі, узяў бутэльку з сабой, кавалак каўбасы — раптам так захацелася есці, дык успомніў, што ад абеду толькі каву піў.

У вітальні, якая пераходзіла ў доўгі калідор, запаліў святло. Потым — у вялікім пакоі, у сваім, на кухні. Увамкнуў ноўтбук, запусціў прайгравальнік. Абы не было цішыні.

Сядзеў, выпіваў і закусваў. Курыў. Пакуль думкі ў галаве не сталі блытацца.

Прынёс ноўтбук у свой пакой, скрозь павымыкаў святло, толькі ў сваім пакоі пакінуў гарэць лямпачку пад столлю. Распранацца не стаў. І заснуў, як праваліўся.

## 3

Калі Уладзімір расплюшчыў вочы, было светла, але не ад лямпачкі — ад акна. Зірнуў на мабільнік: палова на дзясятую. Званок, які зазвычай стаяў на сем гадзін, быў вымкнены. Галава цяжкая, у роце перасохла. Устаў, прайшоў на кухню. Пабачыў на стале паўбутэлькі гарэлкі, высахлы скрылёк каўбасы, і яго перасмыкнула, ледзь не званітавала. Даўно ён гэтулькі не піў. Вельмі даўно…

Доўга чакаў, пакуль сцячэ цёплая вада з-пад крана. Сквапна выпіў першую шклянку, набраў яшчэ, гэтая была яшчэ халаднейшая.

Адразу зашумела ў галаве, Уладзіміра захістала. “Пайду, яшчэ пасплю. Сёння няма куды… спяшацца”.

Ён не ведаў, колькі праспаў і ці быў гэта сон. Вярнула яго да свядомасці адчуванне, што ў пакоі зноў нехта ёсць. Ці нешта. Нешта страшна варожае, яно не існавала асобым целам, яно проста запоўніла сабой увесь пакой і душыла, ціснула так, што нельга было не тое што павярнуцца — паварушыць хоць пальцам. Уладзімір глядзеў у адну кропку — над дзвярыма, туды, дзе сходзіліся сцяна і столь, і не мог нікуды больш перавесці пагляду. Здавалася, менавіта там былі невідомыя страшныя вочы, адтуль выходзіла самая жуда. Жах скаваў мозг, заставалася вольнай адна-адзіная думка: “Я сплю! Я сплю! Трэба закрыць вочы, закрыць, потым адкрыць, і я прачнуся. Гэта сон, нікога няма, гэта сон”. Уладзімір амаль лямантаваў. Самым жудасным было тое, што вакол было светла — сонца ўжо стала зазіраць у акно пакоя.

Вочы ўдалося заплюшчыць. Хоць, мабыць з нейкай чужой волі векі прыпалі адна да адной. Ці Уладзімір іх расплюшчыў праз імгненне, ці мінула колькі хвілін, ці гадзіна — ён не разумеў.

Усё было нармальна. Сэрца тахкала ўстрывожана, аднак дзённае святло, яркія пляміны сонца на сцяне збоку заспакойвалі. Паступова ў пакой стаў даносіцца далёкі гоман гарадскога жыцця.

Уладзімір рыўком падняўся і ледзь не ўскрыкнуў.

Ля ног у яго сядзеў кот.

Ужо не напружаны, прыпаўшы на лапы, а спакойны, упэўнены, ён не адводзіў сваіх жоўтых вачэй ад Уладзіміравых.

— Пс-с-і-і-к!!! Зараза!

Адным рыўком Уладзімір выхапіў з-пад сябе скамечаную падушку, але кідаць яе не стаў — кот у адно імгненне шмыгнуў праз калідор на кухню, скокнуў на стол, адтуль — у фортку.

Пакаціўся па стале кубачак. Утрымаўся на самым беразе.

Уладзімір паглядзеў на фортку — тая марля, якую ён сам “пад кантролем” гаспадыні мацаваў невялікімі цвічкамі з круглымі чырвонымі галоўкамі, была адарваная ўздоўж з аднаго боку.

Паўсухі і скрыўлены кавалачак каўбасы застаўся нечапаным, быццам гэта была атрута для ката, а не ўдалая знаходка.

Згатаваў каву, амаль без думак сядзеў, курыў на кухні. Было ўсё абыякава. Незачынены ноўтбук ушчуваў плямамі і слядамі ад пальцаў на сваім маніторы.

Уладзімір раззлаваўся — яго заўсёды выводзіла з сябе неахайнасць і бруд там, дзе яго быць ні ў якім разе не павінна. Схапіў са шафкі шматок ваты, намачыў гарэлкай і стаў хутка, ці не апантана церці манітор. Гэта супакоіла.

Драла ў горле. Уладзімір нейкі час глядзеў на бутэльку з гарэлкай, потым наліў сабе ў шклянку — трохі больш за палавіну. Выпіў, скрывіўся, але той

самы сухі скрылёк каўбасы чапаць не стаў: адшчыкнуў кавалачак хлеба з мяшэчка. Помніў ад бабы: нельга есці тое, што кот панюхаў. Можа, і гэты нюхаў.

Гарэлка паступова вяртала яго ў рэчаіснасць. Уладзімір распланоўваў рэшткі свайго дня, як прывык. А было ўжо амаль дванаццаць. Потым памыўся, папрасаваў штаны ды сарочку і паехаў у горад.

Вярнуўся гадзіны праз дзве, цягнучы невялікую каробку з прынтарам (узяў што таннейшае) і рамку з нейкай таннай рэпрадукцыяй. Зварыў пяльменяў, паеў.

Зайшоў у Сеціва і неўзабаве знайшоў той малюнак, што стаяў у яго вачох з таго моманту, як знік кот за акном. Гэта была выява Хрыста, напісана, што зробленая яна паводле плашчаніцы амерыканскімі вучонымі пры дапамозе найсучаснейшай ЭВМ. Твар Хрыста быў строгім, а пагляд — сумным. Уладзімір раздрукаваў здымак на паперу пад пэўны памер. Хрыстос глядзеў проста ў вочы, як ні стаўляй выяву.

Стаў разбіраць рамку з нейкім пейзажам. Сам не зразумеў, як рамка апынулася на падлозе і тонкае шкло высыпалася аскялепкамі. Нават у думках не мацюкнуўся. Вызваліў рамку ад кавалкаў шкла, змёў і выкінуў аскялепкі. Акуратна абрэзаў раздрукаваны здымак Хрыста, уставіў, прымацаваўшы яго скотчам проста паўзверх таго пейзажыка.

Панёс партрэт у свой пакой, там над ложкам ён бачыў цвічок, можа, тыя кватаранты ўбілі. Пачапіў на яго рамку. Адышоўся, зірнуў на Хрыста. Чамусьці цяпер Хрыстос глядзеў не на Уладзіміра, а нібыта праз яго. Было жаданне перахрысціцца, але махнуў рукой: хіба ж існасць у знешнасці?

І неяк адразу стала спакайней на душы — ён зрабіў усё, што трэба.

“Верыш ці не, а на Бога не плюй”, — казала яму некалі яго родная бабуля. І дадавала: “Як ён ёсць — пакарае, а няма — рот высушыш. Усё адно табе горай”.

“Чорт яе ведаю, бабульку маю, — думаў Уладзімір пра гэты дом і сваю гаспадыню Марыю Фамічну, гатуючы каву, потым палячы на кухні. — Тут абразоў няма, у яе пакойчыку два разы быў — куток нечым завешаны, быццам і стаіць там ікона. Якім яна тут багам моліцца, што пакінула пасля сябе… Ну, лечыць, варожыць… дык жа і іншае што рабіць умее, гэта ж натуральна. Так пажывеш, і страха паедзе. Ці можа, піць кожны вечар…”

Але сёння піць не будзеш — сёння яго будзе чакаць Ірына.

На ўсе форткі ў вокнах замест шэрай марлі, якую паздзіраў, купіў пластыкавай густой сеткі — будзе надзейна.

Пайшоў з ноўтбукам у свой пакойчык, сеў на ложак, абапёршыся спінай аб сцяну, каб сонца не падала на манітор.

Уладзімір надумаў пачынаць з іншага боку. Чым ёсць замова, разважаў ён. Словы. Самыя простыя словы, якія стаўляюцца ў шэраг паводле вызначанага кімсьці правіла. Пакінем пакуль што ў спакоі тое правіла. Важна іншае: якім спосабам словы пачынаюць уплываць? А чаму ўплывае на малое дзіця калыханка? Спакойная мелодыя, няспешны рытм. Не, гэта не тое… У замовах няма рытму і мелодыі… Ці ёсць? Ага, каб спраўдзіць. Хоць едзь да той бабулі ды падслухай, як яна прамаўляе якую замову. Дарэчы, цікавы момант: словы ж прамаўляюцца. Не ў думках бабуля гаворыць, а шэпча над хворым. Вось як над хлопчыкам. Хоць там звычайная псіхалогія, аднак — яна шэпча. Значыць, важнымі будуць гукі. Не проста словы, а гукі…

Не, не адзін гук, а чаргаванне гукаў у пэўнай паслядоўнасці. Паслядоўнасць… Чаргаванне…

Цікава, дзе яшчэ можна сустрэць падобнае? Вершы? Чаму адны вершаваныя радкі — паэзія, чаму чапляюць, чаму хвалююць, і чаму іншыя праходзяць міма душы, нават не страпянуўшы паверхні? А калі праверыць? У вершах дакладна вытрыманы рытм, ёсць радкі… Можна ўмоўна палічыць адзін радок як адзінкавую паслядоўнасць. Тады чаргаванне такіх паслядоўнасцяў… што павінна рабіць?

Ёсць радкі, возьмем хаця б вось гэтыя, Максіма Багдановіча: “Цямнее край зубчаты бору…” У радкох ёсць словы, якія ўтрымваюць гукі. Для нас важныя толькі галосныя гукі — бо гэта нейкая фізічная частата. Усе зычныя — гэта шум, гэта нават перашкода. Гук, фізічная частата нясуць нейкую энергію, яна ўплывае на чалавека, гэта пэўна. Калі інфрагук можа наагул забіць ці абрынуць чалавека ў вар’яцтва, а ультрагук на сваёй мяжы можа выклікаць болевы шок — то хто вывучаў, як уплывае на чалавечы мозг ўсякая іншая паслядоўнасць, ды яшчэ шматкроць паўтораная?

Мы маем літары, галосныя… Запішам іх частату зверху. Цяпер… цяпер проста выпішам частату аднаго радка ў праграму пад назвай Ворд Эксэль. І ўкладзем графік.

Цікавая піла выйшла.

Цяпер другі радок, трэці…

Што ўрэшце маем? Чатыры пілы. А гарбавіны і глыбавіны амаль супадаюць. Цяпер няхай графік складаецца так, каб кожны другі радок маляваўся з улікам першага, трэці — з улікам двух, чацвёрты — з улікам трох.

Уладзімір узрушана глядзеў на новы графік. Пэўна ж, пэўна ж, усё так і мае быць: другі радок узмацняе частотную паслядоўнасць першага, трэці яшчэ больш павялічвае гарбавіны, чацверты таксама акуратна кладзецца на іх. Такім парадкам, верхняя піла — гэта не проста сума чатырох пілаў, гэта ў чатыры разы павялічаная “магутнасць”, калі можна так сказаць, кожнага асобнага радка! Вось яна, фізічная асаблівасць паэзіі!

Графік раздрукаваў. Глядзеў на аркуш, яшчэ крышку вільготны ад чарніла, і пачуццё гордасці за сябе перапаўняла яго: а ён жа нешта змог! Цалкам магчыма, што нехта недзе рабіў гэта і раней (дык жа няма сведчанняў у Сеціве!), а ён вось сам дайшоў.

Але стоп… Адзін верш — яшчэ не довад. Які вядомы, таленавіты верш узяць цяпер? Аркадзя Куляшова… так, выдатна, яго. Вось, з самых вядомых, Куляшоў яго ці не тры разы перарабляў, усё ўдасканальваў: “На ростанях”. “Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая.// Чаму так горка, не магу я зразумець…”

Уладзімір з незвычайным узбуджэннем расставіў, праверыў частоты гукаў у словах. Нарэшце перанёс лічбы ў праграму і даў каманду на стварэнне графіка.

Гэты графік глядзеўся амаль што ідэальна: усе чатыры радкі паўтаралі свае ўзвышэнні і ўпадзіны адзін у адзін, сумарная лінія была высокай, з крутымі пікамі. А які верш вядомы як не паэзія, а як нешта вымучанае, не ад душы? Ёсць такі ў таго ж Куляшова — “Камсамольскі білет”. Уладзімір успомніў як раней чытаў крытыку на гэты верш, дзе гаварылася, што той наагул спачатку быў напісаны на рускай мове, а потым перакладзены аўтарам, што ў вершы шмат штучнага пафасу, што пісаўся ён на заказ, тэрмінова…

“Цвёрда трымаўся юнак на дапросе,/ Тоячы словы і думкі свае…” — гэты слупок помніць, мабыць, кожны ўчорашні вучань школы. Уладзімір не надта хваляваўся: выйдзе такі графік, як у Багдановіча, горшы ці лепшы — не ў гэтым рэч. Значыць, тады наагул рэч не ва ўзмацненні гукавога раду, а ў самым радзе, скажам. Значыць, тады мае значэнне само чаргаванне гарбавінаў і глыбавінаў — той самы код радка…

Але адбылося неверагоднае.

Калі ўсе лічбы былі падстаўленыя і двойчы правераныя, Уладзімір са шчаслівым здзіўленнем разглядаў графік.

Гарманічнага ўзмацнення радком радка не адбылося!

Калі напачатку пікі чатырох радкоў крыху супадалі, то пачынаючы з сярэдзіны пайшоў поўны разлад і канец графіка хоць і быў высокім, але цалкам змазаным, без аніякага выразнага сігналу.

Уладзімір раздрукаваў і гэты ліст.

Замовы павінны мецць дакладна такую самую нутраную будову. Калі іх заданне ўплываць на чалавека, значыць, выразнасць вось такога коду павінна быць вылучнай. Замовы не вершы? Чаму? А можа — белыя вершы? Дарэчы, трэба праверыць які белы верш… ды вось, хоць такія вядомыя хоку Басё ў перакладзе.

Тры радкі хоку далі прыгожы, такі ж адмысловы, як і першы верш Куляшова, графік.

“Ну, вось, а ты баяўся,“ — сам над сабой пасмяяўся Уладзімір. І свярбелі пальцы, гатовыя далей націскаць кнопкі клавіятуры, хацелася далей нешта рабіць, хутчэй, пакуль вось такі неверагодны ўздым, калі вось толькі адзін маленькі крок — і будзе зроблена нешта вылучна важнае!

Замова! Але знайсці патрэбнае ды яшчэ на рэсурсе, якому можна было б даваць веры, выходзіла не так проста. Нарэшце, знайшоў…

“Ішло два браты дуба рубаці, бэруць тапор, ідуць дуба рубаці. Не дуба рубаці, кроў замоўляці. Цекло тры рэчонкі, одна медзяна, а друга водзяна, а трэця кров’яна. Медзяну вуп’ю, водзяну выллю, а кров’яну зомоўлю.”

Калі самастойна разбіць на радкі? Гэтая ж замова якраз так і чытаецца, радкамі…

Ішло два браты дуба рубаці,
бэруць тапор, ідуць дуба рубаці.
Не дуба рубаці, кроў замоўляці.
Цекло тры рэчонкі, одна медзяна,
а друга водзяна, а трэця кров’яна.
Медзяну вуп’ю, водзяну выллю,
а кров’яну зомоўлю.

Ставячы лічбы значэння частаты, Уладзімір быў пэўны, што гэтыя радкі адлюструюцца ў праграме камп’ютара проста ідэальным графікам. Тут не чатыры, тут восем радокоў. Так і выйшла.

Але што рабіць далей? Што гэта дало тэксту, які яму трэба разбіць на знакі прыпынку, паправіць, прымеркаваць словы да слоў?

Калі мы ведаем, што тэкст укладзены паводле закону, цяпер трэба ў гэтым тэксце распісаць значэнне частаты гукаў. Потым неяк глядзець, шукаць паўторы… Прыкладам, узяць напачатку чатыры словы першыя і чатыры наступныя… Не, лепш браць адразу патрэбную колькасць складоў. Для пачатку, скажам, сем. Глядзець, ці супадаюць гарбавіны першых з гарбавінамі наступных. Не супадаюць — узяць восем, потым дзевяць… І тады стане зразумела, прыкладам, хто там распускае косы — сонца ці дзеўка…

Уладзімір вярнуўся да верша Куляшова "На ростанях". Палічыў: у першым радку — аж трынаццаць літар, якія ўлучаюцца ў будову графіка. А ў другім — дванаццаць. І калі яму ўручную вось так самому падбіраць — будзе замала і лета. Трэба праграма… Праз паўгадзіны Уладзімір знайшоў на адным рэсурсе праграміста. Як мог, патлумачыў існасць задання. Хлопец трапіўся разумны, схапляў усё адразу:

— Так, я зразумеў наступнае: Вы ўводзіце нейкі тэст, кожнай літары прысвойваеце лічбавае значэнне. Цяпер праграма павінна адшукаць заканамернасць у гэтым тэксце. Добра, знойдзе, што далей?

— Далей вось што… Трэба вывесці цалкам часткі тэкстаў, якія патрапляюць у заканамернасць, радкамі, адзін пад адным. Выйдзе нібыта верш. Але вось яшчэ што: тут не можа быць дакладнага супадання. Трэба гэта ўлічыць.

— Зразумела, дамо праграме нейкі допуск. Тады мне патрэбныя значэнні літар. Каб ведаць, якія допускі даваць.

— Вядома, кіну зараз. Яшчэ… Не ўсім літарам прысвойваецца лічбавае значэнне.

— Гэта дробязь, якім не будзе прысвоена — будзе нуль па замоўчванні. — Так, праграма нескладаная, нажывацца не хачу, але калі не шкада накінуць пяцёрку за тэрміновасць, то магу сесці зараз жа, да ночы будзе гатова.

— Не шкада.

— Выдатна, тады 25 ВМЗ. Кашалёк кідаю.

— Згодзен, заплачу зараз. Праверыць праграму можна так: увесці чатыры радкі верша, скажам, Ясеніна, узапар, адным сказам, без знакаў прыпынку. Калі ўвесці значэнні літараў, то праграма павінна надрукаваць чатыры асобныя радкі, так, як напісаў некалі Ясенін.

— Дык гэта вельмі добра, што ёсць праверка.

Кажучы шчыра, Уладзімір у нейкі момант хацеў прапанаваць праграмісту, каб той зрабіў праграму сёння, да ночы. Аж недзе свярбела хутчэй паспрабаваць… Але — праз паўтары гадзіны яго сустрэча з Ірынай. Яна абяцала, што сягоння прыйдзе.

Да сустрэчы заставалася часу якраз на тое, каб прыбрацца ў доме, працерці падлогу (адкуль тут збіраецца за дзень гэтулькі пылу?), памыцца самому. Падумаў, што сёння не будзе заходзіць выпіваць — узрушанасць ад работы, пэўны поспех і адчуванне абавязковага развязання ўсёй задачы надавалі яму ўпэўненасці. Недзе варухнулася няпрошаная думка, што Ірына — гэта хоць і важна, але не галоўнае… Ён прагнаў тую думку, не стаў на ёй засяроджвацца. Бо колькі гадоў таму зразумеў: няма нічога, што было б галоўным. Ёсць нешта другаснае, пустое, не вартае ўвагі. А найважнейшага, сама значнага ў жыцці — няма. Бо ўчорашняя дробязь сёння можа пераўтварыцца ў скалу наканавання. І наадварот…

Ён так быў заняты думкамі пра Ірыну, што не заўважыў, як спакойна і хутка прайшоў паўз сваё акно, выйшаў з саду і толькі потым, зачыняючы веснічкі, падумаў: вось жа, не зірнуў, ці быў хто ў яго акне. Але дом сёння выглядаў домам, і вокны былі… звычайнымі вокнамі.

## 4

— А вы ж мне так і не расказалі, хто Вы і адкуль?

Ірына выглядала вельмі ўсцешанай сустрэчай, яна не хавала ўсмешкі і задавальнення. Адзелася яна ў

лёгкую сукенку, што цалкам адкрывала плечы. І выраз у сукенкі быў такі глыбокі, што калі яна нахілілася над столікам, Уладзімір бачыў ледзь не напалову яе не надта вялікія грудзі — на Ірыне нават станіка не было.

Яна як бы і не заўважыла гэтага Уладзіміравага пагляду, пасля якога ён адчуў, што зачырванеўся.

Заказалі каву.

— Я ж казаў — з вёскі. Тут вучуся, на гістарычным, завочна, першы курс канчаю.

— А дзе жывяце? Якія планы на потым? — з жывой цікавасцю на твары дапытвалася Ірына.

— Жыву ў адной бабулі, прыватны дом, але пэўныя выгоды ёсць. Пакойчык… Цяпер бабуля з’ехала на лета ў сваю вёску, то я адзін за гаспадара. А планы… Не ведаю, шчыра кажу. Яшчэ тры дні таму я думаў кідаць свой універсітэт ды ехаць назад… Наш бацька памёр даўно, не памёр — загінуў. Была нейкая папойка ў мужыкоў, на сенаванні. Ну і пасварыліся. Сталі біцца. Бацька не піў тады з імі, але пайшоў разнімаць. І нехта, так і засталося таямніцай — хто, шахнуў бацьку касой па назе, пад каленам. Не змаглі ўратаваць, п’яныя, як яны там перавяжуць, каб суцішыць кроў, калі артэрыя перарэзаная? А маці памерла… піла надта, захварэла на менінгіт. Жылі з братам, я тэхнікам-электрыкам працаваў, куды пашлюць. Брат… нідзе не працаваў, па людзях: сёння такія рукі патрэбныя ў вёсцы, дзе адны пенсіянеры пазаставаліся. Напачатку лета брат згарэў разам з нашай хатай. П’яны заснуў з цыгарэтай. Вось я і апынуўся без нічога і нідзе…

Уладзімір скончыў свой невясёлы аповед, і адразу ўпікнуў сябе: навошта ён? Хіба трэба сёння, вось ця-

пер, расказваць жанчыне, якая прыйшла на сустрэчу з табой, пра свае няшчасці?

— Вы прабачце, Ірына, — дадаў ён хутка. — Не звяртайце ўвагі — я прымаю жыццё як яно ёсць, таму і не скарджуся Вам, я не няшчасны чалавек. У мяне, здаецца, усё наладжваецца, больш таго — такая сустрэча з Вамі. Значыць, у мяне ўсё наперадзе…

— Вядома ж, усё наперадзе, — паспяшалася з адказам дзяўчына, яе відавочна расхваляваў Уладзіміраў расказ. — Як незвычайна ўсё выйшла: я першы раз сустрэла мужчыну, у якога зусім нічога і нікога няма….

— Так, нікога і нічога, — ахвотна згадзіўся Уладзімір, і яго працяла пяшчота да Ірыны — яна зразумела яго і літаральна ў двух словах змагла паказаць усё яго сённяшняе.

— Затое ў Вас ёсць мажлівасць пачаць з нуля, ад пачатку. Шмат і шмат каму гэтага ніколі не дабіцца, хоць і трэба было б… — зрабіла спробу загладзіць сваю ацэну Уладзімірава становішча Ірына, падкрэсліваючы гэтым, што яна зусім не расчараваная ў сустрэчы. Дадала: — Застаняцеся ў горадзе? Якія ў Вас планы?

— Ну, пакуль што дапіць гэты кубачак ды заказаць па другім, — усміхнуўся Уладзімір без смутку. — Не ведаю пакуль што, калі шчыра — не задумваўся. Грошай стае, у мяне адпачынак вялікі. Магу вярнуцца ў вёску, там апусцелых хат даволі… Ці пайсці ў прымы да якой маладзіцы, ці папрасіць у калгаса новы дамок, праўда, трэба спачатку ажаніцца. У горадзе? Дык паглядзеў газеты, здаецца, працу з маім досведам работы электрыка знайсці не праблемна, і заробкі не раўня маім учорашнім. Але… горад не прымае мяне. Ці я горад, вось…

— Гэта чаму вы так здумалі? — шчыра здзівілася Ірына.

— Ведаеце… Вось не першы дзень, не першы ж раз. Заходжу на вакзале ў паўпусты тралейбус, усё нармальна. І раптам, ужо праз два прыпынкі, я апынаюся заціснутым сярод людскіх целаў. Вы мяне выбачайце, я не магу гэтага пераносіць — каб грудзі адной чужой жанчыны ўпіраліся мне ў спіну, а ў твар мне сунуліся падпашкі другой жанчыны. Я нават не пра пахі кажу, не. Гэта мяне не так чапляе. Стаю неяк на прыпынку, чакаю аўтобуса. Падыходзіць, дзверы расчыняюцца… Вось Вы смейцеся, але я памкнуўся зайсці — і нібы нешта мяне спыніла, як ударыла адтуль, з салона, хваляй. Мне было невыносна ад думкі, што мне трэба лезці туды, прыціскацца сваім целам да іншых потных целаў… Дзіўны я, так?

— Нічога не дзіўны, — запярэчыла Ірына. — было б дзіўна, калі б Вас наадварот, цягнула туды, — яна засмяялася каротка. — Проста Вы вельмі паважаеце сваю асабістую прастору, гэта нармальна для ўсяго свету. А да людскога тлуму, да гарадской мітусні чалавек прывыкае вельмі хутка. Бо ён такая жывёла — да ўсяго прывыкае хутка… Дарэчы, пасля трэцяй людзі пачынаюць казаць адзін другому “ты”. Мы якраз па трэцім кубачку кавы выпілі. Пераходзім?

— Давайце, — усцешана пагадзіўся Уладзімір. — Па чацвёртым закажам?

— Тады “давай”, — паправіла яго Ірына. — Не, мне сёння доўга не сядзець, баюся, не засну, заўтра рана ўставаць, трэба на лецішча ехаць, там мама чакае… Хадзем, правядзеш мяне і раскажаш…

— Казку на ноч?

— Не, не казку, а разгадку якой-кольвек казкі, ты мне абяцаў, — гулліва-капрызліва нагадала Ірына, бліснула вачыма.

Уладзімір не ўмеў чытаць жаночых паглядаў, дзівіўся з таго, як яго сябры іншым разам аднымі вачыма дамаўляліся з жанчынамі, разумелі адзін аднаго без усякіх слоў, але вось цяпер гэты кароткі бляск жанчыны ён гатовы быў патлумачыць толькі адным: яе абяцаннем. Яна абяцала. Яна дакладна абяцала.

Калі выйшлі з кавярні, і Ірына нязмушана, быццам тое так рабілася між імі ўжо шмат разоў, узяла яго пад руку, і ён адчуў кароткі, ледзь адчувальны дотык яе цела да свайго — яго акрыліла: ён не памыліўся.

Было і трошкі прыкра ад усведамлення таго, што ў ім пераважала элементарная пачуццёвасць, жаданне блізкасці, нават не той фізічнай блізкасці ў ложку, а жаданне проста быць побач, адчуваць тонкі пах яе цела (калі шчыра — то нейкай парфумы), часам дакранацца да яе. І ў той жа час Уладзімір апраўдваў сябе, сваё далёка не платанічнае жаданне тым, што з Ірынай яму добра. Проста добра як з чалавекам, які прымае яго такім, як ён ёсць, без хітрыкаў. Цяпер яго перапаўняла ўдзячнасць да Ірыны, але ён не ведаў, як і якім спосабам можа тое выказаць. Ён, няўклюда-вясковец, што ён можа зрабіць? Запрасіць у кавярню на каву? А як у які рэстаран добры — дык яму, калі шчыра, адзець няма чаго… Ён не ведае наагул, як адзявацца. Шмат грошай патраціў ужо, а то б, можа, набыў сабе якую патрыманую іншамарку. Ужо, глядзі, прасцей было б падарыць жанчыне колькі добрых момантаў: звазіць яе вось заўтра на тое ж лецішча. А так, завязе іншы…

— А на чым трапляеце на лецішча? — падуладны апошнім думкам, спытаўся Уладзімір.

— Аўтобусам звычайна, бо бацька не заўсёды можа падвезці, на сваю яшчэ не назбірала, а сябра з аўтамабілем не маю, — адказала Ірына, і Уладзіміра салодка ўкалола гэтае “не маю”.

— Тады пачакайце… пачакай, — паправіўся Уладзімір, — неўзабаве я куплю тачку і буду вазіць цябе і маму на лецішча.

— Ой, мяне аўтамабілем не спакусіш! — засмяялася Ірына.

— А чым?

— А навошта табе мяне спакушаць? Лепш раскажы тое, што абяцаў, — пра казку.

— Табе праўда цікава?

— Праўда, — адказала Ірына і ледзь-ледзь сціснула яго руку.

— Ну тады… Вось яшчэ такая казка, складаная: Іван Царэвіч перамагае Бабу-Ягу, Кашчэя Несмяротнага і ратуе з палону Васілісу-красуню. Простая казка?

— Як быццам бы так, — не задумваючыся пагадзілася Ірына.

— Адзін цікавы і незвычайны момант: чаму смерць у голцы? Ну, што тая ў яйку, тлумачыць не трэба: яйка заўсёды асацыяваліся з жыццём, ува ўсіх народаў і ва ўсе вякі. Але чаму голка?

— І чаму?

— А вось давайце ўспомнім, з чым яшчэ параўноўваюць голку? Яе вастрыню? — Уладзімір зазірнуў у Ірыніны з хітрынкай вочы.

— Чакайце, чакайце… Так… Вось, розум востры.

— Менавіта! — радасна ўсклікнуў Уладзімір. — Такім парадкам, жыццё — не проста існаванне, а разумнае існаванне. А далей ужо проста: Царэвічу гэта жыццё з розумам Шчупак здабывае з вады — жыццё пайшло з вады. Само разумнае жыццё дасягаецца хуткасцю, імклівасцю — гэта заяц, палётам думкі, марай — качка, смеласцю, адвагай — воўк, сілай і спрытам — мядзведзь. Акрамя таго: сам куфэрак — гэта праца чалавечых рук, а замок на ім — каб улада над разумным жыццём не дасталася абы каму.

— А дрэва?

— Дрэва ў славян заўсёды было ў пашане. Помніце ў Пушкіна: дуб з Катом? Карані дрэва ў зямлі — гэта той свет, цёмны, сярэдзіна — тое, што маем, карона хаваецца ў аблоках — іншасвет, вырай.

— Ой, гэта ў Задорнава было і паўтараецца, — усміхнулася Ірына. — Ён там яшчэ пра бога Ра славянскага нясе…

— Што ён не нясе, гэта факт, але Задорнаў — спекулянт, ён спекулюе на тых ведах, а больш на тэорыях, якія збірае ў Сеціве, а потым нахабна агучвае, выдае за свае асабістыя знаходкі, недзе прыдумляе больш, — з горыччу заўважыў Уладзімір. — Гэта, дарэчы, праз яго падае давер да сапраўднай міфалогіі, ён пераўтварыў міфалогію ў шоу, карыстаецца ёй, як таннай дзеўкай у нейкай падтанцоўцы.

— Ну, ты занадта на яго… Можа, наадварот, ён — папулярызуе?

— Дзе там, Ірына. Задорнаў — гумарыст, блазан, шоўмэн. І ўсё, што праходзіць праз яго, набывае рысы шоў, блюзнерства… Дарэчы, яшчэ пра казку. У ёй Васіліса хто? Русь. А Іван Царэвіч тут — хрысціянства, праваслаўе. Гэтая казка — адлюстраванне барацьбы хрысціянства з паганствам. Кашчэй Несмяротны — гэта само паганства, Баба Яга — галоўная ведзьма. А ведзьма ж ад слова "ведаць". З Ягой, калі дакладней казаць, дык складаней. У даўнейшых славян яна была накшталт багіні цяжарнасці. Тады існаваў звычай — роды прымаліся нейкай адной жанчынай ува ўсіх жанчын паселішча, яна для ўсіх дзяцей была бабай, амаль роднай, бо менавіта яна перавязвала пупавіну. Таму, мабыць, Яга, хоць страшная, злосная ў казцы, аднак памагае царэвічу перамагчы Кашчэя.

Цяжка сказаць, як складалася гэтая казка, пэўна толькі адно: тут захаваны веды паганцаў пра жыццё, яго існасць, адначасова казка паказвае гібель паганства. Думаю, некалі яна была зусім іншай…

— Ой, праўда? Дык Кашчэй — гэта цэлая рэлігія?

— Так… Вось я асабіста думаю, што паганства — гэта не проста рэлігія, як мы цяпер думаем пра яго: з рознымі там бажкамі, традыцыямі, абрадамі. Гэта было глыбей… Гэта, акрамя комплексу ўяўленняў пра свет і чалавека ў ім, яшчэ і цэлая сістэма ведаў і практычных правілаў, якія чалавек мусіў засвоіць, каб жыць у суладдзі з прыродай, з навакольным светам, у тым ліку з людзьмі. А багі… Яны існавалі… ну, для дзяцей, скажам, каб неяк канцэнтраваць асобныя прыродныя з'явы і сілы на пэўнай выдуманай асобе, каб лягчэй было засвоіць дзецям розныя табу…

— Ты гаворыш зусім не як просты вясковец, электрык. Самаадукацыя ў цябе… высокая. Але — мы прыйшлі, — з выразным жалем перапыніла яго Ірына.

— Шкада, — уздыхнуў Уладзімір. — Не ведаю, што цяпер і рабіць…

— Як што? Ідзі адпачываць — палова на дванаццатую.

— Баюся спаць адзін, — раптам вырвалася ва Уладзіміра. Яго сапраўдны страх, які, як выявілася, жыў у ім цэлы дзень і вось нечакана вырваўся вонкі адным сказам, як толькі згадалася ноч і "спаць".

Ірына маўчала, злёгку прыкусіўшы вусны, і Уладзімір з прыкрасцю думаў пра тое, што яго словы могуць быць расцэненыя як зашмальцаваны ў анекдотах прымітыў, як пошлы намёк, вельмі пошлы, асабліва пасля вось такіх размоў. Ён ужо набраў паветра, каб пачаць апраўдвацца, але Ірына, якая, пэўна ж, думала ў гэтую хвіліны над тым, як ёй успрыняць

Уладзіміравы словы, спытала, можа дзеля таго, каб упэўніцца: гэта не пошласць, а сапраўдны стан душы.

— Чаму?

Уладзімір выдыхнуў з палёгкай, сабраўся з думкамі, каб патлумачыць як найкарацей, асабліва не датыкаючыся абставінаў:

— Сніцца ўсялякая дрэнь… Прымроілася было… вельмі страшнае, жудаснае. Валасы дыбам сталі. Мабыць, сядзеў доўга за ноўтбукам… Калі шчыра, дык вельмі вусцішна было. І вось самога дома неяк баюся. Здаецца… вораг я яму.

Ірына кіўнула, быццам ведала ці здагадвалася, ці сама такое перажывала, потым кранулася сваімі пальцамі Уладзіміравай шчакі:

— Ну, сёння неяк пацярпі, добра? Заўтра я зазірну да цябе — і мы прагонім усякую дрэнь з тваёй хаты. Добра?

— Добра, — выдыхнуў Уладзімір, аж агалошаны словамі Ірыны.

— То да заўтрашняга вечара! Давай сустрэнемся на гадзіну раней. І ты абяцаў пачаставаць мяне віном. Удасца?

Уладзімір не паспеў адказаць, хоць ён і не задумваўся ні імгнення над адказам. Раптам проста перад імі ўзнік дзяцюк. П'янавата хіснуўся, выскаліўся ў дурнаватай усмешцы.

— Во, а я думаю: хто мне дасць закурыць?

Нахабнасць у голасе і паставе, мабыць, павінны былі кампенсаваць ягоную хударлявасць і невысокі рост. Саколка без рукавоў, рукі амаль без цягліцаў здаваліся вельмі доўгімі, матляліся незалежна ад гаспадара. Твар без брывоў, скуласты, востры нос глядзеў набок, відаць, наступствы колішняй бойкі.

— Ідзі адсюль! — нервова ускрыкнула Ірына.

— А чаго дамачка злуе? Я ж толькі спытаў… Нядобра-а-а… — дзяцюк паднёс палец да свайго носа і паківаў ім. Потым павярнуўся да Уладзіміра, і той сустрэў абсалютна цвярозы позірк, які вывучаў, запамінаў ягоны твар.

— Дык дасі закурыць?

— Калі ласка, — Уладзімір дастаў пачак цыгарэт, адкрыў і падаў.

— Во, паважаю, — зноў п’янавата працягнуў хлопец, хіснуўся, але цыгарэту з пачка выцягнуў спрытна, адным рухам. — І агоньчыку…

Уладзімір паднёс запальнічку, пстрыкнуў. І пабачыў, што цыгарэта ў незнаёмца была заціснутая між двума пальцамі правай рукі: нармальным указальным і вычварна-кароткім сярэднім з чорным пазногцем. Пакуль гарэў агеньчык, Уладзімір зразумеў, што сярэдні палец без фалангі, а чорны пазногаць на ім — татуіроўка.

Ён перш і не зразумеў, чаму яго так уразіў гэты знявечаны палец, а потым успомніў бабулін расказ пра шуканне Папараць-кветкі. “Не, там жа мезенец адсякаецца…” — супакоіў ён сам сябе і пасміхнуўся: от прымеш на веру такі показкі, станеш кожнага куста пужацца.

— Дзякую… Я пайшоў… Не перашкаджаю… — хлопец прыпаліў і хутка ступіў убок, пашыбаваў ходнікам…

— От жа, — уздыхнула незразумела чаму Ірына.

— Ды ўсё нармальна, — супакоіў яе Уладзімір. — Я не адказаў табе… — Удасца! Вядома.

— То бывай!

Ірына неспадзявана хутка для Уладзіміра, без аніякіх іншых жэстаў павярнулася і пашыбавала ў свой двор. Ён на нейкі час застыў на месцы, абдумваючы яе

апошнія словы. Заўтра… Заўтра гэта мілая дзяўчына прыйдзе да яго. Божа, а ў яго такая старая, хай сабе і чыстая бялізна на ложку! Заўтра трэба купіць…

Перапоўненасць уражаннямі і пачуццямі была такой, што толькі зайшоўшы ў дом, Уладзімір, як пра ўчарашняе кіно, успомніў пра свае страхі. Зірнуў на выяву Хрыста з думкай падзякі, бо раптам падумаў, што гэта дзякуючы яго сённяшняму з'яўленню тут так усё пачало складвацца, проста неверагодна складвацца. Заўтра ён атрымае праграму — і будзе зроблена заданне для выкладніка. Паедзе на экзамен — завязе.

Вочы Хрыста з малюнку глядзелі проста на Уладзіміра, пранізліва, з такім дакорам, быццам Хрыстос ведаў нешта пра патаемнае і страшэнна брыдкае ва Уладзіміравым жыцці, а той не тое што хаваў гэта патаемнае, а выдаваў яго за геройства.

"Усё нармальна, не ўпікай мяне, Хрыстосе, — у думках прамовіў Уладзімір. — Час цяпер зусім іншы — не вялікі грэх, і ці грэх наагул быць мужчыне з жанчынай, калі яны падабаюцца адзін аднаму. Ты казаў, каб не жадалі жонак братоў сваіх, дык я не жадаю ні чужой жонкі, ні жонкі свайго брата. Ірына вольная, я — вольны. Не асуджай надта…"

Распрануўся і лёг, а ў вачох стаяла зваблівая Ірынiна постаць, яе грудзі ў глыбокім вырэзе кофты. Няўжо заўтра ён зможа дакрануцца да іх вуснамі, пацалаваць іх?

І зноў, ужо засынаючы, заварушылася нечакана такая нежаданая думка пра Алену. Не, ёй, Алене, вясковай бабе, няма што і раўняцца з Ірынай. Алене ён трэба як мужык, мужчына, а Ірыне — як чалавек.

Гэтая думка-перакананне супакоіла, прагнала прыкрасць.

## 5

Ён зноў спаў і не спаў: адна палова яго свядомасці была ў сне, другая — тут, у густой чарнаце пакоя, дзе чулася незразумелае шыпенне — проста над яго галавой. Розум падсвядома шукаў тлумачэння гэтаму ціхаму гуку і знайшоў: так сычэла, падыходзячы, брага ў флязе, што ставіла маці ў каморы, і з якой яны з сябрам забягалі крадком зачэрпнуць па кубку. Сычэнне нарастала.

Цёплая кропля нечага густога мякка ўпала на яго твар, амаль на вока. Ён імгненна падхапіўся, свядомасць вызваліся ад мроіва сну. Адна рука тарганулася да твару, другая — да настольнай лямпы.

Святло не загарэлася. Пальцы сталі мокрымі. Упоцемках ён памкнуўся да вымыкача на сцяне.

Устаўленая ўчора ў рамку выява Хрыста над яго галавой была пакрытая чорна-чырвонай пенай. Пена была жывая — яна булькала пухірамі, расла, закрываючы сабой яркі малюнак. З ніжняга берагу рамкі зрываліся нехаця вялікія кроплі — і падалі не строма, паўз сцяну, а па нейкай неверагоднай дузе на падушку, проста ў тую ямку, дзе ляжала яго галава.

Ён схапіў са сцяну рамку ў роспачным парыве, не думаючы — як галавешку з вогнішча. Рамка не абпаліла, яна была халодная.

Кінуўся на кухню, сунуў рамку з карткай у ракавіну, крутнуў кран. Вада не пацякла. Гатовы завыць, азірнуўся — і пагляд учапіўся за шклянку вады, акурат пасярэдзіне стала.

Хапіў яе, рэзка лінуў на карціну. Дакладней, ён зрабіў усё, каб лінуць.

Аднак вада не выплюхнулася са шклянкі — а нейкім густым камяком вывалілася адтуль, як студзень.

Быццам жывая істота, яна трымалася за шкло, упарцілася, не хацела сутыкнення з чорнай пенай на малюнку Хрыста. Але мусіла ўпасці, расцяклася.

Пачулася скварчэнне, як быццам на перапаленую патэльню лінулі халоднай вады. Уладзімір адскочыў убок, чакаючы выбуховай пары над ракавінай, але нічога не было. Гукі змоўклі. Ён асцярожна зазірнуў у ракавіну — малюнак Хрыста знік, адкрыўся той самы нягеглы пейзажык. Чысценькі, быццам ён толькі што распакаваў рамку.

Дрыжыкі ў каленях прымусілі яго сесці. Ён паглядзеў на шклянку ў руках і яго закалаціла: ён мог паклясціся, што вечарам шклянкі з вадой (ці з чым?) на стале не было. Ён піў каву з кубка. Кубак памыў і паставіў на драты сушылкі — вунь ён. Шклянку на стол ён не ставіў.

Жудасць запаўзала ў самае сэрца, не давала варушыцца. Здавалася, зараз сцены і столь абрынуцца на Уладзіміра, пакой увачавідкі стаў меншаць, не ставала паветра. Уладзімір асцярожна паставіў шклянку на стол. Яна здавалася жывой.

Уладзімір сабраў рэшткі волі, адчыніў лядоўню, дастаў бутэльку, у якой было грамаў сто пяцьдзясят гарэлкі. Пашукаў вачыма — у што наліць, зноў пабачыў шклянку на стале і ў раптоўным выбуху ярасці схапіў яе і шпурнуў у кут — туды, дзе стаяў газавы кацёл ацяплення. Гук, з якім шклянка разбілася, быў проста аглушальным, але ён і ўратаваў Уладзіміра ад поўнай страты развагі — калі б шклянка не разбілася, невядома, што б было далей.

Уладзімір наліў гарэлку ў кубак, з якога піў каву, выпіў. Гарэлка апякла рот і горла, але амаль адразу ж ён пачуў цеплыню ў грудзях. Сеў за стол, закурыў. Цеплыня з грудзей дасягнула галавы, тахканне сэрца

ў скронях спынілася. Успомніў, што тым вечарам бабуля паставіла сваю бутэльку з цёмнага шкла ў сваю шафку тутака, на кухні. Каб іншым разам, дык Уладзімір ніколі б не адчыняў гэтай шафкі, каб чаго ўзяць, але цяпер быў удзячны памяці, што захавала той момант.

“Толькі б яна тут стаяла…”

Бутэлька была тут, у руцэ адчувалася вага напоўненасці. “Палова будзе”, — здаволена і ўжо амаль заспакоена падумаў Уладзімір, наліў зноў у кубак для кавы, выпіў. Зноў курыў, зноў наліваў і піў — і ні пра што не думаў, нікуды не глядзеў. Нарэшце зразумеў, што можна ісці класціся — даволі з яго, зараз зваліцца. Яшчэ праверыў, ці навёў будзільнік на тэлефоне, адклаў яго як далей убок, каб нельга было дацягнуцца рукой, не ўстаючы з ложка.

Прачнуўся пры першых гуках званка, звыкла працягнуў руку, каб націснуць кнопку “Пазней”, але ў момант успомніў, што мабільнік ляжыць далёка на крэсле. І раптам усё ўспомнілася.

Была раніца, сем гадзін. Досыць часу паснедаць, сабрацца і паспець ва ўніверсітэт. Пайшоў на кухню, пэўны, што зараз на стале будзе сядзець кот. Уладзімір як бы зусім не здзівіўся яму — хай будзе і кот. Але пабачыў толькі аскялепкі шкла, брудную ракавіну, недапітую бутэльку.

Наліў і выпіў, хоць розум пярэчыў такому дзеянню: яму ж ува ўніверсітэт, выкладнікі не даруюць паху перагару. А таго, колькі ён выпіў ноччу, простай жуйкай не пераб’еш…

Праз хвілін сорак Уладзімір выходзіў з двара. Зачыняў веснічкі, азірнуўся на вокны дома.

У акне вялікага пакоя сядзеў і глядзеў на яго вялікі шэры кот. Той самы.

Валасы варухнуліся на галаве. “Сядзі, каб ты спрах, — падумаў сабе Уладзімір. — Не буду вяртацца. Здохнеш… Але ж сука, яшчэ нагадзіць дзе, а сёння…” — і сарваўся з месца, пабег.

Стаў адчыняць дзверы і аж здрыгануўся ад нечаканасці — з таго боку нехта як быццам бы пхаў дзверы, хай сабе і не моцна. Яшчэ ні пра што не паспеў падумаць, як праз вузкую шчыліну праціснуўся кот, ірвануўся ў бок, але прысеў пад плотам і пільна сачыў за Уладзімірам.

“Чаго вам трэба, сволачы?” — у роспачы падумаў Уладзімір, сам не разумеючы, каго ён называе сваламі, да каго звяртаецца.

Зайшоў у дом, праверыў форткі — сеткі на ўсіх трымаліся надзейна. “Мо калі выходзіў у прыбіральню, дзверы пакідаў адчыненымі, сам дурань”, — успомніў Уладзімір, але поўнага супакаення не было. Чаго гэты кот лезе ў хату? Гаспадыня ж не трымала катоў, яна казала, што і дома ў іх не было, не любіў яе татка катоў, і яго нелюбоў перадалася дочкам, ува ўсякім разе ёй, Марыі. Пах падлы… Пах знік, Уладзімір і не заўважыў: як ён знік і калі. Можа, гэты пах вабіў ката, можа, што і цяпер яшчэ нешта застаецца, і чуйны каціны нос ловіць тое, чаго не адчувае чалавек…

Час на лекцыях цягнуўся як ніколі павольна. Уладзімір стараўся зразумець тое, што тлумачылі выкладнікі, старанна запісваў — у час зімовай сесіі не быў такім уважлівым. Яму вельмі важным стала яго навучанне, захацелася менавіта навучацца — цяпер у яго была Ірына. Яна прыняла яго, вось такога, простага электрыка-вяскоўца, але ж відавочна, што гэта — нейкі аванс яму, яна ж так зацікаўлена слухала пра яго планы. Яму трэба цяпер навука…

Пасля лекцыяў прымусіў сябе паесці, потым ужо накіраваўся ў супермаркет. Купіў не белую, а цёмна-сінюю пасцельную бялізну, у нейкіх вялікіх белых кветках. Доўга выбіраў віно, узяў і белага, і чырвонага, узяў і каньяк. Цукеркі, нейкага вэнджанага мяса… Чаго яшчэ браць? Чым частаваць гарадскую дзяўчыну? Калі яна прыйдзе (а яна ж абяцала!), то трэба будзе нешта паставіць на стол.

Чорт, так нядобра, што ў яго пакоі няма якога століка. Дый ложак… Стары і вузкі… Уладзімір сам спыніў сябе на гэтых думках: "Яшчэ невядома, як яно будзе, яшчэ мо і наагул нічога не будзе! Бач, летуценнік". І ў той жа час яго практычны розум падказваў, што пра гэта трэба думаць, што да ўсяго трэба рыхтавацца, каб потым не чырванець, маўляў, няма відэльца, акрамя як бабулінага, шэрага алюмініевага… Вось, пару відэльцаў купіць… лыжачкі чайныя… два добрыя кубкі пад каву. А піць з чаго? Там, у бабулі, ёсць сервант у вялікім пакоі, у ім стаіць нейкі посуд, стае там розных фужэраў і чарак.. І наагул, у вялікім пакоі стаіць канапа і часопісны столік! Бабуля яму казала, што на лета можа перабірацца туды, там жа вальней, тэлевізар ёсць. Во, гэтак і будзе. Канапа раскладваецца, то ён адразу яе і раскладзе, і ўпарадкуе…

Як гэта было нязвыкла, як хвалююча, і як, пры ўсім, прыемна: рыхтаваць сябе і свой (ну, на гэта час — свой) дом да прыходу жанчыны, якая амаль што паабяцала табе сваю пяшчоту і абарону.

Першы раз за гэтыя дні Уладзімір увамкнуў тэлевізар — на вялікі гук, прыбіраўся ў кватэры. Атрымаў ліст з архівам ад свайго праграміста. Нават запусціў праграму па тых тлумачэннях, якія былі. Узрадаваўся: усё падалося вельмі зручным для работы. Але не сёння… Заўтра ў яго будзе дзень, заўтра…

Ірына сустрэла яго ля кавярні — яшчэ здалёк ён пабачыў яе, памахаў рукой, і яна памахала ў адказ, і адразу ж рушыла яму насустрач: у сіняй сукенцы, што абляпляла, як мокрае, усё яе зграбнае цела, робячы такім невыказна зваблівым, што Уладзімір каўтануў. І гэтая жанчына чакае яго!

— Прывітанне!

— Прывітанне! — Ірына падала руку, і пакуль Уладзімір прытрымаў яе ў сваёй далоні, лёгка пацягнулася і ледзь-ледзь кранаючыся вуснамі пацалавала яго ў шчаку. Гэта было так нечакана для Уладзіміра, што ён замёр, а яна засмяялася вясёла:

— Ой, гэта проста аванс… Я падумала: чаго сядзець у кавярні, калі мы потым збіраемся зазірнуць да цябе і прагнаць нячыстую сілу?

— Ага, дык я… і віна купіў, вось, — Уладзімір не мог суладаць са сваёй разгубленасцю. — Толькі я не ведаю, якое ты любіш, і наагул, я не ведаю: што купляць і як…

— А Божа, які ты ў мяне… наіўны, бы як тое дзіця малое, — Ірына падхапіла яго пад руку. — Што ты купіў? Якое віно?

Уладзімір назваў маркі віна, сказаў пра кан’як , цукеркі і мяса.

— Тады ідзем да цябе праз магазін! — загадала Ірына. — Пабачыш, што трэба браць на стол для сучасных жанчын.

Яны зайшлі ў супермаркет, неяк зусім па-хатняму, быццам даўно былі разам, хадзілі па радох: Уладзімір каціў вазок, Ірына кідала туды пакункі: гатункі сыру, лімон, апельсін, вінаград…

— Будзе нам грошай? — пацікавілася Ірына папростаму, без аніякага намёку, і Уладзімір адказаў гэтак жа спакойна:

— Будзе, ёсць на картцы…

Ён не заўважыў, у які момант Ірына павяла сябе так, што раптам яны сталі рабіць разам тое, пра што думаў ён адзін, пра што марыў: іх цяперашнія хвіліны былі падобныя да хвілін перад інтымнай святочнай вячэрай мужа і жонкі, калі яны няспешна рыхтуюцца да свайго асабістага свята, ведаючы, што ў гэтым свяце запланавана, і міжсобку адкінулі ўсякія намёкі і недагаворкі. Гэта не проста грэла і цешыла — гэта напаўняла Уладзіміраву душу нязведаным раней пачуццём дасканаласці, завершанасці і ўпэўненасці.

Адмыкаючы дзверы, ён гнаў ад сябе думку пра тое, што зараз можа нешта адбыцца, нешта такое, што не проста сапсуе вечар і ноч, а абрыне, раструшчыць усе планы і мары: раптам падалося, што ў вітальні іх сустрэне пах падлы, такі, што не ўтрываць будзе. Ці на століку, які ён прыставіў да ўжо прыбранай канапы, будзе сядзець той самы шэры кот, а на самой канапе, на новай бялізне будзе смярдзючая кацiная куча. Уладзіміра пачало дробна трэсці, ад панічных думак пачалі дрыжаць рукі.

Добра, што Ірына нічога не заўважыла.

— Тут так зацішна, утульна… быццам у другім свеце, — толькі і сказала, пакуль яны ішлі па сцяжынцы праз сад.

Смуроду падлы ў вітальні не было. Ніякага паху не было.

Кот не сядзеў на століку.

Там стаяла толькі ўзятая з серванту старамодная крыштальная ваза з кветкамі — Уладзімір і іх купіў ля супермаркета ў бабулек.

Лёгкае пакрывала на канапе было чыстае.

І на куханьцы было ўсё ў парадку.

Уладзімір уздыхнуў з палёгкай.

— Як у цябе тут ладна! Чысценька так! І, бачу, ты чысцюля адметны, — пахваліла Ірына Уладзіміра.

— Прывык… Прывучыў некалі бацька, — прамармытаў Уладзімір.

— Ну, дай мне які фартушок, будзем гаспадарыць, — Ірына паклала сваю сумку на канапу, паглядзела ўважліва на Уладзіміра, падышла і паклала яму на плечы рукі: — Ты так хвалюешся, бачу…

Яе грудзі краналіся Уладзіміравых грудзей, яе твар быў так блізка ад яго вачэй…

Ірына пацягнулася і пацалавала яго ў вусны — стрымана, ласкава.

— Не хвалюйся, усё будзе хараша, — усміхнулася.

Уладзімір міжволі прытрымаў яе, яна памкнулася ў першы момант вызваліцца, але потым прыціснулася да яго ўсім целам, і яны сталі цалавацца: спачатку асцярожна, а потым з жарсцю, якая абуджалася ў іх абоіх, прыціскала целы мацней і мацней адно да аднаго, надавала шаленства рукам.

— Досыць, досыць пакуль што, — перапыніла пацалунак Ірына, усміхнулася ўшчувальна: — Мы так і віна не пакаштуем. Хай будзе ўсё прыгожа…

Пілі каньяк, віно, ізноў каньяк. Гучала музыка (Уладзімір прынёс ноўтбук і падлучыў калонкі), пакой асвятляўся тэлевізарам — мільгацеў экран, гук быў вымкнены.

Ірына сама выбрала той момант: выпілі віна яшчэ крыху, яна адставіла фужэр на столік, крышку прыўзнялася, потым нібыта проста ўскінула рукі ўгару, а разам з рукамі ўзляцела яе сукенка, быццам на канапе нейкая птушка паспрабавала ўзмахнуць, расправіць крылы, ды перадумала — сукенка апала ў Ірыніных руках камячком тонкай сіняй тканіны. Яшчэ два рухі — і Ірына сядзела, падціснуўшы пад

сябе ногі з шаўковай скурай зусім аголеная, крышачку сарамліва ўсміхалася, не вуснамі — вачыма.

— Хадзі да мяне…

Уладзімір цалаваў тонкую скуру яе белых, незагарэлых грудзей, а ўнутры ўсё трымцела, і здавалася — вось зараз ён страціць прытомнасць ад перапоўненасці пяшчотай і жаданнем.

Потым яны ізноў пілі, рознае, толькі цяпер не міргаў тэлевізар — Уладзімір вымкнуў яго, яна зноў сядзела на канапе, не адзяваючыся, разняволена абапёршыся на падушку, якую прыставіла да сцяны, трымала фужэр з вінам, загадкавая і мілая ў святле поўні, што заліло пакой праз празрыстыя бабуліны занавескі (бабуля не любіла цяжкіх штор на вокнах), а ён, бясконца шчаслівы і рады да вар'яцтва, цешыўся ёю, пагладжваў яе ногі, а скура на сцёгнах і на дотык здавалася шаўковай.

Потым ізноў было наталенне двух целаў адно адным. Толькі на гэты раз не сарамліва-цнатлівае, не асцярожнае ў сваім памкненні ніяк не пакрыўдзіць, не параніць другога, не прагнае ў жаданні аддаць другому ўсю сваю пяшчоту, а наадварот: бязмежнае ў сваёй бессаромнасці, быццам яны імкнуліся за кароткія хвіліны адшукаць для сябе нешта найнезвычайнейшае, нешта такое, што ўздыме іх задавальненне — ужо і кожнага паасобку — на яшчэ большую пачуццёвую вышыню і пакіне там у шаленстве экстазу.

Гэта цягнулася доўга — куды даўжэй, чым першы раз. Урэшце яны стомлена сцішыліся, яна схіліла над ім сваю галаву. Уладзімір ляжаў на спіне, асцярожна кранаў яе грудзі, якія цяпер не ўзрушвалі яго сваёй дзіцячай беззабароннасцю і мілай пяшчотай, толькі здзіўлялі неверагоднай, яшчэ ўдзень, мажлівасцю іх

кранаць, асцярожна сціскаць і лашчыць невялікія смешныя смочкі.

Паласа блактіна-белага зыркага святла поўні падала праз шчыліну між дзвюх фіранак проста на іх, на схіленую Ірыніну галаву, на Уладзіміравы рукі, што няспешна лашчылі яе грудзі.

Яны адпачывалі.

Ірына ўскінула голаў, у месячным святле яе валасы ўскалыхнуліся, як быццам загарэліся блакітным полымем.

Уладзімір зірнуў ёй у твар.

На яго глядзелі хіжыя, з жаўтлявымі вузкімі зрэнкамі вочы.

Не твар — страшная звыродлівая морда старой вампіркі, якія так любяць паказваць у фільмах жахаў. Толькі не было бліскучых іклаў і разяўленага рота.

“Папаўся!” — гэтае слова падарвала свядомасць.

Уладзімір адным рухам выскачыў з-пад Ірыны (а гэта была Ірына?).

Падскочыў да тэлевізара (вымыкач быў над канапай, над той, што цяпер замерла, застыла ў нерухомасці), пстрыкаў вымыкачом, быццам просты тэлевізар быў збаўцам, быццам ён мог нешта змяніць.

Загарэўся экран.

Скаваны жахам так, што анямелі рукі і ногі, Уладзімір амаль не дыхаў. Мозг, паралізаваны жудасцю ўбачанага, недзе аўтаматычна адзначаў, як моўчкі, ні слова не кажучы, і не паварочваючы да Уладзіміра твару, дзяўчына бессаромна, у поўны рост, устала ля канапы, пацягнулася за сукенкай на спінцы. Спрактыкаваным рухам нацягнула адзежыну, паправіла. Потым памацала рукой там жа, ля спінкі, знайшла свае майткі і станік, загрэбла іх, узяла сумку, нядбайна кінула туды. Усунула ногі ў басаножкі і моўчкі, усё

гэтак жа, не зважаючы на Уладзіміра, выйшла. Уладзімір бачыў, як яна хутка прайшла міма акон дома па сцяжынцы, стукнула веснічкамі.

Ён бязвольна асунуўся на падлогу, неяк затрымаўся, каб не ўпасці на выстаўленай, бы падпорка якая, руцэ.

Лёгка рыпнулі дзверы.

На парозе вялікага пакоя сядзеў кот, цяпер амаль чорны, яго жоўтыя вочы не мігаючы глядзелі з невытлумачальным для Уладзіміра жалем.

Толькі цяпер Уладзіміра затрэсла, як у ліхаманцы. І гэта вярнула яго цягліцам адчуванне. Ён устаў, калоцячыся, бо ногі падгіналіся, падышоў да канапы, пацягнуўся і ўвамкнуў святло. Разанула па вачох, Уладзімір зажмурыўся. Калі адплюшчыў вочы, ката на парозе не было.

Памкнуўся быў і не змог сесці на канапу. Урэшце падхапіў і адкінуў ад сябе сінюю ў белых кветках прасціну, сеў. Абхапіў галаву рукамі, застагнаў. Пацягнуўся па цыгарэты на століку, убачыў у сподачку, які быў замест попельніцы, недакуркі ЯЕ цыгарэт — тонкіх, зялёных. Абярнуў сподачак проста на падлогу. Закурыў. Потым пашукаў вачыма сваю чарку — яна павінна быць чыстай з берагу, лінуў каньяку. Пераліў, хоць з бутэлькі напой цёк тонкім струменем. Падносіў чарку і скрывіў рот у роспачы: рука трэслася, пітво пралівалася на пальцы.

**6**

Да рэчаіснасці Уладзіміра вярнула надрыўнае гучнае бабскае галашэнне:

— Ай, дзеткі мае, а што ж ты нарабіў, дзіцятка маё! А долечка ж мая!..

Уладзімір ўзняў галаву. Ён зразумеў, што сядзіць, абхапіўшы калені, скурчыўшыся каля канапы. У пакоі было светла. Міргаў тэлевізар. Часопісны столік заліты рэшткамі віна, закіданы абгорткамі цукерак, недакуркамі цыгарэт. На канапе ляжала скамечаная бялізна.

Уладзіміру было вельмі халодна, яго трэсла.

— Зараз, мой харошы, зараз! — Марыя Фамічна подбегам наблізілася да Уладзіміра, паклала руку на яго галаву. Потым падхапіла падолак сваёй доўгай спадніцы і стала ліхім бокам тканіны церці Уладзіміру твар: раз, другі, трэці.

Уладзімір страсянуў галавой, як толькі што вынырнуў з вады, пад якой, высільваючыся, прабыў без паветра да пякучага болю ў грудзях, хапіў паветра раз і другі. Азірнуўся на гаспадыню, жаласліва папрасіўся:

— Даруйце, Марыя Фамічна…

Хацеў устаць, але прысеў ізноў. Ён зразумеў, што зусім голы.

Гаспадыня адкрыла дзверы ў свой пакой, стала корпацца, прыгаворваючы голасна:

— А я ж з панядзелка, з панядзелка днём, як падкінула мяне, як стрэліла: от чую, нешта здарылася. І не магу спаць, хоць ты вочы завяжы, хоць гарэлку пі. І дзень мінуў, і ноч, думаю: трэба ехаць, ну трэба ехаць, нешта зрабілася, нічога рабіць не магу, баліць душа, баліць, зрабілася такога…

Уладзімір, амаль не ўсведамляючы таго, што адбываецца, знайшоў сваё адзенне, адзеўся. Стаў каля канапы, глядзеў на завалены часопісны столік: мабыць, трэба гэта ўсё прыбіраць…

— Ой, дзіцятка, хадзі сюды, хадзі…

Марыя Фамічна несла з пакоя літровы слоік з празрыстай вадкасцю — вадой, хутчэй за ўсё. Узяла за руку Уладзіміра, і ён пакорна пайшоў за ёй, як маленькі хлопчык, што нашкодзіў і чакае цяпер свайго пакарання.

— Ай, ай-ай, Валодзечка, нашто ж ты нож выцягнуў, чым жа ён табе так замінаў там, а? — прыгаворвала гаспадыня, а сама ставіла пасярод кухні табурэтку, садзіла на яе Уладзіміра.

Той самы нож, які дастаў Уладзімір са шчыліны ў сцяне, ляжаў на кухонным століку — дзе ён яго і паклаў.

— На гэтым нажы гэтулькі ўсяго, гэтулькі ўсяго, а ты яго ў хату ўпусціў, як ты яшчэ жывы ды здаровы, дзетачкі мае. Нельга такі нож у хату, нельга даставаць… От, баба старая, што ж я цябе не папярэдзіла… — галасіла Марыя Фамічна, абходзячы Уладзіміра, які паслухмяна застыў на табурэтцы, апускала руку ў слоік і пырскала потым на Ўладзіміра — на галаву, на плечы, спіну. Уладзімір ніяк не рэагаваў на тое, як халодныя кроплі падаюць на яго паўголае цела.

Гаспадыня нешта зашаптала, часта і хутка.

Уладзімір сядзеў на крэсле, пагойдваўся ўзад-уперад, усё больш і больш, а бабуля ці то дапамагала яму, ці то прытрымвала, каб не надта гойдаўся, трымаючы адну сваю руку на яго лобе, другую на патыліцы. Уладзімірава галава падала назад — і ён адчуваў, як падае ён сам у чорнае і гарачае, што не мае назвы і канца, дзе ні пачуццяў, ні адчуванняў, дзе ўсё нішто і само чорнае было нічым, і гэта прыцягвала спакоем, поўным і ціхім, глыбокім і роўным. Падавалася галава наперад — і Уладзімір урываўся ў шумнае многагалоссе, яго бянтэжыў і пужаў тлум і гоман,

каляровае святло. Яго працінала тысячамі боляў — адразу ўсе клетачкі цела, яго свядомасць салодка заскіпала мільёнамі пухіркоў адчуванняў — і гэта было страшна, але гэта вабіла, заварожвала, гэта абяцала яшчэ адно адчуванне да тых мільёнаў…

Ён разгойдваўся ўсё мацней і мацней, цяжка дыхаў, ужо гатовы быў, здавалася, скочыць і застацца — ці то там, у цемры — і адчуць асалоду вечнага спакою, ці то там — у святле, каб працяў яшчэ адзін боль, каб мець асалоду ад яшчэ аднога пачуцця, напіцца яшчэ адной радасцю…

Але бабуля раптам перастала шаптаць і спыніла яго галаву акурат пасярэдзіне.

Уладзімір адкрыў вочы.

Гаспадыня трымала ў руцэ той самы нож, а лязо яго было пакрытае густымі рудымі плямамі ржы. Уладзімір ізноў пачуў хуткі шэпт, бабулін голас пачаў узмацняцца, але Уладзімір не мог разабраць ні слова, ды цяпер гэта і не важна было — яго стала ахутваць цяпло, і салодкая млявасць распаўзалася з галавы ў грудзі, потым у ногі, рукі. Бабуля ўжо амаль выкрыквала асобныя словы, і недзе мільганула думка пра тое, што яму б вельмі спатрэбілася гэта запомніць — гэтыя словы, але навошта — Уладзімір не помніў. Яшчэ адчуў, як агідна зашоргала тупая сталь нажа па пасмачцы яго валасоў, што захапіла пальцамі гаспадыня, і гэтае шорганне было такім непрыемным, што аж у роце аддалося агідным прысмакам.

Ён з бабулінай помаччу змог падняцца, зайсці ў свой пакойчык, упасці — і адчуў такую неверагодную палёгку, такое замілаванне ад спакою і ціхасці ў душы, што слёзы з’явіліся ў яго на вачох.

Праз хвіліну Уладзімір спаў — мо першы раз за гэтыя дні звычайным здаровым сном.

Прачнуўся сам — лёгка, з яснай галавой. Мінулае ўваходзіла ў свядомасць, нібыта кадр за кадрам пераглядаў страшнае кіно. Але самому яму цяпер было зусім не страшна. Толькі сорамна. Перад гаспадыняй, якая, ён чуў, нешта мыла ў ракавіне на кухні. Зірнуў на мабільнік — амаль поўдзень. На лекцыі спазніўся. Экзамен заўтра. Будзь, што будзе…

— Добры дзень, Марыя Фамічна.

Уладзімір сеў за стол, гаспадыня стаяла ля ракавіны, выцірала рукі.

— Хто ж гэта ў цябе быў, Валодзечка? — спытала яна з жалем.

— Кот быў. Напачатку…

— Ката не чапай, ён па справе тут быў, — абараніла жывёліну гаспадыня, махнула рукой, маўляў, не ўспамінай больш.

— Жанчына была, маладая…

— Чорная?

— Валасы? Не, белыя… нефарбаваныя.

— То гэта не яна, не…

Гаспадыня прысела насупраць яго, з жалем зазірнула ў вочы.

— Я тое папраўіла, што праз сваю дурасць ты нарабіў, праз нож… Але ж табе, Валодзечка трэба ехаць… Нешта ёсць на табе, такое страшнае, што мне не вылечыць. У мяне во рука як адсохла правая, як табе пасмачку валасоў адрэзала. Цяпер трохі варушу, а то віснем вісела. Яно мацней за мяне, табе іншы лекар трэба. Я табе скажу куды і да каго, едзь… Бо бяда над табой вісіць, не ведаю якая, не ведаю за што, быццам значаны ты некім на страшную справу…

Гаспадыня памаўчала хвілінку, потым спытала асцярожна:

— Ты во пра сваіх расказваў мне трохі, а ў тваім родзе хіба ніхто нічым такім не займаўся? Не варажыў, людзей не лячыў?

— Не, — адмоўна матлянуў галавой Уладзімір.— Я не ведаю. Бабуля… яна верніца была, у яе дом маленькі быў, як царква. Там шмат абразоў вісела, мы туды з братам малым хадзілі… Бабуля памерла рана, я малым быў зусім…

— От, засцерагла яна цябе, бачу ж, што ёсць у табе светлае, табе бабуля ахову паставіла з таго боку, каб не яна, то і не выжыць табе б, — апошнія словы гаспадыня прагаварыла са слязьмі. — От што ў нашым свеце робіцца, гэта толькі падаецца, што добра людзі міжсобку жывуць, а расплюшч вочы, пабач: ваўкі так не жывуць, не дзяруць адзін аднаго, не выразаюць дзяцей… Паехалі, Валодзечка, якраз у мой бок аўтобус, я зыду ў сваёй вёсцы, а ты далей паедзеш, да канцавой, а там недалёчка, тры кіламетры лесам прабяжыш, і будзе вёсачка невялікая. Там спытаеш… Уладзя такі. Не Уладзімір, як ты, а Ўладзя. Дзед, ну, яшчэ не дзед, трохі маладзейшы за мяне. Толькі ты яму скажы, што гэта я паслала, бо ён так нікога не прымае. Паехалі, пайшлі на праспект, тут якраз наш аўтобус становіцца, як туды ідзе, во праз паўгадзіны будзе. Табе ноч аднаму не пераначаваць, а я баюся, не здужаю, што мне тады рабіць…

— Зараз, Марыя Фамічна, пакуру, падумаю… — Уладзімір узяў цыгарэціну, выйшаў на надворак.

Успомніў адну, другую і трэцюю ноч. І нават цяпер, седзячы на невялічкай лавачцы перад верандай у цяню, бачачы перад сабой асветлены зыркім сонечным святлом сад, страх варушыўся ў галаве, гэта Уладзімір адчуваў амаль фізічна. Ці мо проста скура на галаве сціскалася ад успамінаў і валасы прыўздымаліся…

Заўтра экзамен… павінен здаць ідэалогію.

Для выкладніка этнаграфіі ён ні халеры не зрабіў. Што скажа? Але ж пераздача праз два дні, паспее, калі… калі што? Калі вылечыцца? Ад чаго? Чым ён захварэў? Што нясе гэта бабулька? Можа, проста кінуць гэты дом, пайсці на кватэру якую, няхай там будзе даражэй утрая-учацвёра, затое не будзе гэтай брыдоты па начох…

— Ну што ты, не накурыўся яшчэ? — прыкрыкнула ўжо праз фортку бабулька. — Мне ж пакуль дайсці, не маладой бегчы.

Пэўна што, на Уладзіміравым твары застылі яго апошнія думкі пра гэты дом і ўсю чартаўню ў ім, бо гаспадыня адразу ж пасур'ёзнела і сказала з крыўдай у голасе:

— Ты пра мяне дрэннага не думай. Я табе так скажу: ты ад гэтага нікуды не дзенешся, кажу табе, дзеткі, пазначаны ты. Хто і калі — не ведаю, не маё гэта, каб мне дня больш не хадзіць, няхай Уладзя скажа, ён здужае. А сам ты нічога не паробіш, нікуды не схаваешся…

— Паехалі, Марыя Фамічна…

Ехаць было незвычайна — ён так засумаваў вось па такіх аўтобусах, дзе можна сесці на сядзенне, дзе не трэба ўціскаць самога сябе ўсярэдзіну, меншаць, каб толькі не прыліпала да цябе нечая потная спіна ці мяккія, але з цвёрдымі смочкамі, нечыя не ўбраныя ў станік грудзі. Уладзімір адчуваў сябе так спакойна і вольна як ніколі, хоць разумеў, што гэта самападман. Хіба тады, у сваёй роднай хаце, не быў ён вольным, калі расчыняў акно, а адтуль шапаценне дажджу па дубовым лісці лагоднай музыкай заплывала ў яго маленькі пакойчык, і можна была адкінуцца ў крэсле, выцягнуць ногі і выцягнуцца самому і слу-

хаць, слухаць вольны дождж і быць вольным разам з дажджом…

Гаспадыня пільна зазірала яму ў твар перад тым, як зысці на сваім прыпынку.

— Усё будзе добра, не перажывай, ён такі, ён можа, ён моцны, — хутка шаптала яна яму, каб не чулі нешматлікія пасажыры. — А то як што якое — ці дома яго не будзе, ці яшчэ што — вяртайся да мяне, во тут мяне знойдзеш, папытаеш. Але сам у горад не едзь, знойдуць яны цябе…

Уладзімір слухаў. Яму хацелася ўсміхнуцца, засмяяцца нават: хто яны? Чым і кім ён значаны? Дзеля чаго? Гэта ўсё здавалася не проста ненатуральным — вар'яцкім: усур'ёз думаць пра нейкае пазначванне, пра тых, хто яго шукае і знойдзе. І толькі ночы… І гэтая, апошняя ноч, успаміны пра якую і дагэтуль адганяе ад сябе Уладзімір, адно толькі кароткім уражаннем дазваляе ён праціснуцца ў свядомасць, каб паспрабаваць зразумець… Дні і ночы. Між імі была бездань, мяжа рэальнасці.

"Тут заўсёды мяжа, — падумаў сабе Уладзімір. Ноччу ўсё не так, ноччу ўсё відаць. Гэта днём сонца сляпіць вочы і разлічваеш толькі на душу. А ноччу відаць вачыма…"

Выйшаў на апошнім прыпынку. Гэта была вялікая вёска, кажучы сённяшнім калгасным слэнгам — аграгарадок. Аўтобус развярнуўся і стаў. Было відаць, што ў зваротны рэйс яму не адразу, бо купка людзей на прыпынку не спяшалася заходзіць у напаленае сонцам бляшанае нутро салона. Уладзімір падышоў да дзвюх мажных жанчын, вясковак, якія басанож сядзелі пад паветкай прыпынку на новай памаляванай, з тоўстых рэек, лаўцы, спытаўся, калі яшчэ будзе аўтобус назад ці які іншы рэйс. Узрадаваўся: каля

васьмі вечара. Значыць, паспее. Папытаўся далей, як прайсці на Карчаваху — такую вёсачку назвала гаспадыня.

— А от, далей завулак, там дарога будзе праз луг у лясочак невялікі, а за Чортавым каменем управа сцежка — якраз на Карчаваху. Гэта кароткая дарога, калі пешкі… — прыўзнялася ахвотна адна жанчына з лаўкі, паказваючы кірунак.

Уладзімір падзякаваў, адышоўся колькі крокаў і прыкурыў, а ззаду пачуў хуткі ўзрушаны шэпт:

— Кажу табе — да Ганны ета! Ужо каторы сюды прыязджае! Во ведзьма, усіх хлопцаў звабіць…

— Малады надта для Ганны… А табе дзела да яе хлопцаў! Як прыцісне, дык пабяжыш да яе ў медпункт! Я во была ўчора — такая ласкавая, усё распытае, паслухае, і таблетак тых не трэба. Яе дзела маладое, хай бы хто знайшоўся, каб падвозіў, а то ўсё пехатой бегае…

— Дык жа давалі ёй тут дамок, не хоча…

— Матчына хата ў яе, там сцяна падтрымае і кут суцешыць…

Уладзімір пайшоў няспешна. Выйшаў за вёску, і перад ім адкрыўся шырокі луг, які з двух бакоў сціскалі палі з пажоўклым ужо ячменем, а наперадзе сінеў лес, ці лясок, як казалі жанчыны.

Уладзімір ішоў, ні аб чым не задумваючыся — так хораша было ісці няспешнай хадой, ісці з пэўнай і канкрэтнай мэтай у поўнай цішыні летняга дня, пад чыстым сінім небам з рэдкімі кволымі аблачынкамі. Здавалася, што ён даўно, аж ад самага дзяцінства не хадзіў вось так: у адзіноце сярод поля і лугу.

Дарога дзвюма каляінамі павярнула ўправа, да поля, а да лесу бегла цяпер толькі простая сцяжынка: вузкая, але добра ўтаптаная, было відаць, што слу-

жыць яна тут людзям ужо не адзін год. Ісці стала яшчэ прыемней.

Ужо стаў пазнаваць камлі асобных дрэў, якімі пачынаўся той лясок, як па сцежцы з таго ляску выйшла яму насустрач жанчына ў жоўтай, такой выразнай на зялёным, сукенцы. Твару яе Уладзімір пакуль што не мог разгледзець, адно зазначыў, што жаночая постаць — рухавая, гэта, відаць, дзяўчына, бо ідзе хутка, але не спяшаецца. І раптам захваляваўся. Можа, з таго, што навокал была такая густая цішыня, адно што невідомыя конікі стракаталі ў траве.

Яна набліжалася, і Уладзімір стаў ісці павальней, крадком імкнучыся разгледзіць яе твар.

Зграбная постаць, не хударлявая, такая па-вясковаму дзябёлая, невысокага росту, гадоў трыццаці. Твар...

Уладзімір зірнуў на жанчыну і раптам спыніўся, аглушаны неверагодным пачуццём: ён ведаў яе.

Так, ён ведае, ён не проста бачыў раней гэты круглявы, з роўным загарам твар, глыбокімі вачыма пад рэзка абрысаваным паўкружжам чорных брывоў, з вільготнымі, крышку поўнымі вуснамі. Доўгія светлыя валасы былі перахопленыя ззаду стужкай, канцы іх ляжалі наперадзе, цераз плячо, і жанчына крыху прытрымвала іх рукой.

“Бо хутка ідзе, каб не матляліся...” — недарэчна падумалася Уладзіміру ў той час, калі памяць імкліва перабірала ўсе яго апошнія сустрэчы з жанчынамі: ці то на якім вяселлі, ці то ў горадзе ў камандзіроўцы. Ці ва універсітэце? Дый галоўнае было не тое, што Уладзімір быццам ведаў гэтую жанчыну раней! А тое, што ён быў пэўны: яны добра некалі ладзілі, яны дабра-добра ведаюць адзін аднаго.

Уладзімір стаў, але не сходзіў са сцяжынкі і ўсміхаўся ветла, каб не дай Бог не напужаць яе: яшчэ падумае, што надумаўся яе тут пераймаць, у гэтай глушы.

Але страху ў мілавідай жанчыны не было. Яна таксама прыпынілася насупраць Уладзіміра і зірнула на яго — так зірнула, як глядзіць стары сябар на старога сябра, якога помніць і ведае, а ён вось забыўся на ўсё, і нават імя тваё забыўся. У вачох было не асуджэнне, а дараванне і ціхі дакор.

— Добры дзень, — хрыпата выціснуў з сябе Уладзімір, кашлянуў і дадаў хутчэй: — Прабачце, заступіў Вам… Вы… Мне нешта здалося, што я Вас ведаю. І Вы мяне… мы ж бачыліся недзе раней.

— У снох, — нечакана шырока ўсміхнулася жанчына. — Добры і вам.

— Не, не, мне ніколі не сніліся такія… жанчыны, — збянтэжыўся Уладзімір — горка было разумець сваю памылку. Ён яшчэ хапіўся, як за саломінку: — Можа, мы недзе на вяселлі якім разам былі…

— Не, ты памыляешся, — проста адказала дзяўчына, і гэтае “ты” прагучала як яшчэ адзін довад ужо згаслай упэўненасці. — Не сустракаліся мы нідзе раней. Але ж во сустрэліся! Яшчэ пабачымся, — зноў усміхнулася яна, як развіталася, і Уладзімір зразумеў, што трэба схіліцца з дарогі, і яна пайшла, гэтаксама роўна, хутка, але няспешна.

І не азірнулася, хоць сам Уладзімір глядзеў і глядзеў ёй услед.

“Ганна!” — нечакана ўспомніў ён той самы шэпт цётак на прыпынку, і стала лёгка: проста запалі ў яго тыя словы пра жанчыну, якая жыве ў Карчавасе, вось сустрэў яе і падумаў, што ведае… Але ж чаму так цёпла было ў хвіліны, калі яна стаяла насупраць? Чаму насамрэч адчуваў ён нешта надзвычай роднае і дарагое?

“Ат, годзе… мяне дакладна трэба лячыць”, — падсумаваў Уладзімір.

У лесе адчуваўся вецер — там, уверсе, шумелі лістотай дрэвы. Лес быў светлы — бярэзнік, траплялiся сосны. Неўзабаве сцяжынка крута павярнула ўправа — на ўскраек лесу, дзе праз поле віднеліся дахі некалькіх дамоў і кроны высокіх дрэў — вёска.

“Дык тут паварочваць? А дзе ж той Чортаў камень?” — Уладзімір разгублена спыніўся.

Яшчэ там, калі пачуў “ля Чортавага каменю”, адразу ўспомніў сваю карту, якую некалі зрабіў быў сам — выпісаў з усіх знойдзеных крыніц месцы гэтых Чортавых камянёў, нанёс кропкі на карту. Думаў, што калі так зробіць, то на карце сама сабой намалюецца нейкая выява, калі не разгадка, што было мала чакана, дык хоць нейкая падказка. Не выйшла тады нічога, хоць, калі злучаліся ўсе кропкі размяшчэння Чортавых камянёў у розных варыяцыях, быццам бы выходзіла нейкая літара. Калі пастарацца, дык можна было б назваць яе рунай… Але Уладзімір тады зразумеў, што гэта надумана, бо Чортавы камяні былі і ў Літве, і ў Латвіі, і ў Польшчы — усюды. Але вось цяпер, успамінаючы карту, Уладзімір нешта не мог успомніць таго каменя. Можа, не такі вялікі… Не становіць цікавасці для навукоўцаў…

Ён разглядаўся на бакі, пакуль не заўважыў ледзь прыкметную сцяжынку, не сцяжынку нават, але было відаць, што сюды не раз збочвалі людзі. Павярнуўся, прайшоў крокаў дзесяць — і раптам пабачыў вялізны камень.

Ён быў з метр вышынёй, а ў адным канцы — больш за метр, няправільнай формы, пад два метры ў даўжыню. Як і належыць каменю, меў светла-шэры колер, цяпер дык і зусім светлы пад праменямі сонца. З трох бакоў камень акружалі зараснікі маліны.

Уладзімір набліжаўся да каменя, уражаны яго магутнасцю. “Вось ты які, Чортаў камень… Ну, добры дзень…” — у думках прывітаўся ён паміма волі з гэтай веліччу.

Ніколі ён раней не бачыў жыўцом такіх вялікіх камянёў ды яшчэ вось так — недзе ў лесе. І таму працягнуў руку і паклаў яе на цёплы шурпаты бок асцярожна, быццам дакранаўся да нечага незвычайнага. І ўздрыганулася рука, якая раптам адчула пад сабой не простае цяпло, а цяпло нібыта жывой істоты, быццам ад сярэдзіны каменя прайшоў праз яго таўшчыню ва Уладзіміраву руку слабы электрычны ток. Але Уладзімір не спалохаўся, не адторгнуў рукі, наадварот — паклаў на камень і другую, і захацелася дакрануцца да роўнай цёплай паверхні ўсім целам.

“Сумна табе тут аднаму? — працягнуў у думках Уладзімір. — Адзін ты і адзін. Дні, гады, стагоддзі…”

Ён стаў абыходзіць вакол.

З другога боку камень меў невялікае паглыбленне, дзе ляжаў невялікі букецік сініх валошак. Кветкі былі зусім свежыя. Уладзімір застыў, уражаны гэтым кранальным малюнкам: жывыя пяшчотныя кветкі на шурпатым граніце.

“Дык ты зусім і не адзін… У цябе нехта ёсць, — разгубіўся Уладзімір, і ў глыбіні душы варухнулася нешта падобнае да рэўнасці. — Табе і кветкі прыносяць”, — звязаў ён у адно нядаўную сустрэчу з той жанчынай на сцяжынцы, гэты камень і букецік кветак.

Ля стромага боку каменя абапёрся аб яго спінай, адчуў незвычайную моц граніту і поўнае супакаенне, быццам ужо дайшоў да сваёй мэты, дасягнуў галоўнага. Астатняе было не такім і важкім. Дастаў цыгарэты і закурыў. І адразу куточкам вока заўважыў, што да яго ідзе мужчына, сталага веку, у простай шэрай

кашулі, якая не была ўбраная ў цёмныя штаны, рослы і дужы. Дакладней, ён быў некалі дужым, цяпер жа, відавочна, гады ўзялі сваё: хада ў чалавека была не лёгкая, хоць упэўненая і няспешная. Твар яго быў чысты, паголены, вялікія белыя вусы акуратна падрэзаныя. Адкрытая галава — не проста сівая, а бялюткая. Яму было, мабыць, гадоў за семдзесят.

Ён спыніўся перад Уладзімірам за тры свае крокі, пільна зазірнуў у твар хлопцу:

— Павітаўся з каменем?

Уладзімір сустрэўся з вачыма старога і нечакана зноў, як пры сустрэчы з той невядомай Ганнай, узнікла пачуццё дэжавю. І калі з жанчынай яшчэ былі нейкія сумневы, то цяпер ён мог сам сабе пабажыцца, што ведае гэтага сталага мужчыну, што быў з ім некалі… у нейкім іншым сваім жыцці. Уладзімір зусім не здзівіўся пытанню — у гэтую хвіліну стары мог запытацца пра што хаця — і Уладзімір згадзіўся б, што пытанне дарэчы.

— Павітаўся, — шчыра прызнаўся ён.

— А камень? — пацікавіўся стары.

— Здаецца, адказаў, — амаль пахваліўся Уладзімір і спытаў: — Вы, часам, не з Карчавахі? Мне трэба там аднаго чалавека знайсці — Уладзю. Прозвішча не ведаю.

— Ты яго знайшоў, — адказаў стары. — я Уладзя. Больш няма.

— Мяне да вас… гаспадыня… ну, я здымаю пакой у ейным доме, вось, Марыя Фамічна Міклуш сказала, — расхваляваўся Уладзімір. — Мне да вас трэба.

— Я ведаю, — ціха адказаў Уладзя. — Хадзем. Я цябе даўно чакаю.

# ЧАСТКА 4

## *Амаль тысячу гадоў таму*

### 1

...Далей, далей вілася сцяжынка, ледзь прыкметная, а старонняму воку і зусім было не ўгледзець яе сярод лесу: не ўсякі ведае, якая травіца пад нагамі зможа расці, якая кветка будзе цвісці на прытаптанай зямлі. Перуноў дуб з рассечанай напалам вяршыняй з'явіўся нечакана — і павеяла, як у грудзі пхнула, чорным, чужым. Агапка прыпынілася, аддыхалася, хутка-хутка зашаптала словы, каб збіць хвалю чужой моцы.

Бабулю Дарэну тут знайшлі. Яе сухенькае цела ляжала ля самага дуба, абпаленае згары ды пераламанае так, што мужыкі, знайшоўшы яго, адхіснуліся ў жаху: чорны знак Жывы паўстаў перад імі, і прамянямі той свастыкі былі вывернутыя ногі і рукі Дарэніны. Цела яе ляжала сярод густой зялёнай травы, такой свежай, быццам і не было тут ніякага гарэння, ці было так даўно, што трава паспела ўзняцца. Але ўсе ведалі: яшчэ раніцай Дарэна ў гародзе была, яшчэ і цяпер во ад цела тхне смаленым. І ці то дымок віецца, ці то душа не жадае пакінуць цела, хоць і хрышчанага сіламоц.

Бабулю пахавалі тры дні таму. Казалі, яна толькі зверху абгарэла. А кроў з цела нібы выкіпела... Ці па

ранах выцекла. Ды шапянуў Прохар Агапцы (ведае, ведае стары), што тыя раны пад каленямі і пад локцямі не толькі дзеля таго былі пароблены, каб цела ў знак Жывы скруціць, — жылы з рук-ног выцягнулі. Ох, усё ведала Дарэна, і сваю смерць бачыла праз светлы дзень.

— Ад Перуновага дуба на ўсход бяжы, не зварочвай… адчуеш сцяжынку пад нагамі, падкажу табе, як змагу. Праз балота пройдзеш, на атоку выйдзеш. Там шукай Вялесаў камень. Верх ягоны пакуль што відаць, камень будзе расці на змену загубленаму. Там усё знойдзеш… Да забітага Вялеса-вялікага не хадзі… Нельга табе туды…

Ды як жа туды не пойдзеш, да Вялеса-вялікага, калі яе Сава на той будоўлі памагатым у самога Кузьмы? Хто ж яму полудзень прынясе? Вось лета адпрацуе, Кузьма яго ў майстры возьме. Цяпер шмат (ой, як шмат!) з каменя будуюць. То ўсё ж не на адным шнуры пяццю душамі сядзець, сягоння будаўнікам і плацяць добра, жоўтай манетай.

Будуюць… На ўсе іхныя месцы звозяць каменне, капаюць зямлю. І дамы высачэнныя ставяць, а за будоўляй наглядаюць чорныя людзі, у чорным адзенні, твары хаваюць. Усё меней паветра ім застаецца, усё глыбей у лес адыходзяць… У ваколіцы трэці Вялесаў камень пад зямлю закапалі…

Іхны камень, Вялес-вялікі, упярод палілі. Цэлы тыдзень, а пакуль палаў агонь, шэсць бочак на дзвесце вёдраў прывезлі. Бочкі паднялі на насцілы, запоўнілі вадой. І калі напалілі добра Вялес-вялікі, тады і лінулі ваду з усіх бочак. Кажуць, такі разлік у чорнага манаха быў: ад полымя і вады камень расшчэпіцца на мноства аскепкаў, іх і ўкладуць у сцены кляштара.

Ад Вялеса-вялікага рвануўся ўгару слуп пары, нібы люта выдыхнуў раз'юшаны бог. Дый не проста выдыхнуў — плюнуў адным вялізным аскепкам, ды так, што сямёх мужыкоў разам з перакуленай бочкай тым аскепкам знесла з насцілу далёка на пыльны пляц, а старэйшага дык і прыціснула гарачым каменем, расплюскала.

Той адзіны аскепак і аддаў Вялес-вялікі. Потым намеркавалі капаць пад камень, каб ён пайшоў у зямлю і стаў асновай пад вугал кляштара.

...Агапка бегла лесам, потым праз балота, нібы трымалася за невідочную нітачку — не зманіла Дарэна, вяла праз гушчар. Вада ў балоце сцюдзёная, ды толькі нагам босым халодна, а Агапцы горача. Пабачыла запаветны астравок, сэрцам адчула: ён гэта. Ступіла на цвёрдую зямлю — і зноў, як абліло яе чым, адчула незвычайную хвалю магутнай сілы. Упала на калені, схіліла галаву. Так, на голых каленях, падабраўшы ў рукі прыпол сукенкі, дайшла да замшэлага валуна. Асцярожна, як колкі ці гарачы, пагладзіла яго шурпаты верх. Рука трымцела.

І адгукнуўся камень жывой цеплынёй, і, здалося, лёгкай дрыготкай. Прызнаў... На камені пабачыла валасяны матузок і крыж на ім: вялікі, гліняны, з роўнымі вугламі, так зроблены, што нібыта гэта проста кружок быў з чатырма невялікімі прасечкамі. Ведала — няпросты крыж, у ім ад чужых вачэй схаваны пад абпаленай глінай Жывін знак. Начапіла на шыю, пачакала. Нічога не здарылася.

І заспяшалася той жа сцяжынкай назад.

Ужо калі адышлася ад Перуновага дуба, раптам адчула: на яе глядзяць. Вочы злыя, ліхія. Так звер не глядзіць. І чалавек просты не зможа так глядзець: каб нельга было пазнаць, з якога боку ўзіраюцца.

Адно яны могуць так, з Цемры… Агапчына скура ўраз пакрылася дробнымі пухіркамі — уся як ёсць, і на галаве скура сцягнулася. Аднак успомніла Дарэніны словы: “Толькі ты чуеш. Пакажаш ім, што чуеш — яны цябе будуць ведаць. А будуць ведаць — загубяць. Сягоння за імі сіла і ўлада”.

Агапка сабрала ўсю сваю волю, усміхнулася і пайшла, быццам бесклапотна, па сцяжынцы, хоць той пагляд лютасцю паліў патыліцу.

## 2

— Ах ты, суччын сын! Ізноў, ізноў яйкі тухлыя!

Кузьма страшны, калі ўзлуецца. А сярдуе ён часта, ды не так на вучняў, што сярэдзіну сцяны выкладваюць, як на памочнікаў: то рошчыну вадкую зробяць, то тухлых яек у яе наб’юць — хоць нос затыкай, робячы кладку.

Кузьма — мужык у плячох шырачэзны, росту ў ім на тры аршыны — схапіў жыда, што яйкі прывёз на фурманцы, узняў перад сабой. У таго вочы вылупляцца сталі, налівацца крывёй…

— Пусці.

Чорны манах, які цалюткі дзень стаіць у куце, загадаў нягучна, а ў Кузьмы адразу аслаблі рукі.

Жыд выслізнуў і хутка апынуўся на другім баку фурманкі:

— Дзе тухлыя? Дзе тухлыя? Бабы тваім памочнікам на полудзень тухлыя нясуць, а мае свежыя бяруць!

— Заб’ю нехрысця, — ціха прыстрашыў Кузьма і дадаў строга, гучна: — Сам пасачу! Хоць адно са смуродам будзе — салам пысу нашмарую.

Зарагаталі рабочыя і памочнікі. Разгрузілі лазовыя кашы з яйкамі, жыд крутануўся да манаха — атрымаць грошы. Той кінуў яму да ног партманет, сам не зварухнуўся, нават руху рукі з-пад складак адзення не відаць было.

Кузьма злы на працу, але за гэта на яго не крыўдуюць: адпачыць не дасць, але і заробак будзе добры. Бач, як мур борзда расце — ужо на палову Савінага росту падняўся. Сава стаіць побач з Кузьмой, але не памочнікам — сам муруе, хай і знутры пакуль што. На вонкавым баку муруе Кузьма і яго памагаты Цімафей.

Цімафей з прышлых. Колькі гадоў таму спыніўся тут, пры князевым замку, майстраваў, а вось распарадзіўся найяснейшы ставіць кляштар з касцёлам — выявіў сябе здольным мулярам. Але пануры вельмі. Жонкі ў яго няма, полудзень з сабой бярэ сам, есць адзін убаку. А чаго цурацца, калі полудзень — найвесялейшая справа! Як у замку звон адаб'е, бабы прыходзяць з вярэнькамі. Збяруцца ўсе вакол, ядуць разам, як з аднаго стала.

Агапка прыбегла ўся задыханая, нават хустка трошкі збілася на бок.

— Ну, і чаго ж спяшалася так? — спагадліва запытаў Сава, цешачыся маладой жонкай.

Дый як ёю не цешыцца: сярод іншых яна адна ззяе вачыма, ніколі не хмурыцца, хада ў яе хуткая, але роўная, і сукенка на ёй з адбеленага палатна без адзінай плямкі, як толькі што памытае надзела.

— Ягадак па лесе шукала. Нібыта і пара, а ўсё яшчэ зялёныя, — адказала Агапка, ласкава зазірнула ў вочы, а потым крыху збянтэжана разняла далонь — там свяцілася некалькі спелых суніц.

Сава захапіў вуснамі халадкавыя (як дзівосна!) ягады з жончынай далонькі, расціснуў языком, каб смак па ўсім роце разліўся… І раптам адчуў, як здрыганулася жончына далонь, як сама яна ўмомант напялася.

— Ты чаго? — агаломшана запытаў Сава. — Я ж не кусаюся, — паспрабаваў пажартаваць.

Агапка ж стаяла, замёршы, гледзячы ў адну кропку — на манаха. І той, нібы скамянеўшы, пазіраў на яе, а потым завярнуўся і пайшоў шырокай хадой у бок касцёла — там сцены пад дах падвялі.

— Ты чаго, Агапка, — устрывожыўся Сава, бачачы чужы, такі дзіўны жончын пагляд.

— А… не, нічога, — нібы апамяталася яна. — Так, здалося, — адказала з выпакутаванай усмешкай.

А ў самой боль у галаве звінеў звонам, раздзірала скроні. «Пазнаў, пазнаў…» — білася думка, а Дарэнін крыж на грудзях раптам стаў цёплы, потым — гарачы, і па ўсім целе цеплыня ад яго пацякла, пацякла, вяртаючы яму супакой і сілу.

## 3

— Расколіна!

Кузьма здрыгануўся, кінуўся на крык, адштурхнуў памочніка. І застыў перад мурам з цаглінай у адной руцэ, сціскаючы яе так моцна, нібы хацеў выціснуць ваду. Потым шпурнуў ашалела цагліну пад ногі.

Усе пазбіраліся вакол, глядзелі на расколіну, якая бегла ад самога долу і так шырока ўгары расходзілася, што праз яе віднеўся сад.

— Разбіраць трэба.

— Эх-х-х… — роспачна выдыхнуў Кузьма. — Ды як жа гэта? Я ж сам тут клаў!

— Чортаў камень дыхае, — выдыхнуў нехта з круга. — Імшу трэба.

— Свае крывыя рукі няма чаго на чорта перакладаць, — уладна прагучаў голас.

Перад манахам расступіліся.

— Мы ж сярод святога месца стаім, а ты чорта ўспамінаеш! — сыкнуў на яго Кузьма.

Манах нічога не адказаў. Падышоў, крануў сцяну, і тая раптам зрушыся — усе бачылі! Зрушыся пад ягонай рукой, варухнулася.

Усе ўмомант адхіснуліся.

— Буры, — загадаў манах.

Маркотна разбіралі мур. Цімафей падышоў да Кузьмы і стаў казаць, гледзячы ў зямлю:

— Не дасць Чортаў камень сцяне стаяць. Жывы ён…

— Сам ведаю, — буркнуў Кузьма. — Казаў, яшчэ як аскепкам нашых пабіла: мала будзе адной службы.

— Службай не паможаш.

— Дык што?

— Сам ведаеш. Ахвяра трэба… Як дзяды рабілі.

Кузьма замоўк, глядзеў, як разбіраюць мур.

— Пабачым. Можа, уляжацца камень…

З таго дня весялосці на будоўлі не стала. Хутка, зладжана працавалі ўсе, падганяць нікога не трэба было. Штораніцы спяшаліся сцены абысці, асабліва ўважна Кузьма аглядаў той вугал, пад якім ляжаў Чортаў камень. Сцяна трымалася. Вывелі да вокнаў, паставілі апалубку пад іх.

Чакалі князя — абяцаўся быць, асабіста пераканацца, што будоўля распачатая, што грошы выдаткоўваюцца спраўна.

У тую раніцу сонца праз аблокі на ўсходзе крывавілася мутнай плямай, доўга не выходзіла. І потым свяціла, як праз заслону.

Князь з'явіўся бліжэй да полудня.

Знерухомелі ўсе перад кляштарам, паздымалі шапкі. Князь са сваёй світай перш зазірнуў у касцёл, і, відаць, застаўся здаволены: выйшаў з усмешкай. З горкі ад касцёла, абгледзеў муры кляштара. І раптам яго вочы звузіліся, ноздры сталі раздзімацца:

— А гэта што?!

Не паказаў нікуды, але ўсе галовы ўмомант павярнуліся да аднае кропкі — туды, да таго вугла, што стаяў на Чортавым камені. Там дрыжала, хісталася каменная сцяна, нібы была з саломы.

І павалілася.

Князь у лютасці няспешна павярнуўся і працадзіў:

— На дыбу адпраўлю! Усіх! Усіх!

Калі пыл улёгся, увайшлі ў сярэдзіну кляштара.

— Разбірай, — загадаў Кузьма, а сам, пабачыўшы знак, пацягнуў за сабой Цімафея: — Хадзем, манах кліча.

Манах стаяў на горцы, і, падаецца, нікуды не адыходзіў, нават калі князь тут быў.

— Што далей?

— Мы ведаем, што далей, — гледзячы манаху на ногі, загаварыў Цімафей. — Ты толькі нам не замінай. Ахвяра будзе.

— Імшу трэба, — заўпарціўся Кузьма. — Для вашага бога храм будуем, для служак яго… А потым ужо…

— А гэты бог — не твой? — раптам зладзеявата спытаў манах. — Калі служыць, я ведаю. Хай пакуль што табе твой памагае. Рабіце па-свойму.

Кузьма здрыгануўся, адхіліўся ад манаха:

— Ды хрышчоны я, і бацька хрышчоны быў, і крыж на мне…

— Ведаю, ідзі, — загадаў манах, і Кузьма цяжка павярнуўся і пайшоў да рабочых.

Цімафей стаяў, не пачуўшы дазволу ісці. Манах працягнуў яму руку са складак рызы:

— Вазьмі.

У далонь Цімафея лёг невялікі нож з драўляным тронкам. Лязо авальнае, з чорнага жалеза, зусім кароткае, шырокае і тоўстае. Але вострае на канцы. А тронак абвязаны тонкай дзіўнаватай аборкай. Цімафей узяўся за тронак і задрыжэў, нечакана зразумеўшы, што аборка тая — чалавечыя жылы, а нож зусім не просты. Узрушыўся — такі давер яму выказвалі ўпершыню.

— Успамінай, чаго навучаны… Ідзі!

## 4

— А мо, усё таму, што камень вялікі, ніяк не ўляжацца ў зямлі? Цяжкі ён вельмі, а там пад ім, як капалі — пясочак, увесь беленькі, чысты-чысты і мяккі зусім, — нясмела казаў Сава Кузьме, калі пасля разбору разбуранай сцяны яны прыселі ўдвух.

Усе астатнія разышліся, каб назаўтра пачаць ізноў: велізарны пралом выглядаў выродліва ў узведзеных мурох кляштара.

— Не дасць Вялес з сябе здзекавацца, — задуменна адказаў Кузьма. — Ахвяры патрабуе.

— Які Вялес? — здзівіўся Сава. — Мы ж пра Чортаў камень кажам, хіба не?

Кузьма спадылба зірнуў у той бок, дзе дзень стаяў манах. Цяпер там нікога не было, і ён ціха загаварыў:

— То для іх вось, для чужынцаў, камень — чортаў. А мне маці казала, што бог наш, свой, якога Вялесам завуць, камяні нам пакінуў. Пярун на яго за тое пакрыўдзіўся, бо камяні дапамогай нам былі, і сіла ў іх наша. А Вялес нас ад Пяруна абараняў, вучыў хлеб вырошчваць ды жывёлу разводзіць. Манахі, што нам пра Хрыста цвердзяць, яго чортам назвалі. Кажуць, што па-іхнаму, чорта таксама іх бог з неба скінуў. Дык няхай будзе чорт, толькі наш ён... Вынішчыць яны камяні хочуць, колькі я часу будую — усё на камянёх Вялесавых намагаюцца свае храмы паставіць.

— Дык што, наш бог — не гэты, ці што? — Сава асцярожна крануў нацельны крыжык на аборцы.

— Не ведаю я, — узлаваўся незразумела чаму Кузьма. — Мы вунь колькі гадоў са сваімі багамі жылі і нічога, дзеці раслі, нівы радзілі.

— А якой ахвяры... Вялес вымушае? — асцярожна запытаў Сава.

— Заўтра і змяркуем, — адказаў Кузьма, падняўся цяжка, азірнуўся на сцяну. — Хай ты ляснешся...

Работу пачалі, а манаха ніхто не пабачыў. Палічылі тое нядобрым знакам. І адчувалі рабочыя ды памочнікі, што справа сёння будзе асаблівая — Кузьма не дае загаду ўзводзіць паваленую сцяну, усё займае рабочых дробяззю: камяні чысцілі, цагліны перабіралі, пясок сеялі. Адзін Цімафей працаваў ля той сцяны. Адзін, нікога не клікаў, толькі камяні яму падносілі ды ля ног клалі, рашчыну мяшалі. Цімафей працаваў хутка, ліхаманкава нават, выкладаў каменне, і, здавалася, шаптаў нешта сам сабе, сплёўваючы ў сярэдзіну сцяны. Спыніўся, зрабіўшы тое, чаго хацеў, падышоў да рабочых.

— Слухай сюды, — пачаў Цімафей, устаў у кола. — Чортаў камень не дасць муру стаяць. Бо не так мы,

не па-дзедаўску будаваць пачалі. Ахвяру не прынеслі. Таму ахвяру трэба. Вялікую. Віну загладзіць.

Усе адчулі незвычайнасць і важнасць таго, што казаў Цімафей, але было дзіўна: не Кузьма, а Цімафей стаў камандаваць.

— Тут трэба вала, мабыць, казлом не абысціся, — выказаў нехта ўголас думку.

Цімафей бліснуў вачыма:

— Пустымі словамі вушы не закладай. Чалавечая ахвяра будзе.

Кола рабочых здрыганулася і заціхла. Чуць усе чулі і ведалі, што такая ахвяра бывае. Дый між сабой гэтай раніцай шапталіся пра яе. Як па камандзе павярнулі галавы да таго месца, дзе працаваў Цімафей, і пабачылі, што сцяну ён выклаў з пустоцінай — акурат чалавеку легчы…

Кузьма маўчаў, глядзеў проста перад сабой і нічога не казаў. Калі прыглушаны шэпт рабочых сцішыўся, ён ступіў у кола і, зноў ні на кога і разам на ўсіх гледзячы, прамовіў:

— Цімафей праўду кажа. Чалавечую ахвяру трэба. Хай выпадак выракуе… Як даўней рабілі. Якая першая жанчына сюды за мур увойдзе — той і быць у Вялеса за жонку.

Ні ў кога на твары не здрыганулася жылка: усе разумелі — трэба. Не стаяць сцяне без ахвяры.

— А цяпер — усім ў кут адысці і сядзець там. Чакаць будзем! Ды глядзеце мне! Калі што не так — самога пакладу! — раптам азвярэла зароў Кузьма, і ад ягонага крыку адступіліся ў кут, супраць таго, што на Чортавым камені, прыселі.

Саву дробна трэсла, на душы стала халодна і пуста-пуста. Ён хацеў запытаць у Кузьмы, але маўчаў, як наймаладзейшы. Нядобра яму ў старэйшага ва ўсіх

на віду пытацца пра такое. А так… так спытаў бы Сава: што ж за бог такі, што за памочнік, калі чалавечае жыццё, ды яшчэ жанчыны, вымагае дзеля нейкай мураванай сцяны?

У замку адбіў звон, а жанчын не відаць было. Кузьма нервова паглядваў на прагал у сцяне кляштара і не разумеў, чаму сёння позняцца жанчыны.

## 5

Ад раніцы было вусцішна і халодна. І сонейка свяціць не хацела, і адзежа не грэла. Агапку часам дробна трэсла, і яна прыпынялася тады, прыслухоўвалася да сябе. Усё валілася з рук, ніяк даць рады сабе не магла. Сабрала полудзень мужу і прысела на лаве: чакала звону з замка.

Стукнуў звон — лёгка падхапілася і адразу прысела, войкнула: усярэдзіне ў яе так выразна варухнулася, так соладка.

Паднесла свае рукі да жывата, як да гарачага, прыціснула лёгка і замерла, у замілаванні чакаючы яшчэ хоць аднаго руху. Няўжо? Няўжо злітавалася Жыва пасля двух гадоў малення? Пачула багіня малітвы…

І ў жываце варухнулася, далікатна так, а потым амаль забілася, трывожна, настойліва, нібы дзіця, якое зарадзілася, ужо цяпер прасілася вонкі.

«Пачакай, пачакай, міленькі», — ласкава прашаптала Агапка ў думках, а сэрца абвалакло шчасцем і незразумелай трывогай. Зірнула на вуліцу — ніхто з жанчын не спяшаўся да кляштара.

«Ды гэта ж я завабілася сабой, прапусціла…»

Паднялася асцярожна і пайшла пустой вуліцай, заспяшалася: і наперадзе баб з вярэнькамі не відаць, што ж гэта яна так доўга праседзела, за жывот трымаючыся? Выйшла ў канец вуліцы, тут сустрэла задыханага хлопчыка.

— Куды бегаў, жэўжык, ці ўсюды паспеў? — запытала гарэзліва.

Той збянтэжыўся, раптам апусціў вочы долу, мацней сціснуў свой кулачок, у якім, заўважыла Агапка, была манета, сапраўдная.

— Па справе бегаў, вось, — важна адказаў хлопчык. — Нельга табе казаць, па якой. Усім бабам можна, а табе нельга. Манах мне загадаў...

І пабег, адначасна поўны гонару ад выканання такога важнага задання, і шчаслівы ад атрыманых грошай, і з лёгкай прыкрасцю ад таго, што нельга было пахваліцца перад жанчынай, менавіта перад гэтай жанчынай, што яму загадаў манах.

Дзіця зноў варухнулася ў жываце. Нібы просячыся. Ці спыняючы яе, Агапку.

«Ну чаго ты, чаго ты, маленькі...» — казала Агапка, пагладжваючы асцярожна жывот, а сама жыла тым момантам, калі скажа Савухне, што яна панесла...

Вось і пагорак, з якога патроху ўздымаюцца ў неба сцены касцёла і кляштара.

— Агапухна!

Сава рвануўся, ды нечыя дужыя рукі схапілі яго, не далі падбегчы да жонкі, якая з'явілася ў праходзе.

І не хаваючы надта радасці — іх жанок абмінула такая доля — іншыя атачылі Агапку, схапілі за рукі.

І тут каля касцёла з'явіўся манах.

— Вядзі яе! — ліхаманкава бліскаючы вачыма, загадаў Цімафей, а ў яго ў руках апынулася тонкая вяроўка.

— Прабач, дзеванька... — ціха прашаптаў Агапцы Кузьма, трымаючы за локаць жанчыну.

Агапка быццам змярцвела, вочы яе свяціліся хваравітым агнём, а твар стаў амаль шэрым. Дыхала часта і глыбока, як не ставала ёй паветра. Яна ўзняла павольна руку да шыі — Кузьма даў тое зрабіць — прасунула руку ў выраз сарочкі, стала церці грудзі. Калі потым рука яе бязвольна ўпала ўніз, Кузьма адчуў раптам, як нешта гарачае каўзанулася паўз ягоную нагу, упала на пясок. Ён, падпарадкаваны незразумела адкуль узніклаdensamu памкненню, наступіў на тое, нават не бачачы яго, адчуў нясцерпна гарачую цвёрдасць пад нагой, пасунуў далей нагу, углыб пяску, хоць пякло нясцерпна — бо нешта казала яму, што гэта трэба схаваць, ад усіх і кожнага, схаваць абавязкова...

Сава біўся, а потым абвяў, асунуўся і моўчкі глядзеў, як вялі яго маладую жонку да муру.

## 6

Ля пралому Цімафей з сілай заламаў Агапцы рукі назад і звязаў. Потым прысеў, вышчарыўся і, з долу ўгору гледзячы на застылы твар жанчыны, звязаў ёй ногі.

— Не крычы, бо заткну... — і ўладна загадаў іншым: — Адыдзіся!

Усё адбегліся ад Цімафея, ад звязанай Агапкі, незразумела чаму выціраючы рукі. Цімафей лёгка падхапіў на рукі жанчыну, падняў і, шэпчучы нешта хутка-хутка, паклаў у прыгатаваную для яе каменную нішу.

І спешна запрацаваў рукамі, укладаючы каменне.

Агапка не прамовіла ні гуку.

Перад тым, як укласці апошнія вялікія камяні, якія навек мелі схаваць ад Божага святла твар жанчыны, Цімафей спадцішка азірнуўся на рабочых — за ім ніхто не назіраў, паказерыўся на манаха — і той нібыта не глядзеў у ягоны бок. Цімафей выцягнуў з-за паса нож з чорным лязом, прасунуў руку ў нішу, дакрануўся да грудзей жанчыны. І не стрымаўся, выцягнуў нож, перахапіў яго левай рукой, а правай стаў спешна хапаць, шчыкаць, цiскаць пругкія жаночыя грудзі. Ягоны вялікі крывы рот расцягнуўся ў звыродлівым юрлівым выскале. З цяжкасцю прымусіў сябе спыніцца, узяў нож і, як вучыў яго напярэдадні манах, так цяпер, не бачачы, упэўнена стаў вадзіць вострым чорным лязом па голых грудзях, малюючы незразумелы яму знак, накшталт простага крыжа з загнутымі канцамі. Асцярожна націскаў, каб нож толькі праразаў скуру, каб плаўна і роўна ішоў…

— Не ўстаць табе, не падняцца, Малуша!

І адно цяпер Агапка тузанулася каротка і застыла: яе сапраўднага, радавога імя, ніхто не павінен быў ведаць, нельга было прамаўляць яго ўголас. Ведала, ведала бабка Дарэна, што смерць Малушына тут, ля Вялеса-вялікага, ды як жа яе ўнікнуць было, як схавацца ад Цемры, калі паўсюль яна ставіць свае крыжы!

Цімафей выняў з нішы руку з нажом, ужо за каменем пацягнуўся, зіркаючы спадылба на манаха, што знерухомеў слупом ля касцёла, і раптам апамятаўся, замітусіўся, ізноў саўгануў руку да дзявоцкіх грудзей, мацаў там, хлюпаючы ў крыві, скроб каруздлымі пальцамі вакол шыі, засоўваў руку далёка наперад, да жывата, і ўнізе пад шыяй мацаў. Не знайшоў нічога,

роспачна зірнуў на манаха, і, адгадаўшы яму вядомы, ледзь улоўны знак, прычыніў каменем Агапчын твар.

— Павек табе не спаць, Малуша, наш дом пільнаваць…

І пачаў класці цагліны і камяні хутка, нервуючыся, нібы баяўся, што вось устане Малуша, камяні раскідаюцца і паляцяць долу, разам з Цімафеем, і ўнізе яны яго пахаваюць…

Нечакана для ўсіх чорны манах спусціўся ад касцёла да рабочых і толькі кінуў:

— Прэч усе. Даволі на сёння.

Усе рынулі да выхаду, подбегам. Кузьма павольна пацягнуў за сабой абмяклага Саву.

Калі і яны вышлі за сцены, манах пачакаў, пакуль падыдзе Цімафей, працягнуў руку, відавочна, па нож:

— На ўлонні напісаў?

Цімафей раптам змяк, зваліўся на калені, аддаючы чорны нож манаху:

— Не ўгнявіся, забыўся, першы ж раз, далібог, зусім забыўся…

— Дурніца! Бабскія вабноты розум аднялі… Крыж не ўпільнаваў, на ўлонне, якое дзіця носіць, забыўся!

І раптам, зусім без размаху, шмаргануў кароткім нажом пад барадой у Цімафея. Калі той зваліўся тварам да зямлі, храпучы і сціскаючы горла, адкуль біла фантанам цёмная кроў, манах пераступіў цераз яго, падышоў да сцяны, дзе ў нішы была замураваная Малуша.

— І апошні ўпадзе, як першы! Чуеш, дзеўка?! Упадзе!

# ЧАСТКА 5

## 1

Дарэмна Генадзь спадзяваўся, што адказваць на каментары пад ягоным артыкулам будзе для яго калі не забавай, дык вельмі простай справай: ён раптам адчуў у сваіх невідочных суразмоўцаў такі магутны ў параўнанні з ім запас ведаў, што разгубіўся. На тое, каб больш-менш годна адказаць на першы каментар, яму спатрэбілася паўгадзіны, і то, ён так хваляваўся, што напісаў няўпэўнена, гэта ён сам адчуваў. Кінуўся шукаць у сеціве, чытаць усё мажлівае, а там нічога не было грунтоўнага. Адказваючы на чарговы каментар, ён спаслаўся, як яму падалося, на значны артыкул, і быў абсмеяны: “Калі вы спасылаецеся на такі аўтарытэт, то пра што з вамі можна гаварыць?”

Поштаю атрымаў ліст ад свайго працадаўцы: “Не перажывайце. Зараз я дам вам спіс літаратуры, пачытаеце. Вы годна трымаліся. Суцешу вас: адным з каментатараў быў я сам, выбачайце за такую праверку, але тут так трэба было. Вось кнігі, іх вам трэба ўзяць у бібліятэцы і пачытаць, бо электронных версіяў няма. Шкада, што ваша адукацыя не адносіцца да тэмы артыкулаў. Вы нам спадабаліся. Мы маем намер працягнуць з вамі работу. Пасля прачытання дайце ведамасць, мы сустрэнемся і будзем гаварыць больш прадметна пра далейшую супрацу”.

Генадзя перапаўнялі пачуцці. З аднаго боку ён адчуваў сорам за сябе: яму не ставала ведаў, і гэта ён сам паказаў. Дзіўна, раней ён ніколі надта не хваляваўся з таго, што нечага не ведае. Веды ніколі не былі галоўным для яго, самамэтай. Галоўнай была дасціпнасць, якая складалася з умення скарыстаць адзін-другі факт так, каб у суразмоўцы склалася ўражанне не так пра вялікую Генадзяву эрудыцыю, як пра сваю асабістую недасведчанасць.

З іншага боку, перад Генадзем разгортвалася такая вабная перспектыва. Усё адбылося лавінаю: просьба напісаць артыкул, потым намёк на ягоны талісман, цяпер той невядомы кажа пра сябе “мы”. Узнікла цвёрдае перакананне, што Генадзя нібы запрашаюць у невядомае яму кола. Яго знайшлі, яго праверылі, не, яшчэ не праверылі, праверка яшчэ ідзе — вунь жа, трэба пачытаць літаратуру… І кола зусім не жартоўнае — такія грошы атрымаў Генадзь за адзін невялікі артыкул. Праўда, запрашэнне не вельмі і ветлае: “мы маем намер працягнуць з Вамі работу”. Маглі б запытаць, ці жадае сам Генадзь “працягваць”. Але… Не трэба псіхаваць праз такую дробязь. Цалкам магчыма, што ў іх такіх кандыдатур, як Генадзь, — што ў дзеркачы веццяя. Можа, і не адзін Генадзь мае такі амулет…

Трэба ехаць у бібліятэку…

Людміла ціха пастукала ў дзверы.

— Генік, ты будзеш што есці, ці толькі каву прынесці?

Генадзь паглядзеў на дзяўчыну.

Свежы круглявы тварык у пасмачках каштанавых валасоў. Лёгкі квяцісты халат, пад якім адгадваюцца лініі яе вабнага цела. Яна ўся — пяшчота і ўвага… Як добра складаецца! Бабуля, кім жа ты была?!.

— Стаў на стол, зараз іду, — мякка загадаў Генадзь.

Яны елі разам.

— Заўтра ў нас роспіс, — асцярожна заўважыла Людміла, калі Генадзь адклаў відэлец убок і пацягнуўся па кубак з гарбатай. — А дванаццатай гадзіне.

Напамін пра роспіс выклікаў раздражненне: гэта была справа, якую Генадзь мусіў зрабіць. Было непрыемна рабіць нешта таму, што ты павінен. Як і пісаць нікому не патрэбны дыплом.

— Калі ты не супраць, там будзе мая сяброўка… са сваім хлопцам. Можа, пасядзім потым у кавярні? — папыталася Людміла.

— У нас не вяселле, — хмыкнуў Генадзь, але кінуў позірк на Людмілу і дадаў спакайней: — Не хачу ніякіх лішніх турбот. У мяне… з'явілася справа. Як лічыш патрэбным напаіць сяброў — калі ласка. Можаш выдаткаваць з той сумы, якую павінная мне.

Па тварыку дзяўчыны прабег ледзь прыкметны цень, але яна змаўчала. Так, яна яшчэ была павінная Генадзю палову сумы, на якую дамовіліся ад пачатку. Першую частку яна аддала пасля таго, як занеслі заяву ў загс, і вось цяпер мусіла аддаць другую пасля рэгістрацыі шлюбу.

Людміла нічога не адказала, счакала, пакуль Генадзь устане з-за стала, стала прыбіраць посуд.

Генадзь ахнуў у думках, калі бібліятэкарка прынесла заказаныя кнігі: тоўстыя, яны пужалі сваёй строгай акадэмічнасцю, але адначасова Генадзь адчуў, што вось з гэтых кніг, якія ён будзе чытаць не таму, што гэта наагул трэба, а трэба менавіта яму, для яго асабістых мэтаў, пачынаецца новы, асаблівы і сапраўдны, так, менавіта сапраўдны перыяд ягонага жыцця. Ён стаў чытаць пазначаны артыкул з найтаўсцейшай кнігі адразу ж як сеў у аўтамабіль, не спя-

шаючыся ехаць дадому. Але ўжо на другой старонцы адчуў, што не разумее прачытанага: было занадта шмат невядомых слоў, якія нібыта і гучалі знаёма, але ў спалучэнні з іншымі мелі свой, асаблівы сэнс, які цяпер заставаўся для Генадзя быццам за паўпразрыстай заслонай. Генадзь усміхнуўся: іранічна сам з сябе, такога порсткага, і з удзячнасцю да таго невядомага мужчыны, бо ў прысланым лісце артыкулы былі пранумараваныя і стаяла прыпіска, што чытаць трэба менавіта ў такой паслядоўнасці.

Што ж, ён пачне з найпрасцейшага…

Да рэгістрацыі шлюбу ў ЗАГСе Генадзь пастараўся паставіцца як да візіту да стаматолага: перацярпець ды і ўсё. Гэта было непрыемна: пытанні, дакументы, роспісы. Яны, работнікі гэтай канторы, не разумеюць, што шлюб, не ўрачысты, без кветак і шампанскага — фіктыўны? Аддалі б дакументы і ўсё, не, трэба вытрымваць нейкі дурнаваты рытуал з прыдуркаватым словазлучэннем “ячэйка грамадства”.

Заўважыў, як хвалюецца Людміла. Здзівіўся: няўжо яна можа ўспрымаць усё неяк яшчэ, апрача як атрыманне жаданага штампа ў пашпарце?

У фае, апрача іх і Людміліных сяброў, якіх Генадзь і не ведаў добра, чакала свайго часу пажылая пара. Генадзь бачыў, як зацікаўлена старыя пазіраюць на іх, пра нешта перашэптваюцца. Людміла бянтэжылася, крыху пачырванеўшы, нервова паглядала на гадзіннік на сцяне з аляпаватымі анёльчыкамі.

І чамусьці папраўляла сваю сукенку на жываце.

Генадзя пачало раздражняць іхнае чаканне ў вясёленькім памяшканні ружова-блакітных адценняў, раздражняць яшчэ і таму, што дзея мусіла мець працяг: праз два месяцы трэба было зноў несці сюды за-

яву на скасаванне шлюбу, выслухоўваць, потым зноў прыходзіць…

Добра, што ўсё ўрэшце скончылася.

Генадзь забраў свой пашпарт, пакінуўшы пасведчанне аб шлюбе Людміле (ёй жа трэба здымаць з яго копіі і несці ў дэканат).

— Усё, мне няма часу. Цябе падвезці, ці вы збіраецеся гуляць?

— Збіраемся гуляць, — адказала Людміла, і ў яе голасе прагучалі нейкія чужыя, зусім не знаёмыя Генадзю ноткі ўпэўненасці і заспакоенасці. — Можа, ты перадумаеш? Мо хоць папалуднуем, ты ж галодны…

— Не, — Генадзь павярнуўся і, не развітваючыся са "сведкамі", пайшоў да машыны.

Ён вяртаўся дамоў падрыхтаваны да доўгага дня з кніжкамі на канапе. Кнігі абяцалі даўнейшае задавальненне, з юнацтва, калі ён большую частку свайго часу бавіў менавіта за чытаннем. Фэнтэзі былі яго ўлюбёнымі. Пакуль маці не набыла кампутар…

Добра, што сёння дзень такі: непагодны, хмурны і халаднаваты.

Але ў кватэры яго чакала непрыемнасць: на полудзень Людміла нічога не згатавала. Наагул, лядоўня была фактычна пустая. Паглядзеў — адно чвэртка хлеба. Адразу ўсплыў у свядомасці ўпэўнены Людмілін голас. Звязалася адно з адным… Генадзь імкліва прайшоў у пакой, расчыніў шафу, дзе былі Людмілiны рэчы. Усё ахайна вісела і ляжала на сваіх месцах. Вельмі ахайна. Паглядзеў праз акно на балкон — там нічога не сохла. Зазірнуў у лазенку. Нічога з жаночай бялізны, да якой прызвычаіўся, якую перад вачыма знаходзіў штодня. Ці не штодня? Ат, якая розніца… Нават яе халат не ляжыць на спінцы крэсла, а вісіць у шафе. Падрыхтавалася… Няўжо яна зараз пойдзе

ад яго? Ну, так і ёсць… бач, штамп у пашпарце атрымала, то ўжо з пыхай… Ён хіба толькі прадаў ёй мажлівасць мець размеркаванне ў сталіцы? А колькі каштуе тое, што ён зрабіў з яе, нягеглай хурлядзі, сапраўдную жанчыну? Яна ж расквітнела з ім, Генадзем! Ён жа даў ёй разуменне сапраўднага жаночага шчасця, яна б патрапіла ў які калгас, усё жыццё праляжала б пад падпітым трактарыстам у рабочасялянскай паставе, ад яе самой тхнула б саляркай і потам! Яна ж чалавекам сябе тут адчула! Фрызура з'явілася, бровы тыя саламяныя павышчыквала ды зрабіла нармальнымі. Вейкі пачала маляваць. Адзелася ўрэшце. Ён, Генадзь даў ёй такую мажлівасць, ды не проста даў, а падштурхнуў, прымусіў, можна сказаць. Даў ёй тую найгалоўнейшую выснову, што прыгожай і прывабнай стаць можна і трэба! І цяпер яна надумалася збегчы… Нават на полудзень нічога не згатавала. Яна гэтулькі часу пражыла ў ягонай кватэры, а ён жа капейкі з яе не ўзяў! Нават харчаваліся за агульныя грошы, складваліся. Няўдзячная дрэнь. Проста сцерва.

Аднак жа апошняя думка супакоіла Генадзя. Ну што ж, гэта зусім не парушае таго месца жанчын у ягонай сістэме каардынат, куды ён іх паставіў раней. Адзінае… ён жа ставіў Людмілу і ў іншую сістэму — дачыненняў служэння і ўладарання, яна была адным з довадаў той сістэмы, і цяпер Людмілiна здрада (але, здрада!) непрыемна казытала. Няўжо ён памыліўся ў жанчыне і не змог разгледзіць за яе вонкавай гатовасцю служыць і падпарадкавацца элементарную хітрасць прыстасавання, але змыліўся і ў галоўным: няма ніякага ўсталяванага прыродай закону падпарадкавання?

Ды неўзабаве вочы яго спыніліся на кнігах.

І Генадзь супакоіўся: усё нармалёва. Усё з цягам часу стане на месца. Ён жа адчувае такі закон. Няхай ён не ведае пра яго дасканала, але ён ёсць, і ёсць тыя, якія ім кіруюць… Так, менавіта так: ёсць людзі, якія вызначаюць: хто каму мусіць падпарадкавацца і служыць. У руках у якіх гэты закон.

Запусціў кампутар (чыста механічна, як прызвычаіўся рабіць з раніцы), згатаваў каву. Прысеў, каб паглядзець апошнія паведамленні. Можа, нехта яшчэ пракаментаваў ягоны артыкул? Пстрыкнуў зноў жа, паводле звычкі, па ўкладцы рэсурсу, на якім быў заўзятарам, і тут раптоўная думка прывяла да радаснага ўзбуджэння.

Хутка зайшоўшы ў адпаведны раздзел форума, пачаў новую тэму: "Душа просіць-3".

"Ёсць 20 даляраў, якія душа катэгарычна патрабуе ахвяраваць некаму. Зараз вельмі заняты, не магу сядзець пры маніторы. Таму крышку мяняю ўмову. 20 сапраўдных ВМЗ дастануцца таму, хто пераканае мяне сваёй просьбай, што трэба іх мець. Тэрмін — пяць гадзін. Хто папросіць мяне лепей за ўсіх? Пакідаем партманеты тут. Прыйду — перачытаю, адпраўлю грошы адразу ж. Папярэднія мае тэмы, каб былі пэўныя, што я не ганю, тут і тут".

"От, цяпер спрачайцеся ў выпрошванні! — вясёла падумаў Генадзь. — А я буду выбіраць потым …"

Не ўтрымаўся, счакаў хвіліны тры, пераладаваў браўзер. Два паведамленні ўжо былі пад тэмай.

"Усё, Віконт пачынае трэці раўнд, ад якога патыхае яшчэ больш непрыемным".

"А табе гэта замінае? Чалавек мае права распараджацца сваімі грашыма, як яму хочацца. Хочаш адпраўляць свае лішнія капейкі ў розныя фонды, каб таўстазадыя бабізны ездзілі на семінары на Кіпр?

Адпраўляй. А мне дык 20 у. а. акурат пойдуць на новы дамэн і хостынг. Зараз, толькі прыдумаю аргументацыю…"

"Спрачайцеся… А я пачытаю пра паганства!" — ледзь не зарагатаў Генадзь, стрымаўшы сябе, каб не адпісаць нешта з'едлівае на першы каментар. Няхай пішуць і спрачаюцца. Зараз зноў зафлудзяць тэму разважаннямі на тэму дабрачыннасці, анёлкі з падрэзанымі крыламі…

Настрой узняўся. Пра Людмілу больш не думалася. Дый кава перабіла апетыт.

Генадзь пачаў чытаць, адзін артыкул за другім, паводле таго спісу, які даў яму невядомы працадаўца, і ў яго расла павага да таго чалавека: які ж ён разумны! Генадзь спакваля ўваходзіў у духоўны свет тутэйшых усё глыбей, амаль фізічна адчуўшы, як напаўняецца ягоная свядомасць новымі ведамі. Яшчэ двойчы гатаваў каву, прымусіў сябе не глядзець пакуль што на паведамленні ў тэме пра свае грошы, бо гэта падалося цяпер не надта цікавым. Чытаў і адначасна думаў над тым, пра што цікавае можа напісаць, у чым і дзе аўтары артыкулаў былі непераканаўчымі ці скарыстоўвалі недакладныя крыніцы для сваіх высноў.

Не заўважыў, як пачало шарэць. Думаў, што хмара якая моцная насунулася на неба, а гэта надыходзіў вечар.

Устаў, выйшаў на балкон, закурыў. Распагодзілася. Праз два шматпавярховікі было відаць лапік неба на захадзе, там яно амаль ачысцілася ад аблокаў. Заставалася адна густая сіняя паласа, прыціснутая да зямлі, няроўная ўверсе , куды цяпер апусцілася сонца і фарбавала яе верх у барвова-фіялетавы колер. Было ціха. Іх двор, стары, густа засаджаны дрэвамі, быў

заўжды ціхі. Дзеці тут бавіліся толькі па выходных днях, моладзі не было чуваць. Раней, калі Генадзю было каля пятнаццаці, у іх была свая невялікая кампанія, яны аблюбавалі сабе адну альтанку пад цяністым клёнам. Ад даміношнікаў, якія заседжваліся да позных прыцемкаў, збавіліся проста: невялікі столік з альтанкі, выцягнуўшы, выкінулі далёка, каб дзяды не прыцягнулі яго назад. У той альтанцы было добра прычакаць першых прыцемкаў і пачаць піць піва, мацаць некрыўдлівых дзвюх іхных сяброўак за калені і вышэй. Генадзь намагаўся, хацеў стаць сваім, роўным з зухаватымі хлопцамі, але ў яго не выходзіла: піва яму не падабалася да ванітаў, а віно не любілі піць хлопцы, грэбліва называючы адно "сухачом для баб", другое "чарнілам". Да таго ж, Генадзь хутка хмялеў, неяк раптоўна, ад дзвюх пляшак піва. А яшчэ калі рабілі "ярша" — куплялі да піва пляшку гарэлкі, дык Генадзь п'янеў яшчэ хутчэй, пачынаў спрачацца па дробязях, даказваць нешта. Хлопцы смяяліся з яго, непрыхавана кпілі, хоць і без злосці. Ён быў своеасаблівым клоўнам іх кампаніі: іншым разам яны падпойвалі яго наўмысна — была і такая забава. Потым адна з дзяўчат пыталася, ці не хоча Генадзь памацаць яе за цыцкі, а то можа дазволіць і запусціць руку ў майткі. Адно, каб папрасіў добра. І Генадзь, п'яна плачучы, прасіў…

Вунь тая альтанка.

Не збіраюцца яны там болей.

Старэйшага з іх кампаніі, Новіка, лупатага, даўгалыгага і злоснага, пасадзілі яшчэ тым апошнім летам, калі Генадзь прыходзіў у альтанку. За наркату. Яшчэ двое хлопцаў з'ехалі ў Расію на заробкі. І нешта іх не відаць. Славік, Генадзяў аднакласнік, жыве ў іншым раёне. Старэйшую дзяўчыну звалі Люсі, ці яна толькі

выглядала старэйшай: паўнаватая, з вялікімі грудзямі, кароткай спадніцай, з-пад якой не пасаромелася была паказаць нейкаму самавітаму дзядзьку, што, прыпыніўшыся, пачаў бэсціць яе, свой тоўсты азадак, амаль голы, калі не лічыць тонкай палоскі стрынгаў. Люсі зацяжарыла, здаецца, тады, калі Генадзь скончаў школу. Нейкі час ён сустракаў яе ў гэтым двары — яна гуляла з дзіцячым возікам. Схуднела, твар моцна пастарэў і выцягнуўся. Яна амаль заўсёды курыла, з Генадзем яны быццам дамовіліся не вітацца, не пазнаваць адзін аднаго. Потым яна знікла. Што да другой дзяўчыны, Анжэлы, то тая часам і цяпер ходзіць іх дваром: капа рудых валасоў, такіх яркіх, што аж успыхваюць пад сонечнымі промнямі, добра адзетая, хударлявая. Яна з’яўляецца тут раз ці два на тыдзень, ідзе хутка да свайго пад’езда, а праз хвілін дзесяць-пятнаццаць выходзіць. Тут жыве яе маці. Дзе яна сама — Генадзя не цікавіла, ён і не імкнуўся сустрэцца ды павітацца.

Іх кампанія распалася ў адзін момант. Тады быў цёплы, надзвычай цёплы, вечар. Нехта прынёс гарэлкі. Ды не адну пляшку. Генадзь толькі паслужліва збегаў па піва. Сядзелі і пілі да позняй ночы. Пачалі гаснуць вокны ў дамох іх двара. Усе былі п’яныя. Генадзь дакладна не памятаў, як так выйшла, але ў нейкі момант ён пабачыў, як двое ягоных сяброў трымаюць тоўстую Люсі, яна п’яна і як бы нехаця спрабуе вызваліцца, нешта хоча крыкнуць, а той самы Новік ляжыць на ёй…

Бацькі тады ціхамірна развязалі справу. Хоць магло б скончыцца вельмі сумна. Але Люсі зацяжарыла не ад Новіка — у таго і не ўдалося нічога, а іншыя паспрабаваць не паспелі: Анжэла ўзняла п’яны гвалт…

Генадзя пацягнула спусціцца туды, у двор, сесці ў той альтанцы. Там цяпер ёсць даміношны столік. Ён бы пасядзеў, пакурыў. Пагаманіў з былымі сябрамі. Дзе яны сёння, і хто яны. І дзе ён, і хто ён. І кім яшчэ стане...

Пачуў, як у вітальні, кляпнуўшы замком, адчыніліся дзверы. Людміла... Раздражнёнасць ускалыхнулася ў душы разам з думкай пра тое, што ён цэлы дзень нічога не еў, што вось цяпер давядзецца ісці ў якую бліжэйшую кавярню — не стане ж ён прыніжана прасіць яе і потым чакаць вячэру! Дый з чаго гатаваць? І са злосцю Генадзь думаў: як яна магла кінуць яго галоднага тут? Бач, якая адважная стала... Выкінуць яе зараз жа! Вось цяпер падысці да шафы, выхапіць яе рэчы і шпурнуць ёй пад ногі. Эх, не падумаў раней, трэба было сабраць усё ў адну вялікую кучу ў вітальні, а калі б прыйшла — выкінуць нагамі за парог, потым і яе, каб нават не збірала тут сваіх торбаў... Нічога, можна і цяпер выкінуць, яна ж плануе тут яшчэ паплёхацца ў ванне (вось што яна дакладна любіць, дык мыцца — на дзень двойчы абавязкова). Яна збіраецца зараз раскінуцца на ягонай канапе — даць спачынак нагам, бо няйначай жа натанцавалася з радасці. А то ж: знайшоўшы дурня, за якім так удала ўладкавалася, колькі часу жыве сапраўднай гаспадыняй без аніякіх клопатаў!

Генадзь далёка наперад стрэліў недакуркам, папярэдне зірнуўшы, ці няма нікога ўнізе, цвёрда павярнуўся, каб ісці ў кватэру, як на балкон паспешліва прашмыгнула Людміла.

— О, Генік, міленькі, даруй, мой даражэнькі! Я ж зусім забылася, я думала, што ты перадумаеш, папалуднаем разам у рэстарацыі, не згатавала нічога, а ты тут галодны, бедненькі!

Яна, са слядамі былой весялосці, што так лёгка чыталіся на яе сапраўды стомленай постаці і твары, памкнулася да Генадзя, каб абняць яго, але той ледзь хіснуўся назад, і Людміла, спыніўшы сябе, працягнула ўмольна, прыціснуўшы свае далоні да грудзей, як малілася:

— Пачакай, міленькі, усяго пяць хвіліначак, пяць хвіліначак! Я ўсяго прынесла табе паесці, смачнага-смачнага, і каньяку пляшачку ўзяла, зараз будзе ўсё-ўсё гатова! Дзе мне для цябе накрыць? Хочаш, тут, я ўвамкну табе музыку, і яшчэ станцую табе сапраўдны танец жывата (я навучылася, ага!), ці — хочаш — самы сапраўдны стрыптыз, нічога, што няма шаста, я і так змагу! Ну, несці ўсё сюды?

— Нясі, — буркнуў Генадзь.

Ён ніяк не чакаў такога развіцця падзей. І цяпер яго пачуцці разгублена стукаліся адно з адным, як більярдныя шары, і невядома якое хто куды заганяў, каб аднаму застацца на зялёным сукне поля. Дакладна хіба што адно: шар злосці акурат у лузе.

Пстрыкнуў пультам тэлевізара, сеў на канапе, дзе чытаў. Чуў, як гула мікрахвалёўка, як даставала посуд Людміла. Запахла смачна: курыца, тое, што ён найбольш любіць. Чакаў.

Людміла несла невялікі паднос, на якім стаялі талеркі з курыцай і смажанай бульбай, з салатамі, хлебам, невялікай пляшкай каньяку і чаркай, яшчэ з нечым. Сама Людміла заставалася ў той сваёй лёгкай, святочнай сукенцы, не спяшалася, бач, пераадзявацца, басанож, і ў гэтым было нешта незвычайна кранальнае: яе маленькія ступні любіў Генадзь, але ў кватэры Людміла заўжды хадзіла ў шкарпэтках.

— Вось, вось табе, мой мілы галодны гаспадар: і курка свежая, і каўбаска смачненькая, і салата з па-

мідорчыкаў… Усё свежае-свежае, толькі што забрала заказ.

Паставіла паднос ля Генадзя, потым паднесла да канапы невялікі шкляны часопісны столік, выставіла на яго талеркі. Наліла кілішак каньяку, паставіла.

І, здзівіўшы Генадзя яшчэ болей, апусцілася ля яго, абхапіла, уткнулася сваёй барадой у ягоныя калені і знізу ўверх зазірнула ў вочы:

— Ты не будзеш цяпер выганяць мяне? Я такой самай буду, нават лепшай. Хочаш, буду любіць цябе з такой жарсцю, якой ты і не ўяўляў ніколі, бо ад сённяня мне ўсё можна, у мяне індульгенцыя ў пашпарце на каханне з табой. Не выганяй мяне… Мне добра з табой. Мне добра тут. Я табе як хатняя гаспадыня буду, як каханка, як… сапраўдная жонка. Пакуль я табе не займаю — не выганяй мяне…

Генадзь міжволі працягнуў руку да Людмілінай галавы. Яна хутка павярнула твар і сустрэла вуснамі ягоную далонь.

Глыбокай ноччу Генадзь успомніў пра ўвамкнёны ў ягоным пакоі кампутар, форум і тэму, якую ён пачаў, дзе абяцаў адказаць праз пяць гадзін, але так і не адказаў і грошы не выплаціў.

Чорт з імі, падумаў ён млява. Людміла, знясіленая сваім сённяшнім, ненаедным да бязмежнасці каханнем (каханнем адданай жонкі?), заснула, абняўшы ягоную руку, быццам сцерагла. Яны ўжо даўно не спалі вось так, разам. Уставаць ніякага жадання не было. Генадзь сам пасля стольскіх гадзін чытання, пасля вячэры з каньяком, пасля любошчаў адчуваў сябе не тое што стомленым, а запоўненым да самых берагоў пачуццямі і эмоцыямі. Карцела бясконца доўжыць і доўжыць гэта салодкае паглыбленне ў сон у поўнай заспакоенасці… Усё к чорту… Ён накіне заўтра яшчэ

пяць даляраў і працягне конкурс выпрошванняў. Гэтак і зробіць…

## 2

Генадзь чакаў, што яго праверацьь. І не памыліўся, калі ў лісце невядомы задаў адно, і другое, і трэцяе пытанне, якія датычылі зместу тых артыкулаў. Генадзь устрымаўся паказваць, што ведае ён нават больш, чым яго пыталіся: адказваў сцісла, толькі па справе. І яму прызначылі сустрэчу.

У гэтай кавярні Генадзь раней ніколі не быў (іх цяпер стала так шмат), хоць знаходзілася яна і недалёка ад ягонага дома. Тут быў лёгкі паўзмрок — яго стваралі цяжкія фіранкі на вокнах. Большасць столікаў на дваіх.

За столікам у аддаленым ад стойкі бара куце сядзеў мужчына гадоў пяцідзесяці. Сівыя валасы каротка падстрыжаныя, акуратная бародка таксама была сівая. Твар хударлявы, строгі. Адзеты ён быў у шэры лёгкі гарнітур, без гальштука — пад пінжаком не сарочка, а шаравата-зялёная цішотка. Усё ў ім пасавала адно да аднаго. З першага пагляду ён быў падобны да выкладніка ці навукоўца.

— Выбачайце, калі вы чакаеце Віконта, то гэта я, — стрымваючы лёгкае хваляванне, сказаў Генадзь.

— Так, выдатна, — мужчына прыўзняўся насустрач, падаў руку: — Мяне завуць Алег Барысавіч.

— Генадзь…

— Сядайце, Генадзь, калі ласка. За рулём? — пацікавіўся мужчына.

— Не, я падумаў, што калі ў нас сустрэча, то… — усміхнуўся, як выбачаўся Генадзь.

— Так, выдатна-выдатна. Слушна падумалі. Мы не складалі плану размовы, то для першай сустрэчы акурат па колькі кропляў каньяку нам не зашкодзіць, так? Я таксама не за рулём, — усміхнуўся Алег Барысавіч і павярнуўся да стойкі бара, дзе цярпліва глядзела ў іхны бок кельнерка. Яна адразу падышла, запытальна спынілася.

Алег Барысавіч хутка зрабіў заказ, зусім просты: каньяк, цытрыну, шакалад, каву. Калі кельнерка пайшла, ён павярнуўся да Генадзя:

— Так, Генадзь, раз я ініцыяваў сустрэчу, значыцца, я ўзяў на сябе і расходы. І ніякіх пярэчанняў. Прызвычайвацеся да справавых дачыненняў, спатрэбіцца.

Словы адгукнуліся лёгкім тахканнем сэрца. Генадзю давалі зразумець, што наперадзе — многае. Ён толькі згодна моўчкі кіўнуў.

Выпілі за сустрэчу.

— Курыце? — спытаў Алег Барысавіч? — То курыце. Я не куру, нядаўна кінуў.

Генадзь пацягнуўся па цыгарэты, але спыніўся: падумаў, што апошнія словы пра тое, што ягоны суразмоўца нядаўна кінуў курыць, былі яму маленькім тэстам. Столік быў невялікі, яны сядзелі блізка, адзін супраць аднаго, і Алегу Барысавічу Генадзь, хочаш не хочаш, а выдыхваў бы дым ці не ў твар.

— Не, я дык куру, але, думаю, Вам не зусім добра будзе… пагатоў, калі нядаўна кінулі, — прыязна ўсміхнуўся Генадзь.

— Дзякуй. Што ж, тады пачнём без прадмоў. Мы надумаліся з Вамі пазнаёміцца бліжэй, бо гульня ў віртуальныя знаёмствы — не наш стыль работы. Я заўсёды жадаю мець справу з рэальнымі людзьмі. Дык вось, Генадзь, калі ласка, калі хочаце задаваць

пытанні, дык выбірайце найважнейшыя. Бо распытваць мяне не трэба. Зрэшты, мне падалося, Вы акурат умееце стрымваць сваю цікавасць. Дужа добра. Што Вас найбольш цікавіць вось цяпер, на што хацелі б атрымаць адказ?

— Перспектывы, — спакойна адказаў Генадзь, бо перад сустрэчай думаў, што запытае менавіта пра іх. — Безумоўна, аплата за артыкулы вельмі добрая. Але колькі іх вы закажаце напісаць? Калі я буду траціць час, а яго траціць трэба, то мушу ахвяраваць нечым іншым. Праз месяц у мяне абарона дыплома, потым два месяцы — і праца на прадпрыемстве. Я інжынер-тэхнолаг. Мая будучыня — ліццё пластмасы, што напачатку абяцае мне нейкіх дзвесце пяцьдзясят даляраў за месяц.

— Так, перспектыва на прадпрыемстве далёка не прывабная, — згадзіўся Алег Барысавіч. — Вы напісалі адзін артыкул… Каб казаць далей… Хачу спытаць: што б вы скарысталі з тых ведаў, якія атрымалі за гэтыя дні, калі б я прапанаваў вам ужо самастойны артыкул на тэму… ну, скажам, Каляд. Уявім сабе, што недзе ёсць артыкул, падобны да таго, што вы памайстэрску, кажу без перабольшвання, разнеслі калі не ў пыл, то па камянёх. Захаваем той самы кірунак, што і папярэдні.

На Генадзя глядзелі не проста дапытліва: ён адчуў, што праверка працягваецца, што ён зараз павінен здаць яшчэ адзін экзамен. Дзіўна, але хвалявання не было. Ён быў пэўны, што дасць рады. Адначасна Генадзь адчуваў, што ён стаіць на парозе нейкага вялікага будынка, куды яму трэба трапіць, калі хоча стаць некім, куды трапляюць вартыя. І цяпер яго правяраюць, бо будынак ахоўваюць надта пільна ад

людзей выпадковых. Генадзь нават усміхнуўся сам сабе: пра Каляды была ў яго адна думка.

— Каляды… Для пачатку трэба было б раскрыць існасць Дзеда Мароза, Снягуркі і навагодняй ялінкі…

— Чакайце, якую існасць вы хацелі б раскрыць? — хутка перапыніў Алег Барысавіч.

— У паганцаў Дзед Мароз — той самы сапраўдны мароз, злы і неміласэрны. Каб улагодзіць дух марозу, каб не памерзла гавяда, сеіва і самыя людзі, паселішча прыносіла ахвяру прыроднай стыхіі: выбіралася прыгожая дзяўчына-цнатліўка, прывязвалася да адмыслова пастаўленага для падобных мэтаў слупа. Калі раніцай цела яе замярзала да цвёрдага стану — мароз узяў сабе ахвяру. Адсюль Дзед Мароз і яго ўнучка Снягурка, — тлумачыў Генадзь і ўважліва сачыў за тварам суразмоўцы.

Але той заставаўся вонкава непранікальным: адно ўважным.

— Цікава, далей. Што з ялінкай?

— Навагодняя ялінка — таксама водгулле дзікіх звычаяў ахвяравання. Сама ялінка праз яе форму вылучалася паганцамі ў асобную групу дрэў, якія па-рознаму скарыстоўвалі. Ялінка прызначалася для ахвяравання. Ёсць думка, на падставе ўрыўкаў запісаў і сюжэтаў малюнкаў, што на ялінку навешваліся вантробы ахвяры. Мабыць, і наадварот, вельмі імаверна, што і чалавечай. Такім парадкам, шары ды стужкі — правобраз колішніх кішак, пячонкі, сэрца ды нырак, — Генадзь не ўтрымаўся, усміхнуўся.

Усміхнуўся прыязна і Алег Барысавіч, падліў каньяку ў кілішкі.

— Вясёла, вядома ж. Але... ёсць указ імператара Русі Пятра пра абавязак ставіць дрэвы яловыя, хваёвыя ды аздабляць іх на Новы год. Я з Вамі спра-

чаюся як просты, больш-менш дасведчаны чытач. Чым адкажаце?

— Смехам. Пётр ведаў пра звычаі паганцаў, яму важна было скіраваць звычай у цывілізаванае рэчышча. Дый царква імкнулася даць паганскім святам сваю хрысціянскую вопратку. Нічога ў нас новага, апрача дня кастрычніцкай рэвалюцыі ды дня Перамогі, прыдумана не было. Усё — ад паганскага дзікунства.

— Добра, але ж — Каляды… — Алег Барысавіч прыўзняў кілішак, адпіў, пачакаў, пакуль тое ж зробіць Генадзь. — Што з казой ды іншымі?

— Першае: казаць пра казу як сімвал урадлівасці (іншым разам так тлумачаць жывёліну ў ватазе) — глупства з разраду ідыёцтва, — пасмялеў Генадзь. — Якое з казы малако? І хіба яна коціцца дзесяццю казлянятамі, як свіння парсючкамі? Другое: яе атачэнне, ваўкі ды мядзведзі, кажуць пра іх сяброўства. Выходзіць, рагатае стварэнне зусім не каза, а іншы рагаты звер. Д’ябал, чорт. Далей: добраахвотнае адорванне калядніков найсмачнейшым адбываецца напярэдадні сённяшняга Новага года, перад вялікімі маразамі. Значыцца, можна меркаваць, што тыя ж самыя пасланцы злога духа марозу збіраюць аброк. Казаў бы, малая ахвяра. Да таго ж, кампанія не просіць, а вымагае, пагражае, што адлюстроўваецца ў тэкстах.

— Пакуль што лагічна, — кіўнуў Алег Барысавіч. — Бачу, вы цудоўна зразумелі кірунак думак што да паганскіх святаў: гэта толькі дзікунства, вычварнае, настоенае на страху, прымхах і чалавечых ахвярах. Тады — працуйце. Па Калядах — два артыкулы, у першым акцэнтуйце ўвагу на ахвяраванні марозу,

у другім — ахвяраванні ваўчынай кодле... Яшчэ момант: калядная зорка.

— Думаю, хітрасць паганцаў: абрады ж былі забароненыя царквой пасля прыняцця хрысціянства, то паганцы насілі з сабой быццам правобраз той зоркі, якая, паводле Бібліі, узышла ў гадзіну нараджэння Хрыста. Страхаваліся, карацей.

— Неблагі ход... Але трэба развіць.

— У Калядных тэкстах сустракаюцца ўжо даўно вітанні нараджэння Хрыста...

— Цікава, дзякуй. З Купаллем, разумею, вам будзе прасцей?

— Ды тут жа ўсё на паверхні, — пацепнуў плячыма Генадзь, здаволены тым, што ў яго запыталіся і пра гэтае свята. — І запісы розныя, і малюнкі знойдзеныя кажуць пра тое, што быў звычайны дзікунскі шабаш: ненажэрлівасць і сэкс "без правілаў". Можна правесці аналогію са Стоунхенджам: як цяпер высветлілі, у тым месцы збіраліся раз на год, пілі, елі і з імпэтам рабілі дзяцей. Масавае запладненне саміц, звычайная дзікунская оргія. Прадыктавана гэта было элементарнай практычнасцю, якая, сваім парадкам, абумоўлівалася сельскагаспадарчым годам: Купалле — найлепшы час для такога шабашу. Жанчына, якая зацяжарыла ў купальскую ноч, увосень здольная выконваць работу практычна без абмежаванняў, бо тэрмін цяжарнасці маленькі. Узімку, калі ёй трэба шанаваць плод і ашчаджаць сябе ў працы, яна болей сядзела за ткацтвам ды шыццём. Нараджэнне дзіцяці прыпадае на пачатак вясны, таксама ніякіх цяжкіх работ не вялося. Да таго, як выйсці ў поле, дзіця можна было браць з сабой і пакідаць у баразне на дзень.

— Не забудзьце істотнага моманту: у самым слове “купалле” чуецца “купа” — значыць, куча, гурт разам. Адсюль праводзіцца паралель з “савакупленнем”, — заўважыў Алег Барысавіч так, рыхтык Генадзь атрымаў заданне пісаць на тэму Купалля, і працягнуў тым самым загадным тонам: — Гэта будзе першая частка артыкула, пажадана зрабіць яго дасканала, са спасылкамі на патрэбныя тэксты вядомых купальскіх песень, дзе вы знойдзеце, што гаворыцца менавіта пра мажлівасць такога спарвання. Другая частка: паказаць ролю тагачаснага шамана, валхва, старэйшыны племені. Зразумела, што дзікунскі народ з асаблівай прагаю чакаў менавіта такога свята, як ночы рэалізацыі сваіх жывёльных інстынктаў. У той час адзінкі навучыліся прымітыўнаму адсочванню часу, так што той шаман быў адзіным, хто мог зрабіць “адмашку”. Варта пашукаць і скарыстаць дадзеныя пра хмельныя напоі. Дым ад спальвання ў вогнішчах той самай каноплі мае дурманлівы эфект, што падагравала дзею. Пашукайце такіх момантаў.

Генадзь моўчкі кіўнуў, потым нясмела запярэчыў:

— Але ж у “купаллі” чуецца і “купаць”…

— Мы мусім самыя пачуць і прымусіць слухаць іншых тое, што трэба нам, — мякка, але настойліва адказаў Алег Барысавіч. — Пагатаў, падставы менавіта так пачуць ёсць. Згодныя?

— Вядома, згодны, — пасняшыў Генадзь.

— Вось і выдатна, — даравальна кіўнуў Алег Барысавіч. — Як бачыце, — ён крыху развёў рукамі ў бакі, — ужо цяпер Вам трэба напісаць чатыры артыкулы. Далей — будзе яшчэ. І па Купаллі будзе не два, і не тры, а дзесяць і больш, у розных варыянтах, акцэнтуючы розныя моманты ў рознай ступені. Пісаць будзеце шмат і рознага, будзеце працаваць у се-

ціве — я скажу рэсурсы, гэта паважныя электронныя выданні, якія патрабуюць Вашага ўмення ставіць пад сумнеў высновы аўтараў. Калі казаць каротка — мы зможам забяспечыць вас работай пры вашым жаданні і выкананні вамі нашых умоў на працяглы час і плаціць так, каб прадпрыемства не засціла сабой даляглядаў, — скончыў Алег Барысавіч з усмешкай. — Яшчэ ёсць пытанні? Пытайцеся, я ж ведаю, што ёсць. — усміхнуўся зычліва.

— Ведаеце, бо самыя справакавалі мяне думаць? — усміхнуўся і Генадзь. — Можа, пытанне “не па тэме”, але ж вы і самыя не раз сказалі пра “нас”, вось і цяпер… Ці магу я спытацца, хто гэта — “мы”? І, шчыра кажучы, няўжо так важна цяпер займацца калупаннем у струхлелым мінулым, выцягваць косткі паганцаў ды іх прымхі, спрачацца… Не разумею…

Генадзь падняў вочы, зірнуў на Алега Барысавіча і сустрэў пранізлівы позірк шэраватых вачэй.

— Калупацца, як вы кажаце, важна. Нам важна. Хто мы? Гэта не так важна… Вы ведаеце, за што не любілі вашу бабулю? — Алег Барысавіч запытаў хутка, рэзка, здалося — нават крыху падаўся наперад, упіўся вачыма ў Генадзяў твар.

Генадзь уздрыгнуў. Ён думаў, што быў гатовы да ўсяго. Але ж не да такога пытання.

— Не ведаю… Я ўспомніў… невялікія шматкі. Як яна памірала. Як жанчыны казалі пра яе.

— Яна ж клікала вас перад смерцю? — перапыніў Алег Барысавіч.

— Так, — разгубіўся Генадзь. — А адкуль вы ведаеце?

— Я не ведаю, я пытаюся… А як патрапіў да вас яе абярэг?

— Абярэг? А… Вы пра той талісман… Я нядаўна ездзіў туды… Вёскі ўжо няма. І знайшоў. Там, пад ложкам. Яна перад смерцю, я ўспомніў… казала, каб я забраў.

— Усё вельмі проста, — Алег Барысавіч нібыта супакойваў. Ён павярнуўся, пашукаў вачыма кельнерку, тая адразу з'явілася ля століка: — Каву, калі ласка.

Генадзь сядзеў, разгублены тым, што ён гэтулькі сказаў пра сябе амаль невядомаму чалавеку. Але адначасна яму стала лягчэй, быццам ён сам і невядомы мужчына перайшлі праз умоўную рысу і цяпер сталі бліжэй адзін да аднаго. Алег Барысавіч усё рос і рос у Генадзевых вачох: ён адчуваў у ім сілу, значнасць. Але якую сілу? Што за значнасць? У Генадзя ўсё больш расла ўпэўненасць у тым, што яму трэба пільнавацца гэтага чалавека, што ён для яго — як старэйшы настаўнік. Як… бацька амаль.

Нешта казытала, свярбела на грудзях. Аж карцела пачухацца, але ж не станеш тут, у кавярні перад такім чалавекам.

Прынеслі каву.

— Вы ведаеце, Генадзь, што такое ўлада? — пасля хвіліны маўчання спытаў Алег Барысавіч. — Не адказвайце, я патлумачу, Вы запамінайце. Дык вось, улада — зусім не магчымасць камандаваць людзьмі. Поўная ўлада — незалежнасць ад людзей. І то такая, што яны і не здагадваюцца. Чым болей вы не залежыце, тым болей у вас улады. Вашу бабулю не любілі таму, што яна жыла незалежным чалавекам. Ад вяскоўцаў яна не залежала. І гэта не магло іх не хваляваць. У нас ненавідзяць незалежных. Бабуля мусіла бараніцца — каб ёй давалі жыць так, як яна хоча жыць. Бяда вашай бабулі і іншых такіх людзей у тым, што яны заставаліся самы-адны. Не маглі

памагчы адно аднаму. Мы ж памагаем: усе — аднаму, адзін — усім і кожнаму. Зразумела?

— Так… — працягнуў Генадзь, паставіў кубачак і не вытрымаў, палез па цыгарэты: — Вы прабачце, Алег Барысавіч, надта ж хачу курыць. Вы дазволіце?

— Вядома, вядома, курыце, — мякка дазволіў той. — Вы згодныя са мной?

— Не зусім, — нясмела запярэчыў Генадзь. — Нельга ж быць незалежным ад усіх-усіх…

— Але, нельга, — лёгка згадзіўся Алег Барысавіч. — Вы будзеце залежаць толькі ад мяне. Але я, сваім парадкам, забяспечу для вас незалежнасць ад усіх астатніх. Зразумела?

— Амаль… Так, зразумела.

— Але вось што, — мужчына ўсміхнуўся спагадна. — Не залежаць ад іншых — не значыць ігнараваць іх, не залежыць ад дзяржавы — не значыць не выконваць яе законаў. Незалежнасць — гэта перадусім нутраное адчуванне сваёй поўнай свабоды. Улада над людзьмі адбываецца праз думкі. Патлумачу: вунь кельнерка. Хто ад каго залежыць: яна ад мяне ці я ад яе? І што тут галоўнае? Дык вось, галоўнае тое, хто чые думкі ведае. Я не залежу ад кельнеркі, бо я магу з упэўненасцю агадаць усе яе крокі, яе рэакцыю на ўсё, што ні зраблю тут. І я ведаю яе магчымасці. Зразумелі? Ведаць думкі, ведаць мажлівасці, агадваць крокі.

— Няпроста… — уставіў у дадзенай для яго паўзе Генадзь. — Няпроста ведаць думкі.

— Сапраўды няпроста, — ахвотна згадзіўся Алег Барысавіч. — Калі вы хочаце ведаць, якая будзе ў дзіцяці цацка, вы яму цацку набываеце. Мы фармуем думкі.

Генадзь амаль уздрыгнуў — апошнія словы ягоны суразмоўца сказаў так жорстка і з такім націскам на

“мы”, быццам Генадзь быў у ягонай камандзе, і не проста быў, а зрабіў нейкую работу неналежна, і вось яму выгаворваюць. Тым часам Алег Барысавіч двума глыткамі дапіў каву.

— Вы не задумляліся, Генадзь, вось над чым, — стаў ён казаць задуменна: — Ёсць людзі, якія пішуць вершы, ёсць тыя, хто любіць паэзію. Ёсць аматары музыкі, а ёсць кампазітары. Ёсць пісьменнікі, і ёсць чытачы. Людзі заўжды дзеляцца на тых, хто нейкі прадукт вырабляе, і тых, хто яго спажывае. Здольнасць адчуваць сябе незалежным і быць незалежным — як здольнасць пісаць вершы. Здольнасць падпарадкавацца — здольнасць да чытання. Быць па-над некім — талент. І людзей, якія маюць гэты талент, вельмі мала. Мы шукаем адзін аднаго, мы яднаемся. Гэтаксама, як яднаюцца паэты. Але наша розніца ў тым, што мы не крычым пра свае здольнасці ля кожнага слупа і не ладзім перформансаў. Наша розніца ў тым, што мы не душым адзін аднаго, каб давесці, чый талент большы. У нас, я вам казаў, кожны дапамагае кожнаму. Згодныя?

І зноў пытанне было пастаўленае так, што Генадзь на момант разгубіўся: згодны ён, што мець здольнасць да ўлады — талент, ці з тым, што ён гатовы прыняць правілы, калі… калі яго прымуць?

— Згодны, — з лёгкім хваляваннем адказаў ён.

— Працягнем, — кіўнуў Алег Барысавіч. — Тая частка, большая і агрэсіўная, якая мае адну здольнасць: падпарадкавацца, імкнецца, аднак, вылузнуцца са сваёй скуры. Гэтаксама, як просты чытач у нейкі момант навучыцца рыфмаваць цень-дзень і думае, што ён паэт. Калі адзін ці два — не бяда. Яны не могуць істотна паўплываць на сітуацыю. Але ж усе графаманы імкнуцца знайсці да іх падобных, аб’яднацца.

Калі разам, то лягчэй і бацьку біць. Няма нічога болей амбітнага, агрэсіўнага і сляпога ў сваім жаданні кіраваць, чым купа графаманаў. Яны ўздымаюць такое выццё, што іх пачынаюць чуць. І калі недзе адзін прабіваецца хоць да маленькай улады ў грамадстве — ён цягне да сябе падобных. Графаманства ў вершах вылушчваецца самым жыццём праз гады і дзесяцігоддзі, а вось графаманства ў незалежнасці — куча п’янага быдла, якое дарвалася да ўяўнай улады. Уявіце, што яно можа нарабіць…

Генадзь закурыў яшчэ адну цыгарэту, заўважыўшы, што вентыляцыя ў кавярні вельмі добрая — дым падхапляў і цягнуў угору, да навешанай столі, невідочны скразнячок. Генадзь слухаў, намагаўся зразумець усё сказанае, але розум перапаўнялі эмоцыі: паважаны чалавек, чалавек моцны і ўплывовы, зараз расказвае яму адну з таямніц, якую ведаюць адзінкі. Абраныя. І яму, Генадзю, прапаноўваюць падзяліць таямніцу, стаць яе часцінкай.

— Кожны нявольнік, які здольны быць адно нявольнікам, імкнецца прыдумаць для сябе бога. Ён стварае сабе бога і думае, што бог — над усімі. І тым апраўдвае сваё нявольніцтва. Калі такі бог — нейкі дух, ці камень, дрэва, сонца — гэта нармальна. Няхай сабе моліцца, няхай забівае сабе падобных і ахвярue свайму богу. Усё вядома і зразумела. Але калі купа рабоў прыдумляе сабе бога, які аб’ядноўвае ў сабе дрэва, камень, сонца, мову, мінулае і будучыню — вось што кантраляваць практычна нельга. Такі бог незразумелы, бо такім задуманы. Ён — непазнавальны апрыёры. Вось такіх багоў быць не павінна. Бо разам з такім богам нявольнік стварае сабе такую рэч як сакральнасць. А калі нявольнік мае сакральнасць, ён не хоча быць нявольнікам. Ён адчувае ў сабе мажлі-

васць змяніцца. І мяняецца. Няхай не за адно пакаленне, але мяняецца. Цяпер уявіце: у краіне кожны ад нараджэння ўмее таленавіта пісаць вершы, складаць музыку, маляваць. Мастацтвы страчваюць сэнс. Тым больш страшна, калі сэнс страціць незалежнасць — усе становяцца зноў нявольнікамі. Згодныя?

— Згодзен, — упэўнена адказаў Генадзь. — Усё, што ёсць на зямлі, мае сэнс толькі тады, калі ёсць ягоны антыпод, — смела выказаў ён сваю думку.

— От і добра.

Алег Барысавіч запытальна паглядзеў на Генадзя, маўляў, што цябе яшчэ цікавіць. І Генадзь адважыўся задаць яшчэ адно пытанне:

— Выбачайце… Але ж вось вы — не нейкая дзяржаўная ўлада?

— Вядома, не, — адразу ж адказаў Алег Барысавіч. — Не варта блытаць сапраўдную ўладу з дзяржаўнай. Кожны дзяржаўны чыноўнік таксама нешта чытае і нешта слухае. У яго ёсць сябры, начальнікі, падначаленыя. І чыноўніку таксама можна і трэба іншым разам падказаць: як думаць і пра што. Памятаеце, пра што я казаў? Вы застаяцеся незалежным ад людзей тады, калі ведаеце іх думкі. А каб ведаць — трэба прымусіць думаць так, а не іначай. Каб вы не задавалі апошняга пытання, адкажу адразу: зразумела, наша гутарка мусіць застацца між намі. Вельмі прашу памятаць. У вас, бачу, няма больш пытанняў? Вы падумалі? Берацеся за работу?

— Так, бяруся… — Генадзь пракаўтнуў, дробна задрыжалі пальцы, калі душыў у попельніцы недакурак.

— Добра, — Алег Барысавіч неяк зусім незаўважна, лёгкім рухам, дастаў з нутраной кішэні пінжака невялікую капэрту. — Аванс. Праз два тыдні чакаю чатыры артыкулы. У капэрце тэлефон, паталефануй-

це. Сустрэнемся тутака ж. Хачу папярэдзіць: ваша дзейнасць можа быць звязаная не толькі з напісаннем артыкулаў. У нас шмат работы.

У Генадзя ў падсвядомасці мільганула кволенькая думка: ён патрапіў зараз у моцную, адмысловую сетку. Але адмахнуўся — быў перакананы, што ўсё робіць слушна. Бо бабуля казала яму менавіта пра гэта: ён будзе над людзьмі.

Генадзь, імкнучыся паказаць сваю годнасць і другаснасць для яго грошай у такі момант, амаль абыякава ўзяў капэрту і, не зазірнуўшы ў яе, перагнуў, паклаў у заднюю кішэню джынсаў.

— Дзякуй, я ўсё зраблю.

— Тады да пабачэння, — Алег Барысавіч падаў сваю руку цераз столік, злёгку паціснуў і прытрымаў Генадзеву руку: — Ты ж адчуваў увесь час, як нешта казыча цябе, так? — нязмушана перайшоўшы на “ты”, дапытліва запытаўся ён. — Чаго было саромецца? Трэба было б проста пакласці сваю руку на грудзі. На абярэг...

Ён усміхнуўся — неспадзявана амаль драпежна, і Генадзь разгублена прыўзняўся з крэсла:

— Да пабачэння.

Алег Барысавіч застаўся сядзець пры століку, Генадзь зразумеў, што выходзіць ім трэба паасобку. Ён выйшаў, заўважаўшы трохі разгублены кельнерчын пагляд. “Я ведаю, што ты думаеш” — вясёла падумаў ён пра дзяўчыну ў доўгай чорнай спадніцы з глыбокім разрэзам збоку і белым нягеглым фартушком наперадзе.

Толькі на вуліцы Генадзь асцярожна прыклаў далонь да грудзей — на абярэг. Злёгку прыціснуў і ледзь не войкнуў — як апякло. Адвярнуўся да сцяны будынка, расшпіліў два гузікі на сарочцы і пабачыў на

грудзях невялікія белыя сляды апёкаў. Асцярожна крануў абярэг (так, ягоны абярэг!). Той быў гарачы. Генадзь асцярожна сціснуў двума пальцамі срэбны кружок, стрываў, адчуўшы, як цяпло кружка імкліва губляецца ў скуры пальцаў. І стала лёгка.

### 3

Генадзь спазнаў асалоду ад жыцця. Урэшце кожны ягоны дзень быў запоўнены працай, якая яму падабалася. Ён і не думаў, што для яго так шмат значыць асабіста рабіць тое, што даспадобы, ды яшчэ і атрымваць за гэта грошы. Ён пісаў артыкулы, браў удзел у дыскусіях на нейкіх рэсурсах, то некага на загад падтрымваючы, то разбіваючы. Спасылкі і заданні знаходзіў у сваёй паштовай скрыні. Жыццё не тое каб набыло сэнс, а стала ўпарадкаваным, цякло ў спакойным, прыемным рэчышчы. Яно не стамляла, не надакучала.

І яшчэ адно Генадзь адчуў: вакол яго ўзнікла нейкая, як бы сказалі на якім эзатэрычным форуме, аўра. Першая неспадзяванка: рэцэнзент, які дагэтуль толькі крывіўся пры сустрэчы, і Генадзь ужо змірыўся з тым, што ў яго будуць тут пэўныя праблемы з дыпломам, раптам стаў іншым. Ветлым, зычлівым. Тую ж зычлівасць Генадзь стаў адчуваць у крамах і барах. Не зычлівасць нават — павагу, сапраўдную, не найграную. Цяпер і сам Генадзь на вуліцы, у памяшканнях пры сустрэчы з рознымі людзьмі найперш звяртаў увагу на твары людзей, на іх вочы — ён хацеў адгадваць, пра што думаюць людзі, на што яны здольныя ў сваіх дзеяннях тут і цяпер. Вывучэнне людзей для самога Генадзя нібы паставіла дзіўным

парадкам шкляную сцяну між ім і іншымі. І нават не сцяну... Генадзь глядзеў на навакольных як на... рыбак у акварыуме: ён ведаў, быў пэўны ці здагадваўся пра іх будзённыя справы, іх намеры, адгадваў іх рэакцыі. Гэта весяліла, прыносіла сапраўднае задавальненне ад той самай яго, Генадзевай, незалежнасці ад усіх астатніх. Ягоная незалежнасць заўважалася іншымі, Генадзь бачыў гэта: ён выглядаў для сустрэчных куды больш значным, чым раней.

З дыпломам справа рухалася быццам сама сабой: Генадзь заказаў (заробленае напісаннем артыкулаў дазваляла) графічную частку нейкаму студэнту. Кансультант забяспечыў матэрыяламі. Людміла і тут прапанавала Генадзю сваю дапамогу: “Ты ж, Генік, бачу, заняты зусім іншым... Мне няцяжка набраць... Я разумею, што мяняць трэба істотна, я змагу”. Генадзь быў крыху расчулены прапановай ад Людмілы і сказаў, што заплаціць ёй. Людміла, было відаць, крыху засмуцілася. Генадзь заўважыў, але нічога не сказаў. Ён падумаў... І калі дыплом быў гатовы, павёў Людмілу ў ювелірны шапік.

— Ты неяк прызналася, што любіш золата. Не спрачайся са мной, калі ласка. Выберы сама сабе тое, што даспадобы. У абсягах ста пяцідзесяці даляраў. Не пярэч.

У той момант, калі ён казаў свае словы, а Людміла глядзела на яго, ён зразумеў, што зрабіў слушна: не змусіў сілком узяць грошы (а такая думка была), а прывёў у краму. Ніколі раней з такой адданай цеплынёй, з такім абагаўленнем Людміла не глядзела на яго па-за межамі кватэры. І яна не стрымалася, пацягнулася, пяшчотна і лёгка пацалавала яго ў вусны пры ўсіх у краме.

За апошні месяц, як Генадзь пачаў пісаць артыкулы для Алега Барысавіча, ягоныя дачыненні з Людмілай набылі важкасць і адначасна лёгкасць. Генадзь усё часцей лавіў сябе на думцы, што яму хочацца аддзячыць Людміле за тую ўтульнасць і бесклапотнасць, якія яна стварае для яго. Ён колькі разоў браў Людмілу з сабой на вадасховішча, былі яны па вечарох у кавярні, выходзілі пагуляць, заходзілі ў які бар пасядзець, дазвалялі сабе па келіху віна. Гэтым Генадзь і сабе прыносіў нямала прыемных хвілін: на ягоную Людмілу ўзіраліся мужыкі ўсякага веку, ад дзяўчыны, здавалася, біла хваля пачуццёвасці, яна не магла не хваляваць. Было прыемна ўсведамляць, што Людміла — ягоная жанчына, што кожнае ягонае слова будзе выканана ёю без аніякага супраціву. Толькі пра адно яна будзе прасіцца — калі Генадзь надумае яе выкінуць за дзверы.

Адзін дзень Людміла, вінавацячыся, запытала:

— Генік, нам разам спаць, я ж адчуваю, цесна на канапе, нязручна… Я падумала, хачу ў цябе спытаць: а чаму б не набыць вялікі ложак? Табе і аднаму будзе зручна, нават калі ты… захочаш застацца… без мяне…

Сказала і сцялася ўся, як у чаканні ўдару.

Генадзь усміхнуўся — не мог не ўсміхнуцца: думка пра вялікі новы ложак яму ўжо прыходзіла ў галаў, і той факт, што першая пра яго загаварыла Людміла, выбаўляў ад патрэбы казаць ці рабіць тое самому, што магло быць расцэнена як прызнанне Генадзя ў нейкіх выдуманых пачуццях ці планах.

— Займіся гэтым сама. Колькі будзе каштаваць?

— Але калі табе не спадабаецца?

— Мне павінен падабацца не ложак, а ты ў ложку, — дазволіў сабе такое прызнанне Генадзь, і Людміла ўдзячна, з абяцаннем, усміхнулася. — Нешта стылёвае, без усякіх там аздобаў…

— Добра, я пастараюся…

Мінула тры ці чатыры дні. Мабыць, Людміла чакала патрэбнага моманту. У той дзень Генадзь паехаў да рэцэнзента, потым у яго былі яшчэ справы ва ўніверсітэце. Калі прыехаў, па паху ў вітальні адчуў: нешта новае ёсць у кватэры. Так заўсёды пахне новая мэбля.

Людміла сустрэла яго ў новым халаціку. У ім яна была ўся як нейкі сэксуальны выклік ці заклік, вось цяпер, стаўшы з загадкавай усмешкай перад Генадзем, яна проста правакавала яго на дзеянні эратычнага характару.

— Ну, з якога ляку квітнееш, як ружа?

— Паўзірайся, што ў нашай спальні, — гулліва прыкусіла вусны Людміла.

Генадзь прапусціў міма вушэй яе "ў нашай спальні" — няхай сабе лічыць "нашай", цешыцца. Ён скінуў туфлі, прайшоў у пакой і, праўда, уражаны, застыў на парозе: амаль усю прастору займаў вялізны ложак. Дзве падушкі, дзве коўдры. "Гэта выдатна, што дзве коўдры", — міжволі падумаў Генадзь. Бялізна была незвычайнага для Генадзя колеру: чырвона-чорная з белым. Ложак невыказна вабіў да сябе абяцаннем прыемнага адпачынку. Але ён сам, ды яшчэ з новай бялізнай насычаных колераў здаваўся тут чужым — сцены пакоя шматкроць павялічылі несучаснасць і беднасць шпалераў.

— Рамонт трэба рабіць, — пакрывіўся Генадзь, азірнуўся на Людмілу: — Колькі каштуе?

— Мне… мама дала на ложак, — ціха прызналася Людміла.

Яе тварык выглядаў няшчасным — быццам яна несла нешта дарагое для Генадзя, ды тое сапсавалася на апошніх кроках, і замест шчаслівага моманту выйшла прыкрая нягегласць.

— Табе… недаспадобы ложак? — усё ж наважылася спытаць Людміла.

Генадзь падумаў пашкадаваць яе, адказаў з усмешкай:

— Зараз апаласнуся і паглядзім, ці зручны ён!

Менавіта ложак надаў іх дачыненням важкасці. У Генадзевай кватэры з'явілася першая самавітая рэч, якая сведчыла пра яго як чалавека сямейнага. Ён і не быў супраць той рэчы. Больш таго, пасля першай жа ночы пашкадаваў, што не здзейсніў задумы раней: спаць было куды прыемней, зручней, чым на той канапе, якая цяпер стаяла ў зале, а разам з яшчэ адной выйшаў амаль што мяккі куток. Людміла прапанавала: цяпер ёсць майстэрні, якія з дзвюх канап зробяць адну: вялікую, зручную. Генадзь пагадзіўся — і канапы зніклі на тыдзень, а потым у зале з'явілася адна, зусім іншага колеру і выгляду, вялікая кутняя канапа. Так зручна было на ёй чытаць, глядзець тэлевізар….

А потым здарылася і зусім нечаканае для Генадзя. Яму ў галаў не прыходзіла, што некалі такое будзе магчыма. Ён успрымаў Людмілу як цалкам самадастатковую адзінку, для яго не існавала яе мінулага, гісторыі яе жыцця. Ён прымаў толькі сучаснасць існавання, і то менавіта яе. Калі з нейкіх прычынаў Людміла ўзгадвала сваіх маці і бацьку, яны заставаліся для Генадзя схематычнымі кропкамі на мапе, не болей, прычынай для з'яўлення грошай, скажам. Вось як з новым ложкам: Людмілiна маці настаяла на тым, каб дачка ўзяла грошы і на іх купіла нешта ў кватэру. Людміла пераконвала Генадзя, што маці ведае ўсю праўду пра іх стасункі: што яна сама жыве тут толькі праз дабрыню і дазвол Генадзяў, што ў іх ніякі не шлюб. Так, маці нешта была пачала

ёй выгаворваць пра цноту ды пазашлюбнае жыццё з мужчынам, але Людмілін бацька як адрэзаў: дачка даўно самастойны чалавек, разбярэцца сама лепей за маці. Тым больш, што час змяніўся. Гэта Генадзю казала Людміла, калі ён неяк у ложку, будучы ў добрым гуморы, спытаўся ў яе пра хатніх. Так ён даведаўся, што Людміла, як і ён, адзіная ў сям'і.

І вось Людміла папрасіла дазволу прыняць хоць на паўгадзіны маці — вельмі хоча пабачыць, як жыве дачка. Бо недзе глыбока ў душы хавае найстрашнейшыя думкі пра яе сапраўднае становішча. Ёй усё здаецца, што жыве Людміла не ў добрай кватэры, не сапраўднай гаспадыняй, не з разумным маладым чалавекам, а недзе ў страшным вычварным прытоне…

Генадзь на хвіліну разгубіўся, скрывіўся ад з'яўлення такіх вось гасцей у хаце. Падумаў і пагадзіўся, хай прыязджае маці, паглядзіць — нічога страшнага тут няма. На гадзіну-другую ён проста з'ездзіць куды-кольвек. Але не болей. А потым падумаў, і самому стала смешна: а чаго ён будзе ўцякаць са сваёй кватэры? Ён гаспадар тут! Так і адказаў Людміле: няхай прыязджае маці. Можа і пераначаваць. Але трэба ведаць ёй і разумець, што праз тыдзень абарона дыпломаў…

Людміла прыціснулася да яго ўсім сваім гнуткім целам, горача абцалавала і твар, і грудзі, і плечы.

Генадзь потым не пашкадаваў, што і дазволіў, і сам не ўцёк з хаты. Людміліна маці была невысокага росту жанчынай сталага веку, з дробнымі рысамі твару, ахайненькая, хоць бедна адзетая.

Генадзь выйшаў з пакоя павітацца. Ён падумаў, што Людміла будзе яшчэ больш абавязанай яму за ягоную праяву ветласці.

Выцвілыя вочы жанчыны, глыбока запалыя ў маршчыністы твар, глядзелі на Генадзя з такой, сапраўды сабачай, адданасцю, што ў першы момант Генадзю стала няёмка. Але няёмкасць адразу мінула: Генадзь разумеў прычыны і падставы для такога пагляду: ён зрабіў будучыню для яе дачкі. Вось цяпер, у гэты момант, калі перад вачыма была сапраўдная кватэра, якую яе дачка адамкнула сваім ключом, калі яна пабачыла чысціню тут, парадак і хатнюю ўтульнасць, яна паверыла ў той цуд, пра які расказвала ёй дачка: яна няхай і вось так, без вяселля, але выйшла замуж, яна жыве з няхай і несапраўдным, але з "законным" мужам у гарадской кватэры, яна стала прыгожа адзявацца, яна добра выглядае, яна знайшла сабе месца працы пасля ўніверсітэта ў горадзе… Што яшчэ трэба маці? Да таго ж, пакуль што гэты несапраўдны муж нікуды і не думае выганяць яе дачку, яму добра з ёй, а далей што ж… Звычка — яна такая, яна мацней за нейкія там пачуцці. Тыя ўспыхнулі ды пыхнулі, а потым нясцерпна гарачага захочацца таго, што раней было цёплым…

Людміла дзеля матчынага прыезду набыла сабе новы халат — каб быў ніжэй каленяў. Генадзь толькі пасміхнуўся з яе невялікай хітрасці. Правяла маці па кватэры, потым яны пайшлі на кухню. Праз паўгадзіны Людміла асцярожна прыадчыніла дзверы, пацікавілася: можа, ён хоча разам паесці, там маці прывезла вясковых прысмакаў?

Генадзь адмовіўся — гэта было залішне для яго. Не ставала яшчэ сядзець за сталом з чужой жанчынай, чаркацца з ёй і чакаць, калі ў яе з языка сарвецца "зяцёчак" ці яшчэ што кшталту "ты яе не крыўдзі, яна ж харошая, яна ж даглядзіць…" Ён бачыў пагляд, і годзе.

— То я сюды табе прынясу, добра? — з адчувальнай палёгкай прапанавала Людміла. Яна разумела, што цяпер павінна паводзіць сябе максімальна асцярожна: Генадзь і думкі не павінен дапусціць, што яго нейкім спосабам збіраюцца прывязаць і што матчын візіт — адно з агніваў таго невідочнага ланцуга.

Генадзь моўчкі кіўнуў, потым дадаў:

— І кавы звары мне.

Людміла паспяшалася на кухню.

Людміліна маці доўга не затрымалася — мо гадзіны з дзве прабыла яна ў кватэры, потым дачка сказала, што яны пойдуць у горад, адтуль — на вакзал. І што есці нагатавана. Увечары ў ложку Людміла была яшчэ ласкавейшая, адданейшая, чым тады, калі яны распісаліся і яна пакінула яго галодным на дзень.

І новы шырокі ложак, і прыезд Людмілінай маці надалі лёгкасці стасункам: усё стала неяк прасцей, быццам было прамоўленае апошняе недагаворанае, і яны прынялі ўсе правілы стаўлення адно да аднаго. Людміла пачала паводзіцца ў кватэры вальней: не перапытвала лішні раз, ці можна ўмыкаць музыку, прыбірала тады, калі мела час. Амаль увесь дзень у кватэры працаваў тэлевізар на музычным канале. Але яна заставалася нязменна ўважнай і паважнай да Генадзя. Ён быў яе богам — гэтак успрымаў Генадзь Людміліна стаўленне да сябе. І ведаў, што мае права такім быць. Бо таго, што ён даў і дае цяпер Людміле, іншыя жанчыны не маюць усё жыццё: элементарнага жаночага шчасця — кахаць і быць патрэбнай каханаму.

Ды адно вярэдзіла думкі гадзіну ці дзве новым адчуваннем. На другі дзень пасля прыезду-ад'езду Людмілінай маці, калі Генадзь сядзеў у ванне, а Людміла шаравала яму спіну, ён, глянуўшы на яе голыя

грудзі, што калыхаліся мерна перад тварам, падумаў: а Людміла ж некалі стане як маці. Вялікія, цяпер пругкія, грудзі стануць адвіслымі, нечым напалову запоўненымі брыдкімі скуранымі торбамі, адрузне скура на паўнаватых лытках, з'явіцца тоўсты жывот; зморшчыны ўкрыюць твар, высахнуць вусны, пачарнеюць зубы; вочы паменшацца, уцягнуцца ў чэрап, выцвітуць іх зрэнкі… І такую жанчыну можна будзе любіць у ложку? Цалаваць пляскатыя цыцкі са зморшчанымі смочкамі? Не… такога не будзе. Як будзе — потым і вызначым. Але так не будзе…

Прапанова ад Алега Барысавіча сустрэцца была для Генадзя не зусім прыемнай: той не сказаў пра мэту, а ў голасе прагучалі металічныя ноткі, якія трохі драпанулі самалюбства. Аднак Генадзь адчуў прыемнае хваляванне радасці: яму закарцела зноў апынуцца побач з гэтым уладарным чалавекам.

**4**

Сустрэча гэтым разам праходзіла не ў кавярні, а ў машыне Алега Барысавіча. Сваю машыну Генадзь пакінуў, перасеў да "шэфа", як стаў у думках з адценнем павагі называць мужчыну.

— Тут грошы за работу і апошні артыкул.

Генадзь узяў капэрту, падзякаваў.

— Твой рэцэнзент цябе не крыўдзіць? — Алег Барысавіч павярнуў галаву да Генадзя, і таму раптам стала зразумела: у вачох ягонага "шэфа" была пасяброўску змоўніцкая ўсмешка.

— Не, не крыўдзіць… Я і не чакаў…

— Што ён так зменіць сваё стаўленне да цябе? Я казаў: мы дапамагаем адзін аднаму. Дарэчы, табе трэба вучыцца далей. Наша прапанова: ты паступаеш на завочнае і цяпер ідзеш працаваць у інстытут мовы і літаратуры.

— Дык… Я ж — тэхнар… Інстытут мовы? Паступаць вучыцца? Хіба на гістарычны… Мяне зацікавіла паганства, — Генадзь казаў асобныя сказы, цалкам разгублены ад агучанай перспектывы.

— У нас даволі сяброў сярод гісторыкаў, — быццам з сапраўдным болем ад гэтых слоў сказаў праз зубы Алег Барысавіч, і Генадзь зразумеў: гэта не простая прапанова падумаць, гэта новае яго жыццё. І ён мусіць цяпер прыняць гэты варыянт, ці… ці ўсё скончыцца.

— Але што мне рабіць з маёй адукацыяй у інстытуце мовы?

— Ты добра валодаеш камп'ютарам… Умееш пісаць, пачнеш вучыцца — магчымасці пашырацца. Праца нескладаная, будзе часу і на напісанне артыкулаў.

— А… навошта вам мова? — спытаў Генадзь больш ад разгубленасці, абы нешта спытаць.

— Ты патрэбен там. Калі ты там будзеш, тады будзеш ведаць, дзеля чаго і як. Ты згодзен?

— Дык… размеркаванне ж…

— Цябе адпусцяць на ўсе чатыры бакі.

Генадзь у той момант не проста паверыў у магчымасць такога развіцця падзей — ён быў пэўны, што ўсё, што задумляе і робіць Алег Барысавіч, заўсёды здзяйсняецца і здзяйсняецца так, як запланавана і як ён хоча. І адначасна расла радасць у душы: ён збаўляецца ад сваёй катаргі на вытворчасці, у яго будзе цікавае і разнастайнае жыццё, ён разам з моцнымі!

— Я… згодзен, — адказаў Генадзь, запнуўся, раззлаваўся на сябе і паўтарыў цвёрда. — Я згодзен. Але… я думаю, што…

— Слушна думаеш. Я не адзін раз і не два, а ўвесь час павінен буду пераконвацца, што ты — надзейны чалавек. Таму перад тым, як закруціцца машына твайго далейшага лёсу, табе трэба зрабіць адну справу.

Алег Барысавіч прамаўляў гэтак сама рэзка, каротка, але голас ягоны палагаднеў. І Генадзь цешыўся — значыцца, ён спраўдзіў спадзяванні такога чалавека.

Алег Барысавіч адкінуў бардачок машыны, дастаў мапу, разгарнуў.

— Нічога запісваць не трэба, запамінай. Сто семдзесят кіламетраў ад нас. Вось вёска. Там на ўскрайку стаіць старая школа. На лета яе зачыняць. Драўляная. У школе ёсць пакой… Паўночна-ўсходні кут. Там пазбіраныя розныя рэчы кшталту старых лапцяў, самапрадак, ручнікоў. Роўна праз тры дні а другой гадзіне ночы — час дакладны, улічы, школа мусіць загарэцца. Над вёскай будзе навальніца.

— А… адкуль вы ведаеце, што будзе навальніца? — першае, пра што запытаў збянтэжаны Генадзь. Ён думаў пра напісанне якога артыкула, а тут — падпаліць старую школу…

Аднак пытанне толькі надало настрою Алегу Барысавічу: ён шырока ўсміхнуўся, паглядзеў на Генадзя:

— Шкада, што ты так мала ведаеш пра сваю бабулю… Ты не здзівіўся, што да цябе сталі прыходзіць сны, ты не здзівіўся, што ўспомніў пра бабулю, успомніў яе запавет, тое, што яна мусіла табе перадаць. Ты не здзівіўся, што тое знайшоў. Не здзівіўся, што яно падказвае табе — і цяпер падказвае — з якім чалавекам ты сядзіш. Ты не здзівіўся, што знайшоў нас. І цяпер ты будзеш здзіўляцца, калі я скажу, што звычайны

гузік, які ўпусціла з рук твая бабуля і падняла суседка, мог стацца прычынай скрыўлення пальцаў на руцэ? Што яна магла пазычыць у суседкі гарлач на час (а тая не магла адмовіць), а забірала ўсё малако ад каровы? Што ёй ставала толькі пагладзіць парсючка, як той канаў праз дзень? Калі скажу, што для тваёй бабулі даволі было сыпнуць тры жменькі маку ў тры студні, каб тры навальніцы за тры дні падпалілі тры хаты ў вёсцы — па адной у дзень? Яна ведала і ўмела гэтулькі, што мне не пераказаць і за дзень.

— І я… навучыўся б ад яе? — хрыпата пацікавіўся Генадзь. Яму было вусцішна.

— Навучыўся б, — паблажліва хмыкнуў Алег Барысавіч. — Навука не такая складаная, бо галоўнае табе дадзенае пры нараджэнні. Але сёння такія гульні нікому не цікавыя. Так, часам скарыстаць, як цяпер. Такія, як бабуля твая — ніжэйшы ровень. Яны робяць і нават не ведаюць, дзеля чаго. І хто ім загадвае. Іншым разам яны і адмовіліся б ад сваёй здольнасці, але не могуць. Ты — можаш. Бо вольны рабіць выбар.

Міма праязджалі машыны, ішлі людзі — звычайны будзённы дзень, сонечны і яркі. Генадзю на нейкі момант падалося, што яго размова з гэтым мужчынам, пра якога ён адно і ведаў, што імя і імя па бацьку (і ці сапраўдныя яны яшчэ?), несапраўдная, ірэальная. Што так не можа быць: вунь жа — сучасны свет і сучасныя людзі, да якіх можна дакрануцца нават, калі высунуць руку, да іх можна выйсці, толькі адчыніць дзверы. А тут — нешта нерэальнае, фантасмагарычнае: загавораныя гузікі, пазычанае малако, мак у студнях… Але адно рэальнае: ён можа рабіць выбар. Яго паставілі на тую ступень, дзе ён — вольны. Ён, Алег Барысавіч, паставіў.

Машына награвалася, але вокны былі крыху прычыненыя. Генадзю стала горача. Абярэг на грудзях, датыкаючыся да цела, не абпальваў пякуча, а халадзіў, як маленькая льдзінка.

— Што ты хацеў яшчэ спытаць? — пачуў Генадзь пытанне, зададзенае спакойна, але і з патрабавальнымі ноткамі, нібы Генадзь мусіў пытацца.

— А… што ў тым музеі такога?

— Рэчы, якія мусяць быць знішчаныя. Яны ўтрымваюць у сабе веды. Веды такога ж кшталту, што і тваёй бабулі. Але не нашы веды. Чужыя.

— Паганскія?

— Не мае істотнага значэння, як іх называць.

— Выбачайце… я думаў, калі чытаў… Вы казалі, што небяспечна, калі рабы прыдумляюць сабе бога і набываюць сакральнасць. Але ж… вось прыдумалі рабы Хрыста, а атрымаўся яшчэ адзін інстытут улады. Чаму б і з паганствам не абысціся такім спосабам? Каб нешта падпарадкаваць, найлепей яго ўзначаліць…

Алег Барысавіч зірнуў на Генадзя неяк вельмі ж пільна, усміхнуўся.

— А чаму ты думаеш, што такое не адбываецца? Але не ўсё так проста. Каб хрысціянства стала інстытутам улады, спатрэбіліся стагоддзі, перапісванне і прасейванне напісанага… Яшчэ пытанні?

— Алег Барысавіч, вы прабачце, яшчэ момант такі… Вы ж казалі, што законы дзяржавы вы не парушаеце, жывяце паводле іх… А мне… такое заданне.

Адказ быў жорсткім, як тое і чакаў Генадзь:

— Паводле законаў жыве не той, хто іх не парушае, а той, каго не заўважаюць у парушэннях. Усё?

Калі зараз Генадзь скажа “ўсё”, гэта будзе значыць, што ён згодзен ехаць у тую вёску і падпаліць а другой

гадзіне ночы старую невядомую школу, дзе ляжаць невядомыя яму рэчы, якія ўтрымваюць невядомыя, але чужыя для яго веды. Калі скажа "не" — ён можа выходзіць з машыны. І застанецца з чым? З заводам і Людмілай? З зарплатай інжынера-тэхнолага ліцця пластмасы? Без чалавека, які даў яму зразумець, што такое сапраўдная незалежнасць? Хіба не дзякуючы яму Генадзь цяпер пачуваецца нечым, а не нічым?

Паўза зацягнулася. Алег Барысавіч глядзеў проста перад сабой, быццам яго цікавіў зараз не Генадзь, а аўтамабілі, якія праязджалі паўз ягоны прыпаркаваны "мерседэс".

— Я хачу дадаць, што ў капэрце апрача ўсяго ляжыць аванс — чвэрць сумы ад усёй за начнае падарожжа ў тую вёску. Ты зазірні…

Генадзь уздрыгнуў, як абудзіўся.

— Навошта… Я ведаю, што вы плаціце шчодра, — ён павярнуўся да Алега Барысавіча і ўсміхнуўся. — Па гэтай справе мне б удакладніць дзве-тры дэталі…

— Пытайся.

— Што скарыстаць для падпалу?

— Бензін. У пластыкавай тары. Выбіць шыбу. Памятаеш пра месца?

— Так, паўночна-ўсходні кут. Мяне ніхто за ўвесь час не павінен бачыць?

— Вядома.

— Болей няма пытанняў…

У сваёй машыне Генадзь распячатаў капэрту, і сэрца ўсхвалявана затахкала: абвязаныя паперкай, на якой алоўкам было напісана "вёска", ляжалі трыста даляраў. Толькі чвэрць…

Навальніца была сапраўды — з такімі зыркімі маланкамі і страшэннымі ўдарамі грому, што Генадзю стала вусцішна. Добра, ён незаўважна праехаўся тут

удзень, выглядзеў, дзе можна паставіць аўтамабіль так, каб і школа была блізка, і машыну з дарогі не відаць было. Прайшоўся старым школьным садам, паназіраў за школай. Знайшоў патрэбнае акно.

Цяпер ён пазіраў на мабільнік, стоячы пад страхой доўгага будынка школы, хаваўся ад дажджу. У навакольнай цемры на другім канцы вёскі (там былі гаспадарчыя пабудовы — фермы, склады ці яшчэ што), неба, у самым нізе, стала імкліва набрыньваць чырвонай кропкай, нібыта ўздымалася незвычайная чырвоная поўня. Мабыць, маланка патрапіла ў якое сенасховішча, там пачаўся пажар. “От і добра, на мяне ніхто не зверне ўвагі”, — падумаў Генадзь. Счакаў яшчэ хвілін дзесяць, зірнуў на мабільнік — пара. Калі грымнуў гром, моцна націснуў рукой, абкручанай анучай, на шкліну ў раме вялікага акна. Тая амаль нягучна трэснула, за ёй другая, падвойная. Аскалепкі шкла ўпалі на нешта мяккае ўнізе, бо не было чуваць гуку. Ліў з паўтаралітровай пляшкі бензін, захваляваўся, удар грому прагучаў, здаецца, пад самым вухам, асляпіла маланка. Пах бензіну быў востры, але прыемны, ён супакойваў. Выліў усё, кінуў пляшку ў выбітае акно, дастаў запальнічку і невялікую, зробленую заранёў, паходню. Неспадзеўкі стрэліла дурная думка: на яго цяпер глядзіць сотня вачэй вось з гэтага саду, ён робіць усё на людзях. Азірнуўся, прысеў, пачакаў яшчэ аднаго сполаху маланкі. Стары школьны сад быў мярцвяна-сіні і пусты. Калі маланка ўспыхнула наступным разам, Генадзь чыркнуў запальнічкай, падпаліў паходню і мітусліва кінуў у дзірку, прысеў.

Полымя ўсхапілася ўсярэдзіне агняным клубком, языкі яго рванурліся праз выбітае шкло вонкі.

“Нармальна, загарэлася...” — ацаніў сваю работу Генадзь і, прыгнуўшыся, амаль подбегам, заспяшаўся ў сад, углыб, далей і далей. Бег і бачыў, як перад ім скачуць па лісці дрэў агняныя “зайчыкі”. Не ўтрымаўся, азірнуўся — полымя шугала ў будынку, выбівалася праз акно доўгімі чырвонымі языкамі.

Дождж узмацніўся. Дрыжачымі рукамі завёў машыну, паехаў асцярожна, панічна азіраючыся, молячыся аб адным, каб нікога не сустрэць.

Выехаў на трасу і газануў так, як ніколі раней не ездзіў, хоць дарога была небяспечная: мокрая, слізкая. Затое пустэльная.

Вяртаўся ў пустую кватэру — яшчэ ўдзень ён загадаў Людміле, каб яе тут не было гэтай ночы. Пабачыўшы перакрыўлены сапраўдным болем тварык, усміхнуўся: “Не бойся, баб я сюды вадзіць не буду... Трэба так”.

Скінуў адзенне, памыўся. Доўга не мог заснуць.

Калі назаўтра, бліжэй да палудня, яго разбудзіла званком Людміла (так ён загадаў), усё ўчорашняе падалося прыгодніцкім сном. Увамкнуў кампутар... І няўмольна пацягнула знайсці ў сеціве хоць нешта з учорашніх падзей. Не можа быць, каб два пажары ў адной вёсцы засталіся без увагі сённяшніх сайтаў навін.

Знайшоў. Пачаў чытаць, і жывот агідна сцягнула, сціснула грудзі, што не дыхнуць: “...Маланка стала прычынай загарання старой школы. Не змог выйсці з будынка мясцовы жыхар, 75-гадовы пенсіянер, былы дырэктар школы А. Т. Апошні час ён жыў там у пакойчыку як вартаўнік, бо ў школьным музеі знаходзіліся вельмі каштоўныя з гледзішча этнаграфіі і культуры рэчы. Дарэчы, А. Т. і стварыў музей, збіраючы экспанаты пяцьдзясят гадоў. Школу закрывалі, і му-

зей мусіў пераехаць у школу аграгарадка на наступны тыдзень”.

І амаль адразу ж заспяваў тэлефон. Нумар не вызначыўся, значыць — Алег Барысавіч.

Сустрэча была прызначана бліжэй да вечара. Генадзь ледзь стрымваў сябе. Людміла патрапіла “пад руку” — ён аблаяў яе бруднымі словамі, сказаў, каб не лезла ў вочы і ў душу. Тая сцялася, было чуваць, як плакала ў лазенцы. Генадзь паехаў на сустрэчу тралейбусам, бо ў полудзень ён не стрымаўся і крыху выпіў джыну з бара, што збірала Людміла.

Сустрэліся ў кавярні. Алег Барысавіч ужо чакаў, хоць Генадзь падышоў за пяць хвілін. На стале стаялі талеркі з закускамі, графінчык з гарэлкай.

— Там… Там быў чалавек. Вы мяне не папярэдзілі… — Генадзь казаў з крыўдай, ніяк не мог супакоіць свайго хвалявання.

— Выпі і закусі. І яшчэ раз выпі. Цяпер закуры і слухай, — спакойна адрэагаваў Алег Барысавіч. — Там быў не чалавек, а пенсіянер, — казаў ён не жорстка, але пераканаўча. — Стары слімак, які ледзь соўгаўся па зямлі. Ніхто не ведаў, што ён там застанецца начаваць. Хто ён табе? Ніхто. І ўсе табе ніхто. І мне ніхто. Вунь, бачыш за акном пайшла цётка. Вось зараз яна ўпадзе і памрэ — табе будзе яе шкада? От бачыш.

— Але ж тут…

— Ты стаўся прычынай яго смерці? Ты забіў? Няхай і так. Ты чытаў у навінах пра старога?

— Чытаў… Ён стварыў той музей, — адказаў Генадзь з сапраўднымі ноткамі сентыментальнасці — выпіты раней джын і цяпер дзве чаркі гарэлкі добра-такі сп’янілі яго.

— Ён з тых, каго мы выкарчоўваем. Ён — жрэц, чужы і нікому не патрэбны. Шкодны нам, — жорстка

адказаў Алег Барысавіч і дадаў: — Не думай пра яго, Генадзь.

Ён вельмі даўно не звяртаўся да Генадзя па імені. Вельмі даўно. І гэты факт амаль расчуліў таго (хоць былі тут прычынай і выпітае, і хваляванне).

— А вось скажыце… Там яшчэ пажар здарыўся, сенасховішча загарэлася — ці выпадкова?

Алег Барысавіч скрывіўся, як ад кіслага.

— Генадзь, годзе быць маленькім хлопчыкам. Я ж казаў табе: нічога не бывае выпадковага там, дзе мы. Я казаў табе, што колькі ты будзеш працаваць, столькі цябе будуць правяраць.

— І цяпер правяралі? Але як? Навошта?

— Правяралі, — нібыта са скрухай цярпліва адказаў Алег Барысавіч. — Бо я не хацеў бы пабачыць, што ля школы стаіць нейкі бомж, які за літроўку выконвае за цябе адказную работу.

— І… што вы пабачылі? — страх праслізнуў Генадзю ў жывот, як і раніцай, падняўся да грудзей.

— Пабачыў тое, што мяне здаволіла: невялічкі відэафільм, які цалкам пацвярджае тваю шчырасць у справе і тое, што я не памыліўся, і мне не трэба адказваць за цябе… так, Генадзь, мяне таксама правяраюць. І з мяне таксама пытаюць. Некалі ты станеш на маё месца, ты пабачыш, колькі дадзена табе ўлады і за колькі ты адказваеш. Такі наш кон…

Вэрхал думак круціўся ў Генадзевай галаве. Яго цяпер ужо не проста купілі. Недзе асобна ад ягонай галавы, воблакам над ёй, вілася думка пра тое, што Генадзю няма дарогі назад. Што ў кожны патрэбны момант тое відэа можа патрапіць… Куды трэба, туды і патрапіць. І ўсё пойдзе марна.

— На кручок мяне злавілі, — праз сілу ўсміхнуўся ён, разумеючы, што нельга казаць такія словы, нель-

га проста ў твар вінаваціць такога чалавека. Гэта гарэлка надала смеласці і безразважнасці.

— Мы ніколі не здаем сваіх. Пакуль яны з намі.

Генадзь пільна зірнуў ў твар свайму "шэфу" і пабачыў... стому ў вачох. Выпіў чарговы наліты шкалік, пацягнуў да сябе і засунуў у капэрту з грашыма, расчулена-п'яна і, як яму здавалася, пранікнёна сказаў:

— Я цяпер з вамі... назаўсёды.

— Тады сустрэнемся заўтра.

Алег Барысавіч зрабіў ледзь улоўны жэст рукой, і Генадзь зразумеў, што яму трэба ісці.

Назаўтра ён прыехаў на дамоўленае месца, сцяты страхам: думаў, што ягоныя ўчорашнія паводзіны не спадабаліся ягонаму "шэфу". Ён меўся адразу павініцца, але Алег Барысавіч пачаў гутарку сам, справавіта, як і не было ўчорашняй размовы.

— Работа, якую ты зараз атрымаеш, не мае пэўнага часу выканання. Але і зацягваць нельга. Імя — Ганна. Прозвішча — Мікуліч. Выпускніца медвучэльні. Працуе акушэркай у медпункце. Вось вёска... Яна трохі старэйшая за цябе, але з выгляду амаль роўня. Табе трэба зблізіцца з ёй. Так, каб яна табе давярала. Не спяшайся. Простым заляцаннем яе не абдурыш: яна не з тых. Галоўнае запомні цвёрда: пры сустрэчы з ёй на табе ні ў якім разе не павінна быць твайго амулета. Ні ў якім разе.

— А... хто яна? — усхвалявана глытнуў сліну Генадзь — ён ніяк не чакаў атрымаць падобнага задання. Гэта і хвалявала, і надавала прыемнай упэўненасці на далёкую перспектыву: яму ніколі не будзе сумна, ён будзе заняты самым розным і цікавым. А жанчына, маладая... Хіба ж так складана: заваяваць яе ўвагу і сяброўства?

— Яна не простая жанчына, не разлічвай на хуткую справу, — нібыта падслухаў ягоныя думкі Алег Барысавіч. — Галоўнае: ты павінен выклікаць у яе максімальны давер. Знойдзеш яе ў сацыяльнай сетцы “Аднакласнікі”. Падумай добра, з чаго пачаць.

Генадзь згодліва кіўнуў, злавіў сябе на думцы, што Алег Барысавіч так і не адказаў: што за жанчына? Падумаў: перапытаць ці не? Ведаў, ”шэф” ніколі не забываўся на пытанне, перапытваць — лічы праявіць нахабства. Але чамусьці цяпер Генадзь здумаў, што мае права ведаць: ён не нейкі там бомж, які за пляшку “чарніла” падпальвае стары дом. Ён — у камандзе.

— Дык хто ж яна такая? — спытаў нібыта абыякава, замёр.

Алег Барысавіч пільна зірнуў на Генадзя. Усміхнуўся вачыма. Адказаў:

— Яна — асаблівая. У яе ёсць тая рэч, якая нам патрэбная. Проста так забраць рэч мы не зможам. Мы не ведаем, дзе яна. Гэта ты і даведаешся. Пазней патлумачу далейшыя дзеянні. Калі не выйдзе — будзе іншы варыянт… Яшчэ ёсць пытанні?

— Не, няма…

— Выдатна. За месяц я хачу бачыць цябе добрым знаёмым Ганны Мікуліч, чалавекам, якому яна давярае. І запомні вось што: калі яна даведаецца, хто ты ёсць, то пры выпадку… яна заб’е цябе без усякага жалю. Калі яна пабачыць твой абярэг.

Генадзь уздрыгнуў.

— Я… зраблю.

— Добра, пачынай… Пазней мы пагутарым яшчэ не раз пра яе. Ты шмат пра што даведаешся. Абяцаю: будзе цікава. Але, вельмі сур’ёна. Так, што адзін не дасі рады. За маёй спінай, за два столікі ад нас ся-

дзяць двое хлопцаў, трохі старэйшыя за цябе. Гэта твае памочнікі. Пазнаёміцеся пазней.

Генадзь ніяк не чакаў такога павароту, разгублена зірнуў за спіну Алега Барысавіча. Там сапраўды сядзела двое маладых мужчын. Адзін быў нейкі невыразны, які б першым згубіўся ў натоўпе, бо нішто, ні ў паставе, ні ў твары, ні ў адзенні, не вылучала яго. Другі быў хударлявы, невысокага росту. Падносіў бакал піва да рота, і Генадзь скрывіўся: сярэдні палец рукі — карацейшы за ўказальны, з нейкай сіня-чорнай плямай на канцы. Генадзя заўсёды брыдзіла ад калецтва. Хлопец, мабыць адчуўшы позірк, ўзняў на Генадзя твар. Ягоныя вочы былі крыху пукатыя, чырвоныя, быццам ён толькі што моцна плакаў.

— Ды ён жа... наркот, — разгубіўся ад сваёй здагадкі Генадзь.

— Нам трэба розныя людзі, — халодна спыніў яго Алег Барысавіч. — Ад яго ёсць карысць, і яшчэ будзе... Цяпер слухай уважліва, — у голасе загучалі сапраўдныя сталёвыя ноткі. — Час тваёй праверкі для прыняцця цябе фактычна скончыўся. Ты ад сёння — у нас. І гэта, апрача іншага, значыць, што як мы працуем на цябе, так ты працуеш на нас. Заданне, якое ты атрымаў, не аплочваецца. Бо яно сярод нашых жыццёвых інтарэсаў. Нашых супольных. Маю пэўнасць, ты разумееш, што грошы, якія мы плацілі табе раней, зусім не аплата тых артыкулаў. Так, яны каштуюць, але каштуюць у разы меней. Слухай, не перабівай. У цябе будуць яшчэ заказы на артыкулы, але кірунак будзе зменены. І цэны будуць рэальнымі...

— Вы куплялі мяне? — не ўтрымаўся, з крыўдай у голасе выдыхнуў Генадзь.

— Мы правяралі цябе, — свідруючы яго вачыма, адказаў Алег Барысавіч, а пагляд ягоных вачэй загадваў сядзець, не рухацца, не пярэчыць. — Ты не дзіця.

І раптам усміхнуўся амаль ветла, як старэйшы малодшаму, падбадзёрваючы:

— Ты застаешся з намі — і ў цябе ўсё будзе добра. Вельмі добра.

Развіталіся.

Прыкрасці ў Генадзевай душы не было. Можа таму, што Генадзь за гэты час зразумеў: Алег Барысавіч — гэта невядомая, жорсткая сістэма, якая мае ўладу і моц. Такую ўладу і такую моц, што можа чыніць суд над жыццямі людзей. І каб быць унутры яе, трэба нечым ахвяраваць. Генадзь цяпер мусіць падпарадкоўвацца? Гэта з якога боку паглядзець. Ён не падпарадкоўваецца, ён працуе ў сістэме, ён цяпер — яе паўнаварты сябра. І яшчэ яму сказалі, што ён будзе некалі на больш высокім месцы...

Падпал школы і смерць старога настаўніка ўвачавідкі дзялілі Генадзева жыццё на «да» і «потым». Ён не проста разумеў, што назад яму дарогі няма, а адчуваў змены ў самым сабе, у сваім стаўленні да людзей. Яму адкрылася неверагоднае: забраць у чалавека жыццё можна, і можна пасля гэтага жыць так, быццам нічога не адбылося. Вось ён спрычыніўся да чужой смерці — і з ім нічога не адбылося. І не адбудзецца. Пакуль ён у сістэме, у коле, якое яго прыняло...

Адамкнуў дзверы сваім ключом і здзівіўся: гучна працаваў тэлевізар, а Людміла не з’явілася ў вітальні, як заўсёды, не зазірнула запытальна-аддана ў вочы.

Скінуў чаравікі, зазірнуў у вялікі пакой і замёр ад убачанага: Людміла сядзела на канапе, склаўшы рукі на жываце, і глядзела на экран. Яна нават не павярнула да яго галавы!

Ён маўчаў, уражаны, не знаходзячы тлумачэння яе паводзінам. Хваля злосці стала імкліва ўздымацца ў ім, запаўняючы першыя імгненні разгубленасці.

Можа, Людміла адчула яго стан, павярнула галаву, але на яе твары Генадзь не пабачыў ні ценю страху, ні пакоры.

— Есці хочаш? — спытала Людміла.

Што праўда, у голасе была заклапочанасць і ўвага, але Генадзя яе пытанне, яе смелы, так — смелы — позірк амаль зняміл.

— Я плоў зрабіла, разагравай у мікрахвалёўцы, — дакончыла Людміла і адвярнулася ад Генадзя.

— Ты... ты забылася, хто тут гаспадар? — Выціснуў з сябе Генадзь, стрымваючыся, каб адразу не сарвацца на крык (потым, потым ён крыкне гучна: «Вымятайся!», перш трэба ціха...)

— У мяне цяпер другі гаспадар, — з загадкавай усмешкай павярнулася да яго Людміла і выразна пагладзіла свой жывот. — Вось тут мой цяперашні гаспадар...

— Ты... ты заляцела? — выдыхнуў Генадзь, яшчэ не да канца ўсведамляючы існасць Людмілiных слоў.

— Мы заляцелі, — мякка папраўіла яна і, не даючы часу на адказ, на абдумванне, дадала адначасна з лёгкай таямнічасцю і радасцю: — Дзядзька Алег сказаў, каб мы з табой нараджалі шмат дзяцей...

— Які... дзядзька? — толькі і змог выдавіць з сябе Генадзь, прачуваючы перад сабой страшэнную прорву, няўхільнасць нечага страшнага, што вось-вось абрынецца на яго.

— Дзядзька Алег Барысавіч. Ён сказаў, што ведае цябе...

Генадзю здалося, што ён пахіснуўся, таму спешна павярнуўся, каб яна не пабачыла яго стану. Пайшоў на кухню, крутнуў кран і стаў чакаць, пакуль сцячэ вада, каб набраць у кубак халоднай. Хоць ведаў, што ў лядоўні ёсць ахалоджаная мінералка...

# ЧАСТКА 6

## 1

Сястра патэлефанавала не ў лепшы момант — Лобач якраз сфармуляваў у галаве апошні абзац для артыкула, цяпер хутка запісваў, асцярожна трымаючы думкі, не акцэнтуючы асаблівай увагі ні на адной асобна, каб не засціла іншыя і кожная з іх мела свой шанец быць заўважанай, легчы радкамі літар на маніторы. Таму не адказваў, і Надзея не стала настойваць, адлучылася сама. Ведала: калі Алеся патурбаваць не ў той час, пачне псіхаваць.

Лобач запісаў апошні сказ, смачна паставіў кропку, перачытаў — канец удаўся. Узяў мабільны і патэлефанаваў сястры.

— Мабыць, я зноў не ў час, — выбачалася Надзея. — Ты ўдома? Заеду, трэба перагаварыць…

— Што, замуж выходзіш?

— Ага, во тут знайшла аднаго за каменем, дык яго і вязу, — без усмешкі адказала Надзея. — Дык як — будзе час ці заняты?

— Не, не заняты, хацеў гатаваць вячэру, дык ты акурат і згатуеш.

— Добра, заеду ў краму… Што набыць?

— Усё ёсць, чакаю…

За паўгадзіны Надзея прыехала — нейкая трохі засмучаная, задуманая. Маючы амаль сорак, яна вы-

глядала нашмат маладзей: чысты круглявы твар, невысокага росту — у маці пайшла, зграбная постаць. Адным словам, прывабная: Алесь ведаў пра яе дабрыню і гатовасць да ахвяравання сваім асабістым дзеля нечага чужога. Ён ніколі не ўлазіў у прыватнае сестрыно жыццё, аднак ведаў, што Надзея не мае мужчыны. Як развялася пасля трох гадоў замуства з трэнерам-наркаманам, так болей ні з кім і не сходзілася, нават на кароткі час. Наўрад ці хавала б яна ад брата якія стасункі, калі б яны былі — яна даўно не ўспрымала Алеся як малодшага, наадварот, шмат у чым раілася з ім. Тым больш, што ўсякае жытло рана ці позна патрабуе мужчынскіх рук. У Надзеінай кватэры, якая ёй засталася як спадчына ад яе няўдалага сямейнага жыцця, і дзякуй, што хоць такая. А якіх дзяцей мог пакінуць ёй мужчына, што апошні год літаральна “сядзеў на голцы”! Алесь сам рабіў вялікі рамонт пасля смерці Надзеінага мужа. Часам сястра клікала памагчы ў дробязях.

Надзея не тужыла з самога факту мужавай смерці — ён для яе памёр раней, у тыя дні, калі перад ёй разгарнулася сапраўды бездань — бездань таго жыцця, у якім жыў яе Слава і якое старанна хаваў. Яна апантана кінулася была яго ратаваць — і ўмомант адляцела назад, усё адно як кінуўшыся абдымаць сустрэчную электрычку. У тыя дні на яе скронях з’явіліся першыя сівыя валасы. Муж, калі ўсё высветлілася, стаў прыводзіць да сябе сябрукоў. Яна супраціўлялася як магла той навале, што лезла ў яе хату, але аднаго дня Слава, у галаве і цягліцах якога яшчэ не зусім атрафавалася памяць пра самба, кінуў яе, як вялікую ляльку на падлогу, а потым скруціў і выпхнуў за дзверы. Яна не плакала, апынуўшыся ў Алесявай кватэры, усё расказала — і як скамяне-

ла: “Я яго пахавала. Славы больш няма. Тая істота — не мой муж”. І як вынесла прысуд — праз паўгода Слава ўцячэ з вар’ятні, уколе проста за плотам (яго будуць чакаць там) нейкую мярзоту ў вену і адыдзе назаўсёды ў свет мрояў, без якіх не мог жыць на волі.

Алесь ніколі не ўпікаў сястру. Некалі разам з маці ён адгаворваў Надзею ад замуства са Славай — той не спадабаўся ні маці, ні Алесю. Бацька маўчаў — не хацеў ніяк утыкацца, ні па добраму, на па злому. Але… было запозна. Потым Надзея прызнаецца маці: яна пасварылася са сваім мужчынам, ён з’ехаў некуды ў Расію, і Слава, як кажуць, падвярнуўся пад руку: уважлівы, упэўнены ў сабе, толькі што вярнуўся аднекуль з Еўропы, куды вазіў дзяцей на спаборніцтвы. Тры месяцы сустрэч: перш ад болю расстання з былым, потым — звыклася, а далей ёй здалося, што яна калі і не кахае, дык усё адно бачыць сябе з цяперашнім мужчынам шчаслівай. Справілі невялічкае вяселле, вечарыну, Надзея нават не ў белай сукенцы была, і вэлюм нявесты, зразумела, не адзявала. Яна была цяжарная, але (калі глядзець наперад), Бог злітаваўся: яна выкінула на трэцім месяцы. А ў астатнім першы год Надзеінага сямейнага жыцця быў амаль шчаслівым: Слава атрымаў урэшце кватэру, маці дапамагла Надзеі з мэбляй. Адзінае, што замінала Надзеі бачыць сваю сям’ю зусім удалай (апрача нястачы дзяцей), — частыя накіраванні Славы за межы краіны. Ён тлумачыў, што змяніў работу, працуе кансультантам. Потым яна даведаецца, што за накіраванні гэта былі і за якую мяжу: на другі год сямейнага існавання ў мужа сфармавалася другое, патаемнае жыццё, дзе баль правілі сябры, дарагі алкаголь, танныя жанчыны і, галоўнае, наркотыкі. І якое ён хаваў ад жонкі як мог: ілгаў, выкручваўся, адмоўч-

ваўся, скандаліў. У адзін дзень ёй стане зразумела, што муж ужо два гады як нідзе не працуе, а тая нібыта зарплата — рэшткі грошай, якія доўгія гады адкладвала ягоная маці і потым аддала свайму сыну як падарунак на вяселле. Гэтыя грошы Слава схаваў ад жонкі, на іх і мацавалася другое ягонае жыццё. Калі б яшчэ не Надзеіна праца ў школе настаўніцай, якая забірала яе час ад раніцы да вечара, можа, і не так склалася б, можа, яна заўважыла б раней, змагла б уратаваць…

Пасля пахавання мужа і рамонту кватэры, дзе Надзея змяніла ўсё — падлогу, столь, сцены, мэблю — яна сказала Алесю: “Усё. Як адрэзала кавалак жыцця. І ты не ўспамінай. Яго не было: ні Славы, ні трох гадоў замуства…”

Надзея скінула туфлі ў вітальні, прысела, выцягнула стомлена ногі, памацала-пагладзіла свае лыткі:

— Што, бедненькія, за дурной галавой натаміліся?..

— І куды яны цябе насілі? — пацікавіўся Алесь.

— Ат, сяброўка прыехала з правінцыі, разам некалі сканчвалі, у Кантакце знайшла. Тое пакажы, гэтае пакажы. Потым у сад камянёў зацягнула… Ну што, суп гатаваць? — прайшла на кухню, начапіла фартушок.

— Не, лепей наша фірмовае: паўкурыцы на дваіх, я там набыў, як ведаў.

— Ну, добра, я бульбу абіраю, ты разрэж яе пакуль што…

— І чаго ж ты такая сумная? Стаміла сяброўка? — стаў пытацца Лобач, разразаючы тушку курыцы.

— Дзе там… сяброўка не стаміла. Здаецца, усё было добра: і паўспаміналі, і пасядзелі, кавы папілі, нават віна пакаштавалі… А потым пайшлі ў сад камянёў. Вось колькі ён у нас — а я там была толькі два разы.

Ну, пайшлі, — казала Надзея, абразаючы бульбу. — І от ведаеш, ходзім мы там — і настрой, ну проста з кожным крокам — мяняецца. Нібыта нехта выцягвае з нас весялосць і бестурботнасць. Гаварыць пачалі на паўголаса. І во цяпер яшчэ нешта не адпускае, як не ў садзе пабыла, а…

— А на могілках, — упэўнена кончыў Алесь. — А што ж ты хацела: гэтакзваны сад і праўда — могілкі. Бо камяні жылі там, адкуль іх забралі. Некалі ляжаў вось такі валун ля вёскі — яго ведалі, у яго было сваё імя, да яго нехта звяртаўся, з ім загаворвалі. Яго выдралі адтуль і прывезлі сюды. Гэта як людзі: кожны паасобку ў сваёй хаце — жывы і розны. А на могілках усе падобныя, бо ўсе мёртвыя. І таму гаварыць не будзеш гучна, таму выцягвае з цябе весялосць: бо клодаўе.

— Але ж навошта?

— Што навошта? — Алесь адклаў нож убок, памыў і выцер рукі, прысеў за стол і закурыў. — Сабралі камяні навошта? Ну, некаму вось даспадобы прыйшлася такая ідэя — сад валуноў краіны. Дзіўлюся, як яшчэ тыя не пасцягвалі, якія лічацца помнікамі геалагічнымі. Мабыць, не адшукалі патрэбнай тэхнікі, а то б звезлі… Кітайцаў сёння здзіўляць ці венесуэльцаў: у нас ёсць сад камянёў!

Надзея заўважыла Алесяву раздражнёнасць, але паспрабавала прадоўжыць тэму, скіраваўшы яе ў іншы бок:

— І што такога значнага ёсць у тых камянёх, дзіўна. Але ж нечым прываблівюць…

Алесь адгукнуўся адразу ж:

— Ну, па-першае, для краіны, дзе няма гораў, вялікі камень — дзіва. Моц, якую нішто не можа зруйнаваць, зрушыць з месца. Таму перадусім гэта можна

было лічыць нейкай адзнакай мясцовасці, я думаю. Усё мяняецца: дрэва ўпадзе, рака зменіць рэчышча, а камень будзе ляжаць. Таму яны і набылі значнасць. Ад часоў паганства камяні маюць сваю, выбітную ролю. Нават хрысціянства, колькі ні змагалася з шанаваннем камянёў, мусіла змірыцца. Альбо пайсці на хітрасць: у камянях-следавіках сталі знаходзіць след ці то Міколы, ці то Маці Божай. Шмат на якіх выбівалі крыжы. А іншыя называлі Чортавымі — каб хоць неяк ды адвучыць людзей ад ушаноўвання іх. Сотні пакаленняў жылі побач з камянямі, у кожнага — свая легенда. Дык нашая сённяшняя павага да камянёў — на роўні геннай памяці.

— Як проста расклаў, — Надзея незадаволена хмыкнула. — Дык тады — хай будуць могілкі? Падумаеш, нейкая генная памяць ад дзікунскіх часоў…

— Ты не так зразумела, — спакойна адрэагаваў Алесь. — Так, генная памяць. Але хто мы без яе? Што вёска без сваёй легенды, якой і быў, адвеку лежачы за ваколіцай, валун? Валуны — частка культуры, і сцягваць іх у адну крушню — як пазбіраць, прыкладам, абразы ад ўсіх вернікаў і знесці ў нейкі музей. У музеі рэчы страчваюць сваю сакральнасць, яна там, дзе чалавек можа стыкацца з прадметам праз дзеянне, абрад: ці то абраз, ці то камень. Так што сад камянёў насамрэч — гэта могілкі сакральнасці, гэта могілкі часткі культуры многіх паселішчаў. Вось што гэта такое! — Алесь не заўважыў, як усхваляваўся і сканчваў, усё адно як Надзея была супраць таго, што ён гаворыць, хацеў не проста пераканаць, а паставіць кропку ў даўнай спрэчцы.

— Ціха-ціха, Алесік, — з усмешкай спыніла яго Надзея. — Ты не на кафедры, мне нічога не трэба даводзіць. Але вось скажы, — яна пільна зірнула ў вочы

брату: — Чаму гэта было зроблена, і супраць ніхто слова не сказаў? Не, чаму менавіта ты! Не выступіў хоць сёння з артыкулам у якой газеце, чаму не ўзняў гоману, чаму не абараніў тыя вёскі? Сёння чаму не выступаеш?

— Таму! У іх забіралі іх камяні — дык няхай бы баранілі! А калі ім не трэба — навошта мне? — разнерваваўся Алесь.

— А, вось як? — ужо з'едліва адказала Надзея. — Значыццца, імпэту стае мне на кухні даводзіць? Як і ўсё іншае, так?

— Кожны павінен займацца сваёй справай! — палічыў за разумнае адступіцца Алесь, сцішыў голас. — І не забывайся, колькі мне тады было гадоў.

— О, так — мужчыны заўсёды займаюцца сваімі справамі: адзін піша навуковыя дысертацыі, другі стварае магілкі камянёў. А бараніць камяні — няма каму, — не стала трываць Надзея.

— Ёсць каму і бараніць — самыя людзі! Гэта іхная гісторыя!

— Ты зараз з такой… з такой амаль грэблівасцю сказаў "людзі"… быццам там нейкія чужыя людзі, а не тыя, сярод якіх расла і наша мама, — з горыччу заўважыла Надзея.

— Ты мяне ведаеш! І ведаеш маё меркаванне: нельга абараніць чалавека, калі ён сам не хоча быць абароненым! Нельга! Што ім да камянёў і гісторыі іх вёсак? Што сёння тая вёска? Хаты без сувязяў. Уся сувязь — толькі ў краме ды на "Дажынках". Я магу сто артыкулаў напісаць, але ж хто іх чытае? Яны чытаюць пра свае надоі, пра падвышэнне пенсіяў і зарплат, і ўсё для іх добра! Ім — добра!

— Уй, разышоўся, — зазлавала і Надзея. — А не ты казаў, што народ, якім бы ён ні быў, не можа сам абі-

раць сабе культурныя прыярытэты ці то праз галасавання, ці то яшчэ як? Ты! Ты казаў, што ўсякую духоўную каштоўнасць народ прадасць двойчы на год запар, калі паўстае пытанне фізічнага выжывання і калі продаж адбываецца не кожным асабіста, а ўсімі адразу, калі віна ці ўдзел кожнага ўпаасобку рассычаецца ў масе? Дык хто, па-твойму, можа ўтрымаць няшчаснага мужыка, якому паабяцалі палку каўбасы і пляшку гарэлкі, адно каб памог валун ускаціць?

— Я нічога пісаць не буду. Я раблю сваю справу, — зусім ціха сказаў Лобач. — Я збіраю тое, што магу. А ты мяне зрабіла вінаватым у тым, што на рэферэндуме людзі адракліся ад гістарычнага герба, сцяга, ад мовы…

— Бо з інтэлігенцыі, з навукоўцаў будуць пытаць нашчадкі. А не з простых людзей, — ціха дакончыла і Надзея. — І ўсё адно баліць… Могілкі валуноў краіны…

— Ніхто не ведаў дакладна да апошняга, як там будзе і што. Калі афіцыйна абвясцілі, запозна было выступаць у друку — ужо механізм быў запушчаны, супраць нічога не скажаш. Якія гэта былі гады? Хто мог выступіць супраць партыі? Як і каму было даводзіць, што найстарэйшы і найвядомейшы ў сталіцы валун "Дзед" нельга прыбіраць са старога капішча, што само капішча трэба захаваць як адзін з цэнтраў тутэйшай сакральнасці? І потым… не хацелася казаць, бо сам не веру ў тое, што тое існавала ў планах уладаў, так усё вычварна, так падобна на існаванне сапраўднай змовы супраць усяго сакральнага. Мой… знаёмы адзін, цяпер на пенсіі, казаў, што стварэнне музея валуноў насамрэч іх ратаванне. Так, хоць на могілках, але ратаванне. Навукоўцамі быў прыдуманы такі план — музей валуноў, а каб ён прыйшоўся

даспадобы кіраўніцтву, гэты музей зрабілі вось такім: уся краіна з яе рэльефам… І быў уратаваны ад знішчэння “Дзед”, яшчэ многія значныя валуны, да якіх сапраўды падбіраліся. Давялося і іншыя валуны забіраць ад вёсак… — палічыў, што трэба расказаць, Лобач. — А ў наш час… Нядаўна быў падрыхтаваны артыкул, у навуковы часопіс. Там не крытыкавалася нават, там проста выносіліся свае меркаванні (на што навуковец мае права) на стварэнне вось такіх музеяў валуноў, бо ў розных месцах ёсць спробы парабіць такія самыя, мястэчковыя. Артыкул вярнулі на дапрацоўку, аўтара выклікалі і мякка папярэдзілі, каб не лез у палітыку. Калі ён здзіўлена заўважыў, што камяні — не палітыка, яму адказалі: усё, да чаго дакрануўся прэзідэнт, робіцца палітыкай… Добра, з камянямі разабраліся. Давай пра справу…

— Ага, пра справу… Духоўку запалі…

Надзея прысела пры стале, паглядзела ўважліва на брата.

— Жаніцца не збіраешся?

— Не, пакуль што няма падобных да цябе.

— Як з грашыма? Ты зусім абнасіўся. На выходныя сходзім, нагледзім што табе. Увесь гардэроб мяняць трэба. Адны чаравікі на ўсе святы!

— Ды… здаецца і добра, — нясмела запярэчыў Алесь.

Ён заўсёды згаджаўся з сястрой, калі справа датычыла гаспадарчых момантаў — можа, сам так і не змог навучыцца, можа ў нейкі момант падумаў, што можна такі абавязак — сачыць за сабой, што да адзення — перакласці на яе. Мыў і прасаваў сабе ўсё сам, а вось набывала рэчы Надзея. Проста прыходзіла ў нейкі дзень з новымі сарочкамі, нагавіцамі, бялізнай —

і Алесь не спрачаўся. У яе быў добры густ, яна ўмела выбраць гарнітур, сарочку, гальштук.

— Ага, бачу я тую дабрату.

Надзея ўставіла бляху з бульбай і кускамі курыцы ў духоўку, павярнулася да Алеся.

— Гэта і ёсць справа? — нагадаў Алесь?

— І тое таксама, — кіўнула Надзея. — У адпачынак хачу, нармальны, з'ездзіць. І табе варта. Годзе ўжо тут сядзець, на рыбу і там набегаешся. Машыну табе мяняць трэба, штомесяца рамантуеш, грошай ідзе колькі.

— О, дык ты прынесла мне нешта зарабіць? — усміхнуўся Алесь. — Ці, можа, ты надумала рыхтаваць абітурыентаў у матэматыцы для паступлення?

— Сам ведаеш, колькі рэпетытарства можа даць з маім да яго стаўленнем, — адмахнулася Надзея. — Слухай… ты жаніцца не збіраешся, я тут у цябе двойчы на тыдзень бываю. У цябе тры пакоі…

— Дагаворвай, чаго замаўчала, — заўсміхаўся Алесь. — Разам жыць, а тваю двухпакаёўку здаваць?

— А маю здаваць, — пацвердзіла Надзея. — Амаль цэнтр, можна больш за 200 у. а. у месяц браць. У меншы пакой зачыню сваё дабро, большы здаём.

— Добры варыянт… А колькі мне з цябе за пакой браць?

— Не болей, чым я з цябе буду браць як хатняя работніца. Гарантую полудні… раз на два дні, вячэры — больш-менш рэгулярна. Памыю, адпрасую.

— Ага, а на кафедры зірнуць на табой адпрасаваную кашулю, умомант скажуць, што Лобач зноў нейкую прывёў.

— Хай кажуць, абы не ведалі праўды, каб не звінаваціць у інцэсце.

— Даведаюцца… Здаецца, што ў горадзе людзей шмат і можна нешта схаваць, — усміхнуўся Лобач нейкім сваім думкам. — Калі збіраешся?

— Ды хоць заўтра, — адказала Надзея. — А чаго адкладаць?

— Добра… Тады, пакуль тут будзе курыца гатавацца, хадзем, глянем: што выкінуць, што паставіць табе…

— Хадзем…

Наступныя два дні Надзея цалкам прысвяціла свайму пераезду да брата. Увечары трэцяга дня яны разам сядзелі на кухні, пілі гарбату — было нешта сумна абаім.

— Як некалі… Помніш, колькі мы тут з табой вячэралі разам? І як мама гатавала, — выказаў уголас свае думкі Алесь.

— Помню… Да бацькі калі паедзем?

— На выходныя…

Па смерці маці іх бацька, былы журналіст, раптам, за лічаныя дні, зблажэў: ледзь хадзіў па кватэры, кратаў рукой рэчы — і так цэлы дзень. Глядзець было невыносна. Потым злёг. Пасля бальніцы — інсульт — Надзея карміла яго з лыжачкі, даглядала, умомант адшукаўшы ў сваёй душы здольнасць адрынуць роднае і прыдбаць прафесійнае сястрынскае. Праз месяц бацька падняўся, але тое, якім ён падняўся, было страшным для дачкі і сына — бацька не пазнаваў іх, не пазнаваў сябе. Яны пакідалі яго ўдома, не ведаючы, што іх будзе чакаць па вяртанні. Аднаго разу Алесь прыспеў бацьку з нажом у руках — той разадраў на дробныя шматкі ўсю бялізну на сваім ложку, здзіравіў матрац… Потым здарыўся прыступ агрэсіі, і грузная фельчарка з сумнымі вачыма закурыла ў іх на кухні і прапанавала, як старым знаёмым, блізкім:

“Не дагледзіце вы за бацькам. Ды… бацька ён вам чыста фізічна. Пакуль ёсць мажлівасць, афармляйце куды трэба”.

Надзея адмовілася наадрэз. Аформіла дапамогу, сама навучылася калоць упырскі, магла пры нагодзе і прыціснуць ужо слабое цела старога, прывязаць рукі, калі ў час не заўважала і не паспявала ўпырскам патушыць пачатак бацькавага агрэсіўнага стану. Па вечарох з бацькам заставаўся Алесь, а Надзея бегла да сваіх вучаніц — яна знайшла падпрацоўку рэпетытарствам. І так цэлыя месяцы, невыносна доўгія, цяжкія, прапахлыя лекамі, бруднай бялізнай, тугой і маўчаннем. У тыя дні ў кватэры больш гаварыў тэлевізар — бацька іншым разам надоўга сціхаў перад каляровым экранам, мог гадзінамі глядзець і слухаць.

У Алеся тады быў апошні курс. І рыхтык пачвара нейкая пасялілася ў бацьку: як толькі ён бачыў Алеся, пачынаў крычаць, нешта невыразнае, бясконцае. Надзея здалася, і праз паўтары месяцы бацьку завезлі ў дыспансер.

Колькі гадоў мінула, а бацька жыве. Ён не пазнае нікога, не ведае нічога з мінулага, і, можа, якраз страчаная памяць дала моцы састарэламу целу. Доктар дыспансера сказаў катэгарычна: памяць у такіх выпадках практычна не вяртаецца. Але раз на месяц Алесь і Надзея ехалі да бацькі: ссохлы стары заставаўся ім родным, і жыло ў дзецях спадзяванне, што за якую гадзіну да смерці бацька ўспомніць…

## 2

Аўтобус быў хоць і новы, але трэсла ў ім адчувальна — надта ж мулкія былі сядзенні. Праўда, гэта зусім не раздражняла Уладзіміра — той настрой, з якім ён вярнуўся на прыпынак ад Уладзі, запоўніў яго спрэс цёплай хваляй упэўненасці: усё будзе добра. І ўжо цяпер пачало рабіцца добра: Уладзімір адчуў, што ён асабіста некаму патрэбны, і не проста некаму, а паважнаму і сталаму чалавеку, Уладзю.

І хоць Уладзімір не разумеў дарэшты, што, як і чаму, ён і не хацеў разумець. Было важна ўсведамляць, засяроджвацца на думцы: ён патрэбен.

Там, каля каменя, калі Уладзя сказаў, што ён даўно чакае яго, Уладзімір для сябе пастанавіў: нічога не пытаць, няхай ідзе як ідзе, рана ці позна ён знойдзе ўсе адказы на ўсе пытанні. Абавязкова знойдзе. А ў той момант ён проста стаміўся шукаць.

І таму без ніякіх пытанняў пайшоў за маўклівым Уладзем у ягоную Карчаваху, вёску з дзесяці двароў, дзе хаты прыціскаліся да зямлі, абкружаныя магутнымі ліпамі і бярозамі. Уладзімір здзівіўся: у іхнай вёсцы ля хат мала хто садзіў такія дрэвы — больш яблыні, грушы. А што карысці з тых ліп ці бяроз? Соку — лес блізка, а ліпавага цвету нарваць дык і адной досыць…

Уладзяў дом выглядаў яшчэ моцным, надворак быў дагледжаны: трава пакошаная, нідзе нічога не вісіць, не боўтаецца. Пасярод двара — вялізная куча парэзаных дроў, побач калодка і сякера ў ёй. А пашчапаных не відаць, затое пры сцяне хлява, што стаяў супраць хаты, пашчапаныя дровы былі акуратна паскладваныя. “Шчапае і складае адразу. Парадак любіць…”

Уладзя вынес папіць — вялікі пластыкавы кубак бярозавіку, што брадзіў недзе ў яго каморы — халоднага, з вострым пахам хлеба.

Але сядаць не запрасіў, наадварот, кінуў: "Пачакай" і пайшоў. Прынёс тры нерассечаныя палены. Паставіў адно.

— Сядай так, асцярожна. Глыні і ўспамінай.

Уладзімір сеў. Адпіў глыток. Успомніў акно і страшны твар у ім. Успомніў ката. Малюнак Хрыста ў чырвона-чорным шуме. Ірыну, яе цела…

І раптам рвануўся з палена, не паспеў зрабіць і кроку ўбок, як яго званітавала.

— Нічога, нічога, — супакоіў яго Ўладзя. — Пі далей, успамінай… Сюды во сядай, — і прыставіў да Уладзіміра другое палена.

Уладзімір аддыхаўся, прысеў. Паленца было тонкім, сукаватым, сядзець было нязручна. Глынуў. Успомнілася раптам, як піў каву ў кавярні, зноў, хоць і не хацеў, а ўспомнілася Ірына, іх ноч, усплыў у памяці той момант, калі ён замест яе твару пабачыў страшэнную маску. Замёр, чакаючы прыступу ванітаў, але нічога не было.

— Успамінай, усё ўспамінай, ад самага пачатку, — ціха падказаў Уладзя.

Універсітэт… лекцыі… выкладнік з яго настойлівым упіканнем: "Навошта ты паступаў?" Першая сустрэча летам з гаспадыняй дома. Іх гутарка на кухні, як Уладзімір доўга расказваў пра сябе і свае планы застацца ў горадзе, знайсці працу. Дамова аб рэгістрацыі. Рэгістрацыя…

Уладзіміра зноў да болю ў жываце скруціў спазм, яго званітавала чарговы раз, а Уладзя трымаў у руках трэцяе палена. Уладзімір разумеў, што трэба рабіць — сеў і стаў успамінаць далей, а нічога болей і не ўзгад-

валася, не ішло ў галаву, адно той найстрашнейшы момант ягонага адчування “Папаўся!”, вочы рэгістраткі, як дзве чорныя глыбокія дзіркі на твары…

Уладзіміра ванітавала так, што, здавалася, сам страўнік вываручваўся вонкі.

— Пі! Яшчэ пі! — загадваў Уладзя, але калі Уладзімір рабіў глыток, усё вырывалася выбуховай патокай вон.

— Пі! Яшчэ пі, хлопец! — чуў Уладзімір голас старога і глытаў, глытаў рэзкі бярозавік, хоць розум штосілы супраціўляўся, бо Уладзіміраў страўнік рэагаваў на бярозавік балючым, аж да пацямнення ў вачох спазмам.

Ён не памятаў, колькі ён выпіў, колькі зрабіў глыткоў — упаў у знямозе ў траву, ледзь не ў свае ваніты.

Уладзя дапамог яму сесці на лаўку пры хаце, даў у рукі невялікі кубак з нечым халодным, халаднейшым за бярозавік.

— Пі, гэта вада простая, не бойся…

Потым Уладзімір сёк тыя тры палены, на якіх сядзеў — так сказаў Уладзя.

І толькі потым Уладзімір змог зняць запэцканую саколку, памыцца. Спаласнуў і саколку.

— Тут во павесь, яна праз гадзіну сухой будзе, — суцешыў яго Ўладзя. — Пашлі, дам табе чаго паесці.

У доме было два пакоі, як у большасці вясковых дамоў: пярэдні, які быў прахадным, і другі, вялікі. На покуце вялікага пакоя — абразы. Уладзімір яшчэ ад парога заўважыў у малюнку ручніка ўзор свастыкі і не мог утрымацца, каб не запытаць:

— А можна паглядзець на ручнікі?

Уладзя моўчкі кіўнуў.

Ручнікі былі старыя, гэта было знаць па шараватым ільняным палатне і па вышыўцы, нескладанай, простай, якая месцамі абтрапалася. Тры колеры: шэры, чорны і чырвоны. Цэнтральны малюнак тканы. Фігуры свастык розныя.

— Што цікавага пабачыў? — падышоў Уладзя.

— Ды вось… Гляджу: свастыкі ў розныя бакі закручаныя промнямі. А вось, вышытая — знак Грамавіцы, так? А гэта — Сварога.

— Чаму так? — хмыкнуў Уладзя.

— Ды я бачыў, там… карацей, складзеная цэлая бібліятэка, дзе свастыка ў залежнасці ад таго, у коле яна ці з нейкімі завіткамі, абазначае таго ці іншага бога. Толькі не разумею, чаму тут у адзін бок прамяні закручаныя, а тут — у другі. Няправільна…

— Няправільна, кажаш? Сварога? Эх, хлопча, тое ж баба ткала, разумееш? Ёй адно каб харашэй зрабіць, каб не так, як у іншых, каб на яе работу дзівіліся. Што ж за майстрыхі будуць, калі ў кожнай той самы ўзор будзе? А кола, ці свастыка, як ты кажаш, коціцца яно — вось што галоўнае. Куды промні баба закруціла — туды і коціцца.

— Дык… А Грамавіца як жа? Я вось… такую бачыў, там напісана было, што яе знак.

— Хадзем есці… Каб усе ручнікі сабраць, што некалі бабы ткалі, дык усіх тваіх сварогаў з грамавіцамі будзе замала. Глупства ўсё. Бабы некалі прыдумлялі, ткалі, а вы цяпер, як дзеці малыя, загадкі тут шукаеце.

Калі пад'елі халоднай смажанай рачной рыбы з хлебам, Уладзімір спытаў:

— Што мне далей рабіць?

— Жыць. Асцерагацца. Да мяне за колькі дзён прыедзеш, сам адчуеш. Яшчэ двойчы трэба… Глядзі

пільна. Пра мяне не кажы нікому, не трэба. Ты іх ужо чуеш, а яны цябе чуюць даўно і куды лепей.

— Хто — яны? Чаму мяне? Як я чую?

— Потым сам усё даведаешся. Нельга пакуль што нічога табе тлумачыць. Галоўнае ведай: ёсць цемра і ёсць святло. Цемра і ўнутры цябе ёсць. Выпусціць цемру вонкі нескладана, толькі дазволь. А святло каб упусціць — душу адкрыць трэба…

Уладзімір гатовы быў у тыя гадзіны паверыць ува ўсё, што б яму ні казалі. Бо яму стала спакойна. Утульна так на надворку ў старога, які стаў раптам блізкім.

— А калі я раней прыеду, тут жа блізка, ды дровы вам пашчапаю? І я не спытаў — колькі з мяне?

— От дровы пашчапаеш, і будзе разлік, — усміхнуўся ў белыя вусы Уладзя. — Прыязджай, адно каб не пазней…

Уладзімір яшчэ раз азірнуўся на ручнік, успомніў пра выкладніка і папрасіў:

— А можна мне мабільнікам сфатаграфаваць узор на ручніку? Там… ва ўніверсітэце адзін выкладнік ёсць… Ён… шануе дужа ўсё такое, збірае, цікавіцца. Навуковец ён.

— Ну, калі навукоўцу, дык сфатаграфуй…

Да таго часу, калі мусіў ісці аўтобус з аграгарадка, Уладзімір шчапаў дровы. Сухія хваёвыя палены, сукаватыя, няроўныя, шчапаць было няпроста. Але работа падабалася. Некалі яны з братам вось так працавалі, навыперадкі. А рэзаць не любілі. Шчапаць заўсёды цікава: адзін раз стукнуў — і маеш вынік працы. А пілаваць… Шморгаеш-шморгаеш тую пілу, рука аж заные, а лясіна ніяк не канчаецца, а іх вунь колькі ляжыць, як падумаеш — страшна робіцца. Іншая рэч шчапаць: лясь — і гатова.

Адыходзіў ад Карчавахі, ішоў уздоўж нечага жытнёвага лапіка, заўважыў валошкі і не ўтрымаўся, хутка падбег, сарваў колькі штук. Пакуль дайшоў да Чортавага каменя ў ляску, скруціў некалькімі сцяблінкамі іншыя, каб выйшла прыгожа. Сапраўдны букецік. Ішоў, усміхаўся сваім думкам. Паклаў кветкі на камень побач з тымі, што ўжо прывялі.

— Да пабачэння, камянюка! — сказаў вясёла ўголас і пайшоў лёгка, бестурботна.

За спінай хаваўся барвовы дыск сонца, апошняе яго святло наперадзе ад Уладзіміра лягло мяккім чырвоным ззяннем на знаёмую постаць, і прыемна адгукнулася нешта ўсярэдзіне: глядзі, зноў сустрэліся!

— Нешта мы не дамовіліся ніяк: я да вас — вы ад мяне, я за вамі — вы дадому, — няўклюдна паспрабаваў пажартаваць Уладзімір, прыпыніўся, спадзеючыся, што і жанчына спыніцца. Яна і праўда стала, з дакорам схіліла галаву і строга загаварыла:

— А вось хлусіць незнаёмым — непрыгожа. Ішоў не да мяне і цяпер не па мяне. Але яшчэ сустрэнемся, — адразу ўсміхнулася і хутка абагнула Уладзіміра, пайшла.

Уладзімір стаяў, разгубленая ўсмешка блукала па ягоным твары, ён дакараў сябе за сваю штучную спробу пажартаваць. А як яшчэ было з ёй загаварыць, з гэтай недзе некалі дакладна сустраканай жанчынай, якая — ну, чуе ён — родная яму нечым. Як сястра...

Стаяў, глядзеў ёй услед, спадзяваўся — азірнецца. Не азіралася, прайшла і забылася, што нехта ёй трапіўся.

Уладзімір закурыў, павярнуўся ісці, як нечакана быццам што ў спіну таўханула. Ён крутануўся — яна стаяла далёка наперадзе, глядзела на яго. Потым падняла руку і развітальна памахала. Здалося, што і ўсміхнулася.

Уладзімір разгубіўся на нейкі момант, лыпнуў вачыма, а калі паспешліва ўскінуў сваю руку ў адказ — яна павярнулася. І так хацелася крыкнуць ёй услед: "Ганна!", але стрымаў сябе: не трэба. Не трэба крычаць і бегчы за ёй — гэта будзе не па-сапраўднаму, не ад сэрца. А ад сэрца — вось, цеплыня без слоў, жаданне ісці далей — каб ехаць у горад, дзе, ён быў пэўны, будзе ўсё добра, дзе яго чакае цікавая работа над тэкстам, якая сёння абавязкова пойдзе, дзе кава пры стале і сподачак за попельніцу.

А калі прыйдзе той шэры кот... Уладзімір нальe яму малака. Малако ён набудзе. Возьме ў гаспадыні яшчэ адзін сподачак, стары які-кольвек, і будзе кацiная талерка.

Калі Уладзімір збочыў за рог і пабачыў свой ганак, шэры кот сядзеў ля дзвярэй веранды. Ён павольна павярнуў галаву да Уладзіміра і бязгучна мяўкнуў.

— Я табе малака прынёс, Шэры! — гучна сказаў Уладзімір.

Кот ступіў убок і стаў чакаць, больш не рухаючыся з месца. Да малака ён падышоў потым, нібы толькі дзеля таго, каб не крыўдзіць Уладзіміра: няспешна, паважна.

Уладзімір прыгатаваў каву, прынёс прынтар і ноўтбук, памыў сподачак пад попельніцу. Піў, курыў і паглядаў у акно, з якога выцягнуты прастакутнік святла падаў на ганак веранды — там шэры кот скруціўся ля самых дзвярэй у колца. Быццам спаў, але калі Уладзімір лёгка пастукаў у шыбіну, у шэрага клубка імгненна з'явілася галава, бліснула сваімі жоўтымі вачыма.

Уладзімір раздрукаваў здымак ручнікоў з Уладзявай хаты — пакажа заўтра выкладніку, раптам яму будзе цікава?

Потым запусціў праграму, скапіяваў і ўставіў тэкст, націснуў “выканаць”. Калі на старонцы замест тэксту з’явіліся кароткія радкі — мноства кароткіх радкоў, асаблівых эмоцыяў у Уладзіміра не было: ён проста быў стоадсоткава пэўны, што так і мусіць быць, не магло быць іначай, бо слова ад самога пачатку свету галоўнае для чалавека. Бо слова стварыла яго. Калі чалавек стаў карыстацца мовай — тады ён стаў чалавекам.

Уладзімір чытаў, адчуваючы асаблівы рытм, добра ўлоўную музычнасць старой замовы:

*Не я ўгаворваю Маці наша ўгаворвае*
*Усе святыя памочнікі ўгаворваюць*
*Як мерцвяку з зямлі не ўстаць*
*Так злому духу сатане-д’яблу не бываць*
*Не я ўгаворваю Маці наша ўгаворвае*
*Чорным макам-самасеем абсявае*
*Свячой асвячае*
*На чатыры бакі ўрага не дапускае*
*Маці наша і памочнікі*
*Я вас упрашаю*
*Сагнаць з чорнарабай каровы*
*Усякую няверную сілу*
*Ад дуру-блуду*
*Як маку не падабраць,*
*Так злому духу сатане-д’яблу не бываць*
*Жалезным тынам загараджу*
*Чугуннай накрыўкай закрыю*
*Жалезным гваздом заб’ю*
*Карову макам абсыплю*
*Як гэтага маку не падабраць*
*Так у мае кароўкі малака не адабраць*
*Ні ведзьмакам ні ведзьмам ні злым людзям…*

## 3

Ад ранку настрою не было, нешта казытала, вярэдзіла. Лобач разумеў: гэта звязана з сястрой. Не, не прапанова жыць разам і зарабіць колькі грошай, здаючы кватэру, і перспектыва парушыць сваю самоту была прычынай. Надзея і так заязджала штотыдня. Дый што яму тая самота? Надзея не перашкодзіць працаваць, а болей… А на большае яму ягоная кватэра пакуль што і не трэба. Пасля Антаніны ні адна з жанчын, апрача сястры, не пераступала парога ягонай кватэры, хоць, зразумела, Лобач святым не заставаўся: меўся на ягоным рахунку і кароткі курортны раман, былі і так сустрэчы… без наступстваў і абавязкаў для абоіх.

І не праз бацьку. Утоены боль быў заўсёдны, да яго прызвычаіліся і ён, Алесь, і Надзея. Калі бацьку забралі, Алесь думаў, што сястра заплача, але і гэтым разам яе твар заставаўся сухім, вочы — безуважнымі. Алесь разумеў: Надзея прымае бяду аднойчы, прымае напоўніцу і потым моўчкі жыве з бядой, як людзі жывуць з тонкімі, гукапранікальнымі сценамі кватэр ці з ранішняй таўханінай у метро. Яго толькі палохала, што Надзея не плача — гэтулькі ўсяго пературывала, а не заплакала ніколі…

Тут іншае: Надзея адзін на адзін не шкадавала свайго брата, хоць пры людзях, знаёмых ці незнаёмых, яна не дазваляла сабе ўпікаць Алеся, цвяліць ягонае самалюбства. І катэгарычна бараніла ад іншых. А вось у вочы… У вочы наадварот магла назваць баязліўцам. Зусім нездарма яна загаварыла пра камяні — ведала, што яны цікавяць Алеся, некалі ён свой адпачынак прысвяціў менавіта камяням: аб’ездзіў найвядомейшыя, фатаграфаваў, складаў

сваю картатэку… Надзея не прапусціць выпадку ўпікнуць Алеся ў ягоным маўчанні. Але ж ён — не публіцыст, чаму яна не хоча разумець? Ён — навуковец, што вымагае яго трымацца наўзбоч ад палітычных перыпетый.

І ўсё ж было прыкра.

У другой палове дня Лобача паклікалі, з глыбіні пакоя ён пабачыў у дзвярах кафедры Уладзіміра Жабруна, што прыемна казытнула: сапраўды, па-добраму цвердалобы трапіўся малады чалавек. Мабыць, нешта зрабіў сваім асаблівым, ім вынайдзеным спосабам — бач, які заспакоены і ўпэўнены твар…

Лобач адшукаў непадалёк пустую аўдыторыю, прапанаваў сесці.

— Ну, ёсць што расказаць? — бадзёра запрасіў Жабруна да размовы.

Уладзімір дастаў з торбы файлы з лістамі раздрукоўвак, стаў раскладаць на стале.

— Выбачайце… тут у мяне ўсяго гэтулькі.

— Дык добра, — супакоіў яго Лобач. — У нас ёсць каля гадзіны часу. Досыць нам?

— Досыць, я хутка, — заспяшаўся Уладзімір, адчуваючы ніякаватасць — вось, на яго марнуюць час.

— Не спяшайцеся, — папярэдзіў Лобач. — Пра ўсё падрабязна, калі ў вас выйшла нешта незвычайнае і такое, чаго не было раней.

— Такога, думаю, не было, — усміхнуўся Уладзімір. — Тэкст апрацаваны… Праўда, учора я паспеў толькі трохі, усяго тры тэксты, але, галоўнае, на радкі тэкст разбіты, і як па-дзеля мяне, дык усё слушна выйшла… Далей нескладана.

— На якія радкі? — здзівіўся Лобач.

— Вось, — Уладзімір падпаў яму раздрукаваны тэкст некалькіх замоў. — Прыгожа выйшла, праўда?

— Прыгожа, праўда, — Лобач разглядаў тэкст, вочы пабеглі па радкох.

Ён не мог не прызнаць адчування рытму. І значыцца, у студэнта сапраўды выйшла. Што ж, цікава, якім спосабам ён так зрабіў…

— Дарэчы, хараство — галоўная, бадай што, прыкмета сапраўднасці, моцы. Ведаеце? — спытаў Лобач, пабачыў сцявярджальны Уладзіміраў кіў у адказ, падахвоціў: — Ну, тады расказвайце, як у вас выйшла?

— Праграма зрабіла, — сціпла адказаў Уладзімір.

— Праграма? Цікава… і паводле якога алгарытму?

— Тут доўга казаць трэба…

— Кажыце, кажыце. Я ж сказаў: час у нас ёсць.

— Добра… Адно… Ну, не крыўдуйце, калі скажу якое глупства надта пераканаўчым тонам.

— Галоўнае — мець што сказаць. Кажыце, я паспрачаюся, — усміхнуўся Лобач. Яму і праўда было вельмі цікава: што за алгарытм і як ён працуе.

— Тут фізіка простая: галосны гук мае частату, — пачаў Уладзімір, і адразу ж ягоны голас набыў упэўненасць, ён быццам скінуў з сябе вясковую фуфайку, якая не давала яму трымацца годна сам-насам з гарадскім адукаваным чалавекам, а цяпер во сядзіць у лёгкім, цалкам сучасным адзенні, і пачуваецца годна. — Частата мае свае фізічныя паказнікі і ступені ўздзеяння. Значыцца, чым болей гукаў галосных — тым энергетычнейшая мова, кажучы сённяшнімі тэрмінамі.

— Стоп! — перапыніў Лобач. — Калянавуковыя спекуляцыі, ніякіх сапраўдных работ нідзе не чытаў. Сёння з гэтак званай "энергетыкай" носяцца розныя групоўкі кшталту "славянскага адзінства", кожны цягне моўную коўдру на сябе. Я згодны з тым, што мова — код, ключ да ўсведамлення існасці і навакольнага свету, але лепей без "энергетык".

— Мне здалося, што… — засмуціўся на хвіліну Уладзімір, зноў пачаў тлумачыць, спачатку павольна, потым з запалам: — Я падумаў, што замова ўплывае на чалавека таму, што там гукі падабраныя ў пэўным парадку. Як вершы. Вершы таксама ж маюць уплыў на чалавека: адны больш, іншыя — ніякага. Ну, і праўдзіў.

— Як? Што праўдзілі? — шчыра зацікавіўся Лобач.

— Вершы праўдзіў. Я пабудаваў графікі… Кожны радок — гэта нейкая крывая, дзе пікі — значэнне частаты гукаў. Ну, вось і выйшла: у сапраўднага верша пікі аднаго радка складаюцца з пікамі другога, трэцяга, чацвертага, выходзіць прыгожая такая карціна. Кожны радок — частотная паслядоўнасць. Вось…

Уладзімір разгарнуў перад Лобачам раздрукаваныя графікі.

— Цікава… раней гармонію правяралі алгебрай, а вы надумалі тое самае зрабіць фізікай… Цудоўна выйшла. — Лобач пагледзеў адзін ліст, другі… — А пра камсамольца чаму такі графік непрыгожы? Не спрацавала сістэма?

— Дык яшчэ як спрацавала, я сам не чакаў! — загарэўся Уладзімір. — Наўмысна ўзяў гэты верш, бо ён… несапраўдны, не паэзія, на заказ напісана. Вось і графік тое сцвярджае. А потым адшукаў замову, сам разбіў яе на радкі — глядзіце, які графік выйшаў — суцэльнае хараство.

— Згодзен, хораша. Значыць, — Лобач пільней зірнуў на Уладзіміра: — Вы вынайшлі спосаб вышукваць графаманаў! — і ўсміхнуўся.

— Ат, тое мне не трэба, — пацепнуў плячыма Уладзімір. — Я папрасіў, мне зрабілі праграму. Алгарытм даследуе напісанае, шукае паслядоўнасці, вось, як на гэтым графіку, прыкладам, пакуль яны не супадуць.

Супалі — першая паслядоўнасць занатоўваецца як радок, другая — другі радок, лічыцца далей. Работы праграме на хвіліну.

— Вельмі нечакана, — шчыра ўхваліў Лобач. — І якую выснову зробім, апрача атрыманага выніку?

— Тут — код, відавочна ж!

— Пры жаданні ў незразумелым можна такое знайсці! Лічбы — страшная штука. Саму Біблію ці не дзясяткі галоў раскладалі на ўсе мажлівыя спосабы. І знаходзілі! Нехта — лік Пі, нехта — падвойны інтэграл з формулай развязання квадратнага раўнання. А нехта і геном чалавека знайшоў… — стрымваючы свой скепсіс, заўважыў Лобач.

— Каб замовы былі такімі простымі… Калі б вершы былі такімі простымі — чаму ж тут прыгожы і роўны графік, а тут — пэцканіна ў канцы? — не здаваўся Уладзімір. — Калі не дадзена табе пісаць, хоць якія законы ведай, хоць праграму прыдумай, а паэзіі не будзе. І замовы не прыдумаеце.

— Нехта, можа, і прыдумае, — усміхнуўся Лобач. — Але, не будзем спрачацца — я мушу прызнаць, што якім бы нечаканым, неправераным, ненавуковым, нават авантурысцкім ні быў ваш падыход да развязання задання, вы яго з годнасцю выканалі. І нават болей: калі нехта раней бачыў у замовах сапраўдную народную паэзію і казаў пра тое асцярожна, то вы гэта давялі надзвычай пераканаўча незвычайным спосабам. Так, замовы найперш — паэзія… У мяне ў планах напісанне артыкула для навуковага часопіса на тэму замоў. Вы не будзеце супраць, калі я згадаю вашу работу, зразумела, з вашым імем? Цікавы факт…

— Не, вядома не супраць, — крыху засаромеўся Уладзімір.

— Вось і выдатна. вы зрабілі не маленькую працу. Зрабілі выдатна. Прызнаю і выказваю вам сваё захапленне, — Лобач працягнуў Уладзіміру руку.

Уладзімір разгубіўся, сумеўся нават, слізгануў сваёй рукой сабе па баку, падаў і адчуў шчыры моцны поціск.

— То я крыху пазней апрацую рэшту тэкстаў, парасстаўляю знакі прыпынку, памылкі ж, якія ёсць, не трэба выпраўляць? І прывязу потым.

— Так, не трэба выпраўляць, там аўтэнтычны тэкст… мяне, мажліва, не заўсёды тут заспееце, то вось вам мой мабільны, тэлефануйце, — Лобач дастаў і паклаў перад студэнтам сваю візітоўку.

— Яшчэ сказаць хацеў… Я тут… у справе адной быў, — заспяшаўся адразу Уладзімір. — У ведзьмака. Сапраўднага, не смейцеся. У яго вось такія ручнікі вісяць на абразох, — Уладзімір дастаў яшчэ адзін аркуш паперы з фотаздымкам ручніка і паклаў перад выкладнікам. — Я неяк знайшоў быў у сеціве адну табліцу, там свастыкі былі, па-рознаму намаляваныя. Ну, дзе хвасток які, дзе закручана… Дык там у табліцы паказана было, якая свастыка мела дачыненне да якога бога ці багіні. Кажу пра тое дзеду, а ён смяецца: кажа, то ж бабы ткалі, вышывалі, самыя выдумлялі.

— Разумны дзед, вельмі разумны… У сеціве сёння гэтулькі панапісвана… я казаў вам ужо, асцярожней трэба з "артыкуламі акадэмікаў", — Лобач разглядаў здымак ручніка і не мог схаваць хвалявання. — Слухайце, вы зрабілі здымак унікальнага ручніка!

— Чым ён унікальны? — стрымана ўсцешыўся Уладзімір — яму было прыемна, што не памыліўся з ручніком, ён па-сапраўднаму зацікавіў выкладніка.

— Па-першае, адзінкі ручнікоў засталіся з сонцаваротам. А галоўнае, шэраг вышытых чорных узораў.

У мяне ёсць толькі адзін здымак падобнага ручніка, на жаль, самога ручніка не захавалі — згарэў школьны музей у час пажару... У вышытым узоры няма сістэмы, амаль усе вышываныя разеткі розныя. І вельмі розняцца ад агульнага тону ручніка. Так, дзе Вы ручнік знайшлі? Мне абавязкова трэба туды патрапіць і калі ўдасца, дык выкупіць яго. Яму сёння цаны няма. Дык дзе ваш вядзьмак жыве? — Лобач запытальна ўскінуў вочы на Уладзіміра.

— Ды... Не магу я сказаць, — са шчырым сумам прызнаўся Уладзімір. — Мне, праўда, дужа блага было, спаць не мог, рознае мроілася. Думаў, звар'яцею. Бабуля... не здолела мяне вылечыць, сказала да яго ехаць, сказала куды. Але ён загадаў мне потым, каб я нікому пра яго не казаў. Ні дзе жыве, ні імя... выбачайце... Ды я паеду да яго, то запытаю наконт ручніка, а калі што, дык сфатаграфую якасна... каб усё было відаць.

Лобач з лёгкім здзіўленнем глядзеў на Уладзіміра, быццам вагаўся: верыць студэнтавым словам ці не?

— Эх, шкада, — з жалем заўважыў ён. — Здымак адно, ручнікі — яны як жывыя, у іх душа працаўніцы ўкладалася, кожны сваю мелодыю мае. Патрымаць бы яго ў руках... Паспрабуйце дамовіцца наконт продажу. Вядзьмак ён ці не, але тутэйшыя ведзьмакі сала і мяса дакладна елі, грошай не цураліся. І запытайце дазволу да яго прыехаць, калі не згодзіцца прадаць. Добра?

— Добра, — паабяцаў Уладзімір.

— І, прашу прабачэння, Вашы ланцужок і кветка пакуль што ў мяне, я паказаў фотаздымак калегу свайму, ён з іншага горада, надта ж прасіў, каб самому ў руках патрымаць. Вучоныя ж як дзеці, — з лёг-

кай вінаватасцю ўсміхнуўся Лобач. — То нічога, калі яшчэ дні тры пабудзе ў мяне ваша кветка?

— Ды вядома, — паспяшаўся згадзіцца Ўладзімір. — Мне яна без патрэбы… — сказаў, і адчуў, што падмануў самога сябе: ён, здаецца, і не ўспамінаў пра кветку гэтымі днямі, але ж вось цяпер, у гэтую мінуту, адчуў сапраўдную тугу па ёй. Аднекуль з'явілася ўпэўненасць, што каб была з ім ягоная кветка, ён шмат непрыемнага змог бы ўнікнуць…

## 4

Уладзімір у адзін дзень развязаў бадай што ўсе справы ў універсітэце — у яго засталася адна пераздача — Лобачу. Але ў ёй Уладзімір быў упэўнены. Не так складана было вывучыць тое, што належала. Дый, шчыра кажучы, стаўленне яго да яшчэ колькі дзён таму непатрэбных ведаў змянілася. Уладзімір не тое, каб упэўніся ў іх патрэбнасці, а проста паверыў Лобачу, як давяраюць чалавеку, якога паважаюць, якога ўважаюць за свайго аднадумца.

У горадзе Уладзімір пачуваўся цяпер зусім няўтульна. Амаль подбегам ён мінаў тую кавярню, у якой сустрэўся з Ірынай. Ён мог бы праходзіць і іншым шляхам ад праспекта да свайго дома, але нейкая невядомая сіла цягнула яго менавіта гэтай вуліцай. Уладзімір разумеў: як ён баіцца сустрэцца з Ірынай, колькі жудасці выклікае ў яго адно думка пра яе, так ён і прагне яе пабачыць. Пабачыць хоць бы з-за спіны. Крадком пабачыць, так, каб яна не заўважыла, не адчула, яе твар. І ўпэўніцца, што тады, у тую ноч на яго найшло насланнё. Ён цяпер даво-

лі спакойна ўспамінаў тыя вечар і ноч і са страхам думаў, як жа было самой Ірыне? Так усё ішло добра і спакойна, шчаслівa, даверліва і цёпла — і раптам ён падскоквае нібы вар'ят, калоціцца, кляпае кнопкай тэлевізара, дрыжыць... Што яна падумала? Ну так, вар'ят...

Але жылі ў свядомасці, не згасалі, а ўтрымвалі ад жадання зайсці ў знаёмае месца, прысесці пры тым століку тыя хвіліны, калі ён захлынаўся ванітамі на Уладзявым надворку. Калі ўсяго толькі думка пра тую ноч выклікала балючыя спазмы ў жываце. Хто яна, Ірына? Калі яна чужая яму, ён бы запытаўся: за што і як? Чаму так адбываецца? Чаму пры сустрэчы з ёй з'явілася ў яго адчуванне, што ён пад нечым пільным вокам? Ён жа памятае: "Папаўся!" Пытанні, пытанні... Іх было так шмат тут, у горадзе, іх хацелася пазбыцца, пайсці і самастойна разабрацца. Да той самай цёткі ў пашпартным стале: чаму яна так на яго глядзела? Знайсці Ірыну, пацікаваць каля яе дома (ён жа ведае, дзе яна жыве!) і запытаць: што адбылося? Чаму яна раптам стала з ім страшыдлам? Чаму ён яе такой пабачыў? Але было страшна. Проста страшна, нібы ён збіраўся ісці ў невядомае балота адзін, без анічога ў руках.

Аднаго дня Уладзімір не ўтрымаўся, зайшоў у кавярню. Прысеў за "свой" столік. Калі падышла кельнерка, ён замёр у шчымлівым чаканні: раптам яна перадасць яму ліст? Але нічога не адбылося. Кельнерка не праявіла да Уладзіміра ні імгнення цікавасці больш, чым тое трэба было ёй для таго, каб прыняць заказ. Выпіўшы хутка каву, Уладзімір разлічыўся і выйшаў надзіва заспакоены. Цяпер ён быў пэўны, што калі б сустрэўся з Ірынай сам-насам, зусім не захваляваўся б. Але той кубачак кавы адначасна які

паставіў і другую кропку ў ягоных жаданнях: болей яго не цягнула нешта вышукваць і патрабаваць адказаў.

Затое пацягнула ў вёску. Моцна, аж мроілася яму, як ён басанож ходзіць па надворку старога Уладзі.

І яшчэ двойчы запар прысніўся той Чортаў камень. Вялікі, цёплы, ён вырастаў з цемры, набліжаўся, рос, пакуль Уладзімір не пачынаў распазнаваць на камені постаць. Дзявочую ці жаночую. У тым самым паглыбленні, дзе Уладзімір заўважыў валошкі. У сне ямінка было ўжо вялікай і глыбокай. Як магіла, ляжала тая постаць. І Уладзімір разумеў, што яна — не жывая. Але было не страшна, адно так шкада, што сэрца сціскалася ад смутку.

Уладзімір надумаў ехаць да Уладзі — той жа казаў: як пачне што сніцца незразумелае, ці так рабіцца, дык трэба ехаць.

Ён ішоў знаёмай дарогай, потым сцежкай, і ўсё то выглядваў наперад, то азіраўся — яму так карцела зноў сустрэць на сцяжынцы Ганну. Не раздумваючы, павярнуў да каменя. Пабачыў крыху прывялы, але не сухі букецік рамонкаў. Усміхнуўся, рады, як вельмі добраму знаку: усё добра ў нас, мы чакаем цябе.

Папляскаў па камені, як жывога каня па шыі, міжволі павітаўся ў думках: “Здароў, камянюка! Бач, халера, яна да цябе штодня заходзіць, кветкі носіць. Ляжыш сабе, шчаслівы…”

Уладзя сустрэў яго на надворку, быццам Уладзімір во толькі выйшаў на гадзіну якую, у краму збегаў у аграгарадок. Яно і праўда — Уладзімір нёс за плячыма ёмкі пляцак, які яшчэ ў горадзе наладаваў хлебам, каўбасой рознай, мясам ды іншым, што звычайна сам спажываў. Ну, і ноўтбук свой. Парукаліся, як даўно знаёмыя.

— Заходзь, спачні, — адчыніў Уладзя дзверы ў сенцы. — Цяпер сама горача, а ў хаце халадок. Зараз кваску прынясу… Не, не бойся, я па табе бачу, пакуль што ўсё добра. Цябе без мяне ёсць чаму лячыць.

— Гэта як? — здзівіўся Уладзімір. — Што мяне лечыць?

— А ты хіба не адчуваеш, дзе табе цёпла і зручна? Вунь, хоць да абразоў падыдзі…

Уладзімір паслухаўся, падышоў да покуці, дзе пад абразамі стаяў тэлевізар. Але не стаў глядзець на выяву нейкага святога, зноў разглядаў ручнікі.

— Можа, прадасце ручнік? — Уладзімір павярнуўся ад покуці да старога, які з прыхаванай усмешкай назіраў за ім. — У вас жа пенсія малая…

— А нашто мне грошы? — прымружыўся стары. — Мяне лес ды гарод кормяць…

— Каўбаса на хвоях не расце, — сур'ёзна адказаў Уладзімір, потым уздыхнуў, дадаў: — Дык, дазволіце майму выкладніку хоць прыехаць, патрымацца за ручнік? Просіць надта.

— Што за выкладнік у цябе такі, што хоча за ручнік патрымацца, як маладзён за цыцку?

— Ды… апантаны ён, праўда.

— І чым апантаны?

— Я не ведаю дакладна, але дзіўны, — Уладзімір шчыра пацепнуў плячыма. — Дакладна ведаю, што такіх мала засталося. Я вось першага сустрэў. Збірае ён усё… нашае.

— Нашто збірае? — нечакана пасур'ёзнеў стары Уладзя.

— Захаваць хоча… Каб ведалі: былі такія песні, казкі, паданні, легенды. Што во так жылі, так весяліліся, так святы спраўлялі. Мне вунь гаспадыня расказвала пра Купалле, там момант адзін незвычайны быў, дык ён так зарадаваўся!

— Захаваць, кажаш… Ну, няхай прыязджае, — нібыта прыняўшы важную пастанову, адказаў гаспадар.

Уладзімір адарваў вочы ад ручніка над абразом, дакрануўся да тэлевізара, укрытага накідкай.

— Цікава, у вас, ведзьмака — тэлевізар… Глядзіце калі?

— Жывы чалавек пра жывое думаць мусіць, пра жывых ведаць. Што праўда — хоць не глядзі. Страшны час стаў…

— Чым страшны? — пацікавіўся Уладзімір.

— Тым і страшны… Раней цемра блізка да ўлады стаяла, а цяпер — ва ўладзе варушыцца. Раней нішчылі тое, што на вачох было, а цяпер руйнуюць тое, што ў душах і сэрцах. Наступ ідзе…

— Не разумею, — разгубіўся Уладзімір. — Вы пра які такі наступ?

— Ты цяпер людзей ужо чуеш, табе дадзена… Праўда, чуць іх можаш тады, калі проста перад сабой пабачыш. А я, хлопец, іх чую і бачу, калі яны во праз тэлевізар кажуць нешта ці робяць. Колькі вашываму не таіцца, вош на лоб выпаўзе… Потым, пазней будзем пра ўсё гаварыць. Ты адно памятай: ёсць святло, ёсць і цемра. Ты да святла выйшаў — нехта ў цемру зайшоў. Мы ў свет — доля ўслед…

Калі сонца схавалася за страхой хлява, узяліся шчапаць дровы. Уладзімір казаў, каб стары толькі зносіў, але Уладзя заўпарціўся:

— Ну, я табе не зломак яшчэ. Досыць на двух такой гары.

З-за хлява, з лугу ў нізіне за гародамі пацягнула свежасцю, калі насупраць двара прыпыніўся аўтамабіль. Уладзімір скоса глянуў і свіснуў у думках: нішто сабе госцейкі ездзяць да дзеда: гэта была не проста іншамарка, а дарагі чорны ўсюдыход.

— Што, спадар Уладзіслаў сабе парабка знайшоў? — гучна, з усмешкай, казаў каржакаваты, гадоў сарака мужчына, які вылез з аўтамабіля і цяпер заходзіў у двор.

Што адразу кідалася ў вочы — ягоная ўпэўненасць. Ён ішоў надворкам, нібы гэта быў яго асабісты дом, але ў той жа самы час не пашыбаваў травой, а рушыў пратаптанай сцяжынкай. Ростам ён, калі падышоў бліжэй, выявілася, быў вышэй за сярэдні, гэта шырокія плечы рабілі яго ніжэйшым. Але быў падцягнуты, без аніякага тлушчу на жываце. Светлашэрыя лёгкія нагавіцы, такая ж кашуля з кароткімі рукавамі навыпуск. Крыху прыкамечанае ўсё, але чыстае. Падстрыжаны каротка, валасы цямнявыя, частымі серабрынкамі. Шырокі скуласты твар без раслінасці паспеў добра загарэць, прымружаныя вочы глядзелі пільна, хоць і ўсміхаліся, простыя чорныя бровы амаль сходзіліся на пераноссі.

Неяк па-простаму, рыхтык даўно знаёмы, падаў Уладзіміру руку, пацікнуў моцна, усміхнуўся, вышчарыўшы роўныя і на дзіва белыя зубы:

— Здароў быў! Ты хто? Што робіш?

— Ды… вось, дровы шчапаю. Вучуся, сесію здаю, пад'ехаў, — трохі разгубіўся Уладзімір ад такога напору.

— Зразумела: студэнт! Мяне Антосем завуць. А прозвішча Зубель. Ведаеш такое?

— Дзе там…

— І добра, адкуль табе Зубеляў ведаць? — рассмяяўся мужчына, падышоў да старога, парукаўся з ім.

— Што, дзед, яшчэ перазімаваць хочаш? Адпачываў бы, калі ёсць каму сякерай махаць. Ці на клодаўе не пара?

— Будзе пара — прыйдзе гара, — адказаў без крыўды Уладзя. — Там і адпачну, як рукі складу. Я табе травы на гарбату назбіраў, гэта будзе на ранне піць. Не паблытай, а то пап'еш увечары — спаць не будзеш.

— Дзед, ды табе трэба сваю фірму арганізаваць! — пасмейваўся мужчына, пакуль Уладзя выносіў з сянец мяшэчак, відаць, з сушанай травой. — То ж найэфектыўнейшы энергетык, ды яшчэ натуральны! Мы б з табой такія грошы паднялі!

— Мне маіх досыць, — адмахнуўся стары. — Ты свае пазбірай па палёх.

— Пазбіраю, — без усмешкі адказаў Зубель, узважыў на руцэ мяшэчак. — Во, заўтра з раніцы пачнём новае жыццё. Надакучыла заморская кава, аж у роце смягне. Ганначка пыталася, ці ўсё добра? Калі нядобра, то яна сёння яшчэ кропельніцу паставіць.

— Добра, дзякуй ёй. Чаго ёй клопат лішні трэба. Што, зноў ты па яе паедзеш?

— Вядома ж, паеду, — упарта кінуў галавой мужчына. — Я ёй сказаў, што да яе асабіста падпушчу на крок таго, хто мне самому спадабаецца. А то бач, ездзяць, пачулі каты мяса. Гэй, студэнт, — павярнуўся Зубель да Уладзіміра, — ты таксама нашу Ганначку пабачыў і прыкмеціў? Глядзі, пакрыўдзіш — будзеш мець справы са мной, — ці то жартаваў, ці то казаў сур'ёзна.

— Бачыў і прыкмеціў, — крыху задзірыста адказаў Уладзімір, бо гутарка на двары падалося яму прыязнай, калі можна было і пажартаваць, і сказаць праўду. Ад Антося Зубеля прамянілася не адна ўпэўненасць, але і сімпатыя, хваля зычлівасці, што так знітоўвае людзей. І потым: Уладзімір раптам адчуў тое, пра што казаў яму Уладзя: ад Зубеля не ішла

трывога, ля яго было спакойна, быццам у сярэдзіне ў Уладзіміра запрацаваў апазнавальнік “свой-чужы”, а ад Зубеля ціўкаў сігнал “свой”. Таму і дадаў Уладзімір нават з лёгкім гонарам:

— Мы з ёй на сцяжынцы сустрэліся. Я дык і разгубіўся быў: падалося, сястру сустрэў, з якой шмат гадоў не бачыўся. Такое вось было...

— Ну, калі як сястра — гэта добра, — ухваліў Уладзіміравы словы Зубель. — Бо мы тут па-старому жывем: прыгожых дзевак і добрых кароў з сяла не выпускаем... Слухай, студэнт, а ты дзе жывеш і што робіш?

— У горадзе пакуль што... Вучуся. Думаю, уладкуюся на працу.

— Во, на халеру табе ўладкоўвацца? Хочаш, я табе работу дам? — адразу прапанаваў Зубель. — Ці пакуль твая работа знойдзецца, у мяне папрацуеш.

Уладзімір усміхнуўся з такой практычнасці. Ніяк не чакаў падобнай прапановы, але, трымаючы ў свядомасці “круты” аўтамабіль Зубеля, падумаў, што работа яму можа быць прапанаваная самая розная. Можа, і цікавая. Але надта неяк усё хутка...

— Што за работа? — усё ж спытаў ён.

— Крутая работа! — запэўніў Зубель. — Акурат для разумнага студэнта. Я прыдбаў новы кампутар, во вязу дадому. Яшчэ там featuresнага начыння. Карацей, трэба мне ўдома сваю бухгалтэрыю наладзіць. Сеціва зрабіць, каб можна было і з ноўтбукам працаваць лежачы, а то, халера на яе, спіну за дзень натруджу, падаю пад вечар, а трэба ж ведаць, што ў свеце робіцца, з сябрамі перакінуцца, а то ваўком завыю. Там у мяне яшчэ розных дамоўленасцяў з сувяззю — падлучаць тое сеціва. Тэлефон я нядаўна правёў. Ты як, валачэш у такой справе?

— Ну, кампутар устанавіць не праблема, праграмнае забеспячэнне ўкінуць — таксама не цяжка. Але ж я бухгалтарскія праграмы не ведаю.

— Дык я ведаю! Курсы прайшоў. Ты мне рэшту пастаў, каб запрацавала. Ну, бярэшся?

— Дык… — разгублена павярнуўся Уладзімір да старога: — Дзед Уладзя, што спадару Зубелю адказаць?

— Дык калі можаш, чаму б не зрабіць добраму чалавеку? — усміхнуўся ў вусы Уладзя. — Пытай з яго за работу болей.

— Усё, я цябе забяру, — радасна пацёр рукі Зубель. — То я паехаў па Ганначку, дзед, ідзі сядзь, няхай сэрца супакоіцца, каб яна не выгаворвала, — загадаў ён і пашыбаваў з двара да веснічак.

Аўтамабіль мякка завуркатаў, потым голасна пікнуўшы, развярнуўся і знік.

— От, чалавек, як віхор, — не з асуджэннем, а болей з захапленнем сказаў услед Зубелю Уладзя, але паслухаўся, прысеў на доўгую і шырокую лаўку пад сцяной сянец. — Сядзь і ты, пакуры. Не паспеюць згніць дровы, у Бога дзён многа, пашчапаем і прыбярэм.

— А хто ён? — запытаў Уладзімір, кіўнуў у той бок, дзе стаяла машына Зубеля.

— Ды наш, мясцовы. Вёска тут недалёка, а ля яе хутар. Ягоных дзеда і бацькі. Доўга яго тут не было, кажа, у Сібіры быў, грошы ўсё зарабляў. Адно што наязджаў. Аж калі бацькі памерлі, тады прыехаў надоўга. Перш хацеў хату прадаць… Але ж нешта перадумаў. Зямлі ўзяў ля хаты — там іх зямля была заўсёды, а калгасу ад той зямлі карысці мала было — няўдобіца, пад’езду няма. Вось ён і стаў па-цяперашняму фермерам. Адзін жыве…

— Зразумела...

Антось Зубель праз чвэрць гадзіны зноў пад'ехаў да Уладзявай хаты. Гэтым разам ён, выскачыўшы са свайго месца, кінуўся да супраціўнага боку машыны, адчыніў дзверцы і з выразнай галантнасцю, з вясёлым форсам падаў руку пасажырцы.

Уладзімір пазнаў у жанчыне Ганну. У руках яе была невялікая сіняя торба з белым медычным крыжам. Спаднічка амаль такога ж сіняга колеру высока адкрывала калені, блакітная саколка шчыльна аблягала цела, і таму такімі выразнымі былі яе грудзі. Недзе ў падсвядомасці ў Уладзіміра варухнулася думка, што гэтыя грудзі засумавалі... па дзіцячым раточку. Ганніны валасы былі заплеценыя ў няшчыльную касу і перакінутыя наперад, на плячо.

— Студэнт! Чуеш, студэнт! — ад веснічак закрычаў Антось. — Да мяне заўтра едзем, а сёння табе задачка — паправіць Ганначкін кампутар.

— Дабрыдзень! Я ж казала — сустрэнемся.

Жанчына ўсміхалася ветла, зусім як роднаму — не мог Уладзімір пазбыцца гэтага пачуцця.

Адказаў на прывітанне як мог цёпла.

— І ў вас кампутар сапсаваўся?

— Ды, мабыць, падхапіла нейкую заразу — малюначкі малюе на экране, розныя надпісы, праграмы не працуюць. Потым пра яго, — адмахнулася Ганна і падышла да Уладзі. — Як маецеся, спадар Уладзіслаў? Бачу, твар ружовы, пульс, — яна ўжо трымала старога за руку, — крыху часціць. Памахалі сякерай? Ну, я ж казала, каб шанавалі сябе ад такой справы хоць на колькі дзён. За пляшку чарніла я вам такіх работнікаў найду — пашчапаюць і складуць.

— Не трэба сюды алкашоў ніякіх, тут во студэнт за парабка дае рады, — рагатнуў Антось Зубель, прысеў на калодку побач з Уладзімірам.

Ганна, як зразумеў яшчэ раней Уладзімір — фельчарка акушэрскага пункта, прысела да Уладзі на лаўку, борзда дастала апарат для вымярэння ціску, праверыла ў старога двойчы. Уважліва глядзела на стрэлку манометра, аж хмурыла свае густыя бровы.

— Ну, як быццам усё добра. Раніцай забягу яшчэ праверыць. Кропельніцу не ставіць? Як сэрца? П'яце пігулкі?

— Усё добра, дачушка, — падзякаваў Уладзя. — П'ю твае пігулкі. Праўда, добра. То нешта во хапіла было, прыціснула...

— Меней тэлевізар глядзець трэба, — дакончыў нечакана Антось Зубель. — Я вунь таксама як паглядзеў апошнія навіны, дык не спаў тры дні.

— А што за навіны? — засаромеўся, але ж спытаў Уладзімір. — Нешта нічога не чуваць было такога.

— От заўтра мне сеціва падлучыш і сам усё даведаешся. А зомбаскрыню глядзець — адно потым сліна цячэ, пляваццa хочацца...

Ужо звечарэла, сонца за блізкі лес схавалася цалкам. Уладзімір ішоў з Ганнай ціхай пустой вуліцай вёскі. Ён наагул першы раз ішоў Карчавахай — за тыя прыезды адно даходзіў да крайняй з лесу Уладзевай хаты.

— Вось такая стала наша Карчаваха, — невясёла казала Ганначка. — Пустая і сумная. Некалі на дваццаць двароў было паўсотні дзяцей. А потым раптам усё знікла, за адно маё жыццё. Цяпер во пяць хат засталося жывых...

— І ў мяне на радзіме гэтаксама, — падтрымаў тэму Уладзімір. — Хто на цэнтральную сядзібу падаўся, хто ў горад з'ехаў.

Вуліца была шырокай. На месцы колішніх хат буяла зелень. Высачэзныя ліпы і бярозы паказвалі сабой

былыя месцы сядзібаў. Дзе-нідзе ў гародах стаялі яблыні. Платоў амаль не было. Ад самой дарогі, ужо добра ўтравелай, высокая някошаная расліннасць падымалася ўверх, пад платы. Жывы двор пазнаваўся адразу, па траве — яна была скошаная ад плота і да самой дарогі на шырыню ўсяе сядзібы.

— Не сумна тут адной жыць? — запытаў Уладзімір.

— А чаго мне сумаваць? Не дадуць, — усміхнулася Ганна. — Тут мне спакайней — не так даймаюць бабулькі з рознымі балячкамі. Хоць і падымуць сярод ночы, але ж тое рэдка. А былі мне далі кватэрку ў аграгарадку, дык за дзень два дзясяткі гасцей перабыло…

— І вы адтуль уцяклі?

— Кажы мне ты… Не, не ўцякла. Кватэра зімой так прамярзала — ніштто не ратавала. Дом збудавалі паводле прэзідэнцкай праграмы, каб як хутчэй, дык вецер праз сцены свістаў. Вада перамерзла, каналізацыя. Я і кінула той дом. Яго адзін механізатар узяў, надумаўся сам усё дарабляць, калі калгас яму заплаціць. А я ж не ўмею…

— І мужа няма, я чуў. А чаму не замужам? — задаў пытанне Уладзімір і сам здзівіўся таму, як проста яно прагучала. — Вы… ты не крыўдуй за такое нахабства, я без усякага падтэксту пытаюся. Кажу ж, мы сустрэліся, а мяне рыхтык хто мехам з мякінай па галаве выцяў: вось ведаю цябе і ўсё тут!

— Так бывае, — лёгка згадзілася Ганна. — Так бывае… А не замужам, бо мужа надта строга выбіраю, — усміхнулася амаль гарэзліва і трошкі сумна.

Вёска выцягнулася на паўкіламетра — хаты стаялі некалі па адзін бок вуліцы і далёка адна ад другой. Ганна жыла на супрацiўным ад Уладзі канцы.

— А во тут баба Маня жыве, — Ганна кіўнула на жоўтае акно невялікага старога дома. — Калі мае бацькі загінулі, мне ўсяго шаснаццаць было, то яна мне і за бабулю была, і за маці, і за бацьку. Не ведаю, як бы я без яе і выжыла…

— А як… здарылася? — асцярожна спытаў Уладзімір і здумаў адразу расказаць пра сябе: — У мяне… бацька загінуў таксама. Малады яшчэ быў, бойка была п'яная, нагу яму парэзалі, крывёю сцёк. А маці захварэла на менінгіт, як напілася моцна, застудзіла галаву. І брат во сёлета п'яны згарэў… Разам з бацькоўскай хатай. То я без анічога — пакацігарошак…

— Мае загінулі разам… Неяк так выйшла… страшна. Ехалі на возе сена, надвячорак быў. Далёка адсюль, сена набылі ўвосень, свайго не змаглі накасіць, не даў калгас, бо карова ацялілася, і цялятка здохла. Не даў цяля — не далі сена. Там рэчка цячэ вялікая, глыбокая. І мост цераз яе стары, драўляны, парэнчаў няма. На сярэдзіне мосту, людзі бачылі, конь раптам упудзіўся, спужаўся нечага і кінуўся ўбок. Воз і кульнуўся… проста ў рэчку. Там і глыбока, і плынь хуткая, ды яшчэ і воз упаў на людзей, і конь. Жудасна было… Ну, вось і прыйшлі, мой дом!

Уладзімір адразу і не заўважыў хаты — такія вялікія два кусты язміну раскінуліся шырока, засцілалі сабой сцяну дома.

Гэта быў звычайны вясковы дом: першая палова і другая, большая і светлая. Грубка справа дзяліла пакой на дзве часткі — адна частка была завешаная ад Уладзіміравых вачэй доўгімі і шырокімі шырмамі. У другой палове стаяў сучасны кампутарны стол, на такой жа сучаснай тумбачцы — тэлевізар, стаяла вялікая кутняя канапа, невялікая шафа з кнігамі. Усё разам размяшчалася так, што ўтваралася і рабочая

частка, і частка для адпачынку. Уладзімір не змог стрымаць захаплення:

— Як у цябе тут нечакана па-сучаснаму і ўтульна! О, тут бы я хацеў жыць!

І асёкся, бо гэта выглядала, як няўклюдны намёк. Але Ганна зрэагавала толькі на тое, што менавіта і меў на ўвазе Уладзімір:

— Нічога, некалі ў цябе будуць жонка і свой дом, і будзе ў ім усё так, каб было прыемна і папрацаваць, і адпачыць.

— А не баішся, калі заўтра пачнуць казаць што якое пра цябе? — запытаў Уладзімір, умыкаючы кампутар. — Увечары некага ў госці прывяла.

— Не, не баюся, — адмахнулася жанчына. — Яны мяне за гэтыя гады добра вывучылі. Што гатаваць: гарбату ці каву? Ой, ты ж галодны, мабыць? Ад абеду нічога не еў, так?

— Не еў, — не стаў хлусіць Уладзімір. — Так што калі мяне сястрычка пакорміць, буду лячыць ёй кампутар задарма!

— Добра, брацік, — адказала задуменна Ганна. — Мне таксама дужа хацелася б, каб быў у мяне вось такі брат...

Уладзімір адчуў, як лёгкая гарачыня чапіла ягоныя вушы.

Увакнуў кампутар і свой ноўтбук.

Калі Ганна прыгатавала вячэру, ён аж успацеў ад хвалявання, трывогі і клопату: кампутар быў так заражаны вірусамі, што "вылечыць" яго без кардынальных захадаў было немажліва. Так і сказаў быў Ганне, на што яна махнула рукой: рабі, як ведаеш. Дзеля ўсяго (раптам давядзецца фарматаваць дыск) зрабіў поўную рабочую копію сістэмы, скінуў сабе на ноўтбук. Але, дзякуй Богу, абышлося: адна з сцягне-

ных антывірусавых праграм змагла запрацаваць, крыху расчысціла месца, потым і іншыя пайшлі. За гадзіну кампутар ажыў.

— Ну, вось, можна працаваць! — з палёгкай павярнуўся да Ганны Уладзімір. — Нават нічога не пераставўляў. Антывірус усталяваў, але будзь уважнай: не клікай на розныя прывабныя фотаздымкі, спасылкі.

— Дык мне і даслалі здымак адзін, — успомніла Ганна. — Паспрабавала адкрыць — нешта незразумелае пачалося. Сюрпрыз… Ну, добра, еш, зарабіў, — са шчырай усмешкай запрасіла яна.

Уладзімір не мог пры стале пазбыцца пачуцця, што ён — дома. Гэта было як чарговае насланнё, але Уладзімір песціў яго, асцярожна прыслухоўваючыся, баючыся напалохаць, каб не знікла. Бо так цёпла і ўтульна было ад таго пачуцця…

Збіраўся адыходзіць, калі Ганна прытрымала яго:

— Чакай, браце мой, чакай. Вячэрай пакарміць — тое абавязак, а не ўдзячнасць.

Хутка падышла да кніжнай шафы, не раздумваючы, дастала адну кнігу. Узяла асадку, напісала некалькі слоў.

— Вось, кніжка цікавая. Гэта постмадэрнізм. Ведаеш, што такое постмадэрнізм?

— Не надта, — прызнаўся Уладзімір.

— Ну… кніжка пра тое, што рэчы заўсёды выглядаюць рознымі з рознага гледзішча. І што многае з таго, што навідавоку, выяўляецца зусім іншым у існасці. Табе цікава будзе пачытаць. Не згубі! — сказала нечакана сур’ёзна, не папрасіла, а амаль загадала, і Уладзіміру падалося раптам, што яна дала яму, і ён цяпер трымае ў руках нешта надта важнае.

— Не згублю, — адказаў паважна. — Дзякуй за падарунак.

— Дабранач! — усміхнулася ўжо ласкава Ганна, быццам прабачалася за свой сур'ёзны загадны лад.

Уладзімір не вытрымаў — адышоўшы колькі крокаў ад Ганнінай хаты, прыпыніўся, прыкурыў, а потым запаліў маленькі ліхтарык на запальнічцы і прачытаў надпіс.

"Я давяраю табе".

Уладзімір адчуў, як горла сціснулася ад пяшчоты.

**5**

Спаў Уладзімір на старэнькай, але мяккай канапе ў другой палове дома. Спаў моцна, спакойна, сапраўды адпачываў. Прачнуўся, калі пад хатай — пачуў праз сон — спынілася машына. А за хвіліну гучны голас Антося Зубеля грымеў у першай палове:

— Якое спіць? Сёмая раніцы! На тым свеце адпачываць будзе, там дакладна няма чаго рабіць. Студэнт! — Антось прасунуў галаву ў расчыненыя дзверы, пабачыў, што Уладзімір ляжыць з расплюшчанымі вачыма. — Студэнт, сумленне май, полудзень зараз, у мяне не зроблена нічога! Паехалі!

— Я яшчэ кавы не папіў, — з жартаўлівым выклікам адказаў Уладзімір, бо чамусьці падумаў, асабліва вось цяпер, раніцай, што гэтая бадзёрасць і Антосява шумлівасць тут, на надворку ў Уладзі, — нібы гульня якая.

— У мяне кавы пап'еш. Там гатункаў гэтулькі, што я ў іх блытаюся. Ну, але папі, горай, калі пахмяляцца цягне. Хутчэй давай! Не паспеем!

— У Бога дзён многа! — адказаў Уладзімір словамі старога Уладзі.

Чайнік на пліце стаяў цёплым — дзед прачнуўся, відавочна, даўно. Цяпер мыў рукі, мабыць, корпаўся ў градах. Уладзімір хутка выпіў паўкубка кавы, узяў сваю торбу з ноўтбукам.

— А нашто бярэш? — прыжмурыўся Антось.

— Дык ці мала што можа спатрэбіцца, — цепануў плячыма Уладзімір. — Можа, драйверы якія для жалеза ці для наладжвання. А ў мяне тут сеціва мабільнае, дый софтавых праграм шмат.

— О, я адгадаў, на разумнага патрапіў, — задаволена рагатнуў Антось. — Ну, паехалі…

Так і выйшла — у машыне ён адразу пасур'ёзнеў, стаў больш справавітым. Смяшлівыя ноткі ў гаворцы амаль зніклі.

— А адкуль ты сам? Чым папраўдзе займаешся?

— Можна сказаць, ніадкуль, — крыху счасаваўшы, адказаў Уладзімір. — Бацькоў няма, брат загінуў, дом згарэў. Жонкі не маю. Пакуль што ў горадзе, у мяне адпачынак, буду шукаць працу, цяпер здымаю пакой у бабулі. Вось такія справы.

— Зразумела, — адказаў Антось, быццам яму і праўда ўсё адразу стала зразумела і ясна ў Уладзіміравым жыцці. — То кінь парыцца: давай да мяне. Мне работнік не зашкодзіць. Ты ж вясковы, бачу, не грэблівы да працы. Я адзін застаўся, ды ты адзін — будзе нас двое.

— Хуткі вы, — усміхнуўся Уладзімір. — А раптам я злодзей, прайдзісвет які?

— Уладзя людзей як рэнтгенам прасвечвае, — усміхнуўся і Антось і дадаў сур'ёзна. — У яго нядобры чалавек ніколі спакойна спаць не будзе, калі гаспадар па гародзе ходзіць. А я хуткі, гэта праўда. А чаго раздумваць? Рабі — потым шкадуй, а то не зрабіў, а шкадуеш. Дарэчы, кажы мне "ты", я для сябе пера-

стаў гады лічыць. Вунь, бачыш, бярозкі на ўзгорку наперадзе? Во, там бацькоўскі хутар. Цяпер — мой дом. Бацьку ой прымушалі на сядзібу ссяляцца. Я ў школу хадзіў, а заданні ўдома пры газавай лямпе рабіў — не вялі нам электрычнасці. То як адвучыўся, нейкае варушэнне ў балоце дзяржаўным пайшло, дык можна стала за грошы правесці. Бацька і правёў…

Дарога збочвала направа, да вялікай вёскі, таго самага аграгарадка, дзе спыняўся аўтобус, якім Уладзімір ехаў. А між дзыбатага ячменю, ад павароткі ўлева, бегла грунтоўка з дзвюма каляінамі і ўздымалася ўгору. Антось павярнуў налева. З узгорка дарога імкліва рынула ўніз, паказалася невялікая рачулка. Масток быў драўляны, нядаўна зроблены.

— Во праз рачулку і ацалеў наш хутар, — расказваў Антось. — Тут ніколі добрага мастка не было, толькі возам з канём праехаць. А зямлі няшмат, гектараў трыццаць якіх, то калгасу гэтыя гектары да лямпачкі былі. Мост я сам рабіў, ну, плаціў сам, сваімі грашыма. Каб трактару праехаць, машыне. Але спачатку зямлю выпрасіў. Во, ад мастка — мае палеткі…

Узняліся вышэй. Справа ад дарогі разлягалася поле з буракамі, лапушыстымі, чыстымі.

— Адмысловае насенне купляў, па адным каліве садзілі. Каб прарываць не трэба было. Пяць кабет усе дзесяць гектараў песцяць. Увосень разлік будзе — атрымаюць капейчыну, буракі цукровыя, грошы неблагія. Уся вёска бяжыць ірваць і церабіць. А тут во, — Антось паказаў праваруч, — ячмень броварны. Збожжа пасадзіць далі, прыязджалі заказцы, глебу праверылі: каб чыстая была, без усякай хіміі. Бач, выкаласіўся, спее. Калгас абяцаў камбайн даць… От жа сука!

У кароткім нечаканым Антосявым ускрыку прабілася горкая роспач, нешта спрадвечнае, тое сапраўднае, што жыло ў ім і ніколі не пакідала. Уладзімір зірнуў наперад і ўсё зразумеў: з лугу, які падступаў з долу, ад рэчкі да ячменнага поля, невялікі статак кароў пасвіўся сярод ячменю. Пастуха не відаць было.

Антось рэзка газануў, праехаў наперад, вывернуў руль управа — у ячменю ўгадваўся колішні след і паехаў гэтым следам на кароў. Потым націснуў на сігнал. Рэзкі, гучны гук падхапіў з зямлі пастуха — той ляжаў за невялікім кусточкам лазы, а каровы спуджана кінуліся прэч ад машыны, выскоквалі на луг, хапаючы, выдзіраючы з зямлі і несучы ў ратох шматкі ячменю.

Машынай, спрытна паварочваючы ў розныя бакі, Антось адганяў кароў ад свайго поля, потым скіраваўся да фігуркі пастуха — невысокага росту, хударлявага, мабыць, падлетка.

— Міцька, тваю маць, сумленне апошняе з ранку выцадзіў? Што ж ты, сука, робіш, а?

Антось выскачыў з машыны, падскочыў да пастуха. То быў зусім не падлетак, а мужчына гадоў шасцідзесяці, з сухім маршчыністым тварам і вялікім, вострым носам з некалькімі тоўстымі чорнымі кропкамі на самай дзюбцы. Запалыя шчокі — у густым сіваватым шчацінні. Ён вышчарыўся, паказаўшы свае цёмна-жоўтыя і вялікія, як у каня, зубы:

— Чаго равеш? Ну, скубанулі трошкі каровы, прыдрамаў. Даволі з цябе, наясіся яшчэ на нашых карках. Гэй, малады, дай закурыць! — мужык нахабна гукнуў да Уладзіміра, які выйшаў з машыны і закурыў.

— Я наядаюся на тваім карку? — з пагрозай падступіў бліжэй да Міцькі Антось, але той як бы і не

заўважыў пагрозлівага кроку, цягнуў руку да Уладзіміра, чакаў цыгарэту.

Уладзімір жа разгубіўся: як яму, такой нахабнай сволачы, даваць цыгарэту?

— Не на маім, на бабскіх, на маім далёка не паездзіш, — мужык адказаў, не паварочваючы галавы да Антося, паправіў шапку-бейсболку з вялікім брылём (відаць, узятую ў каго з маладых). — Ну што табе, цыгарэціны шкада? — патрабавальна амаль крыкнуў да Уладзіміра. І той не стрымаўся, падаў пачак.

Міцька спрытна, хоць рукі заўважна падрыгвалі, дастаў цыгарэту, прыкурыў, смачна зацягнуўся.

— Ты от лепей скажы, Фёдаравіч, — выдыхнуў ён дым і павярнуўся да Зубеля. — Раней “Прыма” была, смачна курылася. Потым “Астра”, ну, даражэй, але ж добрыя цыгарэты рабілі. От з чаго цяпер робяць, га? Як накуруся за дзень, быццам сто катоў у роце пасралі.

— Значыць, Міцька, гэта я на карку тваёй бабы езджу, кішэні свае грашыма набіваю, так? — настойваў на адказе на сваё пытанне Зубель. — Ты так сказаў?

— Ну і сказаў, — ціха і неахвотна адказаў Міцька. — А то не працуюць яны на цябе.

— Добра, Міцька, добра… Калі ўвосень прыйдзе твая Анюта рваць буракі — я не стану сядаць на яе карак. Буду, як ты кажаш, на іншых ездзіць. Паехалі! — рэзка кінуў Антось Уладзіміру.

— Э-е, стой! — закрычаў Міцька. — У мяне меншая кватэру будуе, дзе я грошы вазьму на крэдыт?

— Твая будуе, не мая.

Антось павярнуўся спінай да Міцькі, зрабіў крок, калі той выціснуў нягучна праз зубы:

— Паспрабуй не даць дзялку — спалю к чортавай матары. І хату, і ячмень твой паганы.

Антось прыпыніўся, павярнуўся павольна. Міцька глядзеў у ягоны твар, не адводзіў вачэй, адно мружыўся.

— Ну, палі, — разважна адказаў Антось. — Толькі падбяры момант, каб уначы, з усіх чатырох бакоў. Каб я сам у хаце быў і выскачыць не паспеў. Інакш табе горай будзе…

У машыне Антось не прамовіў і слова. Ехалі ускрайкам ячменнага поля, потым лугам выбраліся на горку — да хутара.

Вакол дома раслі светлыя бярозкі — сапраўдны гаёк. Уладзімір выйшаў з машыны, аглядваўся.

— Вось дажджы пройдуць, раніцай выйшаў і збірай абабкі, — ціха пракаментаваў Уладзімірава любаванне Антось. — Хадзем у дом…

Уладзімір думаў, што ўвойдзе ў звычайную вясковую хату, ажно не — усярэдзіне гэта была амаль гарадская кватэра: вітальня, калідорчык на кухню, дзверы ўлева — відавочна, прыбіральня. У куце стаяла вялікая паўпразрыстая душавая кабіна.

— Ты не дзівіся, я тут усё для сябе перарабіў. Ацяпленне ад катла, батарэі. Не на газе, праўда, на торфе і дровах, але стае ўзімку. Адно што ўночы разы два ў моцныя маразы падымешся, — патлумачыў Антось. — Праходзь на кухню, кава кавай, а паесці сяготаго трэба. Я раніцай ем добра, бо не ведаеш іншы раз, дзе папалуднуеш. І табе тое самае раю.

Кухня была таксама цалкам сучасная, як у кожнай кватэры, утульная, аднак, адразу кідалася вочы — няма тут гаспадыні, не прыкладвала сюды руку жанчына. Нейкі строгі парадак, як казармавы, усё на месцы, быццам і ўтульна, але ж не тое і не так. Вось тых самых кветак у вазонах няма. Якая гаспадыня абыдзецца без кветкі на кухні?

З высокай лядоўні Антось дастаў каўбасу, масла, паставіў чайнік на пліту.

— Сядай, студэнт, пачувайся вольна, рэж батон. Гаспадыні ў мяне няма, будзем самыя… Каб не ты — ляжаў бы Міцька са зламанай сківіцай, далібог. Ты выбачай, раніцай ніколі не п’ю, але цяпер вып’ю, даўно так не калаціла. Ты як, вып’еш?

— Крышку, за кампанію, — адказаў Уладзімір. — Зранку піць…

— Ведаю, дружа, ведаю, — уздыхнуў Антось, дастаў з шафкі пачатую пляшку, кілішкі. — Ува ўсякім правіле ёсць выняткі. Сёння нікуды не паеду…

Уладзімір зрабіў канапкі, запарылі гарбату. Антось выпіў кілішак, адламаў кавалачак хлеба.

— Ты бачыш, што з людзьмі стала? Гэта ж як трэба было над іх галавой папрацаваць, каб на мяне як на ваўка глядзець? У мяне трактар свой, цяпер во аддаў аднаму хлопцу з вёскі. Той мне ўсё поле абрабляе, адзін, а трактар цалкам у ягоным распараджэнні. Кожнаму, хто ні папросіць — ніколі з трактарам не адмаўляю. Дровы дык дровы, узараць — калі ласка, сена прывезці — няма пытанняў. У бальніцу каго закінуць — бягуць да мяне, хоць не блізка. З горада лядоўню прывезці ці тэлевізар — да мяне. А восень прыйдзе, адразу ж чарга, ці не б’юцца, каб дзялку буракоў выдраць, пачысціць і здаць. І патрабую ж вельмі добра чысціць, каб не спісвалі потым вагу, а бягуць навыперадкі. Бо грошы ў мяне зарабляюць. І ўсё адно я вораг ім. І спаляць жа некалі, думаеш, сумняюся? Спаляць. Можа, і жыўцом…

У Антосявых словах не было найгранай трагедыйнасці, і менавіта тое, што казаў ён пра вось такі свой лёс амаль абыякава, праціналa Уладзіміра да дрыжыкаў на скуры. Каб неяк падтрымаць Антося, пачаў разважаць:

— Сам жа ведаеш: нельга быць усім добрым, пагатоў, калі наважыўся быць справядлівым. А сёння найменшая крыўда, калі яе на літры гарэлкі развесці, да дурнога падштурхне. Некалі… Некалі, мне бабуля казала, нашы вяскоўцы спалілі панскі дом. Першыя мужыкі напіліся для смеласці, пайшлі. Спалілі сядзібу, разам з панам і дзецьмі. Разрабавалі. Тады ці не ўся вёска была з Жабруноў. А сёння я — апошні. І дом мой згарэў… Праклён…

— Ды яны самыя сябе праклялі! Думаеш, той пан іх пракляў? Самыя! Як во Міцька. Гэта выкляты народ, разумееш? Выкляты. Няма ў яго будучыні, таму ён такі і ёсць: абыякавы да ўсяго, талерантны, як у тэлевізары кажуць. Чаму талерантны? Бо трываў і трывае. Усё трывае: здзекі з сябе, з родных, з дзяцей. Трывае. Чаму трывае?

— Не ведаю… — трохі разгубіўся Уладзімір — ён бачыў цяпер перад сабой не таго Зубеля, якога першы раз сустрэў на Ўладзявым надворку.

— А таму, маю пэўнасць, недзе там, у падсвядомасці, адчувае — яму канец. Ён выкляты. Міне колькі часу, яшчэ адно-два пакаленні — і вымруць. Нічога не застанецца…

— Слухайце… Слухай, Антось, калі ты кажаш, што ўсё дарэмна, што нічога не варта, дык на якую халеру табе зямля? — павагаўся і спытаў Уладзімір. — Дом? Ты, бачу, гэтульki грошай сюды ўклаў. І ўкладваеш. Які сэнс?

— А куды мне тыя грошы было дзяваць? На дзевак? Чэрава гадаваць на курорце? Не маё. Я тут. А сэнс у тым, каб самому сабе давесці, што ўсё марна. Зразумеў? Не хачу з верай жыць, няхай знікне некалі разам з маім хутарам. От тады пайду ў белы свет і шкадаваць не стану. Але буду пэўны, што сваё зрабіў…

— Неяк надта ж змрочна.

— А што ім і мне застаецца? Ты ўспомні і палічы: колькі разоў прадавалі сябе, свае святыні? Паганства прадалі. Каталіцтва прадалі. Уніяцтва прадалі. Праваслаўе прадалі. Камунізм прадалі. Сябе і сваіх родных прадавалі, абы выжыць. Як чарвякі ў каравячым бліне: хай нядобра, затое цёпла і ёсць што есці. У людзей няма нічога за душой, нічога! Няма за што ўчапіцца ў гэтым жыцці. Стрыжня няма. Гэта не народ — гурт… Добра, потым, калі хочаш, пагутарым. Справа першнаперш. Пад'еў? Хадзем, пакажу…

У вялікім прасторным пакоі стаялі скрынкі з розным кампутарным начыннем: сістэмны блок, манітор, калонкі, клавіятура і яшчэ ўсякая ўсячына. Ля сцен туліліся запакаваныя ў кардон пласціны ДСП — нешта з мэблі. Вялікая кутняя канапа, тэлевізар на падлозе. І ўсё.

— Карацей, з усяго трэба зрабіць утульны кавалерскі кабінецік, так? — са шчаслівым узбуджэннем запытаў Уладзімір. Яго вабіла такая работа: вось гара ўсяго, а тут прыклаў рукі — і ўвечары будзе шыкоўны пакой.

— Ну, Валодзька, калі табе ўдасца і мэблю скласці… вунь, на канапе ўсе ключы, інструмент розны. Дзе кампутар лепш паставіць, як думаеш?

— Думаю, якраз з мэблі і трэба пачынаць, — адказаў Уладзімір. — Кампутар жа на падлозе не вельмі зручна наладжваць. Дый з лініямі вызначыцца будзе прасцей. Вось тут, бокам да ўваходу.

— Адгадаў, і я так думаў. А паспееш?

— А што, так спешна?

— Не, — паскроб за вухам Антось. — Мы ж з табой на дзень дамаўляліся…

— А ў мяне нічога не гарыць, — усміхнуўся Уладзімір. — Кажу ж — у адпачынку. Дый не думаю, што будуць вялікія складанасці. Кружэлкі нейкія купляў?

— О, размова паважная. Вунь на акне глядзі, скрынка. Там іх штук дзесяць, сказаў, каб хлопцы накідалі чаго больш патрэбнага, на ўсе выпадкі жыцця.

Уладзімір падышоў да акна, перабраў пакеты з кружэлкамі.

— Ну, тут можна хоць бухгалтарскую кантору адкрываць, хоць відэастудыю, хоць праектны інстытут, — пакруціў ён галавой. — Шыкоўны запас. Усё ёсць, бачу, і сістэма ліцэнзійная... Распячатаная. Як купляў, паставілі сістэму?

— Здаецца, нешта ставілі ў тым сервісным цэнтры. Сказаў, каб толькі ўвамкнуў — і ўсё запрацавала.

— Дык выдатна. Тэлефон там... Усё, тады раблю.

— Пачынай. Там вунь дакументы розныя на падлучэнне сеціва, мадэм на вузле далі, яшчэ лінія для ноўтбука і нейкі там прыбор. Гаспадар сам, не пераймайся, як што трэба, шукай, знаходзь і бяры. А я пабягу на палетак, зараз Мірон пад'едзе, на бураках хімпраполванне рабіць будзем. Там такая зараза — без рэспіратара не папрацуеш...

Уладзімір пачаў разбірацца сярод розных пакункаў з мэбляй. Выбраў усё для кампутарнага стала, вызваліў месца, з асалодай прыняўся за зборку. І праўда, працаваў ён з незвычайным задавальненнем. І нават зусім не змяншала настрою тое, што гэта быў не ягоны дом, не ягоны стол, не ягоны кампутар. Збіраў і адчуваў, што хоць і не яго, але і не чужое яму. Аднекуль узнікла ўпэўненасць і не знікала, што Зубеляў дом стане яму блізкім. А што? Чаму б не згадзіцца з Антосявай прапановай? Што яму траціць? Дзіўны, вядома, гэты Антось... Жыве адзін, а такі гас-

падар. Ды толькі пальцам кіўні — кожная вольная жанчына з вёскі за такога пойдзе. Гарадская кватэра сярод сапраўднага гаю… Уладзімір прыпыніўся, расчыніў акно (сучаснае, пластыкавае), закурыў, страсаючы попел у невялікі садок пад куст язміну. Курыў, і быццам выпускаў з дымам прыкрыя думкі: якая яму справа да асабістага Антосявага жыцця? Няхай жыве, як хоча.

Сэрвісны цэнтр не падмануў — сістэма была ўсталяваная, нават офісныя праграмы стаялі. Надумаўся адпачыць, адважна скіраваўся на кухню і згатаваў сабе кавы. І праўда: кава ў Антося была розных гатункаў.

Не заўважыў, як праляцеў час. Было ўжо каля поўдня. Здаволены, адкінуся ў крэсле, калі запрацавала сеціва. Пусціў музыку, гучна, стаў далей разбіраць рэшту пакункаў з мэбляй. Стол пісьмовы, вялікі, дзвюхтумбавы. Склаў. Яшчэ адно крэсла. Невялікая кніжная шафа. Тумба пад тэлевізар. О, і праўда які выйдзе кабінет…

Вынес і склаў ля веснічак кардон, прыбраў, падмёў — паводзіўся вольна ў чужым доме. Зазірнуў у іншыя пакоі. Адзін — гаспадарская спальня. У другім ложак быў незасланы, на падлозе ў кутох стаялі высокімі горкамі адна на адной кнігі. Падумаў пакуль што іх не чапаць, кнігі нядоўга перанесці. Здаецца, усё…

Есці захацелася. Ужо меўся пайсці, зрабіць якую канапку ці ўхапіць кусок каўбасы, але падумаў, што і Антось жа недзе галодны… Пачакае…

Чакаць давялося з паўгадзіны, хоць праляцелі яны хутка — Уладзімір лазіў у сеціве. Пабачыў праз акно, як вяртаецца Антось, выйшаў насустрач.

— Ну, як справы, сядзіш галодны? Еў чаго? — Антось з рэспіратарам на шыі зайшоў на двор, стаў мыцца пад кранам — вывеў сюды, на надворак, ваду.

— Каву піў. Цябе чакаў. А вада адкуль?

— Ну і дурань. Лядоўні не бачыў? А вада… свідравіну замылі, помпа стаіць, хапае. Але добра, зараз гарачага зварым, толькі выбачай, пельмені, больш нічога не вару. Перакусім крышку. Што ў цябе там, паказвай…

Зазірнуў ад парога ў “кабінет”, аж свіснуў.

— Ну, Валодзька, рукі ў цябе, далібог, з патрэбнага месца растуць. Сеціва падлучылася?

— Усё робіць. І кабель — адзін табе ў спальню, другі да канапы для ноўтбука вывеў. Але бухгалтарскую праграму не ставіў — там жа пры інсталяцыі адразу ўсе дадзеныя заносіць трэба.

— Малайчына, адно слова. Эх, мне б такога памочніка… Бухгалтэрыю сам пастаўлю, кажу ж, курсы прайшоў.

— Памочніцу трэба, — акурат дарэчы ўставіў Уладзімір. — То не будзеш адныя пельмені варыць.

— Ат, на халеру? Мяне ж тут усё адно чакае поўнае фіяска. Не спаляць, дык некалі дзяржава ўсё адбярэ, ці пакрадуць, ці ў турму пасадзяць, што найхутчэй. Ну, от скажы, добра тады будзе той самай жонцы? Ішла за мяне, спадзявалася на добрае жыццё, а тут яма чорная. А як дзеці? Бацьку ў турму пасадзяць, а ім торбы на шыі?

Антось паставіў ваду на пліту, дастаў пельмені.

— Чаго ты турмы баішся? Што ты, крадзеш?

— У нашых турмах хіба злодзеі сядзяць? — хмыкнуў Антось. — Перайду каму дарогу, хоць са сваім ячменем — знойдуць, за што пасадзіць.

— А можна перайсці?

— Яшчэ як. Быў амаль перайшоў. Добра, са старшынём калгасным у нармальных дачыненнях… Ат, кінь пра дурное. Рэж хлеб, там сала даставай, смачнае, пад пельмені сама тое. Ты прыглядвай пакуль што, я спаласнуся, бо тхне ад мяне, як ад чорта.

Папалуднавалі, Антось скінуў брудны посуд у ракавіну.

— Ну, адпачні. Перахапілі крышку, пацерпім. Я за гадзіну ці больш пастаўлю сваё, потым і сонейка на захад, а ў мяне ў двары — бачыў — такі столік пад калінавым кустом утульны, пасядзім, паямо добра. Можаш нанач застацца ў мяне, пакой ёсць. А заўтра я ў горад па полудні, магу падкінуць, калі табе трэба.

— У горад якраз трэба, экзамен пераздаць. Дый выкладніку абяцаў адну справу зрабіць. Добра, працуй, я во посуд памыю ды пагуляю.

— Кінь дурное, які посуд? Я цябе на іншую работу наймаў. Ат, халера, забыўся ж зусім… Трымай…

Антось дастаў з задняй кішэні джынсаў партманет, борзда адлічыў грошы, падануў:

— Плачу як сабе за адзін поўны рабочы дзень плюс палова другога.

— Ды… — разгубіўся Уладзімір. — Я ж проста памог…

— Слухай, Валодзька, ты мне паможаш праз акно выпаўзці, калі мяне падпаляць. А цяпер ты рабіў работу. Ты б не зрабіў, я б выклікаў хлопцаў з вузла сувязі, наймаў некага, каб склалі мэблю, бо мне проста няма калі. Усё стаяла б паўмесяца, і ўрэшце заплаціў бы ўтрая больш. Усё, не спрачацца. Кармлю за тое, што госць, а плачу за тое, што робіш. Бяры!

Уладзімір узяў грошы — Антось яго пераканаў тым, што выклік майстроў з раёна абышоўся куды б даражэй.

— Ну, дзякуй…

— Бяры, бяры. Ды думай і перабірайся да мяне. На якую халеру табе той горад? Закіснеш у якой установе. Ты во прайдзіся, агледзься: дзе такое хараство пабачыш? Да рэчкі спусціся, там месца ёсць, некалі пашыраў я яго для падлеткаў, купацца можна…

Уладзімір выйшаў на ганак, пастаяў, аглядаючы двор. Па праўдзе, двара не было. Дом і новы хлеў (хутчэй, гараж для аўтамабіля) з паветкаю для дроў стаялі неабгароджаныя. Не было звыклых град за хлявом: сапраўды, быццам узяў нехта гэты дом і хлеў і ў адзін момант перанёс і паставіў вось тут, у гаёчку, сярод бяроз.

А бяроз было шмат, светлых, гонкіх і ладных. І трава пад імі, дробныя кусты — зусім як у шчырым лесе. Адно што невялікая сцяжынка вяла да гаража і за яго — да прыбіральні. Ды яшчэ пад вялікім, разлапістым кустом каліны з цёмна-зялёным бліскучым лісцем стаяў на адной тоўстай назе укапаны ў зямлю круглы стол. Чатыры невялікія лавы вакол, каб па двое сесці. Над сталом — нешта кшталту страхі з поліэтыленавай балонкі. Вісела лямпачка без абажура, проста ў патроне.

Уладзімір спусціўся ў дол, да рэчкі. Ішоў берагам, глядзеў на ваду. Ні пра што не думалася. Было ціха, толькі конікі звінелі перад захадам сонца. Не заўважыў, як зайшоў далёка, углядаючыся то ў хуткую, то дзе ў павольную, плынь. Рачулка была невялікая, але нейкая па-сапраўднаму жывая, ладная. Сустракаліся шырокія дзялянкі са стромкімі берагамі, пэўна што размытыя вясной у час паводкі. Было відаць, што тут глыбока. Гуляла рыба — то тут, то там нячутна расходзіліся кругі, а то і нешта гучна плёскала. Уладзімір даўно такога не зведваў: пачуццё амаль уяўнасці

таго, што бачыў і што рабіў. Нечым падобнае да сну: ты ідзеш, дыхаеш, глядзіш — і няма ніякіх, зусім ніякіх, думак, а без думак — ні трывогі, ні роздуму. Лёгкае замілаванне ад цішыні і красы ахутвае лёгкім воблачкам нейкай дрымоты і паўзабыцця.

Не ўтрымаўся — так вабіла плынь, раздзеўся і спаласнуўся ў халадкавай, незвычайна жывой вадзе.

Калі вярнуўся, пабачыў, што Антось завіхаецца ля століка пад калінай: кроіць, раскладае: хлеб, каўбасу, вараныя яйкі, цыбулю…

Сонца схавалася. Яны сядзелі ў лёгкіх прыцемках.

— Ты от пытаешся, Валодзька, чаму выкляты наш народ? Слухай, ты ж разумны хлопец, чытаў шмат. Помніцца, адзін пісьменнік наш пісаў у сваёй аповесці, як стары пан казаў дзяўчыне: не будзе вам шчасця на гэтай зямлі, бо не ваша яна. Гвалтам яе ўзялі. Вам далі, а вы і радыя, што гвалтам адабранае дасталася.

— Помню такое. Там яшчэ муж яе ўдумаў быў крыж на зямлі паставіць, — успомніў Уладзімір. — І тым выпрасіць у Бога каяты…

— Так… А што толку было з таго каяння? У адным яны каяліся, а ў другім яшчэ больш грахоў рабілі. Вунь як жанчына тая пайшла раскулачваць сваіх жа вяскоўцаў. На верную гібель гналі свае сваіх — і нічога, быццам гэта не яны, улада вінаватая. Памылі рукі. Суседа ўлада забівала — так трэба, трывалі. Маці ўлада забівала — трывалі. Бацьку забівала — трывалі. Жанок гвалтавала — трывалі. І той уладзе служылі. Забойцу есці падавалі і боты мылі. Вось скажы, каго ці што ў яго трэба забіць на яго вачох, каб ён кінуўся на забойцу? Скажы, ну?

— Ды скуль я ведаю, — аж адхіснуўся Уладзімір, бо ўсе свае словы Антось гаварыў з такой пякучай крыўдай і такім вінавачаннем, нібы перад ім сядзеў

той самы чалавек, у якога ўсіх забілі і ўсё забралі, а ён трывае.

— І я не ведаю, — сумна і ціха адказаў Антось. — Але я даўно стаў іншаму богу маліцца.

— Якому? — здзівіўся Уладзімір.

Адказаць Антось не паспеў — з дарогі пачуліся шаргатлівыя крокі. Азірнуліся — да стала падыходзіў той самы пастух Міцька.

— Паслаў Бог сёння, хай пашле заўтра, — маючы на ўвазе накрыты стол з кан'яком і закускай, сказаў Міцька, падышоўшы на крок да калінавага куста.

— Можа, хочаш, каб наліў, — без кпіну спытаў Антось.

— Не, дзякуй, я такога не п'ю, смачнае вельмі, — адмахнуўся Міцька і нечакана сцягнуў няёмка з галавы бейсболку, адкрыўшы лысаватую галаву з даўно не стрыжанымі валасамі. — Ты, Фёдаравіч, даруй за мой дурны язык. Ляпаю абы што. А раніцай... Жонка, халера, пахмяліцца не дала, а ўчора ўвечары перабралі трохі ў суседа... справа была. Дык мне гэтак млосна было, прылёг... ну і задрамаў, не дагледзеў. Вінаваты. Антось, не гані маю Анюту, як прыйдзе дзялку прасіць. Ты ж ведаеш: хто хутчэй і лепей за яе робіць? А на заробак мы ж так разлічваем... Капейка добрая, плаціш спраўна... Не гані, а? А я за ячмень той адраблю табе. Як трэба будзе, то клікнеш...

Міцька глядзеў на свае ногі, абутыя ў чорныя гумавыя боты. Вымавіў і як застыгнуў.

— Ты прысядзь, — трохі хрыпата прапанаваў Антось.

— Не, я пайду... Нельга мне, баба чакае, зарэ кінецца шукаць, — Міцька падняў галаву, зірнуў насцярожана, як пабіты сабака на гаспадара, на Антося.

— Добра, ідзі сабе, — крэкнуў Антось. — Будзем лічыць, не было сённяшняга рання. Але слухай, я ж табе даўно прапаноўваў: ідзі да мяне. Сіла і розум ёсць, я сад налета думаю закласці, кусты ягадніку насадзіць. Чаго адмаўляешся?

— Я сваё зямлі аддаў, — ашчэрыўся невясёлай усмешкай Міцька. — Не трэба яно мне. Мне і гэтак добра. А ад дабра дабро шукаць — бяду знайсці.

— Во як? То і я, па-твойму, на бяду набрыду? — выгукнуў Антось. — А ну, кажы праўду.

— Не ведаю я праўды, мне без яе спакайней, — адмахнуўся Міцька, павярнуўся, каб ісці, але прыпыніўся, стаў казаць хутка, з незразумелым выклікам: — Ты ж от нічога не памятаеш, нічога… А бацька твой памятаў. Памятаў, як дзед твой, ягоны бацька, у Аргенціну на заробкі ездзіў, як тыя даляры прывёз. Як зямлю гэтую во купіў. Колькі кустоўя пакарчаваў… Млын прывёз механічны, маслабойку, ваўначоску, крупарушку. На вашым хутары — а тут жа яшчэ дзве сям'і жыло, вазоў стаяла круглы год — як табар цыганскі. І не драў з людзей, са сваіх капейкі браў, а бяднейшыя дык і за так малолі, крупы дралі і воўну часалі. Як сумленне ў каго было, дык адрабляў які дзень. Пабудаваўся твой дзед, во дом цяпер стаіць. А потым… У вайну, от ты скажы, у вайну ўсё ацалела, а пасля вайны — усё забралі. Ну, калгас дык калгас. Бачыў бы ты, як твой дзед плакаў, калі праз месяцы два на той калгасны двор зайшоў: усё, што ў яго забралі, ляжыць разабранае, паржавелае, паламанае. Ні сабе, ні людзям. Стаў крычаць — яго заарышталі, праз паўмесяца вярнуўся дый памёр праз тры дні. Ты ведаў пра дзеда?

— Ведаў, — выціснуў з сябе Антось. — Навошта ты мне пераказваеш?

— А каб ты зразумеў, чаго я да цябе не пайду. От мне да пенсіі гадок застаўся, дацягну дый годзе. Нікому ў гэтай краіне зямля шчасця не прынесла. Ты сабе спрабуй. А я шукаць ужо не буду… Ну, бывайце… — Міцька павярнуўся хутка і пайшоў, шкрабучы ботамі ў высокай някошанай траве.

— Вось такая ў іх філасофія, — пасля доўгага маўчання прамовіў Антось. — Яны дзяцей сваіх ад зямлі адрывалі… як і мяне мае. У горад выпраўлялі, адно каб як далей ад зямлі, нібыта адчувалі нейкую бяду ў ёй. Яна ж ні ў чым не вінаватая…

— А хто вінаваты? Ці што? — ціха запытаў Уладзімір.

— Самыя і вінаватыя… Ты звярнуў увагу, як сказаў Міцька? А вось я звярнуў, мне як філолагу, такія адценні мовы выпадковымі не падаюцца. Міцька сказаў: “у гэтай краіне”. Разумееш, не “ў нашай краіне”, не “ў нас”, а “ў гэтай.” Яны тут нарадзіліся і жывуць, яны тут пахавалі сваіх бацькоў, тут нарадзілі сваіх дзяцей. Але сёння, пасля ўсяго не кажуць пра яе “наша”. Значыцца, і не адчуваюць сваёй. Адбылося страшнае, непапраўнае і незваротнае для іх — адбылося адчужэнне чалавека ад ягонай айчыны. І ты пытаешся, чаму ў іх няма будучыні? Ды яны ніхто…

— Ты там пра бога нейкага казаў, якому молішся. Нейкаму іншаму. Што за бог? — згадаў Уладзімір той момант, які перапыніў быў сваім прыходам Міцька.

— А, пра бога… — нехаця ўспомніў Антось. — Пісьменнік адзін сказаў, што ў нас Бог жыве, чуў такое? От, як падхапілі, носяцца дагэтуль, як дурны з дзвярыма. Раней думаў, што збрахаў пісьменнік. Як кажуць, прыгожая гіпербала. А потым уважлівей паглядзеў. Не, не збрахаў, не дзеля прыгожых слоў казаў. І праўда, жыве ў нас Хрыстос. Разумееш, чаму?

— Не, — заінтрыгаваўся Уладзімір. — Ты нешта так сумна кажаш… Што жыве — дрэнна?

— Дрэнна… І пісьменнік той, думаю, разумеў, што дрэнна. Хрыстос чаму вучыў? Рознаму вучыў. А нашыя людзі толькі частку ягонай навукі для сябе ўзялі, і не для жыцця, а дзеля выжывання. От часткай і карыстаюцца: трываць — вось іх галоўны закон. “Бог цярпеў і нам вялеў”. Чуў такое?

— Чуў, — крыху расчараваўся Уладзімір. — Але ж народ, у сэрцы якога жыве Бог, не вымра…

— От, дурны ты хлопец, хоць і разумны, — з сумам паківаў галавой Антось. — Які там Бог у сэрцах? Яны ж паганцы ў душы. Баба будзе ў царкву ісці, а кот чорны дарогу пяройдзе — пачне баба плявацца на ўсе чатыры бакі… Слухай, вось якая розніца паміж богам габрэяў, тым, старазапаветным, і Хрыстом? Добра, сам скажу. Старазапаветны бог габрэяў казаў сваім людзям: слухайце мяне, выконвайце законы і будзе вам… што? Што абяцаў бог габрэям?

— Ну… рознае абяцаў, — паціснуў плячыма Уладзімір.

— Ну, ты падумай — гэта сур’ёзна, лепей сам дайдзі да гэтага, а я пакуль што чайнік электрычны сюды прынясу, тут разетка ёсць, пап’ем, хто што захоча.

Уладзімір і праўда задумаўся, успамінаючы прачытанае ў Бібліі. Калі Антось прынёс і ўвамкнуў чайнік, наліў па трошкі ў чаркі, Уладзімір сказаў:

— Падумаў. Бог габрэяў даваў ім добры ўраджай, павялічваў колькасць статкаў, насылаў беды на іх ворагаў…

— Вось, Валодзька, у гэтым і існасць. А Хрыстос прыйшоў да нас, пасяліўся тут і кажа: ат, кіньце вы дбаць пра зямное, людзі! На тым свеце будзе вам царства. Галоўнае: падстаўце левую шчаку, як дадуць

па правай, здыміце апошнюю кашулю, калі судзяць вас. І трывайце, трывайце, трывайце. Так?

— Ну так, — мусіў згадзіцца Уладзімір.

— Мне сёння не трэба такі Бог, як Хрыстос. Пазней. Праз пакаленняў пяць–дзесяць, калі навучацца нашы людзі быць сабой. Калі зразумеюць, што закон "вока за вока" перш трэба навучыцца выконваць так, як ён даецца ў Старым Запавеце, а потым ужо — у Новым. Калі навучацца бараніць сябе, сваіх родных, годнасць сваю і сваю веру. Зарана да нас Хрыстос прыйшоў.

— І што цяпер? Якому богу маліцца?

— Цяпер? — Антось задумаўся. — Цяпер вып'ем. Але чакай, запалім святло.

Антось прыўзняўся, проста крутнуў лямпачку ў патроне. Яна бліснула не надта зыркім святлом, але прыцемкі вакол у адзін момант згусціліся. Ва Уладзіміра ўзнікла адчуванне, што іхная размова пра блізкае і зразумелае пяць хвілін таму стала бессэнсавай — бо навакольны свет нібыта знік. Навошта, дзеля чаго перажываць, калі ўсё тое бясконца далёка, калі яны тут адны, сапраўды ж — адны на цэлым свеце.

— Вось, хай свеціць нам лямпачка, — прысеў Антось на месца, прыўзняў чарку: — За тое, каб пакаяліся.

Выпілі, і Уладзімір спытаў, як пра нешта нязначнае, бо яму і праўда іх гаворка пачала нагадваць разважанні над старымі казкамі:

— Не зразумеў. Ты кажаш пра Хрыста, што не ў час прыйшоў, але ж менавіта Хрыстос патрабуе каяты. Ці ў нечым іншым нам трэба каяцца?

— У іншым, вядома, — задуменна прагаварыў Антось. — У іншым... Найвялікшы грэх нашага чалавека — у ягонай абыякавасці. У гатовасці ўсё дара-

ваць, абы толькі “вайны не было”. Абы выжыць. Вось у чым грэх. І так пакаяцца, каб назаўтра чалавекам сябе адчуць. Каб ніколі больш не грашыць: не заставацца наўзбоч, не трываць, не дазваляць гвалту ні з сябе, ні з блізкіх. Вось якое каянне трэба. Супольнае.

— Дык гэта нечым да крэўнай помсты падобна, — асцярожна ўставіў Уладзімір. — Як у горцаў…

— Вось пра горцаў і падумай, — нечакана горача выгукнуў Антось. — Ведаў я іх нямала. Не ў помсце рэч, а ў тым, што не даруюць яны ніколі ганьбы і гвалту ні з сябе, ні з чаго свайго. Разумееш? Яны не помсцяць — яны адэкватна адказваюць. І іх паважаюць. Іх нават баяцца — такія, як мы, да прыкладу, бо мы паважаць сябе і сваё не ўмеем.

— Мо такі менталітэт нацыі? Кажуць жа…

— Які к чорту менталітэт? — ускінуўся Антось. — Ты герб Пагоню ведаеш?

— Ну ведаю, — крыху зніякавеў Уладзімір ад Антосявай гарачнасці.

— А сэнс герба? Пагоня — значыць, пагоня. Значыць, калі ў цябе нешта забралі, укралі, то на каня — і дагані, вярні, пакарай злодзеяў! Вось які сэнс быў у нашых продкаў. А тут сталі жыць паводле прынцыпаў: забралі палову, дык пакланіся, дагані іх і аддай яшчэ палову ад таго, што пакінулі. Думаеш, на тым самым рэферэндуме, калі герб і сцяг змянілі, не разумелі гэтага? Пагоня ж недзе на роўні падсвядомасці вымагала чалавека быць годным, ёй трэба было адпавядаць, да яе сэнсу трэба было расці, душой цягнуцца і розумам. А навошта? Нас жа не б’юць — і добра. Адабралі ў бабы спадніцу? А мы во мех разрэжам — будзе апранаха. З цябе нагавіцы сцягнулі — яшчэ мех знойдзецца. Згвалцілі жонку? Дык жа не забілі, не змыліцца. Вось чаму выракліся Пагоні. Спа-

лохаліся. Нацыя недарэкаў, гультаёў і баязліўцаў... Ведаеш, Валодзька, я іншым разам іх ненавіджу — вось гэтых людзей нашых, вяскоўцаў. Але потым падумаю, астыгну. Яны мараць пра Царства Нябеснае. Будуць там сядзець на аблачынах, піць-есці амброзію, нічога не рабіць, адно атрымваць задавальненне. Таму іх тут нічога не хвалюе. Векавыя дубровы высякаюцца, рэчкі плытчэюць, крыніцы высыхаюць, птушкі знікаюць, звяры ўцякаюць — няхай. Ім жа Хрыстос, які тут жыве, сказаў: не рупцеся пра зямное. Вунь, птушкі нічога не маюць, не жнуць, не сеюць, жывуць, чаго Бог пашле... Эх, Валодзька, калі б перада мной Хрыстос пра птушак так сказаў, я яму адказаў бы. Ведаеш, што б адказаў?

— І што? — зацікавіўся Уладзімір.

— А я яму сказаў бы: Хрыстос, ты сляпы ці хочаш, каб я невідушчым быў? Ці ж ты не бачыш, што птушка ад нараджэння свайго да скону ў працы і працы? Зірні, як ластаўка па каліве носіць зямлю і сваёй слінай мацуе гняздо, як верабейчык па травінцы, па валаску збірае на ўтульнае гняздзечка, а колькі сучча ды вецця пераносіць бусел, каб змайстраваць седала? І яны не думаюць пра дзень заўтрашні? Яны жывуць, чым Бог пашле? Яны чакаюць манны нябеснай? А як дзеці народзяцца, птушкі спачыну не ведаюць цэлы дзень... Няма нікога ў прыродзе, хто быў бы такім лайдаком, як чалавек. Вось што я Хрысту адказаў бы...

— Думаю, ён бы з табой не пагадзіўся, — усміхнуўся Уладзімір.

— А мне яго згода і не трэба была б, — усміхнуўся і Антось. — Я адно б яго папрасіў: ідзі, Хрыстос, пажыві пакуль што ў іншым месцы, не чапай нас, дай ты нам навучыцца жыць годна. А потым ужо прыходзь,

навучай. Бо не людзей ты атрымаеш, а сапраўдных рабоў, — скончыў ён з уздыхам.

Цемра вакол згусцілася да чарнаты, адтуль выпырхвалі вялікія і малыя мятлікі, кружлялі над лямпачкай. Стукаліся ў гарачае шкло, зноў кружлялі, стукаліся…

— Ведаеш, чаго мятлікі сюды ляцяць? — узняў вочы на лямпачку Антось.

— Ведаю, — кіўнуў Уладзімір. — Страта арыентацыі. Яны лятуць звычайна, карыстаючыся месяцовым святлом, іх палёт доўгі і роўны. А тутака во лямпачка блізка. От і лятуць па спіралі, і ўрэшце стукаюцца ў яе.

— Малайчына. Вось і мы так, — упэўнена выказаў Антось думку. — Нам замест сапраўднага святла гэтулькі разоў падробку падсоўвалі — а мы беглі на тое нібыта святло, стукаліся лбамі. Галовы ў крыві, рукі ў гразі — але ж наперад, вунь яшчэ крок — і сонца заззяе. А замест сонца зноў — лямпачка Ільіча…

У недалёкай рэчцы даўно спяваў жабін хор — на ўсе лады. Недзе далёка ў лузе раптам заскрыпеў драч, і ягоны голас нібы абудзіў Уладзіміра, прымусіў думаць пра іншае.

— Ведаеш, Антось, я драча апошні раз чуў гадоў пяць таму, ці болей. З дзяўчынай адной заседзеўся позна, і пачуў. Так усцешыўся быў — у нас жа ўсе лугі акультурылі, не засталося птушкам месца. У маленстве так любіў слухаць, засынаў пад ягоны скрып. І вось у цябе яго чуваць…

— Ага, толькі другі год спявае. Дагэтуль таксама не чутно было… А чаму ты нежанаты?

— Ды, так атрымалася… Не шанцавала на дзевак. Клікала ў прымы адна, але ж… не магу проста пайс-

ці і жыць. Каханне хоць нейкае, мабыць, трэба. Ды я яшчэ малады…

— Так, ты яшчэ малады…

— Слухай, Антось, а ты сам чаго адзін? Ты чытаў так шмат, ведаеш усяго… Адкуль гэта? У Сібіры — мне дзед казаў, што ты там быў — кніжкі хіба чытаюць?

— Ат, — адмахнуўся Антось, потым задумаўся, падпёр рукой бараду, нахіліўся над сталом. — У Сібіры якраз і можна чытаць кніжкі. Бо пасля змены якія справы? У карты гуляць? Гуляў, але ж і чытаў… Пакі́дала мяне жыццё, featureрознае было. І плытагонам працаваў, і з геолагамі ў экспедыцыі хадзіў, і на нафтавых буравых быў. Чаго шукаў? А хто яго ведае. Можа, сябе шукаў. Я ж інстытут быў скончыў, філолаг, настаўнік мовы і літаратуры. Была ў мяне дзяўчына, на год маладзейшая, таксама ў інстытуце навучалася. Сябравалі мы моцна, здавалася, нішто нас не разлучыць. Думалі, паедзем разам вось у такую вёску, бо размеркаванне ў нас было толькі па вёсках, у гарады месцы ўсе пазабівалі сынкі розныя ды дзеўкі з добрым перадком. Ды пасварыліся. Праз дробязь пасварыліся, як на сённяшні розум. А тады — крыўда была. Глухая і балючая. Я паехаў адзін. Можа, што б і змянілася, каб не пачуў, што яна раптам стала сустракацца з нейкім. Адпрасіўся ў аддзеле адукацыі, усё адно ставала тады настаўнікаў мовы. І паехаў у Сібір. А Сібір — яна такая. У ёй дакладна Хрыстос не жыве. Там не проста воўчыя законы. Там законы нечалавечыя. Гэта як тэорыя Дарвіна пра эвалюцыю. Дужэйшыя выжываюць, якасці, якія дапамагаюць выжываць, робяцца дамінантнымі. Я зубы сцяў, загадаў сам сабе: выжыві, прайдзі праз усё. І не з’язджай нікуды, пакуль дакладна не набудзеш тыя якасці для выжывання. А ведаеш, якая най-

галоўнейшая якасць там, дый тут? — раптам запытаў Антось, зірнуў на чайнік, які гучна забулькатаў і вымкнуўся. — Што піць будзеш? Каву на ноч?

— А мне без розніцы — ноч ці дзень. Як стамлюся, то сплю добра. Каву. — усміхнуўся Уладзімір. — Дык якая якасць галоўная?

— Налівай сам колькі трэба… Годнасць, — цвёрда адказаў Антось і нават указальны палец выставіў угару. — Калі зможаш годна трымацца ўва ўсякіх абставінах — выжывеш. Бо такіх, як ты, будуць паважаць. Табе будуць верыць. На цябе будуць спадзявацца. Цябе проста будуць уважаць за чалавека. І будуць хоць крышку, ды шанаваць мацнейшыя за цябе. От, разумееш, якая цікавая штука выходзіць. Там — умовы не для людзей, правілы жыцця — нечалавечыя. Але калі ты чалавекам і ў такіх умовах застаешся — табе павага. Я думаў, чаму так? А потым зразумеў. Апошнія бандыты не хацелі ператварыцца ў звяроў, страчваць дарэшты сваё чалавечае аблічча. Таму ім так важна было бачыць перад сабой вось такога — годнага чалавека. Ім важна было мець нешта сапраўднае, што не збрэша, не прадасць… Дык вось, Валодзька, годны — не цярплівы.

— Ды я ведаю… — згадзіўся Уладзімір, спытаў пра іншае: — А чаму ты вярнуўся? Адчыніў бы якую фірму ў Расіі. Навучыўся ж зарабляць грошы…

— Пакуль бацькі жывыя былі, дык неяк і не цягнула сюды, — прызнаўся Антось. — А потым прыехаў і зразумеў: як надарыцца што, у мяне ж няма месца на гэтай зямлі, апрача бацькоўскай хаты. Усё чужое. І офіс у мяне быў, і супрацоўнікі, і бізнес невялікі. Прадаў усё. Не, не шкадую ні кроплі. Ведаеш, Валодзька, калі пачаў сам за сябе адказваць, лягчэй мне стала. Неяк прасцей.

— Так і не ажаніўся?

— Не, не ажаніўся. У Сібіры былі жанчыны, там жанчыне без сталага мужчыны немажліва, па руках пойдзе і загіне. І ў мяне былі… часовыя. За жанчыну адказваць трэба, цалкам. Як за сябе. Там я мог адказваць. А вось тут — не, не стану. Бо адчуваю, казаў табе: нічога ў мяне не выйдзе, некалі марна ўсё пойдзе, — без скрухі скончыў Антось, усміхнуўся невясёла, прапанаваў: — Давай яшчэ па адной ды пойдзем спаць. Я прызвычаіўся рана ўставаць, трэба каб галава была нецяжкая. Едзем у горад?

— Ага, едзем, — згадзіўся Уладзімір. — Зладжу там справы, зазірну на кватэру да бабулькі, ці ўсё ў парадку… Вось ты кажаш, што нічога не выйдзе ў цябе, што ўсё дарэмна — і робіш. Хоць ты і казаў пра прычыны, мне ўсё адно незразумела… Я не змог бы так…

— Ды я і не хачу, каб ты мог. І прапанова мая да цябе — больш для цябе самога. Калі не вызначыўся пакуль што з месцам, дык папрацуй у мяне. Але прывязваць цябе надоўга не хачу. Нікога не хачу. Таму і з садам не спяшаюся, таму і скаціны не трымаю, каб работнікаў не наймаць. Разумею: прыкіпіць чалавек душой да справы, надта ж балюча будзе адрывацца. І пагатоў не хачу, каб жанчына якая тут была.

— Ды як жа мужчыне зусім без жанчыны? — вырвалася ў Уладзіміра.

— Горад ёсць, — адмахнуўся Антось. — Раз на тыдзень можна пасядзець у якой рэстарацыі, там усё знойдзецца. Машына вялікая… Ідзем?

— Ага, зараз, пакуру яшчэ, — адказаў Уладзімір. — Слухай, а не страшна табе тут аднаму? Ну, вяскоўцы вяскоўцамі, гэта адно, дзяржава таксама. А бандыты розныя? Іх хіба няма?

— Іх меней за ўсё баюся, — рагатнуў Антось. — На іх у мяне пушка ёсць.

— Сапраўдная? — акругліў вочы Уладзімір.

— Ну, не цацачны ж, сапраўдны пісталет.

— Дык…

— Вось табе і дык-індык. Некалі даўно, разумны амерыканец, партрэт якога на далярах сёння, Франклін, расказваў сваім амерыканцам анекдот: што такое дэмакратыя і што такое свабода. Калі два ваўкі і адна авечка галасуюць за тое, што будуць есці на вячэру, гэта — дэмакратыя. А свабода — калі ўзброеная авечка апратэстоўвае вынікі галасавання. Разумееш? Калі чалавек не мае права і мажлівасці ў кожны момант абараніць сваё жыццё і жыццё сваіх блізкіх — ніякай свабоды насамрэч у яго няма, — скончыў Антось сцішана, махнуў рукой, нібыта адганяў свае думкі, якія яшчэ роіліся ў галаве і прасіліся ў словы: — Кінем пра дурное. Пакуры сабе. Нічога не прыбірай — птушкі прылятуць, падзяўбуць. Тут вавёрка іншы раз скача, бачыў.

Ён падняўся з-за стала, крэкнуў, выпрастаўшы спіну, пайшоў да хаты.

Уладзімір сядзеў, курыў. Жабін “канцэрт” змоўк, было ціха. Драч недзе ў цёмным лузе раз-пораз падаваў свой голас, як бы падкрэсліваючы цішыню наваколля, ды пырхалі вакол лямпачкі мятлікі. На душы ў Уладзіміра было і спакойна, і разам сумна. Пачуццё, якое ад полудня даганяла Уладзіміра, урэшце сфармавалася ў пэўнае перакананне: як жа тут не стае жанчыны! Як недарэчна: быць ім двум, здаровым мужчынам, сярод такога хараства і ўтульнасці, займацца справай, недалёка ад людзей, але заставацца самотнымі і разам, і кожнаму паасобку. Тут бачылася незразумелая пакуль што штучнасць, несапраўднасць. І вось цяпер

Уладзімір зразумеў Антосяў настрой наконт ягонай будучыні: так, хутар са сваім гаспадаром выглядаў чужым і непатрэбным у існай сістэме дачыненняў і каштоўнасцяў.

Старанна патушыў на сподачку недакурак, узняўся і асцярожна, каб не апячыся, крутануў гарачую лямпачку. Цемень, якая аж выцяла па вачох, нібыта падвяла рысу пад ягонымі думкамі: вось і гаёчак, і хутар, і думкі, і памкненні могуць заўтра знікнуць беззваротна, як знікла святло лямпачкі. І ўсё зноў стане аднолькавым.

## 6

На ноч Надзея не вярнулася: Алесь, падумаўшы, не стаў і тэлефанаваць: на лецішчы, куды паехала сястра да сваёй сяброўкі, сувязь была не вельмі добрая. Калі яна сама не тэлефануе, мабыць, занятая. Яна не першы раз выпраўлялася туды — дапамагала з градамі, за што сяброўка аддзячвала гароднінай. І нанач, бывала, заставаліся: на лецішчы ёсць маленькі, але ўтульны дамок, электрычнасць. Часам там збіралася цэлая кампанія жанчын, настаўніц: далей ад дзяцей і іхных бацькоў яны маглі сабе дазволіць тыя радасці, якія настаўніку даводзіцца хаваць.

Назаўтра Алесь вярнуўся з універсітэта да поўдня — узяў работу з сабой.

Сястры дома не было. Ну так, яна сёння мусіць быць у школе. У яе працоўны дзень. Значыцца, з лецішча раніцай і паехалі…

У кватэры было трохі вусцішна. Нечакана ціха. Нават на двары не чуваць гоману, хіба што машыны.

Дзіўна трохі, лета ж, канікулы пачаліся, але двор між трыма шматпавярховікамі быў амаль пусты. На дзіва бязлюдны і сцішаны. Нейкі замёрлы.

“От жа, загулялася, а паесці нічога няма”, — падумаў Алесь пра Надзею без асаблівай крыўды, і, пакуль што адклаўшы ўбок свае паперы, паставіў грэцца ваду: нічога не заставалася як варыць пельмені. Добра, што іх запас у маразільні быў заўжды.

Усё ж набраў Надзею. Механічны голас паведаміў, што “абанент знаходзіцца па-за межамі дзеяння сеткі”. Мабыць, разрадзілася батарэя, а зараднага з сабой не ўзяла…

Хацеў выйсці пакурыць на балкон.

Праходзячы праз вітальню, пачуў ціхае шкрабанне жалеза аб жалеза — нехта з пляцоўкі калідора спрабаваў патрапіць ключом у замочную шчыліну.

Па ўсім целе імкліва пабеглі дрыжыкі, Алесь застыў, разгублены: што цяпер рабіць? У ягоную кватэру нехта хоча залезці. Нехта чужы, відавочна ж, падбірае ключы.

Што рабіць?

Алесь нібыта збоку пабачыў сябе: голы па пояс (было горача), у адных спартовых нагавіцах, у шкарпэтках. У руках — нічога, і ён не паспее ў іх хоць нешта ўзяць, дый няма тут чаго ўзяць у рукі, малаток і той недзе ў каморы. Нож? Алесь павярнуўся і асцярожна пераставіў нагу ў бок кухні, пільна прыслухоўваючыся да дзвярэй. Ці паспее? Хоць малаток, якім Надзея адбівае мяса…

Замок у цішыні кватэры суха і гучна пстрыкнуў раз, потым другі. Ручка павольна пайшла ўніз.

Алесь замёр.

Дзверы расчыніліся.

Менш за ўсё Алесь чакаў убачыць сястру. Хоць гэта здавалася б зусім лагічным вось цяпер, удзень, сястра прыйшла палуднаваць. Але яна ніколі вось так, цішком, не адмыкала замка, таму нават думкі не мільганула, што за дзвярыма — Надзея.

Яна стаяла ў пройме дзвярэй, а агіднае адчуванне бяды ўсмоктвала Алеся ўсяго цалкам: ён раптам зразумеў, што з сястрой здарылася нешта страшнае, непапраўнае, страшнейшае за смерць мужа, маці, за бацькаву няпамяць. Бо такой Надзея ніколі не была.

Пакамечаная, у брудных плямах, салатавая спадніца і белая блюзка, раскудлачаныя і дрэнна прычасаныя валасы, цёмная пляма на назе — след ад удару, няйначай — ад калена левай нагі цягнулася вышэй, пад спадніцу. Усё гэта сведчыла пра гвалт над ёй. Але самым страшным быў Надзеін пагляд: яна глядзела на Алеся і быццам не бачыла яго. Мільганула недарэчная думка: Надзея п’яная. Але адразу знікла — на шэрым, нечакана маршчыністым твары застыла грымаса перажытага шоку. У вачох быў не проста боль — там быў жах.

Першы раз за сваё жыццё Алесь адчуў такі востры жаль да сястры. І разам з жалем — сваю асабістую бездапаможнасць і нікчэмнасць, бо Надзеін пагляд сведчыў пра тое, што ўжо нічога не зменіць. Раней бяда прыходзіла да іх дваіх, яны дзялілі яе разам, цяпер жа нешта невядомае праклала між братам і сястрой мяжу: сястра стаяла па той бок, дзе была яшчэ невядомая яму, Алесю, жудасць, а сам ён — тут, дзе цішыня кватэры, дзе зараз забулькоча вада ў рондлі, пакліча кінуць туды пельмені.

— Абцас... адзін паламаўся, дык я другі адламала сама, — безуважна да ўсяго прагаварыла першыя словы Надзея, ступіўшы крок у вітальню, і Алесь

зразумеў, чаму яшчэ так балюча яму было глядзець на сястру: яна стала меншая ростам, ён не бачыў яе такой вось у гэтых дзвярах.

Голас у яе быў сухі, без усялякіх эмоцый — яна проста канстатавала факт: вось, туфлі засталіся без абцасаў. Гэта было невыносна, і Алесь спытаў ціха, як мог спакойна і спагадліва:

— Што… здарылася, Надзея?

— Не пужайся, мяне не гвалцілі, — адказала Надзея, абсунулася на пуфік у вітальні, выцягнула асцярожна ногі, адкрыўшы іх вышэй за калені, і Алесь пабачыў яшчэ адзін сінявата-барвовы пісяг. Надзея прыціснулася патыліцай да сцяны, заплюшчыла вочы. — Хоць, можа, было б і лепш… Торбачка каля дзвярэй, вазьмі… У цябе ёсць грошы? Трэба заплаціць… Амаль мільён. Я была ў турме. Мяне судзілі…

Неверагодна, але словы сястры выклікалі ў Алеся палёгку. Суд — не гвалт, дзякуй Богу, што так. Ён выйшаў на пляцоўку, падняў з падлогі Надзеіну торбачку, выцягнуў ключ з замка. Зайшоў і зачыніў дзверы на засаўку. Уяўленне ліхаманкава малявала карціны таго, што магло адбыцца з сястрой. Хутчэй за ўсё, жанчыны трохі перабралі на лецішчы, можа, паехалі ў горад, дзе разышліся ў якой кавярні. Што ж, прыкрасць такую можна перажыць. Але сінякі адкуль? Што яны, біліся з кім? З міліцыянтамі?

Алесь зірнуў на Надзею, і сэрца сціснулася: яна плакала. Па твары цяклі слёзы, не па адной скочваліся, а жывымі струменьчыкі блішчалі на шчоках, беглі далей па шыі, па грудзях. Алесь першы раз бачыў сваю дарослую сястру, якая плакала.

— Ой, мамачка мая родная, за што ж мне такое!?

Алесь фізічна ўздрыгнуў ад поўнага болю стогнугалашэння, тая невялічкая палёгка, якая з'явілася,

раптам знікла. Бяда, вялікая бяда здарылася з сястрой. Што рабіць? Што цяпер рабіць? Супакоіць як?

Кінуўся да сябе ў пакой, у сакратэры схапіў пачатую пляшку каньяку.

— Зараз, Надзейка…

Рукі дрыжэлі, але наліў кілішак, не разліўшы напою на падлогу, паспяшаў да сястры: кілішак у адной руцэ, пляшка ў другой.

— На, выпі… Выпі крышку, супакоішся…

Сястра не адмовілася, расплюшчыла заплаканыя вочы, усё павольна выпіла, нібы ваду.

— Яшчэ выпі.

Надзея кіўнула ледзь, прытрымала кілішак, пакуль Алесь налье.

Адпіла палову, выдыхнула:

— Ой, мамулечка мая… Алесік, нешта булькоча на кухні…

— Там… вада… пельмені… варыць.

— Не хачу есці. Божа, як гідка ўсё… Пусці ваду, няхай наліваецца ў ванну. Я такая брудная, аж самой да сябе дакранацца брыдка… Не буду ў пакой заходзіць… у ніжняй шуфлядзе камоды… ты ўжо прабач, вазьмі там мне… майткі і ручнік вялікі. Халат мой на канапе. Потым… Я раскажу… Не пужайся, усё мінула… горш ужо не будзе. Дапраўды не будзе.

— Добра, я зараз…

Алесь кінуўся ў лазенку, пусціў ваду. Потым на кухню, перакрыў газ. У Надзеін пакой, схапіў яе халат, з лёгкім пачуццём сарамлівасці, якое нават тут выявілася, пратачылася з глыбінь выхаванасці — ніколі не зазіраць у жаночыя рэчы, схапіў тое, што ляжала зверху, ручнік… Нейкія простыя дзеянні яму цяпер былі так патрэбныя: ён мусіў хоць нешта рабіць, каб выправіць, вярнуць у былое рэчышча іхняе жыццё.

І яшчэ прыгнятала ўзніклая вінаватасць: ён жа мужчына, ён мусіў бараніць сястру. А разам з вінаватасцю кволілася асцярожная прыкрасць: ну што яны там такое ўчынілі, што скончылася так балюча?

Надзея стаяла ў ванне, скінуўшы брудныя, запыленыя туфлі з адламанымі абцасамі ля парога. Яна моўчкі ўзяла пададзенае Алесем. Глядзела на сябе ў люстэрка.

— Ты не любіш, ведаю, — ціха сказала яна, не паварочваючыся да брата. — Зайдзі на які апазіцыйны сайт, паглядзі. Учора, ля вакзала… была акцыя. Сярод тых, каго пахапалі, была і я. Потым… Ідзі.

Чаго яна туды пайшла?! Чаго? Ён жа колькі разоў казаў: не лезь у палітыку! Ты — настаўніца, ты мусіш быць па-за палітычнай бруднай гульнёй. Як і сам ён, навуковец. Нічога не вызначаецца на плошчах…

Але запусціў кампутар, у думках падганяючы запаволенае гружэнне сістэмы. Ён ведаў (пераказвалі), што ўжо двойчы былі гэтак званыя маўклівыя акцыі. У асноўным моладзь. Выходзяць на плошчу і стаяць паўгадзіны. Проста стаяць, без лозунгаў і крыкаў, без плакатаў. Ідэя акцыі, казалі, нарадзілася ў сеціве: як пратэст супраць кіраўніцтва краінай.

Алесь не раз і не два выказваў свае думкі наконт існага стану рэчаў у грамадстве. На кафедры, дома. Ён не баяўся, бо лічыў нармальным мажлівасць для кожнага выказаць тое, што думае. Яго не здавальняла шмат чаго, шмат чаго абурала, злавала, выводзіла з сябе, наганяла нуду і яшчэ часцей — абыякавасць да поўнай спустошанасці, калі мажлівым і разумным бачылася адзінае: на ўсё махнуць рукой. На краіну, на народ, які не хоча нічога ні ведаць, ні помніць, ні шанаваць. Алё ён штораз супакойваўся і працаваў аддана як мог, бо з усяго стваральнага ён мог прызнаць

толькі працу. Элементарную стваральную працу, якая хай пакрысе, хай па ледзь-ледзь, але дае вынікі. І хай тыя вынікі будуць запатрабаваныя праз гады — галоўнае, каб у час запатрабаванасці новаму было на што абаперціся. Але Алесь быў супраць усякіх дзеянняў, якія маглі быць працягам слоў пратэсту. Пратэст нічога не можа даць, апрача пратэсту. Усякі пратэст — рэвалюцыя, а рэвалюцыйнае змяненне свядомасці заўсёды прыводзіла да яшчэ большай бяды і большай крыві. І таму ў нейкай меры Алесь быў на баку ўлады, якая рэагавала на пратэсты паўладнаму: арыштамі і штрафамі. Гульня, думаў Алесь. Адрэналіну хочацца абодвум баком…

Ён і праўда ніколі не завісаў на апазіцыйных сайтах. Яму іншы раз пераказвалі навіны, так. Але сам не імкнуўся там бываць. Яго раздражняла адкрытая варожасць людзей да ўлады, шчырая нянавісць. Гэтак не павінна быць, лічыў Алесь. Нянавісць не можа быць стваральнай.

Адкрыўся сайт.

Алесь замёр ад неспадзяванага: на фотаздымку двое амапаўцаў і яшчэ адзін у цывільным валаклі — так, проста валаклі, маладую жанчыну. Дужыя дзецюкі ў форме заціснулі пад пахамі высока аголеныя дзяўчыніны ногі, ззаду дзяцюк з рабаціністым тварам прытрымваў цела за руку, а то б галава цягнулася па ходніку. Аднак доўгія русявыя валасы ўсё адно падмяталі шэрыя і чырвоныя пліткі, вольнай рукой яна як спрабавала схапіцца за іх, утрымацца.

Яны цягнулі дзяўчыну нагамі ўперад.

Толькі адзін гэты факт выбухнуў такім нутраным пратэстам, што Лобач задыхаў часта і глыбока. Каму яшчэ, як не яму, ведаць: што значыць — нагамі наперад. Ніколі жывое нельга так несці.

На здымку была не Надзея, жанчына была ў кароткай чорнай спадніцы і белым гольфе.

Але... Надзею ж, відаць, цягнулі так сама... Не маладую п'яную смаркачку, а настаўніцу, класнага кіраўніка выпускнога класа, інтэлігентку — вось так цягнулі?!

За што? Што там такога магла зрабіць Надзея? Проста быць у той момант на тым месцы. Неверагодна! Як жа можна, вось так — хапаць? Яна казала, што яе судзілі і аштрафавалі... Дык што суд? Няўжо там суддзі не бачаць, хто перад імі: заўзяты апазіцыянер ці проста выпадковы чалавек?

Як так можна? Мы ж цывілізаваная краіна...

Здымкі мяняліся адзін за адным. Алесь пераходзіў з сайта на сайт, пстрыкаў і пстрыкаў... Было невыносна балюча ўсведамляць, што дзікунскі гвалт сапраўды быў. І не недзе далёка — тут, у яго горадзе. Раней усё, што адбывалася на палітычнай арэне, здавалася далёкім, але цяпер адбылося так блізка, што прыйшло ў ягоную сям'ю. І таму здымкі — усе, што ні бачыў Алесь, сталі нібыта ягонай сямейнай хронікай. Тое, што раней падавалася амаль віртуальным, ураз напоўнілася рэальнымі, сапраўднымі пачуццямі болю, сораму і нянавісці.

Частка Лобачавай свядомасці, якая заўсёды бараніла душу ад вонкавага зла і чужой бяды, ад лішняга хвалявання, ад непатрэбных перажыванняў, скуголіла цяпер тонкім голасам: кінь, не глядзі, пашкадуй свае нервы, што табе да таго? Яму трэба было ўстаць і ісці, а хоць бы варыць тыя чортавы пельмені. Але Лобачу важна было пабачыць усё, разгледзець кожны здымак. Ён зразумеў, што шукае Надзею. Нешта спрадвечна мужчынскае абудзілася ў ім у гэтыя хвіліны, і ён шукаў, хацеў пабачыць твары тых, хто хапаў,

хто цягнуў самага дарагога для яго чалавека на зямлі, адзіна блізкага — ягоную сястру. Навошта шукаў? Так, каб ведаць. Каб пабачыць: што на тых тварах.

Алесь сядзеў перад маніторам і фізічна адчуваў, як тыя электрамагнітныя хвалі, што стваралі малюнкі на маніторы, траплялі ў грудзі, насычалі нутро такой роспаччу, якой дагэтуль не даводзілася адчуваць ніколі.

Лобач устаў з-за кампутара спустошаны, проста ніякі. Было адчуванне, што раптам у свеце ўсё змянілася. Абрынулася тое галоўнае, што падавалася вечным, на чым трымалася сама каштоўнасць чалавечага жыцця, самога чалавека.

Ля пуфіка ён падняў пляшку з кілішкам, прайшоў на кухню, ліну ў у кілішак каньяку, потым, перадумаўшы, пашукаў вачыма які іншы посуд, узяў кубак для гарбаты. Піць каньяк з кубка было нязручна, вадкасць нечакана выцякала з куточкаў вуснаў, але Лобач глытаў, не адрываючыся, пякучы напой.

Сеў, закурыў тутака ж — на балкон цяпер ён не мог выйсці: там быў горад. Горад, у якім мажліва такое.

Надзея выйшла з лазенкі басанож, у халаце, з завязаным на галаве ручніком. Такая звычайная, такая мірная карціна, што раптам падалося: а можа, і не было нічога? Але Надзея павярнулася, і Алесь пабачыў яе вочы ў цёмным паўкружжы. Там, у вітальні, кругі пад вачыма амаль не заўважаліся…

— Налі мне крышку… Трэба было б валяр’янкі выпіць, але што ўжо… Не ведаю, як змагу заснуць. Напіцца трэба. Вочы заплюшчу — і ўсё стаіць…

Надзея села пры стале, на канапку, адкінулася на невысокую спінку, зноў прыціснулася патыліцай да сцяны.

— Ведаеш, вось дапамагае стаяць, роспач крыху спадае, калі патыліцай да халоднай сцяны прыціснуцца, ці хоць да чаго цвёрдага. Розум быццам святлее, нібыта знаходзіць хоць нешта цвёрдае пад сабой… Адна дзяўчына ў камеры падказала… Нас у камеры было… не ведаю колькі. Паляжаць удалося толькі двойчы, па паўгадзіны. Адчыні акно і дай мне цыгарэту…

Алесь паслухмяна выканаў просьбы сястры, хоць ведаў, што курыць яна кінула гады з тры таму.

Сюды, на пяты паверх, вулічны шум амаль не далятаў. Дый не было яго, Лобач жа бачыў іх пусты двор.

Надзея выпіла, закурыла.

— Бачыў здымкі?

— Бачыў. Цябе не заўважыў нідзе.

— Ну і добра… Сорамна так — не ўяўляеш.

Яна асцярожна зацягвалася, потым патушыла амаль цэлую цыгарэту ў попельніцы. Зноў уперлася патыліцай у сцяну.

— Такі вось звычайны, цёплы вечар. Выйшла з вакзала, перайшла праз плошчу. Неяк так, мімаходзь, падумала: нешта тут людзей сёння шмат, глядзі, які цёплы вечар, засумавалі людзі за сонцам, ці што… Іду няспешнай хадой, не гляджу на бакі, і тут двое мужчын маладых, у цывільным, наперадзе мяне хапаюць за рукі хлопца, гадоў васямнаццаці. Той з дзяўчынай ішоў. Ён выдзіраецца, яна спрабуе адапхнуць тых мужчын. Падскоквае трэці, заломвае ёй рукі. Яна крычыць памагчы. От уяўляеш: цёплы спакойны вечар — і такое, раптам, перад тваімі вачыма. Я кінулася да іх: што вы робіце, пусціце! Бо разумею: гопнікі, напалі самыя звычайныя гопнікі. Адно што твары сытыя, самыя рослыя, дужыя. Пачынаецца валтузня, неяк хутка ўсё, нічога не паспела зразумець, як

раптоўны боль у назе — і я падаю на ходнік. Бачу таго, хто біў — амапавец у форме. Я не паверыла, што гэта наяве. За што мяне дручком б'е міліцыянт? Яшчэ зусім малады, бялявы такі, і бровы бялявыя. Такі… мілы хлопчык. Мне падалося — вось, па суседству з намі жыве, вітаецца са мной кожны дзень… Мяне хапаюць, цягнуць, каб устала. А нага не варушыцца, яе спаралізавала. І тут бачу, што вакол невядомыя, аднолькава каротка стрыжаныя мужчыны хапаюць усіх запар. І я чую, як людзі пачынаюць крычаць у розных месцах. Людзей збіваюць, валакуць… Ведаеш… У адзін момант я падумала, што вар'яцею, што трапіла не ў наш горад, ці што сюды да нас раптам прыляцела нейкая бандыцкая групоўка і хапае людзей, каб прадаць куды ў рабства. Але пабачыла міліцыянтаў у форме, якія стаялі ўбаку і спакойна за ўсім назіралі. Быццам так усё трэба… І стала яшчэ страшней. Нейкі сюр, я не магла паверыць у тое, што са мной робяць, робяць вакол. Я не магла ступіць нагой… Яны навучыліся біць — па нервах так трапляюць, што існці нельга, нага як чужая. Мяне павалаклі… Потым… чарга там цэлая была. Такая машына, страшная… І не бачыла раней. Вось, цяпер буду ведаць, як выглядае аўтазак. Туды закідвалі людзей. Хапалі за ногі, рукі, сапраўды кідалі. Дзяўчат маладых за ногі, як мага вышэй, яшчэ і спадніцу каб задраць, каб зняважыць — стараліся, падсаджвалі… Я да таго моманту ніяк не магла паверыць у рэальнасць таго, што дзеецца. Адбівалася. І атрымала яшчэ ўдар, па той самай назе. Ад таго самага, бялявага. Мяне проста закінулі. Потым нечыя рукі падхапілі, пацягнулі, кінулі... Амапаўцы, у форме. Тэлефанаваць забаранілі. Гаварыць між сабой — забаранілі. На кожнае пытанне — мацюкі, пагрозы, брудныя пагрозы, Божа, я ж многім там у маці вар-

тая, а мне такое казалі… Ведаеш, яны сапраўды псіхічна нездаровыя: зацыкленыя на анальным сэксе. Ці не кожная пагроза: трахнем дручком у зад. Набілі поўны аўтазак людзьмі. У асноўным — моладзь, але былі і сталыя людзі. Павезлі… Налі яшчэ…

Надзея сама пацягнулася да пачку з цыгарэтамі, дастала. Алесь пстрыкнуў запальнічкай. Яна зацягнулася цяпер смялей, нейкі час маўчала, глядзела ў нікуды перад сабой, выдыхала шумна дым…

— Ведаеш, гэта быў вечар адкрыццяў, — працягнула Надзея. — Я ніколі не думала, што ў нас ёсць такія страшныя будынкі, з такімі жудаснымі калідорамі. Мы ідзем нашым чыстым прыгожым горадам і не ведаем, што зусім побач, за сто крокаў ад фанабэрлівай чысціні і прыгажосці ёсць турэмныя камеры, з прымацаванымі да сцен нарамі. Хіба магла я падумаць, што некалі буду ляжаць на такіх нарах? Божа, а што значыць прайсці тымі калідорамі? Амапаўцы ля сцен… Нешта нечалавечае. Такое адчуванне, што яны гатовыя кінуцца на нас і грызці зубамі. Гэтулькі нянавісці, гэтулькі грэблівасці… Яны стаяць, лаюцца, пагражаюць, і ты адчуваеш, што вось досыць нейкага аднаго, невідомага табе, але зразумелага ім знака ад некага вышэй — і табе гамон. Знаеш, што я адчула там? Найстрашнейшае што было?

— Не ведаю, — ціха адказаў Алесь. — Не хачу гадаць.

— Найстрашнейшае было для мяне зразумець, што я нічога ім не зраблю, — скрывілася ва ўсмешцы Надзея. — Разумееш? Зразумей! Мяне б'юць, мяне валакуць, мяне цягнуць у нейкі аўтазак, гоняць калідорам, зачыняюць у камеры. З мяне зрабілі бяспраўную жывёліну, якой забаранілі нават падаваць голас! Ты разумееш? Разумееш?!

— Не крычы, Надзея…

— Во як, і ты мне затыкай рот! Я прызвычаілася, давай!

Алесь разгубіўся, з болем гледзячы на скрыўлены ў грымасе хваравітай усмешкі сястрын твар.

— Надзейка, калі ласка, супакойся, выпі яшчэ трошкі…

Надзея замоўкла, падперла галаву рукамі.

— Выбачай… Ага, налі трошкі… І дай запальнічку… Дык вось, Алесік, і гэта не найстрашнейшае было, можаш сабе ўявіць. А сама-сама страшным было ўсведамленне таго, што ты можаш адтуль проста не выйсці. Ты ўрэшце адчуваеш сябе нічым і нікім. Перастаеш думаць пра тое, што ўсё — недарэчная, страшная памылка, што вось зараз прыйдзе нехта, паглядзіць на цябе і скажа: ой, выбачайце… І тыя, што чынілі над табой гвалт, раптам стануць вінаваціцца, прыносіць прабачэнні. Так не будзе — і ты тое ўсведамляеш. Тое жыццё, якім ты жыў яшчэ гадзінудзве таму, раптам знікае, яго няма, як і не было! Яно робіцца нейкай неверагоднай фантастыкай. Тут не воля задушаная: у розум уваходзіць дакладнае ўсведамленне: ты ніхто. Усё далейшае тваё жыццё залежыць цяпер ад іх — ад тых, хто цябе зрабіў бязвольным маўклівым быдлам… Вельмі страшны, пакутлівы досвед: імкліва пераўтварыцца з вольнай нармальнай жанчыны ў бяспраўнага вязня. За якіх дзесяць хвілін. Апошняя выратавальная саломінка — думка пра тое, што некалі ўсё скончыцца, што прыйдзе гадзіна, дзень, тыдзень — не важна колькі, але скончыцца, будзе воля, сонца, будзе родны куток і канапа… Ды саломінка згарае хутка, так хутка… Мабыць, са мной нешта б здарылася, і тое відаць было, бо ў камеры на мяне звярнулі ўвагу. Там жа

ўсе былі амаль дзяўчынкі — па 18–19 гадоў. Я сярод іх — як маці, і вось яны ўсе разам да мяне. Сказала, што настаўніца, дык уяўляеш: яны так зарадаваліся. Чаму? Суцяшалі. І адна адну суцяшалі, падтрымвалі. Я зразумела, што дзве там былі не першы раз: вучылі-апавядалі, як трымацца, як адказваць, што рабіць і што не рабіць… Ім па васемнаццаць гадоў, а ў іх турэмны досвед…

— Нам падаецца, што калі мы не ў камерах, то вольныя і нармальныя. Нам проста пакуль што дазваляюць такімі быць, — ціха ўставіў Алесь.

— Неяк пераначавалі, раніцай павезлі ў суд, — нібыта не пачула братавых слоў Надзея. — Канвеер: два пытанні, міліцыянер выступае як сведка — суддзя выносіць вырак. Хто слова супраць, таму болей. Каму пятнаццаць сутак арышту, каму дзесяць. Каму штраф. Мне штраф. Я маўчала. Мяне раздушылі так, што я магла толькі аўтаматычна адказваць на пытанні суддзі, жанчыны майго веку. Сведкам выступіў той самы, бялявы амапавец. Які двойчы выцяў мяне па назе. Выявілася, што я брыдка лаялася. Брала ўдзел у несанкцыяванай акцыі. Супраціўлялася. Я прызналася, што супраціўлялася. Суддзя не глядзела на мяне… Усяго адзін раз узняла вочы, калі я сказала, што я настаўніца. Я так і не зразумела, што было ў яе вачах… Памятаеш, у мяне быў клас, які мне далі за два гады да выпуску? Я табе не раз жалілася яшчэ, што не знаходжу належнага кантакту? — раптам перайшла на іншую тэму Надзея.

— Памятаю… А потым яны прыйшлі пад раніцу пад вокны тваёй кватэры і крычалі табе “дзякуй”, — адказаў Алесь, спадзеючыся, што памяць пра такі эпізод прынясе сястры светлы момант.

— Ага, — цень прыемнага ўспаміну і праўда дакрануўся да Надзеіных вачэй, але адразу ж знік, згубіўся. — Так, мы пасябравалі… У класе была адна дзяўчына, выдатніца, стала медалісткай. Красуня. Усё ёй Бог даў: і розум, і хараство, і душу добрую. Яе папраўдзе любілі і паважалі ўсе. Ну, можа, хто і зайздросціў, не без гэтага. Яна была жывая, вясёлая, адкрытая і зусім не ганарыстая. Мне дзяўчаты казалі, што ў яе былі закаханы два хлопцы з класа. З адным яна і сябравала. А другога, як мне сама прызнавалася, баялася. Хоць, як быццам, чаго было баяцца: такі звычайны хлопец, хударлявы, ціхі. Вельмі ціхі. Займаўся баскетболам. У класе яго не любілі. Нават не не любілі, а проста неяк ігнаравалі. Ён быў ніякі. Роўны, спакойны. Не абыякавы, не, але... чужы. Я гутарыла з ім, доўга назірала, аналізавала. Ягоную рэакцыю, ягоныя ўсмешкі. Ён нібыта чакаў нечага… Гэтая дзяўчына, яе звалі Наста, была вызваленая ад заняткаў фізкультуры праз праблемы з нагой. Але на ўрокі яна хадзіла, як настаўнік і патрабаваў. Звычайна бавіла час у зацішным месцы, было там такое, у бок стадыёна, пад сцяной школы. Тады была вясна, яна адзела белыя нагавіцы, белую куртку, новую, толькі набыла. І валасы ў яе былі русявыя, светлыя, а густыя якія — цэлая хваля. Цешылася ёй раніцай… Ішлі заняткі, у мяне была фортка, нечага паклікалі да завуча. Вярталася назад… ля мыцельнікаў раптам пабачыла нашага баскетбаліста. Ён мыў рукі. Яны былі запэцканыя ў нешта чорнае, ён так шараваў апантана, спяшаўся. Азірнуўся на мае крокі… У ягоных вачох быў спалох, страх нават. Спытала, чаго ён не на занятках, адказаў, што ўпаў, запэцкаў рукі і прыйшоў памыць. Пайшла ў настаўніцкую. А за колькі хвілін бягуць мае дзяўчаты: з даху школы нехта

лінуў на Насту чорную аліву… ну, у аўтамабілі заліваюць. Ведаеш жа, вось як адпрацуе, чорную. На галаву проста. Так і не даведаліся, хто. А класу я не сказала, што бачыла, як хлопец мыў чорныя рукі… Бо баялася. Хлопца б збілі на горкі яблык. І… не была пэўная. Тады не была пэўная. Яго звалі Юрыкам, вось так, па дзіцячаму да дзясятага класа. Юрык Вайцяхоўскі.

Надзея замаўчала.

— Гэта неяк звязана з учорашнім? — асцярожна пацікавіўся Алесь.

— Учора на судзе супраць мяне сведчыў малодшы лейтэнант Юрый Вайцяхоўскі. Я пазнала яго адразу. І ён мяне пазнаў. Адразу. Ён быў усцешаны, Алесь. Разумееш? Ён тады да выпускнога не глядзеў мне ў вочы, ніяк. А тут — зазірнуў. І я пабачыла там радасць… Не проста радасць — трыумф пераможцы. Ён глядзеў на мяне, і я бачыла, якое задавальненне прыносілі яму тыя хвіліны… Я напілася… Ведаеш, што мяне яшчэ так уразіла, падкасіла? Не тое, як білі і збівалі, не… Я потым у камеры думала: гэтыя ж, якіх спусцілі, бы сабак з ланцугоў, хапалі і білі, білі і валаклі… А натоўп… Ён не памкнуўся абараніць ці вызваліць. Ну, калі ў цябе сябра, дык кідаўся нехта адзінкава. Тады на дваіх паспявала тры дзецюкі ў цывільным, чатыры. Але там быў натоўп! Там былі сотні. І сотні толькі глядзелі. Яны нібыта выйшлі разам, арганізаваныя, знітаваныя ідэяй — а былі чужымі міжсобку… Гэта страшна, Алесік, страшна і сорамна.

— Ты тэлефанавала на працу?

— Тэлефон пабіты, упаў быў… Адна дзяўчынка дала патэлефанаваць, пасля суда. Не ведаю… Нічога не ведаю… Пайду, лягу. У мяне ўсё блытаецца. Усё марна, усё дарэмна. Жыццё пустое…

Надзея легла ў сваім пакоі, але не зачыняла дзвярэй.

Алесь доўгі час нерухома сядзеў пры стале. Зноў закурыў. Думаць пра работу ён сёння ніяк не змог бы. Пісаць пра этнакультурныя каштоўнасці пасля ўсяго пачутага здавалася такім дурным і недарэчным заняткам, што аж сківіцы сцісналіся, рыхтык нехта побач стаў чыкрыжыць нажом кардон. Алесь імкнуўся спакойна прааналізаваць пачутае, пакуль што адкладаючы галоўнае пытанне: што рабіць далей?

Мы так падобныя да неандэртальцаў — гэта была першая думка, калі Надзея сказала апошнія словы пра пасіўнасць і страх натоўпу перад адзетымі ў цывільнае міліцыянтамі і амапаўцамі. Калі наш продак, чалавек разумны, прыйшоў у Еўропу з Афрыкі, неандэртальцы мелі перад ім усе перавагі: яны былі дужэйшыя фізічна, лепей палявалі, у іх былі тыя ж, а то і лепшыя тэхналогіі вырабу інструментаў і прыладаў працы, разважаў далей Лобач. Яны лепей арыентаваліся ў сваіх родных лясох. Але іх пхнулі з іх родных мясцін, яны адыходзілі далей і далей, пакідаючы родныя землі — знікалі і ўрэшце зніклі назаўжды. Але чаму? Бо нічым жа не выйграваў той, хто прыйшоў! Ён прайграваў нават: быў слабейшы фізічна, дрэнна ведаў тэрыторыю і звычкі тамтэйшых звяроў. Хіба ў адным была перавага. Сёння яна называецца ўстойлівымі сацыяльна-культурнымі сувязямі. Прышлыя продкі сучаснага чалавека апекаваліся адно адным, кідаліся на дапамогу, калі трэба. Яны не пакідалі сваіх у бядзе, ніколі. Адно племя лічыла сваім, сяброўскім, другое.

А мы ж — неандэртальцы. Гэтая тупіковая галіна чалавецтва жыла ў варожых ці абыякавых, у лепшым выпадку, дачыненнях між групамі. Яны ўсе былі па-

добныя толькі ў адным: у нянавісці да прыхадняў. Але нянавісць не здолела іх злучыць. І не магла.

Як неандэртальцы не змаглі аб'яданацца, як яны не змаглі знайсці для ўсіх сабе падобных нешта адзінае, што б сталася галоўным, апрача нянавісці і жадання забіваць, так і мы нічога не маем у сваіх душах, апрача той самай нянавісці і злосці. Як прычынай нянавісці неандэртальцаў быў страх за сваё жыццё і тэрыторыі, так і сёння страх кіруе намі. Нашыя пратэсты — страх быць растаптаным.

Чалавек разумны перамог дзікага неандэртальца, бо любіў кожнага са свайго роду, быў адказным за кожнага, а род адказваў за яго. А сёння адзінай праявай нібыта салідарнасці з пацярпелымі вось тыя ананімныя каментары пад артыкуламі, віскат і вэрхал у сацыяльных сетках. І гэта ўважаецца за вялікую справу… Усё адно як той неандэрталец, апошні з нейкага племені, смяротна крычаў, абкружаны новымі людзьмі, а ў адказ яму з далёкіх гор, з розных пячор неслася дзікае выццё жывых, сытых і бяспечных ягоных братоў: "О-го-го! Трымайся! Мы з табой!.."

І я такі самы, сумна канстатаваў Лобач. Такі самы, бо адзін і адзін. Не стварыў кола верных прыхільнікаў, а тыя студэнты, з якімі колькі гадоў хадзіў на палявыя работы, рана ці позна казалі табе "да пабачэння". Ні з кім не зжыўся, не здружыўся так, каб можна было вось цяпер патэлефанаваць, хоць параіцца, хоць выказацца. Чаму? Чаму супрацоўнікі ёсць, калегі ёсць, а сяброў — няма? Можа таму, што больш нікому ягоная этнаграфія не трэба, апроч яго, ды колішняга настаўніка, ды яшчэ колькіх такіх вось дзівакоў у розных універсітэтах краіны? І калі не лічаць яго за бяскрыўднага дзівака, то ўжо дакладна не за самас-

тойнага мужчыну, сучаснага, практычнага. “За спінай у Алеся добра пачуваюцца толькі бабульчыны показкі” — гэта ж пра яго так жартавалі раней, а цяпер з жалем успамінаюць тыя жарты, бо гучаць не смешна, а сумна? А якая дзяўчына пойдзе ЗА цябе, калі месца за табой занятае? Хто яшчэ зразумее, як ён, што пачутая ўпершыню незвычайная казка пра стварэнне сусвету з вуснаў глухаватай бабулькі каштоўней за юрлівы шэпт на вушка, бо той шэпт — паўторыцца сто разоў, а вось казка, казка! Адзіная такая, ніхто не чуў, аналагаў няма — яна знікне заўтра, калі яе не запісаць сёння! А з цябе смяюцца: і што, гарэлка ад гэтага патаннела ці аднымі казкамі некалі дзяцей карміцьмеш?

Як патлумачыць ім, як данесці да разумення, як у свядомасць укласці, што там — там, у мінулым — заўтрашняе! І таму яшчэ сёння мы быццам народ, а заўтра — ніхто, купка людзей, якая прыме якія хочаш чужыя правілы, будзе спяваць якія хочаш песні і танцаваць пад музыку таго, хто дасць болей, болей здаволіць простыя і зразумелыя патрэбы — жывёльныя. Тыя, якія некалі імкнуліся здаволіць неандэртальцы.

...А вось у слабейшых прыхадняў на той час сярод мноства такіх патрэбных крамянёвых нажоў ды скрэблаў была і невялікая пустацелая костка з дзірачкамі. Навукоўцы доўга спрачаліся, што гэта, пакуль не зрабілі копію-рэканструкцыю. І не здагадаліся падзьмухаць.

І костка раптам сталася дудачкай.

А ў неандэртальца дудачкі не было. У яго было даўжэйшае і вастрэйшае кап’ё, якое ён кідаў нашмат трапней і далей за прышлага чалавека. Але перамагла дудачка. Дудачка, якая сталася асновай і сімвалам

культурных і сацыяльных сувязяў новага чалавека.

У нас была дудачка. У нас ёсць дудачка. І ёсць яшчэ мажлівасць знітавацца…

Надзея праспала да вечара. За гэты час Алесь паглядзеў яе тэлефон, з’ездзіў у майстэрню. Рамантаваць не ўзялі: “Новы танней”.

Ветлыя, уважныя людзі ў майстэрні. Сонечныя вуліцы. Машыны і мінакі. Усё як заўсёды. Але сёння Лобач раптам заўважыў тое, на што раней не глядзеў: на твары людзей. Ён разумеў, што ўчорашняе здарэнне робіць яго ў пэўнай меры прыдзірлівым і небесстароннім, але хіба толькі сляпы мог не згледзець, што ў дзевяноста са ста сустрэтых людзей хмурныя твары. Можна было б прайсці кіламетр і два, ісці гадзіну і дзве — і не сустрэць ніводнай усмешкі. Клопат на тварах, нейкая заглыбленасць у сябе. Як вось цяпер у Лобача.

Ён успомніў, як сустрэўся быў са сваёй аднакурсніцай — яна тады працавала ў турыстычным агенцтве ў Грэцыі. “Алесь, выбачай, я пасля двух гадоў у Грэцыі хаджу вуліцамі і не магу пазбыцца думкі, што іду побач з людзьмі, у якіх сёння — хаўтуры. Хаўтуры ва ўсім горадзе. За два гады ў Афінах я навучылася ўсміхацца, што, павер, не так проста, як высветлілася. Дык вось тут, на радзіме, я мусіла тэрмінова развучвацца: маю ўсмешку на вуліцы разглядалі як сімптом хваробы. На мяне глядзелі як на псіхічна хворую. Я не маню, я бачыла спачувальныя позіркі, я чула шэпт за спінай!”

А чаго нам усміхацца, пытаўся Лобач у сябе. Капні глыбей кожнага — і пасыплюцца праблемы і беды, як з дзіравага меха.

Яшчэ тужлівей стала ў сервісным цэнтры, дзе Алесь выбіраў новы тэлефон для сястры. Ветласць, якая

межавала з ліслівасцю. Але без усмешкі. Сур'ёзна. З бояззю разбурыць твой настрой. Быццам ты прыйшоў не новы тэлефон набываць, а труну ці вянок на магілу.

Новы тэлефон Лобач выбраў, не задумваючыся: ён ведаў, што Надзея аддае перавагу простым тэлефонам з мінімумам розных функцыяў. Набыў прыблізна такі, як і быў.

Ішоў вуліцай і ўсё выразней адчуваў, што ва ўсім горадзе сёння такая вось бяда як і ў яго: учора да шмат якіх жыхароў палітыка нахабна, не пытаючыся, прыйшла дадому: прыйшла збітымі роднымі і знаёмымі, сябрамі і блізкімі, непадымнымі штрафамі, роўнымі заробку, паведамленнямі пра адміністрацыйныя арышты. Навінамі з сеціва і страхам. Адчуваннем асабістай бездапаможнасці, нікчэмнасці, духоўнага гвалту.

Уставіў у тэлефон сім-картку і пабачыў, што ў Надзеі тры званкі без адказу. Адзін быў пазначаны "дырэктар", два другія "Аліна".

Надзея патэлефанавала са свайго пакоя, потым зайшла да Алеся, які ўсё ж узяўся за працу, максімальна абстрагаваўшыся ад сэнсу пісання.

— Мяфодзьеўне тэлефанавала…

Галіна Мяфодзьеўна — дырэктар, Лобач ведаў. Ён запытальна ўзняў на сястру вочы.

— Сказала пісаць заяву на скасаванне кантракта з асабістых прычын. Бо ў адваротным выпадку яна мусіць звольніць мяне за прагул…

Вочы ў Надзеі былі сухія, яна толькі моцна-моцна прыкусіла вусны.

Вячэралі ў цішыні. Умыкаць тэлевізар на кухні, каб пачуць цяпер хоць адно слова з афіцыйных наві-

наў — гэта здавалася продажам апошняга кавалка асабістай годнасці.

Лобач доўга не мог заснуць, прыслухоўваўся да дыхання сястры. Калі ж нібыта ад штуршка расплюшчыў вочы, у Надзеіным пакоі гарэла святло. Яна сама сядзела на канапе, захапіўшы і сціснуўшы ў кулаках канец коўдры.

— Не магу… Прыснілася, страшна. Вочы заплюшчу — нешта падае на мяне, душыць…

— Кладзіся, не вымыкай святла. Я пасяджу.

— Добра. Дзякуй.

Надзея быццам заснула. Не ўздрыгвала, не стагнала ў сне, але вочы, заплюшчаныя, мітусіліся пад вейкамі.

Алесь праседзеў у пакоі ў сястры цэлую ноч. Праз гадзіну ён прынёс ноўтбук і стаў пісаць. Пісаў артыкул, запісваў тыя самыя думкі пра неандэртальца і чалавека разумнага. Думкі лёгка шыхтаваліся ў сказы, адно што Лобач адчуваў нейкую халодную, злую эмацыйнасць і крыху баяўся, што ўсё гэта будзе замінаць пры ўспрыняцці тэксту. “Потым перачытаю, выкіну лішняе”, — думаў ён.

Надзея раз на гадзіну ці часцей расплюшчвала вочы, бачыла святло ў пакоі, брата — і засынала далей. Лобач пісаў, амаль нічога не правячы, хоць спыняўся часта і перачытваў напісанае.

Артыкул выходзіў вялікі, грунтоўны, такіх даўно не пісалася.

Але Лобач ведаў, што наўрад ці дзе надрукуюць напісанае. Можа, і надрукавалі б. Там, куды Алесь не панясе. Бо надрукаваць такі артыкул — амаль падпісаць сабе прысуд.

Але не выказацца Лобач таксама не мог.

Надзея добра заснула, стала дыхаць глыбока і роўна, калі за вокнамі пачало заўважна святлець. Яна ўстала рана, адразу за Алесем. Выглядала вельмі дрэнна: цёмныя паўкружжы пад вачыма сталі яшчэ выразнейшымі, твар быў хваравіта-бледны, вочы глыбока запалі. Вусны амаль не вылучаліся на твары, і Надзея не стала іх падмалёўваць: "Не магу я... касметыка смярдзіць мне".

— Што будзеш рабіць? — спытаў Алесь. — Я грошы ўчора зняў, бяры, колькі трэба.

— Ага, дзякуй... Заплачу штраф, напішу заяву, — пацепнула Надзея плячыма. — А болей рабіць і няма чаго.

Лобач пабыў ва ўніверсітэце да трох гадзін дня. Яшчэ перад дзвярыма сваёй кватэры спалохана адзначыў: гучна, надта гучна працуе тэлевізар — нешта спяваюць.

Нервова адамкнуў дзверы — Надзея стаяла насупраць дзвярэй, прыціскаючы далоні да грудзей. Напружана ўсміхнулася яму, пайшла, прыцішыла гук.

— Не магу, Алесік... Не магу — так страшна, здаецца, нехта ходзіць па кватэры, нехта цікуе за мной. Аж скура на галаве сцягваецца.

Лобач зноў праседзеў паўночы ў пакоі ў сястры. Яна амаль не спала — прыслухоўвалася да начных гукаў. Усхапілася, вырачыла вочы, калі пад акном нечакана спрацавала процізгонная сігналізацыя нейкага аўтамабіля. Звычайная рэч — можа, падлеткі дурэюць, можа, які бадзяжны кот.

Надзея дробна дрыжала — усім целам, быццам была не пад коўдрай, а пад задубелай на марозе прасцінай.

Раніцай яна моцна спала. Алесь пайшоў на працу, раптам адчуўшы мізэрнасць усіх сваіх універсітэцкіх

праблем. Недзе аб адзінаццатай ён патэлефанаваў Надзеі.

— Алесік, не тэлефануй, — прыглушана адказала сястра. — Мяне праслухоўваюць.

Увечары ён асцярожна загаварыў пра тое, што Надзеі добра б паказацца лекару — няхай бы выпісала якія супакаяльныя пігулкі, бо валяр'янка ж не памагае. А піць штовечара каньяк да лёгкага ап'янення — не выйсце.

— Не пайду! — спалохана адмовілася Надзея. — Яны запратораць мяне ў вар'ятню, яны чакаюць…

Вось цяпер Лобач дакладна зразумеў, што ў дом прыйшла чарговая, па-сапраўднаму вялікая бяда.

# ЧАСТКА 7

*Амаль за сто гадоў дагэтуль*

## Пралог. Бой

Кляштар быў абгароджаны высокім мурам, які замыкаўся на галоўным храме. Сам храм, з адной вялікай вежай і дзвюма вежамі-званіцамі, стаяў на гары пры дарозе. Да сяла вяла толькі адна дарога, а з трох бакоў паселішча абмывала рака, робячы роўнае паўкола. Далей дарога бегла шырокай вуліцай, мінала сяло, узбягала на вялікі драўляны мост і, шмыгнуўшы праз поле, хавалася ў лесе. Разам з мостам цераз раку яна сама была як рака: ручайкамі сцякаліся з вуліц людзі, фурманкі, цягнулася жывёла, каб на мосце сабрацца ў шчыльную markdownразнакаляровую патоку і павольна, панурыста цячы далей. Сяло выязджала. Жывая, маўклівая патока людзей цякла над шэрай бязгучнай патокай вады.

Мост трэба было захапіць без адкладу, каб дагнаць часткі белых, якія адыходзілі, і спыніць вываз усяго, што было найкаштоўнейшага ў сяле. Але трэба было мінуць кляштар.

Пярэдні высокі фасад храма станавіў сабой не што іншае як баявы вартавы пост, а дзве вежы-званіцы вакол цэнтральнай — рабілі кляштар непрыступным, калі паставіць на якой з вежаў хоць адзін кулямёт. А ён там стаяў.

Наскок конніцы на сяло не тое, каб захлынуўся — конніцы проста не стала. Знікла, зрэзаная трапнымі кароткімі чэргамі са званіцы. Пяхота раз за разам падымалася ў наступ і адступала, за выратавальную паваротку, пакідаючы пры дарозе свежыя трупы і целы параненых. Па параненых ніхто не хадзіў, хоць кулямёт і маўчаў у тыя хвіліны, калі выцягвалі параненага намкамроты.

Спрабавалі ўпаўзці ў мёртвую зону — не выходзіла. Трапна, ашчадна страляў кулямётнік.

Праз гадзіны дзве ў адказ на чарговую атаку са званіцы адказалі вінтовачнымі, а потым рэвальвернымі стрэламі. І тады зазваніў звон. Але звона не спалохаліся.

Пабеглі без асцярогі.

Трое байцоў адразу ўзлезлі на вежу званіцы, і долу паляцела хударлявае цела юнкера, амаль падлетка. Яго злавілі на дзясятак паднятых штыхоў. Мёртвага маладога белагвардзейца калолі яшчэ на зямлі. Сцягнулі боты — спатрэбіцца абутак! Густа здзіраўлены і набрынялы крывёю мундзір нікога не зацікавіў.

Ад здзекаў з мёртвага цела маладога юнкера чырвонаармейцаў адцягнуў глухі гук недалёкага выбуху — белыя падарвалі мост.

Байцы рвануліся былі ў невялікі нутраны храм кляштара, дзе ўкленчылі ў роспачнай малітве манашкі. Але камісар, паклаўшы двума стрэламі са свайго маўзера з доўгай руляй двух самых ахвотных да баб матросаў, не пусціў байцоў выплюхнуць сваю злосць на жанчын. Гэта ён зрабіў не з жалю: камісар помніў пра сакрэтны загад.

Рабавалі сяло, пустое, бязлюднае. Ды толькі не было чым пажывіцца — гаспадары пазабіралі з сабой усё больш-менш вартае, кулямётнік на званіцы даў

ім гэта зрабіць. Хіба што ў невялікай карчме ўсё як быццам чакала гасцей. І пляшкі з рознымі напоямі былі, мабыць, найкаштоўнейшым, чым маглі ўздаволь пажывіцца ацалелыя чырвонаармейцы. Выпілі і з’елі, чаго знайшлі. Потым на загад разабралі колькі хат для рамонту знішчанага моста. У п’яным азвярэнні, якое насыцілася стомай, няўдачай і прыкрасцю ад гэтулькіх страт пры ўзяцці сяла, падпальвалі вялікія светлыя хаты і сціплыя шэрыя халупы.

І пайшлі.

Жаночы кляштар застаўся нечапаным. Сёстры малілі Бога за ўратаванне храма і іхняе збаўленне.

### Каты

— Чуеш, Студэнт, а як з бабамі пры камунізме будзе? Якую пажадаеш, тую сабе і цягнеш? А от калі мне цыцастая якая ўпадабалася і Ямельку таксама? Не, у Ямелькі я забяру, ён і не рэкне, а вось з Дронам, як будзем дзяліць? Па чарзе, ці што?

Міцяй задзірае Студэнта штодня, і незразумела — ці то яго сапраўды хвалююць гэтыя пытанні, ці то ён атрымвае задавальненне ад таго, як Студэнт пачынае смешна моршчыць лоб у спробах адказаць на сама выкручастыя — зразумела, для мужыцка-салдацкага розуму — пытанні. Міцяй яшчэ зусім малады, яму гадоў дваццаць пяць. Ёсць у ягоным аблічча нешта ад пацука — выцягнуты ўперад вузкі твар, вочы-кропкі, востры нос заўсёды прынюхваецца, імкнучыся ўлавіць у паветры пах ежы. З учорашняга вечара байцы спецыяльнага асобнага чырвонаармейскага

аддзела нічога не елі. Думалі, будуць начаваць у вёсцы, а знайшлі папялішча.

Ямелька, саракагадовы мужычок, трошкі нягеглы, паслужлівы (дакладней — па-вайсковаму скрайне дысцыплінаваны, за што і ўзяты камандзірам у аддзел), ніякавата ўсміхаецца на Міцяявы словы — ён асцерагаецца гэтага языкатага пацучаня. Андрон, якога з лёгкай Міцяявай рукі ў аддзеле завуць проста Дронам, на тыя словы рэагуе скупым адказам:

— Сунешся — заб'ю.

Ён — мужык дужы, такіх, прыкладам, як Ямелька, двое трэба, каб адзін Дрон выйшаў. У яго ўсё вялікае: вочы, нос, рот, хіба толькі лоб вузкі: валасы на галаве пачынаюць расці блізка што ад броваў.

— Камунізм скасуе сям'ю як буржуазную ячэйку, — пачынае Студэнт адказваць на Міцяява пытанне. — Тая сям'я ёсць сродакам эксплуатацыі. Цяпер шлюб будзе вольны, і кожны ў шлюбе будзе роўны: мужчына і жанчына.

— Гэта значыць, што жонку нельга будзе біць? — асцярожна ўдакладняе Ямелька.

— Оха, няўжо ты можаш бабу стукнуць? — не дае Студэнту адказаць, рагоча Міцяй. — Сваю біў?

— Не біў, — збянтэжана прызнаецца Ямелька. — Яна добрая была, навошта яе біць? Сястру ў замужжы моцна білі… А яна ціхая зусім…

Усе ведаюць, што пакуль Ямелька сядзеў у акопах, ягоную сям'ю скасіў тыф. А вёску разабралі на бліндажы.

— Бабу біць трэба! — гыркае Дрон і дадае: — Баба для мужыка створаная. Для ўцехі і службы. І браць яе трэба, калі зажадаеш. Бо тваё.

— Во! І я ж пра гэта! — усцешана падтрымвае Міцяй. — А то сядзіць у рэчцы голая, так падперла —

дыхаць не можаш, а не зачапі, чужая, кажуць. Ага, стрываў, а няўжо ж…

— Чапіў-такі? — далучаецца да гутаркі байцоў Кір, дапытліва мружыць вочы. Ад ягонага пагляду Міцяй бянтэжыцца, круціцца на калёсах.

На Кіры — цяльняшка, цяльняшкі на двух ягоных змрочных, маўклівых сяброх. Але ўсе ведаюць, што Кір — не матрос, што ён быў на катарзе за рабаванні, крадзяжы і разбоі. Аднак камісар (не гэты, новы, а той, што быў раней) сказаў, што для рэвалюцыі Кір — сацыяльна блізкі элемент, бо рабаваў і абкрадаў багацеяў, таму ён на баку чырвоных. Кіра ўзялі ў аддзел за нюх: яго не абдурыш. Ён быццам прыляпляецца да чалавека сваім цяжкім прымружаным вокам, і гэта мала хто можа вытрымаць, калі што хавае. Потым Кір агледзіць памяшканне — і ўжо ведае, у якім куце трэба памацаць уважліва, каб знайсці хованку. Яго не тое, каб баяцца, але проста імкнуцца не трапляць яму на вока. Адчуваецца, што руды Кір не прабачыць у свой бок ні скосага позірку, ні крыўднага, на яго розум, слова. Вось і Міцяй з асцярогай пачынае расказваць:

— Дык… Як не крануць? Іду, значыць, гляджу з берага — така-а-я кабылка! Плёскаецца адна ў вадзе, зацішна там, кусты. Ну, я да яе…

— Дык куды ж ты лез, да кабылкі? А калі б падбрыкнула? У табе ж духу на адзін капыт! — не верыць Дрон.

— Ціха… — працягла шыпіць Кір. — Ну, а далей, далей як было? — дапытваецца ён, а ў вачох успыхвае непадробны агеньчык інтарэсу. Яно і зразумела: усе яны даўно без жаночай ласкі — камандзір надта строгі ў гэтым двухтыднёвым паходзе. — Падрабязна кажы, з дэталямі… — пад’юджвае Кір, а Міцяй,

здаволены жывой цікавасцю да свайго аповеду самога Кіра, працягвае:

— Ну, на бераг яна выйшла, як стала сукенку нацягваць, тут я яе і хапіў — і на зямлю. Яна, зразумелая рэч, выбрыкваць стала… ага… — маленькія Міцяявы вочкі пачынаюць ільсніцца ад перажытай некалі ўзрушанасці і задавальнення. — А бабу, самую нарavістую, супакоіць проста — ёй трэба добра даць па пысе. Каб кроў пачула сваю. Праверана! Ураз дзвюма рукамі хопіцца твар затуліць — ён жа ў іх, думаюць, галоўнае! Вось і я, значыць, кабылцы трэсь, вусны ў кроў — і ляжыць, ногі раскінула…

— Брэшаш, — недаверліва цягне Кір. — Так і раскінула?

— Ну, сам раскінуў, — папраўляецца з ухмылкай Міцяй. — Так, супраціўлялася трошкі… На жывот сеў, сукенку ўгару задраў, завязаў вузлом — усё, ляжыць! А смачная была баба, ах, смачная! Цела белае, свежае, крамянае ўсё, ах ты…

— Ну, а потым што было? — адчуваючы недагаворанасць у Міцяя, пытае Дрон. — Ты яшчэ скажы, што і заўтра яе там сустрэў і яна цябе гукала, гэтак ёй спадабалася?

— Не, не сустрэў, — выскаляецца Міцяй. — Яна мяне, сучка драная, прызнала. І ўвечар яе мужык з сябрукамі мяне каламі збілі. Тыдзень адлежваўся…

У гучным рогаце патанаюць апошнія Міцяявы словы. Але сам ён ані не збянтэжаны, усміхаецца загадкава. Усе перастаюць смяяцца, гледзячы ягоную рэакцыю, бо здагадваюцца: яшчэ не канец аповеду.

— Ды ўжо, нядрэнна ты пад'еў з чужой бабы, — супакойвае рогат Дрон. — Бачу, ачуняў?

— Даўно ачуняў, — сплёўвае Міцяй, і ўсмешка на ягоным твары становіцца драпежнай. — Тыдзень,

значыць, я паляжаў дый пайшоў у тое сяло, адкуль баба была. І падпаліў. Добрае надвор'е было, з ветрыкам спраўным — усё зараз пыхнула! А от рэвалюцыю кончым, камандзір мне маўзер абяцаў. Вярнуся туды — паперастраляю ўсіх, як памагатых контры. Студэнт, а Студэнт! Ты чаго маўчыш? Калі пры камунізме ўсе бабы супольныя, значыць, мужыкоў, якія баб сваіх іншым не даюць, страляць трэба, так? Ну, адказвай: так?

Пытанне ў Міцяя гучыць са злосцю, дробныя пырскі сліны ляцяць у твар Ямельку, які сядзіць побач. Той асцярожна выціраецца, ціха кажа:

— Няправільна гэта, рабят…

— Цыц ты! Хто цябе пытае? Студэнт! — крычыць патрабавальна Міцяй.

— Рэвалюцыя скасавала прыватную ўласнасць на жонак, — павольна пачынае студэнт, відавочна не жадаючы яшчэ больш узлаваць Міцяя. — Але адначасна…

— Ага! Зразумеў, ты, Ямеля! — крычыць ужо вясёла Міцяй, не даўшы Студэнту дагаварыць. — Ніякай уласнасці!

— Я збоку, — з пагрозай папярэджвае Міцяя Дрон. — Маё толькі мне будзе. Што зямля, што хата, што жонка. Сунецца хто — заб'ю.

— Супраць рэвалюцыі ты, ці што? — насцярожваецца Кір, глядзіць з пагрозай. — Пра экспрапрыяцыю экспрапрыятараў чуў?

— А пра Ленінаў дэкрэт аб зямлі чуў? — гыркае ў адказ Дрон. — Зямля — яна наша будзе. А мне зямлі шмат трэба, зразумеў? А за сваё я горла грызці буду…

Спакойна дакончыў Дрон, а ўсім адразу стала ясна — будзе. Будзе грызці горла і вялікае, і малое, калі ў яго пачаць адбіраць…

Стомлены конь павольна цягне доўгія калёсы, у якіх сядзяць чырвонаармейцы. Дарога віхляе сярод пустых палёў. Самы час араць і сеяць, ды няма каму. Сонца падымаецца ўсё вышэй і вышэй, становіцца горача для такой вясновай пары. Хіліць у сон. Камандзір адкрыта адкінуўся назад, і Ямельку адціснулі на самы беражок калёсаў. Бадзёрымі застаюцца толькі двое: вазак, адзін з Кіравых сяброў, ды новы камісар. На ім доўгая чорная скуранка, і доўгі маўзер у драўлянай кабуры, як і ў камандзіра. Камандзір звяртаецца да яго на паўголасу з павагай: «Таварыш камісар», але пра што яны гутараць, ніхто не чуе. З чырвонаармейцамі гэты ў чорным пакуль што не гаварыў. Усе ў аддзеле разумеюць: ён галоўнейшы за камандзіра. Ну і добра…

### Рупніца

— Матухна, з вамі рупніца хоча пагаварыць…

— Рупніца? — цёмныя бровы ігуменні Параскевы зышліся на пераноссі ў нездавальненні. — А ты для чаго тут прыстаўленая, калі з усякімі дурнотамі простыя рупніцы да мяне лезуць?

Ахмістрыня пакорліва апусціла галаву, ціха прагаварыла:

— Дык Кацька гэта… Абавязкова да Вас просіцца. Кажа, справа надта важная…

— Якая важная справа можа быць у д'ябальскай дзеўкі? — загаварыла са строгасцю ігуменння. — Сама выслухай напачатку, потым да мяне ідзі.

— Не гневайцеся, матухна, — працягнула ахмістрыня. — Мне нічога не кажа. З твару яна адмяніла-

ся… Зусім іншай стала. І праўда, здаецца мне, нешта важнае сказаць хоча. Вельмі просіцца.

Ахмістрыня замоўкла, спалоханая ўласнай дзёрзкасцю — не пайшла ж адразу, стала пярэчыць ігуменні.

Але тая маўчала. Можа, у гэты момант яна ўспамінала рупніцу Кацярыну — маладую, смуглявую дзеўку гадоў дваццаці, якая прыйшла ў кляштар два тыдні таму. Яе роднае сяло згарэла, родных не засталося, от яна і прыбілася. Што праўда — гневацца на яе нельга было. І сама ігуменнія часам даўжэй чым трэба затрымвала вочы на рупніцы, калі тая працавала. Ось дык праўда — работа ў руках гарэла. І то ўсякая. Ці двор месці, ці свінням крапіву маладую збіраць, ці грады капаць. Рупніца працавала з такой вясёлай ахвотай, свавольствам нават, такая шчаслівая жыццёвая сіла ў ёй білася, цераз край плёскала на ўсіх, хто ні гляне, то ўсмешкай, то ясным паглядам, што выдавала яна нешта чужое, непатрэбнае для ціхага манастырскага парадку. І колькі ахмістрыня ні спрабавала ўрымсціць Кацьку, каб была спакайнейшай — нічога не памагала. Тая і па двары не хадзіла — козачкай скакала. А калі і не ўсміхалася вуснамі, дык вочы свяціліся жывым агнём.

«Ацалела, прытулак ёсць, от і цешыцца…», — прабачала яе ахмістрыня. «Пасталее», — была яна пэўная, і штораз увечар, дакладваючы ігуменні пра дзённыя справы, імкнулася падкрэсліць у Кацярынерупніцы яе стараннасць і ўменне, а не вясёлы нораў.

Ігуменнія Параскева маўчала доўга, потым нечакана запытала:

— З твару змянілася? І што ж у тым твары?

— Страх, матухна. Баіцца яна чагосьці, да смерці баіцца. Так баіцца, што свой страх толькі вам даверыць можа.

Хітрасць удалася — ігумення кіўнула:

— Добра, прывядзеш перад вячэрняй.

Кацярына, у якой маладую зграбнасць цела не магла схаваць ні патрапаная шырокая кофта, ні спадніца, што выдала ёй ахмістрыня, стаяла ў парозе з паднятай галавой, адкрыта пазіраючы ігуменні ў вочы.

— Ты, дзеўка, ведаеш, што сваім выглядам і паводзінамі бянтэжыш сясцёр? Колькі табе разоў было казана: паводзь сябе сціпла. Чаму ахмістрыні пярэчыш? Яна табе ва ўсім маці і бацька, мяне для цябе няма. Я тут для іншых спраў, а не для таго, каб рупніц выслухоўваць, — пачала строга выгаворваць Параскева, седзячы на сваім высокім крэсле.

Але рупніца Кацярына маўчала, усё гэтак жа гледзячы проста на ігуменню. Слабое святло з невялікага акна не давала той мажлівасці лепей разгледзець твар, і яна марна імкнулася адгадаць: усміхаецца наравістая дзеўка ці слухае ў пакорлівым страху.

— Вам старыца Палагея пра мяне казала…

Ігумення рэзка ўстала з крэсла, блізка падышла да рупніцы, зірнула ёй у твар і адхіснулася: яна зусім не чакала пабачыць гэтулькі болю ў вачох у дзеўкі. На імгненне ёй падалося, што вочы гэтыя — чужыя, іх не павінна быць на такім маладым твары.

— Адкуль табе ведаць, што мне старыца казала? — строга, але з хваляваннем у голасе спыталася ігумення.

— Хто мяне паставіў, той і веды дае, — няўцямна адказала Кацярына. — Казала старыца: праз чужую маладую дзеўку збаўленне прыйдзе…

Параскева змоўчала, не могучы адхіліцца ад вачэй рупніцы.

— Казала… — нечакана хрыпата пагадзілася яна. — Ты тут пры чым?

Кацярына нічога не адказала, борзда расшпіліла кофту, адняла анучыну, прылепленую між дзвюх невялікіх дзявоцкіх цыцак. Анучынай жа працерла скуру ад загуслай крыві, адной рукой прытрымваючы збоку вялікі раўнакутны крыж у крузе, што вісеў на шыі на тонкай аборцы.

Ігумення, не адрываючы вачэй, глядзела, як на працертай чыстай скуры сталі выступаць між грудзей маленькія кропелькі цёмнай крыві. Стыгмат аформіўся ў роўны шасціканцовы крыж — быццам намаляваны. Потым выява стала размывацца, кропелькі гуртаваліся ў большыя кроплі, павольна сцякалі.

Кацярына прамакнула анучынай між грудзей, прыклала яе і прытрымала, пакуль зашпіляла кофту.

— Ты якому богу молішся, дзеўка? — ціха спытала Параскева, і Кацярына зразумела, што ігумення пытаецца, бо пабачыла яе незвычайны цяжкі крыж.

— Навошта пытаецце, ведаеце ж… Адзін у нас з вамі Бог. Толькі завем мы яго па-рознаму, па-рознаму молімся… Уцякаць вам трэба. Усё выносіць з сабой або хаваць. Без адкладу. Заўтра смерць прыйдзе. Ніхто не выжыве!

— Нікуды не пойдзем. На ўсё воля Божая, — амаль урачыста абвясціла ігумення.

— А як жа старыца, як ейная воля? Няўжо не казала яна мяне слухаць?

— Чаму сама не ідзеш? Ці пойдзеш? — не стала адказваць Параскева.

— Не пайду. Мне крумкач ужо смерць прынёс, мне ад яе не ўцячы. Мяне заб’юць — крыж выжыве. Мне яго ўратаваць трэба. Я каля крыжа памерці павінна. А вас Хрыстос не паміраць пакінуў, а слова ягонае несці людзям. На смерць застанецеся — а вера як?

— Бог за ўсіх выракуе, — упарта, але цішэй адказала ігумення, міжволі адчуўшы незразумелую моц у гэтай дзеўцы. — Чаго ад мяне табе трэба? Не толькі ж папярэдзіць ішла?

— Не… Да каменя завядзіце.

Параскева не стрымалася — здрыганулася, але нічога пытаць не стала.

— Не.

— Старыцу ўспомніце! Яе воля на вас ляжыць. Тры крыжы на нашай зямлі засталося. Усе заб’юць — усякай веры канец, усякі бог ад нас адвернецца.

— Ведаю…

— Не верыце?

Ігумення маўчала, і Кацярына павольна і асцярожна зняла з сябе свой вялікі крыж, уклала ў разнятую далонь, працягнула да Параскевы:

— Я трымаю. Крыж толькі свой утрымае. Вы ведаеце пра яго. Вам веру. Таму — паспрабуйце…

Ігумення крыху разгублена глядзела на маленькую дзеўчыну далонь і вялікі старадаўны крыж. Жаданне пакратаць яго было вялікім, як і вялікім быў страх забароны чапаць паганскую святыню, апаганіць сваё цела і душу. Але было і трэцяе, што дыктавалася яе абавязкам старэйшай, якой прымаць пастановы — яна мусіла дакладна ведаць, хто перад ёй: ці тая, пра якую казала перад смерцю старыца.

Ігумення працягнула руку. Кацярына павярнула далонь, і крыж упаў на сухую старэчую скуру.

Зашыпела, амаль засквірчэла, узвіўся салодкі дымок гарэлага. Рука ігуменні задрыжала, старая сціснула вусны, але не адшмаргнула руку, не скінула крыж — асцярожна, годна, павярнула сваю далонь, каб крыж упаў назад у руку да гаспадыні. Нават не зірнула на сваю абпаленую далонь.

І раптам з цвёрдай і ўладнай ігуменні Параскева ператварылася ў простую падстаркаватую жанчыну, плечы яе ўнурыліся, куткі вуснаў задрыжалі і апусціліся.

— Што ж гэта на цябе, такую маладую, ношку ўсклалі? Мне ўжо няхай…

— У кожнага ношка па сілах яго, — адказала Кацярына і раптам усміхнулася: — Хадзем, матухна. Заўтра нашы косткі нікому не патрэбныя будуць, а шмат чаго з таго, што маем, схаваць можам. І мусім.

— Пачакай, — Параскева зноў стала суровай ігуменняй, узяла са стала невялікі званочак, страсянула яго. Немаладой манашцы, якая зайшла на ўмоўны гук, загадала: — Рызнічай перадай: хай скарб збярэ і нясе да трапезнай…

…Мінулі пустую і гулкую трапезную з адным доўгім, на ўсё памяшканне сталом, чорным, як дамавіна. У куце ў кухні ігумення спынілася:

— На дваіх цяжар бярэм. Больш няма каму…

Перакацілі ўбок паўпарожнюю бочку, ігумення ўторкнула між камянямі тоўсты нож, дастала адзін, другі камень…

Спускаліся ніжэй і ніжэй, ішлі доўга і апынуліся ў невялікім памяшканні, з нізкай столлю і выкладзенымі з тонкай цэглы сценамі. Стала зразумела, што яны пад самым храмам, ля аднаго з ягоных вуглоў. Вугал абапіраўся на велізарны камень-валун. Чвэрць яго, адкрытая, вільготна паблісквала ў трапяткім агні дзвюх свечак.

Кацярына наблізілася да каменя, апусцілася на калені і кранула яго рукой. І адшмаргнула, з жахам гледзячы на далонь — тая была ў густой ліпучай крыві.

— Ой, якая бяда ідзе, якая бяда… — гаротна прагаварыла яна. — На сто гадоў бяда, а колькі ж загіне… Глядзі, матухна, камень крывёй сцякае…

Ігумення Параскева маўчала, кусаючы свае тонкія вусны.

Кацярына павольна, быццам без ахвоты, зняла з сябе вялікі раўнакутны крыж, паклала ў ямінку на камені, потым некалькі хвілін нешта ціха шаптала.

— Як жа будзе? — запытала яе ігумення, калі Кацярына паднялася з каленяў. — Веды ж не ў крыжы, у табе. Табе жыць трэба.

— Па макавінках веды збяруцца, ім не згінуць… Крыж сам гаспадыню знойдзе і веды ёй перадасць, як я не паспела. Прыйдзе час, мусіць прыйсці. Цяпер ваша давайце…

Да познай ночы рупніца Кацярына і ігумення кляштара Параскева пераносілі да падножжа каменя і складалі скарб: разьбяны куфар са святымі мошчамі, залатое царкоўнае начынне, рукапісныя кнігі ў цяжкіх залатых вокладках, абразы ў дарагіх шатах…

— Пастой хвілінку, — сказала ігумення, калі ўсё было скончана. — Зайдзі-тка, пачакай там, я рызнічую клікну.

У пустым пакойчыку Параскева за руку вывела Кацярыну да сярэдзіны, трымаючы ў руцэ скрутак.

— Не паводле правілаў гэта, ды Бог прабачыць. Здымай адзенне, малы пастрыг прымеш…

Кацярына запытальна ўскінула вочы на ігуменню.

— Маўчы, маўчы, — адказала Параскева. — Цябе адну шукаць стануць, будзе надзея між сёстрамі схавацца. Хай Бог дапаможа…

Кацярына хутка, але не мітусліва, скінула з сябе адзежу, распусціла касу, схіліла перад ігуменняй галаву. Тая, ледзь чутна шэпчучы малітву, павольна абрэзала дзяўчыне валасы.

— Адзявай, — падала ёй кашулю і падрызнік.

Ад парога ігумення ізноў паклікала Кацярыну.

— Пастой… Імя тваё як… сапраўднае?

Дзяўчына завагалася на імгненне, потым падняла галаву і, гледзячы проста ў вочы Параскеве, адказала:

— Ведаеце Вы імя такое… Дабрава.

Ледзь улоўны цень слізгануў па твары ў ігуменні, нібыта рэзка калыхнулася полымя свечкі.

— Ведаю імя… Прабабка мая гэтак звалася.

Калі Кацярына зачыняла дзверы, ігуменні тройчы хутка перахрысціла яе ў спіну, а потым павярнулася да абразоў на покуці, упала на калені і так, на каленях, прыпаўзла да покуці, стала адбіваць паклоны да зямлі, апантана шэпчучы незразумелыя чужому вуху словы.

## Барока

Дарога неўпрыкмет выцягнулася ў роўную лінію, і хоць яшчэ ныркавала ўверх-уніз, было зразумела, што яны ўз'язджаюць на вялікі пагорак, падымаючыся вышэй і вышэй. І па кані гэта стала відаць — ён амаль увесь час ішоў напружваючыся, прыкметна прыцішылася хада.

— Так, годзе спаць усім, — падняўся камандзір. — Пад'язджаем! Цяпер прыпынак, перакур-перакус. Далей каб без затрымак. Злазь з калёс!

— Ага, які тут перакус, дробкі ў роце з вечара не было, — заскавытаў Міцяй.

— У цябе, дурня, торба заўсёды будзе пустой, — адгукнуўся Дрон, дастаў з ладунка клуначак, развя-

заў, абадзьмуў чэрствы акраец хлеба і, адкусіўшы адразу чвэрць, стаў жаваць.

— Ну ты і кулак, — пракаўтнуў сліну Міцяй. — Студэнт! Скажы гэтай скнары, што дзяліцца трэба з таварышамі!

— Ага, скажы, скажы, разумнік, — кіўнуў з пагрозай Дрон.

— Мы… пакуль што яшчэ не пабудавалі таго грамадства, дзе ўсім будзе пароўну заўсёды. Але як толькі завершым вызваленне рэспублікі…

— А нам усё пароўну выдавалі, — бесцырымонна перабіў Дрон Студэнта. — Ён сваё зжор ад прагнасці, а я вось захаваў. І што, мне інтэлігенцыя загадае дзяліцца?

Студэнт не паспеў адказаць — умяшаўся камандзір.

— Адставіць спрэчку! У таварыша камісара ёсць што і на зуб пакласці, і душу сагрэць.

Камісар і праўда саскочыў з калёс з невялікай валізкай, адышоў на затравелую ўзбочыну і ўзяўся дставаць адтуль загорнутыя ў анучыны хлеб, сала, потым — бутлю з крышталёва-празрыстай вадкасцю, невялікую чарку.

— Ямелька, пагаспадар тут, — кіўнуў на хлеб і сала камісар, і Ямелька узяўся акуратна кроіць.

— Ого! — пачуліся радыя воклічы.

Усе без запрашэння паўколам паселі вакол камісара.

Камісар наліваў гарэлку сам, не шкадуючы, па поўнай. Студэнт адмовіўся, спаслаўся на хворы страўнік.

Камандзір паказаў рукой уздоўж дарогі:

— Далей… бачыце? Над лесам белае? Ён і ёсць. Студэнт, правільна? — камандзір падаў Студэнту мапу.

— Так, усё дакладна, таварыш камандзір, — заспяшаўся Студэнт. — Наперадзе проста — кляштар бернардынцаў. Храм Пятра і Паўла. Барока…

— Чаго-чаго? — ускінуў вочы на Студэнта Міцяй. — Ты пра што сказаў, хрэн вучоны? Якія нандзінцы? Што за бароны? Здзекуешся з нас, гад… ну, я цябе штыхом у азадак сапраўды некалі прыгрэю.

— Бернардынцы — гэта манахі… Ордэн, гэта значыць… група такая. Шмат розных было ордэнаў…

— І ўсё на шыю працоўнага класа! Дармаеды! — уплішчыў камандзір.

— Ну… манахі, яны працавалі, — пачаў было Студэнт, але адразу стаў выпраўляцца: — Так, кляштары былі буйнымі землеўладальнікамі, мелі ва ўласнасці і фабрыкі… некаторыя.

— Вось я і кажу, — кончыў здаволена камандзір, — эксплуататары.

— А бара… — пачаў Ямелька, мабыць, больш ад жадання дапамагчы Студэнту выйсці з сітуацыі.

— Барока, — падхапіў Студэнт. — Разумееце, стыль такі архітэктурны. У гэтым стылі і галоўны храм кляштара.

— Эт, загнуў, — жуючы, вышчарыўся Дрон. — Стыль… Ізноў кідаешся словамі разумнымі. Нам што да таго? Наша справа — золата і іншае.

— Не-не, вы няслушна думаеце, — асцярожна пачаў абараняцца Студэнт. — Барока — не проста стыль архітэктуры, гэта цэлая філасофія жыцця. І менавіта яна дала штуршок развіццю ўсяго людства! Як наша рэвалюцыя. Вось ведаеце, — пасмялеў Студэнт, калі ўбачыў, што яму не пярэчаць, але наадварот, пачалі прыслухоўвацца да ягоных слоў, — да эпохі Барока людзі жылі як… як жывёлы, вось. Яны ўсё рабілі толькі для таго, каб здаволіць свае самыя першыя патрэбы.

— Правільна жылі, — ухвальна кіўнуў Дрон. — Так і павінна.

— Не, што вы... Уладзімір Ілліч Ленін казаў, што сапраўдным камуністам можна стаць, узбагаціўшы свае веды ўсім найлепшым, што прыдумала людства.

Згадванне Леніна надало Студэнту вагі, Дрон незадаволена хмыкнуў.

— Дык вось, Барока і ёсць самашчырая рэвалюцыя! І яна мусіла перш адбыцца ў галовах, як і навучаў нас Уладзімір Ілліч. Рэвалюцыя свядомасці! Найлепшыя розумы таго часу зразумелі, што чалавек не жывёла, што ён павінен сам ствараць хараство. Што чалавек — галоўны на зямлі.

Камісар, які дагэтуль маўкліва глядзеў у бок далёкага кляштара, раптам павярнуўся і запытаў:

— І як жа тое папы маглі дапусціць? Каб не Бог, а чалавек — галоўны?

Студэнт нават узрадаваўся пытанню — сур'ёзнаму, на ягоны пагляд, і разумнаму.

— Бачыце... Тады ў грамадстве даспела думка, што Бог ёсць, але ён сваю справу зрабіў, даў усё патрэбнае чалавеку і цяпер на небе. А справа чалавека — спазнаць створанае Богам, кіраваць сваім развіццём на зямлі, ствараць чароўнае. І сталі развівацца мастацтвы, навука, дойлідства. Сталі будаваць хараша...

— Дык, значыцца, Бога на зямлі няма? — прычакаўшы паўзу, асцярожна спытаў Ямелька.

— А ты што, Ямеля, у Бога верыш? — кпліва рагантнуў Дрон. — Дык я цябе асабіста ў новую веру, рэвалюцыйную, ахрышчу!

— Ды нам вось бацюшка... поп, значыць, у войску казаў: Бог, кажа, у табе. Ну, як бы сумленне тваё. Праз яго, значыць, Бог сябе паказвае. А калі Бога на зямлі няма, значыць, сумлення няма, так ці што? — адважыўся Ямелька выказаць свае сумненні.

— Дурасці папоўскія! — упэўнена адрэзаў Студэнт. — Сумленне чалавека вызначаецца ягонай культурай, ягонымі ведамі, ягоным духоўным развіццём.

Камандзір даў каманду сядаць у калёсы. Рушылі. Відаць, Студэнту вельмі блізкая была тэма ўлюбёнага барока, бо ён працягнуў гутарку, абраўшы слухачом Ямельку:

— Сумленне — не ад выдуманага Бога, гэта дадзеныя выхаваннем нормы стаўлення да навакольнага свету. Вось у часы барока людзі імкнуліся адысці ад агрэсіўнай сілы, ад жывёльных эмоцый — яны выхоўвалі ў сабе чалавека.

— І чаго ж не выхавалі? — ізноў задаў раптам сур'ёзнае пытанне камісар. — Дзе ж рэвалюцыя скончылася?

— Уладзімір Ільіч Ленін, — пачаў студэнт, хапаючыся за імя правадыра, як за непарушнае апірышча, — казаў, што ўсе рэвалюцыі да нашай не былі сацыяльнымі, а былі культурнымі ці духоўнымі. А прасцей — буржуазнымі. Значыць, плёнам тых рэвалюцыяў скарысталася толькі вярхушка…

— А кажаш, барока тваё — рэвалюцыя, як наша, — упікнуў камісар.

— Тут важны прынцып агульнага кірунку — як і эпоха барока, наша рэвалюцыя скіраваная на стварэнне новай светабудовы праз нараджэнне новага чалавека: культурнага, пісьменнага, духоўна багатага.

— А храм гэты… ён які? — ізноў улавіў паўзу Ямелька.

— Вельмі прыгожы, — усміхнуўся летуценна Студэнт. — Пра архітэктуру барока на прыкладзе нашых храмаў я пісаў працу. У нас барока перадусім звязанае, вядома ж, з будаваннем храмаў. На гэты час людзі зразумелі, што хараство ў прыродзе — гэта насамрэч

прапорцыі. То бок, розныя дачыненні памераў. Каб хата хораша глядзелася, трэба, каб страха ў яе была вось такой вышыні пры такой вышыні сцен — гэта і ёсць прапорцыя, — паказаў Студэнт рукамі. — Зразумела?

— Дык чаго не зразумець, зразумела…

— Вось, у архітэктуры барока прапорцыі пачалі ўлічваць не толькі пры разліку асноўных памераў, але і самых дробных дэталяў. Шырыня і вышыня вокнаў, дзвярэй, вышыня вежаў, сцен, шырыня фасада — усё было вельмі дакладна знітавана! Будаўнікі таго часу вывучылі дойлідства старажытнай Грэцыі. Вядома, яны не сталі слепа капіяваць усяго, але нейкія элементы ўзялі сабе, дэталі. Трохі змянілі іх. Зразумела?

— Не, — вінавата прызнаўся Ямелька. — А што за элементы?

— Ну, скажам, у Грэцыі храмы будаваліся з калонамі. Вось і ўзялі ад калон частку… Да вонкава простых прастакутных фасадаў сталі дадаваць вежы — або адну цэнтральную, або ўсе тры — дзве з бакоў, адна ў цэнтры.

— Чуеш, Студэнт, — бесцырымонна ўлез у гутарку Дрон. — Ты мне казкі не бай, лепей проста скажы: от калі ў мяне на хаце няма пеўня, а ў суседа — ёсць, дзе цяплей узімку будзе?

— Выбачайце… А што такое — певень на даху?

— Цю… вучаны, кажаш… З дрэва певень, на грэбені самым, ясна?

— А, так-так, вядома, зразумела… Гэта характэрна для драўлянага дойлідства, выступ шчыта аздабляўся… Але тое наўрадці можа паўплываць на цеплыню ў хаце…

— От і дурань ты, інтэлігент. Цяплей будзе ў той хаце, дзе гаспадар за лета дроў больш назапасіў, зразумела табе? А певень — ён для красы толькі. От якая карысць ад красы?

— Як жа... Толк красы ў ёй самой...

— Тфу, паўдурак! — сплюнуў Дрон. — І якая ад вас карысць, ад такіх вось, вучоных? Дармаеды. От памянеш маё слова — мала вас застанецца пасля рэвалюцыі, бо няма чаго вас, дармаедаў, карміць. Ні сеяць, ні араць, адно кніжкі чытаць. Бач яго, барока ён ведае...

На гэтым змоўклі.

Храм вырастаў павольна, няўхільна, нібы не яны ехалі да яго, а ён рос з зямлі, рабіўся ўсё большым і большым. Спачатку ледзь чутна, а потым ясней і гучней пакаціўся з вежаў цяжкі звон: прызыўнатрывожны, аддаваўся ў грудзях шчымлівым водгукам, сэрца бухкала яму ў тахт.

— Чаго яны звоняць? — з незадаволенасцю ў голасе падумаў уголас Дрон.

— Нас клічуць, — рагатнуў Міцяй.— От цяпер у лазенцы папараць, блінцамі накормяць...

Звон раптам сціх, калі яны апынуліся каля самога храма.

— Усім далоў. Каня прывяжы, — стаў распараджацца камандзір. — Пашыхтавацца! Слухай мяне: заданне асаблівае. Якое асаблівае — таварыш камісар скажа, — і адступіў крок назад, адступаючы камісару месца.

Камісар абглядзеў няроўны шэраг байцоў, адхінуў крысо скуранкі, дастаў з драўлянай кабуры цяжкі чорны маўзер.

— Калі пачынаю камандаваць я, значыць, загады павінны выконвацца без адкаладу і ўраз. У звязку

з асаблівым значэннем сённяшняга задання я ўпаўнаважаны асабіста судзіць кожнага і прыводзіць прысуд у выкананне, — ён прыўзняў пісталет. — На што ў мяне пойдзе адна секунда часу. Так што, меней пляскаем вачыма. Раты пазакрываць. Што б я ні загадаў — ваша справа выконваць, — і раптам, амаль лагодна, усміхнуўся: — Ды не трэба так палохацца! Будзе вясёла, абяцаю, галоўнае — слухаць мяне. Пяць хвілін пакурыць, аправіцца…

Ямелька адышоў далей ад фасада храма, стаяў, задраўшы галаву, глядзеў.

— Што, хораша, праўда? — падышоў да яго Студэнт.

— Трэба ж такое збудаваць, — не стаў хаваць свайго захаплення Ямелька. — Прыдумаць трэба было, як усё рабіць… Хораша…

— А ўсё хараство — у разліках, у дакладных прапорцыях, — заспяшаўся студэнт. — Вось, бачыце, пярэдні фасад гзымсам пасярэдзіне падзелены, быццам для хараства гзымс, і ляпніны там трохі, але не, ён візуальна, ну, значыць відаць добра… наагул, падзяляе фасад на дзве часткі, ніжнюю і верхнюю. І сам фасад ужо не здаецца такім маналітным, цяжкім. А вось гэтыя як бы калоны тонкія ў ніжняй частцы, глядзіце — як яны ўгору мкнуцца… Яны завуцца пілястрамі. А паглядзіце, як вышыня цэнтральнай часткі дачыняецца з вышынёй званіц. Самыя званіцы — вежы на два ярусы. А сярэдняя частка фасада сканчаецца фігурным франтонам, ён завецца атыкавым. І вышыня франтона акурат на роўні першага ярусу вежаў званіц…

— Вось адтуль і страляў кулямёт, — заўважыў Ямелька. — Бач, як густа сцяна пабітая кулямі…

— Так-так, мусіць адтуль, — крыху разгублена адказаў Студэнт, яму было трохі прыкра, што і ў Ямельку ён не знаходзіць цяпер удзячнага слухача. Студэнт зрабіў яшчэ адну спробу звярнуць увагу салдата на архітэктуру храма: — Вам нецікава?

— Не, што ты, — збянтэжыўся Ямелька. — Яно цікава і надта, ды слоў шмат якіх я не разумею. Мне галоўнае хораша. Эх, умелі ж людзі рабіць…

— Я ж вам усім казаў, што гэтае ідзе не з ніадкуль, а з усёй філасофскай сістэмы эпохі барока — чалавек пачаў жыць не толькі практычна, але і прыгожа, ён зразумеў, што народжаны для стварання красы ў прыродзе… Я вам болей скажу: вось цяпер, калі мы ўвойдзем у храм, звернеце ўвагу. Звонку будынак — пакуль што яшчэ такой грубай, прастакутнай формы, хай і ёсць трохі дэкору… ну, аздобы. Бачыце, дах просты, двухсхільны, корпус храма на чатыры вуглы. А ўсярэдзіне — усё ў круглявых формах! Сцены плаўна перацякаюць у столь, паўкалоны пераходзяць у аркі, аркі злучаюцца паўкупаламі… Барока! Існасць чалавека: вонкава — жывёла, а ўсярэдзіне — найвышэйшая душэўная арганізацыя, духоўны пачатак, віртуознасць, суплёт думак і формаў…

— Дык я што ж, — замяўся Ямелька. — Вядома, паглядзім, час будзе…

— Канчай перакур! Хадзем! — выратавала Ямельку каманда.

### Рэквізіцыя

Расчынілі дзверы ў бажніцу, камісар ступіў першы ў змрочнае нутро бабінца. За ім па адным увайшлі

ўсе. Ямелька ледзь забавіўся, і, робячы выгляд, што папраўляе картуз на галаве, зладзеявата і хутка перажагнаўся — і адразу сустрэўся з вачыма Студэнта.

— Звычка, вось...— збянтэжана зашаптаў ён, апраўдваючыся. — Хто яго ведае, можа, і ёсць там хто... А рука ж не адсохне.

Студэнт, відаць было, сам збянтэжыўся больш за Ямельку і паспрабаваў супакоіць яго:

— Так-так, звычка — гэта бяскрыўдна, гэта чыста механічна, міжволі...

— Ага, механічна, вось, — усцешана паўтарыў Ямелька прасцейшае для сябе слова...

У цэнтральнай частцы храма перад алтаром абапал цэнтральнай шырокай дарожкі стаяла на каленях дзясяткі з тры чорных згорбленых постацяў — манашкі маліліся. Ніводная галава не павярнулася на крокі.

Духоўнік храма, стары святар, які перад гэтым нешта чытаў з амбона, перапыніўся, зірнуў на чырвонаармейцаў і раптам пайшоў ім насустрач:

— Чаго вам трэба? Нядобра мужчынам уваходзіць у храм Божы з пакрытымі галовамі...

— Маўчаць, — ціха працадзіў праз зубы камандзір. — Пайшоў прэч.

— Я прашу вас...

Камісар, які ішоў побач з камандзірам, раптам ускінуў руку з пісталетам і стрэліў духоўніку ў твар.

Закрычалі-загаласілі ў жаху жанчыны, адначасна падхапіліся з месца, збіліся, як чорныя авечкі, разам.

Здрыгануліся ад нечаканасці і байцы — так, хуткі на расправу камісар...

— Ціха! — крыкнуў камандзір.

Манашкі замоўклі, глытаючы свае ўсхліпы.

— Галоўная хто? Да мяне! — запатрабаваў камандзір.

Ігуменння Параскева выйшла наперад.

— Я ігуменння кляштара, — з лёгкім дрыжаннем у голасе сказала яна. — Чаго вы жадаеце?

— Баб жадаем! — нечакана ўставіў з-за Дронавай спіны Міцяй і адразу схаваўся — дзеля ўсяго дзеля. Але камандзір усміхнуўся берагам вуснаў.

— Чула?

— Тут кляштар, а не бардэль, — ужо ўпэўнена адказала ігуменння.

— Гэта нам вызначаць, — прагаварыў камандзір. — Студэнт! — паклікаў ён не абарочваючыся, счакаў, пакуль за спінай не прагучала «Я тут», працягнуў: — Агледзець усё ў храме што да прыдатнасці… сам ведаеш. Ямелька!

— Я, таварыш камандзір! — адгукнуўся Ямелька.

— Пашукай тут сходы, павінны быць. Будзеш са Студэнтам. На што пакажа — здымай.

— Ёсць!

У гэты час камісар узышоў на алтар, расхінуў Царскую браму, прайшоўся там, пакратаў прадметы на прастоле, спусціўся долу.

— Кір! — працягваў камандзір.

— Тут…

— Бяры сваіх, усё абмацаць… Дык вось, — камандзір звярнуўся да ігуменні: — Імем рэвалюцыі нам трэба тое, па што нас выправілі. Савецкай уладзе трэба золата і каштоўнасці для раздачы бедным. Мы іх возьмем, напішам вам паперу… і пойдзем. Ну, калі раптам хто з нашых байцоў захоча за лытку каго з манашак патрымаць — не крыўдзіце: яны без жонак вунь колькі часу за шчасце працоўнага класа ваююць. Іх разумець трэба, шкадаваць… А вам Бог праба-

чыць — вымаліце. Усё зразумела? — шырока ўсміхнуўся камандзір, гледзячы не на ігуменню, а на манашак.

Ігуменння маўчала.

У храме настала цішыня. Было чуваць, як патрэскваюць, згараючы, свечкі. Іх было надзвычай шмат — ва ўсіх свечніках. Камісар стаў пахаджаць па храме — назад і наперад, наўскасяк, нібы мераў яго. Ягоныя крокі па нядаўна насланых дошках падлогі гучалі злавесна. Парыпваў хром начышчаных ботаў, і выглядала гэта вельмі дзіўна — такая дарога была, ніхто і не бачыў, калі ён іх чысціў, а глядзі, зіхцяць.

Студэнт тым часам аглядаў абразы. Пачаў з Царскай брамы, потым — па правай сцяне да выхаду. Спыніўся ля абраза Мікалая Цудатворца, захоплена цокаў языком.

— Здымайце гэты, — павярнуўся да Ямелькі. — Вельмі старадаўная праца. Пэўна што, вучні Рублёва…

Ямелька прыставіў да сцяны невялікія драбіны, зняў абраз.

— А навошта здымаць? — ціха запытаў ён.

— Як навошта? Мы збудуем музеі, там будуць такія абразы, каб усе людзі маглі ўбачыць дзівосную працу старажытных майстроў, судакрануцца з цудоўным!

— Ага, зразумела, вядома… Дык і сюды ж людзі ходзяць… простыя, розныя. Ім чаму б… не дакрануцца?

Студэнт да свайго сораму пакутліва доўга, некалькі секунд спрабаваў знайсці патрэбны адказ.

— Як вы не разумееце? Тут людзей зусім мала! А ў Маскве жывуць сотні тысяч!

— Дык чаго тут не зразумець, — уздыхнуў Ямелька. — Яно, вядома, усё лепшае ў Маскве мусіць быць… А вось сам храм — як? Перавязуць?

— Не ведаю, — зусім разгубіўся Студэнт.

Кір са сваімі таварышамі вярнуўся да камандзіра з халоднай прыкрасцю на твары:

— Золата няма. Так... Па дробязі: пазалота на сямісвечніку, на лампадах; срэбра: паціры, хрысцільня… А нашы праўда яго не бралі? Рызнічая пустая. Занадта прафесійна ўсё прыбрана…

— Студэнт, да мяне! — раптам зароў камісар, які стаяў пры камандзіры і слухаў Кіраў даклад. — Што ў цябе?

— Тры дзіўныя абразы — праца вучняў Рублёва, — заспяшаўся Студэнт. Вядома, трэба будзе правесці экспертызу…

— К чорту твае дошкі! Дзе абразы ў залатых шатах?

— Дык няма… Мне здалося, відаць па месцах на сцяне, некаторыя абразы былі замененыя… нядаўна…

— Лайно… — камісар плюнуў на жоўтую хваёвую падлогу. — Слухай, ігуменне Параскева… так, я ведаю, як тваё імя, я шмат чаго ведаю… Цяпер ты мне ўсё скажаш. Дзе золата. Дзе тая сучка з крыжам, якая мне асабіста трэба. І ты завядзеш мяне да каменя.

Ігумення здрыганулася, твар яе стаў зямліста-шэрым, але ў вачох раптам узнік агеньчык палёгкі, перакананне ў слушнасці зробленага раней. Яна павярнулася да манашак і роўным, супакаяльным голасам старшай прамовіла:

— Сёстры мае! Прабіла наша гадзіна — настаў час Госпаду нашаму выпрабаваць нас на трываласць веры нашай. Маліцеся аб душах сваіх!

— Ах ты дурніца старая, — з напускной скрухай адрэагаваў на гэта камісар. — Ты мне ўсё скажаш, — ён зрабіў крок і другі да ігуменні, зазірнуў ёй у вочы і рэзка-рэзка павярнуўся, крыкнуў:

— Міцяй! Ты там цыцастых любіш, а? Ідзі, выбірай! Ідзі, кажу!

Міцяй, улавіўшы зусім сур'ёзны тон загада-дазволу, вышчарыўся, скочыў наперад, апынуўся перад чарніцамі і прысеў, пляснуўшы сябе па сцёгнах:

— Во дык ну! Ай, выбар які! — пайшоў ён уздоўж жанчын, спыніўся супраць высокай, мажнай манашкі гадоў трыццаці.

І хапануў адразу ж, як драпежны коршак, дзвюма пяцярнямі за высокія, поўныя грудзі пад падрызнікам.

Міцяй не ведаў, што гэтая манашка пакуль што і не манашка зусім, а інакіня, што прыйшла яна ў кляштар пасля смерці мужа толькі месяц таму (дзяцей ім Бог не паслаў). І што не паспела яшчэ манастырскае жыццё выветрыць ёй з галавы ўсе простыя, жыццёвыя законы і правілы. Таму яна адхіснулася перш з гідлівасцю на твары, а затым размахнулася шырока, па-бабску, і шарахнула вялікай, моцнай далонню Міцяя па вуху.

Міцяй утрымаўся на нагах, хоць дабег, прыгнуўшыся, да самога прастолу.

— Ах ты… Ды я цябе… Ды я… — скінуў ён вінтоўку з пляча, дрыготкімі рукамі спрабаваў зрушыць замок.

— Адставіць! — спыніў яго камісар. — Міцяй, выберы меншую, мы гэтую Дрону пакінем, — тут ён паглядзеў на ігуменню.

Тая збялела, але стаяла роўна.

— Дапамажыце Міцяю! — рэзка аддаў каманду камісар.

Падскочылі ўжо трое. Хапілі з чорнага статка манашку, выглядалі месца — акурат перад амбонам, павалаклі. Манашка маўчала, калі з яе завучана-звыкла зрывалі адзежу, валілі на падлогу, прыціснулі рукі і ногі.

Ігуменне зашаптала малітву.

— Давай, Міцяй, — падахвоціў камісар.

Міцяй хіжа вышчарыўся, паслухаўся.

Камісар уважліва глядзеў на Параскеву, але тая заставалася безуважнай — глядзела некуды ўдалячынь перад сабой, толькі вусны лёгка і шпарка варушыліся.

Камісар ступіў да распасцертай на падлозе маладой манашкі і Міцяя на ёй.

— Злазь! — выгукнуў рэзка.

Потым выхапіў адной рукой вінтоўку ў Кіра, падкінуў яе ў паветры, перахапіў, зграбна перакуліў і з гучным хаканнем стукнуў уніз штыхом — у цела жанчыны.

Байцы адскочылі.

— Глядзі, старая! — крыкнуў камісар. — Ты маўчыш — і цяпер з кожнай будзе тое самае. У цябе на вачох. Але, перш чым праціяць штыхом, я кожную буду пячы на агні свечак. Выколваць ім вочы. Адразаць грудзі. Садзіць на харугвы. А потым забіваць. Павольна. І ты будзеш бачыць. Ты будзеш вінаватая ў іх пакутах і смерці. Ты! Кажы, дзе ахоўніца крыжа? Дзе крыж? Дзе камень? У адным месцы? Я яго ўсё адно знайду, знайду, чуеш, старая? А яны будуць мёртвыя. Праз цябе зведаюць пакуты…

— Іх Бог сёння прыме ў Царства Сваё, — раптам амаль урачыста загаварыла ігумення, вочы яе, поўныя гневу і агіды, глядзелі ў вочы камісару, твар стаў не проста шэрым — сталёвага колеру, а голас задрыжаў ад напругі і нянавісці. — Табе ж, вырадак д’ябальскі — праклён на стагоддзе стагоддзяў! Табе і роду твайму! Будзь праклятый ты мною, як пракляты Госпадам, хай святло Божае…

Камісар не даў дагаварыць — без размаху ён рэзка выцяў яе цаўём пісталета ў скронь.

Ігумення ўпала. Камісар, з перакрыўленым ад ня-

навісці тварам, стрэліў у яе чатыры разы запар.

Перазарадзіў маўзер, павярнуўся з жоўтым бляскам у вачох:

— Ну, хто яшчэ супраць Савецкай улады? Абяцаю жыццё, і не будзем спальваць кляштар, калі мне скажуць, дзе схаванае золата і дзе ход да каменя!

Адказам было маўчанне.

— Выводзьце ўсіх у двор! Праз тыя дзверы! — аддаў байцом загад камісар. — Студэнт! Ямелька! Каля трапезнай павінныя быць дровы. Цягнеце іх сюды. Хутка! Варушэцеся ўсе! Штыхамі іх падганеце, авечак Богавых…

За храмам быў невялікі ўтульны надворак, у дальняй частцы якога бугрылася некалькі магілак — тут хавалі духоўнікаў храма, старыц, ігуменняў. Паміж магілкамі і тыльным фасадам храма, які завяршаўся тут пяцікутнай апсідай, быў лужок з зазелянелай травой. Сонца цяпер шчодра асвятляла гэтую частку кляштара. Папалоханыя, асуджаныя на смерць манашкі ў чорным і разагрэтыя свежай крывёй чырвонаармейцы на яскравых колерах белых сцен і сакавітай зялёнай травы здаваліся плямамі.

— Усіх манашак да сцяны, на калені! — загадаў камісар. — Дрон, ты, я чуў, таксама цыцастых любіш? Ідзі, выбірай! Гуляйце пакуль што! — рагатнуў камісар і адышоў да камандзіра, які быў адным заклапочаны: як выканаць загад і знайсці золата, бо аддзел быў пасланы менавіта па яго. Добра, што ёсць Кір — з ім хоць якая схованка адчыніцца. А калі золата вывезлі?

## Камісар

Калі Ямеля і Студэнт з бярэмямі дроў зайшлі за кляштар, там гвалцілі манашку, тую, мажную, што дала Міцяю поўху. Камандзір і камісар стаялі за некалькі крокаў, раўнадушна глядзелі. Далей, укленчыўшы і схіліўшы галовы, нерухома, як статуі, ля сцяны храма замерла рэшта чарніц.

Кір азірнуўся на Студэнта і Ямельку, вышчарыўся:

— Студэнт, ідзі паспрабуй! Хоць за цыцку патрымайся!

— Не, не, што вы, — адступіўся Студэнт, скінуўшы дровы сабе пад ногі. — Я… я не магу…

— Бач, чысцёха! Інтэлігент вашывы! — з незразумелай злосцю выгукнуў Дрон. — Зараз я табе…

Ён нечакана рэзка сеў на манашчын жывот ўсёй сваёй масай, як на мех з мукой. Жанчына хакнула і, здаецца, знепрытомнела. Дрон не звярнуў на тое ўвагі, хапянуў вялікія, яшчэ не звялыя грудзі.

— Бач, якія цыцкі, глядзі, Студэнт! Ну, калі сам падысці баішся, — пагрозліва загаварыў ён, памацаў другой рукой у сябе ў халяве бота і выцягнуў невялікі нож. Не зважаючы на кроў і цела, якое забілася пад ім, разануў яшчэ і яшчэ.

— Лаві, Студэнт!

Студэнт інстынктыўна злавіў кінутае яму, і яно адразу выпала з дрыготкіх рук, а сам ён адыходзіў, спатыкаючыся, і ўрэшце, пад дружны рогат, паваліўся назад, нібы сп’янеўшы.

— Гэй, а другую Ямельку адрэж, у яго ж таксама бабы няма! — закрычаў Міцяй. — Ямелька, хадзі сюды, паўдурак, глядзі, якая ў цябе цыцка будзе!

— Няправільна гэта, рабят… — пралапатаў Ямелька, прыціскаючы збялелымі рукамі да сваіх грудзей

бярэмя дроў, хаваючы за ім свой твар, самога сябе, рыхтык у бярозавым паленні былі ягоныя абарона і ратунак.

— Адставіць, — нечакана ўладна ўмяшаўся ў пацеху камісар. — Канчай яе, — кінуў ён Дрону, які ўсё яшчэ сядзеў на манашцы, і той адным рэзкім рухам шаснуў нажом жанчыне па шыі.

— За мной ідзі… — паклікаў яго камісар.

Падышлі да манашак.

— Устаць усім… Спінай да сцяны кожная, рукі апусціць, — нягучна загадаў камісар. — Рукі не падымаць. Ці заб'ю, — ледзь прыўзняў ён свой маўзер у руцэ.

Жанчыны ўсталі. Камісар ішоў паўз іх, знерухомелых так, што на нейкае імгненне здалося, быццам яны, чорныя манашкі, толькі намаляваныя на белай, залітай сонцам сцяне. Камісар узіраўся ў твары. Прайшоўся раз, часам уздымаючы адным пальцам левай рукі дрыготкія ад жаху падбародкі, зазіраючы ў вочы. Вярнуўся, спыніўся насупраць адной, найстарэйшай, паказаў Дрону.

— Гэтую…

Дрон падскочыў, дзвюма рукамі хапіў рызу чарніцы ля шыі і разадраў да паса, здзёр уніз, агаліўшы старэчыя плечы ў пігментных плямах і пляскатыя бабульчыны грудзі.

Камісар гідліва зморшчыўся, зрабіў крок далей, спыніўся.

— Тую…

Манашка была яшчэ маладой, і рукі яе інстынктыўна, чыста па-жаночаму ўзляцелі ўгору, затуляючы грудзі з вялікімі карычневымі смочкамі.

Камісар стрэліў ёй у жывот.

Здрыгануліся разам, усхліпнулі зацкавана і коротка адным ротам іншыя чарніцы — і гэта было адзіным рухам і гукам адказу на гучны стрэл.

— Гэтую…

Камісар гуляў у сваю гульню. Яго не так займаў вынік гульні, бо ён быў пэўны, што знойдзе тое, чаго шукае, як сам працэс. На ягоным твары з'явілася нешта накшталт азартнай усмешкі: адгадае ён цяпер ці не адгадае? Тузануцца рукі манашкі затуляць грудзі ці не? Дрон падыгрываў камісару — здзіраў адзенне лёгка, адным шырокім рухам, за раз пакідаючы жанчыну паўголай.

— Гэтую…

І раптам гульня надакучыла камісару.

— Усіх адразу… Кліч астатніх.

— Гэй, сюды ўсе! Міцяй, ідзі парад цыцак ладзіць. Студэнта сюды кліч! Недароблены! — крыкнуў Дрон Емяльяну. — Дровы кінь, дурніца, ідзі вазьмі маю вінтоўку!

…І пайшла весялосць.

— Оп-па! А якія ў мяне, а? — рагатаў Кір, сціскаючы, камечачы аголеныя грудзі ў манашкі. — Што, недаростак, памагчы? — з'едліва спытаў у Міцяя, які не мог разадраць каўнера рызы ў манашкі побач, не ставала моцы ў хліпкіх руках. Тузаў азвярэла, а высокая — на галаву вышэй за яго — манашка ўздрыгвала, але моўчкі глядзела шклянымі вачыма некуды за Міцяяву галаву.

Чорны шэраг манашак стаў хутка бялець.

— Стаяць! — раптам зычна загадаў камісар, хуткім крокам падышоў да чырвонаармейца, які толькі што агаліў чарговую манашку.

— Вось і ты, — падышоў, заўсміхаўся камісар, нечакана і шчасліва. — Глядзі, якая… Што, не чакала?

Кацярына маўчала.

Камісар працягнуў руку і павольна ададраў прысохлую да грудзей анучыну. І адразу твар ягоны скрывіўся, як ад раптоўнага болю зубоў.

— Дзе крыж, сука? — запытаў ён роспачна, відавочна ўсведамляючы, што ніякага адказу яму не атрымаць, як бы ён ні катаваў маладое дзявочае цела.

— Крыж на кожным, — раптам прагучаў чысты, без усялякага страху голас. — Не бачыш мой, ці што, крывёй напісаны? І на табе — крыж, — працягнула Кацярына. — Я свой вынесу. А табе свайго не здужаць.

— Авечку ўдаваць надумала? Манілася, не знойдзем? — прымружыўся камісар. — Усіх знойдзем. І ўсё знойдзем.

— Жыцця забракне.

— У нас наперадзе шмат жыццяў, — зірнуў камісар Кацярыне ў вочы. — А ў вас — мала засталося… Здзірай з яе ўсё, — загадаў ён маўкліваму чырвонаармейцу. — Вядзі сюды. Іншых усіх — на калені… пакуль… потым разбярэмся…

Чырвонаармеец хутка даў рады рэшткам Кацярынінага адзення, і камісар не ўтрымаўся, абудзілася ў ім сапраўднае мужчынскае — заглядзеўся на ладнае, з бледна-ружовай здаровай скурай Кацярыніна цела.

Яна ішла, і так ішла, нібы не голая сялянка пад прагна-юрлівымі позіркамі адурэлых ад жаночых целаў і ўсёдазволенасці байцоў, а царыца ў ядвабе і золаце перад здзіўлена-захопленымі вачыма замежных амбасадараў. І нешта здарылася. Можа, крывавы крыж між грудзьмі ў Кацярыны быў таму віной, можа, сама яна стала таму прычынай, але раптам згасла раз'юшанасць, раставаў цень пажадлівасці ў позірках чырвонаармейцаў.

— Як каралева, — прагучаў нечы прыглушаны мужыцкі голас, і гэта як секанула камісара:

— Чаго раты паразяўлялілі, быдла, перастраляю!

Забег наперад, пакруціўся, быццам шукаў чаго на зямлі ў негустой траве.

— Сюды вядзеце! На зямлю яе! Вось сюды галавой!

Кацярыну хутка павалілі на зямлю, спешна хапаліся за рукі і ногі, раскінулі іх шырока.

— Што робіце, паўдуркі? Па-вашаму, я па бабу за сто вёрст сюды ехаў? — закрычаў камісар і стаў камандаваць крыху спакайней і дакладней: — Студэнт! Дроў нясі яшчэ! Ды борзда! Так, набок яе кладзеце, на правы… рукі-ногі трымайце, галаву да зямлі… Дрон, ты сваю нагу ў калене сагні, да жывата падцягні… Яшчэ вышэй… Ты, — ужо іншаму чырвонаармейцу, — нагу роўна і таксама ў калене сагні… Раўней, дурань… Прыцісні і трымай… Міцяй, руку ўгору і ў локці… Не так, зломак, пад простым кутом згінай… дуралей, кутоў не ведаеш…

Камісар камандаваў, байцы мітусіліся, укладваючы па незразумелых ім загадах Кацярыніны рукі і ногі, быццам яна лялька з ануч. Яна не працівілася, ведала — марна, смерць трэба прымаць з чыстым розумам, якога не чапіў страх. І тая безуважнасць да рэчаіснасці, незразумелыя самым байцам іх дзеянні, блізкасць прыгожага маладога цела, да якога яны дакраналіся, але не жадалі, не маглі жадаць, як можна дакранацца і нельга жадаць уласнай маці — усё разам усяліла ў байцоў даўнейшы жывёльны жах. У іх жыцці былі забітыя і спаленыя жыўцом у храмах, заколатыя штыхамі, закатаваныя ў згвалтаваннях жанчыны — і тыя справы былі зразумелыя іх існасці, звыклыя і часта прыемныя. Цяпер жа яны, падпарадкоўваючыся чужой волі камісара, выконвалі недарэчную, незразумелую, у нечым страшную для іх работу — і гэта хвалявала іх, абуджала ў іх не-

шта пачаткова дзікае, глыбока схаванае ў сярэдзіну, родавае…

— Так… Добра… — з вышыні абгледзеў камісар зламанае ў свастыцы дзявочае цела. — Цяпер трымайце моцна, руку ёй паправім, — ухмыльнуўся ён, захапіў левую Кацярыніну руку і рэзка вывернуў угору і назад.

Раздалося агіднае кароткае храбусценне, потым грук — гэта ў Студэнта, які падышоў з чарговым бярэмем дроў, паленне пасыпалася з рук.

— Вось цяпер усё добра, — здаволіўся Камісар. — Трымайце моцна, Дрон, сядзь вось тут на яе, каб не тузанулася.

Але Кацярына была без прытомнасці — яна знепрытомела ад болю ў выкручанай руцэ. Камісар павярнуў дзяўчыну на спіну, сам прыўстаў на калені. У ягонай руцэ байцы ўгледзелі невялікі тоўсты футарал. Камісар дастаў шырокі кароткі нож, увесь чорны, нацэліўся ніжэй крывавага крыжа між грудзей — стыгмата — і лёгка стаў весці ламаную лінію. Кроў нібы заскіпала па следзе нажа, малюючы чырвоным на белай скуры першы прамень свастыкі. Твар камісара выпраменьваў задавальненне ад выкананай работы і прачування дакончанай справы.

## Эпілог. Бой

Сонца залівала двор кляштара, манашкі, укленчыўшы, маліліся, тыя, з каго здзерлі адзенне, так і стаялі, свяцілі голымі спінамі, баючыся затуліць свой жаночы сорам.

Студэнт глядзеў вылупленымі вачыма, як Камісар нешта выразае на жываце ў дзяўчыны, потым пераводзіў вочы на манашчына цела з адцятай цыцкай і перарэзанай шыяй і зноў на камісара.

— Тут жа барока… Нельга… Не трэба… Барока — пачатак новага свету… новага чалавека, рэвалюцыя адкрывае мажлівасць росту для кожнага, новае барока для ўсёй нашай зямлі, — лапатаў ён.

— Студэнт! Дровы нясі сюды! — пачуўся камісараў загад. — Борзда! Ямелька, ты чаго там абапёрся аб стрэльбы, адпачываеш? Марш да калёс, пад саломай бутля з газай. Нясі хутка!

Студэнт здрыгануўся, і, працягваючы нешта мармытаць сабе пад нос, пазбіраў дровы і панёс да цела Кацярыны.

— Абкладайце ногі, рукі, саму! Яшчэ дроў!

Ямелька каля складзеных у піраміду стрэльбаў не зрушыўся з месца.

— Няправільна гэта, рабят… — сам сабе прагаварыў ён ціха. — Няправільна…

У наступнае імгненне ён ускінуў сваю вінтоўку, хутка зляжыўся і стрэліў.

Прабітая навылёт камісарава галава рэзка тузанулася далёка ўбок, цягнучы за сабой усё ягонае цела.

Емяльян па-вайсковаму дакладна клацнуў затворам, гэтаксама каротка зляжыўся другі раз, стрэліў, і камандзір, рука якога пацягнулася да нагана, паваліўся на зямлю.

Трэцяя куля дасталася Дрону, які ў тупым здзіўленні паспеў павярнуць галаву ў бок Емяльяна і нават разявіў рот, каб нешта сказаць.

Кіраў звярыны інстынкт кінуў яго ўбок. За ім адскочылі ад раскрыжаванай на зямлі дзяўчыны два ягоныя сябрукі.

Адзін за адным, праз долі секунды, якія спатрэбіліся салдату з трохгадовым досведам вайны для перанабівання вінтоўкі, прагучалі яшчэ тры стрэлы.

І толькі потым Міцяй, адзіны жывы ля цела Кацярыны, вырачыўшы ў жаху вочы, закрычаў-заенчыў:

— Ты што, ты што!!! Ямелечка, пакладзі, пакладзі вінтоўку… Не страляй! Не страляй, брат! — ляментаваў ён, адыходзячы ад скіраванай на яго рулі, а ягоныя нагавіцы сталі брудна цямнець ніжэй паса.

Куля пацэліла яму ў твар.

Емяльян завучана зірнуў на затвор вінтоўкі, уставіў новы магазін, закінуў вінтоўку за плячо, агледзеўся вакол і павярнуўся да застыглага ў нямой ашалеласці Студэнта.

— Хадзем, Студэнт. Тут без нас… вось, манашкі самыя… управяцца.

— Як жа… Як жа далей… — не зводзячы вачэй з трупаў нядаўных сваіх таварышаў, пытаўся, як у непрытомнасці, Студэнт. — Што будзе?

— Нічога не будзе. Жыць будзем, — спакойна адказаў Емяльян. — Мы нікому пра гэта не раскажам.

## ЧАСТКА 8

### 1

Спраў было шмат — і дробязных, і вялікіх, але для Алеся Лобача іншага не заставалася: напісаў заяву, пакуль што на тры дні. Паехаў да былой матчынай сяброўкі, Алены Адамаўны (яна была на пенсіі) — адзінай жанчыны, якой ён змог адкрыцца, расказаць праўду пра тое, што адбылося і адбываецца з сястрой. Сталая жанчына не стала выпытваць розных дробязяў, адразу дала тэлефон. Жанчына, па голасе прыкладна ягонага веку, псіхатэрапеўт, выслухала Алеся не перабіваючы. Сказала, каб чакаў па трэцяй гадзіне дня, уперад асцярожна пагаварыў з Надзеяй.

Нічога не выйшла.

Калі Лобач сказаў сястры, што да яго — не да яе, а да яго прыйдзе жанчына, завочніца, бо ёй трэба паздаваць “хвасты”, Надзея са страхам зірнула на яго, загаварыла ўзбуджана:

— Гэта ніякая не завочніца. Яны сочаць за мной. Не кажы, што я ў цябе…

Унутры ў Алеся ўсё сціснулася ад болю і бездапаможнасці, калі ён назіраў, як Надзея спешна нясе з вітальні ў пакой свой абутак, верхнюю вопратку, як забірае з лазенкі шчотку для зубоў, шампуні…

Прыйшла псіхатэрапеўт, высокая, маладжавая жанчына. Гаварылі ціха на кухні. Надзея зачынілася

ў сваім пакоі. Двойчы Алесь падыходзіў да яе дзвярэй, асцярожна стукаў, прасіў выйсці. І потым сарваўся, нешта вымкнулася ў ім, стрэмкай у мазгох завіравала думка пра тое, што сястра прыдурваецца, што гаварыць з ёю трэба жорстка, катэгарычна, патрабаваць — і тады яна кіне сваю гульню ў шпіёнаў, адумаецца, да яе дойдзе ірэальнасць таго, што яна сабе напрыдумляла.

— Надзея! Досыць ужо дурыць! Ты сама дакладна ведаеш, што табе трэба дапамога лекара! Адчыні дзверы! Тут лекар, разумееш: лекар! Табе трэба ягоная дапамога. Адчыні!

Ягоны крык перапыніла псіхатэрапеўт. Жанчыне давялося ўтрымаць Алеся, а то б ён сапраўды без Надзеінага дазволу адчыніў дзверы — ключы ад усіх няхітрых замкоў-блакіратараў былі ў шуфлядцы ў вітальні.

— Вы што? Нельга, нельга цяпер, — узрушана, хоць з лёгкім спалохам, але катэгарычна зашаптала яна. — Хадземце на кухню…

Там яна, сухаватая, каротка падстрыжаная, закурыла, не пытаючыся дазволу, і гэта неяк зблізіла яе з Лобачам, яна быццам канчаткова ўвайшла ў Алесяву і ягонай сястры таямніцу, прыняла яе, як прымаюць шчырыя людзі чужую бяду — з усведамленнем свайго абавязку хоць нечым дапамагчы.

— Я пакіну вам пігулкі, паспрабуйце ўгаварыць выпіць, — казала яна, спагадліва гледзячы на Лобача. — Але ў дадзеным выпадку я параіла б абавязкова змяніць месца, кардынальна. Некуды на возера, у лес… Дзе б не было дамоў гарадскіх, людзей як мага меней. Псіхічная траўма цяжкая, ваша сястра доўгі час стрымвала ў сабе эмоцыі, адбыўся выбух… Частка свядомасці проста блакаваная. Найперш важна

абараніць яе ад нежаданых кантактаў, ад большасці… Але, мушу сказаць, само сабою не міне, на гэта няма што спадзявацца. Патрабуюцца стацыянарныя ўмовы, пад назіраннем лекара. З пігулкамі прыдумаеце што? Яны без смаку, можна распусціць у вадзе, соку… Можа, потым удасца ўгаварыць.

— Прыдумаю з пігулкамі, — хрыпла адказаў Лобач, адчуваючы як расце, запаўняецца чорнай невядомасцю будучыня, заўтрашні і пазаўтрашні дзень. Упершыню ён адчуў, што ягонае колішняе правіла — "усё мінаецца, і дрэннае таксама" — сапраўдная лухта, што нічога не мінаецца, а толькі нарастае камяк роспачы, збіраецца, як брудная вада ў ручаі перад выпадковай запрудай, выштурхваючы наперад markrознае смецце і трэскі, ад чаго запруда ўсё большае, робіцца шчыльнейшай, і вады ўсё прыбывае, прыбывае… Пакуль што не прарывае, але ўпярод раўчук выйдзе з берагоў, разальецца лужынай… І калі прарве, спадзе вада, застанецца смецце і бруд, усё зялёнае і прыгожае будзе спляжанае… І так доўга чакаць цёплага шапатлівага дожджыку, які абмые…

Лобач адказаў "прыдумаю", але не змог сказаць, што Надзея запатрабавала, каб ён набываў толькі бутыляваную ваду і ніякіх сокаў, што тую ваду забірае да сябе… Яму застаецца пільнаваць, калі сястра выйдзе з пакоя па патрэбе, чакаць?..

— І, выбачайце, — патушыўшы цыгарэту ў попельніцы, загаварыла лекарка, — Але мушу сказаць праўду. Калі нічога дадатнага ў паводзінах за суткі не адбудзецца, я вам настойліва раю выклікаць хуткую… Так, непрыемна, цяжка і балюча, вельмі хацелася б абысціся… без прымусу, але вы мусіце разумець — гэта хвароба. І такая, што баўленне можа мець катастрафічныя наступствы.

Лобач кіўнуў. Тая думка, якую ён гнаў ад сябе, што сястры давядзецца перажыць у такім становішчы яшчэ адзін гвалт над сабой, з боку санітараў, міжволі займела сваё месца ў ягонай свядомасці і цяпер абрастала довадамі сваёй немінучасці.

Увечары стала як быццам лепей — Надзея спакойна выйшла з пакоя, перш пацікавіўшыся, ці ёсць хто ў кватэры. Прайшла на кухню. Алесь прапанаваў сястры вячэру, тая пагадзілася, завешваючы шторы на акне. Алесь зараз накрыў на стол на дваіх, прысеў сам.

— Вось, пігулка для сну, — Лобач крышку пасунуў у бок сястры сподачак, з дзвюма белымі пігулкамі, якія пакінула лекар, і дадаў спакойна: — Гэта Алена Адамаўна перадала. Мы бачыліся з ёй учора…

— Дзякуй, — нечакана для Алеся проста адказала Надзея.

Яна даела макароны з кавалкам курыцы, папрасіла вады з бутэлькі і пры Алесю выпіла пігулкі.

Ноч мінула спакойна. Але Алесь не мог спаць — слухаў, як дыхае, варочаецца сястра.

Раніцай Алесь пабачыў, што хоць Надзея стала нейкая нібыта затарможаная (дзейнічала пігулка?), у той жа час яна няспешна, можа, тройчы абышла ўсю кватэру, засяроджаная, пільна ўзіралася ў вокны, кратала іх — ці добра зачыненыя. Адлучыла хатні тэлефон. Села на канапе, падціснула пад сябе калені — і маўчала. Алесь спытаў яшчэ: мо яна прыгатуе полудзень, але Надзея так дзіўна зірнула на яго, нібы ён спытаўся пра нешта брыдкае і непрыстойнае…

Алесь выйшаў на балкон пакурыць і там, зірнуўшы на шэрыя будынкі шматпавярховікаў, бязмежна чужыя і бязмежна далёкія, амаль фізічна адчуў як цэлы сусвет сціснуўся вакол яго да памераў кватэры. І ў гэтым сусвеце засталіся ён, Алесь Лобач, і яго хворая сястра Надзея.

Алесь не ведаў, што рабіць. Увамкнуў кампутар, каб папрацаваць, хоць нечым заняць сябе — куды пайсці ён не мог, сястру нельга было пакідаць адну. Перачытваў сваё, напісанае, у галаве няспынна трымцела адна думка: хвароба не пройдзе сама сабой, не мінецца, нельга будзе ўзняцца з-за стала праз гадзіну і пабачыць ранейшую сястру. Нельга! І трэба не чакаць, нельга чакаць, трэба выклікаць хуткую, выклікаць — і перажыць, пертрываць жудасныя хвіліны, здужаць. Потым… потым стане лягчэй. І Надзея потым яму даруе. Зразумее і даруе.

І разам з тым, ён ясна, так ясна, што быццам па яго павінны прыехаць санітары і скруціць, звязаць, адчуваў, які жах мусіць яшчэ раз перажыць ягоная сястра… І таму сядзеў, пстрыкаў па клавіятуры, цягнуў час. Спадзяваўся на нешта? Не, не было спадзявання. Цягнуў…

Бліжэй да полудня задрыгаўся ад вібразванка яго мабільнік (Алесь вымкнуў гучны званок). Нумар быў незнаёмы, але Лобач націснуў “адказаць”.

— Дабрыдзень, Алесь Паўлавіч! Вас студэнт-завочнік турбуе, Уладзімір Жабрун. Ну, той самы, якому вы давалі заданне пра замовы…

— Пазнаў, добры дзень, — прыцішана адказаў Лобач.

— Дык я хацеў сказаць… ну, вы ж мне пакінулі мабільны… То я во і тэлефаную, — адчуўшы Лобачаву інтанацыю, вінавата загаварыў Уладзімір. — Я кончыў усё… ну, расклаў на радкі ўвесь тэкст, раздрукаваў паасобку ўсе замовы. І электронны варыянт ёсць, вядома. То як вам перадаць?

Лобач скрывіўся. Ён разумеў, што не можа заставацца абыякавым да тэлефанавання, хоць не знаходзіў у сабе і кроплі цікавасці да тых тэкстаў. Але мусіў

адказаць, можа, толькі таму, каб завяршыць хоць адну справу…

— Прыязджайце… — Лобач назваў адрас. — За паўгадзіны паспееце? Добра, чакаю. Я вас сустрэну.

Хвілін праз дваццаць ён сказаў Надзеі, што пойдзе ў краму, апрануўся, прыхапіў з сабой патрэбнае, спусціўся на ліфце, спыніўся ля пад'езда перад адной з дзвюх ацалелых лавак. Дзіўна, але болей нікога тут не было. Можа таму, што сонца цяпер проста паліла гэты лапік зямлі, а цень ад двух старых кустоў бэзу клаўся не на лаўку, а наўзбоч ад яе. Лаўка, нядаўна памаляваная ў ядавіты сіні колер, сваімі чатырма драўлянымі брускамі нагадвала вычварную патэльню для катавання дзе ў сярэднявеччы.

Аднак Лобач прысеў на самае сонца. Драўляныя бruскі і праўда былі гарачыя.

Пацягнула закурыць, але было надта горача. І ўсё ж жаданне хоць нечым заняць сябе пераадолела, і Лобач выцягнуў цыгарэты.

Якраз тады заехаў у двор міліцэйскі УАЗік, падкаціў і спыніўся насупраць Лобача. Віскнулі тармазы. Выйшаў міліцыянт, маладжавы, прыхапіў з аўтамабіля фуражку. Пільна зірнуў на Лобача і, зрабіўшы крок, стаў насупраць яго.

— Вы ж Лобач, Алесь Паўлавіч, так? Кватэра 79?

— Так, — адчуўшы непрыемны халадок у грудзях, адказаў Лобач, схаваў пачак з цыгарэтамі ў нагрудную кішэню кашулі, падняўся з лаўкі. — А ў чым рэч?

— Я вас ведаю, участковы ваш, — нехаця патлумачыў міліцыянер. — Нам вядома, што ў вас цяпер пражывае вашая сястра, Лобач Надзея. З ёй нам трэба правесці прафілактычную гутарку і атрымаць тлумачэнні.

Лобач разгубіўся. Рыхтык нехта збоку хутка зашаптаў яму: падмані! Падмані і скажы, што сястры цяпер няма ўдома, што яна паехала… на лецішча да сяброўкі, на рынак, шукае працу… Але пачуццё асабістай годнасці, спляжанага раней мужчынскага абавязку бараніць сястру, прымусіла Лобача напружыцца, і ён адказаў ціха, але цвёрда, амаль з выклікам:

— Яна ў мяне. Але зараз яе нельга турбаваць. Яна захварэла.

— Вельмі турбаваць яе ніхто не збіраецца, — настойліва адказаў міліцыянт, і Лобач адчуў незадаволенасць у голасе лейтэнанта. — Чыста фармальна — паставіць подпіс, і ўсё. Мне трэба выканаць сваю работу.

— Калі ласка, у іншы дзень. Калі яна будзе здаровай, — Лобач і сам не заўважыў, што павысіў голас.

Бразнулі дзверцы УАЗіка, да Лобача і лейтэнанта падыходзіў яшчэ адзін міліцыянт.

— Праблемы? — запытаў ён у напарніка, спрактыкаваным позіркам ацаніў Лобачаву постаць.

— Зараз разбярэмся, — супакоіў яго лейтэнант, павярнуўся да Лобача. — Калі грамадзянка Лобач хворая, мы выклічам хуткую, — і ён павярнуўся, каб ісці ў пад’езд.

— Людзі вы ці не? — урэшце прарвалася ў Лобача роспач. Ён не ведаў, што цяпер рабіць, як сябе паводзіць, але адно было для яго зразумела і ясна: ні ў якім разе Надзеі нельга бачыць, што да яе ідзе міліцыянт. Калі гэты лейтэнант падымецца, калі стане званіць у дзверы…

— Вы тут лягчэй, не забывайцеся, — плюнуў сабе пад ногі другі міліцыянт.

— Я не забываюся! Я кажу, што сястра хворая, што яе нельга турбаваць цяпер, пагатоў — вам, міліцыі.

Яна гэтулькі перанесла гвалту над сабой, хіба нельга на нейкі час пакінуць яе ў спакоі? — зараз амаль крычаў Лобач.

За міліцэйскім УАЗікам спыніліся дзве маладыя маці з возікамі, слухалі.

— Ніхто тваю сястру не цягнуў жывасілам на плошчу, — агрызнуўся міліцыянт-кіроўца. — І цішэй тут, мітынговец. А то пойдзеш зараз на пятнаццаць сутак, як міленькі.

— Я пайду? За што? — агаломшана перапытаў Лобач. — Мая сястра нікуды спецыяльна не хадзіла, яна толькі выйшла з электрычкі. А на яе накінуліся, як… на бандытку, як на тэрарыстку. Як можна вам, міліцыі, збіваць жанчын?

Ля жанчын з возікамі прыпыніліся сталая пара — мужчына з кавенькай і жанчына.

— Ну, ты, мужык, лічы, нагаварыўся, — прыгразіў міліцыянт-кіроўца і сказаў да напарніка: — А ты кажаш: праблем няма. Будзем грузіць…

Участковы лейтэнант глядзеў на Лобача нават з жалем.

— Хадземце са мной, адчыніце мне дзверы, і сястра паставіць мне подпісы. Не чыніце перашкод міліцыі пры выкананні абавязкаў.

— Я нікуды не пайду, — гэтым разам ціха адказаў Лобач.

— Будзем грузіць! — амаль загадаў міліцыянт-кіроўца. — Ён ужо на пяць штрафаў нагаварыў. Сведкаў сабраў…

— Сядайце ў машыну! — стомлена загадаў Лобачу ўчастковы.

— Навошта? — халадзеючы, адказаў Лобач і не зрушыўся з месца.

— Паедзем у аддзел, там я вам патлумачу… Сядайце самыя, я ж ведаю, што вы навуковец, ці мне Вас гвалтам запхнуць і кайданкі надзець? Пры сведках? Хочаце штраф большы ці на суткі сесці? — у голасе лейтэнанта адчуваліся раздражненне і злосць.

Думак у Лобача не было. Хвіліны размовы з міліцыянтамі да апошняга моманту падаваліся нечым немажлівым. Ён і ўявіць не змог бы раней, што раптам вось так стане гаварыць з міліцыянтамі, а яны — з ім. Лобач павярнуўся і спакойна пайшоў да УАЗіка, не разумеючы яшчэ цалкам таго, што цяпер адбылося, ды ўпэўнены, што яго чакае нешта вылучна чорнае і непрыемнае ў ягоным жыцці. Але разам з тым разумеў, што зрабіў адзіна слушны выбар. Яшчэ адно супакойвала: акно Надзеінага пакоя выходзіла на другі бок, яна не магла бачыць ні міліцыянтаў, ні таго, што яго, Лобача, прымусілі сесці ў аўтамабіль.

— У аддзел? — бадзёра, аж усцешана, быццам паспяхова выкананае складанае заданне, спытаў кіроўца.

— Да мяне пакуль што, на пункт, — адказаў участковы, і кіроўца незадаволена скрывіўся.

Лобач сядзеў на пыльным заднім сядзенні. Пабачыў — у дзверцах няма ручак. “Каб не выскачыў” — аўтаматычна знайшоў адказ. Ён чуў кароткі дыялог міліцыянтаў, і прамоўленае крыху стомленае “на пункт” участковага прагучала ледзь прыкметным абяцаннем нечага добрага, абяцаннем, што ўсё скончыцца не так і дрэнна. Лобачу было прыкра ўсведамляць, што яго грэла гэтае абяцанне, ён з аднаго боку рыхтаваўся, настройваў сябе на самае горшае, ды мусіў прызнацца, што баіцца невядомага горшага, што словы ўчастковага ўспрыняў як выратавальную саломінку.

Ён цалкам усведамляў, што ва ўсім тым, што адбывалася, вінаваты сам. Але была незвычайная, неверагодная палёгка ад таго, што вось цяпер ён, як і Надзея колькі дзён таму, паспытае таго, што называецца знікненнем цябе — калі ў адзін момант звыклы свет імкліва абрынаецца, знікае, вычварна змяняецца, і ты сам знікаеш у ім. Быў выкладнік універсітэта, быў кандыдат гістарычных навук, быў навуковец-этонграф, аўтар дзясяткаў публікацыяў, паважаны чалавек, інтэлігент, а стаў — грамадзянін. Лобач, здалося, скурай адчуў пагрозліва рыклівае “гра” на пачатку, адчуў, як рыбінай лускай злятаюць з яго асабістыя якасці, што здаваліся непарушнымі, якія нельга было адлучыць ад жывога Лобача. А вось прамоўлена “грамадзянін” — і стала можна.

Да Лобача-выкладніка маглі паважліва ставіцца міліцыянты, перад Лобачам-кандыдатам навук яны праявілі б сваю тактоўнасць і службовы запал. Але “грамадзянін” быў толькі іхным суб’ектам прыкладання ўлады, атрыманай разам з формай. І больш нікім.

Лобач разумеў, што пацерпіць — ягоныя рэзкія словы пра збіванне жанчын міліцыяй маглі патлумачыць як нахабны паклёп, ягонае нежаданне правесці міліцыянта ў сваю кватэру — як супрацў органам. І, найбольш смешнае, але і сама рэальнае — у волі гэтых міліцыянтаў было зрабіць з Лобача брыдкамоўцу. Тая інфармацыя, якую ён атрымаў за апошнія дні — ад сястры, з апазіцыйных сайтаў — сведчыла пра цалкам мажлівы такі далейшы сцэнар.

Што б ні чакала Лобача, ён зусім не хваляваўся цяпер. Нібыта збоку гледзячы на сябе, на свае адчуванні, шукаў прычыну сваіх паводзін. Не, не толькі імкненне абараніць сястру ад наведвання міліцыянта было прычынай. Прычына была ў самым Лобачы —

ён мусіў запратэставаць, мусіў выгукнуць словы вінавачвання, бо гэта жыло ў ім усе дні — жаданне хоць нечым кампенсаваць сваю бездапаможнасць, разгубленасць у тыя хвіліны, калі Надзея як цень з'явілася на парозе пасля ночы ў турме, хоць неяк рэабілітавацца перад сабой.

І вось паводзіны ўчастковага, цалкам незразумелыя яму пакуль што, падказвалі, што ніякага апраўдання самога сябе можа не адбыцца.

Ехалі нядоўга, хвілін дзесяць.

Участковы выйшаў з тоўстай скуранай тэчкай, адчыніў заднія дзверцы. Лобач выйшаў без запрашэння.

— Слаўка, ты едзь сабе. Я тут паперы афармлю, там і палуднаваць пара. Потым іншае.

Слаўка-кіроўца нічога не адказаў, УАЗік ірвануў з месца. Лейтэнант зняў фуражку, не гледзячы на Лобача сказаў:

— Хадземце.

На першым паверсе звычайнага жылога дома ён прыпыніўся перад дзвярыма, абабітымі бляхай і памаляванымі ў цёмна-зялёны колер, адамкнуў іх, расчыніў, пачакаў, пакуль увойдзе Лобач.

Пакой быў невялікі, са старой мэбляй: два сталы літарай "Т", шэраг драўляных крэслаў уздоўж сцяны, шафа, высокі металічны сейф. Краты на акне. На сейфе — фотаздымак дзіцяці ў рамачцы. Мапа гарадскога раёна на сцяне з пракрэсленымі незразумелымі чырвонымі і сінімі лініямі.

— Сядайце, — лейтэнант кінуў сваю фуражку, што нёс у руках, на крэсла побач, паказаў Лобачу на крэсла пры стале. Разгарнуў скураную тэчку і сказаў, не адрываючы вачэй ад папер перад сабой: — У мяне на ўчастку сямнаццаць былых "зэкаў". Яшчэ падлеткі на ўліку, праблемныя сем'і. План наведванняў —

штодня. Па ўсіх трэба складаць справаздачы. І вось цяпер дадалося яшчэ: абысці пяцёра такіх, як ваша сястра, правесці прафілактычную гутарку, аформіць паперы. Вы шмат пішаце? Ведаю, шмат. Але наўрадці болей за мяне… Сёння я думаў пабываць ва ўсіх па справе маўклівых пратэстаў. Пяць хвілін на кожнага. Вы першы — і я змушаны цяпер што? Афармляць вас як дробнага хулігана за непадпарадкаванне міліцыі і паклёпніцкае абвінавачванне яе?

Участковы зірнуў у Лобачаў твар.

Лобач пабачыў стомлены позірк маладога мужчыны. Пэўна ж, у яго ёсць жонка, дзеці (вунь жа, картка на сейфе).

— Да сястры і праўдзе зараз нельга, — міжволі вінавата адказаў Лобач. — Яна… захварэла. Я не ведаю, што рабіць… Яна баіцца людзей…

Участковы нічога не адказаў, дастаў некалькі аркушаў паперы, пачаў пісаць. Мінула хвілін пяць поўнай цішыні.

— Вось, падпішыце тут, за сястру, яе роспісам. Што яна папярэджаная пра адказнасць за магчымы паўтор сваіх дзеянняў. Тут падпішыце, што прафілактычная гутарка з ёй праведзеная, ёй усё зразумела…

— Свой подпіс паставіць? — разгубіўся Лобач.

— Не… як сястра распісваецца, — цярпліва патлумачыў участковы.

Ён пачакаў, калі Лобач паставіць подпісы, склаў паперы, колькі секунд думаў, паляпваючы пальцамі па стале.

— Мая бабуля ў маленстве расказвала адну казку, пра тое, адкуль якія людзі павяліся. Быццам Бог стварыў чалавека, Адама, а той нарадзіў сыноў шмат, а дачку адну. І ўсе сыны хацелі ажаніцца. Тады Адам узяў гаршчок, паклікаў сыноў, і тыя сталі з яго вы-

маць розных стварэнняў. Хто выцягнуў ваўчыцу, ажаніўся з ёй — пайшлі людзі злыя і небяспечныя, лісу — хітрыя, мядзведзіцу — моцныя... Помніце такую казку?

— Ведаю, — разгубіўся Лобач ад нечаканага пераходу. — Я падобную казку запісаў гадоў пяць таму, казка аўтэнтычная, значыцца, аналагаў не мае. Дзе жыве ваша бабуля? — прафесійная звычка ўзяла верх, абудзіла цікавасць.

— Дык мая бабуля вам яе і расказала. Потым вы даслалі свой артыкул з гэтай бабулінай казкай, дзе былі яе імя і прозвішча, і там у артыкуле было напісана, што казка такая адзіная. Бабуля не магла паверыць, што яе імя надрукавана ў сур'ёзным часопісе, што яна адна ва ўсёй краіне ведае такую казку. Усе суседзі прыходзілі падзівіцца... Бабуля той часопіс хавала за абразом... памерла тры гады таму. Вось... Да пабачэння! — нечакана скончыў участковы.

— Да пабачэння... — Лобач устаў з-за стала, не ўсведамляючы яшчэ, што ўсё скончылася, што ён можа вось цяпер выйсці адсюль, і ўсё вернецца на месца. Але мусіў прыняць факт як сапраўдны. Ён выходзіў, а ўчастковы нехаця, здавалася, са старанна прыхаванай агідай, перабіраў у сваёй тоўстай тэчцы паперы.

На вуліцы асляпляльна выцяла па вачох сонечнае святло — аж замружыўся на імгненне, начапіў акуляры. Дастаў мабільнік. Дзіўна, званка ад студэнта, Уладзіміра Жабруна, больш не было. А часу мінула ж нямала. "Размінуліся", — падумаў Лобач, пайшоў на прыпынак аўтобуса — трэба было пад'ехаць пару прыпынкаў, каб зноў апынуцца ў сваім двары.

На душы было пуста і... прыкра. Алесь успомніў тую самую бабульку, якая апавяла яму казку. Запом-

ніліся яе рукі, з цёмнай, бліскучай і, на выгляд, надта тонкай скурай, пасечанай сотнямі вялікіх і малых зморшчынак. У бабулькі былі вялікія рукі, выпіралі косткі і костачкі пальцаў, рыхтык на руках не засталося мяса, адно косткі былі абцягнутыя завялікай для амаль высахлых рук скурай. Бабулька трымала рукамі свой просты арэхавы кіёчак, пакручвала яго ў руках, соўгала сюды-туды па зямлі. Верх кіёчка ў яе пад рукамі быў выгладжаны да цёплага бляску. Хацелася дакрануцца да яго, каб упэўніцца ў яго бездакорна роўнай паверхні.

І вось гэтая бабулька стала тым маленькім парожкам, на якім так нечакана спатыкнуліся сённяшнія падзеі. Яна, бабулька, сапраўды ўратавала Лобача ад невядомага страшнага. І цяпер у Алесевых вачох стаялі яе рукі, якія лашчылі, загладжвалі і без таго гладкую паверхню арэхавага дручка…

## 2

Уладзімір Жабрун стаяў ля пад’езда, на самым прыпёку, але трываў, не адыходзіўся ўбок. Словы выкладніка “сустрэну” ён перш успрыняў як тое, што Лобач будзе чакаць яго менавіта ўнізе, вось тут, але праз колькі хвілін чакання Уладзімір пачаў сумнявацца ў сваім перакананні. “А што там такога, калі я зайду ў кватэру? Нічога ж страшнага, што, выкладнікі — нейкія такія асаблівыя людзі, што да іх студэнтам нельга заходзіць у дом?” Мінула дзесяць, пятнаццаць хвілін, і Уладзімір наважыўся — зайшоў у пад’езд і стаў уздымацца прыступкамі. У ліфт не пайшоў толькі таму, каб пацягнуць час. Раптам з’явілася не-

вытлумачальная трывога. Мо яе наганяла сама лесвіца, вузкая, стромая, і ад таго змрочная, ну, чыста пустэльня. Уладзімір спыніўся перад кватэрай з патрэбным нумарам, глыбока ўздыхнуў і выдыхнуў, націснуў на кнопку званка.

“Не заб’е ж, мабыць”, — супакоіў сябе.

Ён пачуў, як нягучна, напеўна адгукнуўся званок у кватэры і стаў чакаць, крадком зіркаючы на пукатае вочка ў дзвярах. За колькі секунд гэтае вочка пацямнела — Уладзімір адзначыў, што яго разглядаюць, адвёў вочы ўбок, стаў нязмушана. Куточкам вока бачыў, што цень на вочку не знікае, не чуваць было і кл**я**пання замка. І здзівіўся, што ў ім такога, каб гэтулькі часу яго разглядаць? Пагляд адтуль, з таго боку дзвярэй, стаў амаль адчувальным, секунды ішлі, а дзверы не адчыняліся, Уладзіміра разглядалі, вывучалі. Уладзімір стаў адчуваць тую самую трывогу, якую нарадзіла пустая і гулкая лесвіца ў пад’ездзе, яшчэ мацней.

Асвятленне вочка не мянялася, і Уладзімір падумаў, што тое нібыта пацямненне вочка, якое ён звязаў з разглядваннем сябе гаспадаром кватэры, было простай гульнёй ценяў. Можа, гаспадар не пачуў званка, трэба, мабыць, пераразваніць. Уладзімір павагаўся крыху, потым нясмела ўзняў руку.

Тады пачулася прыціхлае, запаволенае паварочванне зашчапкі.

Дзверы асцярожна прыадчынілся, і Уладзімір пабачыў перад сабой твар хворай жанчыны.

Тое, што яна хворая, хворая цяжка, ён не зразумеў, не пабачыў, а адчуў — ад жанчыны проста біла такая хваля болю і трывогі, што Уладзіміра амаль фізічна ўдарыла, ды так моцна, што выціснула ўсё паветра. Ён уздыхнуў, глыбока, з непрыемным для сябе ўсхлі-

пам, ліхаманкава шукаючы адказу на пытанні: выкладнікава каханка адчыніла дзверы (ён ведаў, што Лобач не жанаты)? Ці ён памыліўся нумарам кватэры, дома, і гэта наагул не тая вуліца? Але ўтрымаўся на месцы, можа якраз дзеля хвалі, што неслася ад жанчыны, у якой для Уладзіміра чуўся крык аб дапамозе.

— Выбачайце, мне трэба… тут жыве Алесь Паўлавіч Лобач?

Жанчына гадоў сарака была ў халаце, крыссё якога было схопленае вузкім пасам нядбайна, так, што кідалася ў вочы глыбокая лагчынка між грудзей, якая бянтэжыла Уладзіміра сваёй непатрэбнай тут эратычнасцю і нібыта ўшчувала яго ў тым, што ён умяшаўся, перапыніў, можа, нейкі інтымны момант у жыцці людзей.

— Выбачайце, я, здаецца, не ў час, — прамямліў Уладзімір, памкнуўся было развярнуцца ісці, як раптам жанчына, глядзеўшы на яго ўвесь час пакутліва-дапытлівым паглядам, раздумліва спытала:

— Чаму я вам адчыніла дзверы?

Пытанне было такім недарэчным, нечаканым, што Уладзімір адказаў тое, што адчуваў з першага моманту перад жанчынай:

— Бо… вы хворая.

Сказаў і сам спужаўся сваіх слоў, але твар жанчыны нібыта паспакайнеў, з насцярожана-хваравітага стаў разгублена-зацікаўленым. Яна ўважна глядзела на Жабруна і потым задала другое пытанне, такое ж нелагічнае:

— А чаму я вам веру?

Уладзімір, разгублены, і цяпер не стаў шукаць адказу, дазволіў сарвацца з вуснаў тым словам, якія з'явіліся:

— Бо я вам не зычу злога…

— Заходзьце…

Дзверы расчыніліся шырэй, жанчына ступіла ўглыб вітальні, запрашаючы, а Уладзімір затаптаўся на месцы: на яго абрынуліся сумненні ў тым, што менавіта гэтая кватэра яму патрэбная: ён прыйшоў да выкладніка, а яго сустракае відавочна хворая жанчына. І тут зашмаргацелі дзверы ліфта. Выйшаў Алесь Лобач.

Момант ніякаватасці мог бы расцягнуцца на непатрэбныя хвіліны тлумачэнняў, але жанчына ўладна ўзяла ініцыятыву ў свае рукі:

— Алесік, хутка заходзь! Малады чалавек прыйшоў да мяне. Заходзьце, заходзьце хутчэй!

Мужчыны падпарадкаваліся, абодва, быццам пра ўсё раней было дамоўлена. Лобач, пазнаўшы Уладзіміра Жабруна, махнуў рукой — няхай будзе, што будзе.

Зайшлі, жанчына спешна зачыніла дзверы, і тады Алесь Лобач пазнаёміў з сястрой:

— Мая сястра, Надзея. Надзея, мой студэнт-завочнік, Уладзімір Жабрун. Ён… да мяне па справе.

— Ён не да цябе, ён да мяне, — мякка запярэчыла Надзея і мякка, ціхамірна, нібыта размова ішла пра надвор’е за акном, спытала: — Алесь, малады чалавек сказаў, што я — хворая. Я веру яму. Скажы, ты таксама лічыш мяне хворай?

Лобач замёр. І недзе на роўні падсвядомасці ён зразумеў, што сястры не трэба зараз пярэчыць, што нешта адбылося ў яе свядомасці, што студэнт невядома якім спосабам здолеў… што ён здолеў? Што ён казаў? Ды няважна, што ён казаў, бо галоўнае было тое, што Надзея во зараз стаіць перад незнаёмым маладым мужчынам, не баіцца яго, і мала таго — яна спакойна

кажа пра тое, што яе палічылі за хворую. І падаецца, яна гатовая з гэтым згадзіцца.

— Ён не просты студэнт, Надзея, — адказаў Лобач, сам амаль перакананы ў слушнасці сваіх слоў.

— Я так і зразумела, — адказала Надзея і дадала проста, будзённа. — Я згатую вам каву?

Уладзімір Жабрун гатовы быў праваліцца скрозьдонна. Ён зразумеў, што патрапіў у самую сярэдзіну нейкай вялікай сямейнай таямніцы, у якой не меў права быць. Чырвань заліла ягоны твар, ён не ведаў, як сябе паводзіць, што казаць.

Лобач намеркаваў нічога не мяняць у плыні падзеяў, падумаўшы, што горай ніяк не будзе.

— Ага, зрабі калі ласка… дзве кавы, так, — запытальна глянуў ён на Уладзіміра. — Мы пакуль што будзем у маім пакоі… Хадземце, — запрасіў ён кіўком галавы Уладзіміра.

— Ды мне ж… адно аддаць паперы… І во, на флэшцы ёсць усё, — стаў апраўдвацца Уладзімір, калі зайшлі да Алеся Лобача ў пакой.

— Сядайце, — стомлена адказаў Лобач з мяккай просьбай у голасе. — Няхай Надзея прыгатуе каву…

Уладзімір прысеў, выцягнуў са сваёй торбы аркушы, флэшку. Лобач стаў уважліва праглядаць запісы. Потым павярнуўся на крэсле да кампутара, увамкнуў яго. У гэты момант на парог пакоя ступіла Надзея.

— Вы мне мусіце паклясціся, што Вас ніхто не пасылаў па мяне! — рэзка, патрабавальна загаварыла яна да Уладзіміра.

Былы спакой знік у яе з твару, як і не бывала. Вочы глядзелі недаверліва, са спалохам. Надзея пакусвала ніжнюю губу. Рукі былі на роўні грудзей, яна бесперапынна захапляла пальцы адной рукі другой,

нервова церла, нібы імкнулася зацерці нешта слізкае і агіднае.

— Надзея! — умольна ўсклікнуў Лобач. — Ты ж сама пераканалася, што Уладзімір — студэнт, ён прыйшоў да мяне. Вось бачыш, ён прынёс выкананае заданне… Прабачце, калі ласка, — павярнуўся ён да Жабруна. — Сястры… мроіцца… ёй падаецца, быццам за ёй цікуюць… дрэнныя людзі.

— Я разумею, — спакойна адказаў Уладзімір, бо ў гэтую хвіліну ён і сапраўды стаў упэўнены ў сабе, аднекуль з’явілася адчуванне слушнасці не толькі сваіх дзеянняў, а наагул таго, што ён цяпер вось тут, і перад ім яна, хворая жанчына, якой ён мусіць дапамагчы. — Я разумею, — паўтарыў ён, гледзячы жанчыне ў вочы, і тыя палагаднелі. — Зусім нядаўна мне таксама… мроілася. Надта страшнае. Так мроілася, што я стаў баяцца дня, не кажучы пра ноч. Баяцца людзей. Мне памог адзін чалавек. Незвычайны чалавек. Ён і Вам паможа.

— Мне не мроіцца, я ведаю, — адказала Надзея, але няпэўна, нібыта чакаючы больш пераканаўчых слоў ад Уладзіміра.

— Я таксама быў пэўны, што ўсё дзеецца са мной напраўду, — працягнуў Уладзімір. — Гэта так і ёсць. Я ведаю сёння, што ёсць… ёсць вакол нас такое, што можа нас падпарадкаваць, прымусіць баяцца, рабіць тое, чаго яму трэба… Самому не перамагчы яго… Той чалавек… Ён моцны. Ён паможа. Ён жыве далёка адсюль, але ён паможа.

Надзея нечакана выйшла.

У пакоі стала ціха. Да Уладзіміра зноў вярнулася яго ніякаватасць, ён баяўся ўзняць на выкладніка вочы. Але не мог дакараць сябе за тое, чаго нагаварыў. Ён быў пэўны, што ўсё так і мае быць.

Лобач моўчкі запусціў кампутар, уставіў Жабрунову флэшку.

— Тэчка "Для Лобача"? — ціха спытаў ён.

— Так... — хутка адказаў Уладзімір. — Там усе файлы... З графікамі, што я раней паказваў, канчатковы варыянт.

— Добра, дзякуй, — кіўнуў Лобач, скапіяваў файлы, спыніў флэшку, выцягнуў яе.

Пачуўся тонкі свіст — сігналіў на кухні чайнік. Свіст не спыняўся, мацнеў. Лобач узняўся, каб пайсці і вымкнуць, але тут на парозе пакоя зноў з'явілася Надзея.

Цяпер яна была не ў халаце — у спадніцы і блюзцы, прычасаная. Нават вусны падмаляваныя.

— Паедзем, — папрасіла-загадала яна.

— Куды? — няўцямна кінуў Лобач, бездапаможна зірнуў на Уладзіміра. У ягоным паглядзе яскрава чытаўся немы злы ўпік: што ты нарабіў?

— Паедзем! — станавіта падняўся з месца Уладзімір. — Там чайнічак... свішча.

— Я вымкну зараз. І каву згатую, — адказала Надзея і паспяшалася на кухню.

— Вы сур'ёзна? — нацягнута запытаўся Лобач. — Чаго вы ёй нагаварылі? Які яшчэ дзядзька? Ёй трэба да лекара. Спецыяліста. Вы не зразумелі? У Вас ёсць знаёмы лекар?

Алесь не мог схаваць злой раздражнёнасці ў голасе. Тое, што ён раптам страціў мажлівасць уплываць на сястрыно жыццё, палохала і выводзіла з сябе.

— Паедзем... — ціха, просячы, загаварыў Уладзімір. — Ёй... памогуць, праўда. Мне ж памог. У вас ёсць машына?

— Ёсць, — цішэй адказаў Лобач. Яго думкі ліхаманкава біліся, мільгалі. Урэшце ён зноў, як перад

уваходам у кватэру, калі сустрэў на пляцоўцы Жабруна і сястру, на ўсё махнуў рукой: хай будзе, як будзе. Добра тое, што Надзея выйдзе з кватэры… — Далёка?

— Кіламетраў сто. Вёска Карчаваха… — Уладзімір назваў поўны адрас.

Яны выйшлі з пакоя — Надзея стаяла ў вітальні, у басаножках, на галаву яна накінула празрыстую лёгкую хусцінку.

— Паедзем… потым каву, потым, — узбуджана паклікала яна.

Лобач зачыняў дзверы кватэры, усё яшчэ не верачы цалкам у тое, што адбывалася і адбылося. Палова дня мінула — а галава скрозь затлумленая падзеямі і пачуццямі. Пакуль чакалі ліфта, ён узважваў: колькі засталося паліва ў баку аўтамабіля.

Уладзімір абачліва сеў на заднім сядзенні разам з Надзеяй, якая хавала твар у квяцістай хусцінцы. Як выйшлі з кватэры, ён зразумеў, што цяпер уся адказнасць за жанчыну ляжыць на ім. Недзе падсвядома яго гнятла нелагічнасць уласных паводзінаў: умяшаўся ў асабістае жыццё практычна незнаёмых яму людзей, але ў той жа час адчуванне слушнасці сваіх слоў і дзеяў было такім моцным, усёабдымным, што Уладзімір гнаў ад сябе лішняе. Толькі адно зрабіў, не звязанае з гэтай жанчынай, патэлефанаваў Антосю Зубелю.

Яшчэ як дастаў мабільнік, Надзея насцярожана зіркнула на яго, сцялася, і Уладзімір шпарка патлумачыў:

— Гэта я сябру тэлефаную… мы з ім разам прыехалі, думалі, разам і паедзем, каб ён мяне не чакаў.

Тэлефанаваў і, казерачыся, сачыў за Надзеяй, якая сядзела, схіліўшы галаву, уціснуўшы сябе ў крэсла.

— Антось, я паехаў у вёску… тут, са знаёмымі. Так трэба. Не чакай мяне.

Не стаў болей нічога тлумачыць, бо пабачыў, як уздрыгнула жанчына ад першага слова ў мабільнік.

Усю дарогу Уладзімір не расслабіўся ні на хвіліну — сачыў крадком за Надзеяй. Думка пра тое, што жанчына можа раптам нечага спалохацца, пачне вырывацца з машыны, адчыняць дзверцы, не адступала ні на хвіліну. Але ўсё мінулася спакойна. І толькі калі ўехалі ў Карчаваху, Надзея стала нервова пазіраць у акно.

— Мы ўжо прыехалі? Тут страшнае месца… Нам трэба далей, далей… Алесь, не спыняйся тут, не спыняйся…

— Тут нічога не трэба баяцца, праўда, не трэба, — мякка ўмаўляў Уладзімір, сам не заўважыўшы таго, як узяў жанчыну за руку. — Скрайні дом па левым баку, — ціха падказаў ён Лобачу.

Калі Лобач збочыў з дарогі да Уладзявага надворка, Надзея закрычала, забілася, пачала тузаць ручку дзверцаў:

— Далей! Далей! Не спыняйся тут, Алесю! Алесік, родненькі, не спыняйся тут, не спыняйся… Едзь! Я кажу табе — едзь! Яны заб'юць мяне! Адчыні, адчыні дзверы!

Уладзімір у роспачы трымаў жанчыну за руку і паглядваў на дом. Ён ці не ўголас гатовы быў клікаць цяпер Уладзю. І той, як пачуў яго думкі, хоць, відавочна, Уладзя выйшаў паглядзець: хто да яго пад'ехаў. Ён толькі зірнуў на аўтамабіль і адразу скіраваўся да задніх дзверцаў.

Уладзімір расчыніў іх. Але Уладзя абышоў вакол машыны, прыпыніўся супраць Надзеі. Тая глядзела на старога, яе дробна трэсла. Але яна замоўкла, сцішылася.

Выйшаў з аўтамабіля Алесь, стаяў, не ведаючы, што яму рабіць. Уладзя сам адчыніў дзверцы, працягнуў руку да Надзеі:

— Выходзь, Надзея…

Жанчына падпарадкавалася, асцярожна, рыхтык на лёд, ступіла нагамі на зямлю.

І заплакала. Перш асцярожна ўсхліпвала, затуляючы твар далонямі, а потым яе прарвала — залілася слязьмі, голасна, па-жаночаму падвываючы.

Уладзя адной рукой асцярожна абняў жанчыну.

— Хадзем, хадзем, дачушка.

Надзея паслухалася.

Яны зайшлі на надворак, потым у хату. Алесь і Уладзімір у разгубленым маўчанні спыніліся перад веснічкамі. Тут дзверы адчыніліся, і Уладзя каротка загадаў:

— Едзьце па Ганначку! У медпункце яна, — і зноў схаваўся ў хаце.

Алесь запытальна зірнуў на Уладзіміра, той адказаў, разварочваючыся назад, да машыны:

— Гэта фельчарка мясцовая…

У гэты момант да іх машыны імкліва пад'ехаў Антосяў аўтамабіль. Уладзімір кінуў Лобачу: чакайце тут, падскочыў да Зубелявага аўтамабіля, адчыніў дзверцы, скочыў на сядзенне:

— Па Ганначку!

Антось не чакаў ніякіх тлумачэнняў — ірвануў з месца і памчаў назад вуліцай.

— Жанчыне адной… Дрэнна зусім. Яна — сястра майго выкладніка. Я падумаў… Мне нешта падалося, што ёй толькі Уладзя паможа. Як нехта збоку мне казаў, што казаць і рабіць, — тлумачыў Уладзімір дарогаю.

Ганна на медпункце была адна. Яна таксама не стала нічога распытваць, схапіла сваю вялікую сінюю торбу з белым крыжам, прымкнула дзверы і села ў аўтамабіль. Каля Уладзявага дома яна кіўнула, вітаючыся, Лобачу, хутка зайшла ў хату, адкуль несліся прыглушаныя ўзрыгі.

Мужчыны на дварэ чакалі. Не гаварылі. Хвілін за дзесяць гукі ў хаце сціхлі. Выйшаў Уладзя.

— То што вы там стаіце, людзей пужаеце… Ідзеце на двор, во на лаўку… Стаіце, як чужыя, — з дакорам запрасіў ён, прысеў сам. — Нічога страшнага, — загаварыў ён да Алеся. — Нацярпелася жанчына, гэтулькі на яе звалілася… Зараз там Ганначка ёй упырск зрабіла, кропельніцу ставіць. Яна паспіць… Ёй трэба доўга спаць…

Зыркае сонечнае святло залівала зялёную траву надворка, папісквалі ластаўкі, імкліва шугаючы над галовамі. Было ціха, зусім не верылася ў нешта нядобрае, не верылася ў тое, што можа быць бяда, што бяда — за колькі крокаў ад іх, за сцяной дома.

Рыпнулі дзверы — выйшла Ганна.

— Сядайце, — падскочыў Лобач, які сядзеў з берагу.

Ганна вачыма падзякавала, прысела.

— Яна заснула… Што здарылася? — запыталася яна ў Уладзіміра, потым перавяла вочы на Алеся.

Лобач нейкі час вагаўся: як казаць і што. Увесь сённяшні дзень здаваўся яму нерэальным, нібы падзеі адбываліся з кім іншым, а ён, Лобач, толькі назіраў за імі. Усё, ад гутаркі з міліцыянтамі і наведвання пункта міліцыі да Карчавахі, старога і ўтульнага, густа парослага зялёнай травой двара, — усё нібыта мроілася, не магло адбывацца з ім, бо ўсё выпадала з таго заведзенага парадку жыцця, дзе Лобачу было спакойна і ўтульна. Ва ўсякі іншы час ён бы не стаў

нічога казаць незнаёмым чужым людзям пра свае сямейныя сакрэты, асабліва калі яны датычылі не яго самога, а сястры. Але цяпер… Цяпер усё было наадварот, здавалася перакручаным, неверагодным, іншым, але, нечакана для яго самога, Алеся, і самым сапраўдным. Ён адчуў сябе так, быццам дагэтуль жыў на нейкім балоце, дзе мусіў хадзіць вядомымі ўсім кладкамі, а тут, на ўтравелым двары, кладак не было, тут была цвёрдая, пэўная зямля, куды ні ступі. І ён загаварыў шчыра, стараючыся падбіраць словы, каб выходзіла сцісла і ясна, разам і сабе тлумачачы тое, што дзеелася з сястрой.

— Гэта мая сястра… Яна вярталася з лецішча, ад сяброўкі. І на вакзале патрапіла ў гушчу гэтак званай "маўклівай акцыі пратэсту". Яе схапілі… Збівалі. Збіваў яе колішні вучань. Можа, усё адбылося б не так… не з такімі наступствамі, але Надзея… яна вельмі шмат перажыла за свой век. Была замужам. Муж падманваў, як выявілася — быў наркаманам. Яна спрабавала ратаваць — не выйшла, сканаў ад перадазавання. Рана памерла наша маці. А потым здарылася бяда з бацькам — інсульт, пасля чаго бацька перастаў нас пазнаваць. Давялося аформіць… у пансіянат. Ён жыве, на сваіх нагах, але памяць не вяртаецца. І вось, пасля ўсяго, Надзею збіваюць там, прыніжаюць. Потым — камера. Яна сказала, што калі б згвалтавалі, было б лягчэй трываць. Тады суд. Быццам яна непрыстойна лаялася, супраціўлялася міліцыі… Далі вялікі штраф. З працы пазванілі, сказалі, каб пісала заяву на звальненне. Першы дзень пратрымалася, а потым пачало падавацца, што за ёй цікуюць. З дому не выходзіла. Першую ноч не спала, толькі калі я сядзеў у яе каля ложка, драмала. І другую… Доктарка прыходзіла, але яна зачынілася

ў пакоі. Вось… А выклікаць хуткую з санітарамі… каб звязалі яе, сілай запхнулі ў машыну… Я не змог. Яна… У яе ўсё здарылася якраз пасля таго гвалту. Яшчэ адзін такі гвалт перажыць? Як? Не…

Нейкі час усе маўчалі, потым Уладзя ціха, але ўпэўнена сказаў:

— Не перажывай надта, не трэба болей ніякага гвалту… Гэта мінецца. Пабудзе тут твая Надзея дні тры-чатыры і акрыяе. Усё ў сабе насіла, бабе плакаць трэба ад гора, а не ў сабе хаваць. Яна паплакала, паспіць, акрыяе…

— А што за кропельніцу ставілі? — насцярожана павярнуўся Алесь да Ганны.

— Глюкоза простая, падмацаваць крышку, — супакоіла Ганна.

— Дык… што мне рабіць? — разгублена запытаўся Алесь ва Уладзі. — Я, зразумейце правільна, не магу пакінуць сястру тут… адну.

— Начуйце ў мяне, — адказала замест Уладзі Ганна. — Вам у такім стане не трэба ехаць… А сястры пэўны час не трэба бачыць яшчэ каго, апрача Уладзіслава Сцяпанавіча. Мая хата на другім канцы вёскі, але ж вёскі ўсяе — зайцу на два скокі.

— У вас? — разгубіўся Лобач.

Ганна з усмешкай кіўнула і дадала:

— А цяпер завязіце мяне ў медпункт, мой працоўны дзень яшчэ не скончыўся, павінны хлопчык прыйсці на перавязку.

Лобач падпарадкаваўся:

— Вядома, — і зразумеў, што гэтым “вядома” даў сваю згоду і на начлег у невядомай яму хаце. — Зараз?

— Ага, зараз.

— Чакай, — Антось раптам узняўся з лаўкі і хрыпла гукнуў Алеся. — Не пазнаеш мяне?

— Не, не пазнаю, — вінавата пакруціў галавой Лобач. — Былі ў мяне студэнтам-завочнікам?

— Вочнікам быў, не завочнікам, — прамармытаў Антось. — Тваё ж прозвішча — Лобач, так? Сястра — Надзея Лобач?

— Так… Надзея ўзяла пасля… разводу сваё дзявочае прозвішча.

— Ясна, — важка адзначыў Антось нешта сапраўды для сябе важнае. — Сустракаліся мы з табой…. ты канчаў тады школу. І мы былі на "ты". Хто яе збіваў на плошчы? Як прозвішча?

— Навошта… вам? — разгубіўся Алесь. — Дзе мы сустракаліся?

— Трэба, — адмахнуўся Антось ад пытанняў. — Як прозвішча таго былога вучня? Хто судзіў? А, ну гэта ведаць не будзеш… Надзея ж атрымала на рукі пастанову суда? Заўтра з'ездзіш у горад, паглядзіш, не — лепей прывязеш мне тую паперку.

— Добра, прывязу, — агаломшаны чарговай ірэальнасцю, Лобач зноў згадзіўся. — Але навошта вам?

— Не "выкай", кажу ж — сустракаліся мы і не раз, і пры стале сядзелі… Трэба мне. Помніш прозвішча?

— Помню… — кіўнуў Алесь. — Надзея назвала яго: Юрый Вайцяхоўскі.

— Добра, вязі Ганначку, — паставіў кропку Антось.

## 3

Лобач прывёз Ганну да медпункта. Яна пра нешта задумалася, потым прапанавала:

— Яшчэ дзве гадзіны… Хадзем са мной, дам вам выпіць… там ёсць пакойчык асобны, канапа, прыляжаце. Бо вы зараз зваліцеся.

Алесь хацеў адказаць, што ён пасядзіць у машыне, падрэмле ў крэсле, але пярэчыць тут і цяпер гэтай жанчыне, пасля таго, што ён ад палудня нікому не сказаў слова супраць, цалкам аддаўшы сябе плыні падзей, было запозна і непатрэбна. Таму моўчкі кіўнуў, выйшаў, зачыніў машыну. І адчуў, як яго аж водзіць у бакі: стома навалілася.

У невялікім пакойчыку, куды прывяла яго Ганна, канапа была засланая белай прасцінай і накрытая цыратай.

— Сядайце, — голас Ганны ў памяшканні медпункта прагучаў з лёгкім адценнем загаду, і Лобач упершыню, хоць і ў думках, усміхнуўся.

Ганна выйшла, хутка вярнулася. У адной руцэ была шклянка з вадой, у другой — невялікае медычнае начынне.

— Тут спірт чысты, — проста сказала Ганна і падала Алесю кілішак з тоўстага шкла. — Хутка выпіваеце, глытаеце і адразу ж запіваеце вадой.

— Я ж за стырном, — здзіўлена зірнуў на Ганну Алесь.

— Не бойцеся, ад гэтага не захмялееце, праз дзве гадзіны нічога не застанецца.

І Лобач зноў падпарадкаваўся. Спірт яму даводзілася раней піць, ён лёгка праглынуў саладкаватую пякучую вадкасць, выпіў усю шклянку вады.

— Цяпер скідайце туфлі, пакладзіцеся. Я вас зачыню, ніхто не патурбуе, — ужо сапраўды загадала Ганна і выйшла.

Лобач падпарадкаваўся, канчаткова махнуўшы рукой на свае асабістыя жаданні і думкі. У галаве прыемна зашумела, кушэтка стала мякка пагойдвацца. Цела зрабілася млявым, каб зараз устаць — ногі не трымалі б, каб узяць што — пальцы не сагнуліся

б. Лобач самгнуў цяжкія вейкі. Цемра была каляровай — зялёнай і чырвонай. І з цемры, ахутваючы Алеся, выплывала ўпэўненасць: усё будзе добра. Вось адсюль, з гэтай вёскі, з гэтага медпункта пачнецца ўсё добрае. Яно і праўда пачалося…

Калі ён расплюшчыў вочы, у пакойчыку прыкметна пашарэла. Дзіўна, але ён усё, што адбылося, да дробачкі памятаў, быццам і не засынаў, хоць адчуваў, што спаў доўга. Выцягнуў з кішэні мабільнік, глянуў — палова на дзявятую вечара. Пачуўшы крокі, Лобач падхапіўся, сеў, павярнуўся да дзвярэй.

Ганна ўвайшла, клапатліва ўсміхнулася.

— Ну, як пачуваецеся? Адпачылі крышку?

— Як суткі праспаў, — шчыра адказаў Алесь.

— Усяго чатыры гадзіны.

— А чаму вы мяне не будзілі? Сядзелі тут і чакалі?

— Ну, чакала, але ж не сядзела: справаздачу пісала, іншых папяровых спраў шмат. Вось і надарыўся добры выпадак… Ну, паедзем, будзем што на вячэру гатаваць…

— Вы выбачайце, я ж нічога не набыў… мы так паехалі… Можа, тут побач яшчэ якая крама робіць?

— Ну, калі хочаце набыць… Зрэшты, і праўда, трэба было б чаго набыць, — падумаўшы, згадзілася, Ганна. — Тут у нас кавярня ёсць. Нічога асаблівага там не будзе, але можна чаго ўзяць, каб з голаду не памерці. Бо ў мяне сёння не гатавана, хіба яечню з макаронамі…

У кавярні было амаль пуста: поўная жанчына з рэдкімі каротка пастрыжанымі валасамі лянотна пра нешта перамаўлялася з трыма мужчынамі за адным з чатырох круглых пластыкавых сталоў чырвонага колеру. Сцены і столь абабітыя звыклымі пластыкавымі панелямі блакітнага колеру. Гэтая бліскучая

блакітнасць з чырвонымі сталамі і такімі самымі чырвонымі крэсламі надавала памяшканню выгляд нейкай медычнай установы. Розніца была хіба ў тым, што за прылаўкам грувасціліся пляшкі розных памераў і колераў ды граў магнітафон на самым прылаўку ў куце.

— Добры вечар, Марына, — павіталася Ганна. — У цябе ёсць свежага чаго павячэраць?

Жанчына не без цікавасці стрэліла вачыма ў бок Алеся, развяла рукі ў бокі:

— Добры то добры, а добрага няма. Каўбасы вазьміце, сёння прывезлі, сардэлькі ёсць. А, во яшчэ салата свежая мясная. Віно даваць? — пытанне яна адрасавала Лобачу.

Лобач павагаўся, потым усё ж спытаўся ў Ганны:

— Можа, возьмем віна сухога?

— Бярыце, — проста адказала Ганна. — Сёння такі дзень… Яшчэ, Марына, каўбасы, сардэлек… салаты дзве. Віно белае.

— Ганначка-Ганулечка! — закрычаў ад століка мужчына ў саколцы — гадоў сарака, на добрым падпітку. — Хадзі да нас, дарагая!

Ганна павярнулася.

— Лёнік, як захочаш са мной пасядзець, то прыйдзеш ды запросіш. Абавязкова пайду.

— Ага, да цябе прыйдзі… выганіш, — мужчына ўпэўнена, хоць і хістаючыся, падняўся, падышоў да прылаўка. — Ты хто? — рэзка запытаўся ў Лобача, пасунуўся да яго па прылаўку.

У ягоных вачох не было злосці, але Лобачу стала вельмі няўтульна. Ён заўсёды імкнуўся ўнікаць вось такіх канфліктаў, ён і ў студэнцкія гады не біўся ніколі, ухіляўся, бо, чаго тут хаваць, баяўся болю, баяўся, што яго могуць выцяць у твар.

— Чалавек я, — як мог годна і разам так, каб мужык не знайшоў у словах і інтанацыі крыўды, адказаў Лобач.

— Во, Лёнік, ён чалавек, а ты? — даляцела ад століка, дзе сядзелі двое сяброў мужыка.

— Ён — чалавек! — выгукнуў у бок століка мужык, павярнуўся зноў да Алеся. — А я — хто? Я — свіння, так?

Ён пагрозліва засоп, прымружыўся.

У яго былі моцныя рукі — рукі вясковага трактарыста. Гэта заўважыў Лобач. Ад мужыка тхнула гарэлкай і нейкай парфумай. Твар быў загарэлы да смуглявасці, але, што ў гэты момант зусім не дарэчы адзначыў Лобач — чыста паголены.

— Свінні ж не голяцца, а вы — паголены, — адказаў ён і звярнуўся да Марыны-прадаўніцы: — Колькі з нас? — падаў грошы.

Мужык перадумваў Лобачавы словы.

— Хадземце, — Ганна пазбірала прадукты ў пакунак, ішла ад прылаўка.

— Ганулечка-Ганначка, адну хвілiначку, адну хвілiначку, — заспяшаўся Лёнік, захапіўшы і прытрымваючы Лобача рукой за кашулю.

— Ты… Вы праўду заўважылі — я заўсёды галюся. Не магу ісці ў культурнае месца непаголеным. А свінню голяць, ты не ведаеш. Перад смерцю… Не, пасля смерці. Калоў калі свінню? Але, стойце… ну, хвілiначку…

— Лёнік, не чапляйся, калі ласка, — ціха, але цвёрда папрасіла Ганна.

— Ганначка, даражэнькая, я ж ні-ні… я толькі даведацца… От мяне таварыш… на “вы” назваў… мяне — на “вы”. А хто я? — узняў ён вочы на Алеся, падаўся да яго тварам.

У ягоных вачох Алесь згледзеў сум. Так, перадусім — сум. І, нечакана сам для сябе, сур'ёзна і ціха адказаў:

— Кожны ёсць тое, што ён сам пра сябе думае.

Лёнік ускінуў галаву, адхіліўся назад.

— Мужык!... Дай... дайце пяць — працягнуў ён руку, схапіў руку Алесяву, моцна сціснуў. — Гэта правільна... што сам пра сябе... Ізвіняйце, шчаслівай дарогі!

— Не напалохаліся? — з лёгкім непакоем запыталася Ганна, калі селі ў машыну.

— Трошкі было, — шчыра адказаў Алесь. — Маё маленства і хлапецтва прайшлі, можна сказаць, у цяплічных умовах, дык у бойках я спецыяліст ніякі.

— Ды яны бяскрыўдныя... — стала бараніць Ганна вяскоўцаў. — Так, да незнаёмага прычапіцца, каб неяк сум свой разагнаць, каб хоць нешта новае... У іх жа тут дзень учорашні як сённяшні дзень, а сённяшні як заўтрашні...

Можа, гэтая невялікая сустрэча Алеся з п'яным надала Ганне нейкай вінаватасці перад Алесем, бо цяпер яна ветла распытвала яго пра жыццё, і ён бачыў — распытвае не дзеля самой ветласці. Расказвала сама: як апынулася тут, як працуе.

— Такая прыгожая, разумная і добрая жанчына — і адна, — асмялеў пад канец вячэры Лобач. — Не разумею...

— А што тут не разумець? — сумна ўсміхнулася Ганна. — Я — ведзьма, мяне хлопцы баяцца. Дый добрага на самоце нямала: лягла не клята, устала не мята. А калі сур'ёзна, то проста так выйшла. Не сустрэла. Прапаноў — вунь колькі. І нават праз сеціва. Вось нядаўна адзін знайшоўся, такі закаханы — няма куды дзецца. Піша штодзень лісты, ды такія —

зачытаешся. Прывучыў: як не прыйдзе калі ліст, дык быццам і сумна. Ды бачу, вы таксама не зломак, не пачвара, а адзін. Чаму?

— Вас мужчыны баяцца, а я жанчын баюся, — прызнаўся Лобач і сцісла пераказаў свае колішнія дачыненні з лабаранткай. — І як перамкнула мяне, — скончыў з усмешкай. — А як там Надзея? — змяніў ён тэму.

— Не перажывайце, я ж сказала — яна будзе спаць. Яе сон вылечыць. І Уладзя… — спакойна адказала Ганна.

Яна паслала Алесю на першай палове хаты, на раскладзенай старэнькай канапе.

— Кладзіцеся, я потым падыду, — сказала яна зноў тым самым мяккім загадным тонам, і Лобач сцяўся: навошта яна падыдзе?

Ён распрануўся, лёг, з прыемнасцю адчуваючы наперадзе шмат гадзін бесклапотнага сну — таго, чаго не меў апошнія дні. І толькі Ганніны словы непрыемным халодным цвіком застыгнулі ў мозгу: яна прыйдзе? Прыйдзе — і ляжа да яго? Але ж… гэта не трэба. Цяпер не можна — там хворая сястра. Гэта проста няправільна — яны колькі гадзін таму пабачыліся. Калі так будзе, то пад нагамі знікне той самы цвёрды грунт, які ён адчуў на Уладзявым падворку, зноў з'явяцца зыбкая балаціна і затаптаныя кладкі… Не, не трэба…

Ён прыслухоўваўся да гукаў на другой палове дома, падавалася — чуў шоргат адзення. Уявілася — зараз яна стане каля яго ў доўгай вышыванай белай кашулі, з распушчанымі па плячох валасамі. Не трэба…

Рыпнулі дзверы, Лобач сцяўся, але зірнуўшы на Ганну, сэрца шчасліва тахнула: яна была адзетая

ў тое самае, у чым сядзела пры стале. У руках трымала доўгую запаленую свечку. Лобач здзівіўся.

— Заплюшчвайце вочы, — ціха загадала яна.

Пстрыкнуў вымыкач, Лобач адчуў цемру, што ахінула пакой з агеньчыкам свечкі, што прабіваўся праз павекі.

Ледзь чутныя крокі — і на ягоны лоб лягла цёплая пяшчотная Ганначкіна далонь.

— Новым разам лепшым часам на чатыры бакі роднай зямлі пакланюся, памалюся, да Кветкі вярнуся. Новым разам лепшым часам на чатыры бакі роднай зямлі пакланюся, памалюся, да Кветкі вярнуся. Новым разам лепшым часам на чатыры бакі роднай зямлі пакланюся, памалюся, да Кветкі вярнуся. Ад святла яе, што ёсць, пачалося, а калі не ад святла, каб не збылося. На пустой зямлі Кветка цвіла, гарэла-саграваля, Алеся зберагала... — чуў Алесь заспакаяльны, але нечакана сур'ёзны, хуткі Ганнін шэпт.

У Лобача здзіўленне знікла ўжо на першым сказе жанчыны. Яе голас гучаў не ў вушах — у галаве, нібыта ён ішоў ад далоні жанчыны, расцякаўся па ўсім целе цёплай хваляй. Думкі сталі блытацца, нешта Лобача закалыхвала, назад-уперад, уверх-уніз. Малая частка ягонай свядомасці яшчэ супраціўлялася, жыла праз сваю прафесійнаю звычку адгукацца вось на такія словы, і недзе ў глыбіні розуму клаліся на палічку развагі: "Новым... лепшым часам..." Так, звычайны пачатак замоў, патроенае паўтарэнне, адсыланне да пачатку стварэння свету... пустой зямлі... так, тады нічога не было... кветка? Чаму кветка? Павінна быць дрэва..." Але мозг урэшце адмовіўся аналізаваць. Лобача пагойдвала. Уверх-уніз. Яшчэ і яшчэ, яшчэ і яшчэ. І раптам ён зразумеў, што ён — зусім-зусім маленькі, а на ягоной галоўцы ляжыць матчы-

на рука. Лобач усхліпнуў, перапоўнены нечаканай пяшчотай, і праваліўся ў глыбокі, светлы сон.

## 4

— Дзед… Яна там моцна спіць? — запытаў Антось ва Уладзі.

— Моцна, — пільна зірнуўшы на Антося, адказаў Уладзя. — Ідзі, зайдзі…

Антось пабыў у доме з хвіліну, не болей. Выйшаў з нейкім чужым, напружаным тварам, моўчкі пастаяў на ганку, варушачы сківіцамі, як расціраў нешта зубамі.

— Паехалі, Валодзька! — гукнуў ён, потым спыніўся: — Дзед, нічога не трэба? Я там хлеба свежага набыў, сталічнага, малако?

— Не трэба, мне людзі сёння прынеслі, — адказаў Уладзя. — Едзьце сабе.

Да самага хутара Антось не вымавіў ні слова. Уладзімір таксама маўчаў. Ён, вядома ж, адзначыў для сябе і Антосява пытанне да выкладніка аб прозвішчы жанчыны, і ягонае жаданне пабачыць самую жанчыну. І яшчэ Уладзімір згадаў, як насцярожылася была сама жанчына, Надзея, калі ён праз тэлефон назваў Антосява імя. Усё складвалася ў простую схему, няхай сабе і мала пэўную, кіношную. Але Уладзіміра зусім не здзіўляла тое, што Антось мог сустрэцца з колішнім сваім каханнем. Так ці гэтак, а людзі ўсё адно перасякаюцца, то чаму б не сустрэцца ім вось гэтак? Тут Уладзімір не бачыў і ніякай прыхаванай непрыемнасці, наадварот, тое пачуццё, якое яшчэ на парозе Лобачавай кватэры падказвала слушнасць дзеянняў,

цяпер нібыта аддзячвала яму спакоем. Адразу стала спакойна на душы. Толькі вось стрэмкай захрасла трывога ад той настойлівай цікавасці, якую выявіў Антось да прозвішчаў міліцыянта і суддзі.

Трывога спраўдзілася ў Антосявым пытанні, калі яны спыніліся ля ягонага дома. Антось заглушыў рухавік, але не спяшаўся адчыняць дзверцаў. Сядзеў, моцна сціснуўшы руль, моўчкі глядзеў перад сабой. Уладзімір таксама не спяшаўся выходзіць. Ён бачыў, што Антось нешта рыхтуецца сказаць.

— Ты зразумеў? — нарэшце павярнуў галаву Антось.

— Наконт чаго з двух?

— Галавасты хлопец, — ці то пахваліў, ці то пашкадаваў Антось. — Ат, што тут загадкі казаць... Яна гэта, Надзея. Тая самая дзяўчына. Знаеш, а яна не надта і памянялася. Так, пасталела, зразумела, а болей дык і ні ў чым... Нават валасы носіць так, як і два дзясяткі гадоў таму... — ён памаўчаў, нібыта ўзважваючы, выбіраючы словы. — Слухай, студэнт, ты малады... У мяне жыццё сваё і прынцыпы свае, няслушныя прынцыпы і рызыкоўнае жыццё. Таму... карацей, пра дапамогу папрашу, дробязную, але... І можам тады разбягацца ў розныя бакі без усякіх крыўдаў. Можаш сказаць “не” — я зразумею. Асуджаць не буду.

— Помсціць надумаўся? — з рэзкім непакоем запытаўся Уладзімір.

Цяпер ён зразумеў канчаткова, навошта Антось пытаў прозвішчы.

— Помсціць? — са здзіўленнем і абурэннем выгукнуў Антось. — Кінь дурное! Не помсціць — адэкватна адказаць! Скажы, ёсць сёння мажлівасць для нейкай справядлівасці? Надзею збіў, абылгаў яе ко-

лішні вучань, сука, якая разам з формай атрымала магчымасць паскудзіць. Менавіта ён помсціў! Скажы, не, ты проста скажы, пакінуць гэта так, як ёсць?

Уладзімір сумеўся. Няўпэўнена адказаў, хоць адчуваў хісткасць і маладушнасць сваіх слоў:

— Сёння… нічога не выйдзе. Але ж надыдзе некалі час. Час, у які ўсе адкажуць за ўсё.

— Не надыдзе ніколі той час! — ледзь не падскочыў, роспачна закрычаў Антось. — Не прыйдзе ніколі! Ніхто ніколі не будзе адказваць за сваю подласць, якая чыніцца пад прыкрыццём улады! Хіба вас, цярплівых, гісторыя нічога не навучыла? Калі ў трыццаць сёмым вынішчалі духоўна і фізічна — нехта адказаў? Хоць адзін з тых следчых, якія здзекаваліся з людзей як маглі, якія чалавека пераўтваралі ў істоту без памяці і пачуццяў, — адказалі? Ды яны персанальныя пенсіі атрымвалі!

Роспач у Антосявым голасе дасягнула нейкай нутраной мяжы, пасля якой змянілася халоднай разважлівай злосцю, і ён загаварыў цвёрда, пераканаўча:

— Успомні дзевяноста першы год. Колькі было спадзяванняў, што цяпер хоць адна пешка партыйная, калі не слон, адкажа за тое, што людзей у вар'ятні хавалі, што гналі і насміхаліся. Адказалі? Ты памятаеш хоць пра адзін суд? То запомні раз і назаўсёды: гісторыя ніколі не станавілася на бок пакрыўджаных сама сабою. Калі самыя людзі…

— Стоп! — рэзка спыніў Антося Уладзімір, бо палічыў, што мае на тое права, калі ўжо ў іх такая шчырая размова, якая можа мець працяг у практычных дзеяннях. — Ты забыўся, дык я нагадаю. Французы некалі надумалі адпомсціць усім крыўднікам адразу. Перадусім галоўным: каралю ды каралеве. А чым скончылася, ты ведаеш. Гільяціна ледзь не захлы-

нулася ў крыві. Урэшце і самыя арганізатары помсты апынуліся ў яе пад нажом. Нармальны ход? Ты такой адплаты хочаш?

— Малаток, студэнт, — пільна зірнуў Антось на Уладзіміра. — Усё слушна: калі і надыходзіць час такога разліку — то лепей бы ён не надыходзіў. Дык што рабіць? Падкажы! Трываць? Забывацца? Вінаваціць нейкую ўяўную сістэму, на якую спісаць паскудствы і зверствы кожнага і ўсіх? А потым, як зменіцца час, прабачыць усіх, забыцца на ўсё, у абдымках пабратацца? Добра, пакуль што выгрузімся… Цягні торбу на кухню, там разбярэмся, што куды… Прыгатуем чаго паесці. Ты ж таксама ад ранку галодны…

Надумаліся сесці на кухні — тут куды свяжэй, як на двары.

— Можа, трэ мне зараз наліць сабе добрую малінкоўскую шклянку гарэлкі, выпіць адным махам, занюхаць хлебам, закурыць, сесці і падперці галаву рукой, — невясёла разважаў Антось. — То было б па-нашаму. Потым яшчэ выпіць, яшчэ… А раніцай шукаць паратунку ад галавы… Глядзіш — на ўсё іншае думак і не застанецца… Добрая формула, праўда, студэнт?

— Не ведаю… Мне пакуль што яна непатрэбная была, — пацепнуў плячыма Уладзімір.

— А іншыя карыстаюцца ёй напоўніцу, — зазначыў Антось. — І дзяржава тое падтрымвае. Напіся, праспіся, пахмяліся — праблема амаль знікне… Ды вось… еш, а потым адкажы: як жа спыніць во такіх вайцяхоўскіх?

— Не ведаю, — шчыра адказаў Уладзімір. — Яны ўсе — у сістэме.

— Вось! Менавіта! Але адзін у сістэме застаецца чалавекам, я дакладна ведаю, а іншы — звярэе. Вось скажы: сістэма абавязвала таго міліцыянта збіваць ягоную настаўніцу, іншых — нішчыць яе чалавечую годнасць? Не, не абавязвала. Я ведаю: яна не забараняе, вочы заплюшчвае на "мілыя свавольствы". Мала таго — яна, сістэма, сваіх бароніць. Ад усіх астатніх, ад нас з табой, ад Надзеі. І дарэмна біцца за нейкую праўду. Бо няма праўды.

— Дык і выйсця тады няма, — з сумам падвёў вынік Уладзімір.

— Ёсць выйсце, — ціха, але цвёрда адказаў Антось. — От ведаеш, там, у Сібіры, дзе законы воўчыя, на чым грамада трымаецца? Хоць воўчыя законы, ды што ім падмурак, па-твойму?

— Што, можа, помста? — хмыкнуў Уладзімір.

— Кінь дурное! — з крыўдай выгукнуў Антось. — Я табе раней казаў пра помсту — гэта той мент помсціў настаўніцы! А закон трымае ў Сібіры адно — адказнасць. Там кожны ведае, што будзе адказваць, калі закон парушыць! Адэкватны адказ чакае кожнага! Рана ці позна — ён цябе дагоніць. Дык вось, каб тут, у нас, кожны ўсведамляў, што яго чакае адэкватны адказ на ягонае хамства, быдляцтва, зверства — ён бы проста служыў сістэме, а не наталяў сваю прагу да здзекаў. Ён бы ішоў у сістэму не дзеля свайго юнацкага комплексу непаўнавартаснасці, не дзеля сваёй перавагі над сябрамі дзяцінства…

— Ды згодзен, — неахвотна пагадзіўся Уладзімір. Ён ніяк не мог змясціць у галаве тую думку, што сапраўды ў яго краіне, побач з ім раптам пачне дзейнічаць вось такі закон: вока за вока і зуб за зуб. Было тут нешта надта ж сур'ёзнае, быў нейкі невідочны бар'ер, аб які можна было лоб разбіць.

Уладзімір задумаўся на хвіліну, шукаючы назву бар’ера, які адчуваў, існаванне якога, ён быў пэўны, стрымвае людзей ад сляпога выканання старазапаветнага “вока за вока”. Не прыдумаў, таму намерыўся казаць так, як адчуваў:

— Слухай, Антось... вока за вока — зразумела. Але на практыцы... Хто будзе вызначаць адпаведнасць адказу? Хоць з тым Вайцяхоўскім... Што, злавіць яго, пабіць? Зацягнуць у суд і сказаць, што ён мацюкаўся?

— Я буду вызначаць адэкватнасць! — жорстка адказаў Антось. — Зразумей, законнік ты мой, рэч не ў поўнай адэкватнасці адказу, а ў тым, каб ён проста быў, каб кожны зразумеў: яму больш не даруюць хамства, ссучанасці, подласці.

— Ну, добра, няхай так, з міліцыянтам, — быццам пагадзіўся Уладзімір. — А што з суддзём? Тут жа зразумела, што суддзі атрымалі загад: як судзіць і каго. Дык за што ты збіраешся караць суддзю?

— А ты прапануеш пачакаць, пакуль Пётра з Паўлам на тым свеце ім рахунак выставяць?

— Але ж і ты не Гаспадар Бог?

— Вядома! Я скіраванні ў Рай ці Пекла не выпісваю.

— Дык за што ты тут збіраешся караць? На якой падставе?

— Як за што? — пераможна ўсміхнуўся Антось. — Кажаш, суддзя, як і ўсе іншыя суддзі, выконвае спушчаную зверху дырэктыву, так?

— Няхай і так. Не самавольнічае ж... — упіраўся Уладзімір.

— Кінь дурное, хлопча! — зноў павысіў голас Антось. — А то я падумаю, што памыліўся ў роўні твайго розуму. Суддзя павінны не тэлефонныя дырэктывы слухаць, не нечыя загады, а толькі адно — Закон!

— Ды разумею я, не маленькі! — запсіхаваў Уладзімір. — Я вось таго ўцяміць не магу, чаму да цябе

ніяк не дойдзе, што гэта — сістэма, што ў суддзі, у існасці, няма выйсця! Альбо слухайся — альбо ідзі замятаць двор. Ахвотных на тваё месца ёсць.

— Малайчына, разумны, — згодна паківаў галавой Антось. — А скажы, калі кожны суддзя будзе ведаць, што яго чакае суд тут і цяпер за ягоную крывадушнасць?

— Ідылія, — адмахнуўся Уладзімір.

— Ага, ідылія, — згадзіўся Антось. — Але ведай, студэнт — адзін прыклад вучыць сотні. Два — тысячы. А навучаны ведае, што бывае ў кустох.

— Суддзі хутчэй ваўкі… Антось! Утопія гэта — даводзіць суддзям, што яны ўчынілі няслушна. Утопія! Ну… няхай заўтра мы пакараем неяк таго суддзю, няхай. Па-першае, адкуль ён будзе ведаць: за што?

— А мы падкажам…

— Выдатна! А ты ўяўляеш, як запрацуе сістэма? Заўтра будуць дзясяткі арыштаваных…

— Будуць! А цяпер уяві: некага несправядліва асудзяць — а тут зноў адказ!

— Хто, хто ўрэшце будзе вызначаць: дзе справядліва, дзе не? — роспачна хапіўся за апошняе Уладзімір.

— А ты, хлопча, верыш свайму выкладніку? Верыш яго сястры?

— А вера тут пры чым?

— Пры тым, што я не збіраюся гуляць у Рэмба, зразумела? — стомлена ўсміхнуўся Антось. — Я табе не галівудскі абаронца слабых і пакрыўджаных. Я хачу абараніць, буду бараніць, як сваё, тых, хто мне дарагі. Каму я веру. І гэтага — досыць.

— Для чаго досыць? — разгубіўся на момант Уладзімір.

— Для жыцця нармальнага. Калі кожны будзе бараніць сваіх, змагацца за сваіх — будзе даволі. Калі

не будуць дараваць, не будуць спускаць крыўдаў і абразаў сваіх… Ты еш, давай… Зразумела я табе ўсё патлумачыў?

— Зразумела, — адказаў праз жаванне Уладзімір, а ў дадатак згодна кіўнуў галавой. Пракаўтнуў і запытаў: — І што цяпер? Як ты збіраешся… — хацеў сказаць “адпомсціць”, але спыніў сябе. — У чым будзе палягаць твой адказ?

— Не ведаю, — шчыра ўздыхнуў Антось, адклаў убок відэлец, задумаўся. — Ты мне спачатку скажы: паможаш? Паўтару: я не закрыўдую, у цябе свае мазгі ёсць. Не — дык заўтра завязу цябе хоць у горад, хоць у Карчаваху да Уладзі — і нашы дарогі разышліся, і размовы між намі ніякай не было. Я зразумею.

— Добра, — як бы між іншым, без эмоцый сказаў Уладзімір.

— Што “добра”? — не зразумеў Антось.

— Памагу, — усміхнуўся, маўляў, што тут незразумелага, Уладзімір.

— Так… — Антось пабарабаніў пальцамі па стальніцы. — А чаму не пытаешся, у чым твая задача?

— А што тут пытацца, — амаль абыякава адказаў Уладзімір. — Пэўны, што ты забіваць нікога не збіраешся, дык мне не давядзецца трымаць каго за ногі. А рэшту… думаю, што змагу.

— Не, за ногі трымаць не папрашу, — сур’ёзна пацвердзіў Антось. Было відаць, што ён усцешыўся з Уладзіміравай згоды, аж выпрастаўся ў крэсле — дагэтуль сядзеў, абапіраючыся локцямі аб стол. — Вось што скажу… Не ведаю я, што там будзе і як. Час ці Гаспадар Бог некалі падкажуць момант. А пакуль што… Пакуль што папрашу цябе: знайдзі мне таго Вайцяхоўскага. Каб я… каб мы ведалі: дзе жыве, як жыве, з кім жыве… Зразумела?

— Ну, работа зусім непыльная, — усміхнуўся Уладзімір. — Зараз і пачну. Думаю, таварыш будзе дзе ў сацыяльных сетках… Іншая рэч, што група можа быць зачыненая…

— Я не цямлю, разбірайся сам. Калі не выйдзе — паедзем у горад. Там праз службу якую, — прапанаваў Антось.

— Наўрад ці якая служба дапаможа — інфармацыя пра міліцыянтаў недасяжная.

— Даляры — універсальны ключ ад якога хочаш замка, — запэўніў Антось. — У гэтым можаш не сумнявацца. Ты, галоўнае, знайдзі мне дзверы і замок.

— Добра… Пап'ем кавы, і я палезу ў сеціва. Шкада, не ведаем нічога: у якой школе вучыўся, калі…

— Згода, студэнт… — падвёў рысу пад размовай Антось. — Будзем лічыць, што я зноў бяру цябе на працу. І не тузайся, — дадаў уладным тонам, апярэдзіўшы Уладзіміра.

— Маю права тузацца, — спакойна запярэчыў Уладзімір. — Помач — яна дармовая. Не — дык заказвай гэтую паслугу ў сеціве. Я магу паказаць адрас, дзе ахвотных зрабіць такую работу процьма. Знойдуць за грошы твайго міліцыянта за дваццаць чатыры гадзіны. А я і так на тваіх грашох жыву, ем і сплю.

— Ну, няхай будзе па-твойму, — крэкнуў Антось. — Мабыць, праўда на тваім баку…

## 5

Уладзімір не памыліўся ў сваім меркаванні — Юрый Вайцяхоўскі быў зарэгістраваны і ў "Аднакласніках", і ў "Укантакце". Праўда, інфармацыя была кур-

татая: толькі тое, што навучаецца на чацвертым курсе акадэміі МУС. Колькі здымкаў у форме АМАПаўца: найгрышныя, пазёрскія. Асобная група “Укантакце”, як і чакаў Уладзімір, была зачыненая для чужых.

Уладзімір надумаў стаць сваім: зарэгістраваўся пад жаночым нікам, стварыў сабе легенду: маладая кабета, брат якой, міліцыянт, недзе ў Піцеры, прыехала сюды на сталае жыхарства. І вось цяпер хоча пазнаёміцца з якім маладым супрацоўнікам з органаў, наагул, у кола сваіх, блізкіх яе духу, людзей. Знайшоў у сеціве на нейкім сайце знаёмстваў анкету вабнай маладой жанчыны, сцягнуў яе здымкі, стварыў свой акаўнт, яшчэ раз спраўдзіў сваю легенду, аж да таго, у якім месцы канкрэтна “жыў” у Піцеры, дзе служыць “брат”.

І папрасіўся ў групу.

Доўга чакаць не давялося — Уладзіміра пад выдуманым імем Юлія (ён разлічваў на прыхільную рэакцыю Юрыя Вайцяхоўскага праз сугучнасць імёнаў) прынялі ў групу.

Уладзімір праглядаў старонкі ўдзельнікаў групы. Спачатку ён адразу меўся заняцца шуканнем патрэбнай інфармацыі, але выкладзеныя ў вялікай колькасці фотаздымкі курсантаў акадэміі МУС з іх штодзённага жыцця шакавалі яго. Ён бачыў перад сабой зусім іншы свет: свет дужых, упэўненых у сабе і сваёй дзейнасці мужчын. Свет жорсткі і нечым нават звыродлівы: падпітыя, аголеныя па пояс курсанты застывалі перад фотакамерамі ў позах ніндзяў ці яшчэ якіх кіношных герояў. Сутаргава крывілі ў злосным выскале твары, нехта выконваў ролю ахвяры, у жаху застыўшы з лязом нажа на шыі. У хлопцаў былі свае гульні са сваімі правіламі.

Як бы там ні было, але некалькі гадзін, якія правёў Уладзімір у групе, пакінулі ў ягонай душы супярэчлівае пачуццё адкрыцця новага свету. Ён чытаў старонкі не толькі мужчын, але і жанчын — сябровак ці жонак курсантаў, бачыў, што за вонкавым падабенствам да ўсіх іншых груп тут буяла нянавісць. Так, сапраўдная нянавісць да "оппаў" — так тут называлі апазіцыю. "Оппаў" клялі, зневажалі, на іх злавалі, бо праз іх прымушалі працаваць мужоў і сяброў у іх законныя выходныя, праз іх зрываліся вечары, праз розныя іх акцыі мужчынам даводзілася быць адзетымі ў чорную форму і абутымі ў цяжкія чаравікі, а не ў хатні халат і мяккія пантофлі.

І Уладзімір разумеў, што ў нянавісці ёсць рэальны грунт. Сапраўды, калі паставіць сябе на месца той самай амапаўцавай жонкі, хіба не апанавала б цябе злосць на тых, праз каго муж другія суткі не начуе дома?

Антось яшчэ не спаў — нешта лічыў, перабіраў свае паперы.

— Пакуру, — адкінуўся Уладзімір на крэсле. — Аж галава забалела ад усяго гэтага.

— Пакуры, — згодна кіўнуў Антось. — Захапі там што хочаш, ды ідзі ў альтанку — самы раз папіць гарбаты ці кавы, сонца на захадзе, не смаліць.

— Ага, зробім перакур і перачай, — згадзіўся Уладзімір.

У альтанцы, дзе яны нейкі час моўчкі пілі каву, ён падзяліўся з Антосем думкамі наконт свайго "адкрыцця".

— Разумееш, яны — самыя звычайныя людзі. Але пастаўленыя ў такія ўмовы, калі мусяць ненавідзець.

— Каго? — прымружыўся Антось.

— Усіх тых, праз каго іх змушаюць працаваць. Я не думаю, што ім усім падабаецца, прыкладам, у час нейкай акцыі апазіцыі дзяжурыць суткі, а то і двое, спаць на працы. А ў многіх жа сем'і, там жонкі і дзеці. І ўсе яны мусяць ненавідзець.

— О, ды мы зараз шкадаваць іх пачнём, — іранічна заўважыў Антось.

— А яны што, чыста па-чалавечаму, не вартыя гэтага? — апраўдаўся Уладзімір.

— Ну, вядома, вядома... Валодзька, кінь дурное! Хто там, у апазіцыі? Там — простыя людзі, якія элементарна незгодныя з існым станам рэчаў. Ты ж таксама не згодны з тым, як жыве твая вёска, як співаецца, як страчвае спрадвечную культуру. У чым розніца між табой і тым, хто выйшаў на вуліцу? Толькі ў тым, што ён — выйшаў, а ты — не. І вось таго трэба збіваць, судзіць, штрафаваць, караць суткамі. А ты — добры? Так, ты — добры. Бо ты маўчыш! Яны ненавідзяць апазіцыю, бо яна ім замінае жыць па-чалавечаму? Ты добра падумаў перад тым, як сказаць?

— Падумаў, — насупіўся Уладзімір, — яго непрыемна чапілі Антосявы словы, хоць ён адчуваў, што памыліўся ў сваіх пачуццях, што яго міжволі зацягнуў той свет — і цяпер ён нібыта глядзіць адтуль у гэты час не сваімі вачыма, а вачыма створанай ім Юліі.

— Падумаў, кажаш, — задуменна прагаварыў Антось, адчуўшы Уладзіміраву крыўду. — А вось скажы, чаму тая амапаўцава жонка не задумаецца: адкуль бярэцца тая апазіцыя, чаму людзі выходзяць на вуліцы? Я табе адкажу, чаму. Але, як ты сам думаеш?

— Я нічога не думаю, — крыўда, перадусім на самога сябе, не давала Уладзіміру спакойна разважаць.

— Добра, я сам адкажу, — з жалем працягнуў Антось. — Валодзька, жонка амапаўца сябруе з жонкай

другога амапаўца, з сяброўкай трэцяга… Ты ведаеш пра іх зарплаты? Шкада. Але будзь пэўны, што атрымвае ён удвая больш за настаўніка. Каго сёння набіраюць у міліцыю? Пачытай у газетах! Раней толькі з вышэйшай адукацыяй, пасля службы ў арміі. Потым сталі набіраць з сярэдне-спецыяльнай адукацыяй. А сёння — усіх! Школу скончыў? Выдатна! Не служыў у войску? І не трэба! Бяром! Вось і ідуць туды бегма, пішчом лезуць тыя, каго ў дзіцячых гульнях не брала да сябе ніводная каманда, з кім не сябравалі ў юнацтве, з кім не хацелі сустракацца дзяўчаты. Пад сакрэтам табе скажу: мне наш участковы расказаў. За год прынялі дванаццаць чалавек. І дзевяцёра — звольнілі. І практычна ўсіх з адной прычыны: напіваліся, бралі табельную зброю і ішлі даводзіць сваім былым аднакласнікам, суседзям па двары, якія яны зараз крутыя. Ішлі да колішніх сваіх крыўднікаў — помсціць. Адзін выблюдак зайшоў да свайго былога аднакласніка. Той некалі яму нос разбіў за тое, што дзяўчыне на школьным вечары ў час танца сукенку задзёр, агаліў дзявочы азадак. Бо адмовілася з ім танцаваць. І вось гэты “міліцыянт” выпівае добрую порцыю, бярэ пісталет і такога ж новаспечанага служку. Паставілі ў кватэры на калені мужчыну, ягоную жонку і дачку. Зневажалі, застрашвалі, абзывалі.

— Іх жа выгналі? — хутка запытаў Уладзімір.

Антось счакаў і са шкадаваннем адказаў.

— Слухай, студэнт… Слухай, Валодзька: іх выгналі. Проста выгналі. Не судзілі, не штрафавалі. Думаеш, тая сям’я задаволілася такім “пакараннем”? Ты пастаў сябе на месца таго мужчыны. Вось у цябе жонка, дачушка, ціхі сямейны вечар. І раптам увальваюцца двое п’яных адмарозкаў з пісталетамі. Няхай у форме, але іх дзеянні з грунту бандыцкія. Ты б здаволіўся,

калі б пасля перажытага шоку, жаху, абразы табе паведамілі, што іх усяго толькі звольнілі? Ну, адказвай, — падахвоціў Антось.

— Не ведаю. Пакуль сам не пабудзеш у канёвай скуры, важкасць хамута і апёкі пугай не адчуеш, — адмовіўся ад дакланага адказу Уладзімір.

— Ну, то я табе патлумачу... — не стаў спыняцца Антось. — Звальненне тых з міліцыі — гэта пакаранне за парушэнне ўставу. А як яны адказалі за здзекі з людзей? Ніяк. Іх, не сваіх нават, а былых сваіх, сістэма зноў абараніла.

— А што той мужык... ну, у сям'ю якога ўварваліся? — нехаця пацікавіўся Уладзімір.

— Во, значыцца цябе хвалюе... Разлічыўся ён. Не буду казаць падрабязнасцяў, але разлічыўся. Карацей, Валодзька. Я цябе не клічу на вайну з сістэмай. Ні ў якім разе. Ведаю, што сярод тых самых амапаўцаў — палова нармальных вясковых хлопцаў, якіх загітавалі пасля арміі ісці на такую службу. Што іх чакала ў вёсцы? Трактар, гной, ферма і бар "за магазінам"? А тут — зарплата. Тут культ сілы і зброі — цалкам мужчынскія культы. Нічога дзіўнага, што пасля добрай ідэалагічнай апрацоўкі ўчорашнія прастадушныя вяскоўцы бачаць у кожным, хто падае голас супраціву, свайго сапраўды заклятага ворага. Добра, Валодзька, гэта ўсё тэорыя... А практыка — гэта Надзея. Дзед яе на ногі паставіць, папрашу, каб адмыслова для цябе ўсё расказала.

— А табе не трэба? — здзівіўся Уладзімір.

— Мне таксама, — усміхнуўся сваім думкам Антось. — Хоць я ў свой час зведаў на ўласнай скуры, што называецца "застацца без усякіх правоў". Ведаю, як умеюць збіваць, як ламаюць духоўна, як нішчаць асобу. Не зычу табе такой школы. Ну, яшчэ пасядзім,

паставіць чайнік? Надта ж вечар добры і камарэчы, глядзі, няма.

Вечар і праўда быў незвычайна мяккім, утульным. Сонца зайшло, яго апошнія промні залацілі верхавіны бяроз, а знізу, з густой травы, уздымаўся, гусцеў паўзмрок. Аджылі цвыркуны — зблізку і здалёку разносіліся іх песні. Ніводнага чужога гуку не далятала. Але, разам з усім, гэтыя спакой, хараство і ціша чамусьці здаваліся не нечым спрадвечным, моцным, непарушным, а наадварот — надзвычай крохкім, слабым, як немаўля.

Сеўшы за кампутар, Уладзімір прымусіў сябе адасобіцца ад эмоцыяў. Ён шукаў інфармацыю. Яна хавалася ў кароткіх каментарыях: “Мы на дачы ў Сяргея, Валковічы, так набраліся”, у подпісах фотаздымкаў: “Мой дзень народзінаў на кватэры ў бацькоў, бацькі — у сяброў!”. Напісаў (вядома ж, ад выдуманай Юліі) самому Юрыю Вайцяхоўскаму, той адказаў адразу ж. Усцешыўся, але не стаў фарсаваць падзеяў: стрымана пацікавіўся агульнымі звесткамі. І тут яго чакала ўдача: Юрый запрасіў да сябе на дзень народзінаў, які збіраўся ладзіць на сваім лецішчы. Дакладней бацькоўскім, але пахваліўся, бацькі падаравалі яму, калі казаць шчыра, невялікі загарадны дом. Запрашэнне наўрадці можна было ўспрымаць сур’ёзна, хоць хто ведае, пра што думаў Юрый. Бо ў кароткім дыялогу прагучала і ягонае жаданне сустрэцца як хутчэй. З усяго відаць, хлопцу не ставала дзявочай увагі.

Уладзімір чамусьці параўнаў невядомага Юрыя і сябе самога — пахваліцца жаночай ўвагай не мог і ён. Чамусьці было непрыемна ад сваёй ролі. У кожным разе Уладзімір падманваў. Хлусіў.

З адчыненага акна цягнула свежасцю, гмыз і камарэча, розныя дробныя казуркі ліплі да сеткі. Сетка, а праўдзівей цемра за ёй, нечакана прыцягнулі да сябе ўвагу. Здавалася, зараз адтуль нехта зазірне сюды… паскрабецца.

У наступны момант Уладзімір не ўздрыгнуў, а на імгненне быццам скамянеў. Ён чакаў нечага падобнага, ён чакаў нейкага сігналу адтуль — і вялізны ночны матыль вынырнуў з цемры, з усяго размаху стукнуўся аб сетку — і прыліп на ёй, знерухомеў.

Скура на Уладзіміравай галаве імкліва пачала сцягвацца, ціснула на чэрап, галаве было цесна пад скурай, і не ўтрываць было болю, які мацнеў, а голас аднекуль адтуль, ад сеткі, ад раздушанага матыля гучаў заклінаннем: “Едзь дадому… дадому…”.

Уладзімір і сам не зразумеў як ён падхапіўся і стукнуў па сетцы, страсаючы матыля і іншых казурак туды, у цемру. Сеў, сэрца тахкала, і кожны ягоны ўдар прымушаў рукі ўздрыгваць.

“Паеду. Сёння ж”, — падумаў Уладзімір. І адразу адчуў палёгку, як вынырнуў на паверхню і хапіў паветра ў згаладалыя лёгкія. Трывога мінулася, як і не было. Зноў сеў за крэсла, утаропіўся ў манітор…

Клаўся спаць далёка за поўнач, з прыкрым пачуццём спустошанасці. Чужыя эмоцыі з чужога свету не насычалі яго, а ўбіралі ў сябе свет ягоных асабістых пачуццяў і адчуванняў, з самых розных, самых далёкіх куточкаў душы прагна высмоктвалі эмоцыі. І заставалася пустэча, чорная, страшная. Страшная ад таго, што гатовая была выбухнуць, як некалі выбухнула пустэча і стварыла Сусвет. Добра, што не будзе той іскрынкі, думаў ён, курачы на ганку, страсаючы з цыгарэты гарачы попел.

Цішыня аж звінела ў вушах. Неба не іскрылася, а шугала мільёнамі зорак, іх было вельмі шмат, гэтулькі, што і акрайца чорнага неба не згледжвалася, але тое ззянне зусім не асвятляла зямлі — на крок ад сябе Уладзімір нічога не бачыў.

У цемры хавалася нешта варожае. Яно чакала. Чаго чакала? Калі Уладзімір павернецца да яго спінай? Не, не гэтага. Нешта там, у цемры, цікавала не за Уладзімірам. Нешта глядзела на яго халоднымі бязлітаснымі вачыма, ацэньваючы, вывучала, прыкмячала, але яно палявала не на Уладзіміра. Ён адчуваў гэта. І ўсё ж страх не знікаў, хоць паварочваўся Уладзімір спінай да гэтай цемры спакойна. Толькі ў ложку, калі заплюшчыў вочы, і соннае забыццё амаль адлучыла яго ад рэальнасці, быццам маланкай, асляпляльна-блакітнай, кароткай як імгненне, бліснула ў свядомасці: "Ганна".

## 6

Уладзімір прачнуўся як ад штуршка, з думкай: "Праспаў!". І хоць у наступны момант рэчаіснасць аднавілася аж да ўчорашняга начнага сядзення на ганку Антосявага дома, ды адчуванне таго, што ён некуды спазніўся, не міналася. "Дадому..."

У хаце было ціха і пуста — гэта Уладзімір зразумеў пэўна. Пацягнуўся рукой да мабільніка і, пабачыўшы час, адным рухам сеў. Амаль адзінаццатая. Ого! Калі клаўся, было не болей за тры... І не чуў, як Антось падняўся.

Антось з'явіўся праз паўгадзіны, калі Уладзімір пад'еў і зноў блукаў у сеціве. Яго непрыемна здзівіла,

што ён, а дакладней — выдуманая ім Юлія, выклікала такую ўвагу з боку мужчын той зачыненай групы “Укантакце”. Аж пяць запрашэнняў да дыялогу… Юрый, да якога з самага пачатку звярнулася “Юлія”, даслаў тры паведамленні, адно раніцай. Уладзімір не ведаў, што рабіць. Як адказваць? Да таго ж, уся патрэбная, як ён лічыў, інфармацыя амаль пазбіраная. Хіба толькі месца, дзе тое лецішча, невядомае. Але працягваць гэты маскарад было агідна.

— А, прачнуўся, Валодзька! — Антось нібыта не сам зайшоў, а яго занесла ў дом хваля ўпэўненай дзейснасці. — Еў? Піў? Ці гатаваць?

— Еў і піў, — крутануўся на крэсле Уладзімір да Антося. — Чаму не збудзіў раней?

— А навошта? — шчыра здзівіўся Антось. — Ты а трэцяй лёг, знайшоў што ці не, а выспацца ж трэба. А я ад шостай на нагах. Затое ўсе справы залатвіў. Пакуль жніво, я, лічы, у адпачынку. Што ў цябе? — спытаў, і твар адразу пасур’ёзнеў.

— Ды сёе-тое ёсць, — сціпла пачаў Уладзімір. — Бацькі Вайцяхоўскага кватэру прадалі, сыну набылі аднапакаёўку, сабе дом пад горадам, у вёсцы. Яшчэ сыну засталося лецішча. Добры дом, з паддашкам, але не даведзены да ладу. Вайцяхоўскі не ажаніўся, відаць як кідаецца да жанчын. Я там з ім навязаў кантакт. Ад імя прыдуманай дзяўчыны. Павёўся, можна скарыстаць у далейшым, хоць шчыра кажу, гідка і непрыемна мне гуляць у такую гульню. Вось здымкі: сам Вайцяхоўскі, ягонае лецішча, агульны выгляд… — Уладзімір падаў Антосю тры аркушы, якія толькі цяпер раздрукаваў — уначы не стаў умыкаць прынтар.

— Ага, добра, добра… — Антось углядаўся ў здымкі, потым рэзкім рухам склаў аркушы, парваў раз,

другі і трэці. У адказ на здзіўленне Уладзімірава патлумачыў: — Я ўсё запомніў. А папера — дакумент, Валодзька. Памяць не дакумент... Дзякуй. Не ведаю, што і як там далей будзе. Цяпер трэба дакладнае месца лецішча. Не даведаўся?

— Не, але магу, — адказаў Уладзімір.

— Ну, то зрабі. Бо сам разумееш... Але не надта настойліва, каб не западозрыў чаго. Бо сеткі зліваюць інфармацыю спецслужбам, выйдуць яшчэ... Ну, у сэнсе, могуць жа вылічыць, з якога кампутара рэгістраваліся...

— Не хвалюйся, тут чыста, — усміхнуўся з перавагай Уладзімір. Я заходзіў у сетку праз падстаўны АйПі.

— Малайчына, Валодзька. Значыцца, разумееш, як усё сур'ёзна.

Уладзімір зазначыў, што Антось ні разу не назваў яго паблажліва студэнтам. Можа, тое было і не надта важна, аднак ранейшае "студэнт" з Антосявых вуснаў няхай і не крыўдзіла, але непрыемна казытала самалюбства.

Пасля полудня Антось крутануўся раз і другі паўз Уладзіміра, калі той зноў сеў за кампутар, а потым нясмела папрасіў:

— Слухай, Валодзька, паехалі ў Карчаваху... Даведаемся, як там, што...

Уладзімір усміхнуўся ў думках і змеркаваў, што мае права крыху пацвеліць — не аднаму ж яму, Антосю, вучыць жыць...

— Жанчына там наўрадці адышла яшчэ. Ты пэўны, што твая фізіяномія — найлепшае з таго, чаго яна жадае пабачыць?

— Ну, вядома ж, не найлепшае, — спыніўся ў разгубленасці Антось. — А што, я магу некага напалохаць?

— Можаш, — кіўнуў Уладзімір. — А навошта я табе? Страшна аднаму?

— Страшна, Валодзька, — Антось прысеў на канапу. — Сапраўды баюся. І рукі дрыжаць. Але… Я шчыра табе кажу — хачу з ейных вуснаў пачуць, як там было і што. І каб ты пачуў.

Уладзімір задумаўся на хвіліну.

— Ты выбачай, але цяпер ты не так пра Надзею думаеш, як пра сваю тэорыю і сваё самалюбства. Ёй расказаць — як яшчэ раз перажыць. Думаў пра гэта?

Антось не адказаў. Махам узняўся з канапы, прайшоўся да дзвярэй і назад, потым, нечакана для Уладзіміра, загаварыў, просячыся:

— Ну паехалі, Валодзь… Як там яна? Не буду я распытваць…

— Паехалі, — Уладзімір пстрыкнуў мышкай, вымыкаючы кампутар. Усё будзе добра там, упэўнены, — падбадзёрыў Антося. — У мяне таксама страха амаль з’ехала. Дзед Уладзя можа…

Надзею і старога Уладзю яны пабачылі на дварэ, на лаўцы. Жанчына ўзнялася ім насустрач, папраўіла спадніцу, потым хацела ці то сесці, ці то проста азірнулася на старога, шукаючы падтрымкі. У яе на твары застыла вінаватая ўсмешка.

— Добрага дня табе, Надзея, — Антось падышоў і спыніўся крокі за тры ад яе. — Здароў быў, дзед! — кіўнуў за спіну жанчыны.

— А я здагадалася пра цябе, — ціха, з незразумелай інтанацыяй загаварыла Надзея. — Добры дзень. Мне дзед Уладзіслаў пра ўсё расказаў. І пра цябе. Як ты цікавіўся мной. І імя тваё назваў. А я помню, што ты адсюль, з гэтых мясцін.

— От жа ты скажы! — найграна пакрыўдзіўся Антось. — Дзед, тут такі сюрпрыз мог выйсці!

— Не трэба нам ніякіх сюрпрызаў, — строга спыніў Антося Уладзя. — Сядайце, зараз бярозавіку прынясу. Валодзька, чаго падпёр веснічкі? Яны добра стаяць, праходзь.

Надзея села на лаўку, пасунулася крыху, нібы запрашаючы Антося сесці побач, але ён, падышоўшы, стаў насупраць яе, потым прысеў на кукішкі.

— Хацеў табе сказаць, што ты амаль не змянілася. Я цябе пазнаў бы адразу, калі б сустрэў.

— А ты змяніўся, — ціха адказала Надзея.

— У які бок? — жартоўна прымружыўся Антось.

— Не ведаю, — пацепнула плячыма Надзея, не прымаючы Антосявага гуллівага тону.

— Выбачай, — павінаваціўся Антось. — Так, змяніўся. Жыццё папрасіла змяніцца.

Уладзя выйшаў з сенцаў з вялікім кубкам бярозавіку, строга зірнуў на Антося.

— Паспееш са сваім жыццём яшчэ. Валодзька, ідзі, з кухні кубачкі прынясі. Ты сядзі, сядзі, Надзейка, — спыніў ён жанчыну, заўважыўшы яе рух.

— Там Ганначка наша Алеся не прываражыла? — парушыў маўчанне Антось. Відаць было, што ён адчуваў сябе вельмі няўпэўнена, не ведаў, як і пра што гаварыць.

— Алесь у горад паехаў, — роўна адказала Надзея. — Патэлефанавалі з універсітэта.

— А калі і прываражыла, то чалавек добры, — заўважыў Уладзя.

— Дарэчы, дзед Уладзя… — успомніў Уладзімір, раздаючы кубачкі з бярозавікам. — Алесь — той самы выкладнік, які так зацікавіўся вашым ручніком.

— Ну, то і пабачыць, як вернецца, — спакойна адрэагаваў Уладзя. — А дзеля справы якой ці так, мімаходзь, заехалі? Пацікавіліся — дык і едзьце, пазней гутаркі гутарыць будзем.

— Ну, калі ўсё добра, то і добра, — хутка падняўся з кукішак Антось — ён успрыняў словы старога як загад выбірацца з двара, але не пакрыўдзіўся ані, вярнуў пусты кубачак. — Калі можна ў госці завітаць, надта ж бярозавік смачны? Чаго прывезці, дзед?

— А ты во ў Надзеі запытай, што ёй хочацца, дык таго і прывязі, — прапанаваў Уладзя і сказаў да Надзеі. — Пытайся, Надзейка, не саромся…

Надзея злёгку разгубілася ад увагі Антосявых і Уладзіміравых вачэй, звернутых на яе ў чаканні, пазірала то на аднога, то на другога. Ціха прамовіла:

— Рыбы хочацца… Звычайнай, з рэчкі. Карасікаў смажаных…

— Будзе рыба, не праблема, — з радай упэўненасцю выгукнуў Антось.

— Але, — Надзея ўсміхнулася, — з рынку не трэба. Яе там прадаюць з рыбгасаў, яе смажыш — тхне камбікормам.

— Якое купляць? — амаль пакрыўдзіўся Антось. — Сам налаўлю, во, Валодзька будзе сведкам!

Надзея раптам тарганулася, быццам ёй да цела нехта невідочны дакрануўся крапівой. Вочы сталі сумнымі, яна доўга не адводзіла іх ад Уладзіміра, быццам толькі цяпер успомніла, што за малады мужчына перад ёй, і потым ледзь чутна прамовіла:

— Дзякуй вам, Уладзімір. Дзякуй…

— Ну, паедзем, Валодзька! — заспяшаўся Антось. — Дзед, чаго яшчэ трэба, кажы праўду!

— Пра рыбу чуў? То бяры ўсё да рыбы, — адмахнуўся Уладзя.

У машыне, калі ад'ехалі ад дома, Антось спытаў ва Уладзіміра, як у роўнага, просячы парады:

— Дык што нам лепей рабіць, Валодзька?

— Ведаеш… — Уладзімір казаў пра тое, што яшчэ раней аформілася на двары ў Уладзі. — Ты мяне зараз назад да сябе… Я збіраю свае рэчы, потым на аўтобус і ў горад. Ты — лаві рыбу. Увечары я вярнуся.

— Чаго ты ў горад? — здзівіўся Антось. — І тут сеціва ёсць.

— Не ведаю, — задуменна адказаў Уладзімір. — Нешта цягне мяне ў бабульчын дом. А мне цяпер трэба слухацца таго, што падказвае. Не пытайся, чаму, не ведаю. Хваляванне нейкае. Я ж паабяцаў за домам наглядаць.

— Ну, добра. Аўтобус зараз будзе. — Антось глянуў на гадзіннік. — Увечары я пад'еду, патэлефануеш. Але вяртайся!

— Вярнуся, — усміхнуўся Уладзімір.

Ён казаў праўду наконт сваіх адчуванняў — вось тут, на двары ва Уладзі, як ён пабачыў Надзею, той покліч усплыў у свядомасці і, як кропля бензіну ў невялікай лужыне, расцёкся каляровай плеўкай па ўсёй паверхні, так, што чыстага месца не засталося. Пра што ні думай, а бабульчын дом стаіць перад вачыма. Гэта была не трывога, а менавіта покліч, які пакуль што нічога не абяцаў, не тлумачыў. Толькі клікаў.

Чым бліжэй Уладзімір пад'язджаў да горада, тым мацнеў гэты покліч, і ад прыпынку да бабульчынага дома ў ціхім завулку Уладзімір ішоў подбегам, хвалюючыся, што можа спазніцца. Куды, на што — ён не ведаў, але з'явілася сапраўдная трывога. Уяўленне малявала злодзеяў, што гаспадарылі ў бабульчынай хаце, выбітыя шыбы ў вокнах, сарваны сам прз сябе кран над ракавінай і падлогу, па калена залітую вадой. "Па калена не залье, — сам сябе супакойваў Уладзімір, — там падмосце глыбокае, у зямлю вада схаваецца", — думаў ён, нібы тыя краны і праўда даўно пазрывала.

Дом стаяў у цішы садка самотны, вокны глядзелі на Уладзіміра з маўклівым вінавачаннем. Ён аж здрыгануўся, калі веснічкі рыпнулі гучна і тонка, як віскнулі.

На ганку сядзеў, пільна ўзіраўся на госця шэры кот.

— Здароў, Шэры! — павітаўся Уладзімір. — Даруй, па малако пазней схаджу. Тут усё ў парадку без мяне?

Кот у адказ выпрастаўся, вольна пацягнуўся, паказаўшы вострыя і доўгія кіпцюры на пярэдніх лапах, а потым павольна зышоў з ганка і схаваўся ў траве садка. Не азірнуўся.

— Зразумела, пост здаў — пост прыняў, — сам сабе сказаў Уладзімір і адчыніў без аніякіх хваляванняў дом.

Зайшоў, агледзеўся, прайшоў пакоямі. Усё так, як ён і пакінуў... “Ну, аджывай, дом,” — запаліў газ і паставіў чайнік — нешта захацелася сваёй кавы.

На кухні быў халадок. Адчыніў фортку. Звыкла пасунуў да сябе спадачак, расклаў і ўвамкнуў ноўтбук. Што далей? Што яго клікала? Чайнік засвістаў, ён затушыў газ, кінуў позірк на столік ля пліты.

І ўздрыгнуў.

Пасярэдзіне століка стаялі два кубачкі. У іх Уладзімір гатаваў каву для сябе і для Ірыны. Ён дакладна памятаў, што піў апошні раз каву пазаўчора — калі збіраўся да выкладніка. І тады памыў свой кубак і паставіў яго ў шафку над столікам.

Столік мусіў быць пусты.

Уладзімір нейкі час глядзеў на гэтыя два чыстыя кубкі, якія нібыта маўкліва запрашалі згатаваць каву на дваіх. Думак не было. Уладзімір спакойна, без страху і здзіўлення ўслухоўваўся ў самога сябе, шукаючы адказу на пытанне: што яму рабіць далей. Здалося, знайшоў. Нават не стаў вымыкаць ноўтбука,

захапіў цыгарэты і запальнічку, што выклаў раней на стол, хутка выйшаў з дому, замкнуў дзверы.

За дзесяць хвілін ён быў у той самай кавярні. Заходзіў без хвалявання і зусім не здзівіўся, толькі пстрыкнула нешта ў галаве, як апошні пазл лёг у складзеную цалкам карціну, калі пры “іх” століку ён пабачыў Ірыну.

Дзяўчына сядзела за расчыненым ноўтбукам, з аднаго боку ад якога стаяла попельніца, з другога — кубачак з рэшткамі кавы. На Ірыне былі белыя шорты і саколка, якая агаляла амаль усю спіну з пачырванелай ад сонца скурай. Уладзімір без ваганняў сеў насупраць Ірыны. Прыслухаўся да сябе — ніякай пагрозлівай хвалі не было. Толькі заспакоенасць ад таго, што ён — паспеў. Менавіта гэта і сказаў Ірыне.

— Вось, паспеў. Вітаю. Я закажу па каве.

Ірына сцялася, нібы Уладзіміравы словы выцялі яе бізуном па аголенай спіне.

— Добры дзень, — адказала яна, хацела ўсміхнуцца, але вусны на напружаным твары склаліся ў непрыгожую грымасу. — Так, заказвай…

Уладзімір больш нічога не стаў гаварыць. Прынеслі каву, яны пілі яе моўчкі. Мабыць, за гэтыя хвіліны Ірына раздумалася што ёй рабіць далей, бо адставіла кусты кубачак, упэўнена закрыла ноўтбук, уклала яго ў сумку, што вісела на крэсле.

— Пойдзем… Лепей да цябе. Там… не зашкодзяць.

— Пойдзем, — падняўся Уладзімір.

На кухні ён дастаў распачатую пляшку віна, якая засталася з таго іхнага вечара, цукеркі. Не пытаўся ні пра што. Ірына таксама пакуль што маўчала. Піла віно невялікімі глыткамі, курыла. Нарэшце патушыла ў сподачку цыгарэту і сказала:

— Мяне папярэджвалі, што ты — асаблівы. Што ты можаш адчуць нешта. Пабачыць… існасць.

Уладзімір прамаўчаў у адказ, глядзеў на Ірыну са спагадай.

— Мне прапанавалі праз сеціва… Сустрэцца з табой, пазнаёміцца. Падтрымваць размовы на тыя тэмы, якія хвалююць цябе. І потым расказваць: пра што ты гаворыш, з кім сустракаешся, чым цікавішся. Мне нават выдалі аванс. Немалыя грошы. Мне было цікава і… страшна. Не, пра блізкасць з табой мне не загадвалі. Наадварот, папярэдзілі, што калі я стану вельмі блізкай табе, ты можаш зразумець… нешта. Не ведаю, што. Я… у цябе ў вачох разгледзела тады, якой ты бачыў мяне. Я… вярнула тыя грошы, мне плацілі праз электронны партманет. Мяне ўгаворвалі працягнуць. Але — не магу… Хто ты?

— Не ведаю, — проста адказаў Уладзімір. — Здаецца, звычайны чалавек. Так, іншым разам нешта адчуваю. Вось гэтае начы адчуў, што мне трэба ў горад. Гэта клікала і не адпускала. Прыехаў — і пайшоў шукаць цябе.

— Мне страшна, — пацепнула плячыма Ірына. — Мне хочацца ўцячы ад усіх: ад тых невядомых замоўцаў, ад цябе. Але мне страшна і за цябе. Я не хачу, каб з табой нешта здарылася. Ты мне верыш? — запыталася з надзеяй.

— Веру, — цвёрда адказаў Уладзімір. — Яшчэ і таму веру, што цяпер мне падаецца, я заўжды адчую, калі нехта захоча мяне падмануць.

— Мне так прыкра… Я ўсё сапсавала. Мы ж маглі і так сустрэцца з табой, — працягвала Ірына. — І… мне ж сапраўды было цікава з табой, ты — незвычайны. Нейкі… чысты. З табой спакойна, ты як якая сцяна між мной і брудам. А я цябе прадавала.

— Але ж не прадала, — усміхнуўся Уладзімір. — А ведаеш, чаму я табе веру? — загаварыў амаль вясёла. — А таму, што з нейкага моманту са мной пачалі адбывацца такія рэчы, што шукаць тлумачэнні я стаміўся, як толькі пачаў. Сёння я ведаю адно: ёсць нехта і нешта. Нешта цёмнае. І светлае. Нехта цёмны і тыя, якія не ў цемры. Мне пашанцавала. Я застаюся на светлым баку.

— Значыцца, мяне наймалі тыя, хто цёмны? — занепакоена запыталася Ірына. — Але хто гэта? Што ім ад цябе трэба?

— Я не ведаю, — усміхнуўся Уладзімір, падбадзёрваючы Ірыну. — Не пужайся, нічога страшнага ж няма…

— Няма? А што ж ты тады пабачыў? Хіба не пачвару? — асцярожна пацікавілася Ірына.

— Пачвару, — лёгка згадзіўся Уладзімір. — Але я табе прызнаюся: мне ў тыя дні мроілася і бачылася і не такое страшнае, ледзь страха не паехала. Мне дапамагло… Скажам так, знахар адзін. Ды няважна…

Уладзімір у думках міжволі вярнуўся да Уладзі і потым — да Надзеі, да таго, што ён павінен зрабіць. Не стаў раздумваць — як тое ўспрымае Ірына, спытаў адразу:

— Слухай, Ірына… У мяне ёсць адна праблема, якую трэба развязаць абавязкова. Не буду казаць, навошта, адно толькі, каб ты ведала: той чалавек нядобры, подлы і здзеклівы. І, падазраю, баязлівы. Нам… Мне трэба яго знайсці. У сэнсе, ягоны адрас, ну і іншае. Праз сеціва я з ім пазнаёміўся, вядома, ад імя прадуманай дзяўчыны…

— Ты мяне перавярбоўваеш? — нервова рагатнула Ірына. — Я сачыла за табой, прызналася, дык ты цяпер здумаў, каб я на цябе гэтак сама папрацавала?

— Нічога я не перавярбоўваю! — запратэставаў Уладзімір. — Калі можаш мне памагчы — памажы. Я ж сказаў: я пішу ў тым “Укантакце” ад імя дзяўчыны. Цяпер мне трэба фарсаваць падзеі, прыспешыць развіццё стасункаў. А я не ведаю, як! Я элементарна баюся спаліцца. Добра, скажу болей: ён амапавец. Ён збіваў у час разгону акцыі пратэсту сваю былую настаўніцу, жанчыну, якая потым трапіла ў вязніцу, потым — у суд. І… захварэла. На галаву. Яе вылечаць, але ж нельга такую подласць пакідаць беспакаранай.

— А хто табе гэтая жанчына? — ціха запыталася Ірына.

— Ды… не ведаю нават, як і сказаць. Я дапамагаю іншаму чалавеку, для якога яна значыць шмат. Некалі яны былі закаханыя.

— А хто табе той чалавек? — рэхам прагучала Ірыніна пытанне.

Уладзімір не адказаў. Падліў сабе і Ірыне віна, сам крышку адпіў, закурыў.

— Ведаеш, шчыра кажучы, дык і не ведаю. Ніхто яны мне. І Антось, і дзед, і выкладнік, і ягоная сястра Надзея — тая самая жанчына. Я і сам задумляўся: чаму так выйшла? Вось сустрэў я іх — і як даўно ведаў. Быццам яны мне блізкія людзі. Цяжка патлумачыць. Вось як цябе сустрэў…

— І што? — асцярожна перапыніла яго Ірына. — Што, калі сустрэў мяне?

— Тое самае адчуў: што сустрэў дарагое мне, блізкае, — узняў вочы на Ірыну Уладзімір, і яна не вытрымала, сарамліва апусціла галаву, потым прамовіла ледзь чутна:

— І мне… калі прыйшла дахаты пасля першай сустрэчы, калі адпісвала, што пазнаёмілася з табой,

падалося, што я аддаю чужым людзям нешта сваё, амаль роднае… Добра, Валодзя, пакажы, што ты там нагаварыў таму амапаўцу…

— Ага, — Уладзімір адчыніў ноўтбук, знайшоў старонку той самай “Юліі”. — Вось, чытай, глядзі… Знаёмся, карацей. Я, з твайго дазволу, пакуль што змыю пыл вясковых дарог…

Ірына пасунула да сябе ноўтбук, Уладзімір выйшаў на веранду.

Неверагодна, думаў ён. Проста неяк неверагодна ідуць падзеі. І праўда Ірына зноў будзе з ім? І больш не будзе таго відовішча? Не, ён быў пэўны — не будзе. Калі б ён яшчэ тады прыслухоўваўся да сябе — і таго б не было.

Ліў на сябе ваду — і не мог утрымацца, як ні гнаў ад сябе гэтую думку, а яна не знікала, расла. І ўрэшце Уладзімір здаўся: заплюшчыў вочы — і ўспомніў той момант, калі Ірына, седзячы ў яго на канапе, адным лёгкім рухам, што быў так падобны да ўзмаху крылаў птушкі, скінула з сябе сукенку. І ўспамінаў яе, аголеную, звабную да перасыхання ў роце, постаць на свежай прасціне…

Двойчы, пакуль мыўся, чуў, як “спяваў” тэлефон. Здзівіўся быў спачатку, а потым здагадаўся — гэта Антось хвалюецца. Нічога, няхай патрывае, такі гарачы.

Так і было — тэлефанаваў Антось. Ён адгукнуўся адразу, быццам трымаў увесь час мабільнік у руках.

— Валодзька, чуеш? Тут Надзеін брат прыехаў, Алесь. Ён у мяне зараз. Мы на рыбу збіраемся. Дзед пераказаў, каб сёння Надзею не турбавалі. Рана яшчэ, слабая яна зусім. І так, мабыць, нядобра зрабілі, што прыехалі… Во, праўду ты казаў: я і думаў болей пра сябе, ёлуп… То чуеш, калі ў цябе там справы якія, ну,

нашы справы, то заставайся, чаго ездзіць. Заўтра раніцай мы з Алесем паловім рыбу, ён, як высветлілася, рыбак заўзяты, а недзе апоўдні я прыеду ў горад, мне ў банк трэба, заадно набуду сёе-тое. Ну, і цябе забяру. Прымаецца такі расклад?

— Прымаецца, — выгукнуў з радасцю Уладзімір, не мог стрымаць пачуцці. Адзеўся, выйшаў на ганак, прысеў.

Не, было задужа добра, каб быць да канца добрым. Уладзімір асцярожна перабіраў апошнія падзеі — і не мог паверыць у тое, як яму шанцуе, як абставіны складаюцца вакол яго ў светлае і шчаслівае кола. "Усё мінаецца, добрае — таксама", — успомніў ён формулу, і таму так насцярожыла яго паласа шанцавання, якая цягнулася падазрона доўга. А можа, гэта не перад нядобрым, а пасля яго? Хіба не было братавай смерці, спаленай хаты, страты ўсяго, што меў? Гэта мо толькі цяпер выбілася ягоная сцежка на больш-менш роўнае месца? Можа, ён прызвычаіўся да такіх вось чаргаванняў, калі на змену светламу вечару за кампам прыходзіла няспаная ноч з п'яным балбатлівым братам, а дзень атрымання грошай мог стаць днём іх згубы, калі брат паспяваў "пачысціць" яго, Уладзіміравы, кішэні…

Хіба ж не бывае жыцця іншага, простага і зразумелага, калі падзеі і здарэнні маюць смак і колер ціхай і ўтульнай радасці, калі жывеш і не баішся заўтрашняга дня, не рыхтуешся да невядомай, але абавязковай ці магчымай непрыемнасці? Можа, у яго, Уладзіміра, пачалося такое жыццё? Хіба ён не заслужыў яго?

Зайшоў на кухню і пабачыў, як Ірына нешта шпарка піша на ноўтбуку. На ягоныя крокі яна ўзняла галаву, усміхнулася.

— Не ведаеш ты жаночай псіхікі, — пераможна прамовіла яна. — Гатуй вячэру сам, праз гадзіну ў мяне кароткая сустрэча з тваім Юрыкам!

— Як сустрэча? — ад неспадзеўкі прысеў на крэсла Уладзімір. — Я ж там навыкладваў фотаздымкаў нейкай асобы, а ты…

— Супакойся, усё будзе добра. — Ірына паднялася з крэсла, падышла да Уладзіміра, стала за спінай, нахілілася, абняла, прыпала грудзямі да ягонай спіны. — Я напісала што я — іншая, маўляў, саромеюся. Апісала сябе, як ёсць. Слухай, а ён непрыемны таварыш, такія фрывольныя жартачкі, пошлыя намёкі… І ўсё адразу… Ён захацеў мяне пабачыць тэрмінова, хоць цяпер і кіруецца на службу. Я сказала, што магу ахвяраваць дваццаць хвілін часу. То я зараз і паеду… У другі канец горада. Потым… я заеду дадому. Патэлефаную табе. І…

— І мы сустрэнемся ў мяне, — раптам хрыпла скончыў Уладзімір. Ён пагладжваў Ірыніны рукі на сваіх плячах, удыхаў пах яе парфумы.

— Толькі… не баўся там, — папрасіў ён. — Нешта… хвалююся я.

— Зараўнаваў? — удавана здзівілася Ірына, а ў голасе была чуваць радасць. — Эх, ты… Во які…

— Які?

— Раўнівы.

— Я… баюся за цябе.

— Не бойся, амапаўцы дзяўчат не збіваюць.

— Ага, не збіваюць… Пакуль не атрымаюць дазволу. Тады збіваюць усіх.

— Не бойся, праўда, — паважна паставіла кропку Ірына. — Тэлефон мне свой прадыктуй, да гэтага часу не ведаем, як шукаць адзін аднаго… І гатуй вячэру. Я сёння ад самага ранку была ў кавярні…

Ірына вярнулася праз дзве гадзіны.

Пераадзетая ў белыя вузкія нагавіцы, што звабна абцягвалі яе клубы, з новай фрызурай.

— Гэта… да яго так ездзіла? — не змог утрымацца ад колкасці Уладзімір.

— Дурненькі, пасля яго я спецыяльна ездзіла дадому, мыцца, — здавалася, Ірына пакрыўдзілася сур'ёзна.

— Выбачай, — Уладзімір, сам таго не чакаючы, імпульсіўна прыгарнуў Ірыну да сябе, пацалаваў у вусны.

— Брыдка, — Ірына здрыганулася, схавала свой твар на Уладзіміравым плячы. — Мне было брыдка. Я атрымала запрашэнне на дзень народзінаў. На лецішчы. Абяцалі вялікі феерверк, скокі голымі цераз вогнішча, купанне ў нейкім штучным басейне два на два метры. Будзе чалавек дзесяць-дванаццаць. Ці болей. Ён мне пакінуў свой нумар тэлефона, я абяцала заўтра патэлефанаваць. Патэлефаную, але з аўтамата, нешта прыдумаю. Толькі не прымушай мяне, калі ласка, ехаць на тое баляванне. З ягоных рэплік я зразумела, што гэта будзе шабаш. Поўны адрыў, як ён кажа. Свята, бо некага ці нешта яны перамаглі, апрача ягонага дня народзінаў… Адрас ягоны запішы…

— Я запомню, — Уладзімір згадаў Антосявы словы пра паперу. — А лецішча дзе?

Ірына назвала месца. Мякка вызвалілася з абдымкаў, стомлена прысела пры стале, які, як мог, сервіраваў Уладзімір. — Ой, як жа я хачу есці! — усклікнула зусім іншым тонам. — Ну іх к чорту!

Яна сама прыбрала пасля вячэры са стала, потым мыла посуд, зняўшы свае белыя нагавіцы. Начапіла фартух, які не цалкам затуляў яе амаль голых, толькі з вузенькай паласой бікіні, клубоў, таму жартаўліва пагнала Уладзіміра з кухні, каб не стаяў ззаду.

Яна засталася нанач, засталася будзённа, нібы і жыла тут. І ўсё, што рабіла цяпер у позны вечар, яна рабіла так, як рабіла даўно і з радасцю.

Засынаючы, Уладзімір доўга не мог знайсці патрэбнага азначэння таму амаль фізічнаму адчуванню шчасця, той ступені блізкасці, якая была між імі цяпер. І падумаў, што так, як было ў іх з Ірынай у гэтыя вечар і ноч, бывае ў каханых мужоў і жонак.

## 7

Алеся Лобача збудзіў гук тэлефона. Ён не напужаў сваёй механічнай мелодыяй, не пабіў сну на друзгі, якія б перамяшаліся з рэальнасцю, і потым праз тую куламесу давялося б з цяжкасцю выкарасківацца. Не, мабільнік заспяваў. Яшчэ ў сне Алесь спакойна адзначыў, што ён спіць, і спіць у чужой хаце, і цяпер светлае ранне, і трэба ўсяго толькі расплюшчыць вочы ды ўзяць у рукі мабільнік. Лобач прыслухаўся да цішыні дома, зразумеў, што ён — адзін. Сеў, дзівячыся той бадзёрасці, якую адчуваў. Мабільнік заспяваў зноў — тэлефанавалі з універсітэта. Адказаў.

Побач на крэсле каля ягонага адзення ляжаў аркушык. “Прывітанне! У кухні на стале аладкі, малако. Ці гатуй гарбату (каву) сам. Да сустрэчы. Не крыўдуй. Ганна. Хату не зачыняй — адно накінь клямку”. “За што крыўдаваць?” — з пяшчотай падумаў Лобач пра Ганну і здзівіўся той пяшчоце ў сваіх думках.

Памыўся, адзеўся, пад’еў — і рабіў усё спакойна, быццам не першы раз тут гаспадарыў, а жыў доўгія месяцы. Можа, таму так вольна пачувалася, што ў доме ўсё было не тое, каб вельмі проста, а на такіх мес-

цах, калі арыентавацца лёгка, нават прыемна. “А тут будзе гарбата”, — адгадваў Алесь, адчыняў шафу, і там сапраўды ў бляшанцы стаяла гарбата. Еў няспешна, потым мыў посуд, і яго не пакідала адчуванне таго, што сам дом — жывая, зычлівая істота. Ну, няхай не зусім жывая… Але… Алесь даўно быў перакананы ў тым, што ў вяскоўцаў шмат якія рэчы і месцы маюць сваё, сакральнае значэнне, надзяляюцца душой ці духам, як тая ж печ, прыкладам. Кожная з такіх рэчаў патрабавала пэўнага стаўлення да сябе, дазволаў і забаронаў. Што да самога дома, дык яшчэ на пачатку будаўніцтва, на трэцім вянцы адзін з вуглоў, што глядзеў на сонца, набываў асаблівы статус — покуці, пад яго клалася ахвяраванне, у гэтым куце потым займала сваё месца бажніца. І акно, як стане акном, будзе праходам у іншасвет, і дзверы займеюць адмысловае сакральнае значэнне разам з парогам. Адзінства рэчаў разам з правіламі карыстання імі пераўтварала… а дакладней стварала дом як жывое месца. Уладзімір, ведаў, што нельга пры печы гаварыць, ганьбіць каго, а пагатоў лаяцца брыдкімі словамі, нельга пазычаць хоць што з хаты пасля заходу сонца, нельга замятаць хату за гасцямі, нельга пляваць за печ і пад печ…

Ведаў… А сёння адчуў зычлівы, падахвотлівы дух. І нават выходзячы з дома і накідваючы клямку на дзверы, адчуў, як нехта вялікі і моцны стаў за ягонаю спінаю і казаў: “Адважней. Усё будзе добра. Табе ёсць на каго і на што разлічваць”.

Каля Уладзявай хаты яго сустрэў сам гаспадар. Лобач зазначыў для сябе, што думка пра сястру, хоць і не пакідала яго цэлы ранак, але была зусім не трывожная. Ён і праўда быў пэўны, што з Надзеяй усё будзе добра.

— Адпачывае яна, — пасля прывітання сказаў Уладзя, нават не чакаючы пытання. — Мы з ёй раніцай, да ўзыходу сонца, па лузе пахадзілі, раса ёй ногі абмыла. Душу адмыць цяжэй... Патрывай. Не перажывай, рабі свае справы...

Гэтых сваіх спраў ва ўніверсітэце было на ўвесь дзень. Не задумляючыся нават, трэба рабіць так ці іначай, Алесь набыў прадуктаў і ў другой палове дня ўпэўнена скіраваўся ў Карчаваху. Прыехаўшы ў аграгарадок, спачатку збочыў да медычнага пункта. У яго было апраўданне — Ганна магла яму сказаць пра стан сястры праўдзіва і прафесійна. І гэтае апраўданне яму было патрэбна. Бо Алесь мусіў сам сабе прызнацца, што яму хочацца, вельмі хочацца, проста пабачыць Ганну.

І ў той усмешцы, з якой яна яго сустрэла, было доўгачаканае, забытае пачуццё асаблівай мужчынскай радасці, адно з найстаражытнейшых чалавечых пачуццяў — радасці ад таго, што жанчыне прыемна бачыць цябе зноў.

Хоць быў падвячорак, у будынку медпункта стаяла сапраўдная задуха. І Ганна працавала ў белым чысцюткім халаце, накінутым проста на голае цела. Тканіна з усяго відаць, была на палову сінтэтычнай, з-пад яе Ганніна цела быццам свяцілася жывым, цёплым святлом, трошкі схаванае лёгкімі карункамі бялізны. Алесь пракаўтнуў хваляванне. Ён злавіў сябе на думцы, што ўпершыню за ўвесь час знаёмства глядзеў на Ганну як на жанчыну, і гэта яго ўсхвалявала аж да лёгкіх дрыжыкаў у пальцах і пяршэння ў горле. Але сама думка была для яго прыемнай: думаць пра Ганну як пра жанчыну, глядзець на ейную зграбную постаць пад тонкай тканінай вачыма мужчыны і стрымваць, не заганяць некуды ў кут сумлення, а толь-

кі лёгка стрымваць жаданне дакрануцца да яе цела…

І нават калі Ганна зазірнула яму ў вочы, і ён пабачыў там свае асабістыя думкі, толькі на імгненне разгубіўся, а потым даўно забытая ганарлівая радасць апанавала яго: у вачох у Ганны выразна чыталася не толькі тое, што яна бачыць, як глядзіць на яе Алесь, але і тое, што ёй гэта прыемна…

Ён прыпыніўся ў дзвярах і не хацеў рухацца далей — Ганна стаяла за тры крокі ад яго, а ззаду ззяў ярка асветлены кабінет: галава крыху нахіленая ўправа, паўаголенымі рукамі ўзяўшыся ў бокі, левая нага трошкі выступае наперад. Яна нагадала Алесю ягоную маці — з такой самай пяшчотай і выразнай строгасцю ў паставе тая часам сустракала яго, калі дзе загульваўся і не прыходзіў у час.

— Тут такое сонца… — Алесь пракаўтнуў. — Вы не баіцеся напужаць якую вясковую бабульку? — не змог утрымацца Алесь.

— Не баюся, — па-змоўніцку ўсміхнулася Ганна, павяла падбароддзем угору. — Праз вокны бачу, хто ідзе. Дык накінуць яшчэ адзін халат не цяжка. Але, — адразу спыніла намёк, маўляў вось, яго, Алеся, сустрэла, не накінуўшы яшчэ аднаго халата… — Мы дамаўляліся на “ты”, помніш? — і раптам зірнула амаль строга.

У гэты момант яна была прывабная надзвычай. Зыркае сонца праз шырокае акно новага медпункта высвечвала ў складках тканіны яе бездакорную фігуру. Светла-русыя валасы, не заплеценыя, а вольна складзеныя ў цяжкую касу, закінутую на плячо, проста ззялі ў промнях сонца залатым паўколам.

Ганна засмяялася — вясёла, задзірыста, зусім як дзяўчынка.

— Ну што ты, нібы ніколі жанчын не бачыў у промнях сонца, — лагодна ўпікнула Алеся.

— Вось так — не бачыў, — выдыхнуў Алесь. — Вы… Дарэчы, а мы не дамаўляліся на “ты”…

— А цыдулка? — прымружылася Ганна.

— Праўда, выбачай, — павінаваціўся Алесь. — Ты вельмі прыгожая. Прывабная. Незвычайная нават. Вось колькі ў мяне кампліментаў. Слухай, я дзіўлюся, як у мяне язык паварочваецца, — і праўда, здзівіўся сам сабе Алесь.

— Гэта я цябе зачаравала, помніш, шаптала? — Ганна падышла бліжэй, зазірнула ў вочы, ужо з клопатам і спагадай: — Стаміўся? Не стой, праходзь сюды, — і павяла ў той самы пакойчык, дзе раней Алесь адпачываў.

— Сядай. Чаго папіць прынесці? Ёсць мінералка халодная, сок. А магу гарбаты з зёлак. Зёлкі — замоўленыя, сама збірала і замаўляла.

— Гарбаты з зёлак, ніякай мінералкі! — выгукнуў Алесь.

— Ну, то пачакай, зараз нагрэем вады…

Праз чвэрць гадзіны, яны і пагаварыць не паспелі як след, наляцеў Антось: у яго, высветлілася, усё было спланавана яшчэ зранку. Лобачу цяпер падалося, што ён успомніў Зубеля, колішняга студэнта, які часта прыходзіў разам з Надзеяй. Але, па шчырасці, звязаць у адну асобу таго сціплага, мешкаватага юнака і сённяшняга справавітага, энергічнага мужчыну Лобач не мог ніяк. Унутрана ён праціўіўся хуткаму збліжэнню з ім, як, зрэшты, і з іншымі людзьмі. Але, неспадзявана для сябе пабачыў, што адзін на адзін Антось неяк асеў — не жартаваў, больш маўчаў, не лез з роспытамі. За што Алесь быў яму ўдзячны. Хоць лёгкая непрыязнасць да Антося заставалася аж да рання, бо не даў даўжэй пабыць з Ганнай.

Праўду кажучы, Лобачу было ўтульна і спакойна на хутары ў Антося. Гаспадарова маўклівасць зусім не абцяжарвала, наадварот, было прасцей. З Антосем можна было і маўчаць, а гэта, лічыў Лобач, надзвычайная якасць у чалавека. Больш-менш грунтоўна пагаварылі за сталом у альтанцы. Гаварыў больш Антось: пра сваё мінулае і цяперашняе жыццё, асцярожна, нібы саромеючыся, распытваў пра Надзею. На рыбу падняліся, ледзь пачало шарэць. "Да добрага месца з гадзіну ехаць", — патлумачыў Антось.

Лоўля ўдалася — да дзясятай раніцы налавілі з вядро самай рознай рыбы: жаўтлявых карасёў, цёмных лінькоў, срэбных плотак, паласатых акунькоў.

— Будзе на добрую юшку, будзе і Надзеі пасмажыць! — наіўна, як хлапчук, цешыўся Антось. — Я зараз у горад — мне адну справу зрабіць трэба, заадно Валодзьку забяру, — гаварыў ён пра свае планы. — Цябе пакіну ў сябе — гаспадар. Я табе ў памочніцы Ганначку прывязу, яна сёння да палудня працуе. Ну, і да дзеда з'ездзім — няхай і Надзея зоймецца вось такой справай, ён сам казаў. Дый пад наглядам будзе ў Ганначкі… Ты як, згодны з такім паваротам?

— Згодны, — кіўнуў Лобач. — Паедзем да дзеда…

Надзея, узрадаваўшы, ступіла брату насустрач, абняла, моцна-моцна прытуліла, усхліпнула:

— Ой, Алесік, як жа добра зноў сябе чалавекам адчуць…

Уладзя пільна ўзіраўся ў Алесяў твар, маўчаў, потым паклікаў:

— То ж ты той самы прафесар, які маім ручніком зацікавіўся?

— Я не прафесар, але — я, — захваляваўся Алесь. — Можна, праўда, зірнуць?

— І памацаць можна, — дазволіў стары, завярнуўся да дзвярэй, паклікаў: — Хадзем.

Пад абразамі Алесь не мог не ўтрымацца, каб не скарыстаць Уладзявага дазволу — узяў канец ручніка ў рукі, асцярожна мацаў, пільна разглядваў.

— Ды яму гадоў дзвесце, сама меней! — здзіўлена выгукнуў. — Уладзіслаў... не ведаю, як па бацьку вас, адкуль жа яны ў вас?

— Сцяпанавіч я. Добрыя людзі пакінулі... — няўцямна патлумачыў Уладзя. — А пра час скуль ведаеш?

— Ды ведаю... Якасць ніткі, спосаб ткацтва. Я ведаў толькі адзін такі ручнік: тканы з узорам і з дадатковай вышыўкай вось такіх незвычайных кветак, — Алесь паказаў на шэраг чорных вышываных значкоў на абодвух канцох ручніка. — Адзін быў у музеі, невялікі такі музей, школьны... На жаль, ад маланкі школа загарэлася, нічога не ўратавалі, — казаў Лобач, асцярожна абмацваючы канец шараватай тканіны. — Гэта незвычайная каштоўнасць...

— Іх не два было, — ціха сказаў Уладзя. — Іх было сем разоў па сем.

— Адкуль вы ведаеце? — здзіўлена азірнуўся на старога Алесь.

— Той, хто мне яго даў, тое сказаў. І я табе тое кажу. Час такі настаў, што казаць трэба...

— Які такі час? — асцярожна перапыніў старога Алесь, унутрана сцяўшыся ад прыхаванай прыкрасці — няўжо зараз давядзецца сустрэцца з нейкай, праўду кажучы, вар'яцкай ідэяй сусветнай змовы?

— Пра тое сам даведаешся... Калі захочаш. І пра маланкі, і пра рабаванні, і пра шмат што іншае. Бачу, не падмануў мяне Валодзька... Дарагое гэта табе. Значыцца — шанаваць будзеш...

Уладзя адышоўся на кухню, вярнуўся з зэдлікам. Лёгка ўстаў на яго, спрактыкавана зняў ручнік.

Алесь, не даючы веры сваёй здагадцы, глядзеў, як стары акуратна склаў ручнік у шмат столак, даў яму.

— Трымай, трымай, кажу. Захавай. Не ведаю, да якога часу хаваць іх трэба, не ведаю, чаму хаваць. Ты — хлопец вучоны, можа, знойдзеш адказ на гэтыя пытанні. Не знойдзеш — надыдзе час, адчуеш, што самому не захаваць — перадай некаму.

— Дык… Вы ж яшчэ… Ну, не паміраеце ж… — зніякавеў ад падарунка і слоў старога Алесь.

— Я табе казаў пра час, — прысеў на зэдлік стары, паказаў вачыма на канапу ззаду ў Алеся. — Бачу, ты пасмяяўся. Сядзь. Слухай. Да мяне тым тыднем з сяла кабета забегла… Спілася баба. Прасіла палячыць галаву настойкай на гарэлцы і паабяцала сказаць нешта важнае. Палячыў я яе. А яна мне расказала, што нанялі яе невядомыя гарадскія шукаць па вёсках ды прыкмячаць незвычайныя ручнікі. От такія, як мой. Дакладна апісалі, які мае быць. І грошы ёй далі. Вось яна на маім ручніку і зарабіла двойчы: і тыя ёй заплацілі, і я яшчэ наліў, палячыў.

Алесь, заінтрыгаваны гісторыяй, падпарадкаваўся, сеў. Хто мог наняць вось так жанчыну? Зрэшты, ахвотнікаў да рэдкіх этнаграфічных рэчаў сёння процьма, а тканы ручнік з узорамі свастыкі будзе каштаваць нямала…

— У тым наша бяда, што маем мы, а што маем — не ведаем. — працягнуў Уладзя. — А як не ведаем, то і скарыстаць не можам. І не шануем. Я сямёх ведаў, у каго ручнікі такія былі. З іх кожны яшчэ сямёра ведаў. Ведаў я таго настаўніка, якога ў школе падпалілі. Не паспеў ён. І яшчэ чацвёра не паспелі.

— Што не паспелі? — механічна, паводле выпрацаванай гадамі звычкі слухаць і пытацца, не пакідаць ніводнага незразумелага моманту, перапыніў Лобач.

— Перадаць не паспелі свае ручнікі на захаванне. Ды не праз іх віну гэта. Хто ж ведаў, што да забойства так хутка дойдзе…

— Не было раней забойстваў? — зноў перапытаў Лобач.

— Не было… Толькі ахоўніцы гінулі.

— Хто такія? Чаму яны?

— Бо ў іх — Крыж.

— Дык… Можа, выпадковыя ўсе смерці былі? — разгублена прамовіў Лобач, хоць у гэтыя моманты ягоную галаву распірала з дзясятак пытанняў, і невядома, якое было з іх найважнейшае.

— Жанчыну адну спаілі, яна за пляшку гарэлкі той ручнік аддала. І перапіла той гарэлкі, што не ўратавалі, — спакойна гаварыў далей Уладзя. — Сямёнааднаасобніка з Казлова мёртвым у хаце знайшлі. Казалі, нібыта звычайныя бандюгі залезлі ў дом, грошы шукалі. І ручнік во такі стары знік. Варка… узімку згарэла ў сваёй хаце. Нібыта печ вінаватая была, надта ж вялікія маразы тады стаялі… Вось так, Алесь… Моц мае цемра. Таму і аддаю табе на схарон ручнік — ніхто ведаць не будзе, у каго ён… Не так хутка знойдуць.

— Дык… можа, і не знойдуць, — прамармытаў Алесь, хоць яму закарцела цяпер проста рассмяяцца і сказаць, што ўся гэтая гісторыя з ручнікамі, цемрай і вайной — фантазія, не болей. Адно стрымала — твар старога, які быў не тое што сур’ёзны — гаротны. Са скрухай, але горда, як чалавек, які ведае дакладна пра сваю хваробу і блізкую смерць і змірыўся з ёй, але не чакае пакорліва, а імкнецца максімальна скарыстаць адпушчаны яму час.

— Некалі — знойдуць, — уздыхнуў Уладзя. — Яны ўсё знаходзяць.

— Хто — яны? Чаму знаходзяць? Нашто? — не змог не задаць адразу некалькі пытанняў Алесь.

— За імі сіла. Іх многа. А нас мала, адзінкі. Іх яднае ўлада, грошы. А нас адно — любоў. Ды любоў — рэч патаемная, не ўсім і пакажаш… Захавай. Час заўсёды прыходзіць, і прыйдзе, калі ручнік, хоць адзін, спатрэбіцца. Трэба, каб ён быў тады… у чыстых руках.

Лобач трымаў ручнік, і той быццам рабіўся цяжэйшым, палатно — гарачэйшым. На імгненне падалося, што ён трымае нешта жывое… жывое, загорнутае ў старую тканіну.

— Добра… — выціснуў ён з сябе. — Дзякуй за давер. Я буду шанаваць і… пастараюся зразумець, чым ён… яны былі такія важныя.

— Не былі. Яны і зараз… — задуменна прамовіў Уладзя, глядзеў на ручнік, здавалася — нешта шаптаў, бо ледзь-ледзь варушыліся ягоныя вусны. Уздыхнуў, падняўшы вочы на Алеся, і, мабыць, жадаючы пераканаць яго яшчэ болей у важнасці гэтага скрутка саматканага палатна, загаварыў зусім ціха: — Тое, мне казалі, дужа даўно было. Калі пачалі забіваць адкрыта, тады і надумаліся: саткаць бабам за адну ноч гэтулькі ручнікоў. На другую ноч, на Купалу, той, хто ведаў, сказаў кожнай бабе, што яшчэ трэба на ручніках вышыць. За ноч вышылі. І раздалі ручнікі на захаванне. Вось так…

Уладзя не стаў чакаць ад Лобача ніякіх слоў, цяжка падняўся з зэдліка і пайшоў. Лобач са змешаным пачуццём павагі і недаверу глядзеў яму ўслед.

Колькі падобных гісторыяў ён ведаў з часоў палявых работ! Як шчыра верылі не тое што бабулькі ды жанкі, але і сівагаловыя мужчыны ў свае паказкі, як раўніва назіралі за тым, каму апавядалі, каб не ўзнялі на смех!

Лобач ніколі не смяяўся з падобных гісторыяў: ці то пра ваўкалака, які перастрэў яе на дарозе, ка-

зала бабулька, ці то пра чорта, які вадзіў яго ўсю ноч вакол вёскі, а ў хату не пусціў, расказваў мужчына з тварам да чарнаты загарэлым на жніве. Для Лобача такія гісторыі былі паводле вартасці тым самым, чым чэрап ці костка якой дагістарычнай жывёлы для палеантолага. Яму, як навукоўцу, была важная не праўдзівасць, а сам факт іх існавання. Сотні запісаў старанна прасейваліся ім, аналізаваліся з усіх бакоў. Ён, як той майстар-муляр, збіраў упярод самыя розныя паводле формы і фарбаў казкі-цагліны, кожную браў па адной, абмываў, абсушваў ад шматгадовага пяску ды рознага-ўсенькага, што ліпла да бакоў, потым старанна вышукваў месца, у якое толькі і можна было ўкласці цагліну, каб выйшла вялікая і дыхтоўная печ — найсакральнейшая рэч у жытле. Не покуць, не падлога, а менавіта печ, з вялікім падпечкам, які рабіўся жытлом для розных істот. З цёмным і таямнічым запечкам, дзе сяліўся хатнік…

Тое, што Лобач чуў раней за ўсе свае гады этнаграфічнай дзейнасці, пра што чытаў у старэйшых калег, лёгка і зручна ўкладвалася ў распрацаваную яшчэ да яго сістэму. Ручнік выпадаў з сістэмы. Вайна з невядомай цемрай не ўкладвалася ў сістэму.

Уладзя стаяў наўзбоч ад усіх аўтараў, ад усяго раней чутага. І чым болей думаў пра гэта Лобач, седзячы з шараватым скруткам на каленях, тым болей пераконваўся, што ён не мае права не верыць Уладзю. І рэч не ў незвычайным ручніку і словах. Рэч у Надзеі. Вунь яна. Здароўе і лёс якой яшчэ ўчора віселі на кволай, амаль невідочнай нітцы, што гатовая была парвацца ў кожны момант… Што было б далей без Уладзі? Лобач нават баяўся зазіраць туды, за гэты рэальны абрыў усяго існага ў ягоным жыцці.

Сёння яго сустрэла ранейшая Надзея. Калі Уладзя мае такія веды і моц, не верыць яму нельга.

...Бліжэй да вечара самотны Антосяў хутар поўніўся людзьмі і гукамі.

Надзея і Ганначка скрэблі, мылі рыбу, Антось раскладваў вогнішчы: адно гатаваць юшку, другое — смажыць рыбу. Уладзімір завіхаўся каля стала ў альтанцы. Алеся фактычна прагналі адусюль, і ён, каб не траціць часу, старанна перамаляваў вышытыя на ручніку знакі на аркушы паперы. Спытаў дазволу ў Антося, пашукаў у сеціве — не, і блізка нічога падобнага нідзе не сустракалася. Безумоўна, адметнасць гэтага ручніка, як і таго, што згарэў у школе, і здымкі якога былі ў Лобача, у вышытых знаках. Шэсць на адным канцы ручніка і сем на другім. Найболей яны нагадвалі сняжынкі: і тым, што ні адзін не паўтараўся, і тым, што ўсе мелі выразную цэнтральную сіметрыю. А розніліся ад сняжынак тым, што знакі былі ў кружках. Яны вабілі сваёй загадкавасцю. Пэўна ж, вышытыя знакі — тэма для артыкула, бо нідзе болей падобнае не сустракаецца. Той ручнік са школы не маглі ўспрыняць сур'ёзна ў навуковых колах, бо ён быў адзіным вядомым фактам. Помніцца, там было чатырнаццаць знакаў. Іх палічылі за пазнейшае аздабленне тканага ручніка, можа, нейкай вышывальніцай-пачаткоўкай. Падстава — невыразнасць самых знакаў, брак у іх думкі, гармоніі... Быццам невядомая майстрыха спрабавала свае здольнасці і вышыла кружок, у ім — перасячэнне ліній, адгалінаванні ў розныя бакі. Старанна, сіметрычна... але непрыгожа.

Падышоў Уладзімір.

— Варожыце, Алесь Паўлавіч? — запытаўся вясёла, але без фамільярнасці.

— Варожаць, Уладзімір, бабулькі, а мне толькі думаць можна, — усміхнуўся і Лобач. — Які, па-вашаму, сэнс у такіх знаках? Хачу папярэдзіць, што яны невыпадковыя. Калі ёсць у наяўнасці дзве рэчы з падобнымі кружкамі, то мы абавязаны іх разгледзець цяпер як факт... Ну? — Лобач падаў аркуш Уладзіміру.

Той глядзеў досыць доўга, маўчаў, урэшце вярнуў паперу назад.

— Не ведаю, што і сказаць. Кветкі нейкія.

— А чаму ўсе розныя? Чаму на адным рагу ручніка — шэсць, а на другім — сем? Вы ж раней казалі, памятаеце? Трэба браць нейкую адну загадку і шукаць на яе адказ. Ну, вось, акурат такі выпадак. Здаецца, пара знакаў адсюль супадае са знакамі з другога ручніка... І болей ніякіх дадзеных.

— Ды я шмат глупстваў казаў.

— І калі ж гэта вы паразумнелі? — з усмешкай здзівіўся Лобач. — Хіба пасля таго, як далі рады маёй задачы сваім метадам?

— Ат, які там метад, — крыху засаромеўся Уладзімір. — Мне пашанцавала, не болей. І ведаць трэба, і працаваць.

— І ўсё ж, — сур'ёзней загаварыў Алесь, — іншы раз неардынарны падыход — палова поспеху.

— Але тут я не ведаю... як падступіцца. Нават не магу прыдумаць, што можа быць. Найхутчэй, код нейкі.

— Мабыць, код... — задуменна згадзіўся Лобач. — Але што такое можна зашыфраваць у малюнку сняжынкі?

— Мне, шчыра кажучы, не думаецца сёння, — вінавата прызнаўся Уладзімір. — Пайду лепей пару паленаў рассяку — засумавалі рукі па сякеры. Там проста — двума ўдарамі кругляк на чатыры часткі...

Уладзімір узняўся, пайшоў да калодкі, пры якой ляжала некалькі адпілаваных круглякоў, што прынёс Антось. Лобач глядзеў, як Уладзімір роўна паставіў адзін кругляк, узняў сякеру, рэзка апусціў і прытрымаў другой рукой, каб не разляцеліся, палавінкі. Павярнуў іх разам і зноў размахнуўся, секануў. І сапраўды, з двух удараў выйшла чатыры паленцы.

“Два разы секануў — чатыры часткі”, — няўцямна падумалася Лобачу, ён перавёў вочы на аркуш з намаляванымі знакамі. “Чвэрць” — мільганула думка. У наступны момант Алесь намаляваў асобна чатыры чвэрці знака. Потым, ніжэй, яшчэ раз адну частку, цяпер без дугі. І яшчэ раз падзяліў паводле сіметрыі.

І пабачыў перад сабой адзін знак, адлюстраваны адносна самога сябе, а потым адбіты сіметрычна адносна кропкі пачатку чатыры разы. І ёкнула ўсярэдзіне гучна, кроў лінула да галавы і твару, рукі задрыжалі.

Не было ніякага сумневу — знак, які выйшаў, быў літарай. Літарай той пісьменнасці, пра існаванне якой тут дагэтуль ідуць спрэчкі — гэта была рунічная літара. Руна. Дакладна руна.

“Спакойна, спакойна...” — Лобач прымусіў сябе акуратна скласці аркушык, пайшоў да аўтамабіля і схаваў яго ў іншых паперах. Нельга. Не цяпер. Трэба супакоіцца. Трэба мець пад рукой усё патрэбнае: тыя ж раней расшыфраваныя знакі, іх тлумачэнні. Толькі потым сесці, вось так разрэзаць на часткі і знайсці ў другой, трэцяй і ў астатніх “сняжынках” старажытныя руны. І паспрабаваць прачытаць. Зразумець...

Алесь амаль фізічна адчуў, як на яго навальваецца невыказная ў сваёй значнасці і важнасці адказнасць. Калі першы знак — не выпадковасць, калі чацвярцін-

кі кожнага — літара, ці значэнне, калі ручнікоў было сем разоў па сем, калі за імі палююць невядомыя, імкнуцца знішчыць... Значыцца, на ручніку запісана нешта надзвычай важнае. І пры тым, яно толькі частка ўсяго, што змясцілася на сарака дзевяці ручніках. Што гэта можа быць? Хто такія ахоўніцы? Што там у іх за крыжы?

Лобач ішоў берагам рэчкі, пакусваў сарваную травінку, няспешна думаў. Хутчэй за ўсё, прыходзіў ён да высновы, яму пашчасціла сутыкнуцца з нейкім невядомым дагэтуль, надта ж жывучым культам, у якім патрабавалася ў ліку іншага ў вонкавай атрыбутыцы абавязковае дзяленне ўдзельнікаў на светлых і цёмных. Трэба будзе падрабязней распытаць Уладзю... І галоўнае: ён казаў, што ручнікі прапалі ў чатырох. А ведаў ён сямёра! Значыцца, яшчэ дакладна недзе ёсць тры ручнікі!

З усяго відаць, калі ўлічыць Уладзявы здольнасці да лячэння, тут сутыкнуліся цёмныя і светлыя ведзьмакі. Як быццам, нічога складанага. Але як гэтулькі часу культ жыве невядомым, дзе, калі верыць Уладзю, ёсць месца і забойству? І сама невытлумачальным застаецца адно: чаму яму, Алесю Лобачу, які не мае ніякага дачынення да “секты”, стары Уладзя, фігура відавочна не маленькая, вось так спакойна перадае на захаванне культавую рэч, такую для яго важную? Фактычна, Алеся, узялі ў “секту” насуперак правілам. Бо павінны быць правілы. Проста мусовыя яны для самога існавання культу. Пагатоў такога, які да сёння заставаўся зусім невядомым для навукоўцаў. Нельга ж успрымаць сур’ёзна словы старога Уладзі пра любоў, якая нібыта можа злучыць... Ды яшчэ любоў да роднай зямлі, праяўленне якой не тое, што бывае розным, але яе іншы раз і не разгле-

дзіш і памылкова прымеш за нешта іншае. Ды наагул, ці бывае яна — любоў да роднай зямлі? Не кіношная, не кніжная? Не сялянска-хутаранская, увасобленая ў адданасць лапіку поля; не навукова-часопісная, застылая ў радкох дысертацыяў і манаграфіяў; не ўра-патрыятычная, што хапае за грудкі ў час п’янак на рабоце; не паказушна-чыноўніцкая, з задухай застылых у часе кабінетаў… Не любоў-слова, не любоў-зацятасць, не любоў-лозунг, не любоў-справа, а любоў-пачуццё?

## 8

— Я шмат чаго перажыла, мне здавалася — усё змагу вытрымаць, не зламаюся. Выплачуся, выпакутую — і буду зноў жыць. Як і жыла, толькі з новым болем у душы, як з новым каменем пад сэрцам. І не думала ніколі, што страшней за ўсё тады, калі ад цябе адымаюць не родных, не блізкіх — а самога цябе. Цябе пазбываюць мінулага, тваю будучыню выракуюць нейкія два раз’юшаныя, раз’ятраныя ад выгляду свежай крыві капітаны міліцыі. А сучаснае… яго няма. Бо сучаснае — гэта ты і твае справы. Але ўсё, што ты робіш, усё дарэшты, акрамя дыхання, ты робіш паводле загаду. Рэшта — не тваё…

Надзея замаўчала. Антось падкінуў пару паленцаў у вогнішча, якое ў адказ бязгучна пыхнула вёрткімі жарынкамі. Добра сцямнела. Алесь Лобач павёз Ганну дадому, дый сам там заставаўся нанач, каб рана ехаць у горад на працу. Уладзімір Жабрун прыбраў посуд з альтанкі (праўда, Надзея не дала яго мыць) і цяпер у доме сядзеў за кампутарам.

Антось ужо не збіраўся выпытваць у Надзеі падрабязнасцяў, як усяго яе жыцця, так і апошніх дзён — яму было досыць таго, што расказаў Алесь. Надзея зацікавілася Антосявым жыццём, неяк па-свойму, пабабску, ці што, і той міжволі сам сабе паблажліва хмыкаў: от жа кабеты, вядома ж, іх цікавіць, што еў, ды хто гатаваў тую ежу, хто мыў бялізну, і як там наагул быў арганізаваны побыт. Жанчыны — такія жанчыны…

А потым Надзея сама пачала расказваць пра тое, што прывяло яе да дзеда Уладзі ў Карчаваху.

Выйшаў Уладзімір, Антось нягучна клікнуў яго. Уладзімір падышоў, прыкурыў ад галавешкі, зацягнуўся, выпусціў дым, сказаў задуменна:

— Калі прыкурваю ад вогнішча, заўсёды нейкае незвычайнае адчуванне. Смачней так ці што…

Нейкі час усе маўчалі, потым Антось спытаў:

— А што далей будзеш рабіць, Надзея?

— Не ведаю, — без суму адказала жанчына. — Са школы мяне звольнілі…

— Дык заставайся тут… — ціха прапанаваў Антось.

Уладзімір ускінуў на яго здзіўленыя вочы, але змоўчаў. Антось загаварыў далей:

— Пажывеш… адпачнеш. Будзе табе адпачынак на прыродзе. Тут ціха. Пакой у мяне яшчэ адзін ёсць.

— Сёння, мабыць, і застануся, — згадзілася Надзея не так з Антосявай прапановай, як са сваімі думкамі. — Тут мне і праўда добра…

Уладзімір хутка зацягнуўся раз і другі, кінуў недакурак у агонь, устаў — ён адчуваў, што замінае размове, яму было няёмка.

— Пайду… Пасяджу яшчэ хвілін дваццаць у сеціве.

— Калі хочаш — кладзіся спаць, — прапанаваў Антось. — Мы таксама зараз…

Надзея задуменна глядзела на агонь, абхапіўшы ногі рукамі, падбароддзем кранаючыся сваіх каленяў.

— А чаму ты адзін? — запыталася яна.

Антось хацеў кінуць у адказ нешта банальнае, але прамовіў з уздыхам:

— Не ведаю. Неяк так выйшла, каго ні сустракаў — ні ад каго не хацелася мець дзяцей. Ну, якая б жанчына ні была, я ў ёй маці не бачыў. Жанчыну толькі. Вось і разбягаліся… А цяпер…

— Што цяпер?

— Цяпер позна і пра дзяцей думаць, і пра сям'ю. Я — воўк. Які адбіўся ад зграі. Ёсць такія сярод ваўчынага роду. Жыву… Сам сабе.

— Вольна жыць? Ніхто не замінае, ні з кім не трэба дзяліцца ні бядой, ні радасцю? Прызвычаіўся? — раздумліва пыталася Надзея.

— Ага, і прызвычаіўся, што маніць, — прызнаўся Антось. — Прызвычаіўся ні з кім не раіцца, адзін распараджацца сабой, сваімі грашыма, сваім часам… Ведаеш, Надзя, гадоў пяць таму ўважаў гэта за правіла.

— А цяпер? — Надзея ўзняла галаву і паглядзела Антосю ў вочы.

— Цяпер? Цяпер я ведаю… цяпер я ведаю, што пражыў марна. Вось вярнуўся сюды — хоць нейкі сэнс з'явіўся, зямля пад нагамі адчулася. Бізнес во такі разгарнуў — трэба ж было некуды ўкласці грошы, якіх нахапаў, як дурань мухамораў у лесе. Усё здавалася раней, што грошы — апора і аснова.

— Дык у вёсцы ж без жанчыны — зусім ніяк.

— Ды… была думка запрасіць якую, каб гаспадарку вяла. Але ж замужнюю браць — даць мясцовым падставы для плётак, незамужняя — тое самае, ды сама яшчэ чаго надумаецца, ну, сур'ёзнага чаго…

— Баішся сур'ёзнага? — здзівілася Надзея.

— Баюся, — кіўнуў галавой Антось. — Я тут… Не веру я ў тое, што раблю. Колькі ў мяне ў жыцці было ўсякага, калі ўсё абрыналася, сам у яміне апынаўся, без анічога… Я тут вылузваюся — і чакаю бяды. Чакаю, што некалі застануся ці на галавешках, ці за кратамі. Чужы я тут са сваім хутарам. Воўк — ён усім чужы. Нават колішняй роднай зграі.

Антось гаварыў амаль спакойна, без нутранога напружання, без нот шкадавання да самога сябе. Гаварыў, як вяскоўцы гавораць пра надвор'е: ёсць і ёсць, і нічога не паробіш. Ён яшчэ падкінуў паленца, закінуў нагу на нагу, цeранyў далонню лоб, потым увесь твар, як усё адно здымаў з яго павуцінне, выпрастаўся і сказаў:

— Не мне, Надзя, пра адналюбства гаварыць — то хай маладыя робяць. Але сёння мне меней за ўсё хочацца якую жанчыну ў свой лёс прымешваць. А асабліва — цябе.

— Таму і не прапануеш мне застацца на сваім хутары? — нечакана спытала Надзея, без гуллівасці, сур'езна.

— Пажыць, адпачыць тут — калі ласка, — старанна хаваючы ўзніклае хваляванне, адказаў Антось. — А застацца… не, не прапаную.

— А калі я цябе папрашу пусціць мяне да сябе жыць? — Надзея казала нібыта спакойна, але голас уздрыгнуў на апошнім слове, і яна дадала памяркоўна, каб прыхаваць уласнае хваляванне: — Буду табе варыць есць, мыць, прыбіраць, як хатняя гаспадыня. Пусціш?

Антось маўчаў. Глядзеў у агонь, не ўздымаў на жанчыну вачэй. Яна не стала патрабаваць адказу, загаварыла сама:

— Тут… Колькі гадоў я не адчувала такой… заспакоенасці. Сёння сапраўдны мур адгарадзіў мяне ад усяго таго свету. Вось я расказала табе, а страху не было. Мне здаецца, што сюды, на хутар, нічога не можа прыйсці злога, нядобрага. А пакуль што мне і праўда няма куды кіравацца. Хутчэй за ўсё мая настаўніцкая кар’ера кончылася, у горадзе мне ўжо не ўладкавацца. Вядома, паспрабую знайсці працу. Хоць матэматыку цяжка, філолагам трэба было, як ты…

— Адпачні тут… — Антось як не чуў Надзею, пачаў гаварыць пра сваё. — Пажыві… колькі хочаш. Будзе сумна, можаш… ну, нейкія справы знойдзеш для сябе. А захочаш застацца на даўжэй… Калі праўда захочаш… я буду думаць, што мне Гаспадар Бог падараваў другі шанец.

Яны замоўклі, доўга сядзелі так, глядзелі на полымя. Так шмат было сказана абаімі, але, здавалася, яны не сказалі адно аднаму нечага яшчэ, нечага галоўнага, значнага, пасля чаго толькі і можна рабіць крок вось ад гэтага вогнішча.

Надзея схамянулася, выпрасталася, загаварыла, як старэйшая і мудрэйшая:

— Дзень такі быў… Каб адразу спаць легла, то ў вачох усё стаяла б. Там дзед Уладзя мне траву даў, трэба заварыць нанач…

— Дык тут чайнік гарачы, — рэзка абудзіў у сабе актыўнасць Антось, падхапіўся з месца, пасунуў закураны, чорны чайнік да чырвонага вуголля. — За тры хвіліны закіпіць. Нясі сваю траву…

Надзея ўзнялася з месца, пайшла ў дом, вярнулася з пакуначкам.

Калі вада закіпела і Антось запарыў у кубку зёлкі, Надзея папрасіла:

— Ці можна заўтра зранку з’ездзіць у горад? Дзед Уладзя не раіў пакуль што… Але Алеся прасіць не хачу, ён у мяне надта ж датклівы. Мне ў кватэру трэба. Узяць… чаго з рэчаў. Мяне Ганначка пакуль што выручыла, але ж… жанчыны — такія істоты, ім штодня так шмат трэба!

— Дык ад ранку і з’ездзім, — ахвотна пагадзіўся Антось.

— Толькі… Я цябе папрашу, а ты паабяцай, добра? — пасур’ёзнела Надзея, зазірнула Антосю ў вочы.

— Абяцаю, — пракаўтнуў Антось, не ведаючы, што яго чакае.

— Дык вось… Калі раптам там, у кватэры… ці каля дома… ці яшчэ дзе я раптам пачну… пачну паводзіцца неадэкватна, раптам пачну крычаць, ці нават калі зачынюся ў сваім пакоі, у лазенцы, пачну цябе выганяць, схаваюся пад ложак… ты, Антось, паабяцай мне, што ты мяне выцягнеш, жывасілам выцягнеш. Трэба, дык рот заткнеш штодня, рукі звяжаш, ускінеш на плечы і панясеш. Але абавязкова, чуеш, абавязкова зноў прывязі мяне сюды, у Карчаваху да Ўладзі, да сябе на хутар. Не кідай там. І не выклікай ніякіх лекараў. І… калі здарыцца, Алесю… не кажы. Добра?

Антось моўчкі нахіліў галаву.

Уладзімір чуў, як Надзея зайшла ў пакой, прычыніла за сабой дзверы, раздзелася і легла. Чуў, як укладваўся ў вялікім пакоі, там дзе кампутар, Антось. Сіліўся заснуць — і не мог. Сон не йшоў. Ён ведаў, што ў доме ніхто не спіць. І вінаваціў у тым сябе. Яшчэ ніколі ён не адчуваў сябе не тое што лішнім, а сапраўднай перашкодай для людзей. Чаму ён не настояў на сваім, паслухаўся Антося і застаўся тут, а не пайшоў у Карчаваху да Уладзі? Ён лішні тут… Ён замінае…

За гэтым самапапіканнем спакваля, ніадкуль з'явілася прыкрасць і крыўда: куды яму ісці? Навошта ён тут наагул? У яго ёсць пакой у бабулькі, у яго ёсць Ірына, дык чаму яму не быць там? Навошта яны яму ўсе: Антось, Надзея, выкладнік Алесь Лобач? Падумаеш, нешта там прымроілася, нешта здалося… ну, захварэў, нешта навалілася, дык жа цяпер усё нармальна! Чаго яму чапляцца за жыццё гэтых сапраўды чужых людзей? Хто яны яму? Хто ён ім? Ды ніхто… Для Антося — найміт. Вось, памог у адным, цяпер як ад'ютант пры генерале. "Студэнт"… Хай цяпер Антось і не называе яго гэтак, але ж у думках, за спінай, заве, уважае за недамерка…

Мабыць, мінула гадзіна. Сцішанасць у доме была выразнай, штучнай. "Чакаюць, пакуль я засну", — думаў Уладзімір. І ад гэтай думкі было невыносна. Ніколі не ўяўляў сябе ў такой ролі — перашкоды для мужчыны і жанчыны. "Пайду, падыму Антося. Няхай дасць ключы, лягу ў аўтамабілі…" — падумаў Уладзімір, але ўсё цягнуў, спадзяваўся, што сон прыйдзе.

У вялікім пакоі пачуўся шоргат, крокі. Пстрыкнуў вымыкач на кухні. "Антось падняўся", — усцешыўся Уладзімір. Цяпер прасцей будзе запытаць ключы ад машыны. Нацягнуў джынсы і пайшоў на кухню.

Антось, у саколцы і спартовых нагавіцах, сядзеў пры стале, дзе стаяла пачатая пляшка з каньяком. Дзвюма рукамі трымаў, пакручваў у пальцах напоўнены кілішак. Ён зусім не здзівіўся з'яўленню Уладзіміра, хутчэй узрадаваўся, паказаў вачыма на канапу:

— Сядай, Валодзька. Будзеш са мной крышку? Мне таксама ніяк не заснуць…

У ягоных словах было гэтулькі скрухі і самоты, што Уладзіміру стала сорамна за свае думкі, маўляў, ён замінае Антосю і Надзеі ў нейкіх інтымных планах. Павярнуўся да шафкі, узяў кілішак.

Выпілі моўчкі. Антось расчыніў шырэй акно, зняў з падаконня крышталёвую попельніцу, чысцюткую, пасунуў па стале:

— Закурвай тут. Я дзверы прычыню. Пасядзім… Памазгуем. Кажаш, паслязаўтра там шабаш на тым лецішчы?…

— Так… — Уладзімір скарыстаўся дазволам, закурыў. Зацягнуўся раз і другі і сказаў нечакана для сябе: — А Надзея… прыгожая. І яна — добры чалавек.

Антось ніяк не зрэагаваў на пачутае, зноў наліў у кілішкі.

— Валодзька, ты ведаеш, што гэта такое: чакаць усё жыццё адну жанчыну?

— Адкуль? — сур'ёзна адказаў Уладзімір. — Я нікога не чакаў.

— Вось, Валодзька, і я не ведаў. Жыў і не ведаў, што я жыву і чакаю. А сёння зразумеў. Ведаеш, ляжаў во, усё пражытае пранеслася. І раптам падумаў, дакладней — успомніў: я ж кожны раз, калі падымаўся высока, калі на кані быў, думаў: а вось каб бачыла яна мяне… А калі на самае дно падаў, галадаў, на гнілой саломе ля свіней спаў, то недзе во там, — Антось пачухаў патыліцу, — там мільгала такое: добра, што яна не бачыць. Вось і выходзіць, Валодзька, што я ўвесь час пра яе помніў. І не сам жыў, а нібыта ёй даводзіў…

— А цяпер? — асцярожна пацікавіўся Уладзімір.

— Цяпер — не. Тады, калі ў Маскве прадаў свой бізнес, вось тады як падвёў рысу і адсёк тое жыццё. У якім яна была. І стаў жыць проста для сябе.

— І тады яна прыйшла, — канстатаваў Уладзімір.

— Ага, тады прыйшла, — стомленым рэхам паўтарыў Антось. — Усе мары маюць адну ўласцівасць — яны спраўджваюцца. Ці ўжо некалі спраўдзіліся, а мы проста не заўважылі таго…

— А чаму… чаму вы разышліся? — спытаў Уладзімір. — Неяк ты і не казаў…

— Рэўнасць дзіцячая, — скрывіўся Антось як ад кіслага. — Я потым даведаўся… сустрэў быў аднакурсніка свайго, з якім у пакоі жылі. Там… дзяўчына адна замешаная была, надта хацелася ёй за мяне замуж. Вось яна і падбухторыла майго сябра. Прыйшла да яго. Надзея ў гэты дзень да цёткі паехала, ці яшчэ куды. Карацей, мы з ёй планавалі сустрэцца наранку. Я пайшоў пагуляць да сяброў, як дамовіліся, вярнуўся гадзіны праз тры. А яны, сябар з той дзяўчынай, у пакоі. Выпіваюць. Ну, і мяне клічуць. Сябар раніцай ехаць некуды мусіў, маўляў, ноч гуляем. Аднекваўся, але чарачка за другой — паляцелі тармазы. Налівалі яны мне як мага болей, я і выпіваў, каб хутчэй заснуць ды ім волю даць. Чуў яшчэ, як мяне распранулі, заваліўся спаць. Прачынаюся — цесна. Вачыма лыпаю, нічога не разумею: ляжыць са мной у ложку тая дзеўка. Галаву падняў — сябра няма, ягоны ложак засцелены. Штурхаю яе, яна толькі мыкае. Голая ўся… а тут у дзверы грукочуць. Галава цяжкая, як бязмен. Нічога не разумею. Адчыніў. Там — Надзея. А тая ў ложку галаву раскудлачаную з-пад коўдры высунула, глядзіць, пасміхаецца. І я стаю, ківаюся і па Надзеіных вачох бачу, якую гідоту выклікаю сваім выглядам… От так і скончыліся нашы з Надзеяй сустрэчы. Паспрабаваў адзін раз пагаварыць, ды яна не стала і слухаць. Усё, болей не спрабаваў, гонару шмат. Праз пяць… так, праз пяць гадоў тая Надзеіна сяброўка на сустрэчы ўсё расказала… Калі мяне распраналі, яна ключ ад пакоя з кішэні выцягнула. А раніцай сябар паехаў, яна і прыйшла… Потым, так во склалася, яна замуж пайшла за таго майго сябра, яму прызналася, ён і прымусіў расказаць, хоць і запо-

зна было. Яна зацяжараць нешта не магла. Дык яны і думалі, што калі я і Надзея іх прабачым, то будзе добра… Для ўсіх.

— І нарадзілі? — запытаў Уладзімір, асцярожна прытушыўшы недакурак на чысцюткай паверхні крышталя.

— Нарадзілі, чаго там нараджаць, калі абодва здаровыя… — Антось страпянуў галавой, як адганяючы думкі, як конь злых надакучлівых мух. — Валодзька, бліжэй да справы…

Асцярожна рыпнулі дзверы, адчыніліся. Надзея стаяла на парозе, прытрымвала крыссё цеснага просценькага халата, які, відаць, пазычыла ёй Ганна, пазірала з дакорлівай усмешкай.

— Вечара ім мала было… І мне не заснуць ніяк.

— То сядай, сядай, — Антось усхапіўся з месца, пасунуў услончык з-пад стала. — Сядай з намі… Ці на канапу… Мы тут з Валодзькам ніяк зміріцца не можам, што пляшка адкаркаваная стаіць, — няўклюдна пажартаваў ён, дастаў яшчэ адзін кілішак, наліў. — Падрэзаць чаго? Сыр ёсць…

— Тут сяду… Не, не трэба нічога, — адмовілася Надзея, прысела, хацела пакласці нагу на нагу, але пабачыла, як высока агалілася яе калена, села роўна.

Уладзімір заўважыў гэты рух жанчыны і прапанаваў:

— Хадзіце сюды, на канапу сядайце… А я на ўслончык сяду. Тут вам… вальней будзе.

— Ну, добра, — усміхнулася Надзея. — Не буду вас бянтэжыць сваімі голымі лыткамі…

Яна крышку адпіла з кілішка, паставіла яго на стол, потым паглядзела ўважна, пранізліва нават, то на Антося, то на Уладзіміра і загаварыла строга, як старэйшая сястра сярод родных братоў:

— Вось што, хлопчыкі… Я, цябе, Антось ведаю. І калі вы з Уладзімірам агульную мову знайшлі, значыцца, і Уладзіміра крышку ведаю. Прынамсі, ведаю, чаго можна чакаць… Дык вось. Я не прашу, Антось, — Надзея глядзела гаспадару проста ў вочы, — не прашу, зразумей, а загадваю: ты сам не будзеш нічога ўсчынаць, ты ўтрымаеш Уладзіміра, калі ён будзе гарачку пароць, але вы нічога не будзеце рабіць таму міліцыянту, майму быламу вучню. І ты мне, Антось, зараз паабяцаеш: не будзе ніякай помсты. Нічога не будзе. Ты і Уладзімір забыліся на той выпадак. Вось… Паабяцай…

— Дык… Як можна забыцца? — ускінуўся Антось.

— Вось так і можна, — настойліва, але адначасна суцяшаючы, быццам малое дзіця, адказала Надзея. — Я не хачу, каб мой колішні вучань пацярпеў праз мяне.

— Нічога не разумею, — горача запратэставаў Антось. — Ён праз цябе пацерпіць? Ты пацярпела!..

— Антось! — спыніла яго Надзея. — Калі ён такім стаў — то гэта мая віна, разумееш? Мая! Усё, не будзем спрачацца. Я не хачу, каб да мінулага вярталіся вы ці я сама. Ты мне абяцаеш?

Антось адвярнуўся да акна, потым устаў, падышоў, прычыніў яго. Павярнуўся да Надзеі, якая не зводзіла з яго вачэй.

— Абяцаю… — сказаў спакойна.

— Ну, цяпер я дакладна буду спаць без непрыемных думак, — са шчырай палёгкай уздыхнула Надзея. — Дзякуй вам, хлопчыкі. Праўда, дзякуй… Зразумейце, усё мінецца, галоўнае — самым застацца ў чысціні… Валодзя, мы заўтра разам у горад з’ездзім, добра? Антосю спакайней будзе.

— Вядома, ніякіх праблемаў… — хутка згадзіўся Уладзімір.

— То я пайшла… Кладзіцеся і вы, — Надзея выйшла з-за стала, каля дзвярэй азірнулася: — Дабранач.

— Вось так, Валодзька, кідаем дурное… — Антось не выпіў, а амаль выліў вадкасць у горла, здаецца, і не каўтаў. Выдыхнуў, зірнуў на Уладзіміра. — Значыцца, усё касуем… Пайшоў я… Ты курыць будзеш? То адчыніш акно шырэй. Можна і не зачыняць — ноч цёплая…

— Пасяджу хвілінку, — кіўнуў Уладзімір.

Ён выкурыў адну цыгарэту, але застаўся сядзець пры стале, дзе ў цэнтры стаялі кілішкі і пляшка з трацінай каньяку.

Усё было добра. Усё склалася так хораша. Але чаму так пуста было на душы — Уладзімір не ведаў. Вось цяпер ён адчуў сябе сапраўды лішнім. Калі паўгадзіны таму яму здавалася, што ён толькі часовая перашкода, лішняя дэталь у стасунках, у жыцці Надзеі і Антося, то цяпер ён стаў проста непатрэбным. Не часова, а назаўсёды.

Надзея сказала тыя словы, якія яшчэ нядаўна былі для Уладзіміра адзіна слушнымі. Дый цяпер ён не можа сказаць, што Надзея не мае рацыі, бо ён жа сам лічыць, што помста — не выйсце. І як бы ні называў гэтую помсту Антось: адэкватным адказам, папярэджаннем, разлікам, але ўсё адно яна застаецца помстай. Ён мусіць цяпер цешыцца, ці хоць адчуваць палёгку, а няма радасці, няма палёгкі, замест іх — прыкрасць і пустэча.

Усё скончана. Так, усё скончана. Перад Уладзімірам пранесліся ягоныя апошнія дні, адзін за адным. Што ж, мабыць, ягоная роля выкананая: ён звязаў, гэта дакладна так, два лёсы — Антосяў і Надзеін, звёў іх… Нехта там, угары, вядзе людзей іх сцежкамі. Некаму жыць, чыніць справы, вялікія і малыя, а некаму быць, вось як яму, Уладзіміру, усяго толькі нагодай

і прычынай, яго лёс — церабіць перад некім сцежку такім парадкам, каб яна скрыжавалася з іншай сцежкай, каб зышліся людзі, каб чыніліся іхныя справы. Іхныя, а не ягоныя…

Стала лягчэй ад такіх разважанняў. Бо калі наканавана быць вось такім — куды дзенешся. Таксама роля… Уладзімір закурыў яшчэ раз. Не, не праходзіла прыкрасць, і рэч была зусім не ў адкрытай сваёй ролі. З кожным імгненнем расло пачуццё, што яго, Уладзіміра, прадалі. Не падманулі, а менавіта прадалі…

“Заўтра разбяруся ў дзеда з дровамі і паеду… Трэба шукаць работу”, — падумаў ён, патушыў недакурак, як кропку ставіў у сваёй задуме. “У мяне ёсць Ірына”.

Уладзімір хацеў думаць пра яе, пра Ірыну, але калі заплюшчыў у ложку вочы, узнікла выява Ганны. Гэта было нечакана і трывожна. Што ён, раўнуе яе, Ганну, да Алеся? Не… У яго ёсць Ірына! Ганна… яна ж як сястра яму. Чаму яна?

А Ганніна выява стаяла ў заплюшчаных вачах, быццам прасіла пра нешта, клікала…

# ЧАСТКА 9

## 1

Звечарэла добра. Уладзімір выйшаў на двор, прыкурыў. Неба на захадзе было яшчэ светлаватае, а з усходу ўжо набрыняла густым фіялетам. Ззяла Венера ў вышыні. У зарасніку бэзу за дзедавым гародам заспяваў-зацёхкаў салавей, і жабы, хор якіх глушыў усе іншыя гукі, крыху прымоўклі як засаромеўшыся. Але не здаваліся.

“Хораша як… Ціха, спакойна… Можна ж жыць вось так, бачыць, адчуваць…” — думаў Уладзімір, павольна, з асалодай зацягваючыся. Нават дым ад цыгарэт тут, у настоеным на водары блізкага лугу і балота паветры, быў іншым.

Рыпнулі веснічкі.

Уладзімір азірнуўся на гук — нейкая старая заходзіла на надворак.

І сцялася раптам, аж прыпынілася на імгненне. А потым шалёна затахкала сэрца ў прачуванні страшнага. І сама гэтая старая, і яе паспешнасць, з якой яна расчыняла веснічкі, яе непрыхоплены на завязкі цёмны халат, з-пад якога выглядвала доўгая начная кашуля, і праставалосая галава — усё крычала крыкам пра нейкую бяду.

— Уладзя дзе? Дзе Уладзя?! — сіпла закрычала старая, а голас быў слабым, не крык зусім, адзін выдых.

— Я Уладзімір, — ашалела прамовіў Уладзімір. І адразу зразумеў, што Уладзя — стары ў хаце.

— Дзеда кліч… — выдыхнула старая і, хапянуўшы паветра, загукала сама: — Го-о, Уладзя! Уладзя! Бяда! Бяда!

Стары з'явіўся на парозе сенцаў, быццам стаяў увесь час за дзвярыма. Пэўна ж, яму не трэба было і бачыць старой, толькі чуць яе голас, каб зразумець страшную сур'ёзнасць невядомай пакуль што навіны.

— Што, Марута? — рэзка, але несурова запытаўся стары, і ў яго пытанні быў загад супакоіцца, казаць пра справу.

— Ганначка… забралі… Праз акно бачыла: нейкі пад'ехаў на машыне, клікаў-клікаў… Яна акно адчыніла, з ім гаварыла. Угаварыў ён яе… Выйшла яна… — і Марута не стрымалася, сарвалася на галашэнне: — Аёй, дзеванька, сама сярэдзіна тыдня гнілога, нельга ж ёй выходзіць было, нельга, казала ж… — і спахапілася, нібыта адчула строгі Уладзеў позірк, працягнула: — Яна выйшла, тут аднекуль з хмызняку, як з-пад зямлі, двое выскачылі. Схапілі яе — і ў машыну закінулі. Паехалі…

— Куды? — нервова перапыніў стары.

— У бок Кута…

— А-а-а, — выгукнуў стары і сарваўся з месца, імкліва, наважна, але не ў бок расчыненых веснічак, а ў глыб надворка, да кучы дроў.

Уладзімір адхіснуўся ад яго, толькі цяпер зрабіўшы некі рух. Адчуў, як згарэлая цыгарэта пячэ пальцы, і міжволі расціснуў іх.

Стары адным рухам шмаргануў з калодкі сякеры.

— Хутчэй!

Гэты ягоны кароткі загад Уладзімір прыняў і да сябе.

Прыцемкі загусцелі, вузкая дарога шараватай пакручастай паласой бегла наперад і страчвалася бліжэй да недалёкага лесу, што пагрозліва цямнеў на фоне святлейшага неба.

Уладзімір бег за старым. Ззаду чулася цяжкае хаканне, і ва Уладзіміравай галаве нечакана ўзнікла і не адчаплялася прыкрая думка: як старая жанчына можа паспяваць за імі? Няўжо не астанецца? От бабулька... Не было іншых думак — можа, таму, што Уладзімір не пускаў іх да сябе, гнаў прэч. І пра Ганну гнаў, пра яе — найболей...

Стары раптам рэзка збочыў, пабег напрасткі, лугам. Уладзімір трымаўся за ім, не бачачы пад нагамі дарогі, толькі падэшвамі босых ног адчуваючы ўбітую сцежку. Скора пад нагамі зачаўкала — пачалася балаціна.

А стары бег і бег, моўчкі, не спыняючыся, напрасткі, як той звер, што напаў на след, і нішто яго цяпер не магло прымусіць спыніцца ці звярнуць.

Вада месцамі даходзіла амаль да каленяў, добра, што было не топка.

Урэшце яны апынуліся на сухім і цвёрдым — гэта быў востраў сярод балаціны. Стары стаў, азірнуўся і хоць нічога не сказаў, але Уладзімір зразумеў, што трэба затаіць духа.

Было ціха і мёртва — нават жаб не чуваць.

Стары неўпрыкмет махнуў рукой — і яны пайшлі праз негустыя зараснікі ядлоўцу, потым — бярэзнікам, што свяціўся тонкімі прывідамі камлёў. Далей лес пагусцеў, ішлі навобмацак.

Прагучаў стрэл.

Кароткі і глухаваты. Рэха не паспела і падхапіць, як гук растаў сярод дрэў.

Стары рвануўся наперад, не выбіраючы дарогі.

Секла па твары, чаплялася, драла нешта за цела. Уладзімір бег, і тая халодная пустэча, якую ён адчуў пасля стрэлу, выгнала з душы і цела пачуцці і адчуванні. Нічога не было — нават стома некуды знікла.

З разбегу Уладзімір ледзь не стукнуўся аб спіну старога, які спыніўся.

Нешырокая паляна ледзь адгадвалася ў густой цемры. Пасярод паляны нешта бялела… Так, як магло бялець цела… Аголенае цела чалавека.

Стары рушыў туды. Уладзімір — за ім. Мужчын апярэдзіла Марута. Яна з нечалавечым падвываннем на невыносна высокай ноце: “І-і-і-і!” наблізілася да ляжачага на траве.

— Не чапай! Позна… — глухім загадам спыніў яе стары, але Марута і сама застыла над распрастаным целам.

Уладзімір глядзеў на сярэдзіну паляны, як на кадр з нейкага фільма — толькі жах, болю не было, гора не адчувалася.

Ганна была ўся аголеная. Яна ляжала на зямлі бокам, у нейкай неверагоднай для чалавека паставе: абедзве нагі сагнутыя ў каленях, адна падцягнутая ўверх, быццам жанчына бегла. А рукі… рукі немажліва так пакласці жывому. Зноў жа пазгінаныя ў лакцях — адна ўверх, другая ўніз. І прыціснутыя да зямлі.

Уладзімір страсянуў галавой і раптам зразумеў, што Ганніна цела распрастанае ў выглядзе свастыкі. А пальцы рук і ног амаль краналіся чатырох вялікіх камянёў, напалову ўрослых у зямлю

— Ганна…

Уладзімір не змог стаяць на нагах — нібы хто кінуў яму цяжкі мех на плечы, і ён упаў на калені і тварам пацэліў бы на Ганніну нагу, каб стары не перахапіў яго:

— Не чапай! Не чапай яе!

Уладзімір нічога не разумеў — ні таго, што тут адбылося, ні пагрозлівага крыку старога, ні паводзінаў ягоных і старой Маруты.

— Марута, сарочку давай! — загадаў стары, і Марута паспешліва адвярнулася, скінула свой халат, а потым праз галаву— белую сарочку.

Стары ўзяў сарочку, адным рухам разадраў яе ўздоўж, разаслаў. Стаў мацаць вакол Ганнінага цела. У адным месцы загроб рукамі зямлю, прынёс і паклаў асцярожна на тканіну сарочкі.

— Сякеру падай, — папрасіў старую.

Марута падняла з зямлі сякеру, паднесла. Стары абгарнуў зямлю тканінай і стаў цiснуць над лязом. Скацілася адна, другая чорная кропля.

— Валодзька, устань! Устань, кажу!

Уладзімір падняўся з каленяў, адчуваючы нейкую няўцямную надзею ў гэтых дакладных загадах, дзеяннях і ўпэўненым голасе старога Уладзі.

— Бяжы да мяне. Хутка бяжы. У курніку ў левым куце кошык стары. Там яйкі павінныя быць. Вазьмі адно.

— Яйка? — ашалела запытаўся Уладзімір.

— Яйка, — спакойна ўдакладніў стары. — Поклад не захапі — ён навобмацак шурпаты, загаджаны. Хутка бяжы! Як можаш — хутка!

І толькі цяпер у голасе старога адчуўся страшэнны боль.

Уладзімір бег праз зараснікі, потым балацінай, дарогай — і бег так, рыхтык у тым самым яйку, якое ён мусіў прынесці, было не проста збаўленне, а патаемная сіла, якая зможа перакуліць час, вярнуць на месца той момант, калі ён курыў на надворку ў старога…

Яек у кошыку было тры. Ніяк не мог вызначыць, якое болей шурпацейшае, схапіў два, як падалося — найгладчэйшыя, і назад, той самай дарогай, з той самай упэўненасцю, што стары зараз разаб'е адно яйка ў цэнтры тых камянёў над нерухомым Ганніным целам — і вернецца крумканне жаб і салаўіны пошчак.

Было цёмна, і блізкі лес адгадваўся толькі вяршынямі на фоне неба ў рэдкіх кропках зорак. "Гнілы тыдзень", сказала старая Марута. Тыдзень без Месячыка... Уладзімір не баяўся заблудзіцца — ён цяпер мог бы знайсці тое месца з заплюшчанымі вачыма, яно вяло, цягнула яго да сябе праз гнілую цемру балаціны.

На паляне было неяк святлей, можа, зоркі над галавой, зыркія, белыя, спрыялі таму, ці вочы прызвычаіліся да цемры.

Цела жанчыны ляжала гэтак жа нерухома.

Стары навыграбаў з-пад яго невялікую кучу зямлі, насычаную крывёю, — яна ляжала на белай матэрыі сарочкі.

Старая Марута цягнула аднекуль ахапку сушняку, складала за колькі крокаў ад месца забойства.

— Давай, — стары працягнуў руку па яйкі, зусім не здзівіўся, калі Уладзімір паклаў у ягоную далонь два гарачыя, вільготныя.

Адно стары вярнуў.

— Хадзі, пасвеціш, — паклікаў Уладзіміра стары.

Уладзімір стаў паспешліва ляпаць сябе па кішэнях, каб намацаць запальнічку, там жа малюсенечкі ліхтарык умантаваны...

— Вымкні гэта, — незадаволена адрэагаваў стары на мёртва-блакітнае святло светладыёда. — Вось, смаляк падпалі...

Роўнага, густога полымя смаляка было досыць для занятку старога. Ён адарваў ад сарочкі некалькі шматкоў. Паклаў на зямлю сякеру, на яе лязо — белае яйка. Набіраў мокрай ад крыві зямлі ў шматкі матэрыі, заварочваў і цiснуў…

Кропля за кропляй падала на белае яйка, і тое пакрывалася чорнымі плямамі, пісягамі. Рабілася чорным…

— Ідзі… Падпальвай, што Марута назбірала…

З амаль дагарэлым смаляком Уладзімір падхапіўся з каленяў, на якіх сядзеў, пакуль свяціў старому.

— З усіх чатырох канцоў падпальвай…

Старая Марута складала не ў адну кучу, Уладзімір пабачыў, што сухія яловыя лапкі, хваёвыя галіны складзеныя нейкім узорам.

— Адсюль пачынай, — ціха сказала Марута, — і па крузе…

Уладзімір паднёс смаляк да сухіх яловых лапак, тыя з ціхім трэскам жыгнулі. Калі агонь занялося з усіх чатырох канцоў і хутка пачаў збягацца да сярэдзіны, Уладзімір пабачыў, што перад ім — палае на зямлі свастыка. Такая самая, і паводле велічыні такая самая, як распрастанае побач Ганніна цела.

Не пытаўся ні пра што.

Стары сядзеў воддаль перад сякерай на каленях, на лязе якой ляжала чорнае курынае яйка, тварам да свастыкі, што гарэла на зямлі. Вочы ягоныя глядзелі на агонь, як на жывую істоту, вусны ледзь падрыгвалі. Падавалася, стары некага бачыць і нешта кажа яму, невідомаму.

Урэшце ён падняўся, асцярожна ўзняў сякеру і прынёс чорнае яйка да агню.

Марута пацягнула Уладзіміра за сабой, паставіла каля аднаго канца агністага калаўрота — якраз спі-

най да раскрыжаванага цела, сама адышлася далей, на другі канец. Стары наблізіўся да цэнтра вогнішча і нахіліў лязо сякеры. Яйка, бліснуўшы густым барвовым колерам, скацілася ў полымя. Уладзя паклаў сякеру на трэці вугал свастыкі, сам стаў на чацверты.

Раптам стала ціха — нават полымя гарэла без адзінага патрэсквання, роўна, па ўсіх лініях.

— Святыя Радзіцелі нашы! Не пакіньце нас без заступніцы нашай, дачкі вашай! Прыміце да сябе дух яе!

Уладзімір уздрыгнуў — такім нечакана гучным, надрывістым быў голас старога.

— Святыя Радзіцелі нашы! Не пакіньце нас без заступніцы нашай, дачкі вашай! Прыміце да сябе дух яе! — тужлівым рэхам раптам азвалася баба Марута, і ў наступнае імгненне Уладзімір зразумеў, што зараз ягоная чарга.

Яго ахапіў страх, ён быў пэўны, што ні гука не зможа вырвацца з ягонага перасмяглага горла. Мабыць, паўза зацягнулася — на Уладзіміра каротка зірнуў стары.

І тут навалілася адразу і ўсё. Прыйшло разуменне таго, што адбылося: Ганну забілі. Такой роднай яму жанчыне ніколі не ўзняцца з зямлі. Яе няма, яе не стала. І ўзніклы ўсярэдзіне боль стаў рвацца на волю — каб выйсці праз рот і вусны дзікім скавытаннем, выццём і нечалавечым крыкам. Уладзімір пракаўтнуў гэты прыступ, хапянуў паветра, і ў наступны момант яно вырвалася словамі роспачы і просьбы:

— Святыя Радзіцелі нашыя! Не пакіньце нас без заступніцы нашай, дачкі вашай! Прыміце да сябе дух яе!

Полымя на зямлі каля Уладзіміравых ног калыхнулася. Рэзка загуло, ірванулася сваімі трапяткімі языкамі да цэнтра — з усіх чатырох бакоў, вырасла

там вышэй за іхныя галовы чырвона-жоўтым празрыстым слупам.

Уладзімір глядзеў на яго, разумеў, што адбываецца нешта, непадуладнае ягонаму розуму, але не адчуваў ні страху, ні здзіўлення.

Слуп полымя выгінаўся, мяняў сваю форму і пакрысе стаў набіраць форму жанчыны. Нечым так падобную да Ганны…

Агняная трапяткая жанчына нахілілася да старога, потым полымя кінулася да бабы Маруты.

Уладзімір замёр. Вось цяпер страх сціснуў сэрца.

Але хацелася, так хацелася, каб і да яго павярнуўся, наблізіўся агняны слуп у форме жанчыны!

І той нібыта пачуў — і не імкліва, адным рухам, а няспешна, асцярожна (“Не хоча, каб я напужаўся”) пачаў набліжацца. Бліжэй, бліжэй…

Вось зараз ад нясцерпнай гарачыні затрашчаць валасы на галаве…

Але полымя не абпальвала. І нават не грэла. Яно было проста… жывым. Галава агнянай жанчыны была на адным роўні з Уладзіміравым тварам. З вачэй у яго раптам пакаціліся слёзы. Яшчэ момант — і Уладзімір адчуў, што ўвесь ахутаны полымем і стаіць, не гарыць.

І нешта ўвайшло ў яго. Было не зразумець, што гэта, але яно было. Галава раптам стала светлай, быццам нехта ўладна, але далікатна расклаў думкі, як кнігі па паліцах. Прыйшло разуменне… разуменне чаго? Уладзімір не ведаў. Ён проста адчуў, што ён нешта зразумеў. Важнае. Вельмі-вельмі важнае…

Агняная жанчына зноў была ў цэнтры свастыкі. Адзіным не вельмі яркім агняным языком яна стала адрывацца ад вогнішча, уздымацца ўгору, згасаючы, раставала ў паветры. І знікла…

— Паспелі, — з палёгкай выдыхнуў стары Уладзя, нагой стаў падграбаць гарачыя галавешкі з бакоў у цэнтр.

Уладзімір нібы ведаў, што так трэба, каб ніхто не бачыў, як гарэла полымя, і заспяшаўся рабіць тое ж са свайго боку.

Баба Марута пайшла да Ганнінага цела, Уладзімір правёў яе вачыма і перш каротка ўздрыгнуў, але адразу нібыта ўспомніў, што так і мае быць: Ганна ляжала ў звычайнай, калі можна так сказаць, паставе гвалтоўна забітага чалавека: скурчыўшыся, падціснуўшы пад сябе ногі…

Стары збёр зямлю, з якой выціскаў Ганніну кроў, занёс на месца, разраўняў. Марута пабрала рэшткі сваёй сарочкі, кінула ў агонь.

— Давай яшчэ сушняку, таўсцейшага, — спакойна, як пра самае звычайнае загаварыў стары. — Трэба тут ноч перачакаць, бо міліцыя не любіць, калі трупы чапаюць. А сюды дзікі прыходзяць часцяком… Мабільнік у цябе з сабой? Выклікай міліцыю… скажы, знайшлі два трупы.

— Чаму два? — няўцямна запытаўся Уладзімір.

— Дык вунь жа, — стары кіўнуў убок да высокай яліны за колькі крокаў ад іх.

Цяпер Уладзімір заўважыў там нешта цямнейшае за грунт. Яны падышлі разам. На зямлі, раскінуўшы рукі, ляжаў мужчына. Ягоная галава была разбітая зверху. У святле галавешкі на чорнай траве бялелі мазгі, здавалася, варушыліся, кроў запяклася на шыі. У адкінутай далёка ўбок руцэ ляжаў пісталет.

— Застрэліўся…

— Прыстрэлілі, — паправіў стары. — Гэты ачомак — не іхны чалавек.

— А яны — хто? — асцярожна спытаў Уладзімір.

— Яны — з цемры, — каротка адказаў Уладзя.

Нешта ў выяве застрэленага падалося Уладзіміру знаёмым. Ён дастаў запальнічку, запаліў. Скуласты хударлявы твар, тонкі выразны нос, звернуты набок. Ёкнула ўсярэдзіне ад здагадкі, Уладзімір прысеў, перасільваючы гідлівасць і страх дакранання да мёртвага цела, прыўзняў правую руку трупа. Сярэдні палец быў без першай фалангі з намаляваным пазногцем.

— Гэты... сачыў за мною даўно... ад пачатку, — хрыпла патлумачыў свае дзеянні Уладзю — памяць выхапіла з далечы другую яго сустрэчу з Ірынай, п'янаватага дзецюка з просьбай пачаставаць цыгарэтай. Сачылі... За ім, за Ірынай...

Неба над верхавінамі дрэў у баку вёскі стала адсвечваць барвовым.

— Хату падпалілі, — зірнуўшы сабе за спіну, спакойна, нават з адценнем радасці, сказаў Уладзя і адразу ж патлумачыў: — Значыцца, крыж не знайшлі. Інакш бы не палілі...

— Навошта ім крыж? — пацікавіўся Уладзімір.

Розумам ён адчуваў, што павінны задаваць і задаваць пытанні, розныя, дзясяткі, сотні. І пытацца перш не пра тое, навошта некаму крыж, і што гэта за крыж, чаму ён быў у Ганны, якую каштоўнасць ён мае, што гэта за людзі — з цемры. Але ён запытаўся тое, што запытаўся, і яго свядомасць не абурылася, наадварот: Уладзімір адчуваў сябе так, нібыта ён быў у аўдыторыі найвыдатнейшага з прафесараў, слухаў лекцыю і, галоўнае, ведаў дакладна: пра што б ні казаў прафесар, здзіўляцца не трэба, бо ён усё патлумачыць, на ўсе пытанні адкажа, важна — не перабіваць, слухаць... Проста слухаць і ўспрымаць кожнае слова, як праўду апошняй інстанцыі, як новыя веды. Хіба не бывае такога?

І цяпер Уладзімір не спяшаўся нічога пытаць — той дотык агнянага слупа напоўніў розум прачуваннем адказаў на ўсе пытанні, толькі патрываць варта. І нават калі нешта застанецца незразумелым, значыцца, яму, Уладзіміру, пакуль што не час тое ведаць. Але пра крыж, яго важнасць для тых, з цемры, Уладзімір запытаўся — ён адчуваў, што яму дазволена тое ведаць.

— З пяці крыжоў, калі іх пераплавіць, выходзіць адзін нож, — спакойна пачаў тлумачыць Уладзя. — Адным нажом можна забіць, калі выканаць усе ўмовы, адну ахоўніцу ці аднаго ваўкалака. І яны не будуць мець паслядоўнікаў. Калі мы ў час не прыйдзем…

Нешта пстрыкнула ў галаве — Уладзімір цяпер ведаў, што яны прыйшлі ў час, хоць Ганну забілі з выкананнем усіх умоў.

— А без крыжа? — спытаў ён.

— Без крыжа… — Уладзя з сумам узіраўся ў цёмны лес, вершаліны дрэў на барвовым небе за ягонай спінай калыхаліся, хоць ніякага ветру не было, то ўздымаліся, то ападалі. — Мы цябе даўно чакалі. Бо ты абраны, ты можаш. Неўзабаве Кветцы цвісці. Але без ахоўніцы няма крыжа, без крыжа не адчыніцца камень, без каменя не будзе заступніка…

Уладзімір праглынуў шурпаты камяк у горле.

— Крыж… трэба знайсці?

— Яго выпадковы чалавек не знойдзе, — адказаў Уладзя. — Яны могуць знайсці… ты… Іначай… Крыж сам знойдзе гаспадыню, новую ахоўніцу. Міне час — і знойдзе. Год, дзесяць…

— Я знайду крыж! — упарта сказаў Уладзімір — менавіта гэтыя думкі цяпер перапаўнялі яго. Ён не разумеў дакладна, не мог зразумець пакуль што ўсяго пачутага, але адчуваў, што кажа слушна, што так

і мае быць. Бо ён — абраны, ён заступнік. Хоць што яму давядзецца рабіць, ён не ведаў, нават уявіць не мог, але ён увесь цалкам быў падуладны аднаму вялікаму пачуццю: рабіць тое, што хочаш рабіць.

Уладзя нават галавы не ўзняў на ягоны вокліч, кінуў сукаватую палку ў іх невялікае вогнішча.

— Знайдзі, — сказаў вельмі ціха, амаль папрасіў ён. — Ахоўніца сама прыйдзе… Потым. Але да Кветкі два дні засталося…

Старая Марута прысела побач.

— Ну вось… няхай прыязджаюць цяпер.

Уладзімір зірнуў на старую, потым павярнуўся — на мёртвае Ганніна цела. Пабачыў, што жанчына была ўжо адзетая.

— Там жа… Сляды ад аўтамабіля застануцца, — ціха прагаварыў ён.

— Не будзе слядоў, — адказаў Уладзя. — Пад раніцу дождж пойдзе, вялікі. Нас не зачэпіць. Сляды змые. Так лепей…

Уладзімір ведаў невядомым веданнем, што так і праўда лепей. Лепей, калі міліцыя знойдзе тут Ганніна цела, і пад левай дзявочай пругкай цыцкай, смочак якой не кранаў дзіцячы раток, міліцыянты пабачаць глыбока ўбіты нож. І адбіткі пальцаў на гэтым нажы супадуць з пальцамі таго, хто ляжыць недалёка з разнесенай на чарапкі галавой. І так усё ўсім будзе зразумелым і ясным, і ніякіх пытанняў болей задаваць не варта будзе нікому. Бо яна, міліцыя, не паверыць у аўтамабіль і постаці, міліцыі нельга ведаць пра Крыж і Кветку.

Бо гэта — іх справа, іх жыццё.

## 2

Смерць і пахаванне Ганны раздзялілі вёску. Людзі падзяліліся на тых, хто ўспрымае жыццё паводле тэлевізійных серыялаў, дзе для гвалтоўнай смерці чалавека знойдзецца толькі дзве прычыны: грошы ды сэкс, і тых, хто здольны бачыць хвалькі на роўнядзі азёрнай вады нават у самы пагодлівы дзень, хто ўмее зазірнуць глыбей, хто прызвычаіўся шукаць існасць і сапраўдную прычыну.

А разам з тым неяк сцішылася вёска, скурчылася, адчула чужую, варожую ўладу. Страх найшоў і на тых, хто прычыну Ганнінай смерці тлумачыў проста: "дажаніхалася". Бо вось яно — жорсткае, бесчалавечнае прыйшло жыццё. І на тых найшоў, хто ведаў Ганну не толькі як акушэрку медпункта, але і як унучку вядомай ведзьмы, той, якая сабой у час вайны ўратавала вёску ад спалення: смела пайшла да галоўнага афіцэра карнікаў і за руку яго ўзяла, і так нешта казала, што бялеў на вачох у сваіх жаўнераў карнік, дрыжаў, пакрываўся халодным потам. І хоць адразу, сваімі рукамі прыстрэліў варажбітку, але даў загад: з'язджаць. З'ехалі карнікі, не запалаў хлеў з зачыненымі людзьмі, адзінай ахвярай стала яна, Ганніна бабуля, Адарка, а для некага — Радміра.

Усё пахаванне арганізавала гаспадарка. Людзей было не тое што шмат — як ніколі шмат. Ганну ведалі далёка ў наваколлі: для многіх і многіх яна была за лекара ад усіх хвароб, а найболей — ад адзіноты. Яе любілі — і сёння прыйшлі засведчыць гэтую любоў старыя бабулькі ў чорных хустачках, дзяцюкі-механізатры, маладыя жанчыны-маці. На могілках людзям стаць не было дзе, больш за паўгадзіны цягнулася развітанне — бясконцым журботным ручаём

цякла людская туга паўз труну, што стаяла на высокім насыпе жоўценькага, аж залатога пяску.

Развітальны стол ладзілі ў калгаснай кавярні. Цішком пераказвалі, што гэта першыя тут хаўтуры, бо задорага бяруць, як з простых людзей. А гэтым разам калгас распарадзіўся, бо каму ж яшчэ парупіцца пра такое — у Ганначкі ні родных, ні сваякоў.

...Алесь Лобач амаль не піў. Гарэлка невыносна пякла вусны, як толькі датыкалася. Ён не хацеў гаварыць — зусім. І Надзея, якая і патэлефанавала яму, сказала пра Ганніну смерць, не чапала брата, той як сеў, так і застаўся сядзець нерухома ў куце стала.

Антось, які быў адным з распараднікаў на хаўтурах, паклікаў потым усіх — Алеся, Надзею, Уладзіміра да сябе. І старога Ўладзю запрасіў, але той адмовіўся:

— Без мяне пагамоніце. Ёсць пра што.

Уладзімір, які чуў Уладзяў адказ на Антосява запрашэнне, зразумеў усё па-свойму.

На Антосявай сядзібе, у альтанцы, ён, уздымаючы чарку з налітай на дно гарэлкай, пачаў казаць з такой інтанацыяй, каб ніхто і супраць нічога мовіць не змог, каб зразумеў кожны, што ён, Уладзімір, ведае: і яму дадзенае права, а рэшта павінны проста пакуль што падпарадкавацца і слухаць:

— Ганны не вярнуць. Сюды не вярнуць, да людзей. Але яна жыве. Не пытайце ў мяне, адкуль я ведаю і чаму так кажу. Не ўважайце за вар'ята ці за такога, які ў адзін момант у Хрыста паверыў. Але яна тут, яна разам з намі. Я пэўны, што яна пакажацца... не ведаю як, але вы пабачыце.

— Дык і што? — раптам з халоднай злосцю прагучаў голас Алеся Лобача. — Яе няма, разумееце вы — няма. Зусім няма! Яна была, яна смяялася, яна жыла — і яе цяпер няма! Што вы тут як бабулька якая

пачынаеце нешта вярзці наконт душы і таго свету? Вы ж… вы ж — дарослы мужчына! І тут, — Лобач падняўся ў альтанцы, казаў гучна, з надрывам: — Тут не дзеці! Тут дарослыя людзі! Якія дакладна ведаюць, што такое смерць, што такое Біблія, духі, душы і ўсе іншыя святыя казкі! Навошта вы… здзекуецеся?!

Лобач рэзка завярнуўся, памкнуўся з альтанкі і пайшоў у бок ракі.

У нейкі момант ён пашкадаваў, што пайшоў так хутка, што не паспеў сказаць ім усяго — ім, якія не ведаюць, не маглі ведаць таго, што ведаў Лобач: якая Ганна была чароўная,неверагодная жанчына, колькі нерастрачанай пяшчоты было ў ёй, колькі жыцця і прагі жыцця! Ішоў берагам ракі і толькі ў думках крычаў ім: Антосю, Надзеі, гэтаму саманадзейнаму студэнту Уладзіміру: “Вы не ведаеце! Вы не ведаеце, якая яна была!..”

Крычаў і адчуваў, як той чорны камень, што з’явіўся ў жываце ў першае імгненне пасля паведамлення сястры пра Ганніну смерць, той чорны, цяжкі камень, які забраў быў усе да адзінага Лобачавы пачуцці, цяпер пачынае распадацца, рабіцца рыхлым, расці. І праз грудзі і горла разам з кароткім частым хаканнем сталі вырывацца вонкі боль і роспач, смутак і горыч.

Ён нічога не змог. Але ён мог! Ён мог бы зноў прыехаць у той вечар да яе, ён змог бы застацца і быць з ёй, і абараніць яе.

Лобач сам не разумеў, як далёка адышоўся ад Антосявай сядзібы. Калі адчуў поўную адзіноту вакол сябе, тады сеў на стромым у гэтым месцы беразе, абхапіў твар рукамі і працягла застагнаў, амаль завыў дзікім параненым зверам.

Чаму, чаму ён паслухаўся тады Ганны, чаму згадзіўся з яе словамі: "Ты ж стаміўся, Алесік, прыедзеш раненька..."

Алесь адкінуўся назад, лёг на спіну. Неба над ім было чыстым, але не глыбокім, быццам пачыналася адразу ад Лобачавых вачэй і спакваля згушчалася ўгары, набрыньвала сінечай.

Не хацелася глядзець у сіняе неба. Ён заплюшчыў вочы і стаў ашчадна, няспешна, да кожнага моманту і найменшай дробязі ўспамінаць іх апошні вечар і ноч.

Яны вярнуліся з Антосявай сядзібы блізка да поўначы. Ганна не адразу выйшла з машыны, забавілася.

— Вось мы і дома...

Тады гэтыя простыя словы працялі Алеся гарачым хваляваннем.

Цэлы вечар у кароткіх позірках, рэдкіх дотыках жыла між імі тая недагаворанасць, якая ўзнікла яшчэ ў медпункце, якую і дагаворваць не трэба было, бо калі пачаць, то можна было ўсё сапсаваць, разбурыць...

— Хочаш папіць чаго?

— Ага, — згодна кіўнуў Лобач. — Той загаворанай травы...

— То я зараз...

Яна паспела пераадзецца — замест спартовага гарнітура, у якім была, адзела лёгкі халат, што не хаваў яе круглявыя калені, спераду глыбока агаляў грудзі. Селі на канапе, на якой Алесь спаў мінулы раз, у першым пакоі, Ганна падставіла ўслончык між імі — выйшаў невялічкі столік, на які яна паставіла два кубкі з гарбатай.

— Усё адно не разумею, — нясмела пачаў Лобач, асцярожна адсёрбваючы гарачы духмяны напой залацістага колеру, — чаму ты засталася адна... Дзіўна: у глушы...

— Алесь, я ж не з тых дзявок, якім хоць за зайца, абы яйца, — засмяялася Ганна. — Чаму дзівіцца?

— Проста ты прыгожая, ты — шчодрай душы чалавек. Не спрачайся, калі мы тады заходзілі ў кавярню купляць на вечар, бачыў я, як на мяне глядзелі…

— І як глядзелі?

— Як на… ворага. Так, пагляды былі вельмі незычлівыя.

— Дык і што? Бо баяцца, што знойдзецца нехта, ды звязе мяне адсюль? — усміхнулася Ганна.

— І ты ўвесь час адна?

— Алесь, што ты мяне дапытваеш? — Ганна прымружыла вочы. — Каб не пытаўся болей, скажу так: могілак дзявочых няма. Праўда?

Алесь пачырванеў — ён зразумеў, што ягоныя пытанні, а насамрэч — намаганні даведацца пра даўнейшае і цяперашняе Ганніна жыццё, выглядалі прыдзіркамі жаніха.

— Выбачай…

— Ат, кінь… Ты лепей скажы, што там за загадкі разгадваў, пакуль мы рыбу скраблі. Гэткі ты ўжо сур'ёзны, задуменны, а потым пайшоў да рэчкі — бы жораў у вырай сабраўся: знайшоў дарогу!

— Ды… Не знайшоў пакуль што нічога, — Алесь павагаўся, потым дастаў з кішэні складзены ў некалькі столак аркушык, разгарнуў. — Ва Уладзіслава Сцяпанавіча ручнік ёсць… быў…

— Чаму быў? — нечакана насцярожылася Ганна.

Алесь узняў на яе вочы, усміхнуўся, супакойваючы незразумелую яму трывогу жанчыны:

— Быў, бо цяпер дзед мне яго аддаў. Папрасіў, каб захаваў. І я… я нічога не разумею. Адчуваю, што ручнік надта ж важны для яго. З другога боку, ручнік — аўтэнтычны, значыцца, адзінкавы. Я такі ручнік яшчэ

адзін бачыў, дый той на здымку. Там… вышытыя знакі. Думалі раней, што якая вышывальніца маладая практыкавалася. Вось… А сёння я пабачыў, як Уладзімір Жабрун шчапае дровы: напалам і яшчэ напалам. Ну і сам раздзяліў той вышыты малюнак на чатыры часткі. І пабачыў…

— Што пабачыў? — з цікавасцю і нейкай хітрынкай у вачох запыталася Ганна.

— Мне падаецца, што ў гэтых узорах — руны, літары такія. Раней была такая пісьменнасць, ёсць меркаванне, што яна мела пашырэнне і на нашай зямлі. Вось… Цяпер мне трэба разабрацца, што там можа быць напісана ці пазначана. Потым узяць другі ручнік, ягоны здымак і там паглядзець. Ну, і шукаць іншыя ручнікі. Дзед кажа, што іх было сем разоў па сем.

— Дык не гадай надта, я табе скажу, што на дзедавым ручніку напісана, — проста сказала Ганна, глядзела, як здзіўлена застыў Алесяў твар, засмяялася: — Ну ведаю, ведаю я! Я ж казала табе, што я — вядзьмарка. Ты ўсё не верыш?

— Адкуль… Адкуль ты ведаеш? — агломшана, але з недаверам запытаўся Алесь.

— Не ведаю, адкуль ведаю, — з дзіцячай непасрэднасцю пацепнула плячыма Ганна. — Іншыя веды прыходзяць… зніадкуль. Вось я глядзела на ручнік, бачыла тыя знакі — і ведала, што яны значаць. Не кожны паасобку, а ўсе разам.

— І што там? — нецярпліва дапытваўся Алесь.

— Малітва, — проста адказала Ганна. — Асаблівая малітва. Гадавая. Раз у год, значыцца, словы яе прамаўляюцца.

Алесь адкінуўся на спінку канапы.

— Вось жа… мне і самому можна было здагадацца… І ты можаш мне вось цяпер сказаць, што дзе?

— Не, не магу, — каротка адказала Ганна.

— Чаму? — здзівіўся Алесь.

— Таму, Алеська… Асаблівая гэта малітва, я ж табе сказала. І словы яе кажуцца ў асаблівую ноч… Можна і ў дзень… Але ніяк не цяпер. Цяпер — нельга.

Ганна з лёгкай вінаватасцю глядзела на разгубленага Алеся, потым працягнула руку і дакранулася да ягонай галавы, пагладзіла валасы.

— Ты мне не верыш? Я праўду кажу… Патрывай, крышачку, добра?

— Добра! — Алесь паклаў сваю далонь на Ганніну руку, прыціснуў да свайго лоба. — Я сам паспрабую… а потым папытаю ў цябе: ці слушна ў мяне выйшла?

— Няхай будзе так.

Ганна не стала вызваляць рукі з-пад Алесявай далоні, а той павольна вёў ейныя цёплыя пальцы па сваёй шчацэ, нават крыху збянтэжаны ад простага датыкання да твару цёплых жаночых пальцаў, хвалюючыся ад няўлоўнага абяцання, што хавалася ў гэтым крананні.

— Позна… Табе рана ехаць…

Ганна ўстала.

— Хадзем, пакажу табе…

Яна ўстала, Алесь пайшоў за ёй. У сенцах яна пстрыкнула вымыкачом на сцяне, адчыніла дзверы ў бакоўку, і тут Алесь пабачыў нешта накшталт душавога пакоя. Са столі на гнуткім шлангу звісаў пырснік. Ганна крутанула кран на сцяне, паднесла руку да вады.

— Ой, халаднаватая трохі… То мне зрабілі такі летні душ, — павярнулася яна да Алеся. — Вось, ручнікі…

Яна выйшла, прычыніла за сабой дзверы. Алесь мыўся пад вадой, якая толькі спачатку падалася ха-

лоднай, гнаў ад сябе ўсялякія думкі… Выцерся, нацягнуў нагавіцы, сарочку накінуў на плячо і басанож выйшаў на двор.

Мёртвая вёсачка і ўдзень амаль не праяўляла свайго жыцця, а цяпер і пагатоў: нідзе не відаць было хоць якога агеньчыка, не чуваць ніводнага гуку, якія б сведчылі пра нешта чалавечае. Лобач раптам успомніў горад — і той падаўся неверагодна далёкім адсюль. Яму не раз у час палявой работы даводзілася начаваць па такіх невялікіх вёсках, а калі і ў старым калгасным садзе, але ніколі раней ён не чуў такой цішыні — аж да тонкага звону, калі глушацца твае асабістыя крокі ў густой вохкай траве, і ты чуеш сваё ўласнае дыханне. Твой слых абвастраецца, твае вочы ўзіраюцца ў цемру і пачынаюць адрозніваць адзінкі, потым — дзясяткі адценняў чорнага і шэрага, ноздры раздзімаюцца шырэй — і ты адчуваеш пах блізкай балаціны, тонкі водар ліпавай квецені, гаркавасць нейкае духмянае кветкі каля тваіх ног…

— Алесь!

Не рыпнулі, а мякка слізганулі ў завесах дзверы, Ганна вызірнула на двор.

— Ідзі кладзіся, Алесь.

Яна сама пайшла, але не ў хату, а ў бакоўку, адкуль праз шчыліны білася няяркае святло.

Алесь зайшоў на першую палову — канапа засталася нераскладзенай, дзверы на другую палову дома былі расчыненыя. Ён ступіў цераз парог, пабачыў адвешаную шырму, за якой стаяў вялікі ложак, цяпер засланы ўсім белым, з дзвюма падушкамі. Каля ложка на тумбачцы цьмяна гарэла лямпа. Адкінуты рог коўдры выглядаў і запрашальным, і дазваляльным знакам.

Сэрца ў Алеся затахкала недзе пад самым горлам, некалькі імгненняў ён стаяў на парозе, не наважваючыся зрабіць і кроку.

Распрануўся, склаў адзенне на падстаўленае да ложка крэсла. Лёг. Чакаў.

Ні пра што не хацеў думаць, ні на адным гуку не хацеў канцэнтраваць увагі, але не мог — і адзначаў для сябе прыглушаны асцярожны плёскат вады ў бакоўцы, далікатнае рыпенне дзвярэй, пстрыканне вымыкача, мяккія крокі.

Ганна стаяла перад ложкам, захутаная ў вялікую белую прасціну, прытрымвала яе на плячы, а ў яе ў вачох Алесь пабачыў сябе: разгубленага і замерлага ў чаканні. І ён раптам зразумеў, што ў вачох у Ганны хаваецца немае пытанне, што яна стаіць перад ім не проста так, а чакае, шукае адказу ў ягоных вачох. І спалохаўся таго, што ягоныя вочы не перададуць ягоных пачуццяў — ледзь пасунуўся далей да сцяны, адгарнуў край коўдры, і рука яго засталася вісець у паветры.

І тады Ганна пусціла край прасціны з пляча, тая слізганула долу.

У Алеся заняло дух — Ганніна постаць, вытанчаныя абрысы здаровага жаноцкага цела падаліся яму выявай мадонны з карціны невядомага мастака.

Ён хацеў нешта сказаць, але не паспеў — Ганна хутка легла і апаліла яго дотыкам свайго халадкаватага цела.

Не хвіліны салодкай да болю начнай пяшчоты ўспамінаў Алесь на беразе. Ганна, якая толькі што апусціла прасціну са сваіх плячэй, стаяла ў ягоных вачох. Тады ён бачыў яе ўсю цалкам, усю адразу, і не ведаў нават, што за адзін кароткі момант здолеў разгледзець кожную лінію яе цела, кожны выгін ста-

ну. І цяпер, трымаючы яе вобраз у свядомасці, ён не ўспамінаў, а нібыта наноў разглядаў яе, няспешна, у думках кранаючыся вуснамі аксамітна-халадкавай на дотык скуры. І дзівіўся сам, што не распадаецца Ганніна выява, і што яе ледзь улоўная ўсмешка, трошачкі сарамлівая, суцяшальная і даравальная, абяцальная і дазваляльная, блукала па вуснах, жыла, мянялася, і вочы яе жылі, далібог жа, жылі цяпер…

Непрыемна заварушыўся мабільнік у кішэні. Алесь расплюшчыў вочы, сеў.

— Алесік, падыдзі да нас… — пачуўся Надзеін голас. — Ты патрэбен тут.

Алесь не злаваў на сястру, што перабіла ягоныя мроі. Можа, так і лепей — што марыць пра мёртвае…

Яны нібыта так і сядзелі ўвесь час у альтанцы: Антось, Надзея і Уладзімір. Алесь прысеў да іх.

— Выпі, — Антось наліў у кілішак.

— Дзякуй, — Алесь не адмовіўся, выпіў, доўга нюхаў кавалак хлеба, потым ціха сказаў: — Я выбачаюся…

— Алесь Паўлавіч, можа, Вы падкажаце… — адразу нясмела пачаў Уладзімір. — Я без вас не хацеў казаць…

Алесь здзіўлена зірнуў на Уладзіміра — той быў тым самым вяскоўцам, студэнтам-завочнікам, якога ён сустрэў першы раз у аўдыторыі.

— Слухаю… Але што я магу падказаць?

— У Ганны была адна рэч… Яна вельмі важная для яе была. Такая важная, што яна не магла яе аддаць некаму на захаванне. З сабой насіць… таксама нельга. Гэтая рэч… накшталт вялікага медальёна. Дом згарэў… Рэч трэба знайсці, вось…

— Навошта? — сур’ёзна паглядзеў на Уладзіміра Лобач. — Корпацца ў галавешках? І куды потым падзенецца рэч?

— Рэч… знойдзе сабе новую гаспадыню, — незразумела, але так цвёрда адказаў Уладзімір, што павісла маўчанне. — Медальён трэба знайсці, — пасля паўзы працягнуў ён. — Я не магу вам усім цяпер казаць… Не маю права. Я проста прашу паверыць мне і памагчы. Сам перакапаю там усё… Але ж… трэба хоць прыблізна ведаць: дзе шукаць?

Алесь нейкі час маўчаў. Маўчалі і ўсе іншыя, для якіх Уладзіміравы словы падаліся хай сабе і неверагоднымі, дзіўнымі, але ж у іх была нейкая справа, нейкае заданне, якое можна было і трэба было зрабіць. Ім зрабіць дзеля Ганны.

Два дні, якія мінулі ў клопатах пра пахаванне, былі ратункам для іх усіх, бо яны і не падазравалі да Ганнінай смерці, што яна за кароткі час стала ім такой блізкай. Звычайны клопат — для Надзеі на кухні, для Антося — за рулём аўтамабіля, для Уладзіміра і Алеся — у якасці грузчыкаў ды памочнікаў жанчын — ратаваў іх ад глыбокага ўсведамлення бяды, ад набліжэння той бяды блізка да розуму, калі яна авалодвала ім цалкам, калі ніякіх болей думак не заставалася, толькі пра яе, Ганну, пра смерць. Таму цяпер дзіўнае Уладзімірава пытанне ўспрынялі як маленечкі паратунак, бо нельга было сядзець без справы вось тут, дзе ў лістоце бяроз яшчэ жыло рэха звонкага Ганнінага голасу, смеху…

— А што Надзея думае? Жанчына ўсё ж, — прапанаваў выказацца сястры Алесь.

— Дарагую для мяне рэч… я хавала б у вясковай хаце недзе на покуці… Там, дзе самае святое, мне здаецца…

— Дык вось і адказ, — падумаў уголас Алесь. — Шукаць там, дзе была покуць…

— Там рэч не магла быць, — заўпарціўся Уладзімір. — Я скажу яшчэ: Ганна мусіла была так захоўваць тую рэч, каб яна не толькі на выпадковае вока не трапіла, але… Карацей, рэч была вельмі прывабнай для… некаторых людзей. І яе трэба было шанаваць…

— Нешта я не помню, каб у Ганны было нешта падобнае, — з недаверам прагаварыў Антось. — Ты пра золата якое кажаш?

— А па-чалавечаму нельга патлумачыць? — нецярпліва падтрымаў яго Алесь, звяртаючыся да Уладзіміра. — Далібог, якія тут могуць быць таямніцы, калі… калі чалавека няма?

— Нельга, — спакойна, але зноў вельмі цвёрда адказаў Уладзімір. — Не золата, Антось. Але надзвычай важнае, паверце. Проста паверце. Я не магу вам сказаць цяпер усяго, што ведаю.

— Дык што нам шукаць? Што за рэч? Які медальён? — настойліва пытаўся Антось. — Не памятаю я нічога такога. Ты не прыдумляеш?

У ягоных словах гучала непрыхаваная крыўда: як так, ён гэтулькі часу апекаваўся Ганнай, а не яму, а гэнаму, амаль выпадковаму студэнту яна даверыла сваю асаблівую таямніцу?

Уладзімір уважна паглядзеў на ўсіх у альтанцы. Ён бачыў, што яму не верылі. І не проста не верылі: калі напачатку яму гатовыя былі дапамагчы, то цяпер ён стаў асобна ад усіх — з таго, што ён ведае ці прыдумляе…

— Добра, — выдыхнуў ён паветра, сціснуў вусны, потым закурыў, адразу выбачыўся перад Надзеяй: — Перапрашаю…

— Нічога, куры…

Усе маўчалі. Уладзімір курыў прагнымі зацяжкамі: адна, дзве, тры, потым раздушыў цыгарэту абцасам,

раструшчыў дашчэнту і стаў казаць, гледзячы перад сабой у стол:

— Ваша справа: верыць ці не верыць. Я скажу тое, што мне, адчуваю, можна сказаць. Дык вось… Ганну забіў не той, каго знайшлі з прастрэленай галавой. Ганну забілі праз той медальён. Медальён — крыж. Яны ішлі не проста забіць — ім трэба было яе забіць так, каб у яе не было паслядоўніц. Яны хацелі забраць крыж. У іх не выйшла. Ні першае, ні другое. Таму і падпалілі хату.

— У каго — у іх? — агаламошыўся Антось.

Уладзімір падняў галаву. Надзея пазірала на яго з відавочным страхам у вачох, трымаючы пальцы рук каля вуснаў.

— Калі мне хто не верыць — спытайце дзеда Ўладзю, ці праўду я зараз гаварыў, — павярнуўся Уладзімір да Антося.

— А дзед тут пры чым? — яшчэ болей разгубіўся Антось.

— Пры тым… — ціха адказаў Уладзімір. — Ты папытайся. І заадно падумай: калі той, хто забіў Ганну, быў адзін, а потым застрэліўся сам, дык хто тады падпаліў хату?

Лобач нейкі час глядзеў у твар Уладзіміру, быццам імкнуўся зразумець: што ад яго хавае гэты студэнт, адначасна згадваючы і размову са старым у хаце ля покуці наконт ручніка, і той ручнік, і Ганніны словы пра веданне знакаў на ручніку… Яшчэ цалкам не даючы веры сваім падазрэнням, ён ціха паразважаў уголас:

— Калі так… калі так, то павінная быць нейкая схованка. Калі так важна шанаваць, то схованка, на выпадак вось пажару, павінна быць у нейкім асаблівым месцы. Можа, там ёсць склеп які?

— Павінны быць склеп, — адказаў Уладзімір, які цяпер прагна лавіў выкладнікавы словы.

— Быў, — падаў голас Антось.— Стары абваліўся, яна яго і рамантаваць не прасіла — навошта, калі лядоўня ў хаце?

— Значыцца, трэба найперш паглядзець там, нават у тым, які абваліўся. Нашы продкі прызвычаіліся нешта прыхоўваць ў зямлі. Трэба абследаваць падпечча — гэта заўсёднае месца сховаў. Можа, было нейкае іншае месца, не ў хаце, вельмі… значнае ці што, малапрыкметнае, але адметнае для яе, для Ганны, надзейнае, каб каму іншаму, каму яна даверыла б таямніцу, было лёгка знайсці ў разе чаго…

— Ёсць такое месца! — падхапіўся Уладзімір. — Антось! Ах, ты ж выпіўшы…

— А што такое? Куды ехаць? — адгукнуўся Антось, паказваючы, што можа сесці за руль.

— Хлопчыкі, Уладзімір, Антось, хіба да заўтра нельга адкласці? — паўшчувала мужчын Надзея. — Усе ж хоць крыху, ды выпілі…

— Ды тут недалёка, — ніякавата стаў апраўдвацца Уладзімір. — Да Карчавахі… да таго канца, ад лесу.

— Да Чортавага каменя? — скеміў Антось. — Дык тут крутнемся партызанскімі сцежкамі. Я што выпіў сёння, дык як і не піў…

— Да якога каменя? — здзівіўся Лобач, глянуў з крыўдаю на Уладзіміра: — Вы ж мне нічога пра камень не казалі.

— Дык вось, бачыце, як склалася… — развёў рукамі Уладзімір. — Не паспеў. Гэта Ганнін камень быў. Яна як пешкі з дому хадзіла на сядзібу, то ішла сцяжынкаю праз лясок. І заходзіла… Да каменя. Вялікі, з метр вышынёй валун.

— Адкуль вы ведаеце? — узрушана спытаў Лобач.

— Бо бачыў… Яна кветкі клала… І я да каменя заходзіў…

— Ну, ты, Надзея, пагаспадар тут крышку, мы хуценька: туды і назад, тут жа недалёка зусім, пяць кіламетраў, — стаў прасіцца Антось.

— Добра, едзьце, але ж асцярожна… ДАІшнікі могуць быць на сядзібе, хаўтуры ж былі…

— Гэтыя палявымі дарогамі не ездзяць, — супакоіў Антось жанчыну, гукнуў: — Сядаем, паехалі, пакуль відно…

Праз пятнаццаць хвілін яны спыніліся на ўзлессі, разам пайшлі сцежкай, потым, калі завярнулі ў лес, Уладзімір упэўнена рушыў наперад. Ён сігаў спешна, нібы тое, па што яны ішлі, ляжала на адкрытым месцы, і кожны выпадковы чалавек мог яго пабачыць і забраць.

Каля каменя Уладзімір прыпыніўся, дакрануўся да яго рукой, завярнуў на другі бок, дзе было невідомае з гэтага боку паглыбленне, і спыніўся з разгубленым тварам.

— Што такое? — насцярожыўся Антось, які заўважыў Уладзіміраву разгубленасць.

Ён і Лобач абышлі камень, наблізіліся да Уладзіміра, і тады ён узняў руку ў бок паглыблення і прыцішана вымавіў:

— Вось… кветкі…

У паглыбленні на шэрым граніце ляжалі свежыя, быццам толькі-толькі сарваныя валошкі, невялічкі букецік, перавязаны сцяблінкамі.

Уладзімір асцярожна крануў кветкі, павярнуўся да спадарожнікаў:

— Так Ганна… завязвала…

Алесь Лобач стаяў нерухома, заваражана глядзеў на камень, потым падышоў бліжэй, асцярожна паклаў

далоні на ягоную паверхню. Ён стаяў і маўчаў, маўчаў Уладзімір, маўчаў Антось.

— Ганна не магла тут хаваць, — ціха, амаль шэптам прамовіў Лобач. — Святое не хаваюць у святым месцы. Нельга дзве святыні… у адным месцы…

— То пайшлі… Надзея хваляваецца будзе, — расчаравана загадаў Антось. — Там пасядзім, падумаем…

— Я застануся тут, — пастанавіў Уладзімір. — У дзеда…

Яму не адказалі.

Калі Антось прытармазіў ля хаты дзеда Уладзі, Уладзімір крануў яго за плячо (ён сядзеў ззаду) і папрасіў:

— Пад'едзем да хаты… былой Ганнінай хаты…

Яны ўсе тут былі, калі яшчэ дымеліся галавешкі. Хата згарэла ўся — невялікая, драўляная, досыць дзясятка хвілінаў, каб пажарныя, што прымчалі сюды з аграгарадка, зразумелі, што ліць ваду няма сэнсу — страха ўжо абвалілася. Згарэў невялікі хлеўчык. Моцна з двух бакоў абгарэлі дзве вялікія ліпы, што раслі каля хаты, кусты язміну, старая груша ў гародзе — яна стаяла блізка да хлеўчыка.

Выйшлі з машыны, сталі каля пажарышча. Думка пра тое, што тут давядзецца нешта шукаць, мабыць, была ва ўсіх траіх мужчын. Першы агучыў сумненні Антось:

— Не, тут знайсці чаго немажліва. Калі толькі не пад печчу ляжыць. А пачнеш шукаць, уся ваколіца загаворыць: золата Ганна прыхавала. Яшчэ не ставала, каб пра дзеўку такое гаварылі…

— Так, так будзе… — пагадзіўся Лобач.

Чорнае вуголле ставіла адну страшную чорную кропку ва ўсім сённяшнім дні.

— Нажаль, ад Ганны я нічога пра медальён не чуў, — загаварыў Алесь, бо адчуваў, што ад яго чакаюць нейкіх слоў — бо ведалі ж, здагадаліся, што ў яго з Ганнай былі тыя дачыненні, калі адно аднаму давяраюць шмат, калі не ўсё. — Мабыць, яна давярала мне не так, як вам, калі вы ведаеце гэтулькі, а я — нічога, — скончыў Лобач і не змог утрымаць, прарвалася рэўнасць у апошніх словах: чаму нехта больш за яго ведае пра ягоную Ганну? Пра камень ведае, пра крыж-медальён…

— Добра… я пайду, да пабачэння, — павярнуўся, хуценька падаў усім па чарзе руку Уладзімір, рушыў сярэдзінай дарогі ў другі канец Карчавахі — да Ўладзі.

Яго не спынілі. Праз секунду Уладзімір пачуў, як мякка завуркатаў рухавік аўтамабіля і неўзабаве заціх. І цішыня, нежывая, змрочная, агарнула паўжывую вёску, якую вечаровае сонца палівала чырвоным святлом.

## 3

— Гэта ты, Валодзя?

Ірынін голас быў як настоены на страху і болю. Сцішаны, ён усё адно прагучаў у мабільніку на пустой вуліцы занадта гучна.

— Так, я, Ірыначка, — заспяшаўся Уладзімір, прыпыніўся. — Выбачай, не патэлефанаваў… Тут… здарылася…

Ён замаўчаў, але маўчала і Ірына, і ў яе наструненым маўчанні (чаму яна не пытае, што здарылася?) прачувалася нешта горкае.

— Алё, Ірына? — перапытаў Уладзімір, хоць ён чуў дыханне дзяўчыны.

— Валодзя, нам нельга болей сустракацца. Не тэлефануй мне. Не шукай. Калі ты не хочаш бяды мне і маім родным — забудзься на мяне, — Ірынін голас трошкі дрыжаў, але яна казала словы разборліва, дакладна, каб не перапытваў Уладзімір. — Не пытайся нічога, я нічога не стану тлумачыць. Ты сам усё павінен разумець. Бывай.

І яна вымкнулася.

Нейкі час Уладзімір няўцямна глядзеў на свой тэлефон, які выдаваў кароткія гудкі. Уявілася, як ён размахваецца і б'е тэлефон аб утравелую зямлю, і той разлятаецца на сотні аскепкаў разам з усім мінулым…

Але што тэлефон — мінулае і так разляцелася…

Уладзімір сунуў тэлефон у кішэню, зайшоў на Уладзяў надворак. Пабачыў адчыненую на гарод фортку, рушыў туды. Стары стаяў сярод град з агуркамі, але нічога не рабіў — глядзеў на яго, Уладзіміра.

Уладзімір прыпыніўся каля хлява, апусціўся на нізенькую лаўку — тоўстую дошку, пакладзеную на дзве грушыныя плашкі.

Стары Уладзя наблізіўся і моўчкі сеў.

Уладзімір закурыў, гледзячы, як віецца дым ад канца цыгарэты.

— Такія справы, Уладзіслаў Сцяпанавіч, — сказаў ён. — Я не ведаю, яны — не вераць. Што ім казаць, каб паверылі, памаглі?

— Не трэба верыць. Няхай бабулькі вераць. Нам трэба ведаць.

— Што ім сказаць? Усё расказаць?

— Веды да таго ідуць, хто іх прыняць гатовы…

Сонца чырвоным агромністым колам з рэзка акрэсленымі абадамі, як яркая, прылепленая на небе бляшанка, завісла над блізкім берагам лесу. Ад балаціны пацягнула цвіллю і холадам.

— Яна цябе абрала, ты і ведаць мусіш.

— Як? — Уладзімір здзіўлена зірнуў на старога.

— Таго не ведаю. Не магла яна пайсці і не падказаць месца. Мне не падказвала. Маруце — не. Значыць — табе.

— Мне? Падказала? Ганна ведала... пра сваю смерць?

— Няўжо ж... Крыж дае і не такія веды.

— Ганна ведала... Як жа яна тады выйшла? Але... не галоўнае, потым... — Уладзімір задумаўся, аж вочы заплюшчыў, патрос галавой: — Нічога мне Ганна не казала! — штосілы гукнуў. — Нічога!

— Мусіла...

Стары замаўчаў, Уладзімір дастаў яшчэ адну цыгарэту.

— Ну, пакуры, падумай... Пайду, бульбы звару... Накалупаў маладой... як гарох, але ж будзе...

Ганна нічога яму не казала. Нічога! Уладзімір успамінаў кожнае імгненне, якое правёў у размове з жанчынай, да кожнага драбочку... Нічога не казала Ганна! Яна зусім не давярала яму захоўваць нейкіх таямніц, чаго яны ўсе так пакрыўдзіліся? Хіба ён вінаваты, што стаў абраным ёй, Ганнай? Дык незразумела яшчэ, што за роля яму выпала. Чаго яны зайздросцяць? Хацелі б самыя пабачыць яе раскрыжаванае цела ў тым лесе? "Калі яна табе больш давярала..." — пакрыўдзіўся Лобач, праўда ж, пакрыўдзіўся...

Уладзімір пстрыкнуў запальнічкай, зацягнуўся. Круціў у пальцах запальнічку — і раптам застыў, павярнуўшы яе да сябе донцам.

Маленькі светладыёдны ліхтарык паслухмяна ўспыхнуў ад націскання кнопкі, укалоў вока.

Тады, на цёмнай вуліцы Карчавахі, гэты ж блакітны ліхтарык высвеціў на вокладцы кніжкі словы: “ Я давяраю табе”.

Дзе кніжка!?

Уладзімір падхапіўся, раздушыў на зямлі толькі што прыкураную цыгарэціну, пабег у хату. Стары мыў у сенцах дробную, як арэхі, маладую бульбу. Ён ніяк не зрэагаваў, калі Уладзімір забег у пакой, пакорпаўся ў сваім пляцаку, потым выскачыў у сенцы, разгарнуў кніжку.

“Я давяраю табе”.

— Дзед, што яна мне давярала?

— Табе ведаць, — спакойна адказаў стары, падняўся, паставіў на пліту невялікі рондаль з бульбай, заліў яе вадой, запаліў газ. — Нешта ж даверыла.

— Нешта? Яна мне даверыла нешта ці проста напісала, што наагул давярае?

— Ты падумай, пачытай…

— Пачытаць?..

Вядома ж, пачытаць… Уладзімір прысеў тут жа, у сенцах на нізенькім услончыку, на якім сядзеў стары, калі намываў бульбу. Узяліся прыцемкі, Уладзя пстрыкнуў вымыкачом.

Уладзімір хутка, старонка за старонкай, прагартаў усю кнігу, яму падавалася, што вось зараз, вось на наступнай старонцы ён пабачыць нейкі асаблівы знак… Не, не было знаку. Кнігу ці чыталі раней — старонкі зусім новыя, некаторыя пазляпляныя. Уладзімір перанёс услончык да сцяны і пачаў чытаць: першыя сказы ўдумліва, увесь час трымаючы думку пра тое, што яму трэба ў радкох тэксту знайсці адказ. Гэта запавольвала чытанне, сэнс прачытанага губляўся,

і ён узяўся проста чытаць, а потым думаць. Чытаў, спатыкаўся, вяртаўся. Урэшце кінуў мучыць сябе роздумам над кожным сказам і чытаў амаль “па дыяганалі”, падганяючы сябе, мяркуючы, што калі і хацела нешта падказаць Ганна, то будзе гэта не ў радку, а ў гісторыі…

…Булькацела на агні бульба, Уладзя рэзаў кроп, ягоны водар казытаў ноздры. Недзе на надворку, блізка ад дзвярэй, заспяваў цвыркун. Згусцілася цемра.

— Сядай, паямо крыху, — сказаў Уладзя, калі высыпаў у глыбокую міску бульбу. — Малака прынеслі раней, скісла добра…

— Ага, — Уладзімір гартануў дзве старонкі наперад, пабачыў, што сканчаецца першая частка мудрагелістае, незразумелае яму кнігі. — Зараз, Уладзіслаў Сцяпанавіч, хай крышку прыстыне, дзве хвіліны…

“…Па дарозе на Лошчыцу сяляне прыбіралі старую грушу. Усярэдзіне яна была зусім спарахнелая. У гэтым дупле яны знайшлі мерцвяка, на шыі каторага, апроч крыжыка, вісеў залаты медальён…”

Абдало гарачынёй, сперла дыханне. Уладзімір адклаў кнігу ўбок, павольна падняўся і сеў за стол.

— Дзед… У Ганніным гародзе стаіць груша. Яна абгарэла. Груша вялікая… Там ёсць дупло?

Стары павярнуўся да Уладзіміра — ягоны пагляд быў роўны, спакойны.

— Хто ж яго выглядаў надта… можа, і ёсць. Грушу яшчэ Ганначкін дзед садзіў.

— Зараз я…

— Зараз не трэба. Ноч.

— Заўтра я павыглядаю…

— От заўтра і пабачыш, — згодна кіўнуў стары, потым дадаў: — Асцярожна глядзі. Крыж у чужыя рукі не дасца.

— Я ж — свой! — абурана выгукнуў Уладзімір.

— Крыж можа і не прызнаць адразу…

…Драбіны ляжалі ў густой траве каля сцяны абгарэлага хлеўчыка. Невялікія, цяпер яны набрынялі вільгаццю і былі цяжкія як падняць, але Уладзімір даў рады паставіць іх старчма і нахіліць да грушы. Драбін ставала акурат да першага тоўстага сука.

Лёгка ўскараскаўся ўгору, разгледзеўся, падняўся па сукох вышэй. І пабачыў невялікае — толькі руку прасунуць — дупло. Некалі тут быў сук, ды выгніў, от і з'явілася дзірка… Невядома, якой глыбіні, невядома, што там. Каб не пільная патрэба, у такую дзірку не пасунеш рукі без страху: тут і восы могуць быць, і шэршні… ці яшчэ якая зараза.

Уладзімір зусім не хваляваўся — ён быў пэўны, што менавіта пра гэтае дупло гаварыла яму Ганна тым сваім подпісам на вокладцы кнігі. Тут павінен быць крыж. І ўсё ж засоўваў руку з асцярогай. Дно не намацвалася, рука залезла амаль па локаць.

І тут востры боль працяў палец, ад яго — па ўсёй руцэ сутаргаватай хваляй пракаціўся аж да пляча. Так магла ўкусіць змяя, уджаліць шэршань ці… стукнуць электратокам. Больш за ўсё боль нагадваў ўдар электратокам, таму Уладзімір не вышмаргнуў з дупла руку, утрымаўся на суччы — яго незлічоную колькасць разоў біла па пальцах, ён іншы раз менавіта пальцамі правяраў: ёсць фаза ці няма.

Таму Уладзімір толькі прыўзняў пальцы ад таго, да чаго дакрануўся, аднак праз боль паспеў адчуць нешта цвёрдае. Гарачае. Так, не проста гарачае — распаленае. Вось чаму такі боль.

Асцярожна апусціў руку ніжэй, лёгка дакрануўся да гарачыні і пальцамі стаў вадзіць, нібы пагладжваць, вымацваць паверхню. Здавалася, гарачы-

ня таго, што ляжала ў дупле, спадала. Смялей намацаў, згроб — круглае, вялікае. І запякло далонь, невыносна запякло. Цярпеў, перабіраў у пальцах кружок, навобмацак адчуў тонкі шаўкавісты матузок. За яго і пацягнуў.

Ён не застаўся сядзець тут і разглядаць вялікі крыж у крузе, спусціўся адразу, бо ад хвалявання так затахкала сэрца, закалаціліся калені. Ніхто, ніхто не павінны бачыць, што ён лазіў на грушу, што нешта знайшоў у непрыкметным дупле…

Адной рукой адкінуў драбіны, завалок іх на ранейшае месца, трымаючы на матузку ў другой руцэ крыж.

Было ціха і бязлюдна. Прысеў. Падставіў далонь і стаў павольна апускаць у яе крыж. Бо разгледзець крыж, паклаўшы яго на зямлю, не мог — адчуваў, што так нельга рабіць.

Далонь не апякло, але крыж па ранейшаму быў вельмі гарачы. Уладзімір стрываў. Гарачыня паступова спадала. Ці скура на руцэ прызвычаілася да яе?

Колькі гадоў яму, гэтаму крыжу? Якім майстрам і калі ён быў зроблены? Даўно, вельмі даўно… Уладзімір глядзеў на крыж, і ў ягоную свядомасць заходзіла аднекуль веданне: як быў зроблены крыж, як потым майстар адмыслова абляпіў яго глінай, так, каб ён стаў падобны да простага раўнакутнага чатырохканцовага, як абпальваўся крыж. І вось цяпер тая гліна амаль уся пазлятала, дэманструючы сапраўдную форму. Чвэрць крыжа яшчэ прыкрываецца глінай. Не, нельга яе чапаць. У кавалках гліны таксама ёсць сэнс.

Шаўкавісты матузок быў сплецены з валасоў, не цяжка было здагадацца. Тонкіх, чалавечых. Светлых. Шнурок быў чысты, не зашмальцаваны. Нядаўна зроблены? Ганнай, са сваіх валасоў?

Уладзімір вагаўся толькі імгненне і асцярожна начапіў яго на шыю. Расшпіліў кашулю, выпрастаўся, каб крыж дакрануўся да цела.

І зноў яго працяў боль. Уладзімір аж замёр, ён не чакаў цяпер такой гарачыні, але адно сцяў зубы. Боль адыходзіў, жар крыжа пакрысе распушчаўся ў ягоным целе. Зашпіліў кашулю. Устаў, агледзеўся. Не пабачыў нікога і выйшаў на двор.

Стары Уладзя чакаў яго, седзячы на лаве, пільна ўглядаўся ў твар. Не стаў нічога пытацца, пачакаў, пакуль Уладзімір не сеў і не выдыхнуў:

— Ён у мяне… На мне.

— Я бачу, — нягучна адказаў Уладзя, але Уладзімір пачуў у голасе сцішаную радасць. — Ганначка памагае…

Уладзімір не стаў пярэчыць.

— Што мне цяпер рабіць?

— Пакладзі там, дзе знайшоў. Ты адзін ведаеш — і добра.

— Дык цяпер і вы ведаеце…

— Я знайшоў бы…

Уладзімір гатоў быў загарэцца ад абурэння: дык чаго тады стары не мог падказаць, але асёкся: Уладзя зірнуў яму ў вочы і ціха, з прыхаваным болем прамовіў:

— Чалавека нельга прывесці туды, куды ён сам абірае шлях. Ты абраў — ты дапяў.

**4**

— Выпі… Не спяшайся і не хвалюйся. Усё сам зразумееш: што рабіць і як, — Уладзя дастаў са сваёй па-

латнянай торбы, з якой ён прыйшоў сюды, да каменя, старую вайсковую біклажку ў футарале. — Глыні, не бойся…

Уладзімір узяў, не нюхаючы, паднёс да рота. Вадкасць на смак была падобная да травянога настою, крыху вязала.

— Цяпер распранайся… Адзенне пад камень кладзі… Прысядзь сам…

Ноч была не цёплая, скура ў Уладзіміра на плячох, на руках і нагах узялася дрыжыкамі, яго пачало дробна трэсці. Уладзімір не хваляваўся: ён проста чакаў. І нават не пытаўся ні раней, калі ішлі да каменя, ні цяпер: у чым яго, Уладзімірава, роля, што яму трэба рабіць, што з ім будзе. Уладзя сказаў: раскрыецца камень. Уладзя сказаў: зацвіце кветка. Уладзя сказаў: табе яе бараніць. Чаго яшчэ было пытацца?

Неяк незаўважна зрабілася цяплей. У лесе нібыта віднела… Не, не віднела — гэта Уладзімір стаў лепей бачыць у цемры, можа, прызвычаіліся вочы. Закруцілася галава, Уладзімір спужаўся, што зараз упадзе, страціць раўнавагу, і ўпёрся рукамі ў зямлю. Зноў імкліва стала цямнець, потым пасвятлела, болей, чым першы раз, і зноў — цемра. Гэтыя змены сталі частымі, у вачох ва Уладзіміра бліскала да болю. На нейкае імгненне падалося, што ён аслеп, калі надта моцна бліснула — яго ахутала цемра, але потым морак стаў рассейвацца.

І Уладзімір пабачыў вогнішчы.

Гэта было неверагодна: зямля перад ім уздымалася ўгору. Яна засталася круглай, але нібыта вываварочвалася вонкі: цяпер усё, што было на зямлі і сама яна апынулася не на вонкавым баку шара, а на нутраным — далягляду не было, зямля ўздымалася і ўздымалася ўгару. Уладзімір так быў уражаны паба-

чаным, што захацеў устаць, каб разгледзецца, але нечакана адчуў, што яму вельмі нязручна, вельмі цяжка стаяць. Ён амаль ўпаў наперад, але ўтрымаўся на руках.

Вочы ўперыліся ў рукі.

Перад самым тварам былі вялікія воўчыя лапы.

"Я — ваўкалак", — думка не прыгнеціла, не здзівіла і не ўзрушыла. Уладзімір усяго толькі безэмацыйна канстатаваў тое, што з ім адбылося: ён абярнуўся ваўком.

Ступіў некалькі крокаў, ступіў як воўк, прызвычайваючыся (ці ўзгадваючы ўменне?) валодаць звярыным целам. Яго трошкіківала ў бакі. Азірнуўся — так, і ззаду ад яго зямля ўздымалася з бакоў, як берагі надта глыбокай, велізарнай місы. Дзе-нідзе зыркімі кропкамі свяціліся вогнішчы.

Нешта адбылося з вачыма: калі ён углядаўся ў нейкую асобную кропку, яна імкліва павялічвалася, набліжалася да яго, быццам ён глядзеў на яе праз акуляр тэлевізійнага аб'ектыва з пераменнай фокуснай адлегласцю. Скіроўваў увагу на іншае — першае аддалялася.

Але галоўным былі пахі — іх было незлічонае мноства, розных, усякіх. Яны разрывалі ноздры, і мозг ледзь паспяваў фіксаваць, атаясамляць іх: ці то смярдзючага гарэлага мяса шашлыкоў, ці то бражнага піва, дарагой парфумы, а найбольш — чалавечага поту. А яшчэ пахі пакуль што заціснутай у рамы паводзінаў чалавечай жарсці і гарачага юру, лёгкага страху і п'янлівай усёдазволенасці, заўзятай бесшабашнасці і прагі прыгодаў. Пахі былі вакол усіх вогнішчаў, і яны былі падказкай, што яму не трэба гэтыя вогнішчы. Яму трэба іншае…

І перш чым Яно пачало разгарацца белавата-блакітным ззяннем недзе далёка наперадзе, ён адчуў пах: пах свежасці і пяшчоты. Так пахне немаўля ў калысцы ў першыя дні свайго жыцця.

Пяшчотны водар адгукнуўся ўнутры магутным поклічам: абараніць. Яму зараз жа трэба быць там, трэба спяшацца, трэба паспець. Ад каго ці чаго бараніць — яшчэ і не ўзнікла такога пытанне, як пагроза з'явілася чорным, бясформавым клубком аднекуль з лясной цемрадзі. Чорны клубок пахнуў варожа: ён дыхаў злым жаданнем забіць. Мабыць, і сам клубок мог адчуваць пахі, бо ў ім раптам заблішчалі іклы, і ён імкліва пакаціўся да Уладзіміра, гонячы перад сабой смярдзючую хвалю нянавісці.

Уладзімір ужо не памятаў, што ён — чалавек. Розум цалкам прыняў новае ваўчынае аблічча, і мозг з дакладнасцю і хуткасцю звера кіраваў новым целам, абуджаючы да жыцця кожную ягоную клетачку.

Уладзімір быў ваўком: дужым, адважным, рызыкоўным.

Ён спрактыкавана матлянуў галавой у бок чорнага клубка — і той паляцеў потарч, бязгучна заенчыў.

Гарачая кроў штуршкамі імчала жыламі, разаграваючы цела. Прачуванне сапраўднай бітвы п'яніла мозг, але галоўным быў той пах ад бела-блакітнага вогнішча — ён клікаў, ён быў цяпер цэнтрам сусвету. І Уладзімір, зрабіўшы два першыя скачкі, адчуўшы моц у сваіх воўчых лапах, памчаў напрасткі да гэтага цэнтру.

Ён бег і быццам заставаўся на месцы, а зямны шар пракручваўся пакрысе пад яго лапамі, як круцілца кола з вавёркай, толькі вельмі марудна. Выгіналася зямля, ён штурхаў і штурхаў яе магутнымі лапамі, разганяў, прымушаў круціцца імклівей, набліжаў

да сябе тое вогнішча. І спераду, і ззаду, і з бакоў ён раз-пораз заўважаў чорныя калматыя цені ў пахкіх воблаках лютай злосці, якія мітусліва кідаліся ў то аднаго, то другога людскога вогнішча, адкуль несла паленым мясам і п'яным юрам. Ён ведаў, што цені — ягоныя ворагі, але нельга было спыняцца, бо клікала Кветка. Так, клікала Кветка — ён ведаў цяпер, што палымнее наперадзе. Ён ведаў, што павінен быць як найхутчэй там — і тады будзе бойка.

Амаль адначасна з ім з другога боку ад Кветкі з'явіўся яшчэ адзін воўк: старэйшы і сівейшы, са шматлікімі пісягамі — знакамі былых боек. Яны сустрэліся вачыма і адразу спінамі сталі адзін да аднога, а між імі усё ярчэй і велічней разгаралася, уздымалася блакітна-белая веліч Кветкі.

Першы чорны клубок, аслеплены бляскам, тыцнуўся ў яе бок, але ў наступны момант воўчыя іклы шкамутнулі і адкінулі яго прэч. Другі цень з левага боку пёрся нахабна і імкліва. Уладзімір скокнуў і хапіў, ды хапіў няўдала і сам адчуў пякучы боль у разадраным плячы.

А потым не было калі звяртаць увагі на боль — усё больш і больш калматых ценяў навальвалася з лесу, валам кацілася на святло, якое іх сляпіла, але не магло спыніць. Два ваўкі не пускалі ценяў да Кветкі: скакалі, ірвалі, хапалі і адкідвалі прэч, качаліся па зямлі, скідваючы сваіх ворагаў, што ўскоквалі на каркі.

Колькі часу мінула? Уладзімір не ведаў. Ён быў знясілены, шмат разоў яго збівалі з ног, на яго навальвалася адразу некалькі чорных стварэнняў — і тады другі ахоўнік падскокваў на дапамогу. Больш дасведчаны, ён ашчаджаў свае сілы, не лез у самую гушчу цемры, чакаў, калі адтуль выпнецца нехта

першы — і тады імкліва скакаў, ляскаў ікламі, адкідваў далёка прэч скуглівае Нешта.

Уладзімір уздымаўся на ногі, зноў кідаўся ў чорную хвалю нянавісці і злосці, не зважаючы на скрываўленыя плечы, ногі, галаву.

Ён задыхаўся ў чорнай хвалі, і адначасна яна надавала яму моцы. Ён бачыў агністую Кветку за сабой, бачыў чорную хвалю з усіх бакоў. І бачыў недзе далёка там, адкуль ён прыбег, старога Уладзю, які адзін стаяў каля каменя, і твар яго быў асветлены ззяннем Кветкі, і вусны варушыліся, шапталі найгалоўнейшую Малітву. А вакол яго светлай постаці выраcталі пухліны чарнаты, няўмольна сунуліся бліжэй і бліжэй, абкружалі.

Раптам з чарнаты скокнуў вялікі і дужы цень, амаль роўны яму, Уладзіміру, і яны счапіліся, пакаціліся па зямлі. Сярод паху дзікай лютасці Уладзімір адчуў тонкі, знаёмы да болю, амаль што родны водар. Гэта на нейкі момант затлуміла ягоную свядомасць, ён разгубіўся. І ў наступны момант адчуў, што яго перамагаюць, што яшчэ імгненне — і іклы чорнага звера выдзяруць яму гарляк. Пах… такі знаёмы, такі блізкі яму пах. Адкуль на гэтым чорным стварэнні пах… Ганнін? Так, Ганнін!

І раптам усё стала зразумела. Чорны звер быў каля Ганны перад яе смерцю. Ён быў адным з тых, хто забіў Ганну!

У жылах, здаецца, ускіпела кроў. Лютасць, з якой Уладзімір стаў змагацца, ужо не за сваё жыццё, засьміла ўсё, і нават святла Кветкі ён зараз не бачыў. Мабыць, і чорны звер зразумеў, што яго неяк пазналі, і адбіваўся цяпер, як мог, ляскаючы ікламі. бязгучна падвываючы, ён клікаў сваіх на помач —

і яны прыйшлі, адбілі свайго ад аслепленага бойкай ваўкалака.

І чорная хваля пакацілася назад. Залітымі крывёю вачыма Уладзімір бачыў, як спакваля пачала гаснуць Кветка, як хаваецца ў зямлю яе ззянне.

Усё скончылася, зразумеў ён.

Да яго падышоў другі ваўкалак, лізнуў у плячо — і пабег трушком прэч.

Пара вяртацца.

Зямля цяпер раўнялася ў яго пад лапамі, ніжэй і ніжэй апускалася наваколле. Зямля рабілася плоскай, потым стала выгінацца, каб Уладзімір зноў апынуўся не ўнутры, а звонку шара.

Шлях назад здаваўся бясконцым. Ён бег, толькі чуючы наперадзе пах нагрэтага граніту валуна, трымаўся яго і не зважаў на пахі астатніх вогнішчаў, адкуль нясцерпна смярдзела гарэлкай, ванітамі, дзікунскім наталеннем целаў.

Апошнія метры да каменя ён, віхляючыся, ледзь рухаўся. Лапы амаль не гнуліся, на пысе застыгнула кроў, зляпляла вочы.

Прыйшоў і лёг. Ад каменя ішло цяпло, яно не проста ўгравала — наталяла спакоем.

Спінай, упёршыся ў камень, сядзеў, рэдка і асцярожна дыхаючы, Уладзя. У ягоных руках была біклажка. Ён наліў вадкасці ў далонь, асцярожна паднёс яе да засмяглай пашчы звера.

— Пі, хлопча, пі…

…Уладзімір ачомаўся ад вясёлага ціўкання ластавак — дзверы хаты і сенцаў былі адчыненыя.

Ён паварушыўся, адчуў, як боль, абуджаны гэтым варушэннем, працяў усе клетачкі цела. Але ён дазволіў устаць і сесці. Яшчэ нацягваючы джынсы, Уладзімір пабачыў свае рукі і ногі ў драпінах — вялікіх

і малых, глыбокіх і нязначных кропках укусаў. Прайшоў, пакульгваючы, на другую палову дома, прыпыніўся каля старога, у багетавай рамцы прастакутнага люстэрка. Уладзіміра раптам захваляваў ягоны твар — ці моцна падрапаны.

На дзіва, твар быў без адзінюткай адзнакі начнага здарэння. "А кроў на вачах?.." — падумаў Уладзімір, потым стаў асцярожна абмацваць галаву. Скура на цемені адгукнулася пякучым болем, а пальцы адчулі свежую рану.

— Загоіцца, не перажывай, — пачуўся ад парога Уладзяў голас, ціхі, супакойлівы, нават з нязвыклай, не чутай раней, пяшчотай.

— Я не перажываю, — ціха адказаў Уладзімір. — Мне каб пыса чыстая… У горад трэба.

Уладзя зірнуў пільна, можа, хацеў запярэчыць, але нешта ў Уладзіміравых вачох падказала яму, што той намерыўся цвёрда.

— Ну, калі трэба… Я табе дам зёлак і мазі. Маззю будзеш на ноч глыбокія раны шмараваць, а зёлкамі прамывай… ці праціраі, вату во намачы і праціраі усё, пакуль не загоіцца.

Выйшлі на двор, прыселі на лаўку. Уладзімір мусіў адзначыць, як павольна сеў стары.

— Скажыце, тады… у той вечар баба Марута як галасіла, то казала, што Ганне нельга было выходзіць з дому, але яна выйшла… Я так зразумеў, што Ганне ў тую ноч нельга было выходзіць без крыжа? Калі б яна была з крыжам, то… засталася б жывой?

— Не, не так… — стаў тлумачыць, уздыхаючы Уладзя. — У такія гнілыя тыдні, калі месячыка на небе няма зусім, ахоўніца без крыжа не адчувае Цемры. І яе могуць завабіць на пагібель.

— Ганна ж гэта ведала, так? — запытаўся Уладзімір, пабачыў, як на знак згоды прымружыў вочы Уладзя. — Значыцца, яна магла выйсці толькі да таго чалавека, якога ведала.

— Мабыць, так, — згадзіўся без эмоцыяў Уладзя.

— Тады я яго знайду.

— Ты яго сустрэў… там? — узняў вочы стары.

— Сустрэў, — кіўнуў Уладзімір. — З паху пазнаў… Ён быў з Ганнай у тыя апошнія часы. Яе пах застаўся… Паеду.

— Добра, цяпер ідзі пад’еш, ды трэба яшчэ раз усё нашмараваць… Плечы надта ж падралі табе…

— Дзед, я з сабой бяру крыж, — сказаў Уладзімір, калі стары змазаў яму спіну, плечы і бакі пахкай халоднай маззю.

— Трэба? — каротка спытаў Уладзіслаў.

— Не тое, каб трэба… — шчыра прызнаўся Уладзімір. — Нешта… баюся яго кідаць.

— Калі баішся — бяры, — лёгка згадзіўся Уладзя. — Я крыжу не абаронца…

Уладзімір няўцямна паглядзеў на старога і нечакана для сябе пабачыў, як змарнеў ягоны твар. Быццам не ноч адна мінула, а дзясятак гадоў. Успомніў бачанае ўначы: чорныя пухіры цемры ўздымаліся вакол Уладзі…

— Дзед, вам… цяжка было гэтай ноччу?

Уладзя памаўчаў, потым загаварыў, не паварочваючы галавы:

— Гэта мая апошняя малітва… Калі ахоўніца камень адчыняе і з каменем поруч стаіць, ніхто таго, хто малітву чытае, не зачэпіць. Так, пужаюць толькі…

— А цяпер… Цяпер вас чапілі? — уразіўся Уладзімір дзеда словам пра апошнюю малітву. — Дык акрыяеце… Вы ж вядзьмак, — невясёла ўсміхнуўся ён.

— У ведзьмакоў целы чалавечыя, — без суму адказаў Уладзя. — Цябе нездарма Ганна абрала… Не толькі абаронцам. Зараз усё ў цябе і ўсё ў табе… Маўчы, слухай. Мне нядоўга засталося. Жыццё з мяне выцягнулі, адзін драбок на донцы. Ты не бядуй… Кожнаму прыходзіць пара. Побач будзем, падкажам… Са мной развітацца не прыязджай, не трэба… Помні, знойдзецца ахоўніца — веды Крыж перадасць. А будуць веды, усё астатняе прыйдзе. Раней ці пазней. Не бядуй. Усё будзе добра. Глядзі на бакі ды будзь асцеражнейшым.

— Як… знойдзецца ахоўніца? — праглынуў Уладзімір шурпаты камяк у горле. Ён глядзеў на старога і разумеў, што дзед кажа праўду, бо твар ягоны з кожным словам ўсё больш рабіўся мярцвянабелым. — Вам у бальніцу трэба, — сказаў нясмела. — Я патэлефаную Антосю.

Стары ўзняў галаву, паглядзеў Уладзіміру ў вочы, і той пабачыў нечаканы, цёплы агеньчык сапраўднай любові.

— Рабі, Валодзька, што падказвае табе душа. Заўсёды так рабі. Яна кліча — ідзі за ёй. Ні на што не зважай, адно душу слухай. На мяне таксама не зважай. Нікога не трэба клікаць. Ахоўніца… Яна знойдзецца. Крыж яе пакліча. Ты яе пазнаеш…

## 5

У горад Уладзімір паехаў першым аўтобусам, які адпраўляўся а палове на сёмую раніцы. Усё абышлося, хоць ён нерваваўся праз крыж, які ўсю дарогу мякка грэў ягоныя грудзі, не даючы забыцца на сябе. Часам

цяпло мацнела, тады Уладзімір насцярожана пазіраў на тых, хто быў побач. Але апроч цяпла, нічога больш не адчуваў.

Ішоў сваёй ціхай вуліцай да дома, пустой, светлазялёнай у шчодрым ранішнім сонцы. І, перш чым запякло на грудзях, здалося, ступіў у нейкую страшную чорную яміну. Ён прыпыніўся, здзіўлены і напалоханы: вуліца ж пустая! Толькі збоку, на кантэйнернай пляцоўцы двое бамжоў — мужчына і жанчына пэўнага веку — корпаліся ў смецці, ціха дзінькаючы шклом пляшак. Уладзімір ступіў яшчэ крок.

І тады мужчына-бомж азірнуўся на Уладзіміра.

Да яго было неблізка, але Уладзімір убачыў выраз запалых вачэй: мужчына глядзеў так, рыхтык нехта моцны і ўладны выцяў яго ззаду па шыі. Мужчына прысеў, зіркнуў з-пад ілба, як той шкадлівы тхор, загнаны ў кут.

Бомж смярдзеў даўно нямытым целам, страхам і ліслівасцю.

Пякло грудзі, аж млосна было ад смуроду, але Уладзімір зрабіў адзін і другі крок наперад.

Бомж па-звярынаму тонка віскнуў і кінуўся прэч ад кантэйнернай пляцоўкі. Спатыкнуўся, але, падаючы, здолеў перакруціцца, гэпнуўся на бок і замызганы цэлафанавы пакет з некалькімі парожнімі пляшкамі ўтрымаў у руках. Падхапіўся, вырачыў вочы, нешта сіліўся крыкнуць, але адно сіпеў, не зводзячы вачэй з Уладзіміра.

А Уладзімір са злой пэўнасцю яшчэ ступіў наперад. Бомж завыў тонка і працягла, пабег, потым крутануўся ў завулак і знік за паваротам.

Жанчына-бамжыха, пахіснуўшыся, няўцямна ўзіралася ўслед свайму напарніку. Зірнула на Уладзіміра, і ён пабачыў дурнавата-п’яны твар, шэры, не-

прыгожы. І чужымі, украдзенымі падаліся яе вочы — вясёлага, насычана васільковаа колеру.

Жанчына правяла Уладзіміра вачыма, потым няпэўна рушыла за сваім напарнікам. Прыпынілася і гукнула, скрыпучым рэзкім голасам:

— Санёчак! Пача-а-ка-ай!

Больш да самага дома Уладзімір нікога не сустрэў. Як зайшоў, прыхапіў дзверы на замок, завесіў шчыльна вокны. Адчыніў падмосце. На кухні ўзяў з шафкі невялікую бляшанку, дзе была некалі гарбата. Зняў з сябе крыж, загарнуў яго ў чыстую сурвэтку, потым уклаў у бляшанку, зачыніў. У падмосці выкапаў ямку і там схаваў бляшанку з крыжам. “Тут будзе пэўна”, — падумаў супакоена. Сустрэча з бамжом не на жарт узрушыла яго. Уладзімір разлічваў на тое, што бомж нічога не мог зразумець — проста яго пагнала ад Уладзіміра хваля страху. Але непакоіла іншае: колькі ж іх? Колькі, калі ў першы дзень на такой бязлюднай вуліцы ён адразу сустракае аднаго з іх?

Ад раскладзенай і засланай Ірынай канапы ішоў няўлоўны пах. Уладзімір без думак нейкі час глядзеў на месца іх кахання. Ён усё разумеў — яе вымусілі. Чалавека лёгка вымусіць, калі ён адказвае не толькі за сябе, калі ў яго ёсць блізкія і дарагія яму людзі.

Дастаў свой ноўтбук.

Думка пра гэтую работу стрэмкай сядзела з таго моманту, калі ён адчуў у тым цёмным зверы Ганнін пах.

Калі Ганна ў той вечар выйшла на двор, значыцца, яна ведала таго, хто яе клікаў.

Напярэдадні яна казала, што атрымала нейкі ліст з фотакарткай. Інакш кажучы, ліставалася ў сеціве. Яна магла быць зарэгістраваная ў нейкіх сацыяльных сетках. Не дзіва: маладая сучасная жанчына,

якая жыве ў такой глухой вёсцы, мусіла мець нейкія яшчэ стасункі з навакольным светам.

Успамін пра той дыск, на якім ён стварыў копію сістэмы Ганнінага кампутара, жыў ва Уладзіміры пякучай надзеяй. Пякучай, бо цяпер ён меўся залезці ў асабістае жыццё жанчыны. І няхай яна была мёртвая… тут мёртвая. Няхай Уладзіміру тое было патрэбна, гэта зусім не змяншала сораму ад таго, што ён меўся рабіць.

“Прабач, Ганна, інакш мне яго не знайсці”, — у думках папрасіў ён прабачэння, увамкнуў ноўтбук з устаўленым дыскам.

Нізкі гарлавы птушыны крык за акном прымусіў яго здрыгануцца. Гук быў дзіўны, бо такі пачуць у горадзе практычна немажліва. Уладзімір пазнаў яго, успомніў, што за птушка можа так спяваць. Дзікі голуб, туркаўка…

Уладзімір выйшаў, закурыў і асцярожна стаў набліжацца да старых яблынь. Зноў пачулася нізкае гарлавое спяванне, і Уладзімір пабачыў самую птушку: меншую за голуба, шаравата-ружовую, з чорнай паласой на шыі, нібы на невідомым адсюль матузку павешаны медальён. Нейкі час птушка адным вокам пільна ўглядалася ва Уладзіміра, потым махнула крыламі і бязгучна паляцела ў суседні сад.

Уладзімір вярнуўся на ганак, прысеў. Дакурыў і цвёрда накіраваўся ў пакой. Яму прабачылі, падумаў ён.

Успомніў, з якіх антывірусных праграм пачынаў, калі “ажыўляў” Ганнін кампутар, усталяваў сістэму з дыску, пачаў працаваць. Ён быў пэўны, што Ганна карысталася аўтаматычным захаваннем пароляў у браўзеры — так робіць мо дзевяноста адсоткаў карыстальнікаў. Але ўсё адно хваляваўся, калі сістэма

запрацавала і можна было зайсці на які сайт. “Аднакласнікі” прызналі адразу — не спатрэбілася і пароля ўводзіць. Прагледзеў запісы. Потым адкрыў асабістае ліставанне.

І слова яшчэ не прачыталася, яшчэ незразумелае было яго значэнне, але адзін выгляд слова выцяў па вачох — і Уладзімір зразумеў, адчуў, і нават здалося, што павеяла нейкім пахам, хоць тое было ўжо занадта, — вось ён. Ён, чорны і невядомы.

Віконт.

Уладзімір уважна чытаў ліставанне, выпісваў паасобныя звесткі пра Віконта, якія ён зрэдку, вельмі зрэдку, пакідаў сам сабе.

Скончыў універсітэт. Жыве адзін. Амаль што ўсё.

Уладзімір чытаў і дзівіўся: чаму Ганна не адчувала яго? Хіба ж не відавочна, што Віконт намагаўся пазнаёміцца з пэўнай мэтай? Ён так настойліва запрашаў у госці… Цікава, што ніколі пры запрашэннях не заікаўся пра сваю кватэру. Казаў пра ўтульныя кавярні і рэстарацыі. Вось адзінае месца, якое сведчыць пра месца жыхарства: «За пяць крокаў ад мяне — шыкоўны “Палац”». І ён жа настойліва прасіў у Ганны дазволу прыехаць да яе… Мабыць, нешта Ганна ўсё ж адчувала, бо ўсяляк стрымвала Віконтавы намеры. Але ж прызналася, дзе жыве. І нават дзе яе дом у Карчавасе.

Не, Ганна невінаватая. Яна не магла яго пачуць. Гэта цяпер ён праявіў сваю існасць. Пасля забойства. Пасля Купалля, калі гаспадары паслалі яго па Кветку. Як паслалі і таго бамжа… так, і бамжа…

…Лобач патэлефанаваў каля адзінаццатай. Уладзімір трохі здзівіўся — апошнія падзеі добра аддалілі яго ад праблем універсітэта, сесіі, экзаменаў. Яшчэ падносячы слухаўку да вуха, згадаў, што збіраўся з

Лобачам, прынамсі, прасіўся, у этнаграфічную экспедыцыю. Але цяпер удзел у такой экспедыцыі падаваўся яму простай забаўкай. І калі Лобач нагадае пра экспедыцыю, трэба шукаць нейкія праўдападобныя адгаворкі. Паспеў прыдумаць найпрасцейшае: уладкоўваецца на працу, дык не зможа…

— Дабрыдзень, Алесь Паўлавіч, — прывітаўся першы Уладзімір.

— Дабрыдзень, Уладзімір, — адказаў Лобач. — Зараз я займаюся рыхтаваннем палявых работ… У вас застаўся "хвост", як вы помніце. Мне ва ўніверсітэце не будзе калі прымаць, то можаце пад'ехаць да мяне. Я сёння буду дома. Вы памятаеце адрас?

— Так, запісваў. Калі можна пад'ехаць?

— А хоць у які час. Залікоўку не забудзьцеся. І ў мяне ж таксама "хвост" застаўся — помніце, вашая кветка-абярэг дагэтуль у мяне. Трэба вярнуць яе вам…

— Ага… — безэмацыйна адказаў Уладзімір.

Залік для яго зусім не здаваўся важным, але ён разумеў, што задачы "другога плану" трэба таксама развязваць, каб не павісалі "хвастамі". Нельга ж забыцца на ўсё дзеля аднаго…

Выходзіў з дому, калі зноў заспяваў мабільнік. Зірнуў і здзіўлена націснуў "адказаць" — тэлефанаваў галоўны інжынер гаспадаркі, Андрэй Пятровіч, пенсійнага веку мажны, таўсматы мужчына.

— Што там здарылася, Пятровіч? — адразу запытаўся Уладзімір, з цяжкасцю прапускаючы ў сябе тое, што гэтулькі гадоў было ягоным домам: вёску, гаспадарку, сваю працу, сваю згарэлую хату, Алену ўрэшце. Яно было не проста далёкім, яно існавала ў нейкім іншым жыцці, да яго нельга было датэлефанавацца. А вось жа, глядзі, Пятровіч знайшоў яго тут…

— Ды тут пытаннечка адно, дарагі, — сіпата пачаў Пятровіч. — Ты казаў узімку, што ў бабулькі жывеш і, падаецца, на лета яна з'язджае… Тут мне ў адкамандаванне на два дні трэба будзе. А для мяне той гатэль як турма. Мо ў тваім дамку можна будзе пераначаваць? Ці ты кабету якую да сябе падсяліў? — рагатнуў у канцы інжынер.

— Прыязджай, няма жанчын, — адказаў Уладзімір, назваў адрас. — Толькі тэлефануй, як збярэшся, каб удома заспеў…

— Ага, дзякуй…

Уладзімір вымкнуў тэлефон, стаяў у роздуме з хвіліну. Трэба ж, за ўвесь час ён нават не ўспомніў пра свой колішні дом… Ні пра што, ні пра каго не ўспомніў. Хіба добра гэта?

## 6

Надзея заставалася на хутары ў Антося Зубеля, здаровая і, мабыць, шчаслівая. У яе была добрая перспектыва, прынамсі, Лобач быў заспакоены.

Падзеі апошніх дзён, іх значнасць і эмацыйная напоўненасць бачыліся сёння Лобачу як адмысловае выпрабаванне волі. У пустой кватэры, якая сваёй цішынёй вяртала яго ў будзённы штогадовы спакой адладжанага жыцця, ён успамінаў, прыгадваў і перадумваў тое, што адбылося, выносячы сябе цяперашняга за рамкі ўспамінаў. І на сябе самога ў тыя дні ён глядзеў са спакоем вонкавага назіральніка, канстатаваў дзе залішнюю эмацыйнасць, дзе паспешлівасць…

Такая звычка глядзець на мінулае дапамагала яму за раз пазбыцца перажыванняў, пачаць жыццё з заўтрашняга дня так, нібыта нічога і не здаралася.

Цяпер, гэта было вельмі патрэбна: пачаць жыць нанова, быццам не было ні паўзвар’яцелай сястры, ні Ганны…

Лобачу цяжка было развітацца менавіта з Ганнай, але памог Уладзімір Жабрун, сам таго не ведаючы. Для Алеся Лобача Ганна была простая, прыгожая, разумная і цалкам зразумелая жанчына. Яна ўвайшла яму ў сэрца і розум менавіта такой: прывабнай, няхай і мела яна нейкія асаблівыя здольнасці, нейкую ўрочлівасць — дык жа колькі гадоў прапрацавала ў вясковым медпункце, тут міжволі станеш псіхолагам.

Але Уладзімір Жабрун паказаў на Ганну з іншага боку… Гутаркі пра таямнічы талісман-крыж, пра забойства нібыта дзеля гэтага крыжа схілялі Лобача думаць пра тое, што Ганна была ўдзельніцай нейкай невядомай ці то секты, ці то групы, якая мела свой асаблівы патаемны рытуал, сваіх ворагаў, сваю вайну. Сапраўдную вайну. І відавочна, Ганніна група і тая, удзельнікам якой быў стары Ўладзя — той самы культ.

Алесь Лобач не быў атэістам, ён быў рэалістам. Для яго як навукоўца, блізкімі і зразумелымі былі самыя розныя праявы светаўспрыняцця людзей, ён ніколі не ставіўся залішне крытычна да веры бабулек ці то ў Хрыста, ці то ў Хатніка, ён прымаў існаванне ў вёсках шаптух і лячэнне зёлкамі, замовамі. Але як рэаліст, ён бачыў карані існавання забабонаў.

Тое, што Ганна, маладая і разумная жанчына, была ў складзе нейкай малавядомай секты, брала ўдзел у невядомых рытуалах, для Лобача цяпер было віда-

вочным. Як відавочным было і тое, што Ганна была адданай верніцай невядомай секты. І гэтая відавочнасць нараджала пякучую прыкрасць: няхай той самы Ўладзя, стары чалавек, надае неверагоднае значэнне амаль струхлелым тканым ручнікам, няхай ён — служка невядомага, старажытнага культу, але ж Ганна… Яна — сектантка? Яна — фанатычка, калі загінула праз нейкую культаваю рэч?

Так, тое трэба было прыняць як праўдзівы факт.

Цяпер сваім халодным розумам Лобач мусіў канстатаваць, што смерць Ганны ў нейкае меры добра для яго. Бо што, што было б далей? Зразумела, што іх стасункі пасля той ночы мелі б працяг. Можа быць, што той працяг быў бы найдаўжэйшым з таго, што было ў Лобача з жанчынамі. І вось тады Лобач некалі мусіў бы даведацца праўду: яго абраная жанчына — фанатычная служка незразумелага дзікунскага культу. Што было б далей, нават і цяпер не хацелася думаць.

Лобач адчыніў Уладзіміру Жабруну і на імгненне знерухомеў: знаёмы хлопцаў твар выглядаў нашмат старэйшым, ці што. Уваччу ва Уладзіміра застыла туга.

“Перажывае Ганніну смерць, — паспрабаваў адгадаць Лобач. — Але ж яна яму ніхто… І чаму ён так упарта шукаў той медальён? Ці знайшоў?”

Пра медальён ён і спытаўся пасля прывітання.

— Так… Я знайшоў крыж, — нехаця адказаў Уладзімір.

— Чым жа ён так важны? — пацікавіўся далей Лобач, стрымваючы ў сабе іронію.

— Важны… Надзвычай важны. Здагадваецеся, як ён выглядае? — сваім парадкам спытаўся Уладзімір.

— Не, не здагадваюся, — шчыра прызнаўся Лобач. — Хадземце на кухню, пачастую кавай ці гарба-

тай, чаго жадаеце. А вы не прывезлі яго паказаць? Ці аддалі каму?

У асветленай сонцам кухні Уладзіміраў твар падаўся Лобачу яшчэ старэйшым. Ён заўважыў складкі на ілбе, якіх, здаецца, раней не было, вочы нібыта запалі глыбей.

З хвіліну, пакуль Лобач ставіў чайнік, Уладзімір маўчаў. Потым адказаў:

— Крыж нельга проста так вазіць па горадзе… дый не кожны яго возьме ў рукі. Ён зроблены з металу, мабыць, з жалеза. У коле — свастыка-калаўрот. Але не просты калаўрот, такі… Памятаеце ж мабыць, ёсць у сеціве калаўроты кветкі папараці? Некалькі заломаў аднаго промня. Вось такі. На пачатку ён быў захаваны ў гліну. І ўдаваў на просты чатырохканцовы крыж у крузе. Не ведаю, навошта так рабілася…

— Гэта проста патлумачыць: чатырохканцовы мог быць простым хрысціянскім крыжам, а вось за калаўрот на грудзях тагачасная царква не пахваліла б, — прапанаваў сваё тлумачэнне Лобач, падышоў да акна і адчыніў яго шырэй, зняў з падаконня попельніцу і сунуў яе па стале: — Курыце, калі хочаце. Я іншы раз дазваляю тут сабе такое задавальненне.

— Дзякуй… Не, не буду. Я меней курыць стаў, цяпер хіба што па звычцы. Наконт крыжа… Можа, і так, — абыякава згадзіўся Уладзімір. — Крыж за шмат гадоў амаль ачысціўся ад гліны. Ён вельмі старадаўны.

— І навошта вы яго шукалі? Проста як памяць? Ці ён мае сваё асаблівае значэнне? — не ўтрымаўся ад роспытаў Лобач.

— А вы… змаглі разгадаць той узор на ручніках? — замест адказу запытаўся Уладзімір.

— Не, пакуль што не змог, — трохі разгубіўся Лобач — ён жа ад дня Ганнінай смерці нават не ўспа-

мінаў пра тыя знакі. — Але… мне сказалі, што там — малітва.

— Толькі частка малітвы… — ціха паправіў Уладзімір.

Цяпер ён наагул быў нейкі зусім іншы. Лобач адчуваў, што Уладзімір ведае больш за яго, і нават не проста больш — ён стаў нашмат мудрэйшым за яго, Лобача. І гэтае адчуванне было такое моцнае, што бянтэжыла, змушала гаварыць з ноткамі сарказму і іроніі, каб захаваць гонар у сваіх вачох.

— Якой малітвы? — усміхнуўся ён. — Калі прачытаеце мне яе на памяць, дык не трэба будзе і разгадваць.

— Не ведаю слоў, — без шкадавання адказаў Уладзімір. — Гэта малітва каяты. На Уладзявым ручніку — толькі частка яе.

— Малітва каяты? — здзіўлена выгукнуў Лобач. — А перад кім і за што каяцца?

Засвістаў чайнік, Лобач узняўся, наліў кіпеню ў кубкі.

Уладзімір насыпаў сабе кавы, паклаў цукру, павольна вадзіў лыжачкай у ржавай вадкасці.

— Крыж… адчыняе камень, — нібыта не пачуў пытання пра малітву Уладзімір. — І мая гаспадыня, бабуля, казала праўду: кветка папараці — смерць для Цемры і яе сілаў. Таму яны імкнуцца задушыць Кветку, не даць ёй цвісці.

— Стойце, стойце, — папляскаў жартаўліва па стале Лобач. — А можна мне расказаць па парадку? Які камень? Як гэта — адчыняе? І што, папараць сапраўды цвіце? І што за каянне?

— Пра малітву не ведаю… Цвіце, — сказаў Уладзімір. Але гэта не папараць. Гэта — Кветка.

Ён казаў спакойна, амаль абыякава, без хвалявання, але ў Лобача міжволі ўзнікала перакананне, што

Жабрун кажа праўду — бо якраз так гавораць праўду: без усякага жадання пераканаць у нечым суразмоўцу.

— Камень — гэта брама на той бок. Бок, у якім звычайны чалавек можа бачыць Кветку і Цемру, яе служак, — працягваў Уладзімір. — Помніце: чорт у камені шые чалавеку новае адзенне? Так і ёсць: я патрапіў на той бок ваўкалакам. Мне далі іншае "адзенне". Успомніце: апошні князь-паганец, полацкі Усяслаў. Яго звалі Чарадзеем, пра яго казалі, што ён можа абярнуцца ў ваўка. Адгалоскі таго, што князь быў апошнім абаронцам Кветкі… Ганна была ахоўніцай Крыжа. Крыж адчыняе камень.

— Дужа цікава, — цяпер задуменна прагаварыў Лобач — яго і па праўдзе зацікавілі Уладзіміравы словы. — А Кветка?

— Я не ведаю, што гэта, — без жалю прызнаўся Уладзімір. — Адно скажу, што цвіце не папараць. Гэта… гэта проста нейкае святло. Падобнае да… клубаватай маланкі, вялікай. Яно з'яўляецца, расце, нейкі час гарыць блакітна-белым святлом. У час яе цвіцення і чытаецца малітва каяты. У гэты ж час Цемра імкнецца задушыць Кветчын агонь. Я ахоўваў агонь. Я біўся з некім ці нечым. Іх было шмат. Нешта незразумелае, чорнае. Толькі гараць вочы і блішчаць іклы. Цяпер я ведаю, нашто яшчэ трэба купальскія вогнішчы…

— І навошта? — ціха пацікавіўся Лобач.

— Гэтыя стварэнні… яны бягуць на ўсякае святло. Іх шмат… І яны кідаюцца на кожнае вогнішча, здалёк яны не могуць адрозніць Кветкі ад простага агню. Гэта павялічвае шанцы абаронцаў. Кветка павінна зацвісці і адцвісці. Малітва мае быць прачытаная.

— І тады што? — усміхнуўся Лобач і ўпікнуў сябе, што не змог схаваць насмешлівасці ў голасе — яшчэ

пакрыўдзіцца Уладзімір, а так цікава гаворыць…

— Не ведаю, — зноў проста адказаў Уладзімір, без ценю крыўды, зірнуў у вочы Лобачу. — Хіба трэба ўсё ведаць? Кожны на сваёй ступені нясе адказнасць за свае веды… Я — за свае. Уладзя — за свае. Ганна несла за свае.

— Выбачайце, а можна вас папрасіць расказаць пра ўсё падрабязней? Пра тую ноч?

— Ды я ж амаль усё расказаў, — сумна ўсміхнуўся Уладзімір. — Незвычайна выглядала зямля — быццам яна стала не пукатай, а ўвагнутай. І я бачыў на шмат соцен кіламетраў. Бачыў сотні вогнішчаў…

Уладзімір гаварыў няспешна: як сам прынёс крыж і паклаў яго на камень, як адчуў дрыжанне пад нагамі, як адпіў з біклажкі і абярнуўся ў ваўка, як біўся…

— Ведаеце, — асцярожна пачаў Лобач, калі Уладзімір замаўчаў, — як я зразумеў, Уладзя — вельмі добры зялейнік. Да таго ж, няблагі псіхолаг. А сярод нашых зёлак ёсць і алкалоіды, ёсць расліны, якія ўтрымваюць псіхатропныя рэчывы. Так што той самы глыток настою зёлак з біклажкі мог быць ключавым момантам, вы не лічыце?

Уладзімір усміхнуўся, зірнуў у вочы Лобачу — зірнуў з усвядомленанай перавагай, зірнуў так, як глядзіць дасведчаны чалавек на невука, як прафесіянал на аматара.

— Што, думаеце, я там нажлукціўся і ўсё прысніў? Вас не здзівіла, што сёння, у такую гарачыню, я надзеў кашулю з доўгімі рукавамі? Мог я такое прысніць?

Уладзімір няспешна расшпіліў некалькі гузікаў на кашулі, агаліў свае плечы і павярнуўся імі да Лобача.

Лобач маўчаў.

— Прабачце за такі натуралізм, — Уладзімір зашпіліў гузікі. — Джынсы здымаць не буду, паверце

на слова, там не менш укусаў і драпінаў. Гэта ўжо загаілася крыху… Не верыце?

Не надзея нават, а толькі просьба на надзею мільганула ўваччу ў Уладзіміра.

Лобач маўчаў. Потым спытаў ціха:

— Што цяпер?

— Цяпер? — Уладзімір адпіў з кубка, пацепнуў плячыма. — Цяпер позна ісці назад. Трэба ісці далей. Буду шукаць таго, хто забіў Ганну. Я сустрэў яго там… мы біліся. Я даведаўся, што ён — жывы і рэальны чалавек, ён пісаў Ганне лісты, чапляўся да яе, прасіўся на гасціны. Маладзейшы за яе.

— Я ведаю, — не змог стрымаць у сабе ведання Лобач. — Ганна казала, што апошнім часам яе проста пераследуе адзін чалавек праз сеціва.

— Вось… Цяпер я яго знайду.

— Знойдзеце… І што — далей? — настойваў Лобач.

— Не ведаю, — першы раз з нейкай эмоцыяй — гэта быў жаль, уздыхнуў Уладзімір. — Думаю, як знайду, дык потым і веданне будзе. Я заўважыў, што веды, яны ў патрэбны час з’яўляюцца. Я — абаронца. Але няма ахоўніцы крыжа, а яна мусіць быць.

— Чаму абавязана быць? — прафесійна пацікавіўся Лобач.

— Бо Крыж дае веды ахоўніцы. Ахоўніца дае магчымасць прачытаць малітву. Крыж… многа чаго дае. Таму на яго так палююць.

— Так… вельмі ж усё нечакана і неверагодна. Пакуль што я не магу нават і сказаць чаго наконт пачутага…

— Вы дапаможаце мне? — раптам запытаў Уладзімір.

Лобач думаў. І пачаў гаварыць, выбіраючы словы, бо пакуль што не змог як след сфармаваць сваёй думкі.

— Бачыце, Уладзімір, тое, што Вы расказалі, выходзіць па-за межы навуковага светаўспрыняцця. Яно не мае пад сабой рэальнага грунту. Яно ляжыць па-за межамі існых законаў прыроды, тых, якія мы ведаем. Я не адмаўляю вам у помачы, але я не разумею, як я вам магу памагчы. Вы былі там, на тым баку, як кажаце. Значыцца, вы перайшлі нейкую невядомую ў рэальным свеце мяжу. Вы сталі іншым. І свет вакол вас стаў іншы. Для мяне ж ён застаецца такім, якім быў: усё ў ім дзеіць на падставе вядомых навуцы законаў, зямля круглая і пукатая, на ёй не могуць існаваць інфернальныя істоты, людзі не пераўтвараюцца ў ваўкоў, не цвітуць ноччу блакітным святлом кветкі. Я не думаю, што ў вашай справе ад мяне можа быць карысць. Вядома ж, звяртайцеся, калі што… Можа, нешта будзе і для мяне мажлівым.

— Дзякуй, я зразумеў, — Уладзімір падняўся з-за стала. — І за каву дзякуй. Яшчэ скажу… тыя, з Цемры, яны тут, сярод нас. І яны робяць сваю справу тут, у рэальным свеце. Купалле ўсяго толькі штогадовы пік змагання, калі адкрываюцца твары… Загінула Ганна… Летась, казаў Уладзя, быццам выпадкова загінуў адзін з абаронцаў Кветкі. Калі прыйдзе нейкі год, а не знойдзецца абаронцаў? Ці Крыжа? Ці сам камень нехта звалачэ пад падмурак сваёй сядзібы? Ці не загарыцца ніводнага купальскага вогнішча, і тады тая чорная зграя беспамылкова пабачыць шлях?

— І што будзе? — мусіў пацікавіцца Лобач.

— Кветку згасяць. Яе не будзе каму бараніць. Яна згасне і болей ніколі не загарыцца тут. І малітва будзе марная. Калі яе будзе яшчэ каму чытаць…

— І што будзе без яе? Вы хочаце завербаваць мяне ў сваю… групу падтрымання Кветкі? — з лёгкай іроніяй запытаўся Лобач. Яму не хацелася, яму дужа не хацелася вось так развітвацца з Жабруном, ён усё ж адчуваў удзячнасць за тое, што той зрабіў для ягонай сястры. Але не мог падтакваць, не мог успрыняць тую казку пра Кветку як сапраўднасць, бо яна была… немажлівай! Ірэальнасці няма месца ў нашым, досыць вывучаным свеце.

— Нічога я не вярбую… І нікога не вярбую, — без расчаравання ад пачутага адказаў Уладзімір. — Я не ведаю, што будзе без Кветкі. Я ведаю, што яна павінна быць. Я паеду…

— Дык залікоўку ж дайце, — спыніў яго з усмешкай Лобач, узяў асадку, пачакаў, пакуль Уладзімір выцягне залікоўку з зашпіленай на гузік нагруднай кішэні. Выставіў адзнаку, паставіў роспіс. — Ну, поспеху вам і дзякуй за ўсё!

Ён падаў залікоўку левай рукой, разам зрабіўшы рух правай, каб паціснуць Уладзіміру руку, але той быццам не заўважыў ягонага руху, узяў залікоўку якраз правай рукой і стаў пхаць яе ў цесную кішэнь.

— Дзякуй… А вы ведалі, што ва ўсіх ахоўніц Крыжа было сваё імя?

— Як — сваё імя? — здзівіўся пытанню Лобач.

— Сваё, радавое. Якое ведалі толькі адзінкі.

— Досыць пашыраная практыка ў шмат якіх старажытных народаў. Было такое і ў славян. Яшчэ доўга пасля ўвядзення хрысціянства дзяцей называлі і царкоўным імем, і сваім, славянскім, якое не афішавалася.

— Ага, зразумела, — незразумела адказаў Уладзімір. — Усяго найлепшага…

Лобач прайшоў за Уладзімірам да вітальні, ён адчуваў сябе вінаватым, і гэта было непрыемна. Больш за тое: Лобач пабачыў цяпер зусім іншага Жабруна. Жабрун стаў не проста іншым — ён стаў далёкім, недасяжным нават. Так выходзіла (калі паверыць Жабруну), што справа, якой ўсё сваё жыццё займаўся Лобач, цяпер выглядала дробязнай, нікчэмнай гульнёй. Недзе ў Лобачавай свядомасці ўзнікла карціна: вось ставяць дом. На будоўлю дома прывёў гэтага Уладзіміра Жабруна сам Лобач, стаў паказваць яму на трэскі ды абрэзкі і тлумачыць, якімі інструментамі дом робяць, з якой драўніны. І Жабрун, перш так уважна слухаўшы настаўніка, у нейкі момант кінуў трэсачкі і ўзяўся за сякеру. І вось ён ужо сам будуе, а Лобач стаіць унізе. Жабрун не кліча да сябе, ён усяго толькі просіць памагчы ў які момант…

Уладзімір ці то хаваў свой твар, ці то не жадаў сустракацца вачыма з выкладнікам: абуў свае красоўкі, толькі павярнуў галаву, кіўнуў "да пабачэння" і выйшаў з кватэры.

Лобач з прыкрасцю бразнуў замком. Не, не такога расстання ён хацеў. Але што сапраўды сталася з Жабруном у тую ноч? Хто і дзе мог яго так пакусаць-падрапаць? Зграя якіх валачашчых сабак? Вельмі нават падобна…

Лобач вярнуўся на кухню.

І застыгнуў на парозе.

Па бліскучай паверхні стала між кубкаў праходжвалася птушка. Трохі меншая за голуба. Попельна-ружовая, з чорнай палоскай на шыі. Лобач пазнаў яе адразу: туркаўка. Лясная туркаўка. Але як яна заляцела ў горад? Ад лесу ж так далёка…

Птушка заўважыла Алесяў рух і цяпер заціхла, цікавала за ім маленькім вочкам.

— Не бойся, дурнічка, як ты сюды трапіла? — ціха і пранікнёна загаварыў Алесь, прычыніў за сабой дзверы. — Зараз я цябе выпушчу...

Засаўка ў дзвярах бразнула як стрэліла, птушка спуджана ўзляцела на насценную шафку.

Лобач хутка зрабіў тры крокі да акна, расчыніў яго максімальна шырока, пасунуў вазон з вялікім калючым кактусам, каб акно не зачынілася. Адышоўся зноў да дзвярэй, потым махнуў рукой на птушку:

— Кыш! Ляці ў акно!

Птушка не рэагавала, адно тупала па беразе шафкі і пазірала на Лобача.

— Ну, дурніца, ляці! — Лобач хапіў з пачапельніка кухонны ручнічок, махнуў на птушку.

Тая ўзляцела і апусцілася на іншую шафку, што была на другім баку кухні.

— Сляпая ты, ці што? Акна не бачыш? — Лобач нервова махнуў ручніком, і бераг ручніка сцёбнуў бы птушку, каб тая зноў не ўзляцела. І села на тую шафку, дзе і першы раз.

— А каб на цябе! — Лобач замахаў ручніком моцна, птушка ўзлятала, сядала то на адну, то на іншую шафку, але ўпарта не хацела ляцець у акно, як не бачыла яго. Некалькі хвілін Лобач ганяў туркаўку з аднаго месца на другое, пакуль яна, урэшце, не села на падаконне.

Лобач замёр — вось, ляці.

Птушка датупала да берага, павярнулася, але не ўзлятала.

— Ды ляці ты! — Лобач скамячыў і шпурнуў ручніком у птушку.

Тая ўзмахнула крыламі і вылецела.

Ён шпарка прычыніў акно і нервова зашмаргнуў на замок.

Задрыжаў і заспяваў мабільнік у кішэні. Лобач з раздражненнем дастаў яго, зірнуў і скрывіўся — тэлефанаваў Уладзімір Жабрун.

— Вельмі перапрашаю, — пачаў Уладзімір. — Я вось што хацеў вам сказаць яшчэ, неяк не выйшла адразу…

— Кажыце, слухаю, — як мог мякка запрасіў Лобач, пазіраючы ў акно — яму здалося, што там нешта мільганула.

— Я казаў, што ўсе ахоўніцы Крыжа мелі сваё, радавое імя…

— Так, казалі, — пацвердзіў Лобач, сочачы за акном — ён пабачыў на даху дома насупраць туркаўку і цяпер сачыў за ёй.

— Я хацеў вам сказаць, якое імя было ў Ганны…

— А вы ведаеце? Яна вам казала?

Туркаўка раптам сарвалася з даху і ляцела цяпер да Лобачавага акна.

— Не, Ганна мне не казала, — адказаў Уладзімір Жабрун. — Але я цяпер ведаю. Яе сапраўднае імя — Галуба…

І ў гэты момант імклівае цельца туркаўкі з усяго размаху, быццам птушка не бачыла перад сабой шкла, урэзалася ў акно.

Лобач уздрыгнуў, ледзь не выпусціў з рукі тэлефон, які раптам стаў слізкім і цяжкім.

Птушка на імгненне распласталася на шкле, яе чорнае вочка, падалося, зазірнула ў пакой. Запаволена, усё адно як шкло было нашмаравана чым клейкім, птушка спаўзла долу, сарвалася і знікла.

На шкле засталася няроўная вадзяніста-ружовая дарожка.

Алесь Лобач сеў — раптам пачало агідна торгацца пад каленямі.

У гэты момант яму страшэнна захацелася аднаго: каб усё адышло як мага хутчэй, забылася, каб жыццё стала па-ранейшаму акрэсленым, з выразнымі абрысамі задач і рэальнымі, а не ірэальнымі развязаннямі. Ды нешта гняло, падказвала, што забыцца — не выйдзе, бо стрэмкай засталася ў ім часцінка нечага. "Кветка! Я ж не аддаў Жабруну яго абярэг!" — Алесь шчаслівы, што намацаў канчар той самай стрэмкі, знайшоў у шуфлядзе стала ўкладзеную ў цэлафанавы пакецік срэбную шасціканцовую кветку.

Неспадзявана яна набыла на далоні вагу, а потым Лобач адчуў цяпло, нават гарачыню. Вось цяпер трэба патэлефанаваць Жабруну, пакуль далёка не ад'ехаў… Але Лобач чакаў. Яму не здавалася, не, ён невядомым веданнем ведаў цяпер, што Жабруну гэтая кветка ўжо не патрэбная. Калі б ён меў у ёй патрэбу, ён бы спытаў, абавязкова спытаў. І яшчэ стала зразумела, быццам вось толькі ў ладнай кнізе аўтарытэтнага аўтара прачытаў, што калі ён, Лобач, верне кветку — ён зробіць нешта непапраўнае для свайго асабістага кону.

## 7

За дзень, аж ачмурэла галава, Уладзімір пабываў мо на сотні самых розных сайтаў, ён заходзіў на кожны, дзе, паводле звестак шукальніка, сустракалася слова "Віконт". Ён пазнаваў, адрозніваў "свайго" Віконта ад усіх іншых юзераў, "ягоны" Віконт аж свяціўся з манітора варожасцю. Віконт быў зарэгістраваны шмат на якіх сайтах і форумах, але нідзе не пакідаў пра сябе ні слова. Паўсюль яго профіль за-

ставаўся фактычна пустым, а калі і трэба была якая інфармацыя для рэгістрацыі, яна была жартаўлівай, насмешлівай нават: “ненавіснік тупасці”, “кавалер са стажам”, “кашак, які гуляе сам праз сябе”. Сапраўдная нітачка, адчувальная, знайшлася на форуме, дзе Віконт прапаноўваў грошы таму, хто выкладзе партманет у паблік, хто лепей за іншых папросіць гэтыя грошы. Гэта быў шанец. Але ж, як сведчыла статыстыка форума, Віконт заходзіў сюды апошні раз болей за месяц таму. Чакаць яго тут? Колькі чакаць? Дый дзе гарантыя, што Уладзімір будзе першы, каму дасць грошай Віконт. Трэба шукаць тых, каму ён выдаткоўваў сумы раней. Такі актыўны і абазнаны ў сеціве чалавек, з такой пыхай і ўпэўненасцю ў сабе, пэўна ж, будзе мець партманет электронных грошай хоць з фармальным атэстатам…

Уладзімір знайшоў тых, каму Віконт пераводзіў грошы. Іх было трое. Напісаў адразу ўсім, стаў нервова чакаць адказу. Нервавацца было чаго: цяпер Уладзімір бачыў, што і праўда, гэта адзіная нітачка. Парвецца, і шанцаў больш амаль няма. Бо за апошні месяц актыўнасць Віконта ў сеціве была амаль нулявая. Пісаць яму і спрабаваць знаёміцца — няпэўны спосаб. Яшчэ можна было б паспрабаваць пайсці на правакацыю — на тым самым форуме, дзе Віконт размяшчаў свае абвесткі, дзе быў ягоны пост з апісаннем бабулінага талісмана, зарэгістравацца самому. Напісаць, што таксама знайшоў талісман — і даць апісанне сваёй шасціпялёсткавай кветкі. Ці нават Крыжа.

На яго, Уладзіміра, абавязкова б выйшлі. Але не факт, што выйшаў бы Віконт. Маглі б выйсці і не з Цемры, а простыя збіральнікі розных старадаўных рэчаў. А пакуль што патрэбен менавіта Віконт. Бо ён

сам — не проста забойца. Ён — адна з прыступак, ён служка Цемры. Але ж ён, відавочна, ведае яшчэ некага, хто стаіць над ім, хто загадвае яму…

Хацеў выйсці ды прайсціся, пасядзець у якой кавярні, можа, і выпіць чаго, бо галава была цяжкая і не ўдавалася сканцэнтравацца. Адпачыць бы…

Ноўтбук выдаў кароткі гук — паштавік інфармаваў, што прыйшоў ліст. Уладзімір кінуўся ў пакой, глытаючы не пераважаваны кавалак.

Так, ліст быў ад аднаго з тых, хто атрымваў грошы ад Віконта. Уладзімір як мог пераканаўча напісаў сваю просьбу, падмацаваў яе тым , што добра заплаціць за такую дробязь, і прасіў паведаміць нумар Віконтавага партманета. Ведаў, што яго просьба супярэчыла этыцы дачыненняў у сетцы, але ж… “Я шукаю чалавека вельмі даўно. Апошнім часам ён не выходзіць у сеціва. А мне зараз з’язждаць адсюль, з Аўстраліі я наўрад ці калі патраплю зноў у Еўропу”, — пісаў Уладзімір у лісце.

Ён атрымаў адказ — фотаскан партманета гэтага юзера, дзе быў чырвоным падкрэслены прыход і ад якога партманета, з каментам: “Самаму смеламу і бессаромнаму фарумчаніну”. “Калі ласка! Шукай. Мне нічога не трэба”, — стаяла прыпіска да ліста. “Адно што, калі знойдзеш, дай яму пры нагодзе ў пысу. Ад мяне”.

За што даваць, Уладзімір не стаў пытацца.

Не стаў гуляцца сам з сабою: думаў пайсці пасядзець, а потым праверыць нумар партманета ў сістэме Веб-мані. Праверыў адразу. Так, было імя, было прозвішча. Рэшта дадзеных схаваная. Што ж, і так велізарны поспех.

Генадзь Колтун.

Уладзімір прагаварыў словы ўголас, у поўнай цішыні дома. І яны прагучалі, нечакана для яго самога, з непрыхаванай пагрозай і небяспекай.

"Я знайду цябе, Генадзь Колтун", — паабяцаў Уладзімір літарам на маніторы і стаў збірацца ў кавярню.

Калі вяртаўся назад, патэлефанаваў Антось.

— Тут такія справы, Валодзька… Думаю, табе трэба ведаць. Дзеда завёз я ў бальніцу, у раён. Падазраюць інсульт — мова аднялася, рукі не слухаюцца.

Нешта абарвалася ўнутры ў Уладзіміра, гарачая пустэча запоўніла яго. Ён тады не мог не паверыць старому, але не мог і ўявіць, што ўсё адбудзецца так імкліва, хутка…

— Я заўтра прыеду! — выгукнуў ён.

— Ну, прыязджай, вядома… ты нешта з'ехаў так… І не пагаварылі мы добра. Што рабіць будзеш? Знайшоў тое, што шукаў?

— Вось прыеду, і пагаворым, — паабяцаў Уладзімір.

Назаўтра Уладзімір быў у Карчавасе. Над вёскай імчалі парваныя на шматкі шэрыя хмары, зрэдку сыпала дажджом. Вёска схавалася ад непагадзі пад шаты ліп і бяроз, і цяпер Уладзімір зразумеў звычай вяскоўцаў садзіць вялікія дрэвы пад хатамі: быццам і ў іх ёсць нейкая абарона.

Бачыць вялікі стары замок на дзвярах Уладзявай хаты было нязвыкла, гэта трывожыла, было знакам нейкае бяды. На другім канцы вёсачкі стаяў аўтамабіль, кешкаліся затуленыя ў дажджавікі людзі. Акурат насупраць былога Ганнінага дома. Уладзімір падышоў, пабачыў: некалькі прамоклых рабочых закідвалі ў машыну абгарэлыя чорныя бярвёны.

Грушы не было. Ёкнула ўсярэдзіне, Уладзімір падышоў бліжэй — так і ёсць — на зямлі ляжалі адно парэзаныя kавалкі.

Да Антосявага хутара Уладзімір пайшоў пешкі.

Яго чакалі, і чакалі з незразумелай вінаватасцю, якая прарывалася ў рухах і лішняй ветласці. Надзея ўвішна накрывала на стол, Антось выглядаў штучна-бадзёрым.

— Ды не трэба так… клапаціцца.

— Ты ж галодны! — адказаў Антось, упікнуў: — Мог бы і патэлефанаваць, я пад'ехаў бы. Не біў бы ног.

— У Карчаваху заходзіў…

— Чаго?

— Не ведаю… Проста зайшоў…

— З'ездзім заўтра да дзеда, разам, — паабяцаў Антось. — Сядай во, пакуль гарачае.

Уладзімір вагаўся — казаць ці не, але потым наважыўся і загаварыў з вінаватасцю ў голасе, звярнуўшыся да Надзеі:

— Там… У Фэйсбуку пра вас пішуць… Ну, вашы вучні ў сетцы "Укантакце" надумаліся напісаць… у гарадскі аддзел адукацыі. Ультыматум: калі вас не адновяць на працы, яны не пойдуць першага верасня ў школу. Кажуць, што падпісаліся два адзінаццатыя класы…

— Вось жа… — прыглушана ўсклікнуў Антось і павярнуся да Надзеі: — Якія ў цябе абаронцы!

— Божачкі, гэта праўда? — усхвалявана запыталася Надзея. — Вы разумееце, што зараз пачнецца? Ды іх па адным будуць выклікаць у школу, бацькоў падымуць… Яны ж сабе атэстаты сапсуюць…

— Калі будуць разам трымацца — перамогуць, — ціха, але цвёрда сказаў Уладзімір. — Пра іх ультыматум ужо на ўсіх апазіцыйных сайтах напісана. Яны самыя добра ведаюць, на што пайшлі. Ну, і цікава ім, думаю, — першы такі ўчынак. Дамовіліся між сабой, што ў школу да першага верасня ні ў якім разе ні з якога запрашэння не ісці. Трэба — хай

сама дырэктар да іх ідзе. Надумалі ўнікаць усякіх сустрэч. Больш таго, просяць падтрымаць іх іншыя школы. Кажуць, лепшага настаўніка матэматыкі беспадстаўна пакаралі, без яго не бачыць добрых ведаў. Як я чытаў, падтрыманне ў іх будзе…

— Але ж адкуль… Хто ім расказаў? — разгубілася Надзея. — Адкуль яны ведаюць пра мой сорам?

— Там быў выкладзены ліст адной маладой дзяўчыны, яна з вамі ў камеры сядзела. Напісала пра вас, як вы іх падтрымвалі…

— Я іх падтрымвала? Ды гэта дзякуючы тым дзяўчатам я не звар'яцела ў той камеры…

— Не ведаю, я магу паказаць, пачытаеце, — пацепнуў плячыма Уладзімір. — Старэйшы чалавек… з ім жа заўсёды неяк спакайней. Ну, тая дзяўчына напісала, потым ёй паказалі здымак і запыталі: ці вы на ім? Вось так і даведаліся. У сеціве сёння шмат што вельмі проста.

Надзея прымружыла вочы, пагойдвалася ціхенька назад-уперад. Потым страпянулася, як прымроілася ёй што.

— Не магу дагэтуль зразумець: як можна было тое вытрымаць. Моцны ўсё ж чалавек. І дзяўчынка тая… Не, не трэба ніякіх ультыматумаў. Я зарэгіструюся, скажу, што не збіраюся вяртацца ў школу. Я знайшла сваё месца. Мне тут спакойна і добра. Навошта нікому не патрэбны гераізм….

Папалуднаваўшы, Уладзімір выйшаў пакурыць, прысеў у альтанцы. Мякка церушыў дождж. Антось з'явіўся праз пару хвілінаў.

— Як справы?

— Не ведаю…

— Ясна… ты знайшоў той Ганнін талісман?

— Знайшоў. Я шукаю… чалавека. Таго, хто забіў Ганну.

Антось паглядзеў з жалем і здзіўленнем.

— Валодзька, ты дакладна ведаеш, што Ганну… забілі, як ты казаў, праз той крыж? А хто той, які застрэліўся?

— Ён не застрэліўся, застрэлілі… Не важна цяпер. У мяне ёсць імя і прозвішча.

— У горадзе на падставе імя і прозвішча знайсці чалавека? Сярод мільёнаў? Хто табе сказаў, што там быў не адзін, а болей, што забілі праз крыж? Адкуль такія… байкі?

— Сёння знайсці прасцей. Знайду. А гэта не байкі. Мог бы запытацца ў дзеда.

— Не паспеў. Адразу неяк не знайшоў хвіліны, а тут інсульт. Добра, а ты потым? Што далей будзеш рабіць? Як ты давядзеш, што ён забіў? У які суд пойдзеш?

Уладзімір сумна ўсміхнуўся ў адказ:

— Помніш, што ты сам некалі казаў?

Антось прымружыўся, нейкі час глядзеў у вочы Уладзіміру, потым адвярнуўся.

— Пра розныя рэчы гаворка, зразумей, галава! Во што, Валодзька… Кінь дурное, чуеш. Я супраць вайны і цябе ад таго хачу ўтрымаць. Зразумей, хлопец: у кожнай вайне перамагаюць не тыя, хто ваюе. Не ваюй за агульнае — ваюй за сваё, разумееш? Калі ты будзеш сам сабе камандзір і начальнік штаба, выведнік і стралок, тады можаш выйграць. Баліць табе за ўвесь свет? Баліць за сваю вёску? Ведаю. Але ваюй не за свет увесь, не за вёску — за хату сваю, за жонку сваю, дзяцей сваіх, як з'явяцца. За свой кавалак хлеба для сябе поўзай па гразі, збівай да крыві рукі, ірві душу, а не для галодных з нейкага гандураса. Не за суседзяў,

не за ўсіх людзей! Няма, Валодзька, нейкіх супольных спраў, і ніколі не будзе, калі ў вялікай справе няма тваёй, маленькай. Вось калі кожны за сваё, выйдзе — усе разам за вялікае. Усякая справа так робіцца. Не перажывай за ўсіх, навучыся перажываць за сябе. І каму ты трэба, які з цябе толк — галоднага, босага, голага з тваёй вялікай ідэяй змагання за шчасце для ўсіх?

— Пра што ты кажаш? — здзівіўся Уладзімір. — Я не збіраюся ваяваць за іншых.

— Гэта табе здаецца. Я так зразумеў, што справа вакол Ганнінай смерці вельмі няпростая. Ты хочаш улезці ў гэтую справу, але дзеля чаго? Вось скажы: дзеля чаго?

— Я не хачу ўлезці. Я ўлез. Я на вайне, Антось.

— Тут выбачай, у падобных войнах я табе не памочнік, — ціха, са жалем, сказаў Антось. — Ва ўсім іншым памагу, а вось гуляцца ў гульні такіх маштабаў — не мая справа. Досыць, я ў свой час паспрабаваў змагацца за супольную ідэю.

— Ну, тады добра, — Уладзімір узняўся і, болей ні слова не гаворачы, пайшоў у дом, выйшаў скора са сваім пляцаком, асцярожна закінуў яго на плечы.

— Ды чакай, чакай, што ты так крыўдзішся, як дзіця малое! — захваляваўся Антось, падышоў, хацеў пакласці руку Уладзіміру на плячо, але той адвёў яго.

— Баляць плечы… параніўся быў, — патлумачыў ён. — Я пайду, Антось. Я не крыўдую, ты не думай.

— Дык жа заўтра збіраліся да дзеда ў раён? Імжыць, змокнеш…

— Я патраплю, аўтобусы ж ходзяць. Гэта не дождж…

Дажджу і праўда не было: імжа вісела ў паветры драбнюткімі кроплямі.

Рыпнулі дзверы — з дома выйшла Надзея, разгублена застыла на ганку.

— Валодзя, ты пойдзеш? Што здарылася, Антось?

— Нічога не здарылася, — адказаў за Антося Уладзімір. — Проста мне трэба ісці…

— Дык хоць падкіну цябе! — прапанаваў Антось.

— Не трэба, дый выпілі ж, — адмовіўся Уладзімір. — Шчасліва вам. Не крыўдуйце, калі што не так…

Крыўды не было. Было пуста на душы. Уладзімір ніяк не мог зразумець, чаму раптам усё абрынулася? Чаму яшчэ колькі дзён таму ўсё было моцным, трывалым, мела сэнс і значэнне, а цяпер — стала нічым, разляцелася на аскепкі: жаданне спакою, баязлівасць, абыякавасць, страх?

Што рабіць і куды ісці?

Ён паспеў — да адпраўлення аўтобуса заставалася яшчэ пяць хвілін. Хутка набраў даведкавую службу, запытаўся нумар раённай бальніцы, куды Антось завёз старога. Доўга чакаў, пакуль да тэлефона падышлі, потым давялося ператэлефаноўваць.

— Алё, вы пра Макушына пытаецеся? — нервова пацікавіліся на тым канцы.

— Так, пра Уладзіслава Сцяпанавіча, — назваў старога па імю і імю па бацьку Уладзімір, бо толькі цяпер пачуў ягонае прозвішча.

— Памёр, сёння а пятай раніцы. Добра, што вы патэлефанавалі: хто прыедзе забіраць? А то прывезлі, нават тэлефона свайго не паведамілі…

— Я паведамлю… — Уладзімір вымкнуў тэлефон, пайшоў, сеў у аўтобус. Болей яму няма чаго тут рабіць. Ён успомніў словы старога: на хаўтуры не прыязджаць.

Хацеў патэлефанаваць, але потым набраў СМС-ку “Дзед памёр” і адправіў Антосю.

Ён не заўважыў, як прыехаў — час нібыта спыняў сваё існаванне, калі Уладзімір спыняўся сам.

Хмары разбegліся, сонца прарывалася кароткімі сполахамі між аблокаў. Бабульчын дом падаўся яму сумным і пакрыўджаным. Ішоў сцяжынкай вакол павольна, намагаючыся думаць пра тое, што рабіць цяпер, з чаго пачынаць. Засталося збочыць да ганка, як пачуў:

— А во, які пераборлівы, сасіску не хочаш? А як жа мне яе есці? А булку падабаеш? Ну, на яшчэ булкі. Еш, еш, хто цябе тут пакорміць…

Голас быў жаночы, знаёмы і неймаверна чужы тут. Тут мог гучаць голас адной жанчыны, але яна не прыйдзе…

Алена сядзела на ганку. У новых блакітных джынсах, падаслаўшы газету на прыступку, выцягнуўшы босыя ногі ў траву — побач скінула басаножкі. Яна ела сама і карміла шэрага ката, які сядзеў у яе каля ног.

Уладзімір спыніўся, моўчкі глядзеў на жанчыну, на ката.

Кот зірнуў на яго і зноў заняўся справай, няспешна еў. Алена сцягнула вусны ў вінаватую ўсмешку, паднялася, паправіла джынсы і саколку, абцерушыла на траву крошкі. Цеснаватыя нагавіцы падкрэслівалі яе вялікія клубы, грудзі ўладна тапырылі белую тканіну. Алена падалася Уладзіміру вялікай і дужай. І яшчэ падумалася, што так і трэба. Бо было не прыкра, што парушылі ягоную самоту — стала неяк дзіўна будзённа ўсё, знаёма і таму нястрашна. Алена моцная і свая…

— А сама патэлефанаваць не змагла? — Уладзімір узняўся на ганак і адамкнуў дзверы.

Кот даеў кавалак булкі, запытальна глянуў на Алену. Алена крышку нахіліла да яго галаву:

— Яшчэ даць?

Кот павольна пайшоў у садок.

— Не, не змагла б, — пацвельваючы з сябе, адказала Алена Уладзіміру, гледзячы ўслед кату.

— Страшна?

— І страшна.

— Ну, вітаю… Заходзь, — Уладзімір разнасцежыў дзверы.

— І ты будзь здаровы, — адказала Алена, але не рушылася з месца. — Я ж і праўда па справах тут — дзецям у школу ўсяго набыла во, — яна паказала на вялікую торбу, што стаяла па той бок ганку пры сцяне. — Ну… і падумала: калі ты адзін, дык, можа, і зайду. Раптам табе што памагчы трэба?

— Заходзь, памагай, — без усмешкі адказаў Уладзімір, сам падхапіў ейную торбу. — Заходзь. Я адзін, і госці да мяне не збіраюцца.

Алена яўна чакала менавіта гэтых слоў.

— Што памагаць? — пацікавілася яна на кухні. — Галодны?

— Ды не надта.

— А я галодная, — ніякавата прызналася Алена. — Во булку з катом елі.

— Пельмені ў лядоўні, — кіўнуў галавой Уладзімір. — Я апаласнуся…

Калі ён выйшаў з душа, Алена была ў знаёмым яму, тым самым ядвабным халаце. Яна паспела засмажыць яечню.

Той факт, што Алена ўзяла з сабой халат, што пераапранулася, не выклікаў ніякіх думак. Не, Уладзіміру не было абыякава тое, што рабіла Алена. Але яно было другасным, хоць і ўкладвалася ў адзіную, адчуваную ім, не акрэсленую пакуль што, сістэму.

— Ты нейкі зусім іншы, — з трывогай ціха прамовіла Алена.

— Горшы? Лепшы? — стомлена запытаўся Уладзімір, сеў пры стале.

— Іншы, — уздыхнула Алена. — У цябе здарылася нешта? Здаў сесію?

— Здаў. Здарылася…

Уладзімір круціў у руках бліскучы відэлец, пара ад пельменяў у талерцы перад ім казытала ноздры пахам. Ён адкінуўся ў крэсле, нібыта гэтая пара раздражняла яго, і амаль загадаў:

— Ты сядзь вось там… Не пытайся нічога. Сядзі.

Калі Алена паслухмяна села пры стале, падняўся. Адкінуў ходнік, адчыніў падмосце, дастаў бляшанку. Паклаў крыж на руку, патрымаў, а цёплая пяшчота крыжа разам са штуршкамі сэрца напаўняла яго пэўнасцю: “Проста так нічога не бывае”.

З крыжам у працягнутай далоні ён сеў пры стале супраць Алены, пільна зірнуў жанчыне у вочы.

Алена, ён бачыў, без страху і здзіўлення глядзела на крыж. Але было ў яе ў вачох тое, што напаўняла Уладзіміра незвычайным спакоем, такім, якога ён не адчуваў, здавалася, цэлую вечнасць. Алена глядзела на крыж так, нібыта пабачыла некалі даўно згубленую найкаштоўнейшую з усіх рэчаў. І нават не ёй самой згубленую, але родным і блізкім, тым, хто пра рэч ведаў, хто ёй пра яе казаў.

— Хто той крыж мае, той усё на зямлі не сваё мае, а сваё на зямлі ўсё страчвае… — нечакана суцішаным шэптам прамовіла Алена, узняла вочы на Уладзіміра і патлумачыла: — Бабуля некалі так казала…

Яна павольна, з насцярожлівай пашанай паднесла сваю разнятую далонь пад мужчынскую руку.

— Ён можа апячы… Абпаліць… Вельмі балюча, — ціха папярэдзіў Уладзімір.

— Я моцная. Я вытрымаю… Мяне маленькай бабуля называла Стаянкай. Значыцца, я здолею…

# ЗМЕСТ

ЧАСТКА 1



ЧАСТКА 2



ЧАСТКА 3



ЧАСТКА 4



ЧАСТКА 5

Літаратурна-мастацкае выданне

ГАПЕЕЎ Валер

**Праклён**

Раман

Адказны за выпуск *Зміцер Вішнёў*
Рэдактар
Карэктар
Дызайн
Вёрстка *Яўгенія Багдановіч*

Падпісана да друку Х. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк Х. Ул.-выд. арк. Х.
Наклад Х асоб. Замова Х.

Прыватнае выдавецкае ўнітарнае
прадпрыемства “Галіяфы”.
ЛИ №02330/0150300 ад 08.04.2008.
Вул. Брылеўская, 11-44, 220039, г. Мінск.
E-mail: vish@bk.ru.
www.galiafy.by/

Друк ТДО “НоваПрынт”.
ЛП № 02330/0552786 ад 25.02.2009.
Вул. Геалагічная, 59-4-10, 220047, г. Мінск.